

МОЙ РОДНЫ КУТ

# ГОМЕЛЬШЧЫНА

## Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў





МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 2001

УДК 398.2(=826):801.311(476.2)
ББК 82.3(Беи)
Г 64

*Серыя заснавана ў 1995 годзе*

Складанне, запіс і апрацоўка
доктара філалагічных навук
**А. М. Ненадаўца**

**Гомельшчына:** Назвы населеных пунктаў паводле
Г 64 легендаў і паданняў / Склад., запіс, апрац. А. М. Ненадаўца. — Мн.: Беларусь, 2001. — 415 с.: іл. — (Мой родны кут).
ISBN 985-01-0108-3.

У чарговую кнігу з серыі «Мой родны кут» увайшлі апрацаваныя легенды і паданні, звязаныя з паходжаннем назваў 131 населенага пункта Гомельскай вобласці.
Спроба такога выдання прадпрымаецца ўпершыню.
Адрасавана тым, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю, духоўнай культурай беларускага народа.

УДК 398.2(=826):801.311(476.2)
ББК 82.3(Беи)

ISBN 985-01-0108-3



# ГОМЕЛЬ

Некалі, за сівымі стагоддзямі, людзей у гэтых мясцінах жыло няшмат. Ад паселішча да паселішча даводзілася добры месяц дабірацца. Дарог у нашым разуменні ўвогуле не было, толькі сцяжынкі, пратаптаныя людзьмі, ды і тыя зарасталі — раздолле для шматлікіх звяроў і разбойнікаў. Дык вось жыла тут, нікога не палохаючыся і нікому не падпарадкоўваючыся, чараўніца дзівоснай прыгажосці. Такую прыгажуню не ў любым паселішчы знойдзеш. Здавалася б, чаго яна ў глуш зашылася? Ды, аказваецца, былі ў чараўніцы на гэта падставы.

Звалі яе Марыляй, і жыла яна колькі гадоў таму ў вялікім горадзе разам з бацькамі, братамі ды сёстрамі. Расцвіла дзяўчына, як той макаў цвет, і кожны, хто бачыў яе, абавязкова ўсміхаўся і казаў бацькам:

— І ў каго яна ў вас такая ўдалася? Відаць, у вашым родзе такіх прыгожых да гэтага часу не было і болей не будзе.

Бацькі радаваліся і адказвалі:

— Чаму ж не было? Былі. Яе бабуля. Тая таксама нібы ружа цвіла. Людзі прыходзілі проста паглядзець на яе ды пагаманіць, бо, казалі, гэта надавала ім сілы.

На гэтым звычайна размова перапынялася, бо ніхто не асмельваўся ўголас сказаць, што час Марыльку і замуж аддаваць, што трэба сватоў чакаць. Не з беднай сям'і была —

гэта па-першае, а па-другое, такая прыгажосць усё роўна ўяўлялася нечым незямным, хоць і бачылі яе перад сабой.

Бацькі нарадавацца не маглі. Дачка і працавала шчыра, і добрая ды спагадлівая была. Ніколі нікому не адмовіла ў дапамозе. Хутчэй наадварот — сама яе прапаноўвала.

Людзі дзякавалі, прымаўляючы:

— Самі ўправімся, Марылька. Адпачывай, бо ты і на сваёй ніве стамілася. Шчасця табе, прыгажуня ты наша.

Усё, здавалася б, добра ішло ў гэтай сям'і: і нястачы не ведалі, і ворагі даўно не нападалі на тутэйшы край. Жыві і радуйся. Толькі пачала маці заўважаць, што дачка нібыта аб нечым смуткуе. Вось сядзе, песню заспявае, найчасцей жаласлівую, а потым прыціхне і сядзіць, нібы птушаня падбітае.

— Што з табой, Марылька? Скажы, табе ж лягчэй стане.

— Ды ўсё добра.

— Няпраўда. Я ж бачу, мяне не падманеш.

— Я і не збіраюся цябе падманваць.

— Ведаю. Але ж нешта з табой не тое адбываецца.

— Так, задумалася проста.

— І думка ад думкі далёка бывае. Некаторыя надумаюцца, а потым, няхай даруюць такое багі нашы, жыццё самагубствам канчаюць.

— Не, у мяне такога не будзе, не палохайся. На сэрцы нейкая скруха...

— На сэрцы? Тады, дачушка, я ведаю, што гэта.

— Што?

— Узрост у цябе зараз такі, што пра мужа сэрца марыць.

— Ой, мама, скажаш, — густа зачырванелася Марылька.

— Нічога я благога не сказала, наадварот, трэба замуж збірацца.

— Ды не хачу я замуж. Не нагулялася яшчэ.

— Жанчына, дачушка, для таго і жыве на свеце, каб на ёй сям'я ды дзеці трымаліся. Менавіта яна род людскі працягвае.

— Я ж яшчэ маладая. Не прыспешвай мяне, добра?

— Добра. І я такая ж была. І мне здавалася, што ніколі замуж не пайду, адна буду, каб ні ад каго не залежаць. А пабачылася з тваім татам, і запаў ён у сэрца, стаў нібы родным.

— Нібы родным? Як гэта?

— Вось адчуваеш, што без яго жыць далей не можаш, і ўсё на тым.

— А потым што?

— Ну, прыйшлі сваты, дык я і рада была. Пытаецца мяне бацька, ці згодная, ці, можа, хачу за каго іншага. А я ў слёзы ды ўцякаць. Сваты і родныя засмяяліся і заключылі, што кахаю я гэтага хлопца, ён мой абраннік. Потым вяселле было, потым аддзяліліся і зажылі самастойна.

Матуля задуменна прыціхла.

— А далей?

— Ды ўсё як звычайна: дзеці пайшлі, клопатаў прыбавілася. За вамі глядзела, а зараз, калі павырасталі, то перажываю, каб лёс літасцівы быў і ў вас усё па-людску выходзіла. Цяпер тваё, дачушка, сэрца аб каханні смуткуе. Не палохайся. Смутак гэты салодкі, потым часта будзеш згадваць яго.

Пагаварылі так маці з дачкой, а неўзабаве і жаніх стаў з'яўляцца ля іхняга падворка. Ды не абы-хто, а сам малады князь. Прыязджаў не адзін — з аховай, з паплечнікамі, і гэта не падабалася Марыльцы. Сваімі жартамі, часта даволі смелымі, яна прымушала валадара чырванець нібы малое дзіця. Запытаецца бывала:

— Ці не здаецца табе, княжа, што надта многа за сабой слуг возіш?

— Не...

— Іх жа ўсіх карміць трэба. Хто на іх настараецца?

— Не ведаю.

— Ды людзі простыя, якія працуюць у полі не разгінаючыся.

— Слугі служаць, а сяляне працуюць — так заўсёды было.

— Але служыць жа намнога лягчэй.

— На тое я і князь, каб маім слугам нядрэнна жылося.

— А чаму ж ты пра сялян забываеш?

— Абяцаю: перайначу.

— Што ты перайначыш?

— Зраблю, каб і ім лягчэй жылося.

— Вось малайчына, — задаволена смяялася дзяўчына, за ёю не вытрымліваў і валадар.

Паступова Марылька стала адчуваць, што яе цягне да князя. А ён быў прыгожы, здаровы, багаты. Што яшчэ трэба? Ужо пра такое паміж сабой гаварылі, пра што дзяўчына раней і падумаць саромелася. Адным словам, сталі блізкімі людзьмі. А потым сталі ночы праседжваць, хаваючыся ад

пільных валадаровых вояў. Неяк Марылька прыйшла на спатканне надта хмурная. Валадар засыпаў яе пытаннямі, але ў адказ нічога канкрэтнага не пачуў.

— Скажы, ясачка мая, табе ж на сэрцы лягчэй стане. Я загадаю воям, то яны хутка знойдуць таго, хто цябе пакрыўдзіў.

— Яго і шукаць не трэба.

— Як гэта?

— А так. Ты мяне і пакрыўдзіў.

— Я? Чым жа?

Дзяўчына зацята маўчала. Угнула галаву і сядзела перад князям сама не свая.

— Скажы, што здарылася?

— Цяжарная я, — выдыхнула Марылька.

Князь ажно ўздрыгануўся:

— І гэта ўсё?!

— А што, мала?

— Дык гэта ж радасць!

— Ага, асабліва для мяне. Замуж не выйшла, а зацяжарыла. Што людзі будуць гаварыць?

— Дык я ж...

— Ты і словам адносна вяселля не абмовіўся.

— Заўтра ж сватоў прышлю. Заўтра ж!

— Праўда?

— Слова княжацкае даю! Чакай мяне заўтра са сватамі. Нікуды з хаціны не ідзі.

Марылька супакоілася, на тым яны і развіталіся.

На другі дзень, чакаючы сватоў, дзяўчына ўсе вочы прагледзела, але... іх не было. Ужо ноч настала, а Марылька ўсё не клалася спаць. Потым зразумела, што ніхто ўжо не прыедзе, і горка-горка заплакала. Як яе маці ні суцяшала, як ні дапытвалася, што здарылася, — нічога не гаварыла, бедная, толькі слязьмі залівалася. Гаспадыня і дачок малодшых падсылала, але ўсё было дарэмна. Пад самую раніцу дзяўчына заснула. Родныя пайшлі на працу, а яе не сталі будзіць, каб паспала, адпачыла, супакоілася. Вярнуліся дамоў пад вечар, а Марылькі не знайшлі. Дзе толькі ні бегалі, каго толькі ні пыталі — ніхто не бачыў на вочы дзяўчыну. Загаласілі тады, бо падумалі, што наклала на сябе рукі іхняя прыгажуня, паплакалі, дый забыліся, бо жыццё брала сваё. Іншыя клопаты неадкладна паўставалі і засцілі сабой ранейшыя бядоты.

А Марылька не ўтапілася і не павесілася. Яна пайшла ў белы свет. Ішла куды вочы глядзелі, бо дома заставацца не

магла, баялася сораму, перажывала не так за сябе, як за родных. Яны ж ні ў чым не вінаваты, а смяяліся і гаманілі б і пра іх. Ішла не дзень, не два, а можа, месяц, і напаткала старога жабрака, які самотна сядзеў, збочыўшы са сцяжынкі. Нічога не гаворачы, прысела побач. Той незнаёмы чалавек спачатку моўчкі пазіраў на змарнелую падарожніцу, а потым прагаварыў:

— Эх, прыгажуня, толькі тае і бяды. Хіба ж гэта гора?

— Адкуль вы ведаеце, чым мае думкі занятыя?

— А я ўсё на свеце ведаю, бо ўмею чалавечыя лёсы наперад чытаць, а тое, што з людзьмі здаралася ў мінулым, для мяне ясна як светлы дзень.

— То вы і пра мяне ведаеце?

— Толькі ўбачыў — адразу зразумеў, як табе зараз цяжка. Толькі не ўбівайся, бо наперадзе цябе чакае і светлая палоска.

— Не веру я ў гэта.

— Трэба верыць.

— Хацелася б, але...

— А я гавару — вер. Болей таго, свайго зневажальніка менавіта ты пакараеш.

— Я? — вочы Марылькі расшырыліся.

— Ты. Я цябе навучу, як гэта зрабіць. А зараз пойдзем са мной. Удваіх жа намнога лягчэй. Пакуль цёпла, то паходзім, а там...

— А там што?

— Дзе-небудзь якую хацінку агораем ці пакінутую знойдзем і перазімуем. Я ўсё жыццё так раблю і нічога — жывы, сама бачыш.

— Лепей хацінку самім зрабіць.

— Зробім.

— У глухім месцы, каб людзей навокал за дзесяткі вёрст не было.

— І гэта не цяжка. Такіх мясцін навокал многа.

Пайшлі яны разам. Дзяўчына пра сябе распавядала, а стары жабрак — пра сябе. І так ім лёгка было, нібы ў сям'і адной раслі, ведалі адзін аднаго ад самага нараджэння.

Дзед той, аказалася, быў не простым жабраком. Замоў і шэптаў ён ведаў гэтулькі, што на тысячу чалавек хапіла б. Па дарозе ўсё паказваў на траўкі ды на краскі і тлумачыў Марыльцы, якая ад чаго дапамагае. Тая ніколі раней такога чалавека не бачыла, таму пытанні так і сыпаліся:

— Адкуль ты гэта ведаеш, дзядулька?

— Мой бацька ведаў і мне перадаў. А сам...

— А што з ім здарылася?

— Паморак быў у нашым паселішчы, дык бацька людзей ратаваў.

— То ж добра.

— Ага, але сам захварэў і не здолеў над сабой шаптаць замовы і заварваць сабе зёлкі. Так і сканаў. Мне ж давялося ў свет ісці, бо бацька памёр, а родных пабілі.

— Хто?

— Ды свае ж. Сказалі, што бацька ведзьмаком быў і з-за яго, маўляў, той паморак і ўзнік.

— Ой, гора якое.

— Забылася яно ўжо, родненькая, але я з таго часу па белым свеце хаджу...

Тым часам восень прыспела. Дзед аднаго дня прамовіў:

— Ну што, будзем месца на зіму шукаць?

Сунуліся ў глыб пушчы. З сабой неслі пару сякерак і нож, якія знайшлі ў адной закінутай вёсцы. Забраліся ў такое месца, дзе, здавалася, толькі сосны з небам шапталіся. Жабрак і кажа:

— Тут, думаю, падыходзячае месца.

— І вадзічка блізка.

— Так, рачулка ці то ручаінка цячэ. І высока, вада вясной не зальe.

— І самае галоўнае, дзедка, што людзей паблізу няма.

— Так, іх няма нідзе паблізу, бо гэтыя мясціны я ведаю добра. Тая закінутая вёска, дзе мы сякеры бралі, — гэта маё роднае паселішча.

Сталі будавацца. Стары не мог у поўную сілу працаваць, а Марыльцы не дазваляў, каб дзіця не сарвала. Тым не меней да зімы паспелі. Хацінка атрымалася невялічкая, затое ўтульная і з печчу, якую дзед змайстраваў з камянёў, якіх мноства было паблізу.

— Вось цяпер нам ніякая зіма не страшная.

А зімой, у самыя маразы, нарадзіла Марылька дачушку на радасць сабе і старому.

Час ляцеў непрыкметна. Жабрак старэў, а малая, якую назвалі Мілкай, падрастала і станавілася гэткай жа прыгожай і кемлівай, як і яе матуля. Колькі пытанняў даводзілася пачуць ад яе за дзень, то і сказаць нельга было. Шчабятала, не заціхаючы. Дзедка навучыў сваім замовам і шэптам Марыльку, паўтараючы пры гэтым:

— Я памру, а табе спатрэбіцца.

— Ой, навошта вы так?

— Жыццё, даражэнькая, ідзе, і нічога мы супраць яго не зробім.

Тая вясна была звычайная. Нічога не прадвяшчала страшнага гора. Ужо дрэвы распусціліся, кветкі зацвілі, вада цёплай стала. Аднаго разу Мілка падбегла да маці і запрасілася:

— Мама, я пакупаюся. Вада цёплая.

Кожны год так было, а тут ліха здарылася. Паплыла ад берага, а вада дзяўчынку і закруціла. Утапілася, небарака. Пакуль выскачылі дзедка з матуляй, то і цела нават не знайшлі. Закрычалі ў адзін голас:

— Каб жа ты вужакай-гаміюкай круцілася, гадаўка!

І рака на вачах пачала выгінацца, нібы жывая. Так, з тае пары, і сталі яе Гаміюкай зваць. Потым, недзе праз месяц, дзед памёр. Засталася Марылька адна. Але і яе на хуткім часе не стала, бо маланка ноччу хаціну запаліла, і жанчына выскачыць не паспела, а мо і не захацела. Так і згарэла разам з дамоўкай.

Пазней на той рэчцы, Гаміюцы, паселішча ўзнікла, людзі назвалі яго Гомій. З цягам часу назва крыху перайначылася і стала — Гомель, так як і цяпер.

## ЗЯБРАЎКА

Некалі ля нашай вёскі працякала невялікая, але даволі свавольная і непрадказальная рэчка. А ў даўнія часы масты праз рэкі не будавалі. Казалі звычайна:

— Навошта той мост? Знайсці водмель — і ўсё на гэтым. Летам няма асабліва часу раз'язджаць — працы па вушы.

— А зімой ды ўвосень?

— Тады маразы такі мост трывалы выштукуюць, што і сякерай яго не прасячэш. Едзь сабе, куды толькі пажадаецца.

Так людзі разважалі, так і рабілі да тае пары, пакуль адзін пан тут добра-такі не брохнуўся. Са злосці ён нашаму паселішчу і назву прыдумаў. Даўней жа яно безыменным было.

Значыцца, жыў-быў пан,і звалі яго Леакадзем. Дзіўнае імя, ды казалі, што з палякаў паходзіў, а ў тых жа ўсё было незвычайнае. Памешчык той і не надта благі быў. Праўда, часта любіў паздзекавацца з людзей, прычым без асаблівых падстаў. Вось заўважыць каго з прыгонных, а ў самога на

гэты момант дрэнны настрой, і пачне выштукоўваць. Ды каб жа толькі жартаваў ці языком малаціў, а то раскрычыцца і загадае слугам:

— Дайце гэтаму лайдаку ў косці, каб на ім шкура засмылела!

— Паночку, даражэнькі, за што? — выкручваецца вясковец.

— Вы гляньце на яго! Ён яшчэ і пытаецца!

— Але ж я не вінаваты!

— Каб вінаваты быў, то зараз позна было б прасіцца. Гайдукі, даць яму гарачых!

Свішчуць бізуны, круціцца, слёзна просячыся, вясковец, які так і не ведае, за якую правіннасць яго лупцуюць, а гаспадар пыхкае сабе люлечкай і пасмейваецца:

— Гупайце да таго часу, пакуль не засмярдзіць!

Гайдукі, выскальваючы зубы, адказваюць:

— Ён з першага разу ў нас засмярдзеў, паночку.

— Тады зрабіце так, каб гэты дурань яшчэ раз угрaшыўся!

— Выканаем!

Свішчуць бізуны, пырскае кроў, ахвяра ўжо не рэагуе на ўдары, бо прытомнасць страціла, а памешчык не аддае загаду слугам супыніцца. Адальюць няшчаснага вадой і дапытваюцца:

— Зразумеў?

Той і галавой хіснуць не мог, але ўсё ж адказваў, што зразумеў, каб не атрымаць яшчэ бізуноў.

— Што зразумеў?

— А тое, што вам трэба, — выдыхваў з апошняе сілы скрываўлены вясковец.

— То пусціце яго, няхай бяжыць дамоў, — загадваў пан, але тут жа ўслед неслася са смехам:

— Стой, ідзі сюды!

Чалавек, збялелы ўвесь, ішоў назад, нібы на шыбеніцу. А памешчыку толькі гэтага і трэба было, ён задаволена працягваў:

— Табе даць далі?

— Але, паночку.

— А заплаціць жа не заплацілі?

— Ды якая там плата, родненькі, навошта яна мне? Не трэба мне нічога. Я лепей дамоў падамся.

— Не. Чакай.

Потым звяртаўся да гайдукоў:

— Дайце яму!

Вясковец у думках ужо з жыццём развітваўся, бо не верыў у тое, што вытрымае наступную лупцоўку, і ў гэты момант, нібы з-пад зямлі, да ягоных вушэй даносілася:

— Дайце яму залатовак шапку.

Такія вось справы вырабляў той пан Леакадзь. Але і ён нажартаваўся на сваю галаву, знайшоўся і на яго суцяшальнік — фурман, з якім пан паўсюдна ездзіў. Леакадзь і яго дубасіў так, што той на азадак сесці не мог, а потым сам жа і здзекаваўся.

Дык вось ехалі яны неяк паўз рэчку. Памешчык аглядаў свае нівы ды палі, ці ўсюды быў парадак, хацеў сам пераканацца ў гэтым. І тут яму нечакана прыйшла думка ў галаву:

— Давай, браце, праз раку пераедзем.

— Глыбока, пане.

— Каму глыбока, а каму і не.

— Тады зараз.

Лёкай той выдатна ведаў, дзе глыбокія мясціны, а дзе мелкія. Выбраў самы засмуроджаны зарожак і туды накіраваў коней. Тыя як рванулі, то і выбеглі на бераг самі, без карэты і, ведама ж, без памешчыка.

Фурман сеў на траву і сядзіць спакойненька ды з-за куста выглядвае. Памешчык пералякаўся і верашчыць:

— Ратуйце!

Ніхто на дапамогу не спяшаецца.

— Дапамажыце!

Нікога няма, а вада ўдарыла ўжо смярдзючым пахам у самы нос.

— Ратуйце!

І напіўся вады. Пачаў сам ратавацца — вылезці не здолеў. Наглытаўся бруду і на дно ўжо пайшоў. Толькі тады фурман выцягнуў яго на бераг. Памешчык ледзьве прыйшоў у сябе і ціхенька загаманіў:

— Гэтая... жабраўка... (значыцца, мясціна, дзе жабы ў глеі ды ў ціне сваіх дзяцей выводзяць)... ледзьве мяне не згубіла... Ніколі болей з цябе не буду здзекавацца.

— І з іншых таксама?

— Ага. І зямлі табе дам, і лесу на хаціну, будуйся прама тут.

Так і паўстала вёска Жабраўка, а ўжо значна пазней перайначылі яе ў Зябраўку.

# КЛЁНКІ

Гэта было ў старадаўні час, яшчэ за князем Паскевічам, якому ўсе навакольныя землі належалі. Багаты быў надзвычай. Для яго вёска-другая — што тая пясчынка ў кургане. Паўсюдна меў ён сваіх спраўнікаў ды стражнікаў, бо сам жа не ўпраўляўся і не паспяваў за ўсім сачыць, таму на іх толькі і разлічваў. Так і гаварыў:

— Я вам давяраю, але калі хто-небудзь нешта ўкрадзе, то галавой давядзецца адплочваць.

Аднаго разу Паскевіч ездзіў са слугамі па сваіх уладаннях. Прытаміўся, седзячы ў вазку, і кажа вернаму дварэцкаму:

— Ці не час нам дзе-небудзь пад кустом пасядзець? Ды і перакусіць хочацца.

— Толькі знайдзі такое месца, дзе сонца не прыпякала б, бо надакучыла гарачыня. І каб дрэвы былі, а то нейкая лаза ды лаза навокал.

— Слухаю, ваша светласць.

Дварэцкі скокнуў на коніка і паімчаў, адно толькі пыл за ім, як за чортам, закурэўся. Паскевіч заплюшчыў вочы і, пакалыхваючыся ў такт колам, задрамаў. Ён, мабыць, і заснуў, бо прахапіўся і адразу ж гукнуў:

— Дварэцкі?

— Я тут, княжа.

— Ну?

— Баяўся вас будзіць.

— Гэта правільна зрабіў. А месца знайшоў?

— Не, ваша светласць. Не загадвайце караць, княжа, але дрэў навокал няма.

— Як няма?

— Так вось. Адно толькі кустоўе. Лаза ды алешнік пакручасты, і нічога болей.

Дварэцкі стаяў, выцягнуўшыся, перад князем і, здавалася, не дыхаў. Чакаў, небарака, што зараз Паскевіч ускінецца і загадае даць яму бізуноў. Ужо зміры́ўся з такім паваротам справы, але раздалося зусім іншае:

— А чыя гэта зямля?

— Ваша, княжа.

— Ды я не пра тое. Хто тут ад майго імя кіруе?

— Явіцкі, ваша светласць.

— Явіцкі? Давай яго сюды.

— Будзе зроблена, пане.

Не прайшло і пару хвілін, як збялелы Явіцкі згорбіўся ў

нізкім паклоне перад Паскевічам. Той, нават не гледзячы на аканома, думаючы пра нешта сваё, мармытнуў:

— Ты тут кіруеш?

— Гэта ўсё ваша, ваша светласць.

— Я ведаю, але ты ад майго імя пастаўлены, таму адказвай: што, дрэваў навокал сапраўды няма?

— Няма ніводнага, пане, толькі кустоўе.

— Дрэнна.

— Што? — вырвалася ў аканома.

— Тое, што дрэваў навокал няма. Хацеў я пасядзець, адпачыць крыху ў засені, дык адно кустоўе.

— Ваша светласць, — нясмела звярнуўся дварэцкі, — дазвольце слова сказаць.

— Гавары, калі пачаў. — Паскевіч быў у добрым настроі і таму не злаваўся.

— Давайце загадаем насадзіць тут дрэў. Паўсюдна.

— Насадзіць? А гэта добра задумана, малайчына.

Дварэцкі лез са шкуры:

— Загадаем, каб у адным месцы садзілі адну пароду, а ў другім — другую.

— А якую параіш тут садзіць?

— У гэтай прыгожай мясціне? Клёнікі. Маладыя клёнікі, ваша светласць.

— Во, а Явіцкаму загадаю, каб ён за імі сачыў і, калі трэба будзе, нават паліваў.

З таго самага дня і пачалі саджаць у той мясцовасці дрэўцы, а каб Явіцкі мог сачыць за ўсім, то яму і людзей дадаткова далі. Пасяліліся яны ў адным месцы і паселішча сваё назвалі Клёнкі, бо даглядалі княжацкі клённік. Так яно і па гэты дзень засталося. Вось толькі дрэў тых болей няма — пападалі ад старасці.

## РАМАНАВІЧЫ

Князь Паскевіч надта дрэнна да простых людзей адносіўся. Дагадзіць яму практычна было немагчыма. А ў багатага заўсёды адзін сродак распраўляцца з безабаронным — у цямніцу. Кінуць чалавека ў турму, і сядзіць ён там, гніе. Так мноства людзей было пакарана, у асноўным дарослых мужчын. А Паскевіч усё ездзіў у карэце, запрэжанай шасцерыком, і шукаў новую ахвяру. Ужо стаў і да жанчын чапляцца. Неяк заўважыў вяскоўку, якая не пакланілася яму, і загадаў гайдукам:

— А ну, хлопы, да мяне яе!

Тыя, што харты, накінуліся на сялянку. Бедная плакала, прасілася, а князь як раўне:

— Ты што гэта?

— Нічога, княжанька, нічога, — прамаўляла тая, валячыся на калені перад валадаром.

— Як жа нічога?

— Нічога благога я не рабіла.

— Не хапала, каб яшчэ і да гэтага дадумалася.

— Даруй мне, княжанька.

— На гэты раз я табе дарую, а потым?

— Потым я разумнейшая буду. Дзеткамі сваімі клянуся.

— Добра, добра, а чаму ты зараз не кланялася ў пояс?

— Бо не заўважыла. Бегаю з самай раніцы, княжанька, па гаспадарцы, хвіліны вольнай няма, вось і не заўважыла, што такі прыгожы экіпаж выехаў. Пакуль ачомалася, то мяне сюды прывалаклі.

— Не заўважыла, кажаш? Нядобра гэта.

— Я і сама ведаю, што блага зрабіла, але болей такое не паўторыцца.

Паскевіч адвярнуўся і пра нешта задумаўся. Гайдукі стаялі і злосна зырылі па баках, нібы каго баяліся ці чакалі нападу, ды ціхенька хліпала носам гаспадыня. Князь рэзка павярнуўся і прамовіў:

— Кажаш, па гаспадарцы круцішся?

— Ды яшчэ як.

— Адна спраўляешся?

— З дзецьмі, княжанька. Усіх на ніву ці на луг забіраю. Дзе слязамі, и дзе рукамі працуем.

— Як гэта?

— Плачу ўвесь час, дык зелле пасля слёз не расце, нават з зямлі не выбіваецца. Так у нас здавён гавораць. І дзеткі дапамагаюць, але... Малыя занадта. Шкадую іх, сама бяруся, як той вол, пакуль не ўпаду ад стомы.

Паскевіч уважліва зірнуў на жанчыну:

— Сама... Дзеці... А дзе ж гаспадар твой?

— Няма яго.

— Што, памёр?

— Ды не.

— Збег да другой?

— Не, княжанька.

— А дзе ж ён тады?

Жанчына бездапаможна паглядзела на прысутных і развяла рукамі.

— Гавары, не пужайся, — злёгку падштурхнуў у спіну жанчыну гайдук. — Калі князь пытаецца, то караць за гэта не стане.

— Праўда? — ледзьве чутна шапнула гаспадыня.

— Праўда.

— Тады скажу, валадар.

— Ды ўжо парадуй нас, раскажы, дзе гэта твой муж хаваецца? — выскаліў зубы князь.

— Ён не хаваецца. Яго схавалі.

— Схавалі?

Жанчына заплакала.

— І даўно? Куды?

— У турму.

— І хто ж гэта асмеліўся?!

Сялянка не адказвала на пытанне, яна горка-горка плакала. Гайдукі адводзілі вочы, дварэцкі таксама апусціў галаву. Паскевіч нічога не разумеў.

— Што тут робіцца? Раскажыце мне толкам!

З гайдукоў ніхто наперад дварэцкага лезці не асмеліўся, а той таксама не надта жадаў тлумачыць, бо мала яшчэ чым гэта магло закончыцца.

— Давай, гавары!

Цяпер востры позірк быў скіраваны менавіта на дварэцкага. Той спалохана ўтаропіўся на князя:

— Вы...

— Што я?

— Вы... Загадалі яго ў турму кінуць.

— Я?

— Так.

— А за што?

— Хіба ўпомніш? Іх там столькі, што і месца ў хуткім часе на новых не стане.

— Гэтулькі многа людзей у нашых турмах?

— Хапае.

— А чаго ж ты мне раней нічога не гаварыў?

— Вы ж не пыталіся. Толькі загадвалі кідаць усё новых ды новых. Мы так і рабілі.

— Вы так і рабілі. Як жа нам цяпер быць? Калі так і далей цягнуцца будзе, дык мне самому з вамі разам давядзецца за плугам хадзіць, — і Паскевіч абвёў позіркам усіх прысутных.

Нехта паспрабаваў было зарагатаць, палічыўшы гэтыя словы за ўдалы жарт, але князь так сурова зыркнуў у той бок, што смех адразу сціх.

— Адпусціце жанчыну. А да вечара каб і яе муж дома быў. Паехалі адсюль.

Усю дарогу, да самага палаца, Паскевіч маўчаў і, толькі калі ўжо ўязджалі ў шырокую браму, кінуў:

— З гэтага дня людзей, якія правінавацяцца, не ў турмы кідаць будзем, а адпраўляць у мясціны, дзе зямля пустуе ды нішчымніцай ляжыць. Хай там будуюцца і зямлю маю аруць, мне ад гэтага прыбытак неблагі будзе.

Так і пачалося. У нашу мясціну было адпраўлена дзве сям'і. Аселі яны тут і зажылі спраўна, а потым і вёсачку сваю Раманавічамі назвалі, бо адзін з гаспадароў быў Раманам.

## САЛТАНАЎКА

Раней князі ды паны каго хочаш сабе ў двор маглі выпісаць, а для дзяцей сваіх немцаў ды французаў запрашалі, каб тыя з імі займаліся. Толькі князь Паскевіч усіх пераплюнуў. Неяк ён пахваліўся:

— Няма чаго, панове, вам надта ганарыцца. Я такое надумаў зрабіць — ні ў каго няма.

— І што ж гэта?

— Хутка даведаецеся. А пакуль што падумайце, паламайце свае галовы. Хто здагадаецца, таму падарунак даволі багаты будзе.

— То хоць крыху падкажыце.

— Не, самі спрабуйце.

Госці пнуліся, ажно саплі, але нічога прыдумаць не маглі. Князь рагатаў і ад задавальнення паціраў рукі:

— Паспрабуйце яшчэ. Гэта ж не сена касіць. Сядзі сабе ды гадай, а я паслухаю і, даю слова, — абавязкова ўзнагароджу самага кемлівага.

— Як жа мы адгадаем, калі ніякай падказкі не далі?

Так яны і не адгадалі, а ў хуткім часе ўвогуле забыліся пра тую размову. Усе, акрамя самога гаспадара палаца. Аказалася, што ён захацеў выпісаць сабе слугу не адкульнебудзь, а з Персіі. Грошы вялікія ўбухаў, паслаў спецыяльнага ганца з адным са сваіх знаёмых, які недзе ў тых краях дзяржаўную службу нёс, каб купіў там хлопчыкападлетка гадоў дванаццаці — трынаццаці.

Прайшло недзе з паўгода. Паскевіч ужо пачаў сумнявацца ў паспяховым завяршэнні справы, як аднаго дня да яго падскочыў дварэцкі:

— Ваша светласць!
— Ну?
— Там...
— Што гэта ты свецішся, як медны самавар?
— Дзівосы, ды і толькі.
— І што ж ты там убачыў?
— І распавесці не магу. Раней такога не сустракаў.
— Ды што ж там такое?
— Загадаеце прывесці?
— Не трэба, лепей сам туды зазірну. Вядзі да таго цуда.

Выйшлі яны ў суседні пакой, ■ там... Там стаяў невялічкі хлапчук і троссяя ад страху.

— Вось, ваша светласць, — схіліўся ў нізкім паклоне той, хто ездзіў за хлапчуком. — Куплялі ў Персіі, але, відаць, нарадзіўся ён зусім не там, бо чорны.

— А ці здаровы ён?
— Здаровы, княжа.
— Чаго тады трасецца?
— Не прызвычаіўся, што на яго, чорнага, усе так глядзяць і кожны імкнецца пакратаць пальцам. Я яго і па дарозе не надта паказваў, каб чаго благога не здарылася.
— Малайчына. А што ён есць?
— Ды ўсё, што даваў яму, — еў ды яшчэ і рукі цалаваў.
— Відаць, не ад добрага жыцця яго з сям'і прадалі?
— Выходзіць, што так.
— Вось цяпер суседзі папагамоняць, вось пазайздросцяць.
— Гэта ўжо дакладна, — мыкнуў з-за спіны дварэцкі.
— Ага, і ты азваўся? Хадзі сюды.

Дварэцкі забег наперад.

— Апрануць яго як мае быць, адмыць і асноўнае — навучыць нашай мове.
— Ёсць.
— Не біць, не здзекавацца, бо з вас з жывых скуру паспускаю.
— Зразумела.
— Зваць яго будзем Султанам.
— Як загадаеце, княжа.
— Калі крыху падвучыце, то будзе мне за сталом прыслужваць. Во здзівяцца госці, калі першы раз у жыцці такое ўбачаць!
— Што праўда, то праўда, ваша светласць.

Так і застаўся чорны хлопчык пры княжацкім двары. Муштравалі яго, вучылі, прызвычайвалі да тутэйшага жыцця

і неўзабаве дабіліся таго, што ён пачаў крыху размаўляць па-нашаму і, самае галоўнае, разумеў ужо, што ад яго патрабавалі. Потым перавялі ў найбліжэйшыя слугі. Доўга ён служыў Паскевічу, амаль што да смерці, а калі гаспадар адчуў, што хутка пакіне гэты свет, то загадаў даць Султану надзел зямлі і пабудаваць яму там хаціну. Пазней побач з той будынінай іншыя паўсталі, і назва з'явілася — спачатку Султанаўка, а пазней — Салтанаўка.

## ШАРПІЛАЎКА

На месцы сённяшняй вёскі Скіток пасяліўся адзін манах. Казалі, што прыйшоў ён аднекуль здалёк, ці не з-за самага Урала. Уцёк ад сваіх братоў па веры, бо тыя бессаромна абіралі мясцовае насельніцтва і яго прымушалі рабіць тое ж самае. А ён быў чалавекам сумленным, таму неяк не вытрымаў і запытаўся ў ігумена:

— Навошта так рабіць?

— Ты пра што гэта? — глуха азваўся той.

— Ды пра тое, як мы з людзей здзекуемся, як потым хлусім самому Богу.

— Хлусім? Богу? Назаві мне такога чалавека, і ■ загадаю яго пакараць.

— Ды вы і самі не горш за мяне ведаеце, хто гэта робіць.

— І хто ж?

— Вы.

— Я?

Пасля такога «адказу» манах зразумеў, што весці гаворку далей няма сэнсу, і папрасіў дазволу ісці.

Толькі манах выйшаў, як ігумен паклікаў сваіх хаўруснікаў:

— Бяда, браты. Ён жа можа дайсці да вышэйшага начальства, і тады нас ніхто не пашкадуе.

— Не паспее ён нічога сказаць. Не паспее...

— Я такога не гаварыў, — спалохана замахаў рукамі ігумен.

Сталі чакаць ночы, каб расправіцца з непакорным манахам, ды таго папярэдзіў верны сябар, і ён паспеў уцячы ад немінучай смерці. Доўга ішоў. Можа, год, а можа, і болей, пакуль не прыбіўся на бераг Сожа. Тут яму надзвычай спадабалася, і ён асеў на сталае жыццё.

Прачулі людзі пра незвычайнага жыхара і часта да яго

прыходзілі з просьбамі аб дапамозе, за парадай. І манах дапамагаў, нікому не адмовіў. Болей таго, ён нават лячыў хворых ды параненых, а на той час такі занятак быў вельмі важным. Ужо далёка па наваколлі гаманілі пра чалавека, які можа самага безнадзейна хворага паставіць на ногі.

Аднаго разу, справа ўжо кацілася да вечара, і сонейка лянотна прыхільвала свае косы да берагоў Сожа, да манаха прыйшоў хлапчына. Ён увесь час азіраўся, нібы баяўся пагоні. Павітаўшыся, некаторы час моўчкі глядзелі адзін на аднаго. Гаспадар не вытрымаў першы:

— Што здарылася?

— Гэта...

— Я ўважліва слухаю, гавары, не бойся.

— Тут такая справа... Страшная... — Хлапчына каўтнуў паветра і рэзка сказаў: — Я забіў чалавека...

Манах уважліва глядзеў прама ў вочы незнаёмцу.

— Раскажы, як гэта адбылося.

— Забіў, і ўсё на тым.

— Не, для мяне важна, пры якіх абставінах гэта адбылося. Сядай, у нагах праўды няма.

Незнаёмец пацíху распавядаў, а гаспадар яго не перабіваў, слухаў і пакручваў у руках гольку, якую падняў [redacted] зямлі. Хлопец змоўк, [redacted] манах не спяшаўся гаварыць. Наведвальніку падалося ўжо, што ён нічым не дапаможа, але тут раздаўся голас:

— Вось што я табе параю, хлопча, калі ты хочаш замаліць свой грэх, выпрасіць у Бога даравання.

— Хачу.

— Тады слухай уважліва. Дарэчы, як цябе завуць?

— Верамей.

— Значыцца так, Верамей. Злачынства сваё ты здзейсніў не дзеля нажывы, а абараняючыся. Таму знайдзі сабе месца ў лесе і шчыра маліся там дзень і ноч, тады Бог цябе даруе. А зараз пойдзем са мной, не палохайся.

Манах павёў Верамея па глухой, амаль непрыкметнай сцяжынцы да Сожа. Ля берага, умела замаскіраваныя, стаялі-пагойдваліся два чаўны.

— Сядай і плыві на другі бераг. Там знойдзеш пагорак і паселішся на ім. Не забывайся шчыра маліцца.

— Дзякуй табе.

— Не мне дзякуй, а Богу. Ён усім даруе.

Верамей усё зрабіў так, як параіў манах. Пасяліўся на кургане, паблізу ад ракі, пабудаваў сабе хаціну, абгарадзіўся высокім частаколлем. Ён бачыў, як па рацэ праплывалі

вялікія чаўны і судны — гэта купцы вазілі свае тавары ў Кіеў. Аднойчы бурлакі, чалавек дзесяць, цягнулі баржу-човен. Верамей падышоў да людзей, разгаварыўся і потым выменяў у іхняга гаспадара сабе пілу, сякеру, малаток і іншыя прылады працы за мёд, рыбу і грыбы. Цяпер лягчэй жыць стала — усё мог зрабіць сам.

Позняй восенню на Сожы звычайна ўздымаліся страшэнныя хвалі, якія ўсё перакульвалі-пераварочвалі на сваім шляху. Не была выключэннем і гэтая восень. Як узнялася аднойчы бура, як захадзілася, то ўсё навокал затрашчала, загрымела. Не зайздросціў Верамей тым людзям, якія ў такі час апынуліся на рацэ. Вырашыў памаліцца за іхняе здароўе ды ўдачу. Толькі распачаў шчыра шаптаць малітвы, як падалося, нібыта нехта крычыць:

— Да-па-ма-жы-це!..

Выскачыў на ганак, прыслухаўся. Сапраўды, ад Сожа неслася жахлівае:

— Ра-туй-це!..

Пабег туды. А цемра — хоць ты вочы выкалі. Туды-сюды перaступаў, а каму дапамагаць — не бачыў. Потым усё ж заўважыў перакуленую пасудзіну, за якую нехта трымаўся, размахнуўся і шпурнуў туды канец вяроўкі. Разоў колькі кідаў, пакуль свайго дабіўся — вырашаваў тых людзей: старога купца і ягоную прыгажуню дачку. Праўда, купец тры дні праляжаў, пратрызніў і, так і не прыходзячы ў прытомнасць, памёр. А дачка яго стала жонкай Верамею. Атрымлівалася, што яе яму сам Бог паслаў.

Потым тут пачалі з'яўляцца і іншыя жыхары. Хутчэй за ўсё з суседняй Украіны, з якой і зараз мяжуе наша вёска, бо і дагэтуль у нас многа людзей з украінскімі прозвішчамі: Горленка, Ашурка, Прыходзька.

Край жа наш — гэта край першастваральных лясоў. Лес быў такі, што яго з задавальненнем куплялі ў любым горадзе ці паселішчы. Толькі не лянуйся, ссякай і сплаўляй. З цягам часу людзі забіраліся ўсё далей і далей у глыб пушчы. Разам з імі працаваў і Верамей з сынамі. І заўсёды той, хто тут з'яўляўся ўпершыню, здзіўляўся:

— Што тут так шаркаюць пілы?

— Лес рэжуць ды ў плыты вяжуць, каб потым сплаўляць.

Ад таго шаркання піл і пайшла вёска Шарпілаўка.



# АКЦЯБРСКІ (РУДАБЕЛКА)

Раней вялікімі сем'ямі жылі. Пад адным дахам мясціліся і прадзед са сваёй жонкай, і праўнук са сваёй сям'ёй. Як пабудуюць тую хаціну, то і залазяць у дзверы, пакуль яна на бок не заваліцца альбо ў зямлю не ўрасце. Ніхто не меў права малых ці старых прэч выганяць — гэта быў самы страшны грэх. Праўда, пазней маладыя пачалі выбірацца ад старых бацькоў. Хто сабе зямлі прыкупляў, каму бацька даваў, але адразу стараліся пабудаваць хаціну і самастойна ўсім запраўляць.

Рэдка ў каго дзеці іншыя былі, якія не забываліся на былыя парадкі, паважалі і шанавалі памяць продкаў. Такія, перш чым нешта перайначыць, дзесяткі разоў паміж сабой раіліся, меркавалі і толькі ўжо потым рабілі.

Дык вось і ў нас тут некалі такая сям'я жыла. Дружна трымаліся: сам дзед з бабай, іхнія сыны з сем'ямі ды яшчэ ўнукі з жонкамі. Гаспадарку агулам вялі, жывёлы многа трымалі, а каб ад ворагаў ды ліхіх людзей адбівацца лягчэй было, свае хаціны ды гаспадарчыя будынкі ўзводзілі вугал да вугла, а потым абносілі высачэнным дубовым частаколам. Такая крэпасць не кожнаму па зубах была. А калі ўлічыць, што тубыльцы проста так не здаваліся, дык і ўвогуле не падступіцца. Як выязджалі на поле ці на луг, то чалавек трыццаць толькі дарослых працавала, а яшчэ колькі дзяцей побач завіхалася!

Усё далей і далей забрыдалі мужчыны ў лясы ды ў балоты, каб там прыдатныя для сяўбы і касьбы мясціны адшукваць. Здаралася, што за дзень ужо і не паспявалі туды-сюды абярнуцца. Пабачыў стары дзед, што справа так паварочваецца, сабраў сваіх сыноў, таксама барадатых, у сталым узросце мужчын, і кажа:

— Не справа гэта, дзеці, не справа...

— Што? — не адразу даўмеліся тыя.

— Так далёка ад дому забірацца не справа.

— Чаму?

— Якая ж гэта праца, калі туды ехаць да полудня, а назад — да вечара? Нічога ж не напрацуеш.

— То пераначаваць там можна, — запрапанаваў сярэдні сын.

— І гэта так, але не будзеш жа кожны раз там начаваць.

— Затое адпачыць можна.

— Гэта так, але не выпадае кожны раз на далёкім полі ці лузе начаваць.

— А што ў гэтым дзіўнага?

— Дзіўнага мала, але асцярожнасць не перашкодзіць.

— Пры чым тут, тата, асцярожнасць?

— А пры тым! Далёка ездзіце, доўга адсутнічаеце, а дома хто застаецца?

— Жанчыны, дзеці.

— Жанчыны, дзеці, — перадражніў стары. — Вашымі галовамі ды ў сцяну пабомкаць, то, можа, лепей думалі б.

— Ды і так, здаецца... — пачаў было малодшы з сыноў.

— Здаецца! — ускіпеў стары. — А калі якія чужынцы наскочаць?! Дзе гарантыя, што вы паспееце вярнуцца і выручыць нас тут?!

— Але ж да гэтага дня, бацька... — асцярожна загаварыў старэйшы.

— Хочаш сказаць, што бяда-ліха нас мінала?

— Ну.

— Не заўсёды яна мінала. Прыпомніце, колькі разоў нам даводзілася адбівацца? А колькі разоў у княжацкую дружыну нас клікалі, каб на чужыя землі ісці? Забыліся пра гэта? Калі ўсе разам, то і думаецца лягчэй!

— Але ж і так далей нельга жыць, тата. Няма чаго крычаць. Думаць, дык усім думаць.

— Я, хлопцы, і не крычу. Сарваўся проста. Але ж і вы падумайце, чым гэта можа скончыцца: не паспееце — усіх родных могуць вынішчыць.

— Зразумела, тата. Толькі з кожным годам нам усё роўна давядзецца далей і далей ад паселішча прабівацца.

— Чаму? Я ж усё жыццё на адным месцы пражыў. А вам чаго тут не хапае?

— Тата, калі вы ў маладосці тут жылі, то ў вас і сям'я намнога меншая была.

— Ведама што.

— І зямлі меней апрацоўвалі?

— Ды, можа, утрая, калі не меней.

— І сенакосаў столькі не трэба было? І ляда так часта не карчавалі?

— Не.

— Цяпер радня наша разраслася. Зямлі не хапае. Лугоў тых, адвечных, малавата аказалася.

— Ды не толькі гэта, — умяшаўся ў гаворку другі сын. — Дзікіх звяроў у навакольных лясах значна паменшала, а нам жа мяса трэба. Рыбы не так многа, як хацелася б.

— Нешта я вас не разумею.

— Ды тут няма чаго і разумець. Проста нам, бацька, трэба болей прастору. Каб не церціся на адным месцы, не бегаць за дзесяткі вёрст па сцяжынках лясных за звярамі, а каб усё гэта блізка было.

— Вось вам чаго захацелася... — Стары крыху падумаў і загаманіў зноў: — Але ж пройдзе колькі гадоў, і там стане зямлі не хапаць. Я, можа, да таго часу не дажыву, вы ж сутыкняцеся з гэтым.

— Сапраўды, браткі, — прашаптаў малодшы, — так і будзе.

— Вось яно як атрымліваецца... А што ж нам рабіць? Выйсце ж нейкае трэба знайсці?

— Безумоўна, трэба. Пакуль што ніхто з нас яго не ведае. Але ж мы і не думалі над гэтым. Толькі адзін раз і сабраліся.

Змоўклі і пачалі меркаваць кожны пра сябе. Нарэшце стары не ўтрымаўся:

— Галоднаму і думаць не хочацца. Дзе там жанчыны? Няхай бы на вячэру што шукалі, то весялей было б.

Адзін з сыноў борздзенька ўсхапіўся і кінуўся да дзвярэй. Неўзабаве ўсё вялікае сямейства сядзела за сталом. Праўда, гаманы не было чуваць, бо ў тыя часы гэта каралася: разявіў хто з маладзейшых рот — адразу з-за стала выганялі. Прагаладаецца, то ў другі раз не стане голас падаваць, калі старэйшыя ядуць.

Перакусілі, жанчыны з дзецьмі падаліся спаць, а мужчыны засталіся за сталом.

— Ну што, сынкі? — запытаўся гаспадар. — Нічога не прыдумалі?

— Не.

— Вось бачыце, а мяне прыспешвалі, каб прыняў рашэнне, старанна ўсё не прааналізаваўшы.

— Мы проста гаварылі, што нам месца мала.

— Месца заўсёды хопіць. Найперш трэба пра тое думаць, як род свой падчас усялякіх бітваў ды войнаў захаваць. Гэта зараз найгалоўнейшая задача.

— Зразумела.

— Я б такое прапанаваў, — і гаспадар хітра азірнуўся па баках. — Нікуды паасобна не раз'язджацца. Трэба быць разам.

— У такім выпадку калі нам ежы яшчэ хопіць, то нашым нашчадкам стане пагражаць голад.

— Не палохайцеся.

— Як жа не палохацца, калі на самой справе так станецца?

— Я і адносна гэтага падумаў.

— То раскажы, тата, у чым твой сакрэт?

— Цікава, няўжо мы самі не дадумаліся б, калі ўсё так проста?

Стары маўчаў спецыяльна, каб прымусіць сыноў ды ўнукаў пахваляваццa і, відаць, каб лішні раз падкрэсліць, што і дзяды на гэтым свеце не дарма жывуць.

— Бацька, час ужо і сказаць, а то мы з глузду можам з'ехаць, гадаючы, што ты там надумаў.

— Добра, хлопцы, добра. Вы толькі ўважліва паслухайце. Спярша можа паказацца, што я нічога дзіўнага не прыдумаў. Толькі не спяшайцеся крычаць і абмяркоўваць, старанна ўсё яшчэ раз прадумайце. Навошта нам трэба адсюль ехаць ці плыць? Можна зрабіць па-іншаму.

— І як? — не вытрымаў нехта з мужчын.

— Вельмі проста: застацца тут.

Запанавала цішыня, потым нехта прагуў:

— Застацца — не навіна, але ж мы сядзім зараз якраз з-за таго, каб тут не заставацца?

— Так, — ахвотна пагадзіўся гаспадар, — ды вы ж да канца мяне не даслухалі. Я прапаную застацца тут, але падумаць, чым далей займацца.

— Чым займаліся, тым і займацца, — нечакана выпаліў нехта.

— Уляпіў, як у смаловы сук асінавым цвіком, — з'едліва прамовіў стары, і ўсе зарагаталі. — Застацца тут і размеркаваць, хто якім рамяством стане надалей займацца.

— Рамяствам? Але ж мы да гэтага часу...

— Правільна, мы да гэтага часу ўсе займаліся адным і тым жа. Таму нам і зямлі ды лугоў ў наваколлі не стала хапаць, таму вы і вымушаны былі забірацца невядома куды ў пошуках прыдатных для сяўбы ды касьбы лапінак зямлі.

— Гэта так, тата.

— Я ўжо не раз, сынкі, думаў пра гэта, але ўсё не выпадала сказаць, а вы не закраналі. А калі ўжо так атрымалася, то давайце размяркуем, хто чым стане займацца. Тады нам і ежы хопіць, і пашы, і звяроў, і рыбы — толькі не лянуйся.

— Лёгка сказаць... — панура працягнуў нехта.

— А рабіць заўсёды цяжка, нічога проста так у рукі людзям не давалася і, відаць, не будзе давацца.

Астатнія падтрымалі гаспадара:

— Праўду дзед кажа. На месцы ўжо прызвычаіліся, а ў новым краі хто яго ведае, як справы пойдуць.

— Тут кінем, [redacted] там не знойдзем, станем потым локці сабе кусаць.

— Мы то па ўласнаму глупству, [redacted] вось жанчыны нашы ды дзеці з-за каго?

— Тата, раскажы больш падрабязна, каб мы ўсё зразумелі.

— Значыцца, так, — паважна загаманіў гаспадар. — У нас ёсць дзесяткі два дарослых мужчын?

— Ёсць.

— Цяпер давайце пералічым асноўныя рамёствы ды заняткі і размяркуем, хто чым будзе займацца. Будзем улічваць і тое, як ён спраўляўся з такой працай да гэтага дня.

Ужо трэція пеўні пракрычалі, а мужчыны толькі разыходзіліся. Стомленыя, змарнелыя, але задаволеныя. Ніхто не бурчаў, што нешта не так выйшла.

З новага дня пачалі займацца, як і дамовіліся, кожны сваёй справай, і ўсё ў іх адразу пайшло на лад. І ўсё ж тыдняў праз колькі выплыла адна памылка: калі размяркоўвалі рамёствы, то забыліся пра каваля. А якая вёска ці род, калі каваля няма? Пабеглі да старога, і той павініўся, пагадзіўся з дзецьмі ды ўнукамі. Вырашылі самага спрытнага і кемлівага за каваля прызначыць:

— Няхай Янук будзе нашым кавалём! Ён усё ўмее. Не раз такія штукі выробляў, што ўсе дзіваваліся. Цяпер яму магчымасць выпадае толькі гэтым і займацца.

Гаспадар пагадзіўся, а Янук, падзякаваўшы за аказаны давер, звярнуўся да бацькі:

— Усё добра, але ж патрэбна...
— Што?
— Жалеза. А яго без руды не здабудзеш.
— А дзе ж тую руду ўзяць? — задумаўся стары. Астатнія маўчалі, пазіраючы на гэтых двух.
— Шукаць, тата, трэба, шукаць. Іначай нічога не атрымаецца.
— То станем шукаць удваіх, усё роўна з мяне ў іншых справах памочнік слабы. А тут хадзіць ды на калёсах ездзіць і я змагу.
Не адзін дзень хадзілі бацька з сынам па наваколлі, не адну пару лапцяў стапталі — не шанцавала ім. Ведаў Янук, што руду трэба ў балоце шукаць, што там яна найчасцей залягае, але колькі ні моклі, колькі ні купаліся ў бруднай, стаячай вадзе — нічога станоўчага не атрымлівалася.
Аднаго разу лазілі яны далекавата ад паселішча і прытаміліся моцна. Сын то яшчэ нічога — трымаўся, а стары, дык той зусім расклеіўся і пачаў лёс свой праклёнамі праклінаць. Янук зарагатаў:
— Чаго гэта ты?
— Ат, надакучыла да смерці!
— Знойдзем руду. Не сёння, дык заўтра знойдзем.
Сеў стары, [redacted] сын пайшоў да бліжэйшых кустоў — там крынічка чыстая цякла. Не паспеў аддаліцца, як загучаў яго голас:
— Руда! Руда белая! Белая руда!
Так тое месца, дзе руду бралі, і вырашылі назваць Рудабелкай. Доўга гэтая назва заставалася, [redacted] за Саветамі перайначылі на Акцябрскі.

## КУРЫН

Некалі, у даўнія часы, калі ў гэтай мясціне не так земляробствам займаліся, як жылі з палявання ды рыбнай лоўлі, пасяліўся тут чалавек адзін. Звалі яго Пятрок. Вясёлы быў, ніколі не падаў духам. Жыццё яго так ужо біла, што, здавалася, плач, дый годзе! А ён, наадварот, засмяецца весела ды песню заспявае, салаўём зальецца. Спыняліся людзі і заціхалі, услухоўваючыся ў старадаўнія словы, якія так натхнёна выводзіў прыгожы, сакавіты голас.
— Хто ж гэта так заліваецца?
— Вядома хто. Пятрок.
— А што ў чалавека за радасць такая?

— Ды ніякай у яго радасці няма. Яму ўвогуле ў жыцці не шанцуе: жонка галодная, дзеці змарнелыя.

— А спявае ж. І няблага.

— Няхай бы болей працаваў, а не спяваў, — пачыналі падвучваць найбольш багацейшыя.

— Працаўнік Пятрок заўзяты, не кожны за ім управіцца, ды што зробіш, калі лёс такі неміласэрны.

— То гаспадар, выходзіць, з гора спявае?

— Хутчэй за ўсё.

— Але ж песні не сумныя.

— У яго на гэта свой адказ. Кажа, што надакучыла яму сумота тая ў жыцці, каб яшчэ яе і ў песнях ухваляць.

— Разумна сказана.

Пастаяць вяскоўцы, пагамоняць і разыходзяцца, а Пятрок застаецца сам-насам са сваімі бедамі ды згрызотамі, і ніхто не мог, ды і не браўся, яму дапамагчы. Закон тагачаснага жыцця быў суровы.

Аднаго разу гаворыць Пятрок жонцы:

— Задумка ў мяне адна з'явілася. Калі ўсё добра атрымаецца, то выберамся мы з галечы, не хужэй за астатніх жыць станем.

— Ты яшчэ, мужу, верыш?

— А іншага не застаецца.

— І тое праўда. А што ж ты задумаў?

— З'еду я з хаты.

— Як гэта?

— Восенню падамся, калі ўсё паробім па гаспадарцы.

— І куды, калі не сакрэт?

— Ды які ў мяне ад цябе сакрэт? Задумаў я на Украіну падацца. Тыя грошы, якія мы з табой ужо колькі гадоў збіраем, хачу ў справу пусціць.

— Тады мне з дзецьмі застанецца жывой у магілу класціся.

— Не трэба так гаварыць. Думаеш, мне лёгка?

— Не ведаю, як табе, але калі і апошнія капейкі спусціш, то ніякай надзеі ў жыцці не застанецца.

— Я не збіраюся іх на вецер пускаць. Задумаў купіць на Украіне пару коней, бо прачуў, што яны там танныя.

— Навошта нам ажно пара? Хапіла б грошай хоць на аднаго.

— Я ж табе кажу, што ў іх коні намнога таннейшыя.

— Але іх трэба будзе дамоў прыгнаць, ■ калі па дарозе на якіх зладзеяў напорашся ці на рабаўнікоў?

— Хай Бог даруе. Ці ж нам бядот мала?

— І ўсё ж дарога не блізкая.

— Правільна. Але [redacted] не паганю тых коней дамоў.

— А куды?

— Паганю іх далей ад нашага паселішча.

— Навошта?

— Няўжо не разумееш?

— Не, — шчыра прызналася жанчына.

— Там прадам даражэй, чым купіў, а на тыя грошы куплю ўжо дзве пары на Украіне. Так пару разоў абярнуся, і грошы з'явяцца. Сабе konікаў прывяду, дзяцей апранем, зямлі прыкупім, хаціну светлую, новую збудуем.

— Зноў ты... — усхліпнула жонка.

— Што?

— Зноў пахваляешся тым, чаго яшчэ няма і невядома, ці будзе.

— Трэба ў лепшае верыць.

— Эх, вера, вера... — горка ўздыхнула жанчына і не сказала болей нічога.

— Дык што ж мне рабіць, жоначка? — запытаўся Пятрок.

— Што хочаш, тое і рабі, чалавеча. Няма ў мяне веры, што жыццё наша на лепшае павернецца.

— Перайначыцца, пабачыш, — цвёрда і ўжо без усмешкі запэўніў гаспадар.

Як гаварыў чалавек, так і зрабіў. Адправіўся на Украіну глыбокай восенню, калі ўсё парабіў па гаспадарцы. Развітвалася жонка з ім так, нібы ў рэкруты на ўсё жыццё адпраўляла, галасіла, на чым свет стаяў, а за ёю дружна выцягвалі дзеці.

— Чакайце, абавязкова вярнуся. Тады зажывём.

Пайшоў Пятрок, [redacted] жанчына адна з малымі засталася. Кожны дзень разоў колькі на дарогу пазірала, спадзявалася першай мужа ўбачыць. А яна, тая дарога, была пустая...

Прайшло болей чым паўгода. Ужо і надзеі амаль не засталося ўбачыць Петрака. Мала што з ім магло здарыцца ў далёкай ды чужой старане. Але адным надвячоркам уляцеў у хаціну старэйшы сын і закрычаў:

— Матуля! Тата едзе! Едзе і курыцца!

— Як гэта?

— Сама паглядзі!

Выскачылі з хаты, і сапраўды: едзе Пятрок верхам, трох канёў за сабой вядзе, а ў зубах гліняную трубачку трымае і пыхкае з яе дымам. Ён раней не курыў, а ў чужой старане,

на табе — навучыўся. Жанчына ад радасці толькі і прамовіла:

— Вось ён... курын... бацька... курын...

Так і стала тое паселішча, дзе яны жылі, Курынам.

## МАЙСЕЕЎКА

У даўнія часы ўсё гэта адбывалася. Тады паны ўсім светам кіравалі, ■ сяляне ніякіх правоў не мелі. Адзінае права ў беднага чалавека было — працаваць. Падай, памірай, але працуй, каб памешчыку дагадзіць. Праўда, былі людзі адчайныя, якія адкрыта выступалі супраць прыгнятальнікаў, альбо ўвогуле адмаўляліся падпарадкоўвацца. Такіх і ў турмах гнаілі, і забівалі бязлітасна, а яны ўсё роўна род свой вялі.

У нашай мясцовасці жыў Майсей. Майстравіты быў чалавек, не ў кожнай вёсцы такі майстар знойдзецца, а што ўжо на язык востры ды на ўсялякія штучкі-прыдумкі здатны, то і распавесці немагчыма. Ішлі да яго сяляне з вёсак, каб параіў, як з памешчыкамі сябе паводзіць, бо жыць так далей немагчыма, каб ва ўсім дагадзіць лютаму гаспадару.

— Парай, братка, век цябе памятаць будзем, аддзячым за ласку і за спагаду да нас.

— Каб чаго добрага...

— Добрага не трэба, парай такое, каб памешчыкі нас на ўсё жыццё запомнілі.

— Уеліся яны вам у косці?

— І не кажы, чалавеча.

Майсей пачэша сваю густую бараду і раскажа, што і як зрабіць. Часцей за ўсё памешчыкі пасля сялянскай «навукі» прасілі літасці і абяцалі болей не здзекавацца з бедных. Імя Майсея было на вуснах у аднавяскоўцаў і бліжэйшых суседзяў, яны так і гаварылі паміж сабой:

— Што б мы рабілі, каб у нас такога шчырага і спагадлівага заступніка не было? Прапалі б, відаць.

Майсей не звяртаў увагі на такія словы, лічыў, што дапамагае простым людзям, а яны пры першай жа патрэбе і яму на дапамогу прыйдуць. Так заўсёды і здаралася, але аднаго разу і Майсей трапіў у незайздроснае становішча. Не ў трагічнае, але звесткі пра яго ажно да нашага часу дайшлі. А здарылася вось што.

Неяк выпала вольная хвіліна, не было асаблівай працы, якая пастаянна сялянам спакою не давала, і Майсей сабе

месца не знаходзіў. Не прызвычаіўся ён проста так сядзець. Круціўся, круціўся, а потым і кажа найлепшаму сябру:

— Ведаеш што, братка? У цябе грошай многа?

— Не.

— А хочаш займець?

— Пакажы таго, хто іх не жадае мець у кішэні, — адрэзаў сусед.

— Вось і добра.

— Што?

— Што ты пагадзіўся. А зараз слухай. У панскім лесе бачыў я добрыя брускі.

— Дык гэта ж панскі лес і панскія брускі.

— Ці ж то пан той лес садзіў? Можа, скажаш, ён і брускі нарыхтоўваў?

— Ведама, не.

— Дык чаго нам тады баяцца?

— Неяк не выпадае. Не наша ж, панскае, — не здаваўся сусед.

— Ат, заўпарціўся. Слухай лепей далей. Няма нам чаго палохацца. Запрагай сваіх валоў і кіруй на перакрыжаванне. Там і чакай мяне, калі ў лес баішся сунуцца. Там я адзін упраўлюся. Толькі глядзі, дачакайся, без мяне дамоў не вяртайся, бо падвядзеш тады дужа. Усё зразумеў?

— Канешне. Не хвалюйся, усё зраблю, як ты сказаў, — запэўніў Майсея сусед.

На тым і разышліся. Пачакалі, пакуль прыцямнее, і пабеглі па хацінах, каб там падрыхтавацца ды выбрацца як мага хутчэй у дамоўленыя мясціны.

Майсей запрог валоў і паджгаў у лес. А яны ж лядашчыя такія ды лянотныя, што — як ні крычы, як ні рвіся — ідуць сабе няспешна, азіраюцца, імкнуцца рагамі пырнуць пад бок, калі блізка падыдзеш. Гаспадар ведаў іхні нораў, таму не злазіў з калёс, и лупцаваў пугай з-за вуха, адно толькі водгулле па кустоўі неслася, ды пазіраў на неба, дзе ўжо запальваліся зоркі. Панскіх служак вясковец не баяўся, ведаў — у гэты час яны соладка спяць дома і ніякая пушча ды панскія брускі ім не патрэбны. Хвалявала яго адно: каб паспець усё зрабіць і каб сусед дачакаўся.

Нарэшце даехаў на месца. Абышоў вакол брускоў і прысвіснуў: цяжкія, і на аднаго занадта будзе. Але што зробіш? Сябра далёка, і на дапамогу ніхто не прыйдзе. Напружыўся Майсей і пачаў валіць на калёсы. Брускі ж выбіраў не абы-якія, а роўныя ды доўгія, каб потым і цану можна было вышэйшую заламаць. Пакрэкча, зваліць брус

і перакурыць, каб сілы для наступнага падыходу набрацца. Ажно шэсць штук ускінуў і вырашыў, што хопіць, самы час назад ехаць. А тут дожджык пачаў сеяць, ды такі драбнюткі, такі надакучлівы, што вочы сталі самі па сабе заплюшчвацца. Так ужо спаць чалавеку захацелася, што не заўважыў, як задрамаў. Колы рыпелі, валы адфыркваліся, з неба імжыла, а гаспадар храпеў як пшаніцу прадаўшы. Потым усхапіўся і пачаў круціць галавой, бо ніяк не мог дацяміць, дзе апынуўся і як выбрацца на патрэбную яму мясціну. Зусім адчаіўся Майсей і тут... убачыў прама перад валамі нейкага чалавека. Ажно валасы на галаве сталі дыбарам: падумаў, што на каго з панскіх служак нарваўся. Ды пачуў спакойны голас:

— Не адчайвайся, Майсей. Не палохайся, едзь за мной.

— А ты хто?

— Не бойся.

— Я і... — пачаў было селянін, але далей гаварыць не здолеў — сківіцы з пераляку звяло.

Той чалавек быў добра апрануты, у хвацкіх ботах, у брылі. Ішоў раўнютка, нібы вырас на гэтай глухой дарозе, толькі зрэдку акідваўся назад. І тут Майсея ажно падкідвала, такі страшны гэта быў погляд.

Ужо шарэць пачало, ранак хутка павінен быў наступіць, а Майсей усё не мог здагадацца, дзе знаходзіцца. Круціўся неўпрыкметку, каб неяк да розуму прыйсці, але ўсё было дарма. Тым часам той чалавек, што наперадзе крочыў, запытаўся:

— Вясёлы ты, Майсей?

— Ага.

— То і я таксама.

— А хто ж ты?

— Хутка даведаешся.

Тым часам кугікнула сава і... чалавек прапаў. Як ні шукаў яго Майсей — не мог адшукаць. Праз колькі часу здагадаўся, што гэта яго нячысцік у свае ўладанні завёў і заблытаў. Скінуў брусы з калёсаў і ўпустую пачаў прадзірацца. Доўга ішоў, а потым яшчэ і валы падохлі.

Вось так ён і зарабіў. Тое месца, каб людзі яго абміналі, Майсей крыжам драўляным пазначыў, яго пазней Майсееўкай назвалі. Вось адкуль пайшло.

# СМЫКОВІЧЫ

Назва вёскі пайшла ад адной надзвычай даўняй і смешнай гісторыі. Так ужо здарылася, што некалі тут жыў адзін селянін. Звалі яго Сымонам. Лянівы быў надзіва, сонны вечна хадзіў. Нават ідучы з хлопцамі з вечарынкі, па дарозе засыпаў, прама на хаду спаў. А хлопцы, таксама ж жартаўнікі, выраблялі з ім розныя штукі. Часцей за ўсё паварочвалі соннага Сымона тварам у адваротны ад роднай вёскі бок, прытулялі да якога дрэўца ці куста і самі хаваліся. Спачатку лайдак стаяў і хроп, нібы на печы разлёгшыся, толькі посвіст па кустоўі ішоў, але праз некаторы час пачынаў катурхацца і... прачынаўся. Вось тут і здаралася самае смешнае: вочы прадзярэ, што да чаго не разбярэцца і залупіць прама туды, куды вочы глядзяць. А яны ж у яго пазіралі якраз у адваротны бок. Праімчыць пару вёрст на адным духу і ўпадзе знясілены. Потым крутнецца, здагадаецца, што да чаго, і назад джгае. Але ж колькі на гэта часу пойдзе!

Рагочуць хлопцы, пакочваюцца. Ім так і дамоў весялей ісці, а дабяруцца да хацін, то давай родным расказваць, і тыя са смеху валяцца.

Усім весела, толькі бацькам таго лайдака сорамна было людзям у вочы глядзець. Спачатку сарамацілі яго, а потым махнулі рукой — хай жыве, як хоча. Нават у гарачую для любога селяніна пару не бралі з сабой на поле:

— Яшчэ засне, за канём ці за валом ходзячы, і брыкнецца дзе ў баразну. Няхай лепей дома ляжыць, каб людзі лішні раз у вочы не торкалі. Каб ён калодаю лёг!

Іншае дзіця на такія словы пакрыўдзілася б, старалася, каб болей такога пра яго ніколі не гаварылі, толькі не Сымон. Яго гэта мала кранала.

Аднаго разу і здарылася з ім тая самая вясёлая гісторыя, якую і да гэтага часу распавядаюць.

У нашай вёсцы жыў надзвычай здольны музыка. Стараваты ўжо быў, але іграў, што той бог, [redacted] то, можа, і лепей, прычым іграў на любым інструменце. Яго клікалі вяселлі іграць, нават з далёкіх вёсак запрашаць прыходзілі. І чалавек ніколі не адмаўляў. Пры гэтым паўтараў:

— Я з людзьмі добра, і яны — са мной.

Калі некаторыя спрабавалі яго паправіць, што, маўляў, і людзі ўсялякія бываюць, то музыка і тут знаходзіўся:

— Няхай благім людзям благое спрыяе, а добрым — добрае. Не я людзей на свет пладзіў, не я з імі і разбірацца

буду. Мяне запрашаюць, і адмаўляць не выпадае. Нікому благога не зрабіў, і мне, спадзяюся, такога не ўчыняць.

Вось неяк прыйшлі да яго людзі і папрасілі паіграць у іхніх маладых на вяселлі.

— Прыйду, — паабяцаў музыка. — А з якой вы вёскі і як мне да вас патрапіць?

Растлумачылі яму, што да чаго, і, узрадаваныя, пакіравалі назад. А на той час нешта надзвычай важнае прыспела ў вёсцы рабіць, кожны чалавек на ўліку быў. А справа ў тым, што музыка ніколі адзін не хадзіў, яму трэба быў памочнік. Калі майстар на гармоніку рэзаў, то памочнік ці ў бубен біў, ці ў дудачку дзьмуў. А тут чалавеку трэба ісці вяселле іграць, а каго з сабой узяць — не ведае, усе адмаўляліся, спасылаючыся на неадкладную работу. Не вытрымаў тады музыка і гаворыць сам сабе:

— Папрашу Сымона. Праца ў мяне не цяжкая, і лайдаку пад сілу будзе, калі яшчэ які рубель паабяцаю, то бегма за мной пабяжыць. Калі іграць буду, то не засне, не да гэтага будзе.

Падышоў да хаціны, у якой той лайдачына жыў, і парог пераступіў:

— Здароў, Сымон!

— Ага, — бомкнуў той, ледзьве прадраўшы вочы ды шырока зяхаючы.

— Спіш?

— Дзе там, задрамаў на пару хвілін.

— Усе працуюць, а ты дрэмлеш?

— Але ж і ты не працуеш!

Музыку не выпадала пачынаць спрэчку, таму ён адразу перавёў гаворку на іншае:

— Дапаможаш мне?

— А што рабіць трэба?

— Ды па дробязях, але заплачу шчыра — гэта абяцаю.

— То скажы, што рабіць трэба.

Распавёў музыка пра вяселле, і, надзіва, Сымон пагадзіўся. Майстар узрадаваўся, пааддаваў усе інструменты памочніку, і яны пакрочылі. Да вёскі той добры дзесятак вёрст трэба было пешкаваць. Ідуць сабе, размаўляюць. Падыходзіць майстар да хаціны, дзе вяселле чакае, і кажа:

— Сымон, падай-ка мне інструменты!

А ў адказ — цішыня. Музыка акінуўся — памочніка няма. Ён туды, ён сюды — нідзе няма хлапчыны. Бегалі, крычалі, гукалі — нікога так і не знайшлі.

Ужо добра сцямнела. Вяселле без музыкі нагадвала па-

хавальную працэсію. Убіваўся майстар, сяляне яго супакойвалі. А чалавек жа перажываў, каб з Сымонам чаго дурнога не прыключылася. І тут чуюць — тупаціць нехта. Яны насустрач — а гэта лайдак бегма бяжыць. Музыка да яго:

— Дзе інструменты?

Той у адказ ашалела закруціў галавой:

— Не ведаю...

Потым дадаў:

— Вось смык...

Ухапіў майстар смык і давай дубасіць ім Сымона. Добра, што смык усяго толькі ад скрыпкі быў, а то забіў бы лайдака на месцы. Відаць, зноў па дарозе заснуў. Мала яму перапала, але затое мянушку на свой век атрымаў — Смыковіч. Так і вёска тая стала звацца, дзе ён жыў, — Смыковічы.

## ЧОРНЫЯ БРАДЫ

У тыя далёкія часы нашы продкі пастаянна жылі пад пагрозай усялякіх войнаў ды бітваў. Не праходзіла і пару гадоў, каб нехта не паспрабаваў авалодаць тутэйшымі землямі. Здавалася, і не надта родзяць яны, і не такія ўжо прывабныя, але ўсё роўна прыцягвалі да сябе чужынцаў, нібы мёдам былі памазаны. Толькі слёзы на тварах паспявалі абсохнуць, і галашэнні сціхнуць, як зноў пагудка трывожная паўзла па краі:

— Ці не чулі?

— Пра што?

— То ж, гавораць, зноў нейкі ваявода на нас з войскам ціснe.

— Няўжо праўда?

— Учора, кажуць, у суседняй вёсцы княжацкі дружыннік спыняўся вады напіцца. Ён і паведаміў. З заставы да княжацкага палаца прабіраўся. Сказаў, каб уцякалі ў лясы, хавалі, што можна, жывёлу з сабой забіралі, бо праз дзень-другі позна можа быць і тады ў палон усіх пагоняць альбо пераб'юць.

— І да аднаго, і да другога не прывыкаць, — змрочна прамовіў нехта.

— Яно-то так, але жыць жа хочацца.

— І родных хаваць трэба.

— Адкладваць не выпадае.

— Калі ідуць, то, ведама ж, з адной мэтай — паланіць ды рабаваць.

Мужчыны крыху памаўчалі, і гаворка успыхнула зноў.

— То што будзем рабіць, людзі?

— Спяшацца трэба. Людзей хаваць і жывёлу гнаць на далёкія балотныя астравы.

— Толькі туды, там ніякі чорт не знойдзе, любы нячысцік ногі паламае, не тое што чужынцы.

— Сапраўды, што чэрці, што яны — нам усё адно.

— Давайце з вечара і збірацца. Добра, калі ворагі праз дзень-другі з'явяцца, а калі, не дай Божа, сёння ноччу ці на досвітку?

— І тое праўда. Яны ж могуць у любы момант прыляцець. Прамарудзіш, а потым закуюць у ланцугі і...

— Пра гэта лепей не трэба. Давайце збірацца.

— Збірацца, само сабой, трэба, але нельга забывацца і пра тое, што князь у сваю дружыну збіраць будзе.

— І гэта правільна.

— Трэба, каб ягоныя людзі ведалі, дзе мы знаходзімся.

Стары дзед закамандаваў:

— Цяпер ведаем, што рабіць. Зараз няхай пару чалавек да князя кіруюць, астатнія па хацінах дабро збіраюць, жывёлу зганяюць. На балотныя астравы пакіруем.

Праз некалькі хвілін мужчыны разышліся па паселішчы. Пачуўся тупат капытоў — гэта паімчалі пасланцы да князя.

Да вечара нікога ў вёсцы не засталося, яна нібы вымерла. Людзі тым часам прабіваліся па гнілым балоце да астравоў. Усё трэба было зрабіць надзвычай хітра. Каб захаваць жывёлу (яна ж правальваецца ў багну, і сляды за ёй застаюцца глыбокія, не заплываюць), на ногі ёй накруцілі анучы, лыка — маскіравалі сляды — і пагналі статак на адзін з астравоў, які знаходзіўся ў супрацьлеглым баку ад тых, дзе павінен быў размясціцца лагер вяскоўцаў. Людзі ішлі спакойна, нібы на звычайную працу, не скардзіліся і надта не гаманілі.

Тым часам пасланцы, якіх накіравалі да валадара, прыляцелі ва ўмацаванае гарадзішча, дзе стаяў княжацкі замак-вежа. Там усе ўжо ўзбройваліся, ва ўсе канцы пасылаліся дазорныя і невялікія атрады вояў з адзінай мэтай — сачыць за ворагамі і збіраць людзей у княжацкую дружыну. Калі ганцоў падвялі да валадара, сяляне расказалі, адкуль яны, і паведамілі, што людзі іхнія на астравах знаходзяцца, што калі трэба будзе якая дапамога, то гатовы жыцця не пашкадаваць, а дапамагчы.

— На астравах, гаворыце? — перапытаў князь. — А там надзейна?

— Не кожны з мясцовых дарогу туды знойдзе, не тое што чужынец.

— Вось каб і войска так правесці, — ці то самому сабе, ці то звяртаючыся да ганцоў, прамовіў князь.

Маладзейшы з вяскоўцаў падхапіўся:

— А чаму б і не, валадар!

— Як жа мы біцца ў балоце будзем? Ці ворагі такія дурныя, што самі туды палезуць?

— Дык завесці, княжа, можна.

— Завесці? — валадар імкліва ступіў да вяскоўца. — А ну пайшлі, чалавеча, са мной! Пайшлі, не бойся.

Ухапіў селяніна за руку і пацягнуў за сабой у будыніну. Па дарозе крыкнуў здаравякам-ахоўнікам:

— Да мяне нікога не пускайце! Заняты я!

Тыя маўкліва махнулі ў адказ галовамі. Для іх княжацкае слова было законам.

Пра што яны гаварылі — ніхто не чуў. Толькі праз некаторы час, калі ўжо добра прыцямнела, панесліся некалькі вершнікаў у той бок, адкуль чакалі ворагаў. У начной цемры яны хутка схаваліся, ■ потым заціх і тупат капытоў.

Не надта шматлікая княжацкая дружына выступіла раніцай. Валадар, звяртаючыся да вояў, сказаў:

— Ідзём, хлопцы, біцца з ворагам. Самі ведаеце, што многія не прыйдуць! Бараніць будзем родны край, нашых жонак і дзяцей, усіх, хто не можа трымаць зброю ў руках! Ворагаў надта многа, і нам давядзецца біцца з імі люта, кожнаму аднаму за дваіх, а то і за траіх!

У адказ панеслася:

— Не спалохаемся, валадар! Не першы ж раз! Вядзі на чужынцаў!

Дружына стаілася ў вузкім перашыйку, паміж непралазным лесам і гнілым балотам. Дзівіліся ваяры, не маглі зразумець, чаму менавіта тут чакаюць, хто ж сюды конную дружыну павядзе? Але ні ваяводзе, ні князю пытанняў не задавалі, бо ведалі, што менавіта яны прадумваюць план будучага бою і, значыцца, нешта хітрае задумалі.

Сонца паволі выкацілася на сярэдзіну неба і пачало паліць. Разморадыя людзі ляніва адмахваліся ад камароў ды мух, некаторыя спрабавалі спаць, ды ў такі адказны момант было не да сну. Раптам на паляну вылецеў вершнік, пад'ехаў да князя, і ўсе выразна пачулі:

— Сюды пруцца!

Чужынцаў вёў хлапчына ў зрэбнай кашулі і ў гэткіх жа штанах. Вёў прама на засаду.

Сеча была надзвычай лютай. Праз нейкую гадзіну ворагі пабеглі. Але аказалася, што ўцякаць не было куды — толькі праз рэчку, а рэчка тая была глыбокая і вірлівая. Каго не паспелі засекчы ў баі, той утапіўся. Лічаныя адзінкі ўцяклі. Болей яны ніколі не ішлі вайной на гэтае страшнае для іх месца.

Тую лапінку зямлі назвалі Чорнымі Брадамі, бо вымушаны былі чужынцы ўцякаць праз рэчку, наступаючы на трупы сваіх паплечнікаў. Мясцовыя жыхары пазней згадвалі, што рака тая, можа, з год была чорнай ад варожай крыві. Пазней ужо вёска стала, і яе назвалі Чорнымі Брадамі.

## ЮРКІ

Жыў у нас некалі селянін. Звалі яго Юркам. Не надта бедны, але не вельмі і багаты. Чалавек як чалавек. Але меў адзін недахоп — любіў выпіць. Да працы быў зацяты, а да гарэлкі яшчэ болей. Як дападзе, то так нахлешчацца, што потым дні тры адыходзіць і вохкае. Галава сама па сабе баліць, а жонка яшчэ кляне:

— Каб жа ты, гад, праваліўся! Каб жа гэтая дурная галава раскалолася! Табе іншай справы няма, акрамя як напіцца!

Вохкае чалавек, а што ж зробіш. Спрабуе з хаты плетануць і дзе-небудзь спакойна паляжаць, адысці, ды дзе там. Жонку не так лёгка правесці. Яна хутка здагадалася, што збіраецца рабіць муж, і загарлала:

— Ляжы ў хаце, каб на цябе разачка!

— Ой, рэжа, жоначка, рэжа, — нібы паскардзіўся ёй чалавек.

— Каб добра рэзала, то не піў бы. На нечым сэканомілі б, зямлі прыкупілі б. А то дзеці растуць, прыспее час — і трэба будзе зямлю дзяліць, яе ў нас — кот наплакаў.

Чалавек у адказ горка ўздыхнуў, павярнуўся да гаспадыні тварам і пацíху пачаў, нібы апраўдваючыся, распавядаць, чаму ён так моцна ўчора нарэзаўся.

Тая добра вывучыла мужа за гады сумеснага жыцця і ведала, што ён утрая адпрацуе той грэх, але ж шкада было яго, асабліва назіраючы за тым, як пакутаваў гаспадар з перапою.

— Каб жа ты, Юрка, болей не піў, то і не сварыліся б.

— Абяцаю — болей не буду, і сварыцца перастанем.

Адпаіла жанчына свайго родненькага напоямі ўсялякімі і гаворыць:

— Можа б, ты сёння, чалавеча, у млын мяхоў колькі завёз?

— А што, можна.

— Я па праўдзе гавару, ты ж адляжаўся, не стаміўся.

— Добра. Зараз збяру ўсё і на ноч паеду. Да раніцы дабяруся і чаргу адным з першых займу, то заўтра недзе да полудня назад вярнуся.

— Пачакай, я табе перакусіць пастаўлю. Дарога няблізкая, і чакаць там невядома яшчэ колькі давядзецца.

Так яны памірыліся. Юрка запрог коніка і выехаў з двара. Дарога ішла большай часткай глухім лесам, і далёка не кожны гаспадар асмеліўся б вось так, ноччу, выбрацца. Але Юрка быў чалавекам не з баязлівых і, да таго ж, выдатна ведаў мясцовасць.

Ехаць трэба было вёрст пятнаццаць. Спяшацца асабліва не было куды, таму Юрка закурыў люлечку і паціху падганяў коніка, услухоўваўся ў дзівосную лясную цішыню. І тут яму падалося, што за ім нехта сочыць. Разоў колькі акінуў вачыма назад ды па баках, але нікога не заўважыў. «Што за чорт? Прымроіцца ж такое!» — Плюнуў сярдзіта, пераджагнаўся тры разы, адганяючы святым крыжам нячыстую сілу, і пакіраваў далей. Але нешта ўсё роўна нібы давіла з усяе сілы, сядзела на плячах і рукамі здушвала шыю. Тады Юрка пачаў вакол сябе пугай памахваць. Хвошча, і здаецца, што па некім трапляе. Узрадаваўся:

— Так табе, нечысць, і трэба! На яшчэ!

Ды дарма радаваўся, бо наперадзе яго чакала яшчэ большае выпрабаванне. Толькі праехаў чалавек чарговы паварот, як пасярод дарогі, нібы з-пад зямлі, паўстаў здаравенны дзяцюк. Стаіць і чакае, пакуль Юрка да яго пад'едзе. Гаспадар ледзьве трубку з рота не выпусціў.

— Ты хто? — пытаецца.

Незнаёмы не адказваў, толькі рагатаў.

— Гавары, бо пугі пакаштуеш! — з пагрозай у голасе прамовіў Юрка, а ў самога ўжо зуб на зуб не пападаў ад перапуду.

— Едзь сюды, не плявузгай абы-што! — пачулася грознае.

Што было рабіць гаспадару? Не ўцякаць жа, тым болей, што ноч на двары, крычы — не крычы, ніякай дапамогі

не дачакаешся, бо людзей жа на добры дзесятак вёрст навокал няма. Воз паціху падбіраўся да незнаёмца, а ён і з месца не сыходзіў. Скрануўся толькі тады, калі конік амаль усутыч падышоў, ускочыў на воз і, паляпваючы Юрку па плечуку, прамовіў:

— Не палохайся, чалавеча.

— Ды я і... — пачаў было той.

— Ага, яно і бачна, што не спалохаўся: губы дрыжаць і штаны, відаць, узмакрэлі?

Сказаў голасна, узаляжку зарагатаў, не перастаючы паляпваць вяскоўца па плечуку. А кулак — што паўпудовая гіра. Юрку і збегчы нельга, але і далей так ехаць ды маўчаць не мог. Вырашыў паразмаўляць з тым дзецюком. Што ўжо будзе — ад таго не ўцячэш.

— Хто ты такі?

— Гаспадар, — спакойна адказаў хлапчына.

— Гаспадар? — перапытаў селянін. — А чаго гаспадар?

— Ды ўсіх гэтых абшараў.

— Вунь як...

Некаторы час ехалі моўчкі, потым незнаёмец прапанаваў Юрку згуляць у гульню:

— Давай крычаць. Хто мацней крыкне, той і пераможа. Калі ты выйграеш, то я цябе не крану, а калі я — то дам табе добрую лупцоўку. Гэтак я адпомшчу за тваю лупцоўку.

Крычаць першаму выпала вяскоўцу. Ён сабраўся з духам і так зароў, як ніколі ў жыцці не крычаў:

— Юрка!!!

Водгулле-рэха панесла па лесе той крык. Здалося, мацней і крыкнуць немагчыма. Але як гаркнуў гаспадар лесу, то ажно лістота зялёная асыпацца пачала. Прывязаў ён тады вяскоўца да бярозы і давай пугай лупцаваць ды прымаўляць:

— А ці цвёрдыя ў Юркі скуркі?!

Змалаціў на горкі яблык. Селянін не памятаў, што далей было. Знайшлі яго людзі напаўжывога, а калі адвязалі, то ён усё трызніў:

— Юркі... Скуркі... Юркі...

З таго часу тое месца сталі Юркамі зваць ды гаварыць:

— А дзе ж гэта ты быў, чалавеча?

— Ды там, ля Юркі...

Так і вёску назвалі — Юркі.



# БРАГІН

Трагічныя падзеі адбываліся тут у далёкія часы. Край быў глухі, малазаселены, улады паблізу ніякай не існавала, таму збіраліся ліхія людзі разам і трымалі пад кантролем усё наваколле. Нікога не баяліся і не прызнавалі. Некалькі разоў устрывожаныя князі з навакольных княстваў высылалі свае атрады супраць разбойнікаў, але тыя, выдатна ведаючы мясцовасць і падабраўшы зручны момант, разбівалі ўшчэнт княжацкія войскі, а потым бязлітасна каралі захопленых у палон дружыннікаў. На такія пакаранні зганялі мясцовых жыхароў і палохалі:

— Глядзіце, што чакае тых, хто супраць нас паспрабуе пайсці! Толькі паспрабуйце што дурное задумаць!

Хто ж тут стане нешта задумваць, калі прама на вачах з жывога чалавека скуру здзіраюць, на часткі рвуць, нажамі рэжуць? Жанчыны прытомнасць трацілі, дзеці вар'яцелі, а забойцы гэтаму толькі радаваліся.

Так і жылі тубыльцы нібы пад карай нябеснай, трывалі ды шчыра маліліся, каб хоць неба дапамагала ды адхільвала небяспеку. Але далёка не заўсёды Бог ды неба ўратоўвалі.

Самым лютым з тутэйшых разбойнікаў быў асілак Сівуха. Нягледзячы на ўзрост —а яму, казалі, было гадоў шэсцьдзесят, — адзін мог змагацца з двума дзесяткамі спрактыкаваных у бітвах вояў, а з булавой, якой ён лёгка размахваў, можа, і трое чалавек не ўправіліся б.

Пра яго гаварылі, што ён ужо да таго дайшоў, што еў чалавечае мяса і піў гарачую кроў. Прычым для гэтай справы забіваў толькі малых дзяцей, ды яшчэ падбіраў, каб ім было не болей чым год ад нараджэння. Схопіць немаўля за шыйку, сашчэпіць на ёй здаравенныя пальцы і адразу ж пачынае есці. Далёка не ўсе паплечнікі Сівухі маглі такое вытрымаць. Гаварылі паміж сабой:

— Няўжо яго маці нарадзіла?

— Якая маці? Ці ж не бачыце, што ён як ваўкалак, нават не ўсміхнецца ніколі.

— Усміхнецца? Ды ён жа з намі нармальна не размаўляе — гыркае ўвесь час.

Гаманілі і азіраліся, каб ненарокам Сівуха не падслухаў, бо літасці ён і да сваіх паплечнікаў не меў. Біў іх бязлітасна, прымаўляючы пры гэтым:

— На месца кожнага з вас да мяне заўтра тры ці чатыры чалавекі прыйдуць і будуць без лішніх слоў рабіць усё, што загадаю! Ці не занадта языкі свае параспускалі?!

Але і гэта яшчэ не ўсё. Расказвалі, што разам з Сівухам у бандзе былі яго шасцёра сыноў. Такія ж крыважэрныя, толькі, можа, крыху саступалі бацьку ў сіле. На самыя адказныя справы бацька з сынамі ішоў наперадзе, астатнія рабаўнікі крочылі крыху воддаль. Ім не дазвалялася хапаць што-небудзь з каштоўнасцей да таго часу, пакуль іх не паглядзіць сам Сівуха ці ягоныя сыны. Таго, хто незнарок, з гарачкі рабіў гэта, чакала смерць: атаман забіваў уласнаручна. Ніхто і не спрабаваў бараніцца. Гэта радавала Сівуху, ён адчуваў, бачыў, як яго баяцца. Але аднаго разу, казалі, малады бандыт, гледзячы яму прама ў вочы, прамовіў:

— Давай біцца! Я гатовы!

Словы гэтыя так раз'юшылі атамана, што ён ухапіўся не за булаву, а з коранем вырваў здаравенны дуб і пачаў ім махаць. Толькі і гэта не спалохала маладога разбойніка. Біўся ён са славутым Сівухам хвацкі, усяго зраніў, пакалечыў моцна, але, відаць, паспадзяваўшыся на хуткую перамогу, крыху расслабіўся і атрымаў смяротны ўдар прама ў грудзі. Сівуха яго нават ляжачага болей не біў, як рабіў з іншымі, толькі недаўменна пазіраў на распластанага мерцвяка, нібы ўсё не верыў у тое, што так хвацка супраць яго выступаў зусім малады хлапчына.

У той вечар сабраў сваіх сыноў атаман і сказаў:

— Вось што, сынкі. Бачылі, як ён біўся?

— Па-майстэрску.

— Але ж я яго ўсё роўна паклаў.

Адзін з сыноў не вытрымаў і бомкнуў:

— Выпадкова гэта адбылося... Ён пільнасць страціў і за гэта паплаціўся жыццём, а то б...

У Сівухі ажно дух сперла. Не чакаў ён такога павароту справы, нават падумаць не мог, што родны сын такое заявіць.

— Ды што ж гэта ты, гад?!

Але ў адказ пачулася не меней суровае і злоснае:

— Тое, што чуў!

— Як ты адважыўся?!

— А так, як і ён!

— Ды я!..

— Паспрабуй толькі, я таксама не стану галаву падстаўляць пад тваю булаву, папярэдне сваёй памахаю!

Сівуха паглядзеў на астатніх сыноў. Ягоны позірк спыняўся то на адным, то на другім, але на зарослых густой шчэццю тварах нічога нельга было разглядзець, акрамя абыякавасці. Зразумеў, што сыны ўжо не баяцца яго, і зароў:

— І ў каго вы такія ўрадзіліся?!

У адказ прагучала не меней магутнае:

— У цябе, бацька! — і зарагаталі так, што ажно лясіны затрымцелі, нібы стоячы пад магутным ураганам.

Толькі старэйшы сын прагуў:

— Не гавары абы-чаго, скажы лепей, чаго паклікаў?

— Разам нам трэба, сынкі, трымацца. Калі пачнём паміж сабой ваяваць, то гэтыя злыдні выкарыстаюць усё на сваю карысць.

— Няхай толькі паспрабуюць!

— Мы іх па асінах за языкі паразвешваем!

— Зайздросціць мёртвым будуць!

— Галовы паадрываем і ваўкам павыкідаем!

Сівуха крыху супакоіўся, бо адчуў, што сыны ў сваёй лютасці і жорсткасці яму не саступяць і ў патрэбны момант грудзьмі пастаяць за свайго бацьку.

— Яны ж толькі і мараць, каб нашы скарбы пазабіраць, каб рабаваць самім, а нам нічога не аддаваць! Разумееце, сынкі?!

— Такога не будзе, бацька! Не дамо ім волі!

— Няхай спадзяюцца, то на суках хутка загайдаюцца!

— Бачыш ты, скарбаў ім захацелася! Ці не замнога хочуць?!

Сівуха пачаў супакойваць сыноў:

— Добра, хлопцы, добра. Уважылі. Дзякуй вам. Бачу, што любіце мяне, што жыцця дзеля мяне не пашкадуеце.

Шкада, што матуля не бачыць, якія ў яе дзеці пасталі. Вось бы ўзрадавалася. Некалі ж удваіх валадарыць у гэтым краі пачыналі.

Сыны маўкліва ўсталі і амаль што ў адзін голас прагулі:

— Вечная ёй памяць, нашай дарагой і незабыўнай...

Потым зноў селі, і сямейная размова працягвалася. Дамовіліся, што будуць пільна сачыць за кожным разбойнікам, папярэджваць іхнія планы і задумы, бо самая дробная памылка можа потым каштаваць усім родным жыцця. Сыны запэўнілі:

— Ніхто ад нас не схаваецца!

— Не ўдумаюць ліхога, у час раскрыем!

— Начамі спаць не будзем, але ніхто благога табе, бацька, не зробіць! Адразу жыццём паплаціцца!

Расчулены Сівуха ледзьве не праслязіўся, што для яго было нечувана. Устаў, пачаў абдымаць сыноў.

— Я заўсёды ў вас верыў, заўсёды.

Тыя таксама абдымалі бацьку, ляпалі яго далонямі-лапатамі па шырачэннай спіне. Потым нехта прамовіў:

— То мы пойдзем адпачываць? Добрай ночы.

— Добрай, сыночкі, добрай, а на наступную рыхтуйцеся — пойдзем здабываць сабе чарговую ахвяру.

— Гэта па нас, ад гэтага мы ніколі не адмаўляемся, — ашчэрыліся тыя.

Над лясным жытлом рабаўнікоў-разбойнікаў усталявалася незвычайная цішыня. Непрактыкаванаму чалавеку магло падацца, што тут увогуле людзей няма. На самай жа справе спраўна неслі сваю службу вартавыя: уважліва за ўсім сачылі ды ўслухоўваліся, ці не трэсне дзе падазрона якая галінка.

Усё тут, здавалася, было прыведзена да парадку, ды гэта на першы погляд. Аказалася, што Сівуха гаспадарыў у нашых мясцінах, а зусім побач — на Хвайніччыне — валадарыў іншы рабаўнік, Бандарэнка, таксама асілак, а біўся так спрытна, што стаў амаль непераможным. І недарма ж гавораць, што два ваўкі ў адным логаве ніколі мірна не ўжывуцца, так і гэтыя бандыты. Спачатку ціха было, не ваявалі паміж сабой, ды з цягам часу кожны пачаў выстаўляць сябе больш магутным за другога.

— Што мне той Бандарэнка! Ён жа мяне баіцца, нібы чорт царквы! Хай толькі пакажацца на вочы, я яго ўмомант раструшчу!

Бандарэнка не паддаваўся і крычаў:

— Дзе той Сівуха? Дзе той чорт стары? Ужо ледзьве

клыпае, [redacted] мне пагражае! Няхай сядзіць сабе і не вылазіць, бо не на ягоную карысць наш паядынак пойдзе! Хай так і ведае!

Так крычалі, адзін аднаго з граззю змешвалі, толькі пабачыцца ім не даводзілася. Але аднаго разу Сівуху падгаварылі здаравілы-сыны ды шматлікія паплечнікі, і ён напаў на месца, дзе размяшчаўся Бандарэнка. Той не чакаў такога павароту справы — сядзеў сабе з нешматлікімі разбойнікамі, астатніх жа распусціў парабаваць па бліжэйшых вёсках. Таму сапраўднай бітвы не адбылося — сівухавы галаварэзы перабілі сапернікаў, а Бандарэнку булавой па галаве як трэснулі, то ён і брыкнуўся на зямлю. Адлілі яго вадой і запатрабавалі:

— Станавіся супраць нашага атамана Сівухі на паядынак!

Таму і адмовіцца нельга, і біцца ў поўную сілу ён, ашаломлены, не можа. Але ўсё ж неяк устаў і ўхапіўся за булаву. Ды што такі «асілак» значыў для Сівухі? Бандарэнка, што той мячык, паляцеў пасля яго ўдару. А Сівуху ўсё мала было — загадаў мачыцца на свайго ворага і сам першы гэта зрабіў. Плакаў Бандарэнка ад злосці і бяссілля, ды нічога не мог зрабіць у адказ. Павесяліліся пераможцы і пайшлі сабе назад.

Доўга ці не адлежваўся Бандарэнка — невядома, толькі вырашыў ён адпомсціць зневажальнікам. І слухаць не жадаў тых, хто адгаворваў яго ад такой задумы, маўляў, у Сівухі болей людзей і ён на самай справе здаравейшы. Упарта сцвярджаў адно:

— Жыць не буду, а такога не дарую!

Сабраўся праз некаторы час з сябрукамі і пашкандыбаў да Сівухі ў «госці». Напаў на лагер саперніка і павыбіваў тых, хто там быў, [redacted] самога атамана ў палон захапіў. Пашэнціла нападаючым, бо не было сярод абложаных сыноў Сівухі, яны якраз рабавалі недзе. Тут ужо даў волю рукам і дзеянням Бандарэнка: загадаў звязаць пераможанага і ліць яму ў рот растопленае сала. Так і зрабілі. Лілі да таго часу, пакуль у Сівухі не павыпадалі ўсе зубы. Крыкнуў тады Бандарэнка:

— Вось цяпер мы разлічыліся! Пусціце гэтую варону бяззубую, няхай прастуе адсюль! Нікому ён зараз не страшны!

Але пралічыўся Бандарэнка. Каб жа ён наперад ведаў, што атрымаецца, то забіў бы Сівуху, ніколі не выпусціў бы жывым. Атрымалася так, што Сівуха таксама адляжаўся і загадаў сынам:

— Пойдзем і таго гада са свету зжывём! Не будзе ён болей па зямлі хадзіць!

— Даўно пара! — загарлалі сыны і рушылі на лагер Бандарэнкі. Але і той на гэты раз старанна ахоўваў свае ўладанні. Як толькі ступілі няпрошаныя госці на ягоную зямлю, дык адразу ж і данеслі вартавыя:

— Ідуць!

— Калі так, то пайшлі сустракаць! — І памчалі насустрач.

Сышліся сапернікі на вялікай паляне. Тут ужо не да спрэчак ды не да размоў было. Амаль цэлы дзень біліся. Ужо сярод жывых засталіся толькі двое — Сівуха ды Бандарэнка. Саплі, упіраліся, рвалі рукамі адзін аднаго, але ніхто не саступаў.

— Табе смерць! — крычаў Сівуха.

— Не, табе! Я яшчэ пажыву, старэча! — адказваў Бандарэнка.

Невядома, як бы ўсё скончылася, калі б Бандарэнка не паслізнуўся і не ўпаў на калені. Тут яго Сівуха і аглушыў, а потым і дарэзаў. Узняў высока над галавой і кінуў у балота, ды пры гэтым нібыта прамовіў:

— Брат, гінь...

Пазней на тым месцы стала мястэчка Брагін, якое пазней ператварылася ў горад.

## ГРУШНАЕ

Даўней па-ўсялякаму здаралася, як і цяпер. Адзін жыве прыпяваючы, а другому і нішчымная капуста ў радасць. Вось тады жыў недзе недалёка ад нашай вёскі селянін. Звалі яго Фёдар. Такі ўжо бедны быў, што і сказаць немагчыма: сям'я вялікая, а есці няма чаго. Зямлі той — як сесці пару разоў добрай бабе. Дзе ні круціўся, як ні стараўся — не шанцавала. Бывала, на якую капейку-другую ўзаб'юцца, купяць кароўку ці коніка, толькі яны ў іх доўга не затрымліваліся. Нельга сказаць, што Фёдар за жывёлай не глядзеў, наадварот, вычышчаў, карміў, сачыў, ды то хвароба якая падкінецца, то ваўкі напоруцца і звядуць іхнія памкненні на нішто. Дайшло да таго, што ў чарговы раз, калі крыху грошай сабралі, гаспадар заявіў:

— Усё, на гэты раз ні карову, ні каня купляць не буду!

— Дзеткам бы хоць кропля якая малачка была... — запярэчыла жонка.

— Многа яны таго малака напілі?

— Хоць пару месяцаў.

— А потым зноў прападзе. Не, не хачу.

— Тады коніка купляй. Выгадуем, падтрымка добрая ў гаспадарцы будзе. Не трэба да багатых ісці прасіць, а потым адпрацоўваць.

— Яно-то так, але і коні ў нас не вяліся...

— То што ж ты купіць хочаш? — асцярожна дапытвалася жанчына.

— Надумаў я купіць пару авечак. Развядзём іх. Калі гэтая справа пойдзе, тады і на іншую жывёлу ўзаб'ёмся. Зямлі прыкупім, зажывём шчасліва. Авечак жа мы яшчэ не куплялі. Таксама няблага: і мяса будзе, і на зіму вопратку пашыць можна, і абмяняць авечак лёгка.

— Праўду кажаш, — пагадзілася гаспадыня.

Так і зрабілі. Паехаў вясковец на кірмаш і купіў пару: барана і авечку. Прывёз дамоў — хатнія нарадавацца не маглі. Усяго пару рублёў аддаў, а такі прыбытак у гаспадарку. Глядзелі цяпер усёй сям'ёй, вачэй не спускалі. І што ж вы думаеце? Пачало шанцаваць. Патрымалі тры гады, і за гэты час добры прыплод з'явіўся. Сабраўся гаспадар карову і коніка адразу браць. Сеў неяк зімовым вечарам і кажа жонцы:

— Вясной паедзем з табой на кірмаш.

— Чаго гэта?

— Карову і коніка купім.

— А грошы?

— Хопіць. Нават калі па даражэйшай цане, чым цяпер, то ўсё роўна хопіць. Я палічыў.

— Добра было б...

Гаманілі так, на печы дзеці сядзелі, прыслухоўваліся, як за сцяной дзіка гуў вецер. Добра ім было ў цёплай хаце. Тут Фёдар і прамовіў:

— Давай і авечак у хату пазабіраем. Ім жа там холадна, і ваўкі лазяць па наваколлі.

Жонка пагадзілася. Перанеслі яны авечак у хату і, стомленыя, прыселі адпачыць.

— Цяпер спакайней будзе, — сказала жанчына.

— Ведама што, — пыхнуў дымам з трубачкі-неразлучніцы селянін.

Толькі яны словам перакінуліся, як нехта загрукатаў у дзверы.

— Хто там? — падскочыў мужык.

— Адчыні, добры чалавек, — данеслася адтуль, — з дарогі збіліся ды заблукалі ў цемры.

Адкрыў дзверы гаспадар, ажно і праўда — увальваюцца два чалавекі. Аказалася, пан з лёкаем паехалі ў госці і збіліся са шляху. Завіруха страшная ўзнялася. Вецер такі задзьмуў, што за пару крокаў нічога не было відаць. Добра — агеньчык заўважылі ўдалечыні і на хаціну Фёдараву выйшлі, а то недалёка і да смерці было.

Накармілі нечаканых гасцей, чым было, абагрэліся яны і пачалі аглядваць жытло. Памешчык паморшчыўся і нечакана прамовіў:

— А што гэта авечка на мяне тупае?

Фёдар чалавекам разумным быў, на ляту разумеў, што да чаго, таму адразу і адказаў:

— Ды гэта яна, пане, у мяне на ваўкоў палюе.

— Вось як... І многа напалявала?

— За тры гады, як купіў, штук з дзесятак.

— Ты глядзі... — прысвіснуў пан. — Я са стрэльбай столькі не забіў. Прадай мне яе.

— Каго? — здзівіўся гаспадар.

— Авечку.

— Не, пане, здаецца, не дамовімся, — запярэчыў Фёдар.

— Чаму гэта?

— Вельмі яна мне дарагая.

— Колькі скажаш, столькі і заплачу, таргавацца не буду!

— Дорага будзе.

— Нічога.

— Тады тры сотні, як аддаць!

— Згода.

Памешчык тут жа адлічыў грошы і загадаў лёкаю:

— Раніцай забяром авечку з сабой!

— Добра, пане, — сагнуўся той.

Так і зрабілі. Калі добра развіднела і прыціхла завіруха, пачалі нечаканыя госці збірацца ў зваротную дарогу. Вынеслі авечку, паклалі яе ў перадок вазка і паехалі, толькі снег за імі закурэўся.

Ад'ехалі пару вёрст, а тут ваўкі завылі. Памешчык узрадаваўся:

— Зараз даскачацеся! Выпускай авечку!

Выкінулі яны бедную авечку з вазка, і самі ад'ехаліся крыху і сталі чакаць. Лёкай падбухторвае:

— Давайце назад.

Пан не пагаджаецца:

— Рана яшчэ.

— Давайце.

— Рана.

Калі пад'ехалі, то ад авечкі засталіся толькі шматкі поўсці. Памешчык агледзеў месца сутычкі, паўзіраўся ў той бок, куды ваўкі пасунуліся, і сказаў катэгарычна:

— Не разлічылі мы з табой.

— Чаго?

— Занадта многа ваўкоў было.

Селі і пагналі коніка далей.

Затое разлічыў Фёдар. Ён за тыя грошы і хату купіў новую, і зямлі прыдбаў, і каня з каровай, і зажылі шчасліва. Нават авечку не забылі: паставіў гаспадар на тым самым месцы, дзе яе ваўкі разарвалі, пад дзікай грушай, — крыжык.

Так і Грушнае наша ад той грушкі пайшло. Няма яе даўно, а памяць, тым не меней, засталася на стагоддзі.

## ЁЛЧА

З даўніх часін гавораць у народзе, што жаўнер нават чорта не злякаецца! Як яго ні палохай, а ён сабе будзе спакойненька люльку пакурваць ды пасмейвацца над тымі, хто ўцякае ды зубамі ляскоча.

Дык вось ішоў аднаго разу жаўнер, які ўжо адслужыў адведзены яму тэрмін у войску, дамоў. Шлях пралягаў якраз па нашай мясціне. Тады ж пешшу ўсюды дабіраліся. Падвязе хто-небудзь у вазку ці ў павозцы — дзякуй, а не, то самі шкандыбалі. Жаўнер ішоў не спяшаючыся. А калі праўду казаць, то спяшацца яму проста не было куды. Родныя не дажылі, сябрукі па беламу свету, як і ён, недзе швэндаліся, калі яшчэ на ліхую шаблю ці на сляпую кулю не нарваліся. На твары спакой, а на сэрцы — згрызоты. Куды падацца, дзе прыткнуцца, каб неяк далей жыць? Пыхкаў жаўнер трубачкай і спорна крокі адмерваў, толькі сам сабе пад нос мурлыкаў: «Раз-два — левай, раз-два — правай...»

Прызвычаіўся так ды і з нагі не збіваецца. Думы думае свае журботныя і навокал аглядаецца. Тым часам сонца ўжо на вечар паказваць стала. Падарожны пакручвае галавой, каб якое жыллё ўбачыць і пераначаваць папрасіцца, бо ён і пад кусцікам перастрываць мог, але ўсё ж у хаціне ці ў сене намнога лепей. Глядзіць, ажно наперадзе паказалася хаціна. Вялікая такая, светлая, не тое, што раней сустракаліся — малюсенькія, у зямлю ўрослыя, акенцы тыя — як два кулакі. Падышоў бліжэй, забрахаў на яго сабака, але не

злосна, а так, адбываючы свой сабачы абавязак. Тым часам і гаспадар глянуў за вароты:

— Што ходзіш, чалавеча?

— Прашу прабачыць, пане гаспадару, але ці не пусціце мяне пераначаваць?

— Толькі тае і бяды. Заходзь, братка, у двор.

Пераступіў салдат парог і далей гамоніць:

— Дзень добры ў хату. Каб дабро вас толькі вітала, а бяда-гора абмінала.

— Дзякуй, — шчыра адказаў гаспадар.

Гаспадыня таксама падзякавала чалавеку падарожнаму, бо за такія словы раней баяліся не аддзячваць, каб ліха якога не здарылася. Мала хто мог перад табой аказацца. Не падзякуеш яму, а ён праклён які на тваю сям'ю ды на гаспадарку напусціць.

— Сядай, жаўнеру, да стала. Есці разам будзем. У нас вячэра зварылася.

— Ды я перакусіў, — пачаў было аднеквацца падарожны.

— Не саромейся, братка, сядай. Ведаем, як ты там перакусіў. Калі з раніцы якая крошка ў роце была, то і добра.

Жаўнер усміхнуўся:

— Усё вы ведаеце, нават няёмка.

— Ды проста ў нас некалі дзед салдатам быў, дык ён усялякіх гісторый панарасказваў.

Перакусілі, і гаворыць гаспадар нечаканаму госцю:

— Хочаш, чалавеча, начуй з намі ў хаціне, а не — то ў другой будыніне. Яна ў нас пустуе.

— Дык я лепей там, каб вам не перашкаджаць, а то ці захрапу, ці затрызню ў сне. Усялякае здараецца.

— Так-то яно так, — пагадзіўся вясковец, — але ў нас там нейкі страх жыве. Гавару адразу, каб потым не падумаў, што [redacted] з цябе пажартаваць вырашыў ці нешта іншае задумаў.

— Не бойся, пане гаспадару, — адмахнуўся салдат. — І не такое бачылі і жывымі заставаліся.

— Ну, то глядзі. Калі што якое — крычы, прыбягу на дапамогу. А раніцай адыходзіць не спяшайся. Перакусім — тады і падасіся.

— Дзякуй, гаспадарыку, дзякуй. Добрай ночы.

— І табе, чалавеча, добрай ночы.

Зайшоў жаўнер у тую пустую будыніну, а там і сена духмянае на падлозе ляжыць, і сярмяга нейкая, каб на-

крыцца. Што яшчэ трэба чалавеку, які прызвычаіўся на адно крысо класціся, а другім прыкрывацца? Выкурыў ён сваю трубачку і ўжо нават задрамаў. І тут падалося яму, што нехта побач размаўляе. Перавярнуўся на другі бок, але размова стала больш выразнай. Зразумеў жаўнер, што не падалося яму і не прымроілася, што сапраўды нехта размаўляе паблізу. Прыслухаўся тады служылы. Нейчы грубы голас даводзіў:

— Спакойна... Спакойна... Не хвалюйцеся... Мы яго на дарозе перастрэнем.

— Ён жа на парцы будзе.

— Ну і што?

— Пагоніць коней, то і рады не дамо.

— Перагародзім дарогу.

— Чым?

— Дрэва зараней надсячом. Толькі ён туды, а яно і ўпадзе.

— А далей?

— Далей па галаве яму, кашэль з грашыма сабе, ды ўцякаць. Справы ўсёй на пару хвілін, не болей.

— Ясна. А дзе збірацца?

— Пад нашай ёлчай.

Жаўнеру і сон прапаў. Дачакаўся, пакуль галасы прапалі, і да гаспадара. Распавёў таму, што чуў. Вясковец за галаву ўхапіўся:

— Гэта ж яны майго брата, які павінен да мяне прыехаць, збіраюцца забіць!

— Што-небудзь прыдумаем, бо ведаем іхні план. А што такое — ёлча?

— Па-нашаму гэта елка. Старая яліна расце амаль перад выездам з лесу. Даехаўшы да яе, праезджыя з палёгкай уздыхаюць, што пранесла праз самую небяспечную мясціну. Здаравенная яліна, высачэнная, яе здалёк відаць. Што ж рабіць будзем, жаўнерыку?

— Давай возьмем сякеры ды вілы і туды падамося, каб паспець вазок з тваім братам да таго месца дзе-небудзь перастрэць і папярэдзіць. Потым, можа, і з тымі рабаўнікамі справімся. Усё ж утрох будзем, і яны нас не чакаюць...

— Вось табе дзякуй, чалавеча.

— Рана дзякаваць, спачатку трэба ўсё добра выканаць, а потым разбяромся.

Прыхапілі вілы, сякеры і паджгалі да той дарогі, па якой павінен быў брат ехаць. Ледзьве паспелі. Чалавек і не задумваўся над тым, што гэтая паездка магла для яго апош-

няй аказацца. Слёзна дзякаваў сваім выратавальнікам, ды цяпер ужо ягоны брат адказаў стрымана:

— Рана радавацца. Трэба ад тых бандытаў зямлю ачысціць, каб нікога болей не падпільноўвалі.

Пракраліся туды і напароліся на разбойнікаў. Як выскачылі знянацку, як сталі іх рэзаць-калоць, то ніводнага ў жывых і не засталося. А на тым месцы, дзе сутычка адбылася, ці крыху ўбаку, браты хаціну для жаўнера пабудавалі — такім чынам за дапамогу аддзячылі. Пень ад тае елкі — ёлчы — яшчэ нядаўна быў. Ад яе і назва вёскі пайшла — Ёлча.

## ЗАЛЕССЕ

Раскажу вам адзін выпадак, які звязаны з паходжаннем назвы нашае вёскі. Справа ў тым, што даўней людзі маглі па-ўсялякаму варажыць. Вось чалавек жыве, і здаецца, што ён такі ж, як і астатнія, але на самай справе ўсё аказвалася іначай. Пазайздросціць чужому шчасцю, радасці, дабрабыту і такое вырабіць, што тая сям'я ніколі болей радасці не зведае, гора-бяда на падворку паселіцца. Называлі такіх чараўнікоў злымі, або чорнымі. Назва ад іхніх вачэй ішла. Імі, нібы якімі іголкамі, пранізвалі чараўнікі ахвяр, усялялі ў душы страх і баязлівасць, а ў сэрцы — хваробу.

Стары чалавек распавядаў, што тут, дзе зараз наша вёска, даўней была вялікая паляна, яна знаходзілася нібы за лесам. Добрае мясцечка, утульнае, зямля ўрадлівая. Жыві — не хачу. Працуй сабе спакойна, шчыруй на зямельцы — і ніхто слова крыўднага не прамовіць. А людзі сяліліся крыху далей, па другі бок лесу, мо вёрст за пяць. Вялі гаспадаркі, сеялі зерне, і не заціхалі ніколі песні над іхнімі нівамі. А радавацца было ад чаго. Не часта такое сустракалася, каб усяго ставала. Старыя вучылі маладзейшых, калі араць, калі малаціць, а тыя, у сваю чаргу, малым пераказвалі. Гэтак мінала пакаленне за пакаленнем. Можаце сабе ўявіць, што людзі жылі па сто і болей гадоў і не ведалі, што такое гора. Міналі іх галодныя гады ды пошасці, не прыносіла сюды ліхая віхура чужынцаў. Спакойна ўсё ішло. І здавалася, ніякай бяды не будзе. А яна прыйшла нечакана, нібы з сіняга неба, разам з дожджыкам, звалілася. Прыгналі неяк каровак з поля пастушкі і адразу кінуліся да старэйшых:

— Нешта не такое творыцца!

— Што? — здзівіліся тыя.

— Каровы на пашы не траву скублі, а ўвесь дзень жаласна мукалі.

— Чаго гэта?

— Мы і самі не ведаем, таму да вас, старэйшых, і беглі.

— І даўно такое здарылася?

— Не, першы дзень.

— То, відаць, не трэба перажываць. Усё стане на свае месцы. Заўсёды ўсё ў парадку было і на гэты раз выправіцца.

— А калі... Калі кароўкі і заўтра есці не будуць?

— Вось калі заўтра нешта здарыцца, то тады і разбяромся, а зараз бяжыце ды адпачывайце. Стаміліся ж за цэлы дзень. Супакойцеся, усё будзе належным чынам.

Пастушкі пайшлі па хатах, а праз некаторы час разышліся і старэйшыя.

Прыспела раніца, і каровак пачалі выганяць на пашу. Як звычайна, гаспадыні збіраліся ў невялічкія купкі і абменьваліся навінамі. На гэты раз асноўнай былі каровы:

— Гэта ж мая кароўка малака зусім мала дала.

— Хіба толькі твая? Мая таксама.

— І мая. Утрая меней, чым звычайна! Я і не паверыла, а калі мужу пра гэта сказала, то ён мяне ж і абвінаваціў, маўляў, сама разліла, а на карову звярнула.

— А ў маёй кароўкі малако з крывёй было. Я даўно такога не бачыла, пачала яе аглядаць, думала, што нейкая іншая жывёліна ўдарыла ці ўкусіла што. Але дарма — ні ранкі, ні драпіны не знайшла.

— Што ж гэта магло быць?

Пытанне на некалькі хвілін нібы павісла ў паветры, а потым жанчын зноў як прарвала:

— А можа?..

— Што?

— Можа, пастушкі вінаваты?

— Але ж да гэтага часу ўсё добра было і яны сумленна пасвілі.

— Чаго тут варажыць? Давайце лепей падкрадземся ды праверым, як яны пасуць.

Як дамовіліся, так і зрабілі. Пайшлі ціхенька па кустоўі ў той бок, дзе павінны былі пасвіцца каровы. Па-першае, шукалі пастушкоў, ці не паснулі тыя, ці не лайдачаць і, значыцца, не сочаць за жывёлай. Ды ўсё было зусім не так. Хлопчыкі знаходзіліся на месцах, а вось каровы... Каровы не елі, а толькі мукалі. Жаласліва, нудліва, так, што ажно слёзы прабівала.

— Што гэта з імі? — усхвалявана прашаптала адна з жанчын.

— Каб жа мы ведалі...

— Нешта здарылася. Не ядзяць, травы не скубуць.

— Не тое што не скубуць, а нават і не сагінаюцца.

— Калі так і далей пойдзе, то жывёлы хутка не стане.

— Знясілее і пападае, а потым падохне.

— Падохне — факт.

— Трэба шукаць выйсце. Пайшлі дамоў, там з мужчынамі ды са старымі параімся. Час нельга губляць.

Жанчыны прыпусцілі да вёскі. Калі распавялі, што да чаго, дык устрывожыліся і гаспадары. Давай распытваць старых, ці не чулі такога на сваім вяку. Але і тыя нічым не дапамаглі, усе адказвалі адмоўна. Не ведалі людзі, як ратавацца і што далей будзе. Вырашылі чакаць, калі кароў дамоў прыгоняць, спадзеючыся, а раптам нешта пераменіцца і тая невядомая хвароба адступіцца.

Ды дарма спадзяваліся. Як убачылі статак, то жанчыны ажно загаласілі: знясіленыя каровы ледзьве ішлі, здавалася, яшчэ крок-другі — і пападаюць. І тут пашанцавала вяскоўцам. Аднекуль узяўся стары жабрак, які паволі сунуўся з хлопчыкам-павадыром. Пачуў галашэнні, падышоў да тубыльцаў і запытаўся:

— Чаго плачаце, людзі добрыя?

Тыя ў роспачы азірнуліся, не ведаючы, ці распавядаць незнаёмаму чалавеку пра гора, ці прамаўчаць? Потым нехта не вытрымаў і паведаміў, што да чаго здарылася. Жабрак адразу і выдыхнуў:

— Гэта ж у вас, людцы добрыя, ведзьма гаспадарыць. Яна ў вашых каровак малако паадбірала і не дае ім на пашы хадзіць. Я вас навучу, як ад яе пазбавіцца.

Жабрак параіў знайсці ў вёсцы жанчыну, якая сябе дзіўна паводзіць. Ды каб не цягнулі час, бо праз ноч Купалле, [redacted] тады яе найлягчэй раскрыць.

Так і зрабілі сяляне. Вылічылі тую жанчыну і пачалі за ёй сачыць. На Купалле вядзьмарка сабралася і пайшла да гары, дзе нячысцікі збіраліся гуляць, а вяскоўцы забеглі да яе ў хаціну і, як стары навучыў, перавярнулі дагары дном усе гліняныя збанкі ды драўляны посуд. Толькі перакулілі, як пачулі, што нешта льецца. Адна з жанчын усклікнула:

— Дык гэта ж малако бяжыць!

Яе падтрымала другая:

— Ад нашых каровак, і выліваецца на падлогу, бо мы ж посуд перавярнулі!

Мужчыны раз'юшыліся:

— Хай толькі вернецца, гадаўка! Мы з ёю паквітаемся!

Але і вядзьмарка, відаць, адчула, што нешта не тое ў яе хаціне вырабляецца, і не вярнулася дамоў. Сышла. Стала жыць на той паляне, за лесам. Неўзабаве памерла. А праз колькі гадоў іншыя людзі, сумленныя ды шчырыя, там хаціны пабудавалі. А вось назва засталася ранейшая — Залессе.

## КАПОРАНКА

Жыў у нас даўным-даўно, можа, стагоддзяў пяць таму назад, адзін селянін. Звалі яго Пііліп. Не верыў ні ў чорта, ні ў д'ябла, нават у царкву не хадзіў. Пасмейваўся сабе, лежачы на печы, ды і прымаўляў:

— Дурніца гэта.

— Што дурніца? — дапытваліся ў яго людзі.

— Усё дурніца: і чэрці, і Бог, і д'ябал.

— А ты адкуль ведаеш, разумнік?

— Я ўсё ведаю.

— Што, з печы далей відаць?

— Выходзіць, што так.

— Глядзі, каб твае словы потым бокам не вылезлі!

Людзі за лепшае лічылі з ім не звязвацца. Навошта чапаць такое ліха, ад якога потым не будзе ціха? Толькі атрымалася, што ён сам сабе такую штуку падстроіў, што да гэтага людзі пераказваюць і смяюцца.

Аднаго разу сабраліся мужчыны ля карчмы і давай навінамі абменьвацца.

— Ці чулі, браткі? Кажуць, што на нашым балоце нехта сена косіць.

Піліп не ўтрымаўся:

— Во, мяне дурнем абзываеце, а самі?..

— Што?

— Дзе ж гэта вы бачылі, каб зімой нехта сена касіў? — запытаўся і зарагатаў так, што ягоны жывот-ночвы закалыхаўся, як тыя рачныя хвалі падчас добрага ветру.

— Не верыш?

— Не.

— Але ж кажуць тыя, хто на ўласныя вочы бачыў.

— Прымроілася ім. Нічога такога не было і быць не можа.

— Вельмі ты катэгарычны.

— А што ж мне рабіць? Можа, вам верыць?

— Як сабе хочаш. Не верыш — дык дай нам чалавека паслухаць.

— Слухайце, калі вам так хочацца. А я лепей пайду паляжу.

Але дамоў не пайшоў. Захаваўся за спіны вяскоўцаў і стаў слухаць, што далей будуць пераказваць. Выслухаў і зноў свае «тры капейкі» ўставіў:

— Я вас на чыстую ваду выведу. Пайду і сам праверу. Калі там нехта ёсць, то й яго ўбачу, а калі няма, то таксама заўважу.

Вось толькі скаціну ў хляве дагледжу, апрануся цяплей і пайду. Куды на балоце кіраваць?

— На Лысы Груд, — падказаў нехта і тут жа перасцярог. — Глядзі, каб чаго дурнога не здарылася, бо з балотам жарты дрэнныя.

— Што там здарыцца можа?

— Калі стрэнеш каго, то выкручвайся, не гавары прама, чаго туды прыцёгся. Прыдумай які занятак, ты ж звычайна за словам у кішэню не лезеш.

Піліп адказаў на такую шчырую падказку таксама шчырасцю:

— Дзякую. Пакуль па гаспадарцы буду ўпраўляцца, усё добра абдумаю, каб ведаць, як, пры выпадку, выкручвацца.

Прыскочыў вясковец дамоў, пераапрануўся адразу, а на жончыны роспыты, куды гэта ён на ноч гледзячы, прамовіў:

— Вазьму капор ды пайду на балота гаць гаціць, потым нераты пастаўлю, то ўюноў наб'ецца — не пераядзім.

— Ты лепей днём пайшоў бы, усё роўна зараз неадкладнай працы няма, — слушна запрапанавала было жанчына.

— Як вырашыў, так і зраблю, — адрэзаў Піліп. — Жывёлу й дагледзеў, ты толькі вячэру звары ды дзяцей пакармі. Спаць кладзіцеся, мяне не чакайце. Прыйду не раней раніцы.

Пакіраваў гаспадар на Лысы Груд, за нейкую гадзіну і дадыбаў. Тым часам мароз добры ўзяўся. Апусціў Піліп шапку-аблавушку і кажа сам сабе: «Добра што апрануўся цяплей, кажух на плечы нацягнуў, а то замёрз бы зусім. І які касец у такую часіну сена косіць? Хіба, можа, дурань набіты?»

Толькі так прамовіў, ажно чуе — пасвіствае нешта, так, як каса на пракосе. Скіраваў на той свіст. Ідзе, кустоўе абмінае, пад ногі пільна ўглядаецца, каб, не дай Бог, у

палонку якую ці «чортава вока» не ўваліцца. На Лысы Груд і выйшаў. А той посвіст за спінай раздаўся. Азірнуўся Піліп і адчуў, як валасы пад шапкай дыбарам сталі: на самай справе за ім ішоў касец, ды так хвацка памахваў касою, такі шырокі пракос займаў, што ажно люба было глядзець. І яшчэ: незнаёмец той касіў у адной кашулі, нібы на вуліцы не дзікі мароз быў, а спякота і нібы не глыбокі вечар, а ясная раніца. Косіць і нешта пад нос мармыча. Прыслухаўся Піліп, але не здолеў разабрацца, тады крыкнуў:

— Што ж гэта ты, чалавеча, у такую часіну косіш?

Незнаёмец уздрыгнуў ад нечаканасці, але выгляду не падаў, што спалохаўся. Абцёр перамёрзлай асакой касу і падышоў да вяскоўца. Замест прывітання адказаў таксама пытаннем:

— А ты чаго тут ходзіш? Вечар жа ўжо, цёмна...

— Ды, — пачаў было Піліп, але ў час апамятаўся, — вырашыў гаць невялікую зрабіць.

— Навошта яна табе тут?

— Зраблю гаць, пастаўлю нераты, а ў іх уюноў наб'ецца, што хоць ты поўныя мяхі насыпай. Яды лепшай не прыдумаеш на зіму. Вось і капор з сабой ад самага дому цягну, каб па́лі забіваць, а ля іх голле масціць-уладкоўваць.

— Кажаш, наедуха смачная?

— Яшчэ якая...

— А я і не чуў.

— Яно і не дзіўна. Таму вечарам і прыйшоў, каб ніхто з вяскоўцаў не здагадаўся, бо тады ж не дапрэшся, — змікіціў Піліп.

— Хітра прыдумаў. Слухай, чалавеча, а давай мы так дамовімся... Давай мне капор і нікому болей не гавары, што так лёгка можна ўюноў налавіць, а я табе за гэта залатовак поўныя кішэні насыплю. Згодзен?

— Згода.

Кінуў капор на снег Піліп, кішэні падставіў ды глядзіцьлюбуецца, як туды залацістыя залатоўкі падаюць-звіняць. Ледзьве сунуўся дамоў, ажно упрэў, бо золата яно ж цяжкае. Дачакаўся раніцы — і да карчмы. А там мужчыны ўжо яго чакаюць.

— Глядзіце, — яшчэ здалёк пачаў вясковец, — што я на вашым касцы за просты капор зарабіў, — і руку глыбока ў кішэню засунуў.

Людзі да яго. Цікава ж глянуць, чым заплаціў незнаё-

мец. Піліп раскрыў далонь, а там... конскія разапрэлыя лепяхі. Выбухнуў такі рогат, што, здавалася, паветра затрэслася. А нехта яшчэ і гукнуў:

— Ну і капор з капоранкі!

Так наша Капоранка і сталася.

## МАРЫТОН

Пасяліўся тут некалі на беразе возера багаты пан. Дзіўны чалавек быў. Іншыя памешчыкі злосныя, бязлітасныя былі, стараліся абадраць сялян, як ліпку, а гэты не, даваў жыць вяскоўцам.

Зайздросцілі тубыльцам вяскоўцы з іншых мясцін.

— Як жа гэта вам так пашанцавала?

— Бог, відаць, нам такога пана паслаў.

— Сапраўды, толькі ён такое можа ўчыніць.

— Мы і дзякуем Усявышняму, праўда, і памешчыка не забываем. Мы да яго з ласкаю — ён да нас са шчырасцю. Так і ладзімся.

— Дык ён жа і не крычыць. Мы колькі прабылі, а ён ўсё, пасмейваючыся, да вас звяртаецца. Наш жа б'ецца на кожным кроку, ды яшчэ і слугам сваім загадвае такое ж рабіць.

— Не, наш ніколі нікога не біў і біць не даваў. Калі надта на каго ўжо засярдуе, то кажа, каб той дамоў ішоў і толькі наступным днём на вочы з'явіўся, бо не хоча брыдкіх слоў пры ўсіх казаць. Залаты чалавек.

— Пан панам, а дачка ў яго яшчэ лепшая. Мала таго, што прыгожая, як тая веснавая раніца. У яе і характар залаты. Уся ў маці нябожчыцу пайшла.

— Дык і дачка з вас не здзекуецца?

— Якое там здзекуецца? Яна часта разам з нашымі маладзіцамі ды дзяўчатамі ў полі працуе.

— Не хапае ў панскім палацы?

— У галовах вашых не хапае. Усё ў іх у палацы ёсць. Справа ў тым, што сама яна да працы цягнецца, не адмаўляецца ад сяброўства з простымі людзьмі.

— Быць такога не можа.

— Можа, бо ў нас ёсць. Вось каб якое свята ці прысвятак, дык яшчэ пабачылі б, як паненка наша Марыя сялянскія песні спявае, танцы скача, як яна нашых хлопцаў чубіць. За яе здароўе моліцца кожны вясковец, бо калі ў нас што благое здараецца, то і яна дапамагае, не адварочваецца.

— Бачыш ты...
— Марыя найбольш з Васілём сябруе, сынам нашага каваля.
— Паненка ды з сялянскім сынам? А бацька?
— Што бацька?
— Ведае пра гэта?
— Калі мы ведаем, то і бацька.
— І нічога не робіць?
— А што ён павінен рабіць?
— Наш бы ў рэкруты бедалагу аддаў. Загадаў бы бізунамі да смерці забіць. Ды і паненка наша з мужыцкім сынам ніколі разам не стала б.
— То ваша, а гэта — наша. Наш пан толькі пасмейваецца ды гамоніць, што ўнукі здаровыя будуць. Яно і сапраўды так, калі пабяруцца, бо паненка не малая ростам, а Васіль — што той дуб. Высачэнны, здаравенны.
— І што, пан дазволіць ім пабрацца?
— Ён і сам дачку прыспешыў бы, ды не прывык у яе справы ўмешвацца.

Так і жылі людзі шчасліва ды ў дастатку з добрым панам і з ягонай дачкой Марыяй. Але здарылася гісторыя, якая ледзьве не прывяла да трагедыі. Атрымалася ўсё наступным чынам.

Аднаго разу памешчык нечага захадзіўся ў палацы, а дачка ў яго пытаецца:
— Што такое, тата?
— Ды рыбкі свежай захацелася.
— То давай я збегаю да Уладака-рыбака, ён наловіць.
— Не. Я сам хачу налавіць.
— Сам? То давай возьмем вуды, човен Уладакоў, паплывём на глыбейшую мясціну нашага возера, там і паловім.
— А што, можна і так. Толькі давай паснедаем.
Перакусілі, сабраліся — і на возера. Дзяўчына, праўда, звярнулася было да бацькі:
— Трэба Васіля папярэдзіць, каб ведаў, дзе мы.
— Ужо і кроку не ступіш без свайго каваля? — схаваў усмешку ў вусы памешчык.
— Скажаш, тата, — засаромелася паненка і пайшла да возера, не збегала да каваля.
Як пазней аказалася, дарэмна гэтага не зрабіла.
Прыйшлі яны да возера, тут пан і гаворыць:
— Давай лепей з берага павудзім. Хапае рыбы і тут.
Дачка заўпарцілася:

— Тата, мы ж дамаўляліся, што далей ад берага, на сярэдзіну паплывём.

— Ат, пхацца на вёслах супраць ветру. Давай тут.

— Не хочаш, то я адна паплыву.

— Глядзі, калі ёсць ахвота рукі стамляць.

Марыя села ў човен і адпіхнулася ад берага. А пан забраўся пад куст і неўзабаве ўжо соладка спаў.

Дзяўчына тым часам спрытна вудзіла рыбу — клявала вельмі добра — і не заўважыла, як усхадзіўся вецер. Апамяталася, калі ўсхадзіліся хвалі і човен пачало залiваць вадой, а потым і перавярнула. Марыя, хоць і добра плавала, але перапужалася і пачала зваць на дапамогу.

Крык пачулі пастушкі на беразе і забегалі, гарлаючы:

— Марыя тоне! Марыя тоне!

Усхапіўся пан і давай плакаць ды прасіць:

— Дапамажыце хто-небудзь! Выратуйце дачушку!

Аднекуль узяўся Васіль і пагнаў на сярэдзіну возера другі човен. Памешчык, гледзячы, як пад магутнымі ўдарамі вясла стралой ляцеў човен, набліжаючыся да ягонай дачкі, шаптаў:

— Выратуй, усё вам аддам. Усё.

Каваль прыспеў своечасова, ўратаваў Марыю. Вылезлі яны на бераг, абняўшыся, памешчык заплакаў і паўтарыў:

— Усё вам аддаю. Усё толькі вам.

Як сказаў — так і зрабіў. Усё маладым перадаў, а сам пры іх век дажываў. Назва ж нашай вёскі Марытон з тых слоў пайшла: «Марыя тоне».



# БУДА-КАШАЛЁВА

Было тут некалі непралазнае месца, глухое, змрочнае. Не надта людзі імкнуліся ездзіць ды хадзіць праз яго — мала што ў дарозе здаралася. А тым болей пагаворвалі, што тут часта рабаўнікі нападалі, забівалі нявінных ахвяр, калечылі, рабавалі да апошняй капейкі. Акрамя таго, неўзабаве папаўзлі чуткі, адна жахлівей за другую: спачатку цэлы купецкі абоз знік, нібы скрозь зямлю праваліўся, праз некалькі тыдняў перабілі даволі вялікі атрад, які быў пасланы шукаць гандляроў. Цяпер ужо гаманілі сяляне, азіраючыся па баках:

— Хто ж мог на такое асмеліцца? Відаць, сілай немалой валодае, калі такі абоз знішчылі ды дружыннікаў перабілі.

— Ведама.

— Хутка страшна будзе і ад хаціны адысціся.

— Яно і зараз страшна. Ледзьве прыцямнее — і зачыняйся.

— Каб жа, браткі, тое, што зачыняемся, ды дапамагала. Прыспее час — і ў хату ўлезуць, і дазволу не спытаюць. Такія вось справы.

— Гавораць, што рабаўнікі гэта ўсё здзяйсняюць.

— Канешне, яны, ніхто ж болей не будзе хавацца ў гушчары, і людзей сумленны чалавек біць дарма не стане.

— Колькі ахвяр адразу...

— Сапраўды, раней вясковец-другі за год прападалі, а тут...

— Сілу, мабыць, адчулі, злыдні.

— Цішэй ты. І кустоўе вушы мае.

— Хоць бы княжацкім людзям удалося схапіць бандытаў, тады адразу ўсё супакоілася б.

— Каб жа такое здарылася. Другі ўжо атрад, значна мацнейшы за першы, разбойнікаў шукае, ды ніяк на след не патрапіць.

— Пайшлі, хлопцы, па хатах, ды гаспадарку да змяркання дагледзім.

Сяляне моўчкі разыходзіліся па падворках, пільна ўглядаючыся ў кустоўе, якое цеснай і высокай сцяной акружыла паселішча.

Так прайшоў месяц, а можа, і болей крыху. І ўсё ж рабаўнікі аб'явіліся і ў гэтай вёсцы. Здарылася ўсё наступным чынам.

Адзін з вяскоўцаў аддаваў замуж дачку за хлопца з суседняга паселішча. Падрыхтаваліся, паклікалі гасцей і сталі чакаць, калі малады з сябрамі прыедзе яе забіраць. Спявалі, радаваліся, шчаслівай долі дзяўчыне жадалі, а тая ў адказ горкімі слязьмі залівалася. Супакойвала яе матуля:

— Не плач, дачушка. Такая ўжо наша жаночая доля. Расцеш з бацькамі, а потым у чужую сям'ю аддаюць, і як яно там далей складзецца — ніхто не ведае.

— Я і не хачу плакаць, слёзы самі коцяцца.

— Перастань, родненькая. Вытры тварык ды ўсміхніся ўсім. Паслухай, паглядзі, як усё хораша навокал.

— Нешта ў мяне, мама, на сэрцы цяжка. Нейкае дурное прадчуванне.

— Няхай Бог крые.

— І я так думаю, і жагналася на абразы, а ўсё роўна трывога нарастае.

— Відаць, дачушка, таму, што сёння ты пакінеш нашу хаціну. Але не плач па гэтым. Будзеш да нас у госці з мужам прыходзіць. Потым дзеці з'явяцца, іх да нас прыводзіць будзеш. Усё наладзіцца.

— Я і сама гэта ведаю, але...

— Супакойся, дачушка, паслухай лепей, якія песні ды як хораша твае сяброўкі спяваюць.

— Так, мама, яны мяне аддаюць, а самі дома застаюцца. Ім лягчэй.

— Пройдзе год-другі — і іх пазабіраюць, а то і раней. Пойдуць і яны, хто бліжэй, а хто далей. Не застануцца дома сядзець, бо жыццё гэтага патрабуе. Мяне хвалюе іншае — нешта доўга нашага маладога з сябрамі няма.

— І мяне таксама.

— Трэба бацькі запытацца, — прамовіла гаспадыня і пакіравала да мужа.

Той весела падліваў гасцям у чаркі і запрашаў усіх выпіць за здароўе ды за будучае шчасце маладой сям'і. Адмовіцца выпіць за такое азначала пакрыўдзіць людзей, таму ўсе выпівалі. Некаторыя ўжо добра назюзюкаліся, ды вяселле яно і ёсць вяселле, каб нехта на ім напіўся.

— Слухай, чалавеча, — звярнулася гаспадыня да гаспадара, — нешта нашага маладога доўга няма.

Той хітнуў галавой:

— Здаецца ж, блізка зусім. Добрым коням гадзіну якую, а то і меней дабірацца.

— Каб чаго не здарылася... Вунь і дачка ўбіваецца, кажа, што ёй дрэнныя думкі ў галаву лезуць.

Гаспадар ускіпеў:

— Вось як вазьму лейцы, то перастануць благія думкі ў галовы вашы дурныя лезці! Бачыш, пра што яны гаворку вядуць?! Глядзіце мне!

— Чаго ты заводзішся? Я ж нічога благога не сказала.

— Лепей за гасцямі глядзі, а дачка паплача і сціхне. Сёння ў яе дзень такі. Зараз павінны ўжо госці ад маладога прыехаць. Давай, ідзі.

Гаспадыня крыху супакоілася і пайшла да людзей, а дачка па-ранейшаму выцірала слёзы і ўсё паглядвала ў акно. Неўзабаве ўсюды іхныя малыя заверашчалі на розныя галасы:

— Едзе! Малады едзе! З дружкамі едзе!

— Вось, а вы перажывалі, — бомкнуў гаспадар і тут жа прыкрыкнуў: — Маці, дзе ты? Пайшлі сустракаць да парога!

Але, як аказалася, сустракаць не трэба было. Госці, парушаючы спрадвечную традыцыю, самі перліся ў хату. Тыя, што сядзелі за сталамі, былі ў недаўменні: як можна так дзейнічаць? Гэта ж потым на дабрабыце сям'і скажацца.

Пад магутным ударам расчыніліся дзверы, і на парозе паўстаў звераватага выгляду чалавек. Ён быў такі здаравенны і высокі, што ўгінаўся, каб галавой не зачапіцца за нізкую столь.

— Дзе тут мая будучая жонка? — прагуў незнаёмец звярыным басам.

Усіх ажно скаланула ад такога пытання.

— Дзе, я пытаюся?! — мацней зароў здаравяка.

Тут прыйшоў у сябе гаспадар:

— А ты хто такі? Чаго ты разверашчаўся? У нас вяселле, і мы жаніха чакаем, а не цябе!

Незнаёмец моўчкі што было сілы грохнуў гаспадара па галаве, і той адляцеў, моцна стукнуўшыся галавой аб печ і страціўшы прытомнасць. Загаласіла гаспадыня. Пачалі ўставаць іншыя мужчыны, збіраючыся ўступіць у бойку [redacted] нахабнікам, ды да гэтага не дайшло.

— Што, біцца са мной хочаце?

— Чаму б і не?

— А ці ведаеце вы, хто я такі?

— Нас гэта не цікавіць.

— Ну дык вось. Каб не надта дралі насы, скажу: мяне завуць Буда.

— Падобны, боўдзіла! Таўсценны ды здаравенны, што будан.

— Весела вам? Зараз скажу вам нешта, то адразу смяяцца перастанеце.

— Што ж гэта ты нам такое паведаміш?

— А тое, што ваш жаніх болей сюды не прыедзе, бо яго і ягоных дружкаў няма сярод жывых. Усе яны ў канаве валяюцца.

— У якой канаве?

— У той, у якую [redacted] і мае людзі іх пакідалі.

— Дык ты бандыт?

— Ага, — задаволена хіснуў калматай галавой незнаёмец і гучна зарагатаў.

Народ маўчаў, не разумеючы, жарт гэта ці праўда. І тут у двары нехта дзікім голасам закрычаў:

— Забілі! Забілі!

Людзі паспрабавалі было кінуцца да дзвярэй, але там глыбай узвышаўся Буда.

— Куды гэта?! Сядзіце на месцах, не тое і вам будзе апошняе трызненне. Я жартую.

Пару чалавек паспрабавалі было рвануцца ў вокны, але знадворку загрукалі ў сцяну і закрычалі:

— Сядзіце! Сядзіце!

Праз імгненне адно з вокнаў расчынілася, у яго ледзьве прасунулася не меншая, чым у Буды, галава і раўнула:

— Буда, мой брат, у хаце, а [redacted] — Кошаль! Аддавайце жонку майго брата! Хутчэй! Бо і нам хочацца на вяселлі паскакаць!

— Ага! — прагуў ад дзвярэй Буда. — Ужо ў жываце бурчыць! Запрашайце нас за сталы! А не хочаце, то і самі сядзем!

На вуліцы загукала шмат галасоў:

— За сталы нас! За сталы! Піць-есці жадаем!

Гаспадыня, трымаючы на каленях галаву мужа, сурова прамовіла:

— Няма вам месца сярод нас, злыдні! У нас свята, а вы яго ў гора абярнулі! Прэч адсюль!

— Ды яна, браткі, намі яшчэ і камандуе! — здзіўлена зароў Кошаль. — Давайце ўсе ў хату, няма чаго з імі цырымоніцца! Маладзіц ды дзяўчат па кутах валачыце, самі ведаеце, што з імі рабіць, [redacted] мужчын, якія паспрабуюць супраціўіцца, забівайце на месцы. Наперад!

Неўзабаве хата напоўнілася крыкамі, палілася кроў, бо мужчыны, ведама, паспрабавалі ўступіцца за гонар сваіх жонак і дачок. Ды сіла крышыла сілу.

Буда ўхапіў маладую і павалок яе за печ. Яна крычала, адбівалася, прасілася, а ён толькі гырчэў:

— Зараз, зараз даведаешся, які я мужчына!

Апошні раз закрычала маладая ў абдымках бандыта і страціла прытомнасць. Апрытомнела, калі ў хаціне ўжо гучалі дзікія песні. Выглянула паціху з-за печы і ледзьве зноў не ўпала на падушку: разбойнікі пілі, гарлалі песні, а пад нагамі валяліся забітыя.

— Мама, — прашаптала бедалага.

Толькі не адгукнулася матуля. Ды і не магла яна болей адгукнуцца, бо ляжала нежывая разам з мужам.

— Што, ачомалася? — раздалося над галавой.

Бедалага ажно ўздрыгнула.

— Не палохайся, цяпер ты мая сапраўдная жонка. Мая, і нічыя болей. Гэта гавару [redacted] — Буда! Усе чулі?

— Усе, — адгукнуліся п'яныя галасы, і па гэтым няцяжка было здагадацца, хто ў бандзе галоўны.

Нават Кошаль роў разам з усімі. Баяліся Буды, кожны хацеў жыць. А жыць у бандзе было не так ужо і дрэнна: грошы не пераводзіліся, працаваць ні на каго не трэба было, адно толькі — забівай.

— Пойдзеш са мной, — загадаў Буда.

— Куды?

— Там пабачыш.

— Але ж...

— Ніякіх адгаворак. Я так сказаў.

— Ты ўзяў мяне сілай, можаш забіць, але я нікуды не пайду.

— Пойдзеш. І не спрабуй спрачацца, бо гэта для цябе дрэнна скончыцца.

— Мне ўсё роўна.

— Не ўсё роўна. То ты з адным мной у ложку была, а то, калі не пагодзішся, са ўсімі спаць будзеш. Для ўсіх станеш жонкай.

— Злыдзень.

— Гэта як сказаць.

— Як ні гавары, а ты злыдзень і забойца нявінных людзей. Адальюцца некалі і табе іхнія слёзы.

— Пакуль мне адальюцца — з іх цэлае возера назбіраецца. Як хачу, так і жыву, і ніякіх законаў ды паноў над сабой не прызнаю.

— У крыві ты ўвесь, — прашаптала дзяўчына.

— Затое золата, багацця ў мяне гэтулькі, колькі ні ў воднага князя-караля няма.

— Хіба толькі ў золаце шчасце?

— Толькі ў ім. У каго яно ёсць, той і шчаслівы, той і загадвае, той і камандуе.

— Эх ты...

Буду гэта раззлавала, і ён закамандаваў сваім хаўруснікам:

— Хопіць піць! Час збірацца дамоў! Пайшлі, а то да світанку тут сядзець будзеце!

Разбойнікі паспрабавалі было ўпрасіць атамана:

— Яшчэ хоць гадзінку пасядзець бы, па пару кілішкаў выпіць. Ці так часта мы на вяселлях гуляем?..

Буда не хацеў і слухаць. Тады голас падаў Кошаль:

— Братка, дазволь людзям павесяліцца. Няхай вып'юць, паспяваюць. Тут жа на дзесятак вёрст жывых няма, няма нам каго баяцца. Чаго ты так захадзіўся? Лепей паляжы з маладой жонкай, а мы табе песню праспяваем.

Разбойнікі зарагаталі, задаволеныя жартам Кошаля. Ды атаман быў непрыступны, усё роўна загадаў, праўда, значна памякчэлым голасам:

— Пайшлі, хлопцы! Каб нас ніхто не заўважыў. Самі ж ведаеце, сцерагчыся трэба. Кожны жыць хоча.

Згадка пра жыццё падзейнічала на бандытаў, нібы ледзяная вада. Яны заварушыліся і пачалі выбірацца з хаціны.

— Жонку маю нясіце! Глядзіце, каб волас з яе галавы не ўпаў, бо са мной справу мець будзеце!

Так і зажыла вясковая дзяўчына ў бандыцкім лагеры. Сумна ёй было, агідна, страшна. Асабліва жахалася, калі прыцягвалі разбойнікі яшчэ жывых людзей і пачыналі з іх здзекавацца. Вельмі баялася, што няшчасныя заўважаць

яе, падумаюць, нібыта і яна заадно з імі. Пачала задумвацца над тым, як дапамагчы сялянам, як звесці са свету бандытаў. І прыдумала. Аднаго разу звярнулася да Буды:

— Хачу табе нешта сказаць.

— То гавары.

— Твой брат прыстае да мяне, падмаўляе, каб я і з ім лашчылася.

— Што?!

— Тое, што чуў. Хоча, каб я з ім таксама спала.

— Ды я яго!..

Выскачыў Буда з будыніны і да Кошаля. Ухапіліся яны біцца. І так страшна лупіліся, што паплечнікі паўцякалі, куды вочы глядзелі. Дзень біліся браты, ноч змагаліся, а на раніцу абодва, зраненыя, збітыя, змарнелыя, на зямлю пападалі і памерлі.

Вось так дзяўчына хітрасцю людзей тутэйшых ад далейшых бед вызваліла. А месца тое пазней назвалі Буда і Кашалёў. Ды так і засталося, толькі ў адно злілося.

## ДЗЕДАЎ КУРГАН

Гавораць, што ўсё гэта здарылася надзвычай даўно — у сівыя стагоддзі, калі паны лютыя людзьмі валодалі, распараджаліся імі, як хацелі: прыніжалі, вынішчалі бязлітасна. І не было каму паскардзіцца, бо навокал такія ж злыдні сядзелі.

Так і жылі. Дзень вяскоўцы працавалі на пана, ■ ноччу на сябе шчыравалі. Ды ці доўга так вытрымаеш? Неўзабаве сілы не стане, і ўсё на тым — памрэ гаспадар, а жонка адна з дзецьмі не зможа супрацьстаяць цяжкаму жыццю. Так і выраслі крыжы на могілках, завальваліся на бок, а побач хавалі і хавалі няшчасных ахвяр, ставіліся новыя крыжы.

Калі каму і ўдавалася неяк ад смерці ўратавацца, то ўсё роўна цяжка даводзілася: то неўраджай, то пошасць якая ўваб'ецца, то хвароба кароў ды коней паваліць, ■ то ваўкі на дапамогу чорным сілам прыйдуць. Пакутавалі сяляне, але круціліся неяк ды маўчалі, на лепшае спадзяваліся.

У аднаго селяніна была кароўка і конік, і сям'я невялікая — жонка ды трое дзетак. Лічыў ён сябе даволі вязучым, ды яму і на самай справе пашанцавала. У чым? А ў тым, што клапаціліся адзін аб адным, дружна жылі.

Вось неяк прыйшоў гаспадар з панскай працы і кажа:

— Яшчэ дзень прайшоў... Зараз перакушу і на нашу ніўку паеду.

— Адпачні хоць сёння. Там жа ў нас чысціня і парадак. Выраблена ўсё на зайздрасць. Паспі лепей, адпачні. Заўтра ж зноў трэба на паншчыну.

— Так, але на ніўку з'езджу.

— Які ты ўпарты.

— Гэта ж не панскае — сваё.

— Шкада мне цябе. Гляджу, як сам рвешся...

— Ты ж таксама не надта беражэшся.

— Даводзіцца і мне круціцца. Не сядзець жа поседам за тваёй спінай.

— Ведаю, як ты сядзіш. Таксама працуеш не разгінаючыся.

Пагаманілі так, і гаспадар прамовіў:

— Добра, жоначка, вы кладзіцеся спаць, [redacted] праеду на ніўку. Там працы неадкладнай няма, а ўсё ж пагляджу, пахаджу. Потым коніка на папас выпушчу і сам адпачну. Раніцай дамоў перакусіць заеду, бо давядзецца ж на панскае поле перціся. Хоць бы дзень які даў адпачыць ды, як людзям, на сваё паглядзець-парадавацца.

— Не дачакаемся, мабыць, мы такога дня, чалавеча, — азвалася гаспадыня.

— То кладзіцеся, мяне не чакайце.

Паехаў чалавек на поле. Зрабіў сваю справу, якую збіраўся, і на папас выбраўся. Распаліў вогнішча і задумаўся, седзячы ля яго. Ажно чуе — нехта да яго звяртаецца:

— Гаспадарыку, ці можна? Ці можна ля цябе пасядзець?

Крутнуў вясковец галавой спрасонку, ніяк зразумець не можа, хто з ім гамоніць. Пакруціўся і ўбачыў старога, які стаяў за спінай.

— Сядай, бацька, сядай. Месца мне не шкада, [redacted] вогнішча ўсім аднолькава свеціць. Пагрэйся.

— Вось дзякуй, — стрымана прамовіў той, [redacted] потым дадаў: — усім то свеціць — гэта праўда, але не аднолькава...

Селянін падумаў і пагадзіўся:

— І на самай справе так. Часта і свеціць, ды не грэе.

— Менавіта так і здараецца.

— Адкуль ты ідзеш, бацька?

— А хто ж яго, чалавеча, ведае. Калі сказаць дакладна, то і не ведаю, бо так атрымліваецца, што не ведаю, адкуль іду і куды кірую — таксама.

— Зараз многія не ведаюць, куды заўтра пойдуць...

— Пра што ты гэта, сынку?

— Ды ўсё пра тое ж, пра жыццё наша.

— Жыццё нялёгкае — гэта праўда. Куды ні глянеш — усюды стогны, праклёны, плач...

— Паміраюць, гібеюць, жыццё канчаюць самагубствам, — за старога працягнуў вясковец.

— Хаджу я па свеце, добры чалавек, і ўсюды адно і тое ж: няма нашаму брату дастойнага жыцця. Як ні круціцца, а чакае адзінае выйсце — магіла.

— Каго, надарванага ды збалелага, раней, а каго — крыху пазней.

— Народзіцца дзіця — па ім галосяць, як па нябожчыку. Памрэ чалавек — за труной скачуць ды песні пяюць. Значыцца, не ад лёгкай жыткі такое вырабляюць. Як селяніну ад таго ліха схавацца?..

— А дзе ты ад яго прыхінешся? Яно ўсюды цябе напаткае.

— І гэта праўда.

— Эх, — выдыхнуў гаспадар. — Вось так пагамоніш, дык толькі душу развярэдзіш, потым заснуць немагчыма. Добра — мне, жонцы, [redacted] дзецям за што такая доля ад самага нараджэння? Яны яшчэ размаўляць не навучыліся, [redacted] ўжо, у пераважнай большасці, у магілу зазірнулі. І што рабіць, як круціцца далей? Вось так выеду ў поле ноччу, і калі працую, то думкі не так грызуць, а калі сяду адпачыць, дык...

— Яно і зразумела.

— Раскажы, бацька, як там, у іншых мясцінах, людзі жывуць?

— І там блага.

— І нідзе нічога радаснага няма?

Стары маўкліва поркаўся галінкай у вогнішчы. Пра нешта думаў-разважаў, а потым ускінуў позірк на гаспадара:

— Ёсць і новае.

— Што?

— Людзі там разам трымацца пачынаюць. Паноў б'юць, палохаюць, прымушаюць да сябе па-іншаму адносіцца.

— Ты бачыш... І не баяцца?

— Там наадварот атрымліваецца: памешчыкі пачынаюць баяцца.

— І нешта пераменьваецца?

— Ды днём на сябе працуюць, а не ноччу.

— І гэта няблага.

Прагаманілі яны ажно да самае раніцы і разышліся. А

праз дзень дачуўся вясковец, што нейкага старога іхні памешчык загадаў жывым закапаць і над ім курган насыпаць. Зрабіў такое злачынства за тое, што падарожны падгаворваў людзей супраць паноў выступаць. Так той курган і назвалі — Дзедаў Курган, бо пад ім ляжаў стары, які хацеў дапамагчы сялянам на лепшае жыццё выбіцца.

## ЗІМНІК

Некалькі стагоддзяў таму ўсё гэта здарылася, кажуць, тады, калі вайна са шведамі грымела. Гінулі людзі, цякла кроў ракой. Каб ўратавацца, хаваліся, хто дзе мог, і найболей у лясы ўцякалі.

Так і на той раз здарылася. Калі па праўдзе, то пра чужынцаў ведалі зараней, але заўчасна не хацелі ўцякаць у пушчу. Старыя людзі падгаворвалі маладзейшых:

— Трэба ісці, трэба.

— Навошта так рана?

— Каб позна не было.

— Але ж навокал ціха.

— Не надта каб і ціха. Вунь і ўчора прыходзілі ды гаманілі, што непадалёку, у лесе, нейкіх незнаёмых людзей бачылі.

— Туды, дзе мы пастаянна хаваемся, ніякі чужы нос свой не ўсуне. Каб туды дабрацца, трэба мясціны добра ведаць.

— Усё роўна пачакаць не перашкаджала б.

— Ды мы не супраць, але не трэба надта спяшацца.

— Трэба, дзеткі, трэба. Лепей зараней напалохацца, чым у апошнюю хвіліну, тады нават задумацца перад смерцю не паспееш.

— Няхай бы яно летам ці вясной было, тады і ісці не так страшна.

— Ага, а то восень на двары. Не сёння-заўтра дажджы пойдуць. А то, чаго добрага, і маразы ўдараць. Як прыцісне ў лесе, то хоць ты ваўкамі вый будзе.

— Ведама што, там жа зараз ні вогнішчаў не раскладзеш, ні будынін стаўляць не будзеш. Пачнеш паліць ці стукаць — тут чужынцы і з'явяцца.

— Нічога, дзеткі, нічога, што ў холадзе, абы жывыя.

— Угу, перамерзнем, перахварэем, то каму такое выратаванне патрэбна будзе?

— Вось да чаго дайшло. Ужо і пра дзяцей уласных не думаеце, адно — каб азадкі свае не памарозіць.

Невядома, чым бы ўсё скончылася, каб не мясцовы каваль. Ён быў чалавекам сярэдняга ўзросту, заўсёды свой розум меў, спачатку ўважліва слухаў, а потым ужо нешта рабіў. Вось гэты селянін і астудзіў гарачыя галовы:

— Чаго тут спрачацца? Памаўчыце лепей.

— Можа, скажаш, як нам быць? — змікіціў нехта з маладзейшых.

— Ага, скажу, а калі слова не дапаможа, то і пакажу.

Навокал зарагаталі, бо ведалі, які цяжкі кулак у каваля.

— Старэйшыя праўду гавораць. Збіраць пажыткі трэба ды ў лес падавацца, пакуль нас тут бяда не заспела.

— І ты за тое ж самае?

— Лепей у холадзе выжыць, чым у цяпле памерці. Каб жа мы толькі за ўласныя жыцці адказвалі, а то ж і за дзяцей сваіх, і за родных.

Усталявалася цішыня, якую парушыў нейчы рашучы голас:

— І сапраўды, людзі, трэба ісці, каб потым локці не кусаць.

— То пайшлі, мужчыны, — азваўся нехта са старэйшых, — няма чаго дарма спрачацца.

Людзі разыходзіліся, нібы прыбітыя горам. Ды гэта і зразумела. Адбудоўваліся, хаціны, хлявы, гумны стаўлялі. Спадзяваліся, што на гэты раз спакойна жыць будуць ажно да таго часу, пакуль будынкі самі ад старасці не рассыплюцца. А тут... Пойдзеш у лес — хто тут глядзець будзе? Нарвуцца якія чужынцы ці ліхія людзі, адразу ўсё папаляць, вынішчаць — вяртацца не будзе куды.

Як бы там ні было, але вырашылі з самае раніцы ў пушчу падавацца.

І добра атрымалася. Дружна рушылі з месца. Жывёлу гналі перад сабой, на вазы хатняе прычындалле паскідалі, малых дзяцей пасадзілі, а ззаду ішлі ўзброеныя абы-чым мужчыны і ўвесь час назад акідваліся, гаманілі прыцішана паміж сабой:

— Хоць бы ўсё ціха было.

— Назад каб хутчэй вярнуцца.

— Вось так усё жыццё...

— Нічога, галоўнае — каб жывымі засталіся, а будавацца нам не ўпершыню.

— Каб якога другога ліха не надарылася, а гэта не самае страшнае. Будзем мы жывы — будуць і хаты стаяць, а не стане нас, то і хацін ніхто не пабудуе.

— І то праўда.

— Трэба хутчэй рухацца, каб глыбей у лес увайсці.
— Чаго ўжо ты так?
— Ды нешта, як у плечы мяне хто штурхае...
— І на самай справе трэба людзей падагнаць. Мала што можа здарыцца. А раптам наўздагон кінуцца?
Прайшлі нейкую сотню крокаў моўчкі, і тут нехта ўсклікнуў:
— Глядзіце!
Усе скіравалі позіркі назад: з-за высокіх, густых верхавін дрэў уздымаліся чорныя клубы дыму.
— Гарыць... Наша вёска гарыць...
— Уяўляеце, што магло быць, калі б мы яшчэ нейкую гадзіну прамарудзілі?
— Смылелі б зараз разам з хатамі.
— Ці ў палон валаклі б...
— А пабітых колькі было б...
— Дзякуй старым, што настоялі. Усіх нас уратавалі.
— І кавалю таксама дзякуй. Ён усю справу вырашыў, а так усё спрачаліся б...
Цяпер ужо людзей не трэба было падганяць. Яны шпарка крочылі, прабіваючыся на высокі груд, які адзінока ўзвышаўся сярод балота і да якога далёка не кожны местачковец мог знайсці дарогу, бо балота і зімой, нават у самыя лютыя маразы, не замярзала. Жывёла і тая нібы разумела, ішла моўчкі, не раўла.
Ішлі доўга, амаль да самага вечара. Адпачывалі ўсяго адзін раз, ды і то нядоўга: баяліся, што кінуцца за імі ў пагоню. Пад вечар прыйшлі на той груд. Старэйшы з вясковцаў, які вёў іх, закамандаваў:
— Вось тут і будзем жыць, тут зімнік сабе і пабудуем. Не перажывайце надта — не вымерзнем.
Як ён сказаў — зімнік, так і запомнілі ўсе, так і назвалі сваё новае паселішча, так яно і дайшло да нашых дзён.

## ІВАНАЎКА

Некалі людзі родам жылі: мелі агульную гаспадарку, будыніны таксама стаўлялі ўпрытык, каб чужыя бачылі, што тут адзін род жыве. Быў і галава роду — яго слова было для ўсіх законам. Перад тым як распачаць нейкую важную справу, збіраліся зараней, за пару дзён, раіліся. Прычым спачатку мужчыны, потым жанчыны. Але апошняе слова ўсё роўна было за старэйшым.

Так і ў тубыльцаў было. Усё ў іх ішло добра: працавалі, адпачывалі, весяліліся. За старэйшага ў іх быў вельмі стары чалавек — Іван. Вось неяк завёў ён гаворку са сваімі родзічамі:

— Давайце думаць, каго пасля мяне прызначыце старэйшым.

— Чаго гэта так? — зніякавелі сяляне.

— Трэба, каб і потым усё добра ў вас ішло. Я не вечны.

— Не, вы пра гэта і не гаманіце. Які гэта ўзрост?

— Не, браткі, гады свае бяруць. Трэба ўжо да продкаў дарогу шукаць.

— Навошта вы так?

— Смерці, каханенькія, не трэба палохацца. Яна прыходзіць тады, калі лічыць, што час чалавека ўжо выйшаў на гэтым свеце і трэба збірацца да багоў.

— Няўжо вам на гэтым свеце дрэнна?

— Добра, вельмі добра, але стаміўся я, адпачыць хочацца.

— А вы не працуйце з намі. Толькі падказвайце, што ды як, астатняе мы самі зробім. Сядзіце сабе з малымі і ім казкі распавядайце.

— Гэта ўжо не ад мяне залежыць. Вось стукне той час, і ўсё, нават сабрацца не паспееш. А [redacted] хачу зараней ведаць, хто на маё месца стане, ці добры гэта гаспадар будзе. Развітацца па-добраму жадаю. Навошта паміраць нечакана?

Але старэйшына, відаць, усё ж адчуваў блізкую смерць. Яна напаткала яго праз нейкі тыдзень. А здарылася ўсё наступным чынам.

Пад вечар прыбеглі пастухі і пачалі скардзіцца:

— Бык ашалеў! Ні падысці да яго, ні прэч адагнаць. Жывёлы многа пакалечыць можа!

— Трэба да старэйшыны ісці. Калі ён не справіцца, то ніхто болей быку рады не дасць.

Прыйшлі, расказалі. Той, не доўга думаючы, узяў торбачку, паклаў кавалачак хлеба і пакіраваў на пашу:

— Пайшлі, пабачым, дзе той бык і чаго ён так расхадзіўся?

А справа ў тым, што старэйшына добра замаўляць умеў — як ад гадаў ды страхаў, так і ад злякаў ды іншых хвароб.

Прыджгалі на пашу, а там каровы равуць не сваімі галасамі і навокал іх здаравенны бык носіцца. Старэйшына паціху падаўся да яго. Раз'юшаная жывёліна спынілася і, здавалася, нават супакоілася, але, калі да яе заставалася

ўсяго пару крокаў, кінулася на чалавека і ўдарыла яго сваімі магутнымі рагамі. Тут жа і сканаў знахар, нават развітацца з белым светам не паспеў.

Вельмі гаравалі людзі і вырашылі, што будуць называць сваіх сыноў у гонар памерлага, Іванамі. Як вырашылі — так і пачалі рабіць, і ў хуткім часе ў вёсцы ўсіх мужчын звалі Іванамі. Суседзі спачатку смяяліся, потым прызвычаіліся і далі назву вёсцы — Іванаўка.

## ІВОЛЬСК

Некалі жыла адна сям'я: бацька, маці і дачка. Не было ў іх болей дзяцей. Валодалі такой вузенькай палосачкай зямлі, што проста жах — адзін-другі раз ступіў і глядзі, каб на суседскае не трапіў, бо тады гэта надзвычай жорстка каралася. Менавіта з тых часоў пайшло выслоўе «межавая вайна». Біліся за межы часта. Да крыві, да смерці.

Гаспадар быў чалавекам сціплым, памяркоўным, ніколі на іншага слова благога не прамовіў. Жонка не раз яго ўшчувала:

— Як жа ты трываеш? Яны цябе з граззю мяшаюць, а ты маўчыш.

— Думаеш, калі і я стану словы ў адказ гаварыць, дык гэта дапаможа?

— Дапаможа не дапаможа, але хоць агрызніся, каб кожны на цябе рот не разяўляў. У нас вузенькая палоска, і то лезуць з абодвух бакоў. А ты маўчыш.

— Не буду я з імі сварыцца. Супакойся, чаго ты ўсхадзілася?

— Дачка ў нас расце. Ужо замуж час ісці, а мы і пасаг не сабралі, і даць за ёй нічога не зможам, бо няма чаго.

— Што-небудзь прыдумаем, — прыхіляў муж жончыну галаву да сваіх грудзей.

Так і супакойваліся ды жылі далей. А дзяўчына ў іх сапраўды была ўжо ў тым узросце, калі трэба пра замужжа думаць. Мала гэтага, прыгажуня вырасла, якіх пашукаць, ды ці знойдзеш. Дзівіліся людзі, здзіўляліся самі бацькі, у каго яна такая пайшла. Маці часта плакала, гледзячы, як дачка працуе-шчыруе. Усё нібы гарэла ў яе руках:

— Каб жа табе, дачушка, ды шчаслівая доля выпала... Каб да цябе багаты жаніх пасватаўся...

А сябравала дачка якраз-такі не з багатым, а з такім жа хлопцам, як і сама. І ў яго бацькоў небагата зямлі было,

але яны разам раслі, то і зараз не разлучаліся. Каханне не выбірае, багаты ты ці бедны. Ужо і вяскоўцы гаварылі, што гэтая пара пабярэцца, што ў хуткім часе вяселле будзе. Здаецца, і бацькі з абодвух бакоў пагаджаліся. Багаты за багатай жыве, а бедны з беднай пакутуе — так вялося спрадвеку, і гэтага звычайна ніхто не перайначваў. Дзяўчыну звалі Алеськай, а хлопца Яськам.

— Калі ўжо ты мяне за гаспадыню паклічаш, чалавеча? — жартаўліва пыталася дзяўчына ў хлопца.

— Хоць заўтра, — проста адказваў той.

— Бачыш ты на яго. А ты ў мяне спытаўся, ці пайду ■ за цябе?

— Вось зараз і запытаюся. Пойдзеш за мяне, Алеська?

— Хітры які.

— Адказвай, калі сама напрасілася.

— А вось і не скажу.

— Скажаш.

— Чаму?

— Бо кахаеш.

Пасля такога адказу абое заціхалі і сядзелі, прытуліўшыся адзін да аднаго.

— Я з бацькамі гаманіў, каб сватоў паслалі ўвосень, калі працы па гаспадарцы не будзе, — ужо сур'ёзна працягваў Яська.

— А яны?

— Згодныя. Яны ж цябе ведаюць. Ганьбы табе ніхто не дасць, тым болей мае бацькі.

— І на тым дзякуй.

— Няма за што.

І тут ужо заходзіліся абое смехам.

Час ішоў, і неўзабаве на падворак да бацькоў дзяўчыны і сапраўды прыехалі сваты. Толькі не ад Яські, а ад багатага хутаранца. Як пачула Алеська пра гэта, то сабралася збегчы з хаціны, але маці не пусціла.

— Матулька, родненькая, толькі не аддавайце мяне за гэтага хлопца, — пачала прасіцца дзяўчына.

— Чаму?

— Я Яську кахаю.

— Што тое каханне, міленькая? Выйдзеш замуж, а там яно і само сыдзе.Дзяцей гадаваць трэба, ■ карміць іх не будзе чым. Каханнем жа не накорміш.

— Толькі за нялюбага не аддавайце!

— Затое ў яго бацькі зямлі многа, жывёлы. Вам на

новую гаспадарку дасць, і зажываце прыпяваючы. Праз пару гадоў сама з сябе смяяцца будзеш, што за беднага выскачыць жадала.

— Не буду.

— Як сабе хочаш, але тут воля бацькоў галоўную ролю іграе.

— Ведаю, мамачка, таму і прашуся.

— Пабачу.

Але так гаспадыня адказала, каб супакоіць дачку. Сама ж падгаварыла мужа, і далі яны згоду аддаць Алеську за незнаёмага чалавека. Як тая ні галасіла, як ні плакала, ні ўпрошвала — не паслухаліся яе.

Згулялі вяселле і павезлі Алеську ў чужую сям'ю жыць. А там, вядома ж, чужая сям'я, чужыя законы. Як ні старайся, а ўсё роўна будзеш дрэнным, асабліва, калі з беднаты прыйшоў. Толькі і чула Алеська:

— Галадранка, на наша дабро рот разявіла! Бачыш ты на яе! Прыгожая яна! Ну і што з гэтага?! Што за табой бацькі далі? Адну спадніцу, ды і тую залатаную. Навучыліся галадранцы жыць. Свайго няма, то хоць на чужым парадуюцца ды ад'ядзяцца.

Самае галоўнае, што не было маладзіцы з кім пагаманіць, каму выплакацца. Паспрабавала было мужу нешта сказаць, а той і сам бацькоў баяўся, дык толькі гыркнуў у адказ:

— Ты, можа, хочаш, каб на цябе ўжо і слова ніхто не сказаў?! Ці не занадта распанела?!

Зразумела Алеська, куды яе аддалі. Плакала начамі, змізарнела зусім. Яе нават да бацькоў не адпускалі, хоць на адзін дзень.

— Няма чаго там рабіць, тут справы хапае!

Плакала маладзіца горкімі слязьмі і працавала, каб ніхто яе слёз не бачыў, бо яшчэ болей будуць здзекавацца. Потым, бедалага, не вытрымала. Падабрала зручную часіну, пайшла ў поле і павесілася. Знайшлі яе і там жа пахавалі, бо на могілках самагубцаў не хавалі.

Яська як даведаўся пра здарэнне, а ён тады ўжо самастойна кавальствам зарабляў, то адкупіў той кавалак зямлі, дзе яго каханая сваю смерць знайшла, і пабудаваў хаціну. На яе магілцы іва вырасла. Густая, прыгожая, танюткая, як сама Алеська. Дык людзі той хутар Івольскам назвалі, а потым назва і на цэлую вёску перайшла.

# ПАТАПАЎКА

Чалавек гэты жыў даўно, а памяць пра яго захавалася ў народзе і да нашых дзён. Справа ў тым, што дапамагаў ён людзям бескарысліва. Вылечваў ад любой хваробы, ад самай цяжкай болькі. Няхай толькі што ўскінецца, дык адразу раілі бывалыя людзі:

— Бяжы да Патапа, ён выручыць. Не было такога, каб некаму адмовіў у дапамозе. Амаль мёртвага на ногі паставіць.

І ён прыходзіў, шаптаў, жартаваў і... уважліва сачыў за паводзінамі хворага. Па гэтым ён меркаваў, як той рэагуе на замовы. А замоў Патап ведаў мноства. Калі б яго папрасілі спецыяльна пашаптаць адну за адной, то шаптаў бы, можа, з тыдзень, а можа, і болей. Ад бабулі сваёй пераняў, калі малым хлапчуком яшчэ быў. Яна яму і перадала, што людзям трэба задарма дапамагаць, грошай не браць, у адваротным выпадку сіла гаючая пачне з цела сыходзіць і неўзабаве не здольны будзеш вылечваць ад самай лёгкай хваробы, не тое што ад цяжкай.

Замову знахар вымаўляў уголас, не баяўся, што нехта пачуе, пяройме. Наадварот, сцвярджаў:

— Добрым людзям — на добрае, а ліхім — на ліхое.

Так і жыў чалавек: ні на каго зла не трымаў, ні ад каго плату не браў і, мала гэтага, імкнуўся яшчэ, каб іншыя ад яго замовам навучыліся. Найбольш на малых заглядваўся, відаць, выбіраў сярод іх найбольш здольнага, каб такому перадаць усю сваю магутную спадчыну. Сядзе ля хворага і шэпча:

«Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай пакланюся, і стань, Госпадзі, на помач. І ад Госпада Бога помач і вячэрняй зарой і добрай парой.

І на сінім моры там белы камень, на тым камяні там сядзяць тры ангелы, і ангелы нашы храніцелі. І не ўмеюць ні шыць, ні бяліць, толькі ўмеюць урокі адагнаць: і мужчынскія, і жаноцкія, і дзявоцкія, і парабоцкія, і падумныя, і пагадныя, і прастудныя, і паветраныя. І святы Мікола, раба Божага вызваляй. Тут жа вам, урокі, не хадзіць і касцей не ламіць, шчырага сэрца не знабіць. Выганяю ж я з буйнае галавы, з шчырага сэрца. І святы Ягорый, адамкні сваімі залатымі ключамі вароты, адкрый сваю залатую рызу, прыбаўляй Гасподнюю расіцу, і вадзіца-царыца, змываеш жа ты лясы, балоты, жоўтыя пяскі, змый раба Божага ад усялякага зла. Стань, Госпадзі, на помач і святая Маць Прачыстая, і святы Ягорый, закрый залатой сваёй рызай, замкні сваімі ключамі ад суха зла. З маім словам, з Божай дапамогай. Пашлі, Божа, на помач».

Потым уздыхне цяжка, нібы пасля сенакосу, і скажа, павесялеўшы:

— Ну вось, ніякія болей урокі вашаму дзіцяці не страшныя.

Гаспадары вачам і вушам сваім не вераць, дзякуюць Патапу, прапануюць любую плату, толькі ён, як звычайна, адмаўляўся:

— Не трэба мне, людцы, нічога, не трэба. Няхай расце здаровым.

— Але ж няёмка вас так адпускаць. Вазьміце хоць штонебудзь. Так жа нельга, вы стараліся, такую важную справу для нас зрабілі; а мы вас і не аддзячым...

— Добра. Калі ўжо так настойваеце, то дайце мне паесці, і будзем лічыць, што я ад вас узяў плату.

Перакусіць чалавек і стараецца як мага хутчэй за дзверы плетануць.

Аднаго разу паклікалі знахара да хворага. Прыбеглі да Патапа два сыны і крычаць:

— Хутчэй!

— Што такое?

— Наш бацька моцна хворы.

— Ваш бацька?

— Ага.

— А хто ён?

— Змітрык-хутаранец.

— І чым жа вашага бацьку скруціла?

— Самі не ведаем. Галосіць, крычыць, а што за хвароба, то і сказаць цяжка.

— Пайшлі, глянем.

Ідуць тыя дзецюкі з ім і ўсё па баках азіраюцца, нібы нешта ўкралі і збіраюцца схаваць, каб ніхто не бачыў. А Патап толькі пасміхваецца. Параўняліся з людзьмі, якія сена касілі, знахар і гаворыць:

— Дапамажыце, мужчынкі.

— А што такое?

— Ды вунь Змітрык-хутаранец сваіх сыноў паслаў, каб я да яго прыйшоў, а яны тады, мяне заманіўшы, запатрабуюць, каб я іхняга бацьку навучыў скарбы адшукваць. То дапамажыце спачатку іх вылечыць, а потым і старога.

Пабеглі тыя сыны ўцякаць — толькі лаўжы затрашчалі. Такі відушчы ды магутны знахар быў Патап. Калі ён паміраў, то свае чары добраму чалавеку перадаў. А яго імем людзі вёску назвалі.



# ВЕТКА

Гэтая гісторыя пераказваецца мясцовымі жыхарамі з пакалення ў пакаленне. Як толькі малы падрасце і пачне хадзіць ды плакацца за дзедам ці за бабцяй, бо менавіта яны з'яўляліся выхавальнікамі падрастаючага пакалення, каб расказалі цікавую казку, то старыя і распавядаюць яе.

Здарылася гісторыя надзвычай даўно. Колькі стагоддзяў назад, дакладна, мажа, ніхто і не ведае. Будзем казаць, што многа. Не раз, не два людскія пакаленні перамяніліся, [redacted] гісторыя захавалася.

Спачатку тут невялічкае паселішча было, потым — намнога большае, чым сам Гомель, [redacted] зараз — зноў невялікае ў параўнанні з тым жа Гомелем.

Уцякалі тады да нашае зямлі беднякі ды казакі з усёй старонкі. З Расіі асабліва многа было. У іх на той час цар надзвычай люты сядзеў. Як толькі што не так, дык вераш-чаў: «Смерцю пакараць! Павесіць! Галаву адсекчы!»

Слугі адразу загад выконвалі, асабліва не марудзілі, каб на сябе ненарокам гнеў самадура таго не наклікаць. А сялянам ды гараджанам што заставалася? Ведама ж, уцякаць, шукаць вольную мясціну і там сяліцца. Па дарозе многіх лавілі і люта катавалі — помсцілі за тое, што паспрабавалі з-пад панскай ды царскай улады ўцячы. Вешалі наўсцяж тых мясцін, кудою ўцекачы да Сожа прабіваліся. Амаль на кожным дрэве чалавек вісеў ці тое, што ад яго засталося,

бо крумкаччо ды вятры-дажджы сваё спраўна рабілі: толькі косці ў вопратцы заставаліся.

Уцекачы прабіраліся пераважна начамі, бо днём баяліся напароцца на моцныя царскія заставы, у якіх быў адзін загад: лавіць і караць смерцю. Тыя вартавыя так налаўчыліся, што стваралася ўражанне, быццам яны ці ведалі, кудой змарнелыя, знясіленыя цяжкай дарогай людзі прабірацца будуць, ці сядзелі за кожным кустом. Як ты ні паўзі, як ні прыгінайся, а ў самы нечаканы момант абавязкова раздасца над галавой:

— І куды гэта вы сабраліся?

Спачатку ласкава так, а потым... Яны і білі-катавалі з усмешкай.

Білі так бязлітасна, што праз пару хвілін здаровы чалавек ператвараўся ў бясформенную істоту. Нікога не шкадавалі — ні старога, ні малога.

— Вырасце — нам помсціць будзе, то няхай лепей згарыць, каб потым баяцца не давялося.

На вачах у матуль гэта рабілі, то тыя, няшчасныя, адразу ж сівелі ды вар'яцелі. Іх каты не забівалі, а адпускалі: пагрозы ад такіх чакаць не даводзілася.

Але, што самае дзіўнае, як ні катавалі людзей, як ні білі, ні вынішчалі, яны ўсё роўна імкнуліся прарвацца праз пільныя царскія заслоны. Чаму? Бо клікала іх да сябе воля. А гэта такое пачуццё, ад якога нельга адмовіцца. Лепей пажыць адзін дзень вольным і незалежным, чым год пад панскай прынукай.

Аднаго разу выбраліся тры сям'і з Дона. У іх даўней таксама воля была, воля неабмежаваная. Там нават памешчыкаў не існавала. Служылі казакі цару, дый годзе. Але потым не спадабалася багатым, што бедныя ім не падпарадкоўваюцца, і сталі яны свае парадкі заводзіць. І да таго дайшло, што ў некалі вольным казацкім краі жыць стала яшчэ горай, чым у звычайнай вёсцы. Адзін-другі раз паўсталі казакі са зброяй у руках, але поспех адвярнуўся ад іх — разбілі казацкія дружыны. Пасеклі многім людзям галовы, многіх на шыбеніцу адправілі, а дзяцей ды жанчын іхніх амаль жывымі гнаілі ў астрогах. Задумаліся тады ацалелыя, як далей быць? Калі не перастануць паны ды цар здзекавацца, то праз пару гадоў на Доне жывых казакоў не застанецца. Вось і вырашылі ўцякаць. Даведаліся, што далёка, за трыдзевяць зямель, ёсць рака Сож, а па яе берагах людзі вольна жывуць. Хто дзе жадае, там і будуецца,

зямлі, колькі яму захочацца, апрацоўвае. Паны там да працаўнікоў носа не патыкаюць, сяляне аднаму вялікаму князю аброк плацяць. Але ж як прайсці да той зямелькі? Заставы пільна ахоўваюць царскую граніцу.

Падумалі казакі, паглядзелі на дзяцей, жонак і, нібы згаварыўшыся, у адзін голас прамовілі:

— Лепей там памерці, уцякаючы, чым тут — чакаючы!

Заплакалі-захліпалі жанчыны:

— Шкада старога месца.

— Магілы трымаюць?

— І яны таксама.

— У нас па ўсёй зямлі адны магілы-курганы ўзвышаюцца.

— А калі зловяць?

— А калі пашанцуе і не зловяць?

— Усё роўна страшна.

— Ведаем, але і тут страшна заставацца.

— Дарога ж няблізкая. Як мы туды дабяромся?

— Сцерагчыся будзем.

— Іншыя таксама сцерагліся...

— Нічога, будзем спадзявацца на лепшае. Рушым усе разам, наступнай ноччу, ніхто не застанецца. Што ўжо будзе. Самі ведаеце, дарога няблізкая і надзвычай небяспечная, таму марудзіць няма чаго.

Казакі пачалі збірацца. У дарогу бралі самае неабходнае, ведалі, што ўсялякая драбяза толькі абцяжарваць ды стрымліваць будзе. Азірнуліся ў апошні раз на свае хаціны, жанчыны слёзы выцерлі і пакіравалі ў невядомую далячынь.

Казакоў звалі Стаўбун, Балсун ды Неглюб. Аказалася, што Неглюб некалі быў на Сожы, ваяваў там. Крыху прыўзняўся настрой у мужчын, усё ж чалавек там быў, хоць і даўно.

— А людзі, людзі якія там?

— Такія ж, як і ў нас: працавітыя, сумленныя. А яшчэ...

— Што?

— У вайсковай справе надзвычай спрактыкаваныя і мужныя.

— Дык у цябе, магчыма, там і знаёмыя засталіся? — падкулдыкнуў Балсун.

— Хто яго, братка, ведае, можа, і засталіся.

— А як спаткаеш? Супраць яго ж ваяваў?

— Хіба ■ па ўласнай волі, хлопцы, ваяваў супраць тутэйшых жыхароў? Самі ж ведаеце, якая наша доля. Загадалі — і пайшоў, інакш галаву знялі б.

— Ты не звяртай увагі на Балсуна, ён проста так сказаў, — паспрабаваў супакоіць суседа Стаўбун, — малады яшчэ.

— Не злуйся на мяне, дзядзька, — павінаваціўся і сам Балсун.

— Чаго ўжо там, хіба ж я не разумею жартаў, — азваўся задуменна Неглюб.

На небакраі ўжо ружавела, і мужчыны пачалі думаць, дзе б схавацца на дзень, бо далей ехаць было небяспечна. Выбралі нейкую лагчыну і там стаіліся, а калі наступіў змрок, то рушылі па дарозе наперад.

Ехалі доўга, можа, месяц, а можа, і два. Здарожыліся, але пільнасці не трацілі, бо на такое наглядзеліся за гэты час, што валасы, часам, дыбарам паўставалі. Жанчыны плакалі, а казакі суравелі ды паціху прамаўлялі:

— І за што гэта народ наш такія пакуты трывае? За што?

Неглюб на правах старэйшага супакойваў:

— Прыйдзе час, і мы ім адплоцім, а зараз патрываць трэба, прабіцца за граніцу, а там...

Дзеці спалі, жанчыны ўздрыгвалі пры кожным гуку, мужчыны зброю трымалі напагатове, узіраліся і ўслухоўваліся ў начную цемру. Перамаўляліся толькі шэптам. І тут, нібы з-пад зямлі, раздаўся жудасны крык:

— За што?! За што?!

Неглюб ціха загадаў:

— Збочваем з дарогі.

Супыніліся ў густым кустоўі, а крык той яшчэ болей узмацніўся, і ўжо нават нельга было разабраць словы. Балсун прапанаваў:

— Дзядзька, я праведаю, што гэта, а вы тут заставайцеся.

Казакі ведалі, што разведчык Балсун прыроджаны. Ніхто лепей за яго з такім заданнем не справіцца. Таму Неглюб прашаптаў:

— Давай, толькі асцярожна.

Балсун хіснуў галавой і адразу нібы растварыўся ў цемры.

А крыкі то заціхалі, то гучалі яшчэ больш моцна і страшна.

Раптам адна з жанчын усклікнула:

— Там жа, здаецца, нехта і смяецца?!

— Так. Што гэта можа быць?

— Пачакайце, — супакоіў Неглюб, — зараз Балсун прыйдзе і ўсё раскажа.

— Хоць бы вярнуўся...

— Вернецца, не з тых ён хлопцаў, проста так у рукі не палезе.

Здавалася, што прайшло ўжо пару гадзін, а разведчыка ўсё не было. Неўзабаве нешта шуснула з-за куста, і мужчыны выхапілі шаблі.

— Я... Я гэта...

— Балсун? Нарэшце. Ну што там, братка?

Казак соп і нічога не казаў. Людзі навокал таксама маўчалі.

— Жах, браткі. Яны... Яны...

— Што?

— Злавілі некалькіх уцекачоў і катуюць іх.

— Дык вось адкуль крыкі...

— Там і нямы закрычыць. Жалезам рвуць целы і на агні падпякаюць. Ахвяры ад болю заходзяцца, а каты рагочуць.

Людзі хмурна маўчалі — не маглі гаварыць. Цішыню парушыла жанчына:

— Як жа нам да іх не трапіцца?

Неглюб махнуў галавой:

— У нас жа дзеці...

— Здаецца, ■ ведаю, што рабіць, — выпаліў Балсун. — Пакінем вазы тут.

— А самі?

— Дзяцей возьмеце і пойдзеце напрасткі праз гэтае кустоўе. Справа ўбачыце вогнішча, дзе катуюць людзей. Старайцеся мінуць тую мясціну. Далей пачынаецца лес, а за ім — Сож і наша воля. Там ужо застаў няма, там ужо беларуская зямля.

— Але ж могуць заўважыць.

— Вы пойдзеце, ■ я са сваім конікам ды з вазамі тут застануся. Даганю вас праз кароткі час. Не перажывайце.

Пацалаваў жонку і зноў прыспешыў:

— Ідзіце, пакуль ноч.

Так і зрабілі. Неўзабаве пачулі, як там, дзе застаўся казак, нешта зашыпела, зарыпела, затрашчала,і адразу на шум кінуліся вартавыя.

З першымі промнямі сонца людзі выбіліся на бераг Сожа і, наламаўшы голля, прыкрыліся крыху ім і ляглі адпачываць. Ляжалі і думалі, як там Балсун? І тут пачулі вясёлае:

— Вось і вецъ... Вось і мае родныя...

Гэта Балсун знайшоў іх і радаваўся, што ўсё добра абыш-

лося. А «вець» па-іхняму, па-казацкаму, азначала «лёгкі будан». Так і сталі тое месца называць Вець, або Ветка, бо на ім упершыню адпачывалі ўцекачы з далёкага Дона.

## КАЗАЦКІЯ БАЛСУНЫ

Гісторыя з назвай нашага паселішча — працяг гісторыі з Веткай. Адпачылі людзі, агледзеліся і сталі думаць, як ім далей быць? Побач з мяжой сядзець не будзеш, бо ўсялякае можа здарыцца. Трэба некуды далей падавацца. А куды? Раптам рыпнешся, ды на злыдняў якіх трапіш, і тыя акажуцца не лепшымі за тых паноў, ад якіх ўцякалі гэтулькі часу, рызыкуючы жыццём? Зніякавелі казакі. Што ж тут рабіць? Раптам усхапіўся Неглюб, кінуў шапку аб зямлю і прамовіў:

— Калі баімся, то чаго ўцякалі? Трэба ўжо было на месцы заставацца ды галоднай смерці чакаць.

— І сапраўды.

— Пойдзем, браткі, наперад. Тут ужо спакайней ісці можна, няма чаго хавацца. На каго натрапім, на таго і натрапім.

— А раптам пашанцуе і добрая душа першай на дарогу выберацца? — гаротна прамовіла адна з жанчын.

— Хто ж яго ведае. Гэта ўжо як Бог пашле. Але не сядзець жа непадалёку ад царскіх застаў, хоць і шырокі Сож за спінаю працякае.

Рушылі наперад, азіраючыся па баках, але ніхто ім не трапляўся.

Адна з жанчын не вытрымала:

— Што ж гэта за зямля тут такая?

— Зямля як зямля. Хараша вунь як навокал, птушак многа, звяроў.

— Я не пра гэта. Людзей няма.

— Напаткаем, недзе ж і тут тубыльцы жывуць.

— Паўдня амаль едзем, а ніводнай душы не сустрэлі.

Пагаварылі і вырашылі прысесці ў кустоўі ды адпачыць. Здарожыліся, і есці захацелася. Звярнулі са сцяжынкі, прыселі на мурагу і ўжо збіраліся клункі свае развязваць, як раптам, нібы гром сярод яснага неба, раздаўся голас:

— Добрага дня вам, людзі!

Крутнуліся і ўбачылі побач узброеных людзей. Яны весела пазіралі на казакоў з сем'ямі.

— І вам таксама, — нерашуча адказалі тыя.

— Адкуль будзеце, гаротныя?

— Ды мы... — пачалі было ўсе разам, але потым звярнуліся да Неглюба. — Давай ты. Ты старэйшы, і ты нас вёў.

Неглюб ступіў крок наперад і, стараючыся быць спакойным, пачаў:

— З Дона мы...

— Адкуль? — ажно рот разявіў адзін з незнаёмых вояў.

— З Дона.

— З такой далечыні? Што, не соладка ў вас там жывецца?

Тут ужо адказвалі ўсе, кожны па-свойму імкнучыся выліць душу.

— І не гавары. Дыхнуць спакойна не давалі. За сабак лічылі.

— Вырашылі, чым там ад галоднай смерці паміраць, то лепей паспрабаваць куды ў іншае месца прабіцца. Добрыя людзі параілі за Сож прабірацца. Так мы тут і апынуліся.

— Да Сожа ехалі — сваіх баяліся, пасля Сожа палохаліся мясцовых жыхароў ці вояў напаткаць.

— Але паўдня праехалі — нікога не сустрэлі, нібы ўсё вымерла навокал, ажно дзіўна было.

Воі пераглянуліся і ўсміхнуліся:

— Падалося вам, людзі добрыя. Мы вас заўважылі, калі вы толькі Сож пераплывалі. І дзе вы адпачывалі — бачылі. Потым суправаджалі ажно сюды, а тут вырашылі бліжэй падысці ды запытацца, што знайсці тут хочаце.

— Дык вы нас бачылі і сачылі за намі? — недаўменна перапытаў Балсун. — Быць такога не можа.

— Можа, — стараючыся быць абыякавым, прамовіў маладзейшы з вояў.

— А чым дакажаце?

— Калі хочаце, дык перакажам, пра што вы па дарозе гаманілі.

— Гэта ж трэба... А мы думалі, што нікога паблізу няма, што мы гаспадары на дарозе, а тут вось што атрымалася. Вялі нас, як малых дзяцей.

— Такая ўжо ў нас служба.

— Дык вас там многа было?

— Цэлая застава. Справа ў тым, што нас не так проста разглядзець, нават мясцовым жыхарам гэта не заўсёды ўдаецца.

— Вось гэта застава. Не тое, што з нашага боку. Там мы здалёк пачулі, дзе нас могуць чакаць.

Балсуну не давала спакою тое, што нават ён, лепшы

разведчык, нічога не прыкмеціў. Павагаўся ён, і потым сказаў, нібы адрэзаў:

— Я з гэтымі хлопцамі вярнуся назад і папрашуся да іх на службу. З такімі служыць — многаму можна навучыцца, ды і з нашымі панамі хутчэй паквітаюся.

Ягоная жонка паспрабавала было нешта сказаць, але той не даў ёй і рота раскрыць:

— Ведаю, ведаю, што табе спакайнейшага жыцця хочацца, але ж мы казакі, і нам, пакуль ногі носяць ды ў сядло ўскочыць можам, няма чаго сядзець побач з жаночай спадніцай. Будзеш жыць там, дзе і іхнія жонкі, а я буду служыць новаму краю, новай радзіме.

Развітаўся са старымі сябрамі:

— Дай Бог, каб у вас усё добра было і каб спаткаліся мы ў гэтых мясцінах яшчэ не раз.

— І табе, Балсун, хай шанцуе, каб і сапраўды сустрэліся.

Так і застаўся Балсун на заставе ў новых гаспадароў, а суседзі яго далей паехалі. Потым, калі казак стары стаў, знямоглы, то маладых хлапчукоў вайсковай справе навучаў. Шчыра ўсё рабіў, сумленна. Усіх маладых мясцовыя жыхары называлі казакамі, а сваё паселішча — Казацкімі Балсунамі, бо надта добрыя воі ў ім выраслі, ніколі не давалі свой край у знявагу.

## НЕГЛЮБКА

Назва наша паходзіць ад Неглюба — аднаго з трох казакоў, пра якіх мы згадвалі, высвятляючы паходжанне назвы Веткі і Казацкіх Балсуноў. Пакінуўшы Балсуна з маладой жонкай, астатнія пакіравалі далей, спытаўшыся, як выбіцца на бліжэйшае паселішча. Воі параілі:

— Едзьце прама. Не палохайцеся нікога. Калі дапытвацца будуць, адкуль вы, то адказвайце, як і нам, ды яшчэ згадайце, што накіравалі вас з заставы. У першых вёсках не спыняйцеся, там для вас занятак не знойдзецца.

— Чаму?

— Не вы адны сюды прабіваецеся, такіх многа. Спыніцеся ажно ў пятай вёсцы, знайдзіце атамана Архіпа. Застацца ў яго дазволу спытайцеся. Ён усіх прымае.

— А не стане нас няволіць?

— За што?

— Ну, мы ж не адсюль.

— Гэтага не бойцеся. Ён распытае і дапаможа.

— То дзякуй вам, родненькія, што так добра з намі абышліся, што не пакрыўдзілі.

— Служба ў нас такая: прасачыць, паглядзець, а потым і на дапамогу прыйсці.

— Бывайце. Можа, болей не ўбачымся.

— Убачымся, — супакоілі разведчыкі, — мы ў гэтых вёсках часта бываем. Тут жа нашы ўсе. Праз пару дзён і спаткаемся, і сябра свайго будзеце потым наведваць.

— Ці ён нас, — не утрываўся Неглюб.

Усе засмяяліся. Раз'ехаліся ў розныя бакі, і казакі з жонкамі пачалі абмяркоўваць тое, як іх сустрэлі тутэйшыя жыхары:

— Якія тут спагадлівыя ды спакойныя людзі.

— Здаравенныя, што асілкі, а смяюцца і жартуюць, што дзеці. Так і свецяцца дабрынёй, — умяшалася Неглюбава жонка.

— Жывуць добра, таму і самі добрыя, — па-філасофску зазначыў Стаўбун.

— Ведама ж, усяго хапае. Колькі часу прайшло, а мы ніводнага жабрака не напаткалі.

— Усё цвіце і радуецца жыццю, нібы ў раі якім.

— Вось я і кажу: людзі спакойныя, — паўтарыла Неглюбава гаспадыня.

Ёй запярэчыў Неглюб:

— Пабачыла б ты іх у бітве.

— А ты што, бачыў?

— Таму і кажу. Самааддана, мужна б'юцца. Адзін спрактыкаваны вой у іх траіх каштуе.

Так, размаўляючы, не заўважылі, як пад'ехалі да першай вёскі.

Спыніліся і нерашуча пазіралі на Неглюба, ён па-ранейшаму заставаўся за старэйшага. А той, здавалася, пра нешта думаў, але,хутчэй за ўсё, і сам вагаўся. Нарэшце скамандаваў ехаць. Падаліся па вясковай вуліцы, але недзе ля трэцяга двара спыніліся, бо да іх выйшла маладзіца і, агледваючы незнаёмых, запыталася:

— Можа, вадзічкі сцюдзёнай прынесці?

— Няблага было б.

— То зайдзіце ў двор. У нас свая студня, вады на ўсіх хопіць.

Напіліся вады і як паздаравелі. Падзякавалі гаспадыню і ўжо хацелі з двара ісці, ■ тая і кажа:

— Куды ж вы, на ноч гледзячы? Відаць жа, здалёк?

— Ой, жанчынка, не нам табе расказваць, што перажылі

мы за гэтыя паўгода. У вас так ціха ды мірна, ніхто не страляе, нікога не забіваюць, а ў нас жа што творыцца...

— Я ж таксама не тутэйшая. Тут сваіх мала. У асноўным селяцца ўцекачы з розных мясцін.

— А як мясцовыя жыхары да чужых адносяцца?

— Прымаюць нібы родных.

— Даўно ўжо жывеш тут?

— Пяты год пайшоў, ужо і прызвычаілася, замуж выйшла за мясцовага. Двое дзетак маем, хаціну, падворак. Жывём, дзякуй Богу. Заставайцеся начаваць, а раніцай далей рушыце. Зараз агонь распалю, есці звару. А вы пакуль што пасядзіце, адпачніце, бо бачу, што стаміліся вельмі.

Вечарам прыйшоў муж. Аказалася, што тут усе, акрамя таго, што займаюцца па гаспадарцы, не забываюць і пра вайсковую службу. У гэты дзень гаспадар якраз і нёс яе. Распыталі ў яго мужчыны, як далей быць, чым заняцца можна. Той таксама параіў лепей да атамана ехаць. Ён, маўляў, і накіруе ў патрэбнае месца.

Раніцай развіталіся, нібы добрыя знаёмыя. Жанчыны нават пацалаваліся перад тым, як рушыць з двара. Мужчыны паводзілі сябе больш стрымана.

Па дарозе, калі дабіраліся да другога паселішча, ужо не так палахліва сябе паводзілі. Сустракалі, і даволі часта, мясцовых жыхароў, адказвалі на іхнія прывітанні ды пытанні і працягвалі свой шлях.

На чацвёрты дзень трапілі да атамана. Аказалася, што там сапраўды назбіралася вельмі многа ўцекачоў з самых розных мясцін. Кожны хацеў даведацца, дзе можна спыніцца, чым заняцца. Па чарзе заходзілі ў хаціну, радасныя адтуль выскоквалі і, развітаўшыся, кіравалі ў азначанае паселішча.

Першым з казакоў у хаціне апынуўся Неглюб. Атаман, зусім яшчэ малады чалавек, ветліва запрасіў прысесці і, задаўшы колькі пытанняў, высветліў усё, што яго цікавіла. Даведаўшыся, што Неглюб спрактыкаваны ў бітвах вой, сказаў:

— Хочаш нашых людзей вучыць ваяваць?

— Так.

— Тады паедзеш на новы хутар. Там будуць збірацца ўцекачы, яны і стануць тваімі падначаленымі.

Развітаўся Неглюб са Стаўбуном і пакіраваў да хутара. Там і асеў з сям'ёй. З цягам часу тое паселішча разраслося, стала вялікай і прыгожай вёскай, а назвалі яе ад першага жыхара — Неглюбка.

# СІВЕНКА

Неглюбу падалося, што яму дасталася не такая ўжо і складаная задача. Справа ў тым, што ён і на Доне быў звязаны з вайсковай службай. Праўда, тут абавязак быў надзвычай ганаровы і адказны — рыхтаваць будучых вояў, бо нешта ўпусціш падчас падрыхтоўкі, потым галовы лягуць на полі бою. Таму і ганяў ён падначаленых да сёмага поту. Не глядзеў, хто перад ім: хлапчук, які толькі што стаў размаўляць мужчынскім напаўламаным баском, ці мужчына, які ўжо не раз і не два на ўласнай скуры зведаў, што такое славутая панская ласка. Усе былі роўныя.

— Перад ворагам усе роўныя. Перавагу маюць тыя, хто па-майстэрску валодае зброяй, — не раз і не два сцвярджаў ён сваім падначаленым. Тыя моўчкі пагаджаліся, бо неставала сілы адказаць. Па вопыту папярэдніх навучэнцаў ужо ведалі, што цяжэй за ўсё тут, у паселішчы, як пачнуць выязджаць да мяжы з суседняй дзяржавай, то там будзе намнога лягчэй.

Найбольш нецярплівыя дапытваліся:

— Калі ўжо, дзядзька Неглюб, падамося да мяжы?

— Што, прыелася?

— Так.

— Пабачым, як вы сябе будзеце паводзіць.

— Мы ж робім усё, што вы загадваеце.

— А па-іншаму і нельга. Жыццём можна будзе ў сутычцы ці падчас якой небяспекі заплаціць.

— Надакучыла адным і тым жа займацца.

Астатнія падтрымалі сябрука перад былым казаком:

— Усё поўзаем, хаваемся, перабягаем...

— Драўлянымі шаблямі сячомся, — прагуў здаравенны мужчына, які трымаўся рукой за лоб, што адсвечваў чырванню.

— Угу, — паддакнуў Неглюб, — драўлянымі б'яцеся, а гузакоў носіце — што тыя свінні рагоў.

Людзі зарагаталі.

— Нічога страшнага ў тым, што практыкуеце драўлянай зброяй, няма. Прыйдзе час — і сапраўдную атрымаеце.

— Панам адпомсціць хочацца як мага хутчэй, — ціха прамовіў селянін, які стаяў насупраць Неглюба.

— Надта ўеліся ў косці?

— Не тое слова.

— У яго ўсіх родных пан знішчыў, — дадаў другі мужчына, што стаяў за спінаю ў першага.

— Яны мне за ўсё адплацяць. Жылы з іх, жывых, вырву, нікога не пашкадую.

Селянін, здавалася, гаварыў спакойна, але словы ягоныя прымусілі ўздрыгнуцца нават казака, які многае на сваім вяку бачыў. У іх была такая рашучасць і нянавісць, што сумнявацца не даводзілася — гэты клятву стрымае.

Неглюб павесялеў:

— Ну, хлопцы, адпачылі — час за навуку брацца. Будзем адпрацоўваць двубой з шаблямі. Станавіцеся парамі і па майму знаку пачынайце. Хто прапускае ўдар, той сотню сажняў возіць на сабе пераможцу. Зразумелі?

— Так.

— Пачынаем.

І так гадзіна за гадзінай, дзень за днём, тыдзень за тыднем. Людзі да таго прызвычаіліся да сваіх драўляных шабляў, што, калі Неглюб абвясціў, што заўтра атрымаюць сапраўдную зброю, некаторыя недаўменна закруцілі галовамі:

— Навошта? У нас жа ёсць.

Былы казак зарагатаў:

— Во, цяпер бачу, што самы час на мяжу вас весці. Ужо і драўляныя шаблі баявымі сталі!

Тады засмяяліся і падначаленыя:

— А мы ўжо і забыліся.

— Цяпер любога ворага і драўлянай шабляй добра паганялі б.

Неглюб азваўся:

— І гэта праўда, хлопцы. Толькі не забывайцеся, што там за прапушчаны ўдар давядзецца не ворага на сабе сотню крокаў вазіць, а ў магілу класціся.

— Не забудзем, дзядзька!

На другі дзень, размеркаваўшы баявую зброю, Неглюб сказаў:

— Зараз ідзіце па хатах, адпачывайце, збірайцеся, і заўтра, толькі сонца зайграе, каб усе конна былі на гэтым месцы. Спазняцца нельга. Ніхто вас чакаць не будзе, помніце адно: затрымка можа абярнуцца жыццём для сябра.

Гледзячы, як радасна паджгалі па хацінах падначаленыя, былы казак ціха прамовіў:

— Для іх вайсковая справа пакуль што ўсё яшчэ гульня...

Выехалі на мяжу і там ужо неслі вайсковую службу. Праўда, на першым часе навабранцы ззаду за асноўнымі сіламі заставаліся, усё патрабавалі, каб іх наперад паставілі, але Неглюб быў непрыступны:

— Усяму свой час. Глядзіце тут пільна, каб ніякі вораг не прасачыўся.

— Ды не будзе такога. Наперадзе нашы людзі.

— Усялякае здараецца.

— Не, нашы не прапусцяць.

— Чалавек здольны памыляцца. Таму і тут не выключаны пралікі.

І пралічыліся-такі. Аднае ночы да Неглюба падляцеў ўзмылены вершнік:

— Дзядзька, чужынцы прайшлі!

— Дзе?

— У тыл наш падаліся.

— Значыцца, мінулі заставы? Падымай людзей!

Праз пару хвілін атрад імчаўся за ворагамі, якія стараліся як мага далей ад'ехацца ад мяжы, стаіцца і адпачыць, а потым знянацку наскочыць на якое паселішча і захапіць багаты палон. Ды не атрымалася ў іх задума, бо наскочылі не яны, ■ на іх. Неглюбавы воі былі бязлітаснымі. Не прайшло і гадзіны, а частку чужынцаў ужо пасеклі, другую — паланілі. Нехта задаволена прамовіў:

— Трава сівец, ■ чужынцам — капец.

Пазней на месцы таго бою з'явілася вёска, і назвалі яе ад той травы — Сівенкай.

## СТАЎБУН

Лёс занёс трэцяга з казакоў-уцекачоў — Стаўбуна — крыху далей. Так атрымалася, што тады, у чарзе да атамана Архіпа, калі дайшла да яго чарга, атаман запытаўся:

— Якім рамяством валодаеш, чалавеча?

— Шабляй і дзідай, атаман, — па-вайсковаму коратка адказаў уцякач.

— У гэтым не сумняваюся. Які ж казак, калі ён ваяваць не вывучаны? Я пытаўся, чым яшчэ, акрамя зброі, валодаеш?

— Каваль я, атаман. Добры ці дрэнны — хваліцца не стану. Пра такое лепей чужыя людзі гавораць.

— І то праўда.

— Болей нічым не валодаю.

— І гэтага, чалавеча, дастаткова.

— Хацелася б з сябрамі, але яны ўжо ў розных баках.

— Гэта не страшна. У нас людзей многа, сябры новыя з'явяцца, а са старымі бачыцца будзеш. Зрэдку ў нас тут і

кірмашы бываюць, дык на іх з самых далёкіх вёсак дабіраюцца. Каго тут тады толькі не спаткаеш.

— Зразумела.

— Тады паедзеш, казача... Дарэчы, як цябе завуць?

— Стаўбун.

— Дзіўнае імя. А што яно азначае?

— Некалі бацька казаў, што назвалі мяне ў гонар майго дзеда — той надзвычай упарты быў. Яго Стаўбуном звалі, і мяне таксама.

— Упарты, значыцца? — усміхнуўся Архіп. — Гэта няблага. У характары такіх людзей і за сябе пастаяць, і за іншых.

— Твая праўда, атаман, часта мне даводзілася і за сябе і за іншых у спрэчкі-бойкі лезці.

— Глядзі ж, каб тут усё ціха было.

— Зараз не палезу.

— Чаму так упэўнена гаворыш?

— Жанаты, атаман. Жонка, дзеці. Найперш пра іх трэба думаць. Таму і стрымліваюся.

— І правільна робіш, бо мала што можа здарыцца. Як тады дзяцей гадаваць? Таму і загадваю табе, чалавеча, займацца кавальскай справай. Зброі нам не хапае, а яна ў нас павінна быць добрай — мяжа побач.

— Як скажаш, атаман.

— Мала гэтага. Разам з тваёй сям'ёй паедуць яшчэ некалькі чалавек, табе ў дапамогу. Самі паставіце хаціны, іншыя пабудовы, самі ж будзеце і жалеза шукаць, і руду балотную капаць. Словам, самі сабе і гаспадары, і падначаленыя. Адно толькі прашу мець на ўвазе: не прывык я за сваімі людзьмі сачыць, давяраю ім ва ўсім, таму працуйце шчыра.

— Ды я, атаман, дрэнна і не ўмею рабіць.

— Вось і добра. Тады дамовіліся. А зараз пачакай на вуліцы. Да цябе будуць падыходзіць прызначаныя людзі, і потым усе паедзеце, каб па аднаму не цягнуцца, не блукаць у незнаёмых мясцінах.

— Да пабачэння, атаман.

— Будзь здароў, Стаўбун. Пачынай справу, сяліся і жыві сабе, нікога не баючыся. Праўда...

— Што?

— Пра асцярогу не забывайся, бо надта блізка мяжа і ўсялякае здараецца.

Жонка падскочыла да Стаўбуна, як толькі ён выйшаў з хаціны:

— Ну?

— Усё ў парадку.
— Куды паедзем?
— На новае месца.
— А чым займацца будзем?
— Я кавалём буду, а табе давядзецца, як і мясцовым жанчынам, агарод заводзіць.
— Галоўнае, чалавеча, што жыць тут дазволілі, а працы мы ніколі не баяліся.
— Зараз яшчэ людзі падыдуць — і паедзем. Тут не надта і далёка, да вечара павінны дабрацца.
Неўзабаве ўсе сабраліся і паехалі.
На новым месцы навасёлы дружна ўзяліся за працу. Лесу хапала, таму хутка стаялі ўжо і пару хацін, і хляўчук, і нават лазня, каб было дзе той дым ды сажу змыць пасля працы.
Пачалі каваць зброю — Стаўбун памятаў перасцярогу атамана, ды і сам ведаў, як, часам, скрытна паводзяць сябе ворагі. І аказалася — сцерагліся нездарма. Неяк надвячоркам прыбег вартавы з вышак з крыкам:
— Стаўбун, чужыя!
— Дзе?
— Ад лесу.
Угледзеліся — і сапраўды чужыя. Тады гаспадар паклікаў дзяцей ды жонку і загадаў уцякаць.
— А вы?
— Наша справа мужчынская. Мы бараніцца будзем.
Але што ты зробіш супраць сілы? Ворагаў у дзесяткі разоў болей было. На першым часе выратавала тое, што яны ўвогуле не чакалі супраціўлення, а тут паваліліся забітыя і параненыя, трапныя стрэлы не давалі ўзняць галоў. Ды кончыліся набоі, а ў рукапашным баі сіла зламала сілу.

Калі прыспеў на месца бою Архіп з атрадам, то там яшчэ гарэлі будынкі. Знайшлі Стаўбуна. Нехта ціха прамовіў:
— Дыхае...
Каваль адкрыў вочы, нібы пачуў той шэпт, і ледзьве чутна сказаў:
— Дзеці...
— Не бойся, чалавеча, узгадуем тваіх дзяцей і ворагаў знойдзем ды пакараем. Не даруем ім, — жорстка прамовіў Архіп.
Пахавалі забітых разам, у адной брацкай магіле, а над імі насыпалі невысокі курганок. Потым тое месца празвалі Стаўбун. Ці то ад імя таго казака, ці то ад таго, што яго жыхары ўпарта бараніліся ад шматлікіх ворагаў.

# РУДНЯ-ШЛЯГІНА

Было гэта падчас нейкай вайны. Тут даўней пастаянна войны ды бітвы адбываліся. Не паспее адно войска сысці — другое ўжо ідзе. Падалі забітыя, стагналі параненыя ды пакалечаныя, галасілі асірацелыя дзеці і жанчыны. Рэкі крывавыя цяклі.

— І Нёманка, рэчка наша, тады была?

— Была. Не выключана, што і ўдалася яна такая нямая, бо ў яе ад усяго таго, што на яе рачны век выпала, мова аднялася.

— І такое здараецца?

— Аняго ж.

— А далей што?

— Сышліся два войскі на пакутнай зямлі. З аднаго боку, відаць, рускае было, бо яны тады тут уладарылі, ■ з другога — шведскае, або саскае, як яго па-іншаму нашы продкі называлі. Ушчаміліся з двух бакоў вось на гэтае вялізнае поле і давай страляцца. Лупіліся, ажно водгулле ішло па лясах-далінах ды за Сож плыло. Ніхто не мог перамагчы.

— Бачыш ты, сіла роўная, мабыць, сабралася?

— Ці то роўная, ці то проста ваякі такія былі.

— Чаму?

— І адны і другія, атрымлівалася, не за роднае ваявалі, а за грошы ці за палон. Наймалі іх, плацілі срэбрам-золатам, і ўсё на тым.

— Канешне, каму ж загінуць у такіх выпадках асабліва хочацца? Вось і біліся лянотна.

— Тым часам ужо лета кончылася, восень пачалася, палілі дажджы. І так сумна ды маркотна стала, што бітва бітвай, а лёг бы, здаецца, ды соладка заснуў, плюнуўшы на ўсё.

— То няхай бы і не ваявалі.

— Каб жа можна было... Рваліся наперад.

— Найбольш, відаць, героі-асілкі?

— І такія былі. У адным войску знайшоўся здаравяка, і ў шведскім, адпаведна, таксама. Тады рускі паслаў вершніка, каб той выклікаў праціўніка на двубой на шаблях. Хто выйграе паядынак, войска таго і канчатковую перамогу атрымае. Шведскі вой затрубіў у ражок і паехаў насустрач. Сышліся, пагаварылі і раз'ехаліся. А праз некаторы час выйшлі наперад два асілкі — перад адным войскам і перад другім. Сталі і глядзяць адзін на аднаго. Першым не стрымаўся рускі:

— І гэты хлапчук са мной біцца жадае?!

Рускае войска зарагатала.

Шведскі вой у адказ крыкнуў:

— А гэты тоўсты кабан чаго супраць мяне выскачыў?!

Тут ужо прыйшла чарга шведскага войска рагатаць.

Военачальнікі загадалі:

— Вы што, смяяцца адзін з аднаго выйшлі? Пачынайце бой. І глядзіце, біцеся да апошняга, па-сапраўднаму, а не проста так шаблямі махайце. Сыходзьцеся!

Здаравякі рушылі адзін аднаму насустрач, па дарозе дэманструючы сваю сілу і ваяўнічы настрой на траве ды на кустоўі, якое ляцела з-пад іх вострых шабляў, як пер'е. Сышліся, і рускі першым нанёс удар саперніку.

Што тут пачалося! Два чалавекі біліся, [redacted] крык стаяў такі, быццам білася вялізнае войска. Паранілі ўжо не раз адзін аднаго, але ніхто не здаваўся. Для абодвух перамога ці паражэнне былі, адпаведна, справай гонару і... жыцця. Нарэшце швед размахнуўся з апошняй сілы і сакануў. Лязо шаблі трапіла рускаму па галаве, ён захістаўся і гопнуўся на зямлю. А швед, хістаючыся, падаўся да Нёманкі. Заброў у яе па шыю, каб астудзіцца, і ўпаў мёртвы, на гэтым самым месцы, дзе зараз мост стаіць. Ад таго часу назва такая дзіўная — Швед — за мостам і захавалася.

— А назва нашай вёскі адкуль ідзе?

— Ды ўсё ад той жа бітвы. Бачыце, два асілкі загінулі, і калі па правілах, то войскі павінны былі ні з чым разыходзіцца па сваіх краінах. Толькі гэта было нявыгадна царам-ваяводам. Загадалі яны падначаленым, кожны сваім, біцца да перамогі. Сышліся войскі і біліся ажно трое сутак, не разыходзячыся. Потым шведы пабеглі, бо не стала ў іх болей сілы, [redacted] рускія пачалі іх у палон браць сотнямі. Рускі цар, каб не весці шведаў у сваё царства, загадаў ім тут руду з зямлі здабываць і жалеза плавіць. Так і пайшла Рудня. А Шлягіна ўтварылася ад драўлянай шлягі, якая выкарыстоўвалася для драбнення руды. Вось і выйшла Рудня-Шлягіна.



# ДОБРУШ

З даўніх часоў да сённяшніх дзён некаторыя людзі завуць землі, якія вакол горада ляжаць, Дабрушчынай, ці Добрушчынай. А ўсё з-за таго, што некалі, вельмі даўно, здарылася гісторыя, якая і дала назву гораду.

Тады тут было багата лясоў, таму людзі надта не бедавалі — у лесе яно і зацішней і спакайней. Мароз са сцюжай стукне, дык мясцовыя жыхары пад елкі ды пад якія вываратні пазалазяць і ляжаць сабе на звярыных шкурах, пасміхваюцца з бездапаможных намаганняў мароза:

— Бачыш ты, як Зюзя цісне, ажно дрэвы трашчаць.

— Што дрэвы? Вунь, бачыце, птушка на ляту замёрзла і ўпала.

— А нам нічога — цёпла. Вогнішча гарыць амаль ля кожнага вываратня.

З-за лесу тубыльцам было спакайней. Жыві яны на адкрытым месцы, ворагі іх здалёк высачылі б. А тут, у непралазных імшарынах ды выспах, балацінах ды ўзгорках, яны адчувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі.

Жыў сярод гэтых мудрых ды спрактыкаваных людзей адзін чалавек, і звалі яны яго паміж сабой Добрушам. Ад таго, што меў той чалавек дабра ўсялякага, ужо па тых мерках, даволі многа. Ашчадны быў, гаспадарлівы, спрактыкавана вёў рэй у сваёй невялікай сям'і. У іншых сем'і вялікія былі, а ў яго толькі жонка ды сын з дачкой. Затое

працавалі так, што іх вялікія сем'і, у якіх у чатыры, у пяць разоў людзей болей было, абагнаць не маглі. Здзіўляліся толькі:

— І як так можна? Ляцяць, нібы на крылах.

— Можа, яны не працуюць, а толькі згінаюцца?

— Не можа такога быць.

— То падыдзі ды паглядзі, правер.

— А вось вазьму і праверу, — у запале адказваў селянін і подбегам імчаў да Добруша, каб пераканацца, як там на самай справе ўсё адбываецца. Па ягоным перакананні, людзі не маглі так працаваць.

Добруш ужо прызвычаіўся да такіх «праверак», таму, заўважыўшы аднавяскоўца, які кіраваў да ягонай нівы, казаў сваім:

— Рыхтуйцеся, чарговы правяраючы ляціць.

— Можа, чалавек проста так ідзе.

— Не, у такую часіну проста так не ходзяць.

— Дык, можа, нешта здарылася?

— Вядома, што здарылася: паспрачаліся, чаму мы толькі чацвёра працуем, а дастатак маем большы. Не дае ім гэта спакойна жыць.

— Дык што ж нам рабіць?

— Працуйце, як і раней, толькі старайцеся рабіць усё нядбайна. Потым вернемся і выправім. А я яго якраз у гэтую мясціну і прывяду, каб на ўласныя вочы паглядзеў, калі ўжо так чалавеку хочацца пераканацца.

Добруш адыходзіў ад сваіх крыху ўбок і нібы сам па сабе ішоў насустрач селяніну. Павітаўшыся і не паказваючы выгляду, што ведае пра намер аднавяскоўца, вёў яго ў той бок, дзе працавала сям'я. А там жонка з дзецьмі рабіла ўсё так, як гаспадар падвучаў.

Заўважыўшы нейкі хіб, вясковец ажно ў твары святлеў, не мог дачакацца моманту, каб паляцець ды расказаць пра тое ўсім.

Радаваўся, дурань, што раскрыў існасць справы і цяпер усе зразумеюць, чаму Добруш з сям'ёй так спорна працуе.

Сам жа гаспадар садзіўся ля сваіх і пачынаў рагатаць, за ім заходзіліся астатнія. Добра насмяяўшыся, жонка звычайна дакарала мужа:

— І ахвота табе?

— Пра што ты?

— Кінь прыкідвацца, ведаю я цябе, хітруна. Ён жа на поўным сур'ёзе пабег і будзе пераказваць тое, што бачыў.

— Больш не пойдуць правяраць. Скажа, што блага працуем, астатнія павераць, і на гэтым усё скончыцца.

— Ты ў гэта верыш, чалавеча?

— Калі шчыра, то не надта. Праз тыдзень-другі зноў нехта прыляціць.

— Хай ужо як хочуць, так і робяць, а нам весялей ад гэтага крыху. Вось пасмяяліся, пажартавалі і адышлі ад цяжкай працы — усё ж нейкая карысць.

Так ляцеў час. Добруш усё марыў пра тое, каб заняцца нейкай незвычайнай працай, якой ніхто болей, акрамя яго самога, не валодаў бы. Жонка на яго пакрыквала:

— Што ты ўсё пакутуеш? Хіба табе занятку па гаспадарцы мала?

— Хапае.

— Чаго ж тады яшчэ нестае?

— І сам не ведаю. Ды ты не звяртай увагі.

І ўсё ж дадумаўся да свайго. Колькі працы ды часу патраціў — аднаму яму вядома, але зрабіў млын. Ды такі адмысловы, якога, можа, ва ўсім краі болей не было. З усіх паселішчаў пацягнуліся да кемлівага гаспадара людзі. Усім ён малоў. Адпаведна павялічвалася і багацце. Жыві ды радуйся. Да гонару Добруша трэба адзначыць, што ён не адмаўляўся малоць і бедным. Прасіліся яны, каб скінуў крыху плату, бо не будзе чым заплаціць, а гаспадар у адказ:

— Не скіну, не. Так ужо і быць, змялю вам задарма!

— А потым, потым што?

— Ды нічога. Адпрацоўваць на мяне не будзеце, не перажывайце.

Слава пра дабрыню ды ўмельства Добруша разносілася далёка па суседніх землях. Дайшла яна і да злога чараўніка, і вырашыў ён зрабіць назло добраму чалавеку. Прыйшоў неяк на млын, пачакаў, калі ўсе разышліся, і кажа гаспадару:

— Давай дамовімся, што набытак будзем на дваіх дзяліць.

— Не.

— Тады я табе малоць перашкоджу.

Добруш не сцярпеў такога нахабства — добра даў яму ў вуха. Адбегся той і стаў заклятыя замовы шаптаць ды хваробы на сям'ю млынара насылаць. І што ж вы думаеце? Дабіўся свайго. Спачатку захварэла жонка, потым дзеці і, крыху папакутаваўшы, памерлі. Загараваў чалавек, ссівеў увесь. І тут зноў да яго чараўнік падкаціўся. Толькі і на гэты раз не атрымалася:

— Лепей скрозь зямлю правалюся, чым на цябе, нячысцік, працаваць стану! — адрэзаў Добруш.

Так і здарылася. Праваліўся гаспадар разам з млынам, а на тым месцы пазней паселішча вырасла, і назвалі яго Добруш.

## ЦЕРАХОЎКА

Жыў у нас некалі адзін селянін, і надта ж умеў ды любіў ён распавядаць усялякія гісторыі. Ведаў іх столькі, што калі пасадзіць з раніцы расказваць, то да самага вечара будзе гутарку весці, павячэрае — і зноў за сваю ўлюбёную справу возьмецца. Звалі яго Церах. Так людзі і казалі:

— Ці ж у цябе, чалавеча, язык не баліць?

— А чаго? — шчыра дзівіўся той.

— Дык цэлы ж дзень пралялёкаў.

— А хіба язык касцісты?

— Хто ж яго ведае.

— Вось бачыце, не ведаеце, а гаворыце. Мне пагаманіць — адно задавальненне.

— Добра табе.

— А вам чаму блага?

— Пастаянна вакол цябе людзі сядзяць, твае казкі ды былічкі слухаюць.

— То і вы расказвайце.

— Каб жа мы так умелі...

Пастаяць крыху вяскоўцы, памаўчаць ля Цераха, а потым хто-небудзь, махнуўшы з адчаю рукой, і мовіць:

— То ўжо, будзь чалавекам, і нам раскажы якое цікавае здарэнне.

Церах для прыліку аднекваўся, праўда нядоўга, і пагаджаўся. Умеў чалавек напусціць важнасць на свой занятак.

Сяляне садзіліся вакол апавядальніка, і той пачынаў:

— Раскажу вам такую гісторыю, сведкай якой сам не быў, але гэта чыстая праўда, бо здарылася ўсё на вачах у майго дзядулі-нябожчыка.

— А адкуль ты ўзяў, што менавіта на ягоных вачах?

— Бо дзядуля расказваў, калі я зусім малы быў.

— І памятаеш?

— Ведама што. У мяне памяць учэпістая, дастаткова адзін раз пачуць, каб да старасці запомніць.

— То давай не дражні, расказвай.

— Гісторыя гэтая мела месца ў нашых мясцінах. Можа, нават на гэтым самым месцы, дзе мы зараз з вамі сядзім.

— Ды так ужо?

— А што вы думаеце? Зямля наша колькі разоў гарачай крывёй ды горкімі слязьмі пакрывалася. Самі ж ведаеце, што тут пастаянна ўсялякія бітвы ды войны адбываліся.

— Гэта праўда, гэта і мы ведаем.

— Так і на той раз адбылося. Аднекуль ворагі прыйшлі-наскочылі і давай наш край рабаваць. Палілі, людзей білі, бо намнога болей войска мелі і нечакана прыскочылі, не змаглі тубыльцы адпаведнай сустрэчы ім наладзіць. Можа, з месяц, а то і болей беспакарана сябе адчувалі чужынцы. А што ж ты зробіш, калі і супрацьстаяць ім не было каму? Сіла ў іх незлічоная была. Сталі лагерам і навокал адно свае атрады распускалі, каб плюндравалі ўсё, каб вынішчалі паселішчы і гарады. Дым чорны неба завалок, ■ галасы птушак ды звонкі смех дзяцей змяніліся на адчайны крык-стогн дарослых ды плач немаўлят, якіх таксама не шкадавалі.

— Бачыш ты, — са скрухай у голасе вымавіў нехта з прысутных.

Церах адно толькі галавой павёў і далей, як ні ў чым не было, працягваў:

— Ворагі тыя ўжо і не чакалі, што на іх нейкая сіла скінецца. Беспакаранымі збіраліся пайсці адсюль, ды зусім па-іншаму меркавалі мясцовыя салдаты, якія тады якраз былі далекавата ад гэтых мясцін. Пакуль яны прыехалі сюды, пакуль высачылі ворага, то прайшло яшчэ пару тыдняў. І ўсё ж яны збіраліся даць бой. Галоўны камандзір і кажа на сваіх воінаў:

— Трэба разведаць добра, што навокал робіцца, рызыкаваць нельга. Калі не пралічым усяго наперад, то можам жыццямі паплаціцца.

Тут стары, але яшчэ моцны, нібы смаляны корч, дзядзька выступіў наперад:

— Дазвольце мне.

Камандзір уважліва паглядзеў на салдата і сказаў:

— А што, у нас маладзейшых няма?

— Ёсць.

— Чаму ж ты ўперад ідзеш?

— Маладыя яны, гарачыя.

— Ну, гэта на вайне даруецца.

— Так, але тая ж самая вайна памылак не даруе.

— І гэта праўда. Але адзін не пойдзеш— задача надта складаная. Бяры яшчэ каго з салдат.

— Добра, — пагадзіўся стары ваяр, — толькі ■ сам сабе памочніка выберу.

Праз пару хвілін побач са старым воем стаялі два зусім маладыя салдаты.

Пайшлі тыя тры разведчыкі, а войска засталося. Час цягнуўся марудна. А разведчыкі, задачу выканаўшы, збіраліся назад. І вось тут ім не пашанцавала: напароліся, відаць, на варожую выведку. Адступаць не было куды, таму схапіліся біцца. Ворагаў болей было, але і нашы адчайна трымаліся. Ды ў адзін момант чужынец падкраўся да самага хвацкага ваякі, які адзін за траіх вострай шабляй адмахваўся, і секануў яго ззаду па шыі. Зляцела галава з плячэй і пакацілася. Коціцца па траве, росіць яе гарачай крывёй і яшчэ прамаўляе ў апошні раз: «Хацень, мая галава. Хацень, мілая».

— Гэта ж трэба... — мовіў нехта з сялян.

— З таго часу, — працягваў Церах, нібы і не чуў голаса, — хто на тое месца прыйдзе, шчыра там памоліцца і памяне добрым словам слаўнага героя, то ў адказ абавязкова пачуе: «Хацень, мая галава. Хацень, мілая».

Усталявалася цішыня, потым нехта прамовіў:

— Церах, а скажы, братка, як жа тая бітва завяршылася?

— А хіба я вам гэтага ніколі не распавядаў?

— Ды не...

— Перамаглі нашы, хоць і нялёгка ім перамога далася. Многа людзей было пабіта, ■ яшчэ болей — пакалечана.

Такі чалавек быў Церах. Працаваць не любіў дазвання. Ажно перакрывіць яго ўсяго пры чутцы, што недзе трэба будзе напнуцца, а вось языком мянташыць — тут зусім іншая справа. І, што самае галоўнае, жонка ў яго такая ж была. Людзі нават жартавалі:

— Ну два боты, дый толькі. Прычым і не адрозніш, дзе левы, а дзе правы.

— Відаць, доўга яны сабе пару выбіралі?

— Ды не, людзі кажуць, што жонка яго спачатку надзіва працавітая была. Ад яго навучылася ўсялякай ляноце ды былічкамі час марнаваць. Спадабалася, а зараз самі бачыце, што робіцца.

— Вось табе і Церах з Церахоўкаю...

Але аднаго разу здарылася гісторыя, якая прымусіла двух лайдакоў — мужа і жонку — узяцца за розум і жыць так, як і ўсе астатнія людзі.

Справа ў тым, што ў іх была дачка. Ды ўрадзілася яна не ў матулю і, ведама ж, не ў бацьку — працавітая, кемлівая, спагадлівая. На ёй, уласна кажучы, і трымалася ўся гаспадарка.

Сорамна ёй было перад людзьмі, неаднойчы яна дакарала бацькоў:

— Ва ўсіх бацькі як бацькі, а ў мяне лайдакі, якіх свет не бачыў!

— Ды як ты можаш на нас такое гаварыць? — злаваўся Церах.

— А што мне рабіць застаецца? Усе людзі смяюцца з мяне.

— Чаму?

— Таму, што вы толькі пляткарыце, а працы ніякай не робіце. Усё на мне адной вісіць. Думаеце мне лёгка?

Вось і вырашыла дзяўчына паспрабаваць перайначыць бацьку ды маці. А сябравала яна з хлопцам, да яго і звярнулася за дапамогай.

Дагаварыліся яны, што хлапчына з сябрамі вечарам падыдзе да іхняй хаціны і будзе чакаць умоўнага знаку.

Увечары, пагаманіўшы ў чарговы раз з бацькамі і пераканаўшыся у тым, што ніякія доказы на іх не дзейнічаюць, яна і кажа са злосці:

— Не хачу болей з вамі сварыцца. Хай мяне чэрці ад вас забяруць. Не хачу болей на такіх лайдакоў глядзець, не жадаю, каб з мяне вяскоўцы смяяліся ды пальцамі пастаянна торкалі, што я ваша дачка.

— Не хочаш, то і не трэба.

— Няхай мяне нячысцікі ад вас забяруць! — усклікнула дачка.

— Ды што ты, дурніца? — усхапіўся Церах.

Ды позна было. Загрукацела ў сцены, загуло, затрашчала, заскавытала, заскуголіла нешта на вуліцы, і пачуліся даволі выразныя і надта жудасныя галасы:

— Дзе тут тая дзяўчына, што з намі пайсці хоча?!

— Дзе яна?!

— Аддавайце!

— Выпускайце, ёй з намі лепей будзе, чым з вамі — лайдакамі!

Пералякаліся гаспадар з гаспадыняй, не ведалі, што рабіць, а дзяўчына пабялела ўся, таксама, відаць, пералякалася. Тады ж верылі, што калі да нячыстай сілы вырашыў падацца, то ад яе вяртання назад ужо не будзе.

Загарлаў Церах:

— Не аддамо! Не аддамо дачушку!

— Забяром!

— Не! Выкуп бярыце, а яе пакіньце!

За сцяной прыціхлі, і праз некалькі хвілін пачулася:

— А што з вас, лайдакоў, возьмеш?

— А мы... А мы... Працаваць будзем! — выпаліў гаспадар.

— Згода. Толькі калі мы праверым і ты сваё слова парушыш, дык усё роўна дачку забяром!

Нібы хто адгаварыў лайдакоў пасля таго вечара. Пераменіліся і неўзабаве такімі гаспадарамі сталі, што людзі зайздросцілі і прымаўлялі:

— Жывуць, як Церах з Церахоўкай.

Гэта азначала — добра жывуць, заможна. Потым той хутар і сталі зваць Церахоўкай, ды так на многія гады і засталося.

## ЖГУНЬ

У даўнія часы кожны жыў так, як яму дазвалялі ягоныя магчымасці. Калі, напрыклад, чалавек быў майстравіты, то ўсё ішло як па маслу і сям'я адносілася да заможных. Ведама ж, гаспадар мог і тое сам зрабіць, і тое выправіць. Сам — дык нікому плаціць не трэба, упрошваць, схіляцца ды ласкава ў вочы зыркаць. Адным словам — сам сабе гаспадар. Яшчэ, праўда, многае залежала ад таго, які быў мясцовы пан. Здаралася, што чалавек рваўся, начамі не спаў, з апошніх сіл выжыльваўся, а да парадку ўласную гаспадарку прывесці не мог.

Так і ў нас тут адзін селянін ніяк не мог на ногі стаць. Біўся, біўся, а нічога добрага не атрымлівалася.

Не хацеў ён дзецям сваім такой жа долі, вырашыў, хай якімі рамёствамі займаюцца, толькі не на зямлі працуюць. Так і стаў старэйшы яго сын купцом. Гандаль спраўна ішоў, і сталі яны багацець. Але здарылася бяда.

Тут адно месца ў нас называлася Караблішча. Паводле народных паданняў, там некалі было надта вялікае возера, як мора сапраўднае. Па ім нават плавалі вялікія чаўны і караблі. Вось хітры купец вырашыў і тут выйграць. Падумаў, падумаў, у засені дрэў седзячы, і кажа бацьку:

— Тата, я тут нешта прыдумаў...

— Кажы, сынку. Ведаю, што дарма гаманіць не будзеш.

— Мы зараз тавары возім па сушы, на вазах. Вось я і думаю, чаму б нам не выкарыстаць ваду?..

— Як гэта?

— Чуў я, што ў вялікіх морах грузы ўсе на караблях перавозяць.

— Не разумею, сынку.

— Ды ўсё проста, тата. То мы па беразе вакол возера ўсё перавозілі, а то напрасцяк станем тавары дастаўляць.

Наколькі час скароцім! Разумееш? Не адзін раз можна будзе тавары завезці, а некалькі.

— Добра задумаў, сынку, добра, — пахваліў бацька.

— Заўтра ж загадаю ўсё так і рабіць.

— Давай, ты ў гэтай справе гаспадар.

Прайшла ноч, і пачалі людзі нанятыя будаваць вялікія чаўны ды караблі, каб на іх тавары ўсялякія перавозіць. І пайшла справа. Цяпер ужо селянін той з-за разумнага сына столькі прыбытку меў, што і пералічыць не мог, бо граматы такой вялікай не меў. Радаваліся родныя, радаваўся і сам купец. Хлапчына як пайшоў угору, дык пачаў пра жонку марыць. Неўзабаве знайшоў сабе і дзяўчыну. Вырашылі ўвосень вяселле згуляць.

З радасці, што ўсё так добра атрымліваецца, вырашыў купец паплысці паглядзець, як работнікі працуюць, ці не марнуюць час дзе. Не выключана ж, што можна будзе і больш спорна на чаўнах ды на караблях з месца на месца перабірацца.

— Навошта табе, сынку, так ужо турбавацца? — пачалі адгаворваць бацька з маці. — Работнікі ж таксама людзі. Я зусім яшчэ нядаўна ўсё сам рабіў, надрываўся, і дапамогі мне не было ад каго чакаць. Добра, што ты ў мяне такі кемлівы ды разумны ўрадзіўся, то хоць старасць у спакоі ды ў дастатку пражывём. Дзякуючы табе і братоў тваіх ды сясцёр на ногі паставім.

— Усё ж паплыву, — заўпарціўся сын, — каханую сваю вазьму.

— Гэта іншая справа, — супакоіліся бацькі. — Толькі сцеражыся, каб якая бура-навальніца не ўсхадзілася, бо мала што можа здарыцца. Сам жа ведаеш.

— Ды чаго там палохацца? Колькі ўжо мае людзі плаваюць — ніколі нічога страшнага не здарылася.

— І такое бывае, што ўсім добра, а аднаму потым блага. Нам жа таксама пра такое і думаць не хочацца, перасцерагаем на ўсялякі выпадак.

— Не перажывайце дарма, буду сцерагчыся, каб вы не хваляваліся.

Сабраў людзей, нагрузілі яны ў караблі тавараў усялякіх, паклікаў дзяўчыну, і паплылі. Недзе толькі паўдня прайшло, як усё неба завалакло такой чорнай ды груваткай хмарай, якой, можа, і ў дзвесце гадоў не бывае. Забегала па падворку матуля, не знаходзіў сабе спакою бацька. А возера тым часам пачало ўздымаць вялізныя хвалі. Як пойдуць яны да берага, то на сотню сажняў за кожным новым ра-

зам усё змываюць. Пачулася гаспадарам, нібыта нехта крычыць у той воднай прасторы, але колькі болей ні ўслухоўваліся — нічога не пачулі. Яшчэ б, так раўло і стагнала возера!

Сталі на калені перад абразамі і давай шчыра маліцца. Усіх дзяцей сваіх поруч паставілі, каб і яны Усявышняга прасілі засцерагчы іхняга сына з людзьмі, каб усё і на гэты раз абышлося. Маліліся, пакуль ад стомы не пападалі.

А бура не заціхала. Ужо на беразе, нібы пёркі, узляталі ў паветра таўшчэразныя дрэвы, рушыліся будынкі...

Толькі праз трое сутак утаймавалася бура-навальніца. Выйшла і стала прыграваць сонца, па-ранейшаму заспявалі-зашчабяталі птушкі. Магло падацца, што ў прыродзе нічога благога перад гэтым не здарылася, калі б не шматлікія стогны-плачы людзей, якія аплаквалі загінуўшых.

Гаспадар з гаспадыняй таксама чакалі сына-купца, па-ранейшаму маліліся і спадзяваліся на лепшае. Ды не было іхняй надзеі. Тады закрычала ў адчаі матуля:

— Каб жа ты правалілася скрозь зямлю! Каб з цябе вады ніколі людзі не пілі!

Так і здарылася, возера тое стала маленькім, як капытца, а з яго пацякла рачулка. Калі хто хацеў напіцца, то адразу ж адхістваўся, бо вада джаліла, як пчолы. Так і назва ў яе дзіўная з'явілася — Жгунь, значыцца, пячэцца. Потым на беразе вёсачка невялічкая з'явілася ды таксама Жгунню стала.

## КРУГАЎКА

Жылі-былі два вяскоўцы. Аднаго звалі Пятром, а другога — Фёдарам. Абодва працавітыя, ніколі дарма хвіліны не пасядзяць без справы, усё гнуцца і гнуцца ў полі ці на лузе.

Усё суседзі разам рабілі. Калі, здаралася, нехта з іх адставаў, то другі абавязкова дапамагаў, не пакідаў сябрука ззаду. Усё, ды не ўсё, аказалася. Была ў іх адна таямнічая справа, якую кожны выконваў сам па сабе, не азіраючыся па баках. А справа тая заключалася вось у чым. Даўней жа абавязкова ў царкву хадзілі, не тое, што зараз, калі захочацца ці калі патрэба нейкая прыпрэ да сцяны. Тады ж не. Як толькі якое свята ці прысвятак, то людзі мыліся і, кінуўшы ўсё, кіравалі памаліцца ў царкву. Ніхто дома не заставаўся, каб не саграшыць. Старыя ды малыя — іншая справа. Ды і старыя, асабліва тыя, якія яшчэ маглі на сваіх нагах хадзіць,

абавязкова сунуліся ў бок царквы. Хацелася і ім грахі замаліць, а можа, і такое не выключана, проста людзей пабачыць новых ды з імі пагаманіць ці напаткаць старых знаёмых, да якіх усё не хапала часу і магчымасцей схадзіць у будзённы дзень.

Вось Пятро працуе, працуе, пабачыць, што сонейка ўжо на надвячорак паказвае, тады хуценька кіруе ў хаціну, мыецца, пераапранаецца і подбегам да царквы, бо яго хатнія ўсе ўжо раней рушылі. Там шчыра адмоліцца і назад ужо разам з усімі вяртаецца. І гэтак ніводнага свята ці прысвятка не прапусціў, ніколі не спазніўся.

— Дзякуй Богу, усё ў нас вядзецца, усё ў нас удаецца, — скажа задаволены Пятро.

— Ага, дзякуй Богу, — падтрымае яго жонка, якой добра жылося з такім працавітым мужам.

Дзеці іхнія асаблівых цяжкасцей не ведалі, бо бацька на сябе асноўную працу ўскладваў, а ім заставалася толькі ззаду падбіраць ды тое завяршаць, што ён не паспеў ці для іх спецыяльна пакінуў. І яны свае галасы танюткія далучаюць:

— Дзякуй Богу, што нам дапамагае, ды ва ўсім спачувае.

Зусім па-іншаму ішла справа ў Фёдара. У полі то ўсё добра выходзіла, і ў сусеках усяго ставала, а вось з царквой... З царквой у яго не надта добра атрымлівалася. Ведаў чалавек і пра свята, і пра тое, што з раніцы ўсе пойдуць у царкву, бацюшка будзе малебен служыць, што цэлы дзень людзі стануць Усявышняга ўхваляць. Ягоныя жонка ды дзеці хадзілі, не прапускалі ніводнай службы. Гаспадыня і на Фёдара гаварыла:

— Пайшлі з намі. Свечку-другую паставіш. Працы ўсяе не пераробіш, пайшлі, няма чаго аднаму заставацца.

— Зараз, — пагаджаўся Фёдар, — зараз. Вы мяне не чакайце, ідзіце да царквы, я вас даганю.

Жонка з дзецьмі пойдзе, а Фёдар прысядзе на хвілінку, каб дух перавесці і пачаць збірацца. Ды як сядзе, то нібы прыкіпіць да бервяна, на якім любіў адпачываць. Здаецца яму, што нехта перапыняе яго:

— Не ідзі, гаспадар, не ідзі.

— Чаму гэта?

— А што ж ты там рабіць будзеш?

— Маліцца, як і астатнія людзі.

— Толку з гэтага.

— А што, нічога добрага не атрымаецца?

— Якое там добрае? Яшчэ болей натомішся — не заснеш.

— Але ж усе вытрымліваюць?

— То ўсе, а гэта ты.

— Дык ніякай жа розніцы няма.

— Ёсць. Яны працаваць не надта любяць, а ў цябе вунь як атрымліваецца.

— У Пятра не хужэй выходзіць, а ён і ў царкву яшчэ паспявае.

— І нічога ён з гэтага не мае.

Фёдар злаваў на свайго нябачнага суразмоўцу, сядзеў яшчэ колькі часу, гаманіў сам з сабой і... не ішоў у царкву. Гаспадыня сварылася, ды што толку?

Вырашыў тады вясковец расказаць суседу, што з ім нейкі цуд адбываецца. Выслухаў Пятро і адказвае:

— А ты калі сабраўся ісці, то ідзі, не звяртай увагі на тое, што нехта цябе не пускае. Сабяры волю ў кулак і кіруй у царкву.

— А атрымаецца?

— Павінна, бо гэта цябе нячысцікі не пускаюць.

— Вось як?..

— Ага. Адзін раз іх пераможаш, то ўсё пойдзе нармальна.

У наступную суботу сабраўся Фёдар ісці. Ужо і пераапрануўся, але як сеў на бервяно, то пачало яго зноў нешта ўтрымліваць. Рвануўся ён з усяе сілы і пакрочыў з падворка. Радасна чалавеку стала, што адарваўся нарэшце ад нячысцікаў. Дайшоў да бярозкі і азірнуўся. Як азірнуўся, то зразумеў, што весяліцца не было з чаго, бо павялі яго тыя нячысцікі па колу. Хадзіў, хадзіў, знясілеў зусім, але яшчэ трымаўся і кіраваў усё на царкву. Потым упаў і памёр. Людзі ў памяць таго чалавека, які ад нячысцікаў хацеў усё ж вырвацца, крыж паставілі. Пазней там будаваць хаціны пачалі, ■ паселішча назвалі Кругаўкай, таму што Фёдара там нячыстая вадзіла.

## КУЗЬМІНІЧЫ

Гавораць, што ў даўнейшыя часы надта ва ўсялякіх нячысцікаў верылі, гаманілі сур'ёзна, перашэптваліся, бо баяліся, каб яны гневацца не ўздумалі, каб не пачулі, каб не накінулася якая бядота на сям'ю, а то і на паселішча, таму абавязкова яшчэ і папярэджвалі:

— Глядзі ж, табе сказалі, а ты языком не надта пляскай.

— Чаму?

— Нельга, і ўсё на тым.

— Маглі б і растлумачыць.

— Баімся, каб на паселішча які паморак нячысцікі не наслалі ці яшчэ якую бядоту.

— Вось цяпер і мне зразумела.

Але здаралася, тыя здані забіраліся і ў хаціны ці пад будынінамі цярпліва чакалі сваёй ахвяры, і калі яна паказвалася, то ўжо не губляліся.

Казалі, што з-за аднаго такога выпадку і вёску нашу менавіта так назвалі. А вось як усё адбылося.

Жыў-быў вясковец, і звалі яго проста — Кузьма. Спакойны чалавек удаўся, ніколі нікога не пакрыўдзіў, нікому слова крыўднага не сказаў. Затое ягонай сціпласцю і сарамлівасцю карысталіся іншыя. Як чалавека толькі ні лаялі, ён увагі стараўся не звяртаць. Нават жонка родная дапякала — гаспадар маўчаў.

Але аднаго разу бачыць, што не адчэпіцца злая жанчына і не дачакаецца ён вячэры, плюнуў тады са злосці, устаў і выйшаў на падворак. А там цішыня такая незвычайная, здаецца, даўно такой не чуў. Сеў пад старую грушу і задумаўся. Прыгадалася дзяцінства, бацькі, якіх даўно не было, сястрычкі і браты, якія памерлі маленькімі. Неяк непрыкметна і задрамаў Кузьма ды зваліўся на мяккі мурог, які стаў яму мякчэйшым за пярыну. Спіць гаротны селянін і гора сабе, хоць у сне, не ведае. Так і ляжаў ды смачна пахропваў. Але летняя ночка кароткая. Толькі задрамаў, а ўжо певень крыламі заляскаў ды закукарэкаў голасна. Ускінуў галаву Кузьма і весела сам сабе прашаптаў: «Ну і адпачыў, як даўно ўжо не спаў. Ніхто не крыўдзіў, ніхто не катурхаў, ніхто спаць не перашкаджаў».

Устаў, пацягнуўся і здзівіўся: не еў з вечара, а і раніцай есці не хацелася. Вырашыў гумно перакрыць, каб нікога не прасіць дапамагаць. Кузьма яшчэ зараней напрыносіў туды ўсялякага прычындалля, і цяпер можна было працаваць. Падаўся да будыніны, пастаяў у сярэдзіне, паглядзеў, дзе найболей трэба пашчыраваць, і палез наверх. Працуе сабе і пасвістае пад нос. Спорыцца работа, ніхто над душой не стаіць — гэта самае галоўнае. Толькі так падумаў, як знізу данеслася:

— І дзе ж гэта той нядбайнік?!

— Хто там? — запытаўся селянін.

— А, вось ён! Яшчэ і пытаецца!

— Ды не гырчы ты, пакажыся на вочы.

— Я не сабака, каб на цябе гыркаць!

— А я не кот, каб цябе палохацца.

На гэтыя словы з-за вугла паказалася злосная суседка.

— Што ты нарабіў, лайдак?!

— Дзе?
— Паглядзі на другі бок.
— Ну.
— Нічога не бачыш?! Каб жа табе вочы павылазілі!
— Няхай і табе павылазяць.
— Твае ж снапы на мае каноплі ўпалі.
— То [redacted] ж не хацеў.
— А мне што ад гэтага — лягчэй?!
— Не крычы, зараз [redacted] злезу і здыму тыя няшчасныя снапы, а каноплі набяруцца сілы і выправяцца.
— Не выправяцца яны, я табе гавару!
— Ды нічога, дурная, ты мне за гэта не зробіш, хоць у суд падавай, — паспрабаваў было зазлавацца Кузьма і ажно здзівіўся, бо атрымалася.
— Я на суд падаваць не стану, я з табой сама разбяруся! — пракрычала злая суседка і пайшла прэч, толькі спадніца зашалёсткала па закарэлых лытках.
Кузьма хацеў было яшчэ што крыкнуць, але вырашыў не чапаць дурніцу, каб назад не задумала прыйсці.
Недзе праз тыдзень паехаў Кузьма на млын, каб зерне змалоць. Справа перад вечарам была, бо да яго трэба было далёка ехаць, і збіраліся на ноч, каб час дарма не траціць. Ехаў сабе спакойненька, нічога бяды не прадказвала, нават песню зацягнуў:

Ой, зайдзі ты, месяц, зайдзі, ясны,
Ой, зайдзі, вячэрняя зара.
Прыбудзь, прыбудзь, прыўдалы малойчык,
У госці да мяне.
Ой, вып'ем, прыўдалы малойчык,
Па румачцы віна.
Было табе, прыўдалы малойчык,
Трох румак не піць...

Не даспяваў Кузьма песню, спераду нешта трэснула, і конь стаў як укопаны. Гаспадар туды — а там гуж на хамуце парваўся. Зняў ён хамут і сабе на шыю павесіў, каб больш спрытна было запрагаць жывёліну. Як павесіў, то адчуў, што з ім нешта не тое робіцца, [redacted] праз нейкае імгненне конь дзіка заржаў і паімчаў ад яго. Зірнуў сабе на рукі і злякаўся: яны парaслі густой поўсцю. Здагадаўся тут Кузьма, што стаў ваўкалакам. Не было для яго таямніцай і тое, чыіх рук гэта справа. Хацеў крыкнуць, ды з грудзей вырваўся толькі воўчы рык. Так і бегаў няшчасны ваўкалак па тутэйшым наваколлі. Не раз, не два яго людзі бачылі, але казалі звычайна:

— Гэта не воўк, а ваўкалак. Такі бяды не чыніць. Ён сам няшчасны.

Сяляне не чэпілі, дык злапамятная суседка са свету звяла. Падкупіла паляўнічага і сказала, каб забіў воўка, які блізка ад паселішча бегае. Той і падсцярог, калі ваўкалак да хацін выбег. Стрэліў і падбег да воўка, а там чалавек нерухомы ляжаў. Усе небараку Кузьму пазналі. Так пасля і вёску назвалі — Кузьмінічы. Яшчэ нядаўна гэта паданне ўсе пераказвалі.

## ЛАГУНЫ

Ішоў неяк салдат са службы дамоў. Даўно гэта было, а тады ж служылі памногу. Як пойдзе маладзенькім, дык назад вяртаецца старым ды скалечаным, і то далёка не ва ўсіх выпадках, а калі пашанцуе ўратавацца ад варожай кулі ды штыка. Не ведае, ці выжылі родныя, ці дачакалася жонка з дзецьмі, калі па белым свеце не разышліся. Вось такія думы стаялі ў галаве служывага. Але выгляду чалавек не паказваў, што маркоціцца, што яму плакаць хочацца. Наадварот, весела пазіраў на ўсё тое, што навокал рабілася. Сустрэчныя зайздросцілі, прама так і гаварылі:

— Вось каму добра жывецца.

— Ведама што.

— Ідзе сабе, разапрануты, падцягнуты.

— Нічога неадкладнага рабіць не трэба.

— І пан над душой не стаіць.

— Ён і сам як пан выглядае.

Салдат падыдзе, павітаецца і запытаецца абавязкова:

— Як жывяце, людзі добрыя?

— А так.

— Як гэта?

— Ды і добра, і дрэнна.

— Зразумела, значыцца, як мой шынялёк: і грэе, і не надта.

Вось так і цягнулася для яго далёкая дарога. А вяртаўся ён некуды на Палессе. Аднаго вечара падышоў да хутара, зайшоў на падворак і па звычцы гукае:

— Гаспадарыку!

Ажно з хаціны данеслася:

— Хто там?

— Я салдат, дамоў іду-дабіраюся, прашу ў цябе дазволу пераначаваць.

— То заходзь у хату, тут і пагамонім.

Зайшоў салдат, павітаўся.

— Вечар добры, служывы. Сядай да стала, падсілкуйся, бо якраз старая вячэру на стол паставіла. Потым пра астатняе пагамонім.

— Ды еў я.

— Я і не сумняваюся. Толькі вось калі ты, сынку, еў, учора ці сёння, і не пытаюся.

Усміхнуўся салдат:

— Яно і праўда, бацька.

Перакусілі, падзякаваў падарожны і кажа:

— А што гэта ў вас так сумна ў хаце?

— Радавацца асабліва няма чаму.

— Што, прычына нейкая ёсць?

— Ёсць.

— У чым яна заключаецца?

— Была і ў нас сям'я вялікая ды дружная, але час ідзе, дзеці замуж павыходзілі, пажаніліся. Засталіся мы ўдваіх.

— Жыццё, бацька, такая рэч, — што прадказаць нічога нельга.

— Каб жа толькі жыццё...

— А што яшчэ?

Тут умяшалася старэнькая гаспадыня, якая, прыбраўшы са стала, таксама прысела паслухаць, пра што мужчыны гаманіць стануць:

— Нейкая зараза да нас убілася.

— Зараза? Адкуль жа яна ў вас узялася, калі вы ўдваіх жывяце?

— То, можа, я не так сказала?

Гаспадар узяўся больш падрабязна тлумачыць:

— Яно-то на заразу і падобна, бо кожную ноч спаць нам не дае. А гэта ж хужэй за хваробу. У нас і так сілы нестае, а тут яшчэ і адпачываць не можам.

— То чаму ж вы трываеце гэткія пакуты?

— Бо не ведаем, як ад яе пазбавіцца.

— Вось яно што. І дзе гэта ў вас здараецца?

— Прама ў хаце. Яна ў нас, сам бачыш, на дзве палавіны. Тут, за сталом, займаемся рознымі справамі, а там, у другой палавіне, спаць кладземся.

— Значыцца, тая зараза там найболей і даймае?

— Так.

— Трэба паспрабаваць ад яе вызваліцца.

— Каб жа мы ўмелі.

— Давайце я паспрабую?

— Бога за цябе маліць, сынку, будзем, — бухнуліся на калені гаспадары.

— Што гэта вы? Я ж не пан які, каб перада мной на калені станавіцца.

— Знясілелі мы зусім. Не ведаем, як жыць далей.

— Я вам і за так дапамагу. Лягайце вы ў гэтай палавіне, а я там лягу. Калі што пачуеце ці ўбачыце, то маўчыце, быццам вас тут няма, не ўмешвайцеся. Паспрабую сам справіцца.

— Каб жа цябе жыцця не пазбавіла тая зараза...

— Не бойцеся.

Ляглі спаць. Салдат дастаў сваю люлечку, закурыў і ляжыць, чакае, калі тая істота невядомая яго палохаць ды спаць перашкаджаць стане. Бачыць, што заснуць можа, то ўстаў, запаліў лучынку, сеў перад люстрам і давай галіцца. Водзіць брытвай па твары, але не забывае і пра асцярожнасць. Ажно бачыць — выглядвае з-за печы нейкая дзіўная істота. Зірнуў добра і ўсміхнуўся, бо гэта быў нячысцік, чорт. Той, як убачыў, што служывы яго заўважыў, выскачыў з-за печы і падышоў да салдата. Стаў побач і важна гэтак пытаецца:

— А мяне ты можаш такім маладым зрабіць, як сябе?

— Чаму ж не.

— То зрабі.

— Ды для цябе асаблівае прычындалле шукаць трэба.

— Скажы, якое, усё дастану і прынясу.

— Мыла пару кавалкаў, бо ў цябе ж усё поўсцю парасло, серп і вяроўку. Мая брытва цябе не возьме, сярпом трэба галіць.

— Толькі і бяды? Я зараз. А як жа цябе, салдат, завуць? Хачу потым аддзячыць цябе.

— Лагуном у войску клікалі.

— То добра, пару хвілін пачакай, [redacted] за прычындаллем да братоў сваіх скокну. Паголіш, тады і пра плату дамовімся.

Не прайшло і некалькі хвілін, як заявіўся нячысцік.

— Кладзіся на лаву, [redacted] цябе прыкручу, каб раўней галіць было, — загадаў салдат.

Чорт усё выконваў моўчкі, толькі павіскваў ад задавальнення, што прыгожым і маладым неўзабаве стане.

Прывязаў салдат нячысціка да лавы, разрабіў у чыгуне мыла, узяў венік і давай чорта мыліць. Намыліўшы, ухапіў спрытна серп і давай чортаву поўсць скрэбці, ажно скура адрываецца. Чалавек скрабе, а нячысцік вые не сваім голасам і просіцца:

— Салдаціку, даражэнькі, адпусці!.. Не хачу болей маладым быць!..

— Ды не. Калі ўзяўся, то справу да канца давяду.

Чорт зноў:

— Адпусці!..

— Будзеш ведаць, як старых людзей палохаць.

— Не буду! Ніколі болей такога рабіць не буду! Толькі жывым адпусці!

— Пачакай яшчэ, ■ на пузе табе добра пагалю, бо валаснёй увесь зарос.

Аскроб яго дачыста, толькі косці засталіся, развязаў вяроўку і загадаў:

— А цяпер — каб і духу твайго тут не было!

Чорт як бухнуў у комін — толькі сажа пасыпалася ды на падворку нешта загуло-завыла, ды сабакі забрахалі.

Раніцай гаспадары дзякавалі свайму вызваліцелю, а потым гаспадар папрасіў:

— Можа, заставайся з намі? Табе весялей будзе, а нам смялей...

Паслухаўся служывы і застаўся. Так і пайшлі з таго часу Лагуны — ад Лагуна.

# ПЕРАРОСТ

Жыў некалі, даўным-даўно, адзін гаспадар, і было ў яго тры сыны. Два працавітыя, кемлівыя, усё ў іхніх руках гарыць, ■ трэці лайдаком урадзіўся. Нельга сказаць, што гэты сын кемлівасцю не вызначаўся, хутчэй наадварот, такое прыдумае, такое выкруціць, абы толькі не працаваць. Збірае іх бацька, напрыклад, з вечара і кажа:

— Заўтра, хлопцы, паедзем араць.

Старэйшыя браты ў адзін голас:

— Самая часіна.

Малодшы ж маўчыць. Гаспадар тады да яго звяртаецца:

— Што ты маўчыш, Мітрык?

— Мне здаецца, што яшчэ ранавата.

— Чаму гэта?

— Бо птушкі ўсе не прыляцелі. Зямля, значыцца, халодная.

Васіль, самы старэйшы з братоў, не вытрымлівае і кпіў:

— Ужо птушкі хутка ў вырай паляцяць, ■ ў цябе яны яшчэ ўвогуле не прылятаті.

Бацька змаўкаў, пра нешта думаў, а потым азываўся:

— І ў каго ты такі ўрадзіўся?

Мітрык рабіў выгляд, быццам нічога не разумеў:

— Хто, тата?

— Ды ты, лайдача!

Сярэдні, Піліп, нібыта ўшчуваў яму:

— Так, не шанцуе табе, бедалазе. Усе працаваць, [redacted] ты за птушкамі сачыць. Табе б яшчэ ў сарочцы з суседскімі малымі бегаць.

— Вось там ён за старэйшага быў бы, і не стаміўся б, — паддакнуў Васіль.

Змітрык крутнуўся да брата:

— Лепей на сябе паглядзі. Зарос увесь, як нячысцік, не галіўся, можа, з тыдзень, увесь чорны ходзіш.

— Сапраўды, братка, — ашчэрыў зубы той. — Не маю часу сябе ў парадак прывесці. Таму паедзеш заўтра з Піліпам ты, а [redacted] дома застануся, як гэта ты звычайна робіш, ды пагалюся чыста, пераапрануся...

Але Піліп перабіў яго:

— Я лепей адзін працаваць буду, чым з гэтым лайдаком.

— Не ўправішся адзін, — запярэчыў Васіль, — там працы многа. А гэтага возьмеш, дык надта на яго не глядзі, прыпражы да коніка, і няхай разам плуг цягнуць. Падганяй, не лянуйся. Раз па коніку, два па Мітрыку. Работа спорна наперад рушыць. Не паспееш азірнуцца, як усю ніву ўзарэш.

— Каб жа так? І ўсё ж лепей сам паеду, чым з ім.

— Тады ўжо паедзем мы, няхай яго бацька якой іншай працай нагрузіць, не такой бруднай.

Бацька толькі слухаў, паводзіў вачыма з аднаго сына на другога, потым прыкрыкнуў:

— Ды хопіць вам! Усё роўна на яго гэта не ўздзейнічае!

— Нешта ж, тата, трэба рабіць, — сур'ёзна зазначыў Васіль, — ён жа нас усіх ганьбіць. Сорамна людзям у вочы зірнуць.

— А мне што, лягчэй? Ён жа такі мой сын, як і вы. Чаму ён такім стаў, не магу адказаць.

— Самы малодшы... Шкадавалі болей, а ён вунь якім вырас.

— Было што — і шкадавалі.

— Матуля жне, не разгінаецца, а гэтага дома пакідаеце за агародам сачыць. Нібыта яму дзесяць гадкоў, [redacted] не дваццаць. Да якога часу такое працягвацца будзе?!

— Васіль, не крычы.

— Не хачу болей на яго глядзець і...

— Не хочаш, дык адвярніся, — азваўся Мітрык.

— Ды я!..

— Супакойцеся, хлопцы, — зноў загадаў гаспадар. —

Калі яму ў поле птушкі не наканавалі яшчэ выходзіць, то няхай дома застаецца і матуліну працу робіць. Няхай хлеб спячэ, есці наварыць, потым жывёлу даглядзіць...

— Няхай, але толькі, тата, калі не зробіць усяго як мае быць, то на гэты раз мы яму ўжо не даруем. Мы таксама твае дзеці, і нам надакучыла за лайдака аддувацца.

— Добра, хлопцы, дамовіліся.

Васіль злосна паглядзеў на Мітрыка і прамовіў:

— Глядзі, бо на гэты раз і бацька не дапаможа. Чуў, што ён гаварыў?

Падаліся ўсе на працу, а дома адзін Мітрык застаўся. Задаволены, радасны, што не паехаў, бо там жа надрывацца трэба, а на падворку ды ў хаціне ён усю работу за гадзіну якую зробіць і потым сабе спакойненька паспіць. Самым складаным для гэтай «гаспадыні» ў мужчынскіх штанах аказалася замяшаць і расчыніць хлеб. Ды і тут справіўся. Сплюхаў усё ў дзяжу і задаволена падаўся да печы. Лёг, саладка пацягнуўся і прамовіў:

— Цяпер вы ў мяне атрымаеце, а не [redacted] ў вас! Усё дагледзеў як мае быць. Маці і тая цэлы дзень тупае ды па вечарах стогне, што цяжка, што ледзьве ўправілася, а [redacted] за нейкую гадзіну ўсё да ладу давёў.

Паляжаў і дадаў:

— Самі вы лайдакі!

Болей ужо нічога не гаварыў, бо захроп.

Час ішоў. Ужо і полудзень мінаў, а жывёла ў хляве някормленая, кароў пастух прыгнаў, [redacted] яны нядоеныя, [redacted] «гаспадыня» спала. Так да самай вячэрняй зоркі цягнулася. Прахапіўся Мітрык ад таго, што пачуў бацькаў голас:

— І дзе ж гэта яго нячысцікі носяць?!

Ускочыў і схіліўся над дзяжой з рошчынай, а тую ўсю выперла на падлогу.

— Ой, перарасло! Ой, перарост! — нібы затрызніў Мітрык.

Як убачылі гэта родныя, то бацька закрычаў, што рабіў надзвычай рэдка:

— Гэтага ніколі не дарую!

Ухапіў Мітрыка за каршэнь, а хлопцам загадаў:

— Дайце маю пугу сюды!

Як стаў свянціць лайдака, як стаў дубасіць, а той, ведама ж, верашчаць пачаў.

Браты стаялі ды параготвалі:

— Во, перарост дае ў хвост!

Так і сталі той куточак Перарастам клікаць, ад таго самага Мітрыка.



# ЕЛЬСК

Здарылася гэтая гісторыя ў даўнія часы. Жылі два браты — Лукаш ды Дзям'ян.Такія здаравенныя ўрадзіліся, што не кожны мядзведзь сам-насам мог з імі справіцца. Дзівіліся людзі гэткай сіле, а потым і пабойвацца пачалі. А здарылася наступнае. Пайшлі хлопцы з дзяўчатамі нейкае свята святкаваць. Раней жа яго не па хатах, як цяпер, адзначалі, а на беразе ракі ці возера. У нас возера прыгожае было. Вось сабралася моладзь і давай весяліцца. І тут нехта з прысутных незнарок штурхнуў Лукаша. Штуршок аказаўся нечаканым і даволі моцным — хлапчына грымнуўся на спіну. Мала гэтага, яшчэ ўмудрыўся і азадкам у вогнішча прысесці. Навокал зарагаталі:

— Глядзі, каб не засмылела!

— Паплюйце яму ніжэй спіны, каб не спяклося.

— Падтрымайце дзіцятка, бо яно само і на нагах не стаіць.

Каб жа ведалі, які гнеў абрынецца на іх з-за гэтых вясёлых ды задзірыстых слоў, дык ні за што не чапалі б Лукаша. Усхапіўся той з зямлі, крутнуўся на месцы, потым падскочыў да здаравеннага каменя, які ляжаў за пару крокаў, рыўком прыўзняў яго над галавой і, людзі нават апамятацца не паспелі, кінуў яго ў стаячых хлапцоў ды дзяўчат. Пачуўся крык болю, непаразумення, раздаўся трэск і хруст. Потым усё сціхла: прысутныя ў жаху глядзелі на дваіх

хлапцоў і дзяўчыну, якія толькі што былі жывымі і весяліліся разам з імі, а зараз распласталіся на зямлі. Свежая кроў выступала на святочным адзенні.

— Ой, яны ж нежывыя?! — пачулася здушанае.

Напружаная цішыня зноў запанавала над натоўпам. Потым нехта азваўся:

— Што ж ты нарабіў, ваўкалак?!

Лукаш стаяў збялелы і разгублены.

— Ды я...

— Ты вылюдак! Думаеш, калі здаровы, дык усё можна?

— За што людзей забіў?

— Як мы зараз іхнім бацькам паведамім?

— Давайце і яму галаву праломім! Смерць — за смерць. Няма чаго дараваць!

Натоўп ажыў і рушыў на Лукаша. Той стаяў на месцы, уцякаць, відаць, і не збіраўся. Сціснуў свае пудовыя кулакі і змрочна паглядваў перад сабой.

— Ну, хто першы?! Падыходзьце! Не бойцеся, вас жа многа, а я адзін. Пашанцуе, дык і пераможаце, але без бою а вам не здамся, не чакайце такога падарунка.

Хлопцы ішлі наперад. Пераглядваліся, нібы перамаўляліся, хто ж першы адважыцца ўдарыць асілка. Нарэшце адзін гэхнуў і скочыў на пару крокаў уперад.

— На!

Выгукнуў моцна, а вось ударыць не паспеў, бо Лукаш толькі варухнуў сваім кулаком, і той небарака, адарваўшыся ад зямлі, паляцеў прама на людзей, ды так і застаўся ляжаць на траве.

— Першы ёсць, — задаволена прамовіў здаравяка. — Ну, доўга буду другога чакаць?!

З натоўпу выскачылі некалькі дзяцюкоў з каламі ў руках і падскочылі да Лукаша. Пару разоў бомкнулі асілку па галаве, ды што яму такія ўдары? Яму каб добрай даўбешкай па мазгаўні ўгрэў, то, можа, пачуў бы, а так... Як пачаў ён ім здачы даваць, то хлопцы пасыпаліся ад крутых плячэй, што тыя гліняныя гаршкі з плоту, калі іх нехта калоціць.

— Ага, не падабаецца?

— Зараз і ты атрымаеш!

— Пакуль я, то вы ўжо атрымалі! — раззлавана крычаў Лукаш.

— Рана пахваляешся, бамбіза! Думаеш, як безабаронных забіў, то і мы так стаяць будзем?! Адплаціш ты нам за гэтыя жыцці!

— Толькі пагражаць вы і навучыліся, а болей з вас ніякага толку.

Хлопцы не адступалі. Праўда, яшчэ некалькі чалавек выцiраліся, адплёўваліся крывёй.

— Не весяліся, зараз мы цябе дастанем! — крыкнулі яны і кінуліся ўсе разам на асілка.

Не выратаваўся б ён на гэты раз, ды тут яму пашанцавала — раздаўся магутны крык:

— Што гэта тут робіцца?!

Лукаш ажывіўся:

— Дзям'ян, братка, выручай!

— А чаго гэта яны?!

— Потым раскажу, давай, бі іх!

— Так ужо і біць?!

— Яны ж мяне забіць сабраліся!

— Вось як?! Тады трымайцеся, дурні! Зараз вам мала не падасца!

Цяпер ужо два асілкі крушылі, калечылі, асабліва не прыглядаючыся, па чым траплялі.

Хлопцы не ўцякалі, але адпор іхні слабеў з кожнай хвілінай. Браты ж, наадварот, націскалі. Трава навокал уся была ў крыві. Нарэшце вясковыя хлопцы не вытрымалі і пабеглі. Браты не кінуліся наўздагон, бо і ім добра-такі перапала. Прыселі, і Дзям'ян запытаўся:

— Што ж тут здарылася?

— Яны да мяне біцца палезлі.

— Дык ты біцца з-за гэтага пачаў?

— Каб жа толькі біцца...

— А што яшчэ?

— Я ж дваіх хлапцоў і дзяўчыну... забіў.

— Як?

— Каменем.

— З-за чаго?

— З-за чаго, з-за чаго? — раззлавана перадражніў Лукаш. — Усё з-за смеху.

— Ой, што ж ты нарабіў?

— Няхай не лезуць, а то прызвычаіліся языкамі пляскаць, як апошнія смаркачы. Цяпер баяцца будуць.

— Не толькі баяцца... Нам цяпер дарога ў вёску адрэзана.

— Чаму гэта? У цябе што, сумлення хопіць іхнім бацькам у вочы глядзець? Ці зможаш ім растлумачыць, як, лічы, проста так забіў іхніх дзяцей?

— А навошта ім тлумачыць ці прабачэння ў іх прасіць? — здзівіўся Лукаш.

— Ты ўжо ўвогуле, брат, мяне злуеш, — не вытрымаў Дзям'ян.
— Не папросіш — то перастануць звяртацца за дапамогай, не будуць размаўляць. Гэта ж самае страшнае. Гэта ж чалавечая пагарда.
— Не было б большай бяды...
— Ты як сабе хочаш, а я ў вёску не вярнуся.
— А дзе ж ты жыць збіраешся?
— Пайду ў свет. Зямлі вольнай многа, дзе-небудзь прыстану. Рукі ў мяне ёсць, сілы пакуль што хапае.
— Не трэба так рабіць, Дзям'янка. Пайшлі ў вёску.
— Не.
— Баішся?
— Дурында. Не хачу, каб людзі намі пагарджалі, я ж табе ўжо растлумачыў.
— То, можа, і мне з табой падацца?
— Думай хутчэй, бо зараз сюды людзі прыйдуць. Не спалохаюцца нас, будуць помсціць пры зручным выпадку.
— Не будуць, бо я ім тады галовы паскручваю!
— Не скрыпі зубамі — сатрэш да каранёў, і не будзе чым жаваць.
— Усё роўна нікому і нічога не дарую!
— Тым болей няма чаго ў паселішча паказвацца.
— Як жа мы назад не вернемся?.. Тут жа нашы знаёмыя, нашы родныя.
— Няма цяпер у нас ні знаёмых, ні родных, адны ворагі засталіся. А мы для іх найпершыя ворагі. Таму няма чаго час марнаваць. Пакрочылі.
Браты ўсталі і пайшлі, прабіраючыся да густога лесу. Крочылі спорна. Часам сцішвалі хаду ды моршчыліся, усё ж сутычка з аднавяскоўцамі для іх бясследна не прайшла.
— Куды пойдзем?
— Трэба забірацца як мага глыбей у пушчу.
— Навошта?
— Самі сабе гаспадарамі будзем.
— Я наадварот думаю, — прамовіў Лукаш. — Не трэба забірацца ў глуш. Знайсці якое глухое месца — гэта правільна, але каб яно было як мага бліжэй да ажыўленай дарогі.
— Навошта?
— Няўжо не разумееш? Лепей падумай, дурная галава.
Дзям'ян і так прыкідваў, і гэтак — ні да чаго не мог дадумацца. Прайшоў вярсты дзве моўчкі, потым не вытрымаў:

— Не магу зразумець. Відаць, не з маім розумам да гэтага дайсці.

— Ды тут усё проста. Пабудуем утульны бярлог, каб яго ніхто і зблізку не мог заўважыць, і зажывём. А калі прыпасы канчацца будуць, то будзем выходзіць на дарогу.

— Рабаваць?

— Малайчына, нарэшце здагадаўся. Калі людзі ад нас адвярнуліся, то і мы да іх будзем адпаведным чынам адносіцца.

— Пачнем рабаваць, то яны хутка нас знойдуць.

— Не знойдуць.

— Ты такі ўпэўнены, Лукаш?

— А мы сведкаў пакідаць не будзем.

— Што, забіваць? Вось што ты задумаў...

— А хіба блага?

— Крывавая гэта справа.

— Ды мы сёння не так рукі ў крыві памачылі, а выжылі. Кожны жыве як можа.

Знайшлі браты прыдатную мясціну, выкапалі сабе бярлог, уцяплілі яго, нанасілі ўсялякіх прыпасаў і зажылі, бяды ды гора не ведаючы. Калі першы раз выйшлі на дарогу, то крыху ваганіся, забіваць ці не забіваць абрабаваных імі людзей, але потым, пераглянуўшыся, пазбавілі іх жыцця. Збаяліся, што ўкажуць да іх дарогу выпушчаныя імі ахвяры. Так слядоў і не пакідалі. Раз у тыдзень рэгулярна выходзілі на шлях і пільнавалі няшчасных людзей. У хуткім часе пра гэтыя мясціны папаўзлі жудасныя звесткі. Колькі людзей ні паехала — ні адзін не вярнуўся і да месца прызначэння не дабраўся.

Браты адчулі смак. Сумленне іх ужо не турбавала, забівалі спакойна, нібы гуляючы. Багацця ўсялякага назбіралі цэлую гару, золата-каштоўнасцей награблі столькі, што не ведалі, куды яго хаваць. Потым ужо і адзін аднаму давяраць перасталі. Ведама ж, грошы заўсёды сваю адмоўную справу робяць. Пачалі родныя браты варагаваць. Пералічвалі золата, перасыпалі яго і глядзелі, каб усё было на месцы, каб нічога, нават самай драбнічкі, не прапала.

Аднаго разу падалося Лукашу, што ў яго не хапае некалькіх залатовак, накінуўся на брата:

— Гэта ты ўзяў!

— Кінь дурное, — адмахнуўся той.

— Аддавай!

— Не браў я нічога! Няма ў мяне тваіх грошай!

Слова за слова, і ўхапіліся біцца. Рэзаліся не на жыццё,

а на смерць. Моцна параніліся, але не саступалі і не мірыліся. Потым ударамі нажоў адначасова нанеслі смяротныя раны і пападалі на скрываўленую зямлю. Так закончылася жыццё двух братоў, двух славутых разбойнікаў — Лукаша ды Дзям'яна.

А той самай дарогай ехаў бедны вясковец. Баяўся, што і яго перапыняць, паглядваў па баках. Раптам убачыў — у адным месцы крумкаччо лётае. Ён туды, а там два трупы і золата мноства вакол валяецца. Давай збіраць, і наткнуўся на галоўную схованку — у старой елцы. Дык і не паехаў далей, застаўся там жыць. Пабудаваўся, потым да яго людзі іншыя прысталі, ■ месца тое назвалі Ельскам, ад таго дрэва, якое так узбагаціла звычайнага чалавека.

## БУДКА

Раней у кожнага пана быў аканом. Дзе ж вы гэта бачылі, каб памешчык сам сваёй гаспадаркай займаўся? Рэдка такое здаралася.

Некалі і ў нашых мясцінах быў аканом. Звалі яго Іванам. Памешчык сам селяніна за аканома абраў. Прыйшоў неяк у паселішча разам са сваімі найбліжэйшымі слугамі і пытаецца:

— Хто ў вашай вёсцы старэйшы будзе?

Сяляне пачалі пераглядвацца, ціха перамаўляцца.

— Што, пытанне цяжкае?

— Ды не, пане, але добра падумаць трэба, каб не памыліцца.

— Думайце, думайце, бо і сапраўды да памылкі нядоўга.

Вяскоўцы балабоняць, нешта адзін аднаму даводзяць, рукамі размахваюць, а памешчык стаіць непадалёку і нецярпліва нагамі патупвае. Нарэшце адзін з сялян і кажа:

— Не можам зразумець, пане, хто ў нас старэйшы. Палова людзей кажа, што старая Агата, ■ другая палова сцвярджае, што Піліп. Ім абодвум ужо за сотню гадоў будзе.

Пан зарагатаў:

— Ну і дурні! Я ж не пра тое пытаўся!

— Як жа не пра тое. Адзін чалавек мог недачуць, але каб усе?..

— Я ж меў на ўвазе, што вы мне скажаце пра чалавека, самага паважанага.

— Вунь яно што... Тады мы параімся і зараз адкажам. А то, і на самай справе, старэйшага шукалі, а не паважанага.

— Думайце, ёлупні, я пакуль пахаджу, — па-філасофску зазначыў памешчык і, пасвістваючы, пакіраваў убок. За ім пасунуліся слугі.
Нарэшце нехта з сялян падскочыў да пана:
— Цяпер ужо дакладна адкажам.
— Дык хто ў вас самы паважаны ў вёсцы?
— Адзін толькі такі чалавек: Зміцер. Пастух.
— Пастух?
— Так, паночку.
— Але чаму менавіта ён?
— Бо мы ўсе яму кланяемся. Праўда, адзін толькі раз такое бывае, але тады ён над намі галава, і мы вымушаны ягоныя ўмовы выконваць.
— І калі ж гэта?
— Напрадвесні, калі кароў сваіх яму ў статак зганяем.
— Каб вы ўжо зусім павар'яцелі, дурні! — зазлаваў памешчык і ажно пачарнеў. — Я ж пытаюся, хто ў вас самы разумнейшы?
— Разумнейшы? Тады іншая справа, тады зноў трэба думаць.
— Давайце, ды хутчэй, бо стаміўся я ўжо каля вас круціцца!
— За пару хвілін высветлім!
Сяляне на гэты раз размаўлялі гучна, нават крычалі. Ім таксама надакучыла, што яны ніяк не могуць высветліць, хто сярод іх самы старэйшы, самы паважаны ды самы разумнейшы. Крычалі, як на свіным кірмашы, кожны сваё даказваў. Потым пачулася:
— Паночку, хадзіце да грамады. Зараз скажам.
Пан злаваўся, але падышоў.
— Ну, што ўжо на гэты раз скажаце?
— Самы разумны ў нас Іван-лайдак.
— Лайдак?! Чаму?
— Ды таму, што ўсе мы працуем-шчыруем, а ён намнога лягчэй жыве. У працу ніколі не рвецца. Пабудуе сабе будан і сядзіць з вудай на беразе рачулкі. Якога пячкура зловіць — і задаволены.
Пан пераглянуўся са слугамі. Тыя памахвалі галовамі, маўляў, тое, што і трэба.
— Дык вось што я вам скажу. З сённяшняга дня ён будзе вашым аканомам.
— Воля ваша, — прамовілі сяляне, а самі за жываты трымаліся, каб не зарагатаць. Уяўлялі, які гэта начальнік будзе.

Так яно і атрымалася. Іван і надалей з будана не вылазіў, а панская гаспадарка ўсё бяднела і запускалася. Нарэшце і памешчык некуды з'ехаў, прадаўшы свае землі суседняму пану. З ім сялянам таксама няблага жылося. А тое месца, дзе жыў аканом, так і празвалі — Будкай, ад слова «будан».

## ВАЛАЎСК

Нашы продкі вельмі часта ваявалі. Не, не таму, што самі былі надта ваяўнічыя, а найбольш таму, што на іх часта нападалі ўсялякія чужынцы. Часта ваявалі, таму пастаянна думалі і пра ўмацаванне свайго паселішча, каб засцерагчыся ад нечаканага нападу. Для гэтага доўга раіліся, перш чым пачынаць будаваць хаціны ды хлявы. Тут найбольш слухалі старых, спрактыкаваных людзей. А тыя таксама не спяшаліся з канчатковым рашэннем.

— Найперш трэба выбраць высокі груд, дзе-небудзь на беразе хуткаплыннай рэчкі. І вада чысцюткая пастаянна будзе.

— Так...

— І каб лес навокал рос. Лепш за ўсё непралазны.

— Няблага, каб і за балотам якім паселішча знаходзілася.

— Калі за балотам, то спрашчаецца задача адносна будучай абароны. Калі за багнай жыць будзем, то далёка не кожны асмеліцца пасунуцца праз яе.

— Знайсці б такое балота, дзе адны чортавы вокны, а пасярэдзіне — высокі груд. Не трэба было б і ўмацоўвацца.

— Калі пачнём будавацца, то абавязкова і падземны ход да лесу пракапаць прыйдзецца. Хто яго ведае, адкуль ворагі могуць наваліцца...

Нагаманіўшыся, наспрачаўшыся, браліся шукаць мясціну, а знайшоўшы, прыступалі да будаўніцтва.

Тут, дзе мы сёння жывём, нашы продкі таксама будавалі ўмацаванне. Праўда, не пасярод балота, але ў даволі выгадным для сябе месцы: навокал лес густы рос, а ў ім звяроў ды птушак мноства вадзілася. Сабраліся аднаго разу мужчыны і пачалі разважаць, што яшчэ зрабіць, бо часу ставала, асноўныя работы ўсе завяршылі.

— Падземны ход каб не быў кароткі...

— Ды павінна хапіць таго, што ёсць. Мы ж болей чым на вярсту ад паселішча яго працягнулі.

— У самы гушчар выходзіць лаз. Ніхто яго не ведае, ніхто не заўважыць.

— Умацавалі стаякамі. Калі надарыцца якое ліха, то выскачым з паселішча, такая магчымасць нам гарантавана.

Некаторыя даводзілі іншае:

— Трэба вакол паселішча яшчэ роў пракапаць.

— Роў?

— Так. Глыбокі і шырокі.

— Слушная прапанова. Сёння і пачнём.

— Яшчэ думайце, людцы, каб чаго не ўпусцілі, бо потым позна будзе.

Ужо збіраліся разыходзіцца, як нехта з маладзейшых выгукнуў:

— А ведаеце што? Мне ў галаву цікавая задума прыйшла.

— Якая?

— Роў мы пракапаем. Але ж і з таго боку, дзе мы будзем сядзець, і з таго, адкуль чужынцаў чакаем, роўная мясцовасць будзе.

Мужчыны падумалі і пагадзіліся:

— Так.

— Дык вось, трэба з нашага боку рва насыпаць высокі вал.

— Вал?

— Так. У аснову навазіць камянёў і таўшчэразных бярвенняў, а зверху старанна затрамбаваць зямлёй.

— Але ж і напрацуемся?..

— Затое спакайней будзем сябе адчуваць.

— І то праўда. Нават у аблозе можна будзе на нешта спадзявацца.

— Ведама што.

— Дык трэба пачынаць разам з капаннем рова. Пясок не прыйдзецца адвозіць, бо ён у справу пойдзе.

— То заўтра, мажа, і возьмемся?

— Давайце і сапраўды заўтра.

Доўга працавалі тубыльцы, напружана, не пакладаючы рук, не адпачываючы, нібы іх нехта падганяў. Крыху пазней, калі завяршылі будаўніцтва ўмацаванняў і пачалі рыхтавацца да зімоўкі, пранеслася чутка, што нейкія чужынцы на іхнія землі напалі. Спачатку падумалі, што трэба, як і раней, уцякаць, але потым перадумалі. Адзін стары дзед прамовіў мудрыя словы:

— Навошта бегчы? Няўжо мы мала папрацавалі, умацоўваючы наша паселішча?

— Не.
— То чаго ўцякаць? Паспрабуем тут вытрымаць сустрэчу з ворагам, а на крайні выпадак у нас жа падземны ход ёсць?..
— І то праўда. Давайце да абароны рыхтавацца.
Назапасілі ўсяго тубыльцы, падрыхтаваліся, і калі паблізу ворагі з'явіліся, то местачкоўцы не збаяліся, не ўцяклі, а, мужна з імі змагаючыся, ператрывалі аблогу. Пра іх пазней сталі гаварыць:
— Што ім было? Яны ж за валам.
Так і ўзнікла назва Валаўск — за валам.

## ДАБРЫНЬ

У даўнія часы жыў у нас адзін селянін. Ды такі ўжо ашчадны быў, што ніколі кавалка хлеба лішняга не з'еў, не тое што дзецям нейкую цацку на кірмашы купіў. Пастаянна сцвярджаў:
— Трэба дабро ашчаджаць.
— Дык мы ж і так нічога не бяром?! — здзіўляюцца дзеці.
— Ведаю я вас, абібокаў. Вы адно гаворыце, а зусім іншае робіце.
— Не, татка, зусім не так.
— Кіньце хлусіць.
Пакрыўджаныя дзеці заціхалі, бо баяліся, што гаспадар ускінецца ды пачне лупцаваць іх. І такое нярэдка здаралася. Тады за малых уступалася гаспадыня:
— Ці не сорамна табе гаварыць так на дзяцей? Яны ж табе дапамагаюць.
— Вось бы дзеці добрыя былі, калі б бацьку зусім не дапамагалі...
— Паглядзі, як іншыя бацькі дзяцей гадуюць. Там жа малыя і пагуляюць, і паспяваюць, і дапамогуць.
— Мне іншыя бацькі не ўказ. Мае дзеці. Як хачу, так і выхоўваю.
— Твае-то твае, але з большай ласкай да іх адносіцца не перашкаджала б. Яны ж ад цябе слова добрага ніколі не чулі.
— Во, во, пачні іх хваліць, дык распусцяцца, а потым і дабро наша парасцягваюць.
— Табе адно дабро ў галаве, а што малых з дзяцінства можаш цяжкай працай надарваць, над гэтым і не задумваешся.

— Не надарву, мяне такога ж бацька прымушаў працаваць.

— І многа твой бацька дабра назбіраў? — пад'ела гаспадыня. — Зямлі за табой многа было ці гаспадарка моцная ў тваё рукі перайшла?

— Гэта зусім іншая справа.

— Не, такая ж, як і ў цябе.

— Перастань, бо і табе перападзе, калі так гаманіць будзеш! — ужо застрашваў вясковец.

— Ага, гэтага ў цябе не купіць і не пазычаць! Гэта ты ўмееш лепш за іншых. Дабрыніч няшчасны. Гатовы ў магілу жывымі пазакопваць, каб толькі нешта перапала.

Вось такі гэта быў чалавек. Ён ніколі дома не заспаў, каб у поле апошнім выехаць. Адваротнае сцвярджаў:

— Калі ў полі працуеш і табе добры дзень першаму падаюць, то прыбытак большы ў хаце будзе.

Здзіўляліся дзеці, не разумеючы:

— А калі сам першы добры дзень даеш, тады што?

— Тады сілу губляеце і жадаеце ўжо лепшага не сабе, а іншым.

— Дык што ў гэтым страшнага? — дапытваліся малыя.

— Усё страшнае. Калі чалавек слабее, то, адпаведна, і меней працуе, а калі меней працуе, то і робіць намнога меней. Якое ж тады дабро ў хаце?

— А што, абавязкова, каб з усяго толькі дабро атрымлівалася? — не вытрымліваў старэйшы сын, які ўжо многае разумеў і даволі часта не пагаджаўся з бацькам.

Той адразу падхопліваўся:

— Ты як гэта з татам размаўляеш?

— А што я дрэннага сказаў? — не здаваўся хлапчук.

— Ну і добрага нічога не прамовіў!

— Бо надакучыла. Што ні слова — то пра дабро. Жывуць жа людзі, якія яго зусім мала маюць.

— Як яны жывуць?

— Ды лепей за нас.

— Лепей?! За нас?!

— А то не!

— І што ж у іх лепшае?!

— Усё!

— Дакажы.

— Ды хоць бы тое, што яны амаль заўсёды спяваюць.

— Галодныя, але спяваюць?

— Так, галодныя, але спяваюць!

— Ну і што ў гэтым добрага?

— А тое, што калі да людзей ні зайдзі, то ў іх весела. Не дрыжаць яны над лішняй капейкай, не шкадуюць сабе ды дзецям з'есці!

— Вось як ты, сыночак, загаварыў? — ужо злосна ўскінуўся гаспадар.

— А што мне застаецца рабіць? Толькі гаварыць, бо ўсё роўна ў нас такога ніколі не будзе.

Так той бацька дзяцей вучыў, так гаспадыні спакойна дыхнуць не даваў. Як толькі ўбачыць, што родныя адпачыць прыселі, дык адразу ўподбежкі да іх:

— Чаго расселіся?

— Зрабілі тое, што было загадана.

— А іншай справы, што, няма?

— Вось адпачнём і прымемся за яе.

— Давайце, давайце шчыраваць, а ноч прыйдзе, тады і адпачываць будзем.

Крыўдна жонцы і дзецям, але што паробіш, калі гаспадар такі. Устануць і моўчкі далей працуюць.

І не давяло да дабра такое празмернае імкненне ўзбагаціцца. Неяк, падчас вялікай навальніцы, маланка трахнула прама ў падворак гэтага селяніна. Выгарэла ўсё дашчэнту, а сам ён, ад адчаю ды скрухі, праз месяц памёр. Тое месца, дзе некалі яго хаціна стаяла, назвалі Дабрынь — ад Дабрыніча.

## ДАНІЛАЎКА

Жыў-быў чалавек, і звалі яго Даніла. Нічога сабе гаспадар. Адно толькі — пагаманіць любіў. За тое яго і дражнілі людзі часта паміж сабой — Даніла-гаманіла. Дзе ні стане — толькі і чуваць ягоны голас. Балабоніць нешта, даводзіць удзячным слухачам, а тыя таксама рады паслухаць і даць адпачынак стомленаму целу, дапытваліся ўсё:

— Даніла, скажы, адкуль ты ўсё ведаеш? Пра што ні запытайся, ты на ўсё гатовы даць адказ.

— Ды тут нічога складанага няма. Трэба астатнім даваць магчымасць выказвацца, а самому ўважліва слухаць.

Народ рагатаў.

— Чаго вы? — не разумеў Даніла.

— І калі ж гэта ты, братка, даваў іншым выгаварыцца? У цябе ж рот не закрываецца.

— Мала гэтага — слова сказаць нельга.

— Скажы па праўдзе, ці было калі, каб ты каго выслухаў?

— Было, — ціха прамаўляў Даніла.

— Калі? — не вытрымлівалі найбольш цікаўныя.

— Калі маленькі быў.

— І гаварыць яшчэ не навучыўся?

— Так.

Гучаў такі рогат, што здавалася, уся сіла ў яго сабіралася.

— Вось урэзаў, дык урэзаў. Што ні кажыце, а язык у яго працуе па-майстэрску.

— І сам жа не зломак. Хоць і кажуць, што брахаць — не цэпам махаць, але ж і працаўнік ён выдатны.

— А вазьміце на лузе, падчас касьбы? У такога асілка ў руках і пугаўё касою стане.

Адпачнуць крыху сяляне, адыдуць ад аднаго аповяду і зноў просяцца:

— Даніла, раскажы што-небудзь.

— Зноў будзеце казаць, што брашу?

— Ты на гэта не звяртай увагі. Ты хоць і брэшаш, але так гладка, што верыць хочацца.

— Ага, як з жывога пераказваеш.

— Добра, угаварылі, толькі не перабівайце. Раскажу я вам пра тое, як нас, мяне ды маіх родных, чэрці аднаго разу моцна напалохалі.

— Чэрці?

— Яны самыя. Значыцца, так. Я яшчэ малады зусім быў, нежанаты. Павячэралі мы, бацька-нябожчык і гамоніць:

— Пайшлі, дзеткі, у гумно спаць.

Мы ў адзін голас:

— Пайшлі, татка.

Ведама ж, калі летам справа адбываецца ды надвор'е цёплае стаіць, то лепшага месца для адпачынку і не знойдзеш. Там такі водар стаіць, нібы на лузе ў сена закапаешся і тымі травамі-краскамі дыхаеш.

— Тады ж не толькі спалі ў гумне, — працягваў Даніла, — а і глядзелі, каб напалохаць адзін аднаго ці пасмяяцца з якога недарэкі.

— Што праўда, то праўда.

— Дык вось вырашылі суседскія хлопцы з нас пажартаваць. Каб жа мы здагадаліся загадзя, то такога не здарылася б.

— А што, вы нешта бачылі папярэдне?

— Яшчэ б! Яны ж круціліся ды пераміргваліся. Можна было б і здагадацца. Ды хто ж думаў, што падстрояць такую штучку.

— І што там было?

— Звечарэла добра. Бацька ўстае, і мы за ім. Узялі пакрыўкі і пакіравалі. Падыходзім да гумна. Усё ціха, шапоча лістота. Адчыняем дзверы. А гумно ў нас было новае, вялізнае. Туды мы многа сена ды снапоў звозілі. Усё ўлазіла, і яшчэ месца вольнае заставалася. Мы заўсёды сястрычак першых на сена ўскідалі, каб яны, пакуль астатнія залезуць, паспелі яшчэ там крыху падурэць паміж сабой. І на гэты раз так зрабілі. Зверху адразу пачуліся смех і крыкі. Ажно лезем мы, і ў гэты момант вушы разануў дзікі крык:

— Ой, Божачка! Ой, ратуйце!

— Што, што такое? — забегаў бацька.

— Ой, ратуйце! Дапамажыце, хутчэй!

Гаспадар закрычаў:

— Што там такое?!

— Ой, чорт!

— Дзе?

— На сене!

— Чакайце тады! Чакайце!

— Ой, нам страшна!

— Не палохайцеся, зараз мы вам дапаможам!

Бацька крыкнуць крыкнуў, а з голымі рукамі і сам не асмеліўся караскацца на сена. Знайшлі яму добры дубовы кол, якім звычайна вароты падпіралі, самі ўзброіліся, хто віламі, хто цапільнам, і палезлі на сена.

— Дзе? — шапнуў бацька.

— Вунь, — паказалі малыя.

— Не бачу.

— Там, дзе наша посцілка ляжыць.

— Зараз, няхай толькі вочы прызвычаяцца.

Пастаялі нерухома хвілін колькі, пачалі ў цемры распазнаваць розныя прадметы, а неўзабаве заўважылі і посцілку, якая ляжала там, дзе сястрычкі збіраліся спаць.

— Ну, трымайся, нячысцік! — зароў бацька і што было сілы лупянуў па посцілцы. Пад ёю сапраўды нешта затрашчала, завурчэла.

— Ага, папаўся!

Мы таксама не стаялі, а шчыра лупцавалі невядомую істоту. Білі, пакуль не стаміліся. Нарэшце бацька прамовіў:

— Ну, відаць, усё яму — капцы.

З гэтымі словамі ўзяў і пацягнуў рэзка посцілку. Праз імгненне ўсе мы з рогатам паваліліся на сена, бо пад посцілкай было... вядро. Старое вядро...

Засмяяліся і сяляне.

Вось такі быў Даніла-гаманіла, ад якога і пайшла назва нашай вёскі.

# СКАРОДНАЕ

Старыя людзі распавядаюць, што некалі, стагоддзяў колькі таму, на месцы нашай вёскі было вялікае возера. Глыбіня яго дасягала дзесяці сажняў, а шырыня ды даўжыня, можа, вёрст па пяць-шэсць. Было яно людзям добрай падтрымкай. Не хапала хлеба, бо выдаўся перад гэтым неўраджайны год, то ішлі на возера — рыбы там было заўсёды многа.

Так не раз і не два было. Людзі навучыліся рыбу невадамі лавіць, то яе не толькі сабе хапала, але і на продаж.

І не адной рыбай выручала возера. Трэба было, напрыклад, чалавеку тэрмінова перабрацца да родных, якія жылі на другім беразе, то ён не ехаў акружным шляхам, не гнаў коніка дваццаць ці трыццаць вёрст, а сядаў у човен і плыў сабе спакойненька. Чаўны мясцовыя жыхары будавалі вялікія, чалавек на дзесяць. Пазней прылаўчыліся і парусы ставіць, асабліва калі вецер быў спадарожны. За нейкую гадзіну да месца дабіраліся.

З тых часоў сцвярджаюць, што калі плылі на чаўнах, то вопытныя грабцы па бурунах вызначалі глыбіню месца. А каб весялей было плыць, то адзін аднаго крыкамі падтрымлівалі:

— Ого-го! Хутка дно!

— Ого-го! Скора дно!

Гэта азначала, што калі вяслом дна дасталі, то і бераг недалёка.

Такія крыкі надта дапамагалі тады, калі супраць ветру веславалі і здорава-такі з сілы выбіваліся. Старэйшы з людзей убачыць, што людзі змарнелі, і крыкне:

— Скора дно!

— Адгукнуцца хлопцы:

— Скора!

Так незаўважна і да берага дабяруцца.

А аднаго разу здарылася трагічная падзея, у выніку якой возера назаўсёды пад зямлю ўцякло.

На беразе возера жыла жанчына. І быў у яе сын — Мікіта. Муж пайшоў неяк зімой на возера лавіць рыбу і шуснуў у напаўзанесеную палонку, пайшоў пад ваду, а потым маразы прыціснулі. Так і не знайшлі чалавека. Загаравала жанчына, ніколі болей не чулі яе смеху, а тым болей песень, на якія яна была сапраўдная майстрыха. Усю ўвагу ўдзяляла сыну — адзінай надзеі. Толькі з ім і радавалася, толькі з ім пра ўсё і марыла. Доўгімі зімовымі вечарамі яны сядзелі ля агню і размаўлялі:

— Вырасцеш, сынку, пакінеш матулю.

— Не. Ты са мной усюды будзеш.

— Гэта зараз так гаворыш, а потым перайначышся.

— Не, мамачка, я свайму слову заўжды гаспадаром буду.

— Вось гэта добра. Мужчына так і павінен сябе паводзіць.

— Непрыкметна вырасцеш... — працягвала жанчына.

— То што ў гэтым благога, мамачка?

— Прывядзеш жонку ў хату. Пачнём мы з ёй сварыцца.

— З-за чаго?

— Хто ж яго, сынку, ведае. Людзі кажуць, што свякроўка з нявесткай ніколі мірна не ўжываюцца.

— Ты ў мяне добрая, ты ўжывешся. І жонку ■ сабе вазьму ласкавую, пяшчотную, каб цябе не крыўдзіла. Будзе ў нашай хаціне заўсёды цішыня і спакой.

— Дзякуй, сыночак. Вось супакоіў, дык супакоіў.

Час ляцеў непрыкметна. Сын вырас дужым, прыгожым, працавітым. Ніколі нават хвілінкі спакойна не сядзеў, казаў:

— Як старым стану, тады і адпачну. А зараз ты адпачні, бо прытамілася за дзень.

Аднаго дня сын заявіў матулі:

— Зраблю сабе човен.

— Навошта? У нас жа ёсць адзін?!

— Гэты малы. З яго толькі рыбкі сабе налавіць выехаць. Я ж хачу зрабіць вялікі. Тавары ўсялякія на ім перавозіць буду, людзей з берага на бераг дастаўляць. Гэта ж надта выгадна, матуля.

— Хіба ў нас нечага не хапае?

— Хапае, але няхай і ў запас крыху будзе. Невядома яшчэ, як жыццё далей складзецца.

Як сказаў Мікіта, так і зрабіў. Човен атрымаўся хоць і вялікі, але вёрткі, многа тавараў і людзей на яго ўмяшчалася. Грошы паплылі да хлопца ракой. Усё, здавалася б, ішло добра, ды аднаго разу не пашанцавала яму: трапіў у вялікую буру-навальніцу. Разбіла ягоны човен, патапіла людзей і тавары. Над возерам неслася адчайнае:

— Дапамажыце!

І суцяшальнае:

— Скора дно!

Але ніхто не выратаваўся. З адчаю маці пракляла возера, і яно знікла, ■ назва Скароднае засталася.



# ЖЛОБІН

Жыла ў нас некалі бабка. Так атрымалася, што засталася старая кругом адна. Спачатку дзеда маланкай у полі забіла. Пайшоў Яўхім аднаго разу сена грэбці. Хмара груvасткая, чорная насунулася, што тая ноч. Усе пачалі хавацца па кустоўі, пад часовымі буданамі, [redacted] ён сабе гроб ды скідваў у копны. Навокал ужо такі грукат стаяў, што і перадаць страшна, маланкі паласавалі неба. Вясковец закончыў кідаць стог, і тут грымнула-трэснула так, нібыта зямлю прабіла. Сяляне са страху ажно вочы пазакрывалі, а калі расплюшчылі, то ўбачылі, што Яўхім ляжыць на спіне, а з яго дым валіць. Тут нейкая кабеціна не вытрымала і закрычала:

— Ой, Божачка, забіла Яўхіма!

— Можа, прыкідваецца? У яго не купіць.

— А чаго гэта ад яго дым ідзе? Нешта тут, людцы, не тое...

— Відаць, і на самай справе забіла.

— Давайце падыдзем, паглядзім, чаго ён там расклаўся?

Гаманілі людзі, а падысці баяліся, бо навальніца не заціхала, а, наадварот, яшчэ болей узмацнялася. І тут нехта ціха прамовіў:

— Слухайце, а ці не ляцяць сюды ўсялякія нячысцікі з Яўхімам развітвацца? Ці не забіла яго і на самай справе?

Цяпер ужо ўсё ўспрымалі ўсур'ёз. Баяліся і пераглядваліся паміж сабой.

— Мы падыдзем, а там якраз яго душа з цела вылятаць будзе...

— То і што?

— А раптам і яшчэ каго з сабой прыхопіць?

— Не здолее, пасля смерці гаспадара яна не такая страшная.

— Адкуль ты ведаеш?

— Неяк старыя людзі гаманілі, а я чуў.

Усё ж асмеліліся падысці да Яўхіма. І на самай справе аказалася, што селянін ужо нежывы, а дым з яго ішоў, бо ўдарыла маланка і вопратку падпаліла. Людзі жагналіся, але кратаць нябожчыка рукамі не адважваліся. Потым усё ж паклалі яго на калёсы і прывезлі ў вёску.

Так старая згубіла мужа. Ды на гэтым няшчасці яе не скончыліся. Дзеці былі ўжо дарослыя і, здавалася, маглі дагледзець матулю, але і з імі ліха здарылася. Дачка — старэйшая — пайшла з сяброўкамі ў лес. Там натрапілі на буйныя ягады, хутка набралі ўсе пасудзіны і закрычалі:

— Гэлька, пайшлі ўжо!

А яна надта заядлая да працы была, уся ў матулю. Вырашыла яшчэ ягад набраць. Пакрычалі, пакрычалі жанчыны і пакіравалі дамоў, бо падумалі, што Гэлька з іншага боку выйшла і ўжо дома іх чакае.

Засталася жанчына адна ў лесе. І бяда не прымусіла сябе доўга чакаць: харамаціна-мядзведзь valіўся з-за елкі так раптоўна, што Гэлька і крыкнуць не паспела. Як даў мядзведзь лапай па спіне, то і хрыбет зламаў.

Чакала, чакала дома матуля, бегала па суседках, распытвала, але ніхто не мог дакладна сказаць, дзе засталася Гэлька. Пабеглі два браты ў лес шукаць, але дзе ж ты чалавека ў бяскрайняй пушчы знойдзеш, ды яшчэ калі не ведаеш, куды ён пакіраваў? Паблукалі, паблукалі і ні з чым прыйшлі назад. Гору матулі не было мяжы.

Тую мясціну, дзе загінула няшчасная жанчына, адшукалі выпадкова. Мужчыны бралі дровы і наткнуліся на нейкія анучы. Нехта здзівіўся:

— Чаго гэта тут анучы параскіданы?

— І на самай справе.

— Давайце наўкола добра паглядзім, — запрапанаваў адзін з вяскоўцаў.

Пабеглі ў розныя бакі і неўзабаве знайшлі рэшткі посуду, у якім, відаць, чарніцы былі, а потым, пад густой ялінай, і шкілет. Тут толькі прамовіў стары вясковец:

— А ці не Гэлька гэта, хлопцы?

Паведамілі яе матулі, і тая адразу ж пазнала, што анучы гэтыя не што іншае, як парваная вопратка дачкі.

Але і на гэтым гора жанчыны не скончылася. Недзе ўсяго праз год пасля трагічнай смерці дачкі напаткала яе страшная бяда, якая зусім у гаспадыні зямлю з-пад ног выбіла.

Сабраліся сыны неяк увечары ў хаціне і гамоняць:

— Мы, мама, надумалі заўтра ў лес падацца.

— Што вы там забыліся?

— Бярвенняў на зіму навозім, а вясной новую хаціну паставім.

— Хіба нам у гэтай цесна?

— Цесна не цесна, але трэба новую будаваць, бо хутка час прыспее жаніцца, а дзе мы ўсе ў такой развалюсе ўжывемся?

— І то праўда, — пагадзілася жанчына.

— Вось мы і вырашылі заўтра паехаць. Работы неадкладнай пакуль што няма, дарогі не надта замяло. Двое санак запражом і падамося. Пару дзён павозім, то добры знак будзе.

— Глядзіце, дзеткі. Як задумалі, так і рабіце, толькі каб усё добра атрымалася...

— Усё добра будзе, не хвалюйся. Мы ж не па адным паедзем, а ўдвух.

— Вы ж ведаеце, я заўсёды перажываю.

— Ведаем, таму і стараемся дамоў заўсёды зараней прыехаць.

— То паежце, сыночкі, ды лягайце спаць, заўтра ж рана ўставаць, ды і работа нялёгкая вас чакае.

Ранкам сыны паехалі, а матуля, нібы адчувала, што нешта здарыцца, да варот іх правяла і яшчэ раз папрасіла:

— Вы ж глядзіце, дзеткі, сцеражыцеся, бо ў лесе ўсё можа здарыцца.

Тыя заспакоілі маці і пагналі коней.

У лесе хлопцы, абодва здаровыя, што дубы, навалілі бярвенняў, накацілі іх на сані і ўжо сабраліся дамоў ехаць. Тут малодшы і кажа:

— Давай яшчэ вось гэтую сасну звалім.

— Навошта?

— Лішняе бервяно будзе, ды якое... Дарога добрая, коні ў нас выкармленыя, моцныя, пацягнуць. Самі ўзбоч пойдзем.

— А што? Давай.

Надсеклі дрэва, напружыліся і завалілі яго. Але сасна тая не ўпала на зямлю, а завісла ў густым голлі.

— Вось табе і маем.

— На тое ён і лес, — павучальна прамовіў малодшы, — каб нас, дурняў, вучыць.

— Злавацца на лес нельга, бо ён і адпомсціць можа.

— То паедзем?

— Паехалі. Зараней прыедзем, каб матуля не перажывала, а то ўжо, відаць, выглядвае нас у акно.

— Давай яшчэ люлечкі раскурым і пакіруем. Хадзі сюды, тут зацішна.

Сталі люлечкі распальваць, не глянулі ўверх. А калі пачулі трэск, то ўжо позна было: тая самая гонкая сасна накрыла братоў.

Коні позна ноччу самі дамоў сані прыцягнулі. Па слядах на другі дзень знайшлі і братоў. Што тут з матуляй сталася. Трымалі яе за рукі, каб сама на сябе смерць не наклікала. Неяк пакрыху адышла і засталася жыць адна ў старой хаціне. Любіла старая сядзець на прызбе ды сама з сабой размаўляць. Сяляне, каб не ўбачыла гаспадыня, выразна пакручвалі пальцамі ля скроні, маўляў, дажылася. Ды старая на гэта не звяртала ўвагі. Яна заставалася разам са сваімі думкамі, меркаваннямі адна.

Неяк ехаў багаты памешчык у брычцы. Загадаў лёкаю, каб не гнаў, а сам азіраўся па баках, разглядваў краявіды ды мурлыкаў песню пад нос. Тут лёкай і кажа:

— Пане, глядзіце, вунь старая сядзіць. Пра яе людзі кажуць, што яна сама з сабой размаўляе.

— То пад'едзь ціха, і мы паслухаем. Цікава ж.

Брычка ўшчыльную пад'ехала да хаціны з другога боку. Лёкай і пан, стаіўшыся, сталі слухаць. Але нічога дзіўнага не пачулі, хутчэй, наадварот — памешчыку падалося, што гаспадыня надзвычай прачула разважае пра сваіх дзяцей.

— А дзе яе дзеці? — запытаўся ён у лёкая.

— У яе бядотны лёс, пане. Усе яе родныя загінулі. Мужа маланка на лузе забіла. Дачку, відаць, мядзведзь парваў, а сыноў зусім нядаўна сасна прыбіла.

— Сумны лёс. І нікога ў яе болей няма?

— Не.

— Як жа яна адна?

— Ды вось так і гаруе.

— Хоць ты ёй дапамажы...

— Воля ваша, пане.

— Ведама, мая. Давай падыдзем да яе, пагамонім.

Падышлі да гаспадыні, павіталіся, памешчык і гаворыць:

— Як, бабуля, жывеш?

— Дрэнна, вельмі дрэнна... Працаваць не магу, таму есці няма чаго. А працаваць ужо сілы не стае. Вось сяджу тут цэлымі днямі. Прынясе хто паесці, падзякую, а не, то і так спаць кладуся.

— Дык неяк жа трэба з гэтага становішча выкручвацца?

— Каб маладзейшая была, то, бясспрэчна, выкруцілася б, а так... Каму я ўжо трэба?

— Бабуля, а ты замовы шаптаць навучыся.

— Ды я ўмею, панічыку.

— То і шапчы іх людзям на вылячэнне. Яны табе дзякаваць будуць і дапамагаць, адпаведна.

— І сапраўды, панічыку. Дзякуй табе, і не здагадалася б.

Пачала бабуля шаптаць замовы. І што ж вы думаеце? Так добра ў яе пайшла гэтая справа, што неўзабаве стала лепшай знахаркай ва ўсім наваколлі, любую хваробу як рукой здымала. Цяпер жанчына ўжо не ведала, што такое голад і холад, бо вяскоўцы ёй шчыра дапамагалі, не пакідалі адну, а нават прапаноўвалі, да каго ў хаціну жыць перабрацца. Ды гаспадыня адмаўлялася, спасылаючыся на тое, што ёй ужо нядоўга жыць засталося на белым свеце.

Давялося ёй аддзячыць і таго добрага пана. А здарылася вось што.

Аднаго разу, ён з гасцямі паехаў конна на паляванне. Там набегаўся, накрычаўся, і захацелася яму піць. Слуга адмаўляў гаспадара:

— Паночку, нельга, бо можна захварэць цяжка.

— Але ж так смага даймае, што не магу трываць.

— Патрывайце, зараз я на вогнішчы снегу растаплю, гарачай вады пап'яце.

— Пакуль ты распаліш вогнішча ды снег растопіш, то я лепей з ручаіны пап'ю.

Так і зрабіў. А праз пару гадзін падхапілася ў яго гарлянка. Горла запухла, твар ссінеў, памешчык ледзьве дыхаў. Родныя загаласілі над ім, нібы над нябожчыкам. І тут да пані падляцеў лёкай:

— Бабулька прыйшла, тая, што замовамі лечыць, просіць, каб яе да пана прапусцілі. Бярэцца дапамагчы.

— Прапусціце неадкладна! — загадала пані, сама кінуўшыся насустрач магчымай выратавальніцы.

Бабулька нешта пашаптала, пацiснула на горла, паглядзела па баках і сказала:

— Але ж і зоб цябе душыць.

Памешчык, відаць, адчуў палёгку і захацеў паўтарыць гэтае слова, ды не вельмі атрымалася. З запухшага пакуль яшчэ горла вырвалася толькі:

— Жлоб душыць...

Бабка засмяялася, а за ёй і астатнія.

— Цяпер жыць абавязкова будзеш, панічык мой.

Пан у падзяку загадаў збудаваць старой дом, зямлі нарэзаць і да смерці сачыць за бабулькай. Мясцінку тую назвалі Жлоб, а потым — Жлобін.

## СТРЭШЫН

Наша паселішча непадалёку ад Дняпра, таму і назва яго з гэтай магутнай ракой звязана. Яно і зразумела: у такім месцы жыць, дык як па рацэ не плаваць? Далёкія продкі асвоілі ўпершыню даволі-такі небяспечную прафесію — хто стырнавым быў, хто простым весляром, а хто плыты ганяў у тыя краіны, дзе лесу не надта багата было. Кожны быў пры справе. Пераказваюць, што вызначыліся яны ў сваіх занятках наступным чынам.

Неяк сядзелі мужчыны на прызбе. Ці то дзень выдаўся святочны, ці то пра нешта меркаваць спецыяльна задумалі — дакладна невядома, але сабраліся разам. Задымілі люлькамі, чакалі, калі самы старэйшы з іх — дзед Нічыпар — гаварыць пачне. Такі парадак быў: спачатку старэйшага выслухаць, а потым пачынаць агульную гамонку.

Нічыпар адкашляўся і пачаў:

— Тут справа такая, хлопцы... Сабраліся мы, каб справу вырашыць...

Нічыпар вымавіў гэтыя словы і, здавалася, задрамаў.

Найбольш нецярплівыя пачалі пакручваць галовамі, але спакойныя, разважлівыя мужчыны так зыркнулі на іх, што яны імгненна забыліся пра свой намер пасмяяцца са старога. Тым часам Нічыпар працягваў:

— Справа гэта важная, без яе вырашэння мы не абыдземся.

— Што ўжо там такое?

Дзед надаў свайму маршчыністаму твару ўрачыстасць:

— Будзеце далей перабіваць — самі разбірайцеся. Але старых паважаць трэба. Калі б я такое некалі зрабіў, то пару месяцаў з аднымі бабамі размаўляў бы, ніхто мяне да мужчынскага гурта не дапусціў бы.

Зноў нехта паспрабаваў перавесці ўсё на жарт:

— Магчыма, і няблага было б, з жанчынамі?

Зарагаталі ўсе, нават Нічыпар і той сашчэрыў свой твар ва ўсмешцы. Але суровы маўчун вясковец Кузьма прагуў:

— Давайце, хлопцы, справу вырашым, а потым жартаваць будзем.

На старога гэтыя словы падзейнічалі, бо ён пачаў гаварыць больш хутка, і неўзабаве выразна пачулася:

— Сабраліся не абы для чаго, а каб высветліць, хто з нас надалей будзе плытагонствам ды вяслярствам на рацэ займацца, а хто на зямлі застанецца.

— Даўно час прыспеў, — падтрымаў нехта з прысутных.

Да гаворкі далучыліся астатнія, у кожнага было што сказаць.

— А то некаторыя і туды кідаюцца, і туды, ■ толку не надта многа.

— Трэба, каб людзі ведалі, хто плыты пагоніць, а хто будзе тут, на месцы, перавозіць з берага на бераг людзей ды ўсялякія грузы.

— І пра зямлю, браточкі, нельга забывацца. Зямля — яна святая. На плытах таго не заробіш, што самая благая ніва дасць.

— Калі на плыты з ранняй вясны пойдзеш, то зямлю, адпаведна, па-сапраўднаму дагледзець не здолееш.

— Так-то яно так, але і плытагонства кідаць нельга.

— Ведама ж, прыработак добры ідзе. Дзякуючы яму нашы сем'і ніколі не галадалі.

Стары Нічыпар паспрабаваў супакоіць людзей, але на яго ніхто не звяртаў увагі.

Мужчыны пагаманілі яшчэ крыху і заціхлі самі па сабе. Пасядзелі моўчкі, потым нехта з вяскоўцаў прамовіў:

— Так, а дзе ж гэта наш дзед Нічыпар?

Стары, пакрыўдзіўшыся, не хацеў абзывацца, але нейкая невядомая сіла прымусіла яго ўсхапіцца:

— Тут... Я тут...

— То кіруй, дзедка.

— Добра. Значыцца, хто хоча на плытах ганяць?

— Адразу і сказаць?

— Адразу, каб потым згрызот паміж вамі не было.

— Трэба падумаць.

— Думайце, дзеткі. Зараз усе разам вырашым, то потым не будзеце адзін на аднаго скрыва пазіраць.

— Дзедка, назаві ўсе рамёствы, якімі мы павінны займацца. Будзем не толькі пра плытагонства думаць.

— І то правільна, — пагадзіўся Нічыпар. — Акрамя плытагонаў нам патрэбны людзі, якія будуць на чаўнах перавозіць грузы ды падарожных праз Дняпро.

— Яшчэ трэба, каб засталіся і зямлю апрацоўваць.
— Некалькі чалавек павінны рыбнай лоўляй займацца.
— Ды не, дзеткі, тут не трэба асобных людзей.
— Чаму?
— Таму што гэтай справай змогуць заняцца і тыя, хто ў вёсцы пастаянна жыць будзе ды зямлю араць і засяваць. Надарыцца магчымасць свежай рыбы палавіць — калі ласка.
— А вазьміце познюю восень ці зіму? Там жа часу вольнага ў земляробаў многа стане. І плытагоны зімой плыты не пагоняць, — дадаў нехта.
— Не ў адных земляробаў.
Людзі пачалі спакойна разбірацца, каму чым надалей займацца, у каго душа болей ляжыць да той ці іншай справы.
Нарэшце дзед Нічыпар не вытрымаў:
— Ну што, хлопцы, можа, час і вызначыцца?
— Ды яно...
— Смялей давайце, бо і ноч нас заспее за гэтым заняткам.
— Важная ж справа.
— Бясспрэчна. Не на адно пакаленне занятак будзе.
Людзі пасур'ёзнелі. Ведалі, што ад іх залежыць будучае нашчадкаў. Не спяшаючыся, углядаючыся ў твары родных, блізкіх ды сяброў, гаварылі пра тое, чым хацелі б займацца. Неўзабаве ўсе і вызначыліся. Нічыпар задаволена пацёр рукі:
— Вось і добра. Цяпер лягчэй будзе. Кожны ведае, чым на гэты год займацца і на наступныя — таксама.
— І не верыцца. Цяпер будзем цвёрда трымацца кожны свайго рамяства.
— І сем'і будуць накормленыя, і клопаты дробязныя адпадуць.
— Вось што, дзеткі, — умяшаўся ў гамонку Нічыпар. — Калі ўжо на тое пайшло, то наступнай вясной я сам павяду першыя плыты. Пакуль яшчэ ёсць сіла ды спрыт у нагах і руках, пакажу вам парогі, пазнаёмлю з норавам нашага Дняпра.
Так пагаварылі і разышліся, каб адпачываць ды займацца ўсялякімі справамі па гаспадарцы.

Зіма была снежная. Здавалася, што ніякае цяпло, ніякае сонца снег не растопіць. Але так толькі здавалася, бо калі прыпякло добра, то зазвінелі ў тысячы розных галасоў ручаі

і панесліся шалёна да Дняпра. А ён, сярдзіты, паважны, магутны, толькі ўсё болей і болей надзімаўся і ўбіраў у сябе ваду з навакольных зямель.

Калі знесла снег і лёд, вада стала чысцюткай, як шкло ці сіняе неба. Мужчыны пачалі збірацца ў натоўпы. То тут, то там гучалі галасы:

— Мала часу ўжо засталося.

— Хутка нашы плытагоны ў шлях выберуцца.

— Павядзе іх дзед Нічыпар, пакажа віры ды небяспечныя мясціны, растлумачыць, як найлепей іх праходзіць.

— Але ж нешта ён не надта спяшаецца?..

— Не трэба яго прыспешваць. Ён у гэтых справах вопытны. Ніхто болей за яго ў плытагонстве не ведае.

— Яшчэ са сваім дзедам, відаць, плаваў?

— Можа, і з прадзедам, бо неяк распавядаў, што са стогадовым старым стырном кіраваў. А такі вопыт ніколі не пашкодзіць.

— Давайце падыдзем да яго, параімся.

Сяляне садзіліся поруч з Нічыпарам, але гамонку адносна плытоў не пачыналі. Стары здагадваўся і сам, таму паволі звяртаўся да цікавай для іх тэмы:

— Ранавата яшчэ. Вада круціць.

— Але ж яна ўвесь час круціць.

— Не. Увесь год яна круціць у паасобных мясцінах — у вірах, а зараз круціць па ўсёй рацэ. Зразумела?

— Не надта.

— Вады ж, самі бачылі, колькі было? І яна яшчэ не супакоілася. Круціць-віруе, носіць бярвенні ды карчы, пераварочвае і скручвае ўсё на сваім шляху. Выправімся мы з плытамі і трапім у такі вір, які перакруціць нам усе бярвенні, нібы трэскі ці пёркі лёгкія. Нічога цэлым не застанецца.

— Такая сіла ў Дняпра?

— Сіла ў яго нязмерная, і ніхто яе сапраўднай магутнасці не ведае. Вы, дзеткі, не хвалюйцеся, хутка паплывём. Плыты звяжам і адправімся ў шлях. Няблізкі ён, небяспечны, таму на лёгкае падарожжа не спадзявайцеся.

— Будзем спадзявацца на вас, дзедка.

— І я не Бог, але ўсё, што ведаю, вам перадам.

Прайшло пару тыдняў, і Нічыпар закамандаваў:

— Вось цяпер самы час брацца за справу. З заўтрашняга дня пачнём плыты вязаць.

— Нарэшце, — з палёгкай выдыхнулі мужчыны.

— Праходзьце ўсе, каму прызначана, і пачнём шчыраваць. Цяпер нам не да адпачынку будзе.

Аказалася, што вязаць плыты так, каб яны праплылі сотні вёрст, справа не вельмі і лёгкая. Але дзедка і тут вучыў:

— Не спяшайцеся, рабіце ўсё сумленна, то потым не трэба будзе хвалявацца.

— Стараемся.

— Малайцы, хлопцы. Яшчэ пару-тройку дзён тут прабудзем, [redacted] там няхай нам Бог памагае ў далёкай дарозе.

— Няхай памагае, — як адзін азваліся будучыя плытагоны.

У тую раніцу стары Нічыпар, апрануты ў белую святочную кашулю, звярнуўся да сваіх паплечнікаў, якія прыйшлі да плытоў з сем'ямі і астатнімі вяскоўцамі:

— Адплываем. А вы чакайце і маліцеся за нас, каб усё спорылася і абышлося добра.

Адпіхнуліся, і рака падхапіла бярвенні, панесла іх на сваіх магутных плячах. Неўзабаве Нічыпар, які быў на пярэднім плыце, закрычаў:

— Стрэжань! Сцеражыцеся, стрэжань!

Да берага данеслася:

— Стрэшын! Сцеражыцеся, стрэшын!

Адтуль і Стрэшын наш.

## КАРОТКАВІЧЫ

Здавён вялося, што адны людзі з другіх смяяліся. Не глядзелі асабліва, хто гэта быў: бацька ці сын, родны ці не надта, сусед ці незнаёмы чалавек. Галоўнае, каб смех быў не абражальны, бо за насмешку маглі надоўга пакрыўдзіцца і потым адпомсціць. А сярод жартаўнікоў знаходзіліся такія, якія ўмелі зрабіць гэта намнога лепей за іншых. Жыў такі чалавек і ў нас. Ніхто не памятае, як яго на самай справе звалі, бо звярталіся да вяскоўца вельмі проста — Кароткі. Так яго празвалі за тое, што росту ён быў надта малога. Росту малога, [redacted] жартаўнік адмысловы. Найбольш падабаўся вяскоўцам яго аповяд пра сваё хрышчэнне. Праўда, адразу ў найбольш цікаўных паўставала пытанне: «А што, ён нават гэта памятае», — але такіх перапынялі, каб не перашкаджалі слухаць, і Кароткі пачынаў:

— Значыцца, з'явіўся я на свет, і бацькі сабраліся везці

мяне, немаўля, у царкву, каб ахрысціць і імя даць, бо іначай жа нельга, забаранялі царкоўныя законы. Бацькі пагаманілі паміж сабой, каго выбраць за кумоў, якія ў царкву павезлі б, але да згоды ніяк не маглі прыйсці. Паспрачаліся, пагаманілі крыху і нарэшце вырашылі, што кумам будзе родны брат бацькі, а кумой — сястра маці. І спрачацца не трэба, і калі нехта вінаваты акажацца, то з-за свайго, роднага, чалавека.

— То пайду запрашаць, бо паслязаўтра ж нядзелька? — сказаў тата.

— Ідзі, ды глядзі, абы-чаго не гавары, каб ненарокам не пакрыўдзіў, бо, кажуць, гэта дурная прыкмета.

— Ды што я, не разумею ці што?

Адным словам, пайшоў ён да родных прасіць, каб за кумоў былі. Тыя пагадзіліся, пачаставалі чалавека шчыра, і той на добрым падпітку прышкандыбаў дамоў. Там за ягоную «апрацоўку» ўзялася маці, і таму ўвесь наступны дзень бацька ўцякаў ужо ад яе, каб лішні раз яна не мянціла языком. Перачакаў суботу, ■ там ужо і нядзелька. Па-святочнаму апрануліся і сталі кумоў чакаць. А справа зімой была. Цёмна на вуліцы, хоць пеўні трэція даўно ўжо прагарлалі. Бацька і кажа маці:

— Давай на стол накрыем?

— Не, з царквы прыедуць, тады і частаваць будзем.

— Няёмка неяк... На вуліцы мароз трашчыць, а людзі ж не на хвіліну, ■ на пару гадзін выбіраюцца... Няхай бы па якому кілішку і выпілі...

Накрылі яны стол, ■ тым часам і кумы прыйшлі. Запрасілі іх перакусіць — яны не адмовіліся. Гарэлка ў бацькі добрая была, моцная. Спецыяльна для такой важнай справы выціснуў. Як налілі па пару кілішкаў, як выпілі госці, то ледзьве і песню не заспявалі. Але прыгадалі, што трэба немаўля ў царкву везці. Сабраліся, закруцілі мяне ў коўдру і, пасеўшы ў санкі, прыпусцілі коніка. Чым яны там па дарозе займаліся, хто іх ведае. Але прыехалі да царквы, а там бацюшка з дзякам, стаміўшыся чакаць, з нецярпеннем пытаюцца:

— Ну, дзе ваша дзіця?

Кума ўсхапілася:

— Зараз, бацюшка.

Кінулася ў сані, а там... нікога няма. Не знайшла немаўля. Так і села, небарака.

— Ой...

— Што?

— Няма.
— Як гэта няма?
— А вось так.
— А дзе ж?
— Відаць, па дарозе згубілі.

Як скочылі ў санкі, ды як хвоснулі па кані, то маланкай панесліся па адваротным шляху. Знайшлі мяне. Я салодка спаў, ухутаны ў коўдру. Але, тым не меней, болей мяне ў царкву не вазілі, так і застаўся нехрышчоным.

Вось такія байкі распавядаў Кароткі. Людзі любілі яго паслухаць, гэта была хоць нейкая палёгка ў іхнім цяжкім жыцці.

А дзеці ў яго што дубы раслі: высачэзныя, магутныя, сапраўдныя асілкі. Калі стары памёр, то нашчадкі засталіся, і разам з імі і прозвішча іхняе, якое і паселішчу назву дало — Кароткавічы.

## ЛУКІ

Было гэта ў даўнія часы, тады, калі людзі свята верылі ў Бога ды ў сілы прыроды. Спадзяваліся, што калі будуць шчыра маліцца і пастаянна прыносіць шматлікія ахвяры, то нічога благога з імі не здарыцца. Сваім нашчадкам прымаўлялі:

— Глядзіце, памятайце пра тое, што мы ды нашы продкі рабілі. Не толькі памятайце, але і выконвайце, свята сачыце за ўсім, бо ў адваротным выпадку...

— Што?

— Пра гэта, відаць, і згадваць неабавязкова, бо калі нам старэйшыя гаварылі, то паціху шапталі, каб ніхто не падслухаў.

— А хто ж падслухаць можа?

— Ці мала на белым свеце такіх істот?

— Ну, напрыклад?

— Ды вось які злы чалавек. Чорныя вочы — гэта надзвычай страшная з'ява для добрых жыхароў. Можа такое здарыцца, што і не выратуюць — памрэш. Мала гэтага, і на нашчадкаў якая хворасць ці пошасць перакінецца.

— Нават так?

— Любое здарыцца можа.

Так гаманілі, азіраліся, раіліся і стараліся, каб ні ў самай малой драбніцы не адступацца ад старадаўніх законаў і звычаяў.

Той, хто памыліўся ці нешта забыўся дадаткова зрабіць, губляўся, пачаў развітвацца з жыццём загадзя, каб родным паспець грахі адпусціць і каб яны яму даравалі. Праўда, на першым часе такія людзі паміралі. Не вылечваў іх ніхто, не дапамагалі ні траўкі, ні краскі. Але потым, калі ўжо прайшло даволі многа часу, з'явілася адна маладзенькая дзяўчынка і дапамагла чалавеку, што забыў прашаптаць замову перад уваходам у новую хаціну. А сустрэліся яны наступным чынам. Ішла яна неяк па сцяжынцы. Раптам бачыць — сядзіць селянін і горка-горка плача. Дзяўчынка да яго:

— Што з табой, дзядзечка?

Той зірнуў на яе і яшчэ болей зароў.

— Чаго ты?

Вясковец нават твар далонямі закрыў.

— Дзядзечка, скажы, што здарылася?

— Быццам ты мне ў гэтым дапаможаш...

— А раптам?

— Ідзі, не здзекавайся.

— Я нічога дурнога вам не жадаю, не тое што здзекуюся.

— Ай, адчапіся, не да цябе мне. — І селянін зноў заплакаў, пахістваючыся з боку ў бок, нібы выводзіў якую сумную песню, словы якой так яго разжалілі.

Але і дзяўчынка трапілася настойлівая. Яна не адыходзіла ад мужчыны, усё спрабавала даведацца, чаго гэта дарослы чалавек заходзіцца ад плачу? Як яна ні круціла, як ні пераймачвала, ды нічога не атрымлівалася. Тады тупнула нагой і прамовіла голасна:

— Як ужо мне гэтыя старыя надакучылі!

— Чаму? — данеслася скрозь плач.

— Не даб'ешся ад іх нічога.

— А чаго ты дабіцца хочаш?

— Ды вось хачу даведацца, чаго гэта незнаёмы мне дзядзька сядзіць на сцяжынцы і раве, як бабёр. Не, нават як тры бабры, разам узятыя.

— Бач, чаго захацела!

— А што, гэта таямніца нейкая?

— Якое там...

— Дык што, прызнацца цяжка?

— Яно і няцяжка.

— То якая яшчэ прычына?

— Не дай Бог яе болей нікому.

— Чаму?

— Правінаваціўся я. Грэх страшэнны, і ніхто мне ўжо не дапаможа, памру хутка.

— І ў чым жа, дзядзечка, памылка?

— Ды пабудаваў я новую хаціну. Усё правільна зрабіў, як перабіраўся.

— Дык у чым жа бяда?

— А на другі дзень я і правінаваціўся.

— Дзіўна...

— Нічога дзіўнага няма. Выйшаў я на падворак і вырашыў будаваць новы хлеў.

— Добрая справа. Калі хаціна ёсць, то і хлеў патрэбны.

— Ага, гэта і я ведаю. Але ж пачаў закладваць камяні на падмурак, а перад гэтым, па старому звычаю, ніякага паднашэння хлеўніку не зрабіў.

— І гэта ўсё?

— Хіба ж гэтага мала?

— Не палохайся, дзядзечка, і не раві болей. Выратую я цябе.

— Ты?

— Я. Слухай уважліва і запамінай. І перад кожнай новай справай гэтыя словы шапчы, тады цябе нічога не напалохае і жыцця не пазбавіць:

«Выгаворваю парадак з русых валасоў, з гаворкі, з белага цела, з касцей, з масцей, з чырвонай пячонкі. Адсылаю ўсе злыя сілы на нізкія лозы, на хуткія воды, каб яны там сабе прытулак шукалі, а мяне болей ніколі не чапалі. Там няхай п'юць і ядзяць і парадак паміж сабою захоўваюць, а я яго буду прытрымлівацца ў сваім жыцці. Божае слова, прымі мой дух».

Так трэба сказаць тры разы. Зразумеў, дзядзечка?

Той стаяў з разяўленым ротам. Нязвычна яму было, здаравеннаму мужчыне, каб такая дзяўчынка з бяды выручала. Але што ўжо зробіш, жыццё ёсць жыццё, і нікуды ад яго не дзенешся.

На самай справе ўратаваўся той чалавек і расказаў усім, хто яго ад смерці пазбавіў. Пасля таго выпадку ў дзяўчынкі і спакойнай гадзіны не было. Усё ішлі і ішлі да яе людзі з самымі рознымі хваробамі, з самымі нечаканымі просьбамі. А яна, малайчына, нікому не адмаўляла. Распытвала пра ўсё падрабязна і потым шаптала патрэбную замову і навучала ёй незнаёмага чалавека, каб надалей яе сам ужо ведаў, як ад бяды ратавацца.

Жыла тая жанчына асобна, нібы збоку ад вёскі стаяла яе хаціна. Людзі тое месца называлі лукою, бо яно затаплялася падчас паводкі. Так тая самая назва і засталася на доўгія стагоддзі — Лука ды Лука.

# МОРМАЛЬ

Жыў некалі вельмі багаты чалавек. Тым ён праславіўся, што не толькі незлічоную колькасць усялякага багацця меў, але і тым, што лаяўся без дай прычыны, проста так. Звалі яго Мартынам, [redacted] мянушку людзі адпаведную прыдумалі — Мормаль. Справа ў тым, што Мартын толькі лаяўся разборліва, а размаўляў так, што ягоную гамонку маглі зразумець толькі найбольш блізкія людзі. Калі лаяўся, то найбольш ясна вымаўляў звычайна адно: «Каб цябе чорт пабраў!»

Дзівіліся вяскоўцы:

— Як жа так можна? Гэта ж кажа нешта, а што?

— Ён, можа, і сам не ведае, чаго хоча, калі гамоніць?

— Не такі ён дурань, хлопцы, пабачце, колькі багацця нажыў.

— Як тая жонка здагадваецца, чаго патрабуе гаспадар?

— Яна ўжо прывучана.

— Яшчэ б! Чуть што, дык кухталя ў плечы, нагой пад азадак і на пажаданне — каб цябе чорт пабраў!

Даходзіла да таго, што вяскоўцы, жартуючы, гаварылі:

— Даўно ніхто тут не сварыўся, ці не пайсці да Мартына?

— А няхай яго. Размаўляць не навучыўся, а лаецца памайстэрску.

— Ён, відаць, і не вучыўся з дзяцінства нармальна гаварыць. Каб хоць крыху слухаўся, то можна было б яго перайначыць.

— Каго, Мартына?

— Яго.

— Ды лягчэй з каменя ваду выціснуць, чым з Мормаля нешта іншае, чым ён сам захоча. Яго ж не перапрэш! Стане на сваім, то і не саступіць ніколі.

— Вось жа натура! Бацька — чалавек як чалавек, а гэты...

— Цішэй, а то яшчэ адкуль з'явіцца нечакана, пачуе, як мы пра яго тут разважаем, то ўсім нам тады месца спакойнага не знойдзецца.

Не паважалі вяскоўцы Мартына, ды і за што можна было паважаць такога чалавека? Ён жа нікому ніколі дабра не зрабіў. Адно сачыў, каб самому ўзбагаціцца ды якую выгоду з гэтага мець.

Часта згадвалі, як Мормаль пачынаў правіць сваю гаспадарку. Не ўмеў рабіць, але і не слухаў нікога. Яму старыя людзі кажуць:

— Мартын, глядзі, каб гумно тваю кабылу не заваліла.

— А чаму яно павінна абваліцца?

— Таму што ты яго не па-людску зрабіў. Ты ж слупа пасярэдзіне не паставіў, каб на ім усё трымалася.

Малады гаспадар маўчаў, але пачынаў густа чырванець. Паслужлівыя сяляне працягвалі далей:

— Няма апоры, вось і гопнецца страха на дол, а ты ж кабылу ўсярэдзіну загнаў.

І на гэта Мартын нічога не прамаўляў. Тады старыя працягвалі:

— Шкада кабылку.

І вось тут раздавалася:

— Каб вас чорт пабраў!

На ўсё спадзяваліся дарадчыкі, але на такое — ніколі! Выходзіла, што замест падзякі іх пачыналі брыдка лаяць. Таму не дзіва, што ў адказ несліся словы не менш гнеўныя:

— Каб жа ты спруцянеў, дурында!

— Каб цябе, а не нас, чэрці насілі!

— Мы яму параілі, а ён, бачыш ты, чым уздумаў аддзячыць. Трэба ж такому дурню ўрадзіцца!

— Як гавораць, жарабятка ад нараджэння і да смерці з лысінкай. Якім нарадзілася, такім і памірае.

— Ды лягчэй хаціну з месца ссунуць, чым гэтага чорта пераперці.

Мартын на іхнюю лаянку не звяртаў увагі. Сяляне прызвычаіліся да паводзінаў багацея і не віталіся з ім, не прасілі аб дапамозе, ведалі, усё роўна нічым не дапаможа, а замест гэтага можа злаяць, нібы сабаку бяздомнага.

Нават родны бацька і той, пакуль жывы быў, ніводнага разу не пераступіў парог сынавай хаты, усё ўгінаўся ды ціха прамаўляў:

— Няма мне там месца... Няма...

Людзі суцяшалі:

— Чаго вы так, дзядзька? Ён жа ваш сын. Падыдзіце да яго, вам не адмовіць.

Стары толькі адмахваўся. Разумелі сяляне, што не жадае нават чуць сумленны гаспадар пра Мартына, таму замаўкалі, каб не хваляваць чалавека, не рваць ягонае сэрца. Сам Мормаль, хоць не раз і не два сустракаў бацьку на дарозе, ніводнага разу нават не павітаўся з ім. Хутчэй наадварот: адварочваўся ў другі бок, быццам бы нешта там старанна выглядваў, а на ўсё наваколле разносілася:

— Но, каб цябе чорт пабраў! — гэта ён так свайго каня падганяў.

Жонка доўга трывала ягоныя здзекі і пабоі, а потым сабрала дзяцей і пайшла да бацькі жыць, бо баялася, што ў чарговы раз гэты вылюдак можа пазабіваць усіх. Так і прамовіла яму:

— Не чалавек ты! Не! Жыццё ў цябе не было ніколі чалавечым, і смерці людскай ты не дачакаешся!

— Каб цябе чорт пабраў!

— Няхай ён цябе, дурыла, забярэ! За здзекі тыя, за кпіны, за ўсё, што ты над намі вырабляў!

— Каб цябе чорт пабраў!

— Мы выжывем сярод людзей, а вось ты і з багаццем месца сабе не знойдзеш.

Як застаўся Мартын адзін, то яшчэ больш здзічэў. Ужо і на людзі баяўся паказвацца, каб не трапіць, як сам лічыў, на чорныя вочы, бо тады ж ягонае дабро магло да іншых перайсці. А аднаго разу не вытрымаў, запрог каня і паехаў па сена. Пад'ехаў да стога і крыкнуў:

— Каб цябе чорт пабраў!

Толькі вымавіў і сам... прапаў. Людзі гаманілі, нібыта там на самай справе нячысцік жыў і забраў яго да сябе. Вось адкуль Мормаль стаў, ад таго Мормаля-злыдня.

## САЛТАНАЎКА

Некалі, колькі гадоў таму, ніхто вам і не адкажа, тут здарылася ліхая гісторыя. У той год наскочылі на мясцовыя землі татары. І раней пра іх чулі, але яны не даязджалі да гэтага кутка, хапала ім і ў іншых месцах палону ды каштоўнасцей. На гэты ж раз супыніліся кашом якраз недзе тут, паблізу. Хан сабраў мурзаў і загадаў, каб воі раз'ехаліся ў розныя бакі і рабавалі, бралі ў палон, нікога не шкадуючы.

Хан крычаў, а мурзы, уторкнуўшы галовы ў пясок, бесперапынна кланяліся.

— Даю вам усяго тры дні!

— Слухаемся.

— Хто спозніцца, таксама будзе пакараны!

— Слухаемся.

— Гуляйце сабе, як хочаце, бо войска мясцовага паблізу няма і за тры дні яно падысці не паспее. Таму парабуем і спакойна адыдзем назад. Няхай нам Алах памагае!

— Няхай нам Алах памагае, — падтрымалі мурзы.

— Ну, няма чаго тут пясок есці! Час выступаць!

Маланкамі паляцелі конныя атрады ў розныя бакі, і адразу пацягнуліся за імі дымы ў сіняе неба, пачуліся стогны і галашэнні, і па мясцовых дарогах бясконцымі стужкамі, паволі, ужо нікуды не спяшаючыся і не чакаючы нічога добрага ад лёсу, пасунуліся калоны палонных.

Хан быў задаволены. Першых палонных ужо даставілі ў кош — гэта былі не абы-хто, а моцныя, здаровыя мужчыны, прыгажуні жанчыны і іхнія дзеці, за якіх таксама можна будзе ўзяць на паўднёвых рынках немалыя грошы.

— Даўно нам так не шанцавала. Даўно...

Так гамонячы, хан ішоў уздоўж калоны палонных. Раптоўна ён супыніўся, стаў нібы ўкапаны.

— Пабачце, якая прыгажуня.

— Дзе, сонцалікі?

— Вунь у калоне стаіць. Давайце яе сюды!

Паслугачы кінуліся да дзяўчыны. Як тая ні крычала, як ні спрабавала бараніцца — нічога не атрымалася, бо ўступіцца за яе ніхто не мог. Мужчыны былі скаваныя парамі, а жанчыны пачалі было крычаць, ды як сталі іх біць бізунамі і шаблямі, то тут жа і прыціхлі.

— Ты хто такая?

Прыгажуня маўчала, толькі гнеўна паблісквала вачыма.

— Я пытаюся, хто ты такая? — нецярпліва паўтарыў хан.

У адказ яна толькі плюнула крывавай слінай на пыльную сцежку і адвярнулася. Нехта з паслугачоў перацягнуў гардзячку бізуном.

— Ой, — толькі і вырвалася праз сціснутыя зубы.

— Што, не падабаецца? — ашчэрыўся хан. — Не будзеш са мной лагоднай — ніхто цябе не пашкадуе, ніхто за цябе сваю спіну не падставіць. Адказвай, хто ты?

Дзяўчына па-ранейшаму маўчала.

— Сёння яна будзе маёй, — скрывіўся хан. — Трымайце пад аховай, і як прыцямнее, прывядзіце да мяне, — сурова загадаў валадар сваім паслугачам і, задаволена паціраючы рукі, пайшоў далей.

Вечар толькі пачынаўся, а ля ханскага жытла ўжо тоўпіліся паслугачы:

— Прывялі, сонцалікі.

— Ну, то добра.

— Але ж і злосная. Кусацца кінулася.

— Так вам і трэба, — хан засмяяўся, а следам за ім паказалі зубы і прыбліжаныя. Так было заведзена спрад-

вечным парадкам: смяецца валадар — смейся і ты, а пачынае злавацца — маўчы як рыба. — Давайце яе сюды.

Слугі ўцягнулі дзяўчыну, якая працягвала адбівацца.

— Вой, якая яна прыгожая, калі злуецца, — прамовіў хан і знакам загадаў усім выйсці.

Слугі і ахова непрыкметна выслізнулі за полаг.

— Чаго ты, дурненькая? — ласкава зашаптаў хан і пастараўся заваліць прыгажуню на спіну. — Я ж цябе золатам засыплю, станеш маёй самай любімай жонкай, будзеш астатнімі кіраваць.

Але дзяўчына не паддавалася.

— Вось зараз загадаю!.. — пачаў ужо злавацца валадар, які не прывык, каб яму нехта нешта рабіў насуперак.

У гэты момант прыгажуня гопнулася на спіну, і валадар, адчуваючы блізкі канец, задаволена засоп. Ды дарэмна ён радаваўся, бо незнаёмка схапіла востры кінжал, які матляўся на поясе ў хана, і знізу даверху распусціла вялізнае пуза татарына, ён і закрычаць не паспеў. Дзяўчына ўсхапілася, але не пабегла, не закрычала, бо выдатна ведала, што навокал адны ворагі. Пастаяла, выпіла вады з прыгожага кілішка і ўдарыла сама сябе тым жа нажом-кінжалам пад сэрца.

Слугі доўга чакалі, калі іх пакліча хан. Раніцай асмеліліся і зазірнулі ўнутр. І адразу ж завылі-закрычалі на розныя галасы, пакідалі палон ды каштоўнасці і пабеглі на свае землі. Так адна дзяўчына, нават імя якой не захавалася ў народнай памяці, вызваліла свой народ. На гэтым месцы, дзе зараз вёска, усё і здарылася. Таму і Салтанаўка, што хан недзе тут пахаваны.

## ЧЫРВОНЫ БЕРАГ

Некалі ў нас тут вялізнае возера было, не тое, што зараз. З аднаго берага на другі двое-трое сутак дабіраліся. Пра возера благога не гаварылі, бо яно ў многім выручала. Уявіце сабе — няма чаго есці, то ішлі, закідвалі невад — вось і ежа.

Радаваліся людзі, песні спявалі, але не забываліся частку рыбы і назад выкінуць ды пры гэтым абавязкова прамовіць:

— Дзякуй табе, возера, вазьмі і сабе на вячэру.

Каму аддавалі канкрэтна — не ведалі, але так некалі

рабілі іхнія продкі, таму і сучасныя рыбакі так здзяйснялі, каб нічога не парушыць у адвечнай традыцыі.

Аднаго разу здарылася трагедыя, якая і дала назву нашаму паселішчу. Мала гэтага, мноства жыццяў тады забрала раззлаванае возера. Адбылося вось што.

Вырашылі жыхары тутэйшага паселішча паехаць на рыбалку летам. Якраз такая часіна выпала, калі працы ў полі не было, а на луг яшчэ рана было падавацца. Таму і згаварыліся:

— Давайце возьмем вялікі невад і рыбы паловім.

— А чаму б і не? Калі пачнецца праца ў полі, то не да рыбы будзе. А зараз назапасім.

— То збіраемся? А хто за старшага будзе?

— Зараз і выберам. Іначай жа нельга. Калі рыбу агулам ловяць, то трэба, каб нехта камандаваў.

— То давайце старога Сымона?

— Згода, лепей за яго возера ніхто не ведае. Пайшлі да яго і папросім, каб не адмовіўся з намі на возера выехаць.

Мужчыны бойка падаліся да Сымона. Той быў якраз дома. Выслухаў, чаго прыйшлі да яго на падворак людзі, і стрымана прамовіў:

— Дзякуй за гонар. Калі яго мне аказваеце, то я згодны.

— Вось і добра.

— Але ў мяне ўмова ёсць.

— Якая?

— Каб выконвалі ўсе мае загады, не аспрэчвалі іх.

— Будзе зроблена, — у адзін голас паабяцалі вяскоўцы.

Дамовіліся, што паедуць раніцай. Сымон загадаў праверыць невады, чаўны, сабраць неабходнае прычындалле і сказаў на развітанне:

— Не спазняйцеся, бо хто спозніцца, таго чакаць не станем. Такі звычай у рыбакоў.

— Ведаем.

Сымон доўга не клаўся спаць, усё думаў, каб нічога не ўпусціць, нічога не забыць, бо позна будзе на возеры выпраўляць.

Яшчэ сонца не ўзышло, а стары рыбак ужо шыбаваў да месца, дзе стаялі чаўны. Прыйшоў і весела ўсміхнуўся: усе былі тут. Агледзеўся і прамовіў ціха:

— Што, адплываем ці крыху пасядзім?

— Як скажаце, дзядзька, вы ў нас за старшага.

— То давайце, хлопцы, збірацца. Паплывём далей ад берага. Там ёсць мясціны, якія людзі ніколі невадамі не акідвалі.

— Вось добра. Рыбы многа наловім, — узрадаваліся маладзейшыя з сялян.

Сымон прыкрыкнуў на іх:

— Пра гэта зараз гаманіць не трэба, бо можам усю рыбалку сапсаваць. Калі наловім, то тады і радавацца будзем, а зараз пра што іншае гаварыце.

Рыбакі прыціхлі і ўзяліся дружна адпіхваць чаўны ад берага.

— Ну, з Богам, — урачыста прамовіў Сымон.

За ім перажагнуліся астатнія і наляглі на вёслы. Калі дабраліся да месца, дзе павінны былі лавіць, то сонца ўжо паказвала на полудзень. Але як закінулі невады ды як выцягнулі іх, то ўсю стому як рукой зняло — гэтулькі рыбы ад самага нараджэння не бачылі.

— Вось гэта налавілі! — усё ж не ўтрываўся нехта з рыбакоў.

Астатнія глядзелі на Сымона, што той скажа. Стары адчуў настрой людзей, таму падтрымаў:

— Улоў і сапраўды багаты, але не кожны раз, хлопцы, такое ўдаецца.

— Мы ж ведалі, каго за старшага абраць.

Зарагаталі. Тады Сымон загадаў:

— Што, будзем паціху да берага падавацца? Перакусім па дарозе. Парусы паставім. Вецер зараз павінен дыхнуць, усё нам на руку.

— Камандуйце, дзядзька, — яшчэ з большай павагай звярнуліся да яго вяскоўцы.

— Глядзіце, родненькія, толькі ні пра што благое зараз не думайце, дрэнных слоў не кажыце, бо сапсаваць усё можам.

І што ж вы думаеце? Нехта, не падумаўшы, плюнуў на ваду сярдзіта і гукнуў: «Каб цябе чорт забраў!»

Што тут пачалося! Вада ўсхадзілася, усё навокал загулозавыла! Людзі жагналіся, прасіліся, ды нішто не дапамагала: чаўны адзін за адным ішлі на дно, а разам з імі і сяляне. Цэлыя суткі лютавала непагода. З рыбакоў выратаваліся толькі Сымон і адзін малады хлапчына. Іх прыбіла да берага. Яны, знясіленыя, не змаглі і ўстаць, толькі і здолеў маладзейшы прашаптаць:

— Ой, які чырвоны бераг...

Пазней паселішча, якое ўзнікла на беразе некалі вялізнага возера, назвалі Чырвоным Берагам, нібыта ад нявіннай крыві тых рыбакоў.



# ЖЫТКАВІЧЫ

Жыла сям'я — гаспадар, гаспадыня і трое сыноў. Усяго ў іх ставала, бо ўсе працавітыя былі.

Зваўся той гаспадар Міколам. Вясёлы быў па натуры. Другому працы якой на тыдзень хопіць, а ён прытупне, прысвісне, прыжмурыць вока і скажа:

— Толькі тае і працы, што з раніцы да вечара.

— А потым, тата, што? — спытаюцца сыны.

— Ды цэлая ж ноч наперадзе. Колькі захочам, столькі і адпачнём, каб толькі певень не катурхаў.

— Які? — як заўсёды недарэчы ўстаўляў самы малодшы з сыноў — Яхім.

— Той, што на жэрдцы сядзіць і крыламі лопае.

— А я думаў...

— Што певень не сядзіць і крыламі не лапоча? — пачыналі здзекавацца старэйшыя.

— Не слухай ты іх, сыночак, — уступалася за малодшага матуля. — Ім бы толькі зубы паскаліць.

Бацька з старэйшымі весела смяяліся:

— Нічога, жыў будзе.

— І дзеці пойдуць.

— Ага, ды ўсе рыжыя, як і ён сам.

— І такія ж цікаўныя.

Так і жыла сям'я: працавалі і весяліліся.

А тады, у надзвычай даўнія часы, нашы продкі не садзілі

гэтак багата ўсялякай гароднiны па агародах, не сеялі гэтулькі збажыны. І справа не ў тым, што ленаваліся, а ў тым, што не было магчымасці, а даволі часта і проста зерня не мелі. Карміліся тым, што Бог пасылаў. А пасылаў ён, трэба сказаць, не заўсёды густа. Так і сцвярджалі, што калі ў сям'і і густа, але найболей — пуста.

Надта баяліся вяскоўцы неўраджайнага лета, прасілі засцярогі ва Усявышняга, але часта гэта не дапамагала. Тады галасілі матулі, хавалі скупыя слёзы бацькі, а на могілках вырасталі свежыя капцы над магіламі заўчасна памёршых дзяцей. Такое было жыццё, як жа ты ні круціся, а яно сваё ўсё роўна возьме.

Аднаго разу стаяў Мікола з мужчынамі. Размова неяк сама па сабе зайшла пра іншыя краіны, дзе зрэдку бывалі і некаторыя з мясцовых жыхароў. Сяляне горача заспрачаліся, і ўсё з-за несупадзення думак пра нязведаныя землі.

Мікола не лез у спрэчку, спакойна стаяў і слухаў.

Раптам гаворка перамянілася, бо нехта заўважыў падарожнага, які паволі сунуўся па вясковай вуліцы.

Відаць, ён даўнавата заўважыў вяскоўцаў, але выгляду не падаваў. Наблізіўшыся, павітаўся:

— Добрага здароўя вам, людзі!

— Дзякуй, чалавеча!

— І табе таксама.

— Каб і ты не хварэў.

— Можна да вас прыткнуцца? А то а ўсё адзін ды адзін, словам няма з кім перакінуцца. Ужо прызвычаіўся сам з сабой размаўляць. Калі хто з боку пачуе, то падумае, што з глузду з'ехаў.

— Усяляк здараецца, а месца не шкада. Пасядзі на прызбе ці пастой, калі не надта змарыўся. Можа, што цікавае раскажаш, наша паслухаўшы?

— Чаму б і не? Вось толькі крыху перадыхну з дарогі.

Прыселі ўжо ўсе разам, і нехта з сялян запытаўся:

— Што там, чалавечку, у божым свеце робіцца? Ты ж усюды бываеш, многае бачыш, а яшчэ больш чуеш. Раскажы што цікавае.

— Пра што ж вам распавесці?

Мікола сядзеў збоку, і атрымалася так, што поруч з ім прымасціўся на прызбу і падарожны. Таму гаспадар ціха падказаў:

— Раскажы пра тое, як людзі ў іншых мясцінах свае справы па гаспадарцы правяць.

— Во, гэта цікава будзе, — падтрымалі селяніна іншыя вяскоўцы.

— Пра гэта, кажаце? То слухайце.

Запанавала цішыня.

— Дзе ні быў, але такога цуда, як у адным месцы, не бачыў.

— І што ж там такое? Чаго датычыцца?

— Як вы і прасілі — гаспадаркі. У вас жа, як і паўсюдна, сеюць ячмень ды авёс?

— Ага.

— І болей нічога?

— Чаму ж не.

— А што яшчэ?

— Гарох ды боб.

— Гэта не тое. Там людзі навучыліся для хлеба іншую расліну сеяць.

— Якую?

— Не ведаю, як яна называецца, але калі вырастае тая збажына, то яе жнуць, потым сушаць, потым малоцяць, а там і хлеб пякуць.

— І смачны ўдаецца?

— Шчыра вам скажу, што намнóга лепшы за аўсяны ці за той, які з ячменю вы робіце.

— Ці далёка тая мясціна ад нас? — сур'ёзна спытаў падарожнага Мікола.

— З месяц я ішоў адтуль, пакуль вось да вас прыбіўся. Праўда, не надта спяшаўся, бо мяне ніхто і нідзе не чакае.

— Добра табе... — задуменна прамовіў нехта з сялян.

— Не зайздрошчу и таму чалавеку, які зайздросціць жабраку.

Прыціхлі вяскоўцы, болей не чапалі роспытамі падарожнага, які таксама задуменна думаў пра нешта, седзячы сярод людзей. Час ужо быў і разыходзіцца. Мікола запрапанаваў:

— Пайшлі, чалавеча, да мяне спаць.

— Ды мне, гаспадарыку, толькі прылегчы б у якое гумно, болей і не турбуйся. Я прызвычаены да ўсяго.

— Чаму ў гумне? Навошта чужога чалавека на вуліцы начаваць кідаць?

— Зараз жа цёпла.

— Нічога, што цёпла. У мяне месца на цябе і ў хаціне хопіць. Я яе з размахам будаваў. Сам пабачыш.

— Што ж, тады яшчэ болей гаспадару падзякую.

Завёў Мікола падарожнага ў хаціну, пасадзіў разам з сям'ёй за стол вячэраць. Перакусілі і селі размаўляць. Цікава ж нешта новае пачуць. Тут Мікола не стрымаўся і першы голас падаў:

— Ведаеш што, жонка? Тут чалавек распавядае, што бачыў, як людзі хлеб з іншай збажыны, чым мы, робяць.

— З якой жа? — адразу павярнулася да размаўляючых жанчына.

— Не ведаю, гаспадынька, як яна называецца, але хлеб з яе атрымліваецца надзіва смачны.

— Вось каб нам хто такога зерня даў...

— Бачыў, як яе сеюць, як жнуць, а вось як яна называецца, збажына тая, і не скажу.

Доўга гутарыў у тую ноч з падарожным Мікола. Сонца пачынала ўзыходзіць, а яны толькі спаць палеглі — так загаварыліся мужчыны. Гаспадар усё дапытваўся, як у тую мясціну трапіць, і падарожны яму тлумачыў.

Раніцай пакармілі яны незнаёмца, той ім шчыра падзякаваў і патупаў. Мікола прайшоў з ім колькі дзесяткаў крокаў, а потым і прамовіў:

— Ведаеш, што я надумаў? Падамся сам у той край.

— І добра зробіш.

— Папрашуся да якога гаспадара працаваць, а замест платы дамоўлюся, каб ён мне тым зернем заплаціў. Так і ў сябе на ніве яго развяду. Гаспадарка ў мяне заможная, дагледжаная, сачыць за парадкам ёсць каму.

— Ну, дык няхай Бог прыспарае.

— Дзякуй на добрым слове, падарожны. І табе шчаслівай дарогі. А калі будзеш у нашых мясцінах, то маёй хаціны не мінай. Так і ведай, месца на ўсіх хопіць, а кавалак хлеба для нас не такі ўжо і зайздросны. Хапае і на свята, і на будзённы дзень.

— Яшчэ раз дзякуй, гаспадарыку, я паплятуся далей. Не прызвычаіўся на адным месцы доўга затрымлівацца.

— Душа твая, значыцца, патрабуе дарогі?

— Лічы што так.

Мікола прыпыніўся ля плота, а незнаёмы рушыў па сцяжынцы. Размерана ступалі ягоныя ногі, пастукваў дубовы кіёк па ўтаптанай зямлі.

Гаспадар вярнуўся дамоў і распавёў пра свой намер гаспадыні. Тая ажно заплакала:

— І куды ж ты, чалавеча, падасіся?

— За тым збожжам.

— Мы ж і так заможна жывём.

— Ды хочацца хлеба смачнага паесці.

— От, ужо скажаш. Хлопцаў трэба жаніць, а ён некуды выбіраецца.

— Пачакаюць год. Яны не дзяўчаты, не будуць перастаркамі.

— Зноў усё на жарты пераводзіш?
— Каб ты не хвалявалася задарма.
— Усялякае ў чужым краі можа здарыцца.
— Яно-то так, але я цвёрда вырашыў. Хлопцы нашы з гаспадаркай справяцца, у гэтым я ні хвіліны не сумняваюся.

Як сказаў — так і зрабіў. Праз пару дзён бацька развітваўся з сям'ёй:
— Глядзіце, хлопцы, каб я не перажываў... Усё ў парадку трымайце, іначай перападзе вам на арэхі, калі вярнуся.
— Ды што ты, тата, ці ж мы не разумеем?

Доўгіх два гады не было Міколы. Родныя ўжо пра што толькі ні перадумалі, у каго толькі ні перапытвалі, а яго як дух прапаў. Але аднойчы, глыбокім восеньскім вечарам, нехта пастукаўся ў аканіцу:
— Адчыняйце, родныя...
Узрадаваліся ўсе, кінуліся абдымаць гаспадара. А той, пасміхваючыся, дастаў прыгаршчы збажыны і сур'ёзна прамовіў:
— Вось яно, даражэнькае. А называецца — жыта.
Стаў ён першым у нашай мясцовасці жыта сеяць. Дык сыноў ягоных Жыткавічамі празвалі і паселішча іхняе — таксама.

## ТУРАЎ

Гэта ўсё здарылася надзвычай даўно. Там, дзе цяпер стаіць наш пасёлак і бліжэйшыя да яго вёскі, раней раслі дрымучыя лясы, а побач цякла-куцілася велічная Прыпяць і гарэза Струмень, які паслужліва ўліваў свае воды ў больш магутную сястру-раку. Сцвярджаюць і такое, што найперш быў адзін Струмень, а Прыпяці тады не існавала. Яшчэ адна рэчанька, пра якую зараз памятаюць толькі старыя людзі, — Язда, таксама была вялікай, а цяпер ад яе засталася ручаінка, ды і тая забруджаная, засмечаная.
Вось у тыя далёкія часы і прыйшоў сюды магутны князь Тур з вялікім войскам. Ваяваў ён недзе, відаць, ажно за Кіевам, з ворагамі. Стамілася ягоная дружына, многія з вояў былі пакалечаны, і трэба было даць ім працяглы адпачынак. Але дзе? Там, дзе біліся, усё вытапталі коні, ураджаю не дачакаешся, і людзі яшчэ больш змізарнеюць. Стаў думаць Тур, думалі і ваяводы, ды нічога добрага не пры-

ходзіла ў галаву. Прайшлі суткі,канчаліся другія, ■ дружына стаяла на тым жа самым месцы. І тады рашыўся князь на дзіўны ўчынак — загадаў ваяводам сабраць разам усю дружыну і паставіць людзей у чыстым полі, дзе ўсе яго добра чулі б.

Падначаленыя прызвычаіліся надта не перапытваць, загад ёсць загад, і яго трэба выконваць, таму праз хвілін колькі падляцеў да Тура вершнік:

— Загад выкананы, княжа.

— Пайшлі да людзей тады.

Усе ваяводы і сам Тур падаліся да войска. І тут князь зрабіў тое, што рабіў у надзвычай рэдкіх выпадках:

— Хлопцы, тут такая справа...

Дружыннікі напружана слухалі, здавалася, нават коні і тыя перасталі фыркаць.

— Збіраемся мы рушыць на адпачынак. Самі ж разумееце, як усе стаміліся, знясілелі. Трэба адшукаць мясціну, дзе ні вайны не было, ні якой іншай пошасці, каб хапала прыпасаў і для людзей, і для коней.

Дружына маўчала.

— Дык што, хлопцы?

Воі, прызвычаеныя выконваць загады і безагаворачна падпарадкоўвацца, зараз не надта спяшаліся выказваць уласныя думкі. Мячом махаць — гэта адна справа, а языкам мянташыць — зусім іншая. Тут і на смех падняць могуць. Таму і маўчалі. Тур ведаў пра гэта, таму паспрабаваў падбадзёрыць вояў:

— Не палохайцеся. Мясціна трэба вялікая, прыдатная для войска...

— Разумеем, княжа, але ж мы даўно дома не былі, паход за паходам цягнецца. Калі з роднай хацінай развітваліся, дык адно было, а калі прывядзём гэтулькі людзей, а там выпалена ці вынішчана ўсё?..

— Або, і такое можа быць, там неўраджай? Туды дабірацца будзем, а назад ужо і сілы не знойдзецца... Таму і не спяшаемся з адказам, княжа.

— Я вас не прыспешваю, але мы з ваяводамі не змаглі такой мясціны адшукаць, вырашыў з вамі параіцца.

— Дзякуем за давер, валадар.

Як бы там ні было, але і дружына нічога не магла падказаць. Ужо збіраліся распускаць людзей і ехаць на тое месца, дзе стаялі ў мінулым годзе, як раптам Тур устрапянуўся:

— Хлопцы, калі ўсе падказаць не могуць, то, можа,

віжы падкажуць або ганцы? Вы ж ва ўсе бакі ездзілі, магчыма, дзе такую мясціну бачылі, якая б нам зараз падышла...

Запанавала цішыня, і тут выступіў наперад малады хлапчына і гучна прамовіў:

— Здаецца, княжа, я ведаю такое месца. Праўда, далекавата адсюль.

— А мы туды, чалавеча, не ваяваць накіроўваемся, а адпачываць.

— Хапае там і дзічыны, і рыбы, і корму коням.

— Гэта для нас галоўнае.

— І яшчэ, княжа. Далёка туды дабірацца пешкі, а па вадзе будзе значна бліжэй.

— Вось як? Туды і па вадзе дабрацца можна? Малайчына, вой, малайчына...

Праз хвіліну ўзрадаваны Тур аддаваў ужо іншы загад:

— Рыхтаваць чаўны і для людзей, і для коней. Берагам праедзе толькі невялікі атрад, на выпадак нечаканага нападу чужынцаў, калі яны тут акажуцца.

Да той мясціны плылі тыдні тры. Спыняліся, лавілі рыбу, білі звера, хвалілі хлопца, але той адмоўна круціў галавой і сцвярджаў:

— Гэта яшчэ не тое месца.

— І тут жа ўсё ёсць...

— Пабачыце, колькі там будзе.

Тур задаволена церабіў рыжую бараду. Яму і самому падабалася, што людзі на вачах папраўляліся, што землі такія багатыя. Так і прыплылі яны сюды, у нашы мясціны.

Паснулі людзі, хто на чаўнах, а хто, расклаўшы вогнішчы, выбраўся на бераг. Сярод іх ляжаў і князь Тур. Заснуў валадар, і сніцца яму дзіўны сон — ляжыць ён на высокім возе, а навокал гарады прыгожыя стаяць. Ды такія прыгажэнныя, якіх да гэтага часу нідзе не бачыў. Усхапіўся князь і загадаў прывесці да яго чараўніка, які ў любым паходзе людзей параненых ды хворых вылечваў. Распавёў яму валадар пра сон.

— Гэта навіна, валадар, надзвычай добрая, — зазначыў чараўнік.

— Добрая? І што ж яна азначае? — зацікавіўся Тур.

— Азначае, што тут трэба будаваць... горад.

— Вось яно што... Выдатная справа — будаваць горад! Падумаць толькі! Мы ўсё разбураем, калі ваюем, а тут трэба пабудаваць! З раніцы і пачнём. Слаўная ў горада будзе гісторыя, калі ўсё атрымаецца.

Князь Тур пачаў будаваць горад. І быў горад такі вялікі, што і Верасніца, і Рычоў, і Дварэц, і Азяраны, і іншыя вёскі былі пад ім. Будаваў яго князь Тур не абы-як: спачатку насыпаў рачнога пяску тоўсты слой. Пасля пачаў паліць лес і насыпаў пласт дробнага вугалю ў тры аршыны. Потым надралі і паклалі пласт бярозавай кары; пасля кары насыпалі бітых гаршкоў; пасля — звярыных касцей. У канцы засыпалі пласт лускі язя — і ўсё гэта паверсе засыпалі зямлёй.

Уязная брама была каля Азяран. У асяродку горада выкапалі глыбокі-глыбокі калодзеж, які і да гэтага часу называецца Тур-калодзежам. Казалі, што гэта незвычайны калодзеж. У ім тры дны: меднае, сярэбранае і залатое. Калі прарвецца, не вытрымае, залатое дно, то настане канец свету, зямля зноў ператворыцца ў суцэльны вялікі акіян.

На паляванне Тур звычайна ездзіў у тое месца, якое зараз завецца Буразь. Было там глухое балота, лясы, а таму і шмат звяроў. Тур забіваў іх, не саскокваючы з каня, такі магутны ды вёрткі быў валадар. Рэзне мячом ці гопне дзідай ды яшчэ пры гэтым і прамовіць: «За раз!» Так і месца назвалі — Буразь. Відаць, раней было Заразь.

Пасля Тура стаў валадарыць у горадзе слаўным князь Уладыка. Менавіта пры ім у Азяранах была надзвычай вялікая ўязная брама, а на ёй цяжкі замок. Калі ворагі неяк разбурылі Тураў, то не вытрымалі, паваліліся і вароты, а з іх выпаў замок. Ужо значна пазней ішла неяк карова з пашы і трапіла ў той замок нагой. Замок жа быў сама меней фунтаў з дзесяць. Там, дзе цяпер жыве Курбан, тады жыў Уладыка, таму нават сёння тое месца называецца Уладыкіным. З уладыкінага палаца быў у Тураў насып, а праз раку Язда — вялікі мост. Трывалы, з моранага дуба зроблены.

Пры Уладыку жыло ў горадзе многа папоў і іншых святароў. святароў

Пры Уладыку жыло ў горадзе многа папоў і іншых свяшчэннікаў, таму яму быў наканаваны незвычайны лёс. Здарылася так, што хоць ён і багаты быў, і ўсяго ў яго хапала, але смерць займеў страшную. Ішоў аднаго разу на малебен. Прыцямнела добра, а ён сунуўся без аховы, бо каго было тады ў Тураве баяцца? Зладзеяў не было, разбойнікаў — таксама. Ажно па дарозе напалі на яго... ваўкі і з'елі. Чакалі, чакалі Уладыку людзі — няма, тады пайшлі шукаць і знайшлі толькі парваную вопратку на тым самым месцы, дзе ён сустрэў сваю апошнюю часіну.

Пасля Уладыкі быў князь Комар, а пасля яго на княжацкі стол села княгіня. Імя яе невядома, не захавала народная

памяць. Вядома толькі, што была яна надзвычай моцнай чараўніцай. Калі па Тураўшчыне ў той час разышлася маравая пошасць, дык гэта княгіня загадала закапаць у зямлю нямога чалавека, жывога бабра і жывога мядзведзя. Калі іх закапалі, дык зрабілася гара, якая называецца да нашых дзён Бабруйкава Гара. Пасля гэтага ўсяго пошасць спынілася.

Прыходзілі на Тураў розныя ворагі, але княгіня-чараўніца бараніла сваіх людзей, не давала іх у крыўду. Прыйшло раз вялікае войска, абклала Тураў і супынілася там, дзе цяпер Перадол. Княгіня тая звязала шчотку з свіной шчаціны і кінула — ворагу падалося, што параслі вялікія камышы; кінула з курынае яйка — чужынцам падалося, нібыта раптоўна разлілася вялікая вада. Доўга стаялі чужынцы, ды не хапіла ў іх вытрымкі і харчоў. Сталі яны самі паміраць, а коней ужо ў іх не было, бо да гэтага ўсіх паелі. На тым месцы, дзе ўсё гэта адбывалася, з'явілася лагчына, якую ў народзе назвалі — Перадол. Калі б яе ворагі ў тыя жахлівыя часы пераадолелі, то тураўцы загінулі б.

Калі ў другі раз прыйшлі нязваныя госці да горада, то княгіні-чараўніцы ўжо не было ў жывых і не было каму бараніць Тураў. А ён да таго часу быў вялікім — адных толькі цэркваў ды храмаў было сорак пяць. Накінуліся чужынцы на мірных жыхароў і пачалі вынішчаць. Нікога не шкадавалі — ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Дзяцей, каб час не губляць, кідалі ў калодзеж, спадзеючыся, што яны там пакалечацца і перамруць. Але выйшла наадварот, бо вада ў калодзежы ад нечага стала малаком: тыя небаракі ім карміліся, выраслі і зноў пайшлі па свеце тураўцы.

Адзін жа чалавек, ратуючыся, забраўся ў буслянку і сядзеў там да таго часу, пакуль ворагі не рушылі ў дарогу назад. За гэта яго празвалі — Буслiны. А другі забраўся ў глыбокую яміну, сядзеў там і еў толькі вяленую рыбу. За гэта яго празвалі Седуном. Яны і да нашых дзён у Тураве жывуць.

Пасля разбурэння горада епіскапства перабралася ў Пінск, ■ з Пінска ў Бабруйск, і ажно дваццаць пяць гадоў судзіўся Тураў за тое, каб вярнуць усё назад, ды, на вялікі жаль, не атрымалася.

Вось такая гісторыя, слаўная і трагічная, у нашага паселішча.

# ВУГЛЫ

Некалі мужыкі ўсё з панамі біліся. Войны тыя надзвычай жорсткімі ды бязлітаснымі былі. Самі падумайце, ніхто саступаць не жадаў, бо калі саступіш, то ўсё роўна смерць напаткае. Як ні круціся, а трэба на смерць біцца. Толькі самааддана змагаючыся, была надзея перамагчы памешчыкаў ды іхніх шматлікіх паслугачоў. Што панам, у іх жа і зброі хапала, і войска добра падрыхтаванае ды абвучанае пад рукой стаяла. Вось неяк пачулі, што ў адным месцы сяляне не жадаюць падпарадкоўвацца, сабраліся і пачалі раіцца, што рабіць:

— Трэба правучыць хамаў!

— Ведама ж. Даць так, каб да дзесятага калена баяліся нават падумаць пра выказванне нейкага незадавальнення!

— Разнесці дазвання! Выпаліць агнём!

— Вынішчыць мячом! Бязлітасна!

— Да аднаго пакараць, каб ніхто ўбаку не застаўся!

— То час войска збіраць?

— Трэба, бо яны задумаюць па іншых паселішчах пайсці, а калі пойдуць, то за імі многія пададуцца. Тады сіла іхняя ўзмацніцца.

— Якая ў іх сіла? — паспрабавалі пасмейвацца некаторыя.

Але найбольш старыя, спрактыкаваныя памешчыкі перабілі:

— Не спяшайцеся смяяцца. Вам, відаць, не прыходзілася з мужыкамі біцца?

— А што з імі біцца? Яны ж з каламі ды булавамі! Што гэта за зброя?

— Касу ўхопіць і бяжыць, нібы на луг пракосы класці!

— Ці з цэпам прэцца.

— Ага, ваякі знайшліся! Мы іх за пару хвілін разнясём!

— Ой, глядзіце...

— Ды не палохайце вы нас.

— Я вас і не палохаю. Не раз, не два, а дзесяткі разоў за маё доўгае жыццё мне даводзілася з мужыкамі сутыкацца, і павінен вам сказаць...

— Што, можа, і ўцякалі ад мужычча?

— І такое здаралася, пане мой. Таму давайце лепей параімся, як дзейнічаць далей будзем. Я думаю, што трэба нам старэйшага абраць.

— Сапраўды, без яго нельга.

— Тады давайце самага паважанага пана і абяром.

Толькі што абраны камандзір, пакручваючы доўгія вусы, прамовіў:

— На першы раз мой загад будзе не надта мудрагелісты: усім збірацца ў паход, разам з коньмі, зброяй і слугамі. Рыхтавацца, як на самую сур'ёзную бітву. Самі ж ведаеце, што ўсялякае можа здарыцца. Той, каму даводзілася разбірацца з мужыкамі, ведае, як яны па-майстэрску валодаюць цапамі ці косамі. Там не да смеху будзе.

— Які ўжо там смех, калі на кожным кроку будзе смерць чакаць, — змрочна прамовіў сівы пан са страшным шрамам праз увесь твар. — Каму язык пачасаць, то няхай да мяне падыходзіць, навучу, як гэта больш спрытна рабіць. А пахваляцца да бітвы — дрэнная прыкмета.

Камандзір удзячна зірнуў на старога таварыша, дзякуючы яму за падтрымку.

— Няма чаго болей спрачацца і цягнуць час. Дарагі ён зараз для нас. Праз дзень выступаем. Хто спозніцца, той будзе лічыцца здраднікам.

Сабраліся яны і паехалі ваяваць. Ехалі, нібы на якое свята: у святочных вопратках, якія свяціліся-пераліваліся каштоўнымі камянямі, узброеныя дарагой зброяй. Рагаталі, пасмейваліся адносна таго, што не паспее і пару тыдняў прайсці, як з быдлам будзе скончана. Толькі дарма спадзяваліся на лёгкі поспех, бо ў першай жа бітве пераканаліся ў адваротным. Многа было забіта сялян, але і многіх памешчыкаў пазбавілі жыцця, яшчэ болей было параненых і пакалечаных. Цяпер ужо ніхто не жартаваў, не да гэтага было. Толькі і чулася:

— Не даруем! Не даруем ім такога! Да апошняга вынішчым!

— Выражам! Выпалім!

— На кожным дрэве іхнія трупы гойдацца будуць!

— Ніякага даравання няхай не чакаюць!

Грозна крычалі, але не чулі гэтых крыкаў сяляне, а калі і чулі, то мала звярталі ўвагі. Біліся не на жыццё, а на смерць, бо так, як жылі, ім далей жыць не хацелася. Лепей вольнаму загінуць, чым паступова гніць у астрогах.

З пераменным поспехам ішла справа, і невядома, як бы яна скончылася, каб не дапамога, якая падышла да памешчыкаў. Тады тыя з сялян, хто застаўся ў жывых, пайшлі хавацца па глухіх мясцінах, каб потым зноў сабрацца з сіламі і паўстаць. Адзін такі атрад і заснаваў наша паселішча, а Вугламі назвалі таму, што нібы ў рагу знаходзіцца, паміж Беларуссю і Украінай.

# ДЗЯКАВІЧЫ

Здарылася гэтая гісторыя даўно, але пераказваецца людзьмі да нашага часу. І смешная яна, і павучальная, таму няма нічога дзіўнага ў тым, што і старыя, і малыя любяць яе слухаць, хоць ужо не раз, не два да гэтага чулі.

У нас тут стаяла прыгожая царква, і ў ёй адпраўляў малебны бацюшка. Калі ж існаваў бацюшка, то без дзяка ён не мог абысціся. Сябрукі яны былі надзвычай моцныя — усё рабілі разам: дзе адзін хадзіў, там і другі шпацыраваў, адзін ракам п'яны коўзаўся, то і другі недзе паблізу ці то плот падпіраў, ці то ўжо яму гэта надакучыла і стаў зямлю носам араць.

Любілі смачна паесці, добра выпіць, а таксама... за чужымі жонкамі прыўдарыць. Што ж ім, лайдакам, яшчэ рабіць заставалася? Усе людзі на лузе шчыравалі ці ў полі гнуліся, [redacted] дзяк з бацюшкам палежвалі ды паціху перамаўляліся, удакладняючы, дзе б у чарговы раз пажывіцца.

— Нешта не памірае ніхто, — задуменна казаў бацюшка. — І не нараджаецца...

— Так.

— Хоць бы якое вяселле.

— Якое ж вяселле, ойча, калі такая гарачая часіна стаіць? Людзі ж працуюць.

— А мы што, не працуем?

— Чаму ж не — працуем, ды яшчэ як!..

Аднаго разу дзяк і гаворыць:

— Бацюшка, што скажу...

— Ды гавары ўжо ж, не цягні.

— Іду я гэта сёння ля калодзежа, а там маладзіца... Такая прыгажэнная... Такая страйнюткая...

— І хто ж гэта? — ласа аблізнуўся бацюшка.

— Яна ў нашай вёсцы не жыве, але родам адсюль.

— Дык яна ў госці прыйшла да родных? — здагадаўся бацюшка. — І чыя ж гэта жонка?

— Мясцовага палясоўшчыка. Таго, што ў далёкай леснічоўцы жыве.

— Ды што з гэтага?

— А вось тут і пачнецца самае цікавае. Я тую маладзіцу з дзяцінства ведаю. У маладосці была такой, што хлопцам ніколі не адказвала, не думаю, што і зараз, у лесе жывучы, перайначылася. Можа, і ў вёсцы з гэтай мэтай з'явілася.

— З якой? — не зразумеў бацюшка.

— Ой, ойча, што ж гэта вы? Ды каб з мужыком якім

пазабаўляцца. Думаю, трэба падысці да яе і пагаманіць. Пра жыццё распытаць, яшчэ пра што іншае. Прычыну, каб зайсці, знайду.

— То і мне паведамі.

— Абавязкова.

— Але ці пагодзіцца яна з двума?

— Ой, ойча, што ёй два мужыкі? Хіба ёй прызвычайвацца?

— То давай, джгай, а я тут пачакаю.

Дзяк паімчаў у бок вёскі, а бацюшка застаўся ляжаць на траўцы, лянотна адганяючы ад сябе мух.

Час цягнуўся марудна. Бацюшка ўжо вырашыў было падацца ў вёску, ды ў гэты момант пачуў дзякава радаснае:

— Усё добра.

— Расказвай падрабязна.

— Як толькі я зайшоў, яна мяне адразу пазнала і пачала дапытвацца, чаго [redacted] прыйшоў. Ну, [redacted] трываў, трываў, а потым і сказаў, што хацеў бы з ёй пагаманіць дзе-небудзь у патаемным месцы. Маладзіца ўзрадавалася і сказала, каб я сам прызначыў. Тады я абмовіўся, што не адзін буду, і назваў вас. Яна не запярэчыла і гэтаму.

— І дзе ж вы дамовіліся сустрэцца?

— У кустоўі, недалёка адсюль. Сказала, каб мы выпіць, закусіць узялі.

— Калі?

— Сёння вечарам. Прыцямнее, мы і пойдзем.

Рэштку дня сябрукі займаліся тым, што шукалі найлепшую выпіўку ды закуску, каб паказацца перад жанчынай у самым шыкоўным выглядзе. Нарэшце пачаў апускацца змрок. Бацюшка з дзякам сядзелі на беразе рачулкі і, адбіваючыся ад камароў, зырылі ў бок вёскі.

Жанчына прыйшла і, як ні ў чым не бывала, быццам бы не ведала, чаго яе тут чакаюць, пачала гаманіць ды выпіваць з сябрукамі. Калі добра ўзялі гарэлкі, то дзяк прамовіў:

— Ці не час нам заняцца і больш цёплым?

— Так, — гігікнула прыгажуня і пачала паволі распранацца.

Як толькі яна сцягнула з сябе спадніцу, раздаўся магутны голас:

— Ну, цяпер я вам пакажу, [redacted] вас паспавядаю!

Аказалася, што ляснік даўно чуў пра грэх жонкі і сачыў, чым яна займаецца, калі ідзе да бацькоў. На гэты раз яму пашанцавала. Як замітусіліся каханкі, як заскакалі, [redacted] той здаравіла лупцуе іх цурбалкам. Бацюшка з жанчынай неяк

вырваліся, бо здаравейшыя былі, а дзяка ўбраў ляснік добра. Так ужо «адспавядаў», што той і ўстаць, можа, з тыдзень не мог. Дык тое месца, дзе яго адлупілі, назвалі Дзякавічамі.

## КАЖАНОВІЧЫ

Быў у нас адзін селянін, і надта ж яму хацелася ўзбагаціцца. Вось дзе ні сядзе, там пра грошы ды золата гамоніць:

— Каб знайшоў я торбу золата, то зажыў бы...

— Як бы ты тады ўжо жыў?

— Еў бы смачна, апранаўся багата. Панам бы стаў.

— Панам, кажаш? То лапці не забудзь на боты памяняць, бо пану не выпадае ў іх хадзіць.

— І анучы чыстыя, бы гэтыя ў цябе, братка...

— Смярдзяць, як тры маркачы, што ў каровіны лепяхі выпэцкаліся.

— Вам бы толькі рагатаць.

— А табе пра грошы марыць.

— Дык грошы ж не смярдзяць.

— Хто гэта табе, братка, такое сказаў?

— Сам ведаю.

— Дрэнна ведаеш. Бо і смярдзяць яны, і жыцця могуць пазбавіць, ці налякаешся з-за іх так, што потым кожнага куста баяцца будзеш.

— Не палохайце, не на таго натрапілі. Вам, мабыць, зайздросна, дык і выдумляеце абы-што?

— І чаму ўжо тут зайздросціць?

— Грошам.

— Дык іх жа яшчэ няма.

— Будуць.

— Вось як будуць, тады і пахваляйся.

А той селянін на самай справе месца сабе не знаходзіў з-за таго ўяўнага золата. Усё лазіў па наваколлі, нешта вышукваў і пастаянна мармытаў:

— Знайду... Быць не можа, знайду...

Калі нехта ненарокам пытаўся: «Што?», то чуў не надта зразумелы адказ: «Што шукаю, тое і знайду... Сам знайду...»

Ужо і на людзі мала вясковец паказваўся, а ўсё надвячоркам некуды знікаў. Сталі гаманіць, што пазнаўся ўжо з нячыстай сілай. Так і гаманілі:

— Няйначай прадаўся. Што яму рабіць заставалася?

Сам жа не можа каштоўнасцей адшукаць, то і запрадаў душу і цяпер будзе золата мяхамі цягаць.

— Хай сабе цягае, толькі каб зусім не здурнеў, бо шкада чалавека.

— Сапраўды, малады ж яшчэ... Ды што зробіш?..

Пагавораць вяскоўцы і забудуцца на гэтым, бо ўсялякіх іншых спраў хапала. А мужык і сапраўды з нячысцікамі спазнаўся. Падпільнаваў, калі чэрці з паслугачамі сабраліся на сваё вяселле, і запрапанаваў ім паслугі. Тыя весела перазірнуліся:

— А не баішся нас? Чаго гэта табе захацелася нам дапамагаць?

— Ды я не проста так.

— Вунь яно што! Тады, што ўзамен папросіш?

— Хачу... Хачу и панам стаць.

— Ясна.

— А які з мяне пан, калі грошай няма? Таму і хачу ўзамен за свае паслугі атрымаць ад вас здольнасць адшукваць скарбы.

— Няблага... — сурова прамовіў галоўны нячысцік. — Даць табе магчымасць валодаць нашымі скарбамі?! Але ж...

— Я буду браць самую дробязь, — знайшоўся селянін.

— Самую дробязь? То што будзем рабіць з гэтым чалавекам, сыны і браты?

— Калі ён нам свае паслугі прапаноўвае, то трэба даць яму такую здольнасць, — загулі чэрці.

— Тым болей, што не надта часта да нас людзі з такімі вось прапановамі прыходзяць, — дадалі іншыя.

— Даць, — запішчэлі самыя малодшыя, якія не мелі права крычаць разам з усімі, а толькі ў апошнюю чаргу.

Тут узняўся здаравенны чарцяка:

— Дазволь, браце, слова сказаць. Трэба даць яму такую магчымасць, але не адразу, а пасля іспыту. Няхай дакажа, што не баіцца, што здольны зрабіць для нас нешта незвычайнае, што іншым людзям не пад сілу.

— А што, слушная прапанова, — ухапіўся за гэтыя словы і старшы нячысцік, — так і зробім.

— Няхай спачатку сёння ж, увечары...

— Не паспее ўжо, — перабіў нехта.

— Тады ў бліжэйшую суботу няхай пойдзе ў старое гумно, што стаіць на краі вёскі, і прынясе граблі, якія там стаяць у куце. Прынясе на гэтае самае месца і тут пакладзе, каб мы пераканаліся, што ён не палохаецца і можа выканаць нашы патрабаванні.

— Але ж ён можа нас падмануць?

— Якім чынам?

— Пойдзе днём, калі нічога страшнага няма, і забярэ граблі, а пасля, дачакаўшыся вечара, прынясе сюды. Мы і ведаць не будзем.

— Не такія ўжо мы дурныя, каб кожны сустрэчны абкручваў нас вакол пальца. Прыставім сачыць за ім найбольш увішных і кемлівых нашых братоў, то ён нікуды не дзенецца, павінен будзе рабіць тое, што мы запатрабуем.

— Вось гэта справа! Ну то што, згодны? — звярнуўся старшы чорт да мужыка.

— Ведама што.

— Тады калі выканаеш наша патрабаванне, то атрымаеш цудадзейную здольнасць. Зразумеў?

— Зразумеў.

Нецярпліва чакаў чалавек таго суботняга вечара, калі павінен быў вырашыцца ягоны лёс. Круціўся па падворку, выскокваў на вуліцу, адным словам, месца сабе не знаходзіў. Нарэшце надышла субота. Уподбежкі паджгаў да гумна вясковец, але здарылася дзіўнае: толькі ўвайшоў, як з дзікім ровам выскачыў назад: «Кажаны!.. Кажаны!..»

Упаў і сканаў. Потым толькі здагадаліся, што яго кажаны напалохалі. Тое месца пазней і празвалі Кажановічамі. Так і назва ў вёскі з'явілася.

## КРЭМНА

Даўней усяму шчыра пакланяліся. Не толькі таму, што баяліся, але і таму, што шанавалі ўсё жывое навокал. Пачуюць людзі, як птушка пяе, і гавораць:

— Гэта ж не птушачка. Гэта душа аднаго з нашых продкаў прыляцела.

— І чаго яна лётае?

— Яна без дай прычыны, проста так ніколі не паляціць. Заўсёды пад якое свята прыбіваецца да жывых ці каб нешта распавесці.

— Што, і на гэта душа здольна? А як яна расказвае?

— Калі вясёлую песеньку спявае-заліваецца, то, значыцца, усё добра. А вось калі наадварот, то нешта здарылася благое.

— Цікава. Няўжо і ў нас душы памерлых становяцца птушкамі?

— Бясспрэчна.

— Але ж мне чуць не даводзілася, каб птушкі ды нешта незвычайнае распавядалі.

— Ты проста на гэта ўвагі, чалавеча, не звяртаў. Цяпер будзеш ведаць, то ніколі абыякавым міма не пройдзеш.

А то дрэвам пакланяліся, камяням усялякім. Праўда, далёка не ўсім, а тым, якія вылучаліся аграмаднасцю ды незвычайнай формай. Лічылі, што камяні растуць, размнажаюцца, што яны могуць нават выконваць волю і пажаданні чалавека, а сам чалавек... ператварацца ў камень. Не здзіўляйцеся. Менавіта такая гісторыя і адбылася некалі, у сівыя стагоддзі, у нашым краі. Было ўсё наступным чынам.

Неяк наехалі ворагі. Многа іх было, што таго пяску на дарозе. Пачалі яны мясцовых жыхароў забіваць, прыніжаць усяляк ды ў палон без ліку браць. Некаторыя спрабавалі супраціўляцца, але не намнога іх хапіла, бо змагаліся ў адзіночку. А адзін супраць сілы не надта папрэ.

Аднаго разу стары дзядулька, якому расказалі, што ворагі вытвараюць у бліжэйшых сёлах, ухапіўся за галаву і застагнаў:

— Ой, якія ж дурныя мы!

— Чаму? — здзівіліся вяскоўцы.

— А ўсё таму, што хаваемся паасобку ды па адным выступаем супраць чужынцаў. Трэба іначай дзейнічаць.

— То падкажыце, як.

— А вось паслухайце. Раней нашы дзяды ды прадзеды так не рабілі. Яны не выступалі па адным, а збіраліся разам, арганізоўваліся і, дачакаўшыся зручнага выпадку, кідаліся на няпрошаных гасцей. Выбіралі ціхае, непралазнае месца — тады маглі значна меншай сілай пабіць дзвання большую. Таму і баяліся іх ворагі. Ды страцілі мы былую славу, страцілі тое вайсковае майстэрства, таму і шалее на нашай зямлі вораг. Калі б адчувалі, што адплацяць ім такім жа манерам, то не лезлі б, сядзелі ў сваім краі, а то...

— Праўду дзедка сказаў... Што ў нас тут за сіла?

— І не кажы. Усяго нейкая сотня мужчын, і тыя зброі ў руках ніколі не трымалі.

— Акрамя хіба што паляўнічых.

— Так... Як жа быць?

— Трэба, хлопцы, не спаць у шапку, а добра ўсё прадумаць. Ад гэтага многае будзе залежаць.

— Так, сама меней — жыцці нашы ды нашых родных. Дзеля гэтага трэба прадумаць усемагчымыя варыянты, каб нідзе не памыліцца.

— І так мала нас засталося, каб памылкі дапускаць... — азваўся старэча:

— Думайце, родненькія, думайце; бо не так ужо і многа часу ў запасе маем: можа, суткі, ■ можа, крыху болей.

— Добра, калі яшчэ і так. Можа здарыцца, што чужынцы тут праз лічаныя гадзіны з'явяцца.

— І гэта не выключана...

Усе прыціхлі. Адзін глядзеў на другога з надзеяй і спадзяваннем, што вось менавіта зараз падымецца сусед і прапануе план, прыгодны для ўсіх.

Час ішоў, ■ канкрэтнага так нічога і не гучала. І тут адзін з мужчын выгукнуў:

— Здаецца, ■ ведаю, як будзем дзейнічаць!

— Як?

— Выступім з вёскі праз нейкую гадзіну. Возьмем толькі самае неабходнае і падамося ў лес.

— У лес? На ноч гледзячы?

— Так.

— І што ж мы там рабіць будзем?

— Па-першае, гэтым самым мы засцеражом свае сем'і, а па-другое, я так мяркую, трэба будзе з нашай стаянкі накіраваць ганцоў у іншыя мясціны, каб там уздымалі народ і гаварылі, куды падавацца.

— А далей?

— Назбіраем дастаткова сілы і, як гаварыў нам дзедка, ударым па чужынцах.

— Правільна, сынку, правільна, — горача падтрымаў план стары вясковец.

Так яны і зрабілі. Сталі збірацца людзі ў тутэйшы лес, пачалі рыхтавацца да рашаючай бітвы з ворагамі. Прадумвалі ўсё, зараней меркавалі, каб ведаць, куды ўдарыць, а калі што якое, дык каб было куды і адступіць. Усюды насіліся вершнікі, перасоўваліся пешыя атрады. Але не драмалі і чужынцы. Пранюхалі яны нешта, бо пачалі цікаваць-шукаць патаемную базу. Аднаго разу захапілі ў палон вершніка і ўзрадаваліся: «Во, цяпер пра ўсё даведаемся! Болей таго, ён сам нас да сваіх завядзе!»

Ды дарма радаваліся, бо як ні катавалі, як ні здзекаваліся з паланёнага, нічога ён ім не сказаў, а перад смерцю ўсміхнуўся і... ператварыўся ў крэмень. Стаў каменем — моцным і трывалым.

Ворагаў тых разбілі, а месца смерці адважнага воя назвалі Крэмнем, ці Крэмна, як і цяпер завецца.

# ЛЕНІН

Жыў некалі ў нашым мястэчку пан. Жорсткі быў, бязлітасны, простых людзей увогуле за людзей ніколі не лічыў.

Лупілі нявінных сялян так, што потым многія не ачухваліся, праз дзень-другі пакідалі белы свет. Пасля іх заставаліся ўдовы з дзецьмі на руках, якім ужо ніхто і нічым не мог дапамагчы. Бедалагі-жанчыны даходзілі да таго, што самі пазбаўлялі жыцця сваіх немаўлят, каб не глядзець, як тыя будуць на іхніх вачах пухнуць з голаду і марудна паміраць, просячы есці. Ім жа нельга растлумачыць, што есці няма чаго і не будзе.

У гэтай мясцовасці нават нельга было пачуць звонкіх песень, бо край нібы вымер. Толькі чорныя груганы-крумкачы, цяжка пакалыхваючы скрыдламі, лёталі ў паветры, выглядваючы чарговую ахвяру. Во каму раздольна і прывольна жылося тады, пры такім гаспадары. Яны недахопу ў ежы не ведалі — мёртвых нават хаваць не было каму.

Жонка таго вылюдка-памешчыка нарадзіла дачушку. Сама нядоўга пражыла — памерла, калі малой усяго гадкоў пяць было, а мо і меней. Калі муж прыйшоў да яе развітацца, то нічога не прамовіла і пастаралася так, каб слёз на твары не было, не хацела нават у апошні час дараваць яму шматлікія прыніжэнні і здзекі. Глядзела на дачушку, а на гаспадара і вачэй не перавяла. Той, пабачыўшы, што хворая да яго не звяртаецца, сабраўся і выйшаў, не забыўшы пры гэтым прамармытаць:

— Як сабе хочаш! Твой гонар мне не патрэбны! Памірай сабе так!

Яшчэ мацней заплакала жанчына. Залівалася слязамі адчаю і бяссілля. Адзіным жаданым для яе ў тыя часіны чалавекам была старая пакаёўка, якая за сваёй паняй прыйшла ад чужога памешчыка. За маці была бабулька, за родную матулю, якой хворая давярала самыя патаемныя думкі. Так і казала:

— Нядоўга ўжо мне засталося.

— Што ты, дачушка, што ты кажаш? Пажывеш яшчэ.

— Ой, не, бабулька. З кожным божым днём адчуваю, як растаюць мае сілы.

— Сілы што, яны адновяцца. Ты толькі духам не падай. Пабачыш, выйдзе яснае сонейка, заспяваюць ясныя птушачкі, то і табе лягчэй стане, на папраўку пойдзеш. Чаго табе, такой маладзенькай, паміраць?

— Бог не выбірае, відаць.

— Не кажы так, бо Бог заўсёды забірае да сябе лепшых.

— Вось як?

— Так мне гаварылі, так і я пераказваю.

— Зразумела. Толькі ў мяне ёсць да цябе, бабулька, адна просьба.

— Гавары, каханенькая, не бойся, [redacted] нікому не перакажу. Тое, што я пачула, — магіла. Сама ж ведаеш, ці адзін раз такое было?

— Ведаю, таму і вырашыла папрасіць. За дачушкай маёй, за Ленай, глядзі, нібы за сваёй роднай ці як за ўнучкай. Нікога ў яе, акрамя мяне, не было. Бацька ёю мала цікавіўся, а зараз і ўвогуле не будзе яму да дачкі справы. Ён сваімі справамі заўсёды займаўся.

— Выканаю найлепшым чынам, можаш не сумнявацца.

— Глядзі ж, я і з таго свету буду назіраць.

— Абяцаю і Божай Тройцай клянуся, што калі парушу сваё слова, то ні дня мне не жыць на гэтым свеце, а на тым — нячысцікам прыслужваць.

Як аказалася, пані і сапраўды адчувала блізкую смерць. Недзе праз дзень-другі пасля той размовы яна і памерла. Пахавалі небараку, [redacted] дзяўчынка засталася з бацькам, які не іграўся з ёй, не размаўляў, [redacted] скінуў на рукі старой пакаёўкі. Тая і задаволена была — гэтак ёй прасцей будзе выхоўваць малую.

Час ляцеў непрыкметна, і недзе ўжо на пятнаццатай вясне, калі дзяўчына ўвабралася ў сапраўдную сілу, усе заўважылі, што яна прыгажуня, якіх мала.

— Вось дзе нявеста! — гутарылі багатыя суседзі.

— Ага, і бацька багаты.

— Усяго стае, [redacted] сама — што каралеўна!

— Вось некаму пашанцуе. Мець такую ў жонках — за гонар!

Але галоўнае — надта ганарыўся гаспадар. У прысутнасці гасцей, нібы ненарокам, прымаўляў:

— На выданні дзяўчына, на выданні...

— То чаго пан цягне?

— Пару добрую ёй падбіраю. Самі ж бачыце, што за прыгажуня...

— Так.

— Хачу, каб муж у яе быў і багаты, і знатны і каб парадніцца не абы з якім родам.

— Святая праўда, ваша вялікасць, — пагаджаліся госці, аблізваючыся, бо бачылі, што не па іх дзяўчына.

Але Лена думала зусім па-іншаму. Неяк яна разам са старой пакаёўкай пайшла ў сад. Хадзілі там, сядзелі, гаманілі, а потым напаткалі хлапчыну, які вёў коніка. Слова за слова — разгаварыліся, прыселі. Старая адышла, нібыта па якой патрэбе, ■ ён і яна засталіся. Спадабаўся паненцы Алесь — так звалі хлопца. І пачала яна да яго бегаць штодзень, потым ужо і мілавацца сталі. Дзяўчына дапытвалася, як ім далей быць, хлопец жа ў адказ толькі паціскаў плячыма, бо і сам не ведаў, што далей можа здарыцца. Вырашылі — найлепш за ўсё ўцячы. Дзе-небудзь у глухім месцы асесці, зажыць на славу. Працаваць нароўні з усімі. Не калекі ж і не лайдакі, ■ нармальныя людзі.

І ўсё добра было б, але нехта данёс гаспадару. Той зароў не сваім голасам:

— Да мяне таго злыдня!

Прыцягнулі Алеся і давай біць чым папала і куды папала. Так ён, небарака, на месцы і сканаў ад дзікіх пабояў. Памешчык, азіраючыся на вокны палаца, верашчаў:

— Каб ведала, як з мужыччом блытацца!

Тупаў ад ярасці нагамі і дадаваў:

— За багатага аддам!

Яму здавалася, што дачка ўважліва сочыць за кожным ягоным рухам, ловіць кожнае ягонае слова. Ды памыляўся. Не было яе дома. Як толькі схапілі Алеся і пачалі катаваць, то пабегла Лена да рэчкі і... утапілася.

Людзі, памятаючы пра гэтае чыстае каханне, назвалі тое месца — Леніна, а потым ужо бальшавікі перайначылі крыху — пад Ленін. Таму і зараз яшчэ можна пачуць дзве назвы — Леніна і Ленін.



# КАЛІНКАВІЧЫ

Жыў-быў адзін чалавек. Звалі яго Мацей, а жонку ягоную — Хрысця. Усё ў іх добра ішло. Толькі пабраліся, як аддзяліліся ад свайго роду, не пажадаў малады гаспадар разам з усімі жыць, не даспадобы яму прыйшлося тое, што ўсё трэба пароўну дзяліць. Узарваўся перад бацькамі:

— Чаму гэта дзяліць?

— А як жа па-іншаму, сынку?

— Сам зрабіў, дык сам і карыстайся.

— Вунь ты які суровы, — не вытрымала матуля. — Усе ж так жылі, і нічога — абыходзілася.

— То ўсе, а я не хачу. Не хачу марна на некага гнуцца.

— А каму хочацца?

— То чаму тады ўсе трымаюцца жыць па-старому?

— Тут, бачыш, такая справа... Тут з людзьмі разам жывеш. Яны і дапамогуць пры выпадку, і самому да іх звярнуцца можна.

— З гэтым згодны. Але хочацца пачаць самастойнае жыццё, каб ні ад каго не залежаць.

— Я таксама ў маладосці так хацеў зрабіць.

— І не зрабіў?

— Шчыра скажу — пабаяўся.

Тут пачуўся нерашучы галасок Хрысці:

— То, можа, і мы не пойдзем, Мацейка? З людзьмі ж спакайней.

Мацей паказаў, што ў новай сям'і ён гаспадар, і гаспадар паўнаўладны:

— Будзем рабіць так, як сказаў я!

Маладая жанчына ўгнула галаву ў плечы і падалася ў кут да свякроўкі, нібыта чым дапамагаць, а сама тут жа захліпала носам.

Бацька асуджальна пахістаў галавой:

— Глядзі, сынку, ты вырас, і трэба самому станавіцца на ногі. Калі вырашыў, то збірайся. Кожны павінен сам паспрабаваць наладзіць уласнае жыццё. Будзе дрэнна ды цяжка — няма каго будзе вінаваціць, сам папёрся — сам і адкажаш. Толькі памятай: калі надумаешся вярнуцца, то не саромейся, мы з маці будзем тут чакаць заўсёды. Не стануць ад гэтага горш адносіцца да цябе і браты з сёстрамі. Глядзі.

— Дзякую, тата, за шчырыя словы.

Раніцай, яшчэ толькі пеўні пракукарэкалі трэці раз, Мацей з бацькам ужо тупалі па падворку. Стары гаспадар даваў маладому ўсялякае прычындалле, без якога нельга будзе абысціся, усялякія надзвычай важныя парады. Потым выдыхнуў:

— На добры ўспамін, сынок, ды на ўсё самае лепшае, дам я табе яшчэ коніка і калёсы. Коніка — самага лепшага, якога ты выгадаваў, выпасвіў. Ведаю, як ён табе падабаўся, таму і забірай. Без яго цяжка любому гаспадару на ногі стаць.

Паступовa сабралі ўсё, увязалі, і Мацей прамовіў:

— Ну, час і ў дарогу.

— Чакай, яшчэ зойдзем у хату, перакусім, развітаемся па-людску. Няблага мы жылі, і зараз трэба ўсё па-шчыраму зрабіць.

Мацей слова не прамовіў супраць, бо ведаў, што такі адвечны звычай і парушаць яго нікому не дадзена.

Пасядзелі, развіталіся, і паехалі маладыя шукаць сабе прыдатную для жыцця мясціну. Ехалі паволі, пазіралі па баках, захапляліся прыгажосцю мясцін. Хрысця не раз прапаноўвала далёка не ехаць, спыніцца дзе паблізу ад родных, але Мацей не пагаджаўся:

— Праз пару гадоў вакол нас пачнуць з'яўляцца людзі, і мы вымушаны будзем зноў выбірацца далей.

— Забяромся ў глуш, дык і пагаварыць не будзе з кім, — захліпала носам маладзіца.

— Каму што, а табе, каб пагаманіць. Млынару вецер, а жонцы плёткі.

Ехалі яны даволі доўга. Спыняліся, адпачывалі, начавалі, а раніцай гаспадар адмоўна круціў галавой і казаў:

— Не, тут мне не падабаецца. Падамося далей. Трэба шукаць лепшую мясціну.

Жонка ўжо не ўмешвалася, бо адчувала, што ўсё роўна не пераканае мужа. Нарэшце ўсё ж знайшоў гаспадар прыдатную мясціну. А куточак і на самай справе быў прыгожым: навокал лясы, сярод іх невялічкая паляна, вакол яе хмызняк, які лёгка можна павысякаць і раскарчаваць пад ляда. А яшчэ, праз нейкую сотню крокаў, цякла-вурчэла вірлівая рэчка. Гэта было таксама немалаважным фактарам. У крайнім выпадку можна было перабівацца ад галадухі і свежай рыбай.

— Вось тут і асядзем.

— Тут?

— А што, табе не падабаецца?

— Глуха вельмі, ды і няма нічога.

— Гэта ўсё будзе залежаць ад нашых рук. Глядзі, дзе будзем хаціну стаўляць.

Так, загаварыўшыся, забылі і пра страх, і пра смутак, бо працы было па самае горла. Да восені паспелі паставіць хаціну. Ставілі на доўгія гады — крэпкую, прасторную, светлую. Мацей, пасміхваючыся, сцвярджаў:

— Пачнеш мне дзяцей нараджаць, а яны ж дзесьці жыць павінны.

— Табе б толькі языком ляскаць, — сарамацілася Хрысця, прыкрываючы рукамі вялізны жывот.

Калі ўдарылі халады і лёдам скавала рэчку, то маладая сям'я адчувала сябе спакойна. Жылі ў хаціне, марозу не баяліся, а да вясны хапала, па папярэдніх падліках, тых прыпасаў, якія даў з сабой бацька.

Выпаў першы снег, у хаце закугікала немаўлё. Дачушку нарадзіла Хрысця. Мацей і тут не ўтрываўся, каб не ўпікнуць:

— Не магла яшчэ крыху пастарацца.

— Не разумею...

— Каб адразу і дачку і сына нарадзіць.

— Сам мала стараўся, — адрэзала шчаслівая матуля.

Але па ўсім было відаць, што немаўлём яны задаволены абое.

Час ляцеў непрыкметна. З таго дня, як яны ўпершыню тут з'явіліся, прайшло ўжо гадоў дзесяць. Усё ішло добра, ды толькі пасля нейкай хваробы Хрысця не магла болей

нараджаць дзяцей. Так і засталася ў іх усяго адна дачушка — Марылька. Прыгажосцю яна пайшла ў Хрысцю, характарам — у Мацея, [redacted] працавітасцю — у абоіх. Бацькі нарадавацца не маглі, але матуліны вочы часта затуманьваліся слязамі:

— Яшчэ пару гадоў, і забяруць цябе сваты з сабой.

— Кінь зараней аплакваць, — астуджваў Мацей. — Каб толькі людзі добрыя былі. Мы ж таксама так рабілі.

— Адна яна ў нас. Як мы тады застанемся?

— Неяк жа будзем...

Хрысця плакала, нібы бяду тую прадчувала. І яна не прымусіла сябе доўга чакаць. Прыйшла. Няпрошаная, суровая, бязлітасная. І ўдарыла. Ударыла моцна, жорстка. А здарылася вось што.

Ягад ды рыбы, грыбоў ды дзікіх звяроў хапала паблізу заўсёды. Не трэба было асабліва далёка адыходзіцца ад хаціны, каб набраць ці здабыць гэтага багацця. Аднаго разу Хрысця сабралася па ягады.

— Якія зараз ягады? — здзівіўся Мацей.

— А калінка. Хіба забыўся? Зімой яна добра ад галавы дапамагае. Зараз ужо прымаразкі трымаюцца, дык калінка салодкай стала.

У гэты момант захадзілася Марылька:

— Матулечка, родненькая, вазьмі і мяне з сабой.

Відаць, гаспадыні нешта кальнула, бо ў другім выпадку яна абавязкова ўзяла б. Тут жа падумала і прамовіла:

— Едзь, дачушка, лепей з таткам па сена. Ён табе зайчыка па дарозе пакажа, сароку-белабоку. Вы прыедзеце, [redacted] я ўжо вас дома буду чакаць.

— Хачу з табой.

— Я цябе ў наступны раз вазьму.

Мацей падхапіў дачушку на рукі і, жартуючы, ускінуў на сані:

— Паганяй коніка, Марылька, паганяй.

Паехалі па сена, а Хрысця падалася ў лес. Крыху адышлася ад хаты па рацэ і стала ягады рваць. Ды на сваю бяду натрапіла на мядзведзя, які на зімоўку не залёг, а валэндаўся па лесе і таму быў надзвычай небяспечным для любога чалавека. Жанчына нават не пачула, як ён падышоў ззаду, толькі ў апошні момант паспела дзіка загарлаць, але на дапамогу ніхто не мог прыйсці, бо блізка нікога не было.

Мацей забраў сена і, седзячы наверсе разам з дачушкай, вяртаўся дамоў. Малая пастаянна паўтарала:

— Трэба было мне з мамай ісці, то ягад бы болей набралі.

— Сядзі, зараз прыедзем, а мама ўжо дома.

Прыехалі, ■ Хрысці няма. Марылька ўскінулася:

— Во, і цямнець пачынае?

— Зараз, зараз, дачушка, яна прыйдзе, відаць, крыху затрымалася.

Але ішоў час, ■ гаспадыні не было. Пабег шукаць жанчыну, ды каб жа ведаў, дзе яна была. А тут яшчэ малая адна баялася. Прачакалі ўсю ноч, але Хрысця не прыйшла. Не з'явілася і на другі дзень. Колькі ні шукалі — не знайшлі. І толькі недзе ўжо, можа, праз месяц, калі Мацей з Марылькай вярталіся берагам ракі на падворак, напароліся на шматкі тканіны. Па іх і здагадаўся гаспадар, што здарылася з жонкай. Нічога не сказаў ён дачушцы, адно толькі сам горка заплакаў і прамовіў:

— Вось і засталіся мы, Марылька, з табой удваіх.

— Як гэта? А дзе ж наша матуля?

— Удваіх, родненькая, — нібы і не чуў пытання Мацей.

— Не, мамка прыйдзе.

— Прыйдзе, прыйдзе, але не ў хуткім часе.

— Далёка зайшла?

— Ага.

— То пачакаем?

— Ведама што.

Так яны засталіся ўдваіх. Цяпер яшчэ больш часу аддаваў Мацей дачушцы: глядзеў за ёй, гуляўся з малой і пастаянна паўтараў: «Вылітая маці».

Прайшло яшчэ гадоў сем. Марылька стала сапраўднай прыгажуняй. Цвіла так, што ажно Мацей за галаву хапаўся:

— І дзе ж гэта табе мужа шукаць?

— Кінь, тата, — адгаворвалася тая, — калі захочуць, то самі мяне знойдуць. А мне і з табой добра.

— Не, дачушка, жыццё ідзе, хутка і ў цябе кроў зайграе. Сваю сям'ю захочаш стварыць, застануся ■ адзін. Добра, што непадалёку пачалі з'яўляцца хутары...

І на самай справе, не прайшло і месяца, як прыехалі на падворак да Мацея сваты. Пачалі здалёк гаманіць-таргавацца, а ў выніку Марылька пагадзілася выйсці замуж за іхняга жаніха. Дамовіліся пра дзень вяселля і паехалі назад.

Але вяселле не адбылося, бо папярэднічала яму жахлівая падзея. Справа была ўвосень. Ці то Марыльцы сэрца падказала, ці то ад суму не ведала, што рабіць, ці то перажывала, што неўзабаве прыйдзецца жыць у новай сям'і — хто яе ведае, але, нічога не сказаўшы бацьку, пайшла ў каліннік.

Ды якраз туды, дзе некалі загінула яе матуля. Як пакіравала, то назад і не вярнулася. Мацей пабег шукаць і знайшоў пад калінкамі кроплі свежай крыві ды парваную сукенку.

Загаласіў тады бацька. Страшны гэта быў плач, бо ён розумам крануўся. З таго дня і сядзеў пад кустамі каліны ды ўсё плакаў.

Калі прыехалі сваты, то пачулі той плач, пайшлі прама і знайшлі Мацея, які быў ужо ледзьве жывы, але ўсё роўна стагнаў:

— Калінкі мае.. Хрысця... Марылечка... Калінкі...

Так, на іх вачах, і сканаў. Пахавалі яны таго няшчаснага чалавека, а месца тое назвалі Калінкавічамі, ад тых дрэўцаў, звязаных з трагічнымі падзеямі.

## АЗАРЫЧЫ

Жыў адзін чалавек з жонкай. Звалі яго Азарыч. Дзіўнае імя, але раней многа чаго дзіўнага было, не тое, што зараз. Жылі яны добра, заможна. Гаспадар сам працавіты быў і жонку падабраў адпаведную, якая ніводнай хвілінкі проста так пасядзець не пагаджалася. Стануць казаць суседкі-сяброўкі:

— Што гэта ты, Анэтка (так яе звалі), і супыніцца ля нас не хочаш?

— Ды працы тае назбіралася.

— Скажы лепей, калі яе не будзе?

— Што тут гаварыць. Колькі мы будзем, столькі і тая праца за намі цягнуцца будзе.

— Вось бачыш. То прысядзь, пагамонім. Раскажы навіну якую. У цябе і Азарыч справу да канца давядзе. Ён малайчына, не тое што нашы лайдакі. Не толькі сваё зробіць, а і тваё праверыць ды падладзіць, калі што.

— Дык я ж амаль нідзе не бываю. Сяджу то на ніве, то на лузе, а там жа мала што пачуеш. Каб на прызбе падпіраў спінаю сцяну, то што і ведала б, а так...

— Праўду кажаш, маладзіца. Такая ўжо доля наша жаночая.

Так і разыходзіліся жанчыны, але паспявалі за спінаю ў Анэткі перакінуцца словамі адносна яе:

— І як толькі яна паспявае? Хоць сям'я і невялікая, але ж дапамогі чакаць няма адкуль.

— Якая там дапамога, калі толькі на саміх сябе спадзяюцца.

— Калі не глянеш, то корпаюцца і корпаюцца, нібыта і не стамляюцца.

— Ведаюць, што толькі на сябе надзея.

— І ўсё роўна ім многія зайздросцяць, усялякае гамоняць, нават тое, што з нячыстай сілай, асабліва Азарыч, звязаны.

— Ты ўжо і скажаш!

Гаварыць гаварылі, але ніхто не жадаў шчырым працаўнікам нічога благога. Ніхто, акрамя адной жанчыны, якая жыла без мужа — той выгнаў яе, надаваўшы добрых кухталёў, за свірэпы нораў і сварлівы характар. Пра яе гаварылі, што яна адна сотню сабак перабрахаць можа. Нікога, нават сваю дачку, не любіла. Калі гаварыла з кім, то нават у твар таму чалавеку не глядзела, вочы ў зямлю ўпірала. Дык вось, гэтая самая жанчына задумала вельмі чорную справу — звесці Анэтку з белага свету, [redacted] сама сысціся з Азарычам. Задумала благое, але для сябе меркавала вельмі ўдала — у гаспадара і падворак такі, што ў вакольных вёсках ні ў кога няма, і ў хлявах ды гумне чаго толькі няма. Жыве, як сапраўдны пан.

Нікому, зласліўка, не раскрыла сваіх планаў. Толькі ўсё корпалася ў балаціне, нешта выбіраючы ды падсушваючы, а потым перацірала і замочвала вадой. Рабіла нейкія лекі ці нейкую мазь, і ў выніку зрабіла-такі сваю справу: неяк падсыпала таго чорнага зелля Анэтцы. Як выпіла маладзіца, то на вачах пачала сохнуць. Муж не мог зразумець, што здарылася, а Анэтка адгаворвалася, супакойвала, і ўсё ж Азарыч перажываў, і, як аказалася, нездарма — праз пару месяцаў жонка зусім злегла. Як ні круціўся па мясцовых варажбітах гаспадар — нічым дапамагчы не змог. Паклікала аднойчы на досвітку яго жонка і ледзьве чутна прашаптала:

— Адыходжу я... Адыходжу... Хачу папрасіць цябе... Пакляніся, што стрымаеш слова...

— Клянуся, родненькая, клянуся, чым хочаш.

— Прашу цябе і Богам заклінаю, каб даглядзеў ты дачушку нашу. Адна яна ў нас...

— Ды хіба ж [redacted] не разумею?

— Усялякае можа здарыцца, а ты мне зараз, у апошнюю маю часіну, пакляніся, што аддасі яе замуж і толькі тады сам жэнішся.

— Клянуся.

— Дзякуй табе, любы, — прашапталі ссінелыя вусны, і Анэтка памерла.

Пахавалі жанчыну, а Гэлька, яе дачка, стала задуменнай не па гадах. Сядзе дзе-небудзь і сядзіць спакойненька ды пра нешта разважае. Ці то марыла, ці то так перажывала, а мо, і такое не выключана, адчувала, якую штуку выкіне неўзабаве родны бацька. Хто ж яе там ведае, пра што, небарака, магла разважаць.

Як бы там ні было, але Азарыч не стрымаў слова, дадзенага нябожчыцы-жонцы. Прайшло ўсяго паўгода, а ён ужо пачаў заглядвацца на жанчыну, прычым якраз на тую самую, якая і звяла Анэтку са свету белага. Усё цікаваў, як бы злавіць яе адну ў чыстым полі ці дзе ў густым лесе. Потым і саромецца перастаў. На Гэльку асаблівай увагі не звяртаў. Чужыя людзі гаманілі асуджальна:

— Як жа ён так можа?

— А што яму?

— Як гэта? Дачушка свая засталася. Ён жа яе зусім не глядзіць.

— Затое за сабой сочыць уважліва. Як малады ганчак, гойсае за гэтай чарняўкай.

Але нядоўга людзі так пагаварылі. Азарыч не стаў час цягнуць і перавёз у сваю хаціну новую жонку. Так і сказаў дачушцы:

— Вось твая новая мама. Ты яе шануй, а не, то лупцаваць цябе буду.

Горкімі слязьмі залілася Гэлька, нічога не прамовіла ў адказ на такія словы. Затое запанавала дачка чарняўкі. Тая і не працавала, лепшае ела і чысцейшае ды даражэйшае насіла. Нават глядзець на Гэльку не жадала, толькі адным словам лаялася пастаянна:

— Гультайка!

Так скажа, нібы адрэжа, і пойдзе, а вы сабе як хочаце, так і разбірайцеся.

Ды і гэта працягвалася нядоўга. Новая жонка страшна неўзлюбіла гаспадарову дачку. Спачатку паціху бубнела, а потым і адкрыта заявіла:

— Няма чаго ёй рабіць у гэтым доме.

Азарыч паспрабаваў было супрацівіцца:

— Што гэта ты гамоніш? Яна ж мая дачка.

— Выбірай, — пытанне пастаўлена было рубам, — або яна, або я.

— Ты, вядома ж, ты.

— Тады слухай, што я табе зараз скажу. Заўтра раніцай каб і духу яе ў хаціне не было.

— А куды ж?..

— Гэта ўжо твая справа. Я сказала і болей да гэтага вяртацца не буду!

— То няхай бы...

— Няма чаго адцягваць! Усё зразумеў? Заўтра ж запрагай каня і вязі яе, куды хочаш, абы з дома.

На досвітку, яшчэ сонца добра не разгарэлася, а Азарыч ужо штурхаў сваю дачку:

— Уставай, Гэлька, уставай!

— Што здарылася? — лыпала вачанятамі тая. — Татачка, куды мы так рана?

Ды гаспадар не звяртаў увагі на тое, як тулілася да яго дачушка, як старалася зазірнуць ў вочы.

— Трэба ў адно месца пад'ехаць.

— Чаму так рана?

— Бо далёка.

Малая болей не распытвала. Пачала нацягваць на сябе парваную кашульку, якую і кашулькай назваць ужо нельга было, бо скрозь дзіркі прасвечвала голае, худзенькае цела. Убачыўшы такое, варухнулася ў душы Азарыча:

— Дачушка мая мілая, — пачаў было ён, — родненькая мая, каб жа ты ведала...

— Што? Што, татачка? Куды ты мяне павязеш?

Яшчэ адно такое пытанне, і гаспадар не вытрымаў бы, адмовіўся б выконваць загад жонкі, але якраз у гэты момант за спінай прагучала:

— Чаго тут рассапліўся? Ці забыўся, пра што мы ўчора гаманілі?!

— Ды...

— Давай хутчэй, не тое пашкадуеш!

Азарыч хуценька запрог каня і пасадзіў на воз малую.

— Сядай, дачушка, добра трымайся. Далёкай будзе дарога, то ты і паспіш, дабярэш тое, што дома не паспела.

Гэлька, супакоеная ласкавым бацькоўскім голасам, хутка і сапраўды заснула. А Азарыч уголас разважаў, куды ж яе завезці, дзе пакінуць?

Заехаў ужо далёка. Нават дарогі болей не было, толькі ледзьве прыкметная сцяжынка вілася між дрэў. Азірнуўся назад, і яму стала не па сабе — малая не спала, а сядзела і ціхенька плакала.

— Ты чаго гэта?

— Татачка, не вязі мяне далёка ў лес... не трэба... Кінь тут, каб мне не так страшна было... Добра?..

— Адкуль ты ўзяла?

— Не вязі... Я тут застануся. А ты едзь, не бойся, я за

табой не пабягу. І плакаць не буду, бо на цябе твая мама будзе сварыцца...

Азарыча нібы варам абдала. Што гаварыла Гэлька! Ён ніколі і не падумаў бы, што ягоная дачка ўсё ўжо разумела. Кінуўся да воза, схапіў торбу з хлебам і салам і таропка ўсунуў у рукі малой. Сам крутнуў лейцы, ускочыў на воз і, стараючыся не азірацца на той куст, дзе засталася Гэлька, паімчаў прэч ад гэтага месца. Ляцеў, пакуль конь увесь не пакрыўся белай пенай.

Злез тады з воза, сеў ля дрэва і заплакаў:

— І на што мне такое жыццё?..

Толькі ніхто яму не адказаў. Стагнаў па-ранейшаму вецер, галасілі-свісталі на ветрыку тонкія галінкі, і здавалася чалавеку, што шум гэты асуджае яго, не дае магчымасці нават спакойна плакаць, асуджае за дачку, за пакрыўджаную памяць Анэткі. Усхапіўся Азарыч і перахрысціўся:

— Каб жа толькі, Божа, ніхто не зведаў...

Як толькі ён перахрысціўся, адразу... скамянеў. У народзе тады гаварылі, што нельга страшныя злачынствы прыкрываць імем Усявышняга. Той камень так і назвалі — Азарычам. Пазней на тым месцы адзін палясоўшчык хаціну сваю паставіў, то ад яе і пайшлі Азарычы.

Цікава і тое, што Гэлька не памерла ў лесе, не парвалі яе дзікія звяры, бо ў той жа дзень падабралі яе добрыя людзі, якія прыязджалі ў лес за дровамі.

## ГАРОХАВА

Жылі-былі ў нас некалі два сябрукі: глухі ды сляпы. Іх ніхто па імёнах і не зваў, хоць імёны былі — калі яны нарадзіліся, то ў царкве ахрысцілі іх Пятром ды Паўлам. Але сярод вяскоўцаў толькі і чулася:

— Зноў сляпы з глухім некуды пашыбавалі. І дома ім не сядзіцца.

— А што там сядзець? Вось свіснуць што, то і ў выйгрышы будуць. Усё лепей, чым ляжаць на печы ці на прызбе азадак грэць.

— І то праўда. Але ж паглядзіце, як спорна шыбуюць. Глухі спераду лупіць, а сляпы, здаецца, і рукой да яго, як звычайна, не дакранаецца.

— Відаць, нешта важнае надумалі. У іх свае інтарэсы.

— Ведама што, карова ж у хляве не раве і дзеці па хаце галодныя не плачуць.

Некаторыя з сялян злаваліся:

— Знайшлі, чаму зайздросціць. Калекі ж яны.

— Пра гэта не скажаш, на іх гледзячы. Дзе вы бачылі, каб сляпы ды глухі кралі?

— І то праўда. Нашы сляпы ды глухі ўкрадуць — і не заўважыш, нават і не пачуеш.

— Але нельга забывацца і пра тое, што на кожнага майстра ёсць свая закавыка.

— Ага.

— Дзе-небудзь ды сколецца. Потым да скону жыцця людзі згадваць будуць.

— Нездарма ж нашага Пятра Гарохам клічуць. Мянушку яму такую далі.

— І з-за чаго? Раскажыце.

— О, тут гісторыя такая, што хоць стой, а хоць падай. Вырашылі яны ў гарох палезці. У чужы агарод. Ноч была цёмная хоць вока выкалі. Сляпы і так не бачыў, у яго глухі быў за павадыра, але і Пятру не надта свяціла. Заблыталі так, што не маглі здагадацца, у які бок вылазіць. Тут сляпы намацаў гарох і кажа:

— Стручысты...

А глухі:

— Дзе стучыцца?

Сляпы зноў за сваё:

— Мяжа...

А Пятро:

— Дзе бяжаць?

Ды як лупянуў, як папёр, а сляпы за ім. Так ляцелі, што небарака-сляпы пару зубоў сабе выбіў, але неяк вырваўся з агарода ў кустоўе і там ужо сядзеў ды чакаў, пакуль яго сябрук забярэ. А вось Пятру меней пашанцавала. Ён заблытаўся ў гарбузінні, якое гаспадар у канаву скідваў, і стаў гарлаць, каб яго хто вызваліў. Ну, адпаведна, першым азваўся сам гаспадар і так ужо злупцаваў глухога, што з таго часу, як дзе каго б'юць, то абавязкова прымаўляюць:

— А гэта табе гарохава...

Так і стаў Гарохам.

— Зразумела цяпер.

— Вось і зараз яны не проста так лазяць па наваколлі, а нешта задумалі, зноў дзе залезуць ды ўкрадуць што.

Так гамanілі-гаманілі маладыя хлопцы, а потым вырашылі прасачыць за сябрукамі. Пракраліся да той хаціны, дзе Пятро з Паўлам жылі. У іх жа раней у кожнага свая хатка была, але яны адну прадалі, а ў другой жыць засталіся. І гаспадарку таксама разам трымалі. Праўда, там гаспадарка такая была, што лепей не згадваць: певень аднавокі

ды дзве курыцы, на большае ні майстэрства, ні грошай у сябрукоў не хапіла.

Падабраліся да хаціны, а блізка надта і падыходзіць не трэба было: за добрую сотню крокаў даносіліся галасы — гаспадары размаўлялі. Сляпы крычаў, каб Пятро пачуў:

— Як прыцямнее, то і пойдзем. Галоўнае, каб усё атрымалася.

— Ага.

— Пра што гэта яны? — пераглянуліся хлопцы.

— Хто ж іх ведае, трэба яшчэ паслухаць, можа, і зразумеем.

Сябрукі з ранейшым імпэтам крычалі:

— Ніхто і не даведаецца пра тое, што мы задумалі.

— О, гэта будзе справа.

— Галоўнае, што дзеўкі прыгожыя ды заможныя.

І тут нехта з падглядваючых вымавіў:

— Хлопцы, а ці не да дзевак яны збіраюцца?

— Яшчэ што?

— Вось пабачыце.

Ажно і праўда. Дачакаліся сябрукі вечара і пашпацыравалі на далёкі хутар. Там у гаспадара было дзве дачкі-векавухі: адна глухая, а другая надта ж непрыгожая. Ды гаспадар быў кемлівы, не хацеў, каб дочкі да самай смерці ў бацькоўскай хаціне заставаліся. Таму калі Пятро з Паўлам прыйшлі да яго ў першы раз і ён убачыў, што адзін сляпы, а другі глухі, то тут жа правярнуў справу: падсунуў глухому нямую, а сляпому — непрыгожую.

Вось прыйшлі на гэты раз сябрукі дамаўляцца адносна вяселля. Гаспадар і кажа:

— Зраблю адно на дваіх, і пасаг за імі добры дам. У мяне болей дзяцей няма.

Так іх і ажанілі. Якая ўжо там жытка ў гэтых сем'ях была, нават згадваць не хочацца, а вось смяялася ўсё наваколле. І калі бачылі дзе які непарадак, бруд, то рагаталі і торкалі пальцамі:

— Гэта Гарохава...

Так наша вёска Гарохава і стала.

## ЗЕЛЯНОЧЫ

У нас некалі жыў чалавек. Дужа вясёлы дзядзька быў. Так здарылася, што выпала яму многа гора на ўласным вяку пераражыць, а вось душою не змярцвеў. Дзе пачуе, што нехта плача, то абавязкова падыдзе і запытаецца:

— Нешта здарылася, чалавеча?

Калі якое гора, то кіне сваю працу, а незнаёмаму дапаможа. Нават калі дзіця плакала, то і да таго гэтаксама звяртаўся. Некаторыя пасмейваліся:

— Што ж ты, Антось (так яго звалі), гэтага марзуна называеш чалавекам?

— І правільна раблю. Бо ён такі ж чалавек, як і мы з табой.

— Ды кінь ты дурное! Які ён яшчэ чалавек! Ён жа, што такое штаны, не ведае, яшчэ ў сарочцы ходзіць, а ты да яго як да дарослага звяртаешся!

— Як сказаць, братка. Вось ты і вырас, і што такое штаны, як сам мяркуеш, ведаеш, а бачыш, якое глупства нясеш.

— Усё роўна не пераканаеш, што малое дзіця — чалавек.

— Ды я цябе і не збіраюся пераконваць, — спакойна зазначаў Антось і адыходзіў ад упартага вяскоўца, за якога тут жа «браліся» тыя, хто добра ведаў Антося.

— Што ты да яго прычапіўся? Глядзі, калі што благое ляпнеш, то атрымаеш. Ён для кожнага з нас самы жаданы госць і сябар.

— Чаму гэта?

— Бо ў цяжкіх выпадках, калі нават верныя сябры ды родныя думалі, дапамагчы ці не, ён адразу кідаў сваё, а нас выручаў.

— Не лічыўся ні з часам, ні з чым іншым.

Вясковец адчуваў, што яшчэ слова-другое не патрапіць у такт размовы, і можа атрымаць ў каршэнь, таму пачынаў выкручвацца:

— Хацелася...

— Што?

— А вось скажыце вы мне, чаму Антося нашага Зялёнкам завуць?

— А хіба ты сам не ведаеш?

— Не.

— То трэба было ў Антося спытацца.

— Хіба ж ён мне раскажа?

— І гэта праўда, не стане ён абы-каму душу ўласную выварочваць. Мы табе раскажам, але запомні, што Антось хоць і жартуе пастаянна, хоць і смяецца, а такую жытку пражыў, што ворагу не пажадаеш.

Вырас ён у дружнай, вялікай, працавітай сям'і. Зямлі сваёй хапала, нястачы ні ў чым не ведалі. Бацькі шкадавалі

дзяцей. А малыя, у сваю чаргу, становячыся на ногі, ім дагаджалі.

— І нешта здарылася?

— Так. Заўсёды ж так атрымліваецца, што ў жыцці толькі добрае не бывае. Прыйдзе добрае, але прывядзе за сабой і благое... Жыла сабе сям'я, працавала ад раніцы да вечара, магла пракарміць сябе, магла прадаць зерня іншым, але нядоўга так цягнулася — пачалася вайна. А калі вайна ідзе, то гінуць людзі і найболей — безабаронныя, тыя, хто не можа за сябе пастаяць, хто на зямлі працуе, хто дзяцей гадуе.

— Ведама што.

— Так, аднае раніцы на хутары, дзе жыў Антоська з братамі, сястрычкамі ды бацькамі, затупацелі коні. Не паспелі гаспадары ні малых схаваць, ні самі адбегчыся. Таму заспелі, як кажуць, гарачых:

— Адчыняй! — моцна загрукаталі ў аканіцу.

Бацька, не надта спяшаючыся, бо быў здаравенны і таму ўпэўнены ў сабе чалавек, пасунуўся да дзвярэй. Прачнуліся і астатнія. Старэйшыя сыны пераглянуліся і на ўсялякі выпадак сталі за плячыма ў бацькі. Матуля ж, нібы адчуваючы, што яшчэ імгненне — і будзе позна, ухапіла Антоську і прасунула ў невялічкае акенца з другога боку хаціны.

— Уцякай, сыночак. Уцякай і назад не азірайся.

— Я баюся.

— Не бойся, да людзей выходзь, толькі не да вершнікаў.

Праз хвіліну да малога данесліся адчайныя крыкі:

— Людцы, забіваюць!!!

Потым яшчэ і яшчэ, але ён не прыслухоўваўся, джгаў у гушчар. Калі зусім знясілеў, то ўпаў і заснуў. Потым доўга лазіў па пушчы. Можа, тыдзень, ■ можа, і два. Зусім змізарнеў, ужо і хадзіць не мог. Але пашанцавала Антосю — напароліся на яго сяляне. Убачылі хлапчука, які спаў і моцна трымаў у руцэ... зялёнку. Імі аднымі і карміўся. Так і стаў Зялёнкам.

Вось які чалавек быў Антось Зялёнка. Звычайны, з надзвычай цяжкім лёсам. Ад яго і вёска наша пайшла — Зеляночы.

## КАПЛІЧЫ

Даўно ж калі жаніліся, то не надта мілаваліся з дзяўчынай. Рэдка здаралася, што сустракаліся да гэтага, а потым браліся. У асноўным было наадварот: вырастала дзяўчына,

падабаўся ёй хлапчына, уздыхала па ім, а да яе прысылалі сватоў зусім з іншай сям'і, часцей за ўсё з больш багатай. Бацькі спачатку ўгаворвалі дачку, а калі гэта не дапамагала, то і білі, і ў пераважнай большасці выпадкаў атрымлівалася так, як жадалі бацькі. Такі быў час, такія існавалі законы, і ім не падпарадкоўвацца ніхто не асмельваўся. Як сабе хочаш круціся, а волю бацькоў павінен выконваць.

Так і ў нас адну дзяўчыну аддалі супраць яе волі замуж. Прыгожая была такая, што з суседніх вёсак казалі:

— Во ўжо ў іх Ганна (так яе звалі) цвіце, дык цвіце! Такую прыгажуню пашукаць трэба!

— Шукаў бы, каб ведаў, што знойдзеш.

— Відаць, такую знайсці можна, а прыгажэйшую за яе — не.

— Мала таго, што прыгожая, дык яшчэ працавітая.

— І гэтага не адняць. І не толькі працавітая, але і галасістая. Як зацягне песню, то птушкі прыціхаюць ды пачынаюць услухоўвацца, каб потым пераняць.

— І хлопец жа ў яе прыгажун.

— Во ўжо сям'я будзе. Дай Бог, каб ніхто ім дарогі не перайшоў.

Так гамanілі вяскоўцы, без зайздрасці, без «чорнай намовы», а аказалася, што ўсё роўна шчасця ў закаханых не атрымалася. Прыехалі да Ганны сваты з нейкай далёкай вёскі. Але такія ганарыстыя, такія разапранутыя, што і блізка не падыдзеш. Вяскоўцы бачылі, як іхняя брычка прапыліла па вуліцы, і сабраліся пагаманіць.

— Не, не аддадуць бацькі дзяўчыну.

— Ты так думаеш?

— Яны ж не жадаюць сваёй дачцэ благога.

— Вось падкоцяцца сваты — і ўсё на тым.

— Ці ж гэта жаніх?

— Не ў жаніху справа, а ў тым, што за ім стаіць, якія бацькі, што даваць будуць.

— І то праўда...

Так і атрымалася. Як ні плакала Ганна, як ні прасіла, на калені станавілася перад бацькамі, але тыя былі няўмольныя:

— Пойдзеш, і ўсё на гэтым!

— Рукі на сябе накладу!

— Муж як возьме ў свае рукі, то хутка пра дурное забудзешся!

Згулялі вяселле, і зажыла Ганна ў заможнай сям'і. Але ці ж гэта жыццё было? На кожным кроку тачылі яе чу-

жыя людзі, а найболей сам муж — усё бурчэў і бурчэў. Здавалася, што ён толькі гэта і ўмеў рабіць.

— Во, расселася... Параскідала... Пазбіраць не можаш...

— Сам бы прыбраў, бачыш, што ў мяне рукі заняты дзецьмі. Што ты за чалавек? Усё ходзіш і стогнеш-каплеш, як той капліч. Па слову, па слову, а ўжо сэрца мне праеў, капліч няшчасны. Я за табой шчасця не бачыла і не дажыву да такой хвіліны...

Так Ганна і дала мянушку свайму мужу. Болей яго ніхто іначай і не клікаў, як Капліч. Так і Каплічы ад таго хутара, дзе яны жылі, пайшлі.

## КРУКАВІЧЫ

Было ў бацькі двое сыноў — Мікіта ды Панас. Такія ўжо зухі, што любому праходу не дадуць, якую-небудзь штуку выкінуць. Казалі, што, хто каля гэтых дзецюкоў спакойна пройдзе, той ім нечым вельмі дагадзіў.

Вось неяк п'яны бацюшка дамоў цягнуўся. Яны яго перастрэлі, штаны знялі, а ра́су накінулі на галаву і зверху, як званок, завязалі. Той, ведама ж, сеў, бо як далей ісці? Ішла старая баба дый гаворыць:

— Што гэта ты, маладзічка, расселася і не вітаешся? Ці ж не сорамна табе?

З-пад чорнай, як падалося бабульцы, спадніцы данеслася нешта незразумелае.

— Га? Не чую. Гавары мацней, бо я ўжо на вушы слабаватая стала.

Невядомая «маладзіца» маўчала. Тады старая ўскіпела:

— Каб жа ты сваіх дзяцей палохала! Каб яны з табой, як ты са мной, не віталіся! Бачыш ты, расселася! І старасць не паважае!

І тут бацюшка з-пад спадніцы не ўтрымаўся ды як сыпануў словамі, што з таго меха парванага гарохам! А словы тыя не абы-якія, а «з перцам».

— А пацалуй ты мне, ведаеш куды?!

У адказ і бабулька перайшла да «найлепшых» пажаданняў:

— Каб табе сабакі, смярдзючка ты гэтакая, туды па тры разы на дзень цалавалі!

Невядома, чым бы ўсё закончылася, каб не мужчыны, якія з працы ішлі. Заўважылі яны такую дзіўную сцэну і

бліжэй падаліся, а там ужо, раскапаўшы, што да чаго, з рогату паваліліся, ды яшчэ і расу на галаве развязалі. Старая як убачыла, што адтуль морда з барадой вылазіць, то заверашчала:

— Чорт! Чорт!

І давай сваім кіем лупцаваць. Бацюшка добра яшчэ не працверазіўся, таму не надта бараніўся і атрымаў выдатную лупцоўку.

— Без Мікіты і Панаса тут, відаць, не абышлося, — уставіў нехта з сялян.

— Ды яны гэтага і не хаваюць. Учора прыйшлі да бацюшкавай хаты і пытаюцца ў матушкі, якая на падворку корпалася:

— Ці дома гаспадар?

— Дома.

— А можна нам яго пабачыць?

— Не.

— Чаму?

— Нельга, дый усё.

— У нас патрэба вялікая.

— Можа, і выгодная?

— Ды ўжо ж, — пераглянуліся браты.

— То зараз... пачакайце тут, [redacted] я яго паклічу. Прыхварэў ён нешта.

— Усялякае здараецца, асабліва калі так атрымаць...

— Што? — не зразумела матушка.

— Нічога. Заві бацюшку, у нас да яго справа неадкладная.

Матушка не дацяміла, чым справа можа закончыцца, падскочыла да дзвярэй:

— Бацюшка, хадзі сюды!

— Ой, — данеслася адтуль.

— Не стагні, бо часу ў людзей няма!

— Не магу.

— Давай хутчэй, бо хлопцы чакаць не стануць!

— Хай сабе не чакаюць.

— Але яны гавораць, што справа для цябе дужа выгодная.

— То зараз выйду, толькі апрануся. Ой, як жа ўсё баліць, не магу сагнуцца.

Матушка ледзьве чутна прашаптала: «Так табе, п'яніца, і трэба!», але ўголас нічога не сказала. Ёй за бацюшкам лёгка жылося: не рвалася на палетках і паесці хапала. Сядзела дома, дый годзе, а гаспадар ужо стараўся за дваіх, бо

дзяцей не было: круціў, браў хабар, абіраў старых і бедных, адным словам, нікога не шкадаваў, таму і не карыстаўся падтрымкай і павагай сярод вяскоўцаў.

Нарэшце бацюшка з'явіўся на парозе. Мікіту з Панасам ужо чакаць надакучыла, можа, не так і чакаць, як вытрымліваць сур'ёзную міну. Гаспадар паволі сунуўся да іх. А яны стаялі, спакойныя і ўрачыстыя, нібы нябесныя анёлы.

— Што здарылася, людзі добрыя? — ласкавым голасам запытаўся бацюшка.

Тыя маўчалі, не спяшаліся адкрываць сваю таямніцу. Матушка і тая бліжэй падалася, каб паслухаць. Бацюшка вымушаны быў перапытаць:

— Што за неадкладная справа ў вас?

— Ды... — пераглянуліся браты.

— Гаварыце, гаварыце.

— Неяк не выпадае.

— Не саромейцеся. Са сваімі людзьмі і [illegible] па-простаму.

— Тады, бацюшка, слухай. Тая баба...

— Якая?

— Учарашняя.

— Ну?

— Сказала, каб ты яе пацалаваў тры разы туды, куды яна табе ўчора параіла, — выпаліў Мікіта і зарагатаў так, што ажно водгулле абудзілася ў бліжэйшым лесе.

— Ды... я... — круціўся на адным месцы гаспадар, шукаючы выйсце з цяжкага становішча.

Панас яшчэ дадаў жару, паўтарыўшы тое, што сказаў брат, і зарагатаў яшчэ мацней за брата. Яны так і пайшлі, хістаючыся і трымаючыся за жываты.

Бацюшка кінуўся дахаты, азіраючыся, ці не чуў хто гэтыя абразлівыя для яго словы. Падляцеў да ганка, а там... матушка качаецца і праз слёзы вымаўляе:

— Пацалуй... Га-га-га...

Тады ўжо не стрымаўся гаспадар. Як ускінуўся, ды як пачаў лаяцца абы-якімі словамі. Пагражаў у той бок, куды папляліся браты, кулаком і крычаў, крычаў:

— Каб на вас гіена вогненная! Каб на вас!..

Патупае на месцы, патупае і зноў:

— Каб жа на вас месца жывога не было!

А пачуўшы, як рагоча-залівaецца матушка, дадаў:

— Каб з вас крукі мяса рвалі!

Так і сталі братоў клікаць Крукамі. Спачатку думалі, што гэта тыя крукі, якія ў кузні каваль робіць, але потым

нехта з людзей растлумачыў, што гэта птушкі такія — чорныя, груваcткія. Сярод вяскоўцаў пранеслася адразу:

— А што, і гэтым на крукоў падобныя Мікіта з Панасам.

— Ага. Абодва ж чорныя, што воранава крыло.

— Быць ім крукамі...

Браты і не сердавалі, адно толькі ўсміхнуліся ды сказалі:

— А нас, браткі, хоць гаршкамі называйце, толькі ў печ не стаўляйце, — і зайшліся вясёлым смехам: — Але ж і мы яму дагадзілі?! Але ж і здагадаліся, што сказаць?!

Весялілі людзей, бо самі вясёлыя былі. Працавалі многа, гарэлку патрохі дзюбалі, потым дзяцей ды ўнукаў гадавалі. Ад іх і мянушка перайшла. Раз Крукі, значыцца, Кручаняты. А вёска дык Крукавічамі стала, бо крукоў большасць у ёй жыло.

## СЫРОД

Гісторыя гэта адбылася даўным-даўно. Нікога ў ёй не забівалі, не калечылі, проста высмейвалі аднаго лайдака, які ленаваўся працаваць, а ўсё шукаў магчымасць, каб дзе паспаць, паляжаць ды на дурняка чарачку-другую прапусціць. Асабліва да апошняга занятку чалавек, пра якога пойдзе гамонка, быў надзвычай здатны. І што самае галоўнае, піў і не п'янеў. Стваралася ўражанне, што не ў рот тую гарэлку сабе ліў, а некуды за каўнер.

Звалі таго вяскоўца Сідарам. Імя як імя, раней яны дзесяткамі ў любой вёсцы сустракаліся. Вырас селянін у вялікай сям'і, пра якую ніхто і нідзе слова благога не сказаў, за выключэннем... Самі здагадваецеся, што гэтым выключэннем якраз-такі і быў Сідар. З дзяцінства навучыўся лайдачыць. Крыкне бацька: «Сыночкі, на працу!» То тыя ўсе, нібы мурашкі, корпаюцца, каб дапамагчы. Нават самыя меншыя і тыя парываліся нешта рабіць. А Сідар не. Гэты шукаў зачэпку, каб застацца дома.

— Ой, нешта жывот рэжа...

Тады ўжо маці кідалася да яго:

— Што, што такое, сыночак?

— Ой, як баліць, як рэжа...

— То, можа, нешта з'еў? Ці падняў цяжкае?

— Не ведаю.

Тут падаваў голас гаспадар хаціны:

— Што, зноў у таго лайдака воўчая хвароба падкінулася? Дзе ён?

Сідар ведаў, што з бацькам жартаваць не выпадала, і адразу адзываўся:

— Я тут, тата...

— Збірайся, і хутчэй, бо за сталом, а потым і на возе цябе чакаць не будуць.

Лайдак ляцеў за стол. Там у яго жывот не балеў, і астатнія пераміргваліся, потым хто-небудзь казаў:

— Мама, то з хворым жыватом нельга ж многа есці...

Гаспадыня пасміхвалася і, разумеючы гэтыя словы, прамаўляла:

— Ужо, відаць, перастала рэзаць? Праўда, Сідарка?

— Ага, — буркаў той, не адрываючыся ад місы, — як і не было болю.

Усё псаваў бацька. Той не любіў гультаёў і адносіўся да іх надзвычай зняважліва, таму дадаваў:

— Хоць адзін раз ён будзе здаровым з намі працаваць, а то ўсё хварэе ды хварэе. Не ведаю, што і рабіць.

Маленькая сястрычка падкузьміла брата-лайдака:

— Татачка, то яго дарэзаць трэба... Каб не пакутаваў...

Рогат грымнуў такі, што здавалася, зараз абрынецца столь на падлогу. Нават глухі дзед, якому было, можа, болей за сто гадоў і які амаль зусім не злазіў з печы — яму туды і есці падавалі, і той смяяўся, дзіўна торгаючы сівой, нібы лунь, галавой.

Да самага вечара не давалі спакою Сідару з такой парады малой дзяўчынкі:

— Ну як, у цябе там нідзе не рэжа?

— Ат, адчапіцеся, — спачатку спакойна адмахваўся той, а потым пачаў і злавацца.

Такі рос хлапчына. Бацькі дачок замуж пааддавалі, сыноў пажанілі, а Сідар пра жонку і чуць не жадаў:

— Навошта яна мне? Я сам па сабе жыць хачу.

— Дык усе ж людзі сем'ямі жывуць. Як жа ты без жонкі?

— Ай, абыдуся.

— Яна ж і есці зварыць, і вопратку памые, і парадак у хаціне навядзе...

— Дык яе ж самую трэба карміць.

— А як жа ты хацеў? Каб жонку і не карміць?.. Вось жа дурында ўрадзіўся. Нічым яго не праб'еш, — злаваўся бацька. — Карак наеў, як той вяпрук, а розуму — што ў старой курыцы.

— Няхай сабе і так, але жаніцца ўсё роўна не буду.

— Цябе ніхто і не прымушае. Жыві адзін, — сурова вымаўляў стары гаспадар.

Матуля спрабавала было прывесці да розуму сына:

— То што, усё жыццё адзін хадзіць будзеш?

— Ага.

— Ой, які ж сорам нам на старасць гадоў выпаў.

— Як сабе хочаце, а мяне не чапайце.

Потым Сідар зусім ад бацькоў адмовіўся. Нават жыць перайшоў у старую хацінку, якая стаяла ў самым канцы агарода і дзе некалі ўся сям'я жыла, пакуль новую, прасторную не пабудавалі.

— Вось цяпер і я гаспадар, — шчасліва ўздыхаў Сідар, — і ніхто з мяне не будзе кпіць, ніхто не стане сачыць, калі я лёг, а калі ўстаў.

Цяпер гуляў з сябрукамі, прапіваў тое, што ўдавалася дзе-небудзь украсці ці ў каго адабраць. А напіўшыся, дабіраючыся дамоў, зацягваў сваю любімую:

— Ой, зайду дадому,
Не скажу нікому.
Ды зарэжу ката,
Бо наш кот сірата...

Роў такім голасам, што ўсе сяляне, якія паблізу жылі, казалі:

— Зноў лайдачына дамоў паплёўся. Вось гарэць каму на тым свеце ў пекле.

— Чаму? — дапытваліся малыя дзеці.

— Ой, родненькія, ці ж так можна паводзіць сябе з бацькамі. Пры жывых старых ад іх адмовіўся ды яшчэ і здзекуецца.

Невядома, чым бы ўсё скончылася, каб не прыехалі да старых гаспадароў два старэйшыя сыны, якія жылі далекавата-такі ад роднага дому са сваімі сем'ямі.

— Як здароўе? — яшчэ на парог не ступілі, а ўжо запыталіся. — Ці дапамагае вам Сідар?

— Ды... — пераглянуліся старыя і адразу, нібы змовіўшыся, заліліся горкімі слязьмі.

— Што здарылася?

— Ой, дзетачкі, і не пытайцеся.

— Раскажыце, мы не паедзем, пакуль не дапаможам.

Гаспадары ўсё чыста і выклалі: як здзекаваўся Сідар, як п'е і чым займаецца п'яны. Хруснулі кулакамі здаравякі-сыны і паабяцалі:

— Болей ён піць не будзе.

— І дзесятаму закажа.

— Дзетачкі, — кінулася маці, — не задумвайце ліхога.

— Ніхто яго са свету зжываць не збіраецца. Павучым трохі.

Як прыцямнела добра, накінулі браты мяхі на плечы, каб нельга было пазнаць, узялі ёмкія цурбалкі і падаліся да хацінкі. Доўга чакалі, але нарэшце паказаўся п'яны, які на чым свет стаяў гарлаў песню.

Як выскачылі браты, як сталі яго дубасіць, а ён ачомаўся і давай прасіцца, каб не забівалі.

— Не заб'ём, але як цябе завуць?

— Сідар... Сыдар... — захліпваўся лайдак ад слёз, ад болю ды з перапуду.

— Як-як?

— Сы-род...

— То слухай сюды, Сырод. Калі не перастанеш піць ды не пачнеш шанаваць і дапамагаць бацькам, то не будзе табе спакойнага жыцця. Кожны вечар будзем лупцаваць — так і ведай!

— Кіну!.. Кіну!.. Толькі болей не біце!..

Так і кінуў, а мянушка тая да Сідара прыліпла, і месца тое сталі называць Сыродам. Пазней там наша вёска стала.



# КАРМА

Некалі людзі там жыць заставаліся, дзе ўсяго хапала. Справа ў тым, што зямлі вольнай навокал ляжала многа, паноў ніякіх не было. Дзе захацеў будавацца, там сабе і будуйся, ніхто і слова не прамовіць, толькі ўжо глядзі, каб чужыя межы не парушыць, тады бяды не абярэшся, да скону веку будзеш з суседзямі ваяваць ды даказваць, што выпадкова ўсё здарылася. Але калі шчыра, то межы значна пазней з'явіліся.

У тыя часы жыў адзін гаспадар, Нупрэем яго звалі. Жонка ягоная — Гапка — таксама працавітая жанчына была, увішная, іх Бог нібы спецыяльна падбіраў у пару.

Жыццё ішло, дзеці падрасталі. А было іх многа: сямёра сыноў і дачушка — самая малодшая, Настачка.

Прысядуць дзе-небудзь бацька з маткай і размаўляюць:

— Якія яны ў нас дружныя.

— Ага. І дурнога нічога не робяць.

— Ім, відаць, і ў галаву такое не прыходзіць.

— Каб і надалей не прыходзіла.

— Хутка ляціць час. Не за гарамі і размовы пра вяселлі.

— Ой, і не кажы. Адзін за адным пойдуць у свет са сваімі сем'ямі.

— Так. І застанемся мы адны.

— А хіба ж мы не так рабілі ў маладосці?

— Ведама што. Цяпер і мы зразумеем, чаму плакалі нашы бацькі, як мы ад іх адыходзілі.

— Яны і па нас плакалі, і па сваіх маладых гадах, якіх не вернеш назад.

Жыццё ж — такая штука, што толькі яно дыктуе свае законы, а ты яму нічога не зробіш.

— Давай лепей пра гэта не будзем гаварыць, бо мне адразу плакаць захацелася, — прапанавала Гапка.

— Давай, толькі гэтым мы не выратуемся ад старасці, ад гадоў, што цяжарам навіслі на нашых плячах.

Пагамоняць так гаспадары і пойдуць займацца справамі.

Ажно неяк надвячоркам прыйшоў старэйшы сын Мікола і, азірнуўшыся, нібы зрабіў нешта благое, гопнуўся перад бацькамі на калені.

— Што ты, сынок? — зніякавелі тыя.

— Дазвольце слова сказаць?

— Ды не стой ты на каленях, гавары, сынку, не бойся, — падбадзёрыла Гапка.

— Ды... Дазвольце мне ажаніцца.

Бацькі як стаялі, так і селі. Гэтае размовы чакалі, але, па шчырасці, не так хутка. Сядзелі і маўчалі, а здаравяка-сын стаяў па-ранейшаму перад імі на каленях і напружана чакаў адказу. Першай прыйшла ў сябе гаспадыня:

— То ўстань ужо, чаго стаіш на каленях?

Мікола ўстаў.

Тут ужо ачомаўся і Нупрэй:

— А я табе што гаварыў? Вось і пасыпалася.

— Радавацца трэба, чалавеча, а не злавацца.

— Хіба я злуюся?

— То што мы яму скажам? Ён жа стаіць і яшчэ прытомнасць страціць ад перажывання.

— А што можна свайму сыну сказаць? Згода.

— То каго ты хочаш сватаць? — запытаўся Нупрэй.

Мікола ад радасці не мог адразу і загаварыць, але потым прарвалася:

— Стэпку...

— Ну што ж, няхай так і будзе. Дзяўчына добрая, працавітая.

Гапка дадала:

— І прыгожая. Не кожны такой нявесткай пахваліцца можа.

Гаспадар пачухаўся і нерашуча прамовіў:

— Толькі ў мяне, сынок, да цябе адна просьба будзе...

— Слухаю, тата, — напружыўся Мікола.

— Давай дамовімся, што ты, калі ажэнішся, застанешся з намі жыць. Бо ўсіх дзяцей нам яшчэ трэба на ногі паставіць. Вось як Настачку замуж аддамо, тады і ты будзеш вольны.

Маці дадала:

— Доўга давядзецца чакаць, але час ляціць непрыкметна. І не крыўдуй за гэта на нас, сынок. Проста мы ўдваіх не пацягнем усяго, а трэба ж усіх даглядзець, усіх у людзі выправіць, каб людзі не смяяліся ды потым пальцамі не торкалі.

— Што за крыўда? Безумоўна, застанемся са Стэпкай з вамі, буду вам дапамагаць, як і дасюль.

— Вось дзякуй табе, сынку, — засмяяўся з палёгкай Нупрэй. — Я даўно пра гэта меркаваў, але ўсё не выпадала пагаварыць з табой, ды, шчыра, і баяўся, а раптам не пагодзішся. Прымусіць жа цябе ■ не маю права.

— Не трэба болей прасіць. Калі я сказаў, то так усё і будзе. Разлічвайце на мяне. — Мікола з падзякай пакланіўся бацькам.

Прайшло вяселле. Усе жадалі маладым шчасця, доўгіх гадоў жыцця, шматлікіх нашчадкаў. А пасля яго зноў настала будзённае жыццё, тая ж самая праца, зноў тыя ж самыя клопаты. Толькі цяпер ім было лягчэй: два гаспадары — стары і малады — параяцца, дамовяцца, ■ потым ужо астатнім распавядаюць, куды пайсці ці паехаць і чым заняцца ў бліжэйшы час. Нупрэй ганарыўся тым, што Мікола быў такім жа працавітым і спагадлівым, як і ён сам. Таму звычайна гаварыў:

— Трэба на луг ехаць касіць. Як мяркуеш, сынку?

— Час добры стаіць.

— Яно так. Скасіць бы на надвор'е, а потым прыбраць пад сонцам, то зімой з сенам клопату не будзе.

— Ведама, бо потым невядома, якое надвор'е прыспее. Можа дождж заліць на тыдзень ці на болей, тады ўсё згніе.

— А не згніе, то сена смярдзець будзе, і ніякая жывёла яго есці не стане.

Ужо і два другія сыны — Пракоп ды Пятрок — ажаніліся, ■ Мікола па-ранейшаму заставаўся галоўным дарадчыкам. Чуць што, ідзе да яго Нупрэй:

— Сынку, чарговае вяселле трэба гуляць. Што ты думаеш адносна гэтага?

— Калі трэба, то згуляем, чаго ўжо нам. Тры згулялі, яшчэ пяць засталося.

— Час ляціць, сынку...

— Яшчэ як. Вунь я, здаецца, толькі ўчора ажаніўся, а ўжо ў самога трое дзетак.

— Так, унучаняты, дай ім Бог здароўечка, бегаюць-шчабечуць.

— Толькі, тата, ты сам падказвай маладым, куды ісці жыць. Мне нельга ўмешвацца, [redacted] такі ж, як і яны. Каб потым на мяне не крыўдзіліся, не пазіралі з-пад ілба.

— Праўду кажаш, сынку. Буду раіць, каб потым крайнім не аказаўся.

Так адыходзілі дзеці ад Нупрэя з Гапкай. Нарэшце і самы малодшы з сыноў — Змітрык — падышоў да Нупрэя:

— Тата, відаць, і мне час за братамі...

— Куды гэта? — нібы не зразумеўшы, здзівіўся гаспадар. — Гавары больш выразна, бо стары я і такіх рэчаў не надта разумею.

— Жаніцца хачу.

— Вось, цяпер зусім іншая справа, цяпер мне ўсё стала ясна.

— Дык што?

— Усё зразумела.

— Але ж...

— Згода, сынку, згода. Ідзі да матулі, дазволу папрасі і ў яе.

Узрадаваны Змітрык паджгаў у агарод, а поруч з бацькам апусціўся ўзмакрэлы Мікола.

— Благія нашы справы, тата.

— Што такое? — ускінуўся той.

— Ой, не ведаю, з чаго і пачаць.

— Гавары, сынку, бо сэрца не вытрымае.

— Я з лугу толькі што вярнуўся. А там... Трава зусім пагарэла, сена не будзе. А не будзе сена, то і з жывёлай рады не дадзім. А ў нас жа яшчэ двое малодшых у сям'і.

— Ужо толькі Настка засталася. Змітрык прыбягаў, дазволу жаніцца прасіў.

— Я і думаю, чаго гэта ён так панёсся міма мяне, што ледзьве з ног не збіў. Тут яшчэ дадаецца клопатаў — вяселле гуляць.

— У яго радасць...

— А нам думаць трэба, каб з кармамі выбрацца на зіму, бо дрэнна ўсё можа скончыцца.

— Круціся, сынку, пакуль час ёсць. Я б дапамог, ды сілы болей не маю. Прайшлі мае гады, калі я варочаў, як той вол. Зараз вось толькі і здольны на прызбе сядзець ды гаманіць.

— Я пакуль з луга вяртаўся, то з сястрычкай перагаварыў.

— Ну і?

— Вырашылі мы, што паедзем у нізоўе ракі і там пашукаем неабжытую мясціну. Можа, дзе ніжэй, то і не так выгарэла...

— Паспрабуйце, тым болей што дома абрабіліся. Толькі не надоўга.

Паехаў Мікола з сястрой шукаць прыдатную для кармоў мясціну, астатнія дома засталіся. Можа, з тыдзень іх не было, а можа, і болей. Нарэшце заявіліся — стомленыя, здарожаныя, але задаволеныя.

Першай падскочыла дачка:

— Тата, мама, там ёсць кармы... Многа кармоў... Туды і перабяромся...

Так і зрабілі. Перабраліся ў новае месца, каб там надалей жыць, а паселішча назвалі Кармамі, ці, як пазней стала, — Кармой.

## КАРОЦЬКІ

Адзін чалавек меў невялікую сям'ю — двух сыноў і жонку. Сыноў звалі Фёдар і Іван. І вылучаліся яны тым, што Фёдар быў высачэнны, як той рубель, якім сена на возе ўціскаюць, і такі худы, што, здавалася, пастаў яго пад ветрам дзе ў чыстым месцы, то ён і пераломіцца адразу. Вяскоўцы жартавалі:

— Яго, відаць, бацька і малога не карміў, а зараз, то і ўвогуле перастаў.

— Аняго ж. Такім вырасці далёка не кожнаму ўдаецца.

— А як ён працуе, калі надзьмуцца добра трэба?

— Дзе ж гэта ты, братка, бачыў, каб Фёдар ды напнуўся? Нешта [redacted] не прыпомню.

Фёдар быў высачэнным, [redacted] Іван, наадварот, кароткім, напалову меншым за брата, і тоўстым, здавалася, аднолькавым як у вышыню, так і ў шырыню. На іх смешна было збоку глядзець: адзін крочыў спакойна, а другі ўподбежкі не паспяваў і сапеў толькі, аддзьмухваўся, нібы за ім воз сена быў прычэплены. Вяскоўцы, сустрэўшыся з такой парачкай, давалі волю языкам, а браты на гэта асаблівай увагі не звярталі, ішлі, зямлі пад сабой не чулі, насы так задзіралі, здавалася, да неба дастануць. На людзей і не глядзелі, быццам іх не існавала. Такія ўжо гордыя былі.

Пагамоняць больш сталыя вяскоўцы пра братоў-гультаёў ды ганарліўцаў, а потым і забудуцца на іх. А вось вясковым хлопцам пагарда і абыякавасць з боку Фёдара

ды Івана надакучыла. Сабраліся яны неяк, пагаварылі пра тое-сёе і неяк неўпрыкметку перайшлі да сваёй любімай тэмы:

— Гэта ж трэба! Сёння раніцай іду, а яны насустрач. Я, як заведзена, павітаўся, а гэтыя гультаі і вокам не павялі. Як ішлі, то і пайшлі.

— Бачыш ты на іх! Вышэй за нас сябе паставілі!

— А што ім? Як панічы ходзяць, што такое праца не ведаюць.

— Бацька з маткай рвуцца-выжыльваюцца, а гэтыя і ў вус не дзьмухаюць! Каб на іх ліха!

— Навошта ліха?

— А табе што, іх шкада?

— Наадварот, [redacted] прапаную добра лайдакоў правучыць. Падлавіць і добра адбомкаць, каб перасталі насы перад намі драць.

— Слушная прапанова, і выканаць яе няцяжка. Я якраз ведаю дзяўчат, да якіх яны бегаюць.

— То яшчэ лепей, высочваць не давядзецца. Сёння ж вечарам і зробім ім штуку. Збіраемся тут.

Глыбокім вечарам Фёдар з Іванам джгалі дамоў. Вясёлыя, радасныя ад таго, што дзяўчаты, да якіх яны ўнадзіліся, дазвалялі ім паводзіць з сабой даволі нястрымана. Гаманілі, [redacted] тут з-за кустоўя нейкія людзі як наскочылі, як пачалі лупцаваць, то браты нема заверашчалі:

— Пусціце!!!

Нейчы голас азваўся:

— Тут доўгі!

— А ў мяне кароткі!

Так і лупілі, пакуль не ўзмаліліся гультаі, што не будуць болей ганарыцца і насы задзіраць. Адпусцілі іх, але мянушка так і засталася — Доўгі і Кароткі. Фёдар неўзабаве памёр, [redacted] Іван жыў доўга.

Ад яго многа дзяцей пайшло, нашчадкаў, і ўсіх іх Кароткімі клікалі, [redacted] потым — Кароцькамі. Адтуль і вёска.

## КАСЦЮКОЎКА

Жыў-быў у нас Касцюк. Сярод людзей славіўся тым, што ведаў процьму замоў, на ўсялякія выпадкі жыцця, здарэнні. Здавалася, што няма такой сілы, ад якой гэты вясковец не змог бы выратаваць. Толькі ўсміхнецца, паслухаўшы, і скажа:

— Усяго і бяды?

— Ну.

— Дык я яе за пару хвілін развяду.

— Праўда? Ой, дзякуй вам.

— Дзякаваць не спяшайся, гэта ў любы момант паспееш. Калі дапамагу, тады і скажаш. Што ў цябе баліць?

— Ды як вам сказаць...

— Так і скажы.

— Баліць у мяне... сэрца.

— Сэрца?

— Так.

— І ад чаго ж яно баліць? Калі стала балець? Пасля якога выпадку?

— З самае вясны.

— Коле ці цісне?

— І так, і гэтак. Вось як правёў яе першы раз, тады і адчуў. Дапаможаце, дзядзька Касцюк?

— Толькі тае і бяды.

— Няўжо?

— Сам пераканаешся хутка.

— А што мне рабіць?

— Нічога. Сядзі і ўважліва слухай, можа, калі-небудзь і сам каго ад такой жа сардэчнай хваробы выратуеш. Я ж не вечны, не паспею ўсім дапамагчы.

— Ды што вы гэта кажаце? Вы ж яшчэ зусім малады, і жыць вам да ста гадоў.

— Дзякуй на добрым слове, а зараз слухай мяне і не перабівай. Гатовы? Тады слухай:

«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры Божай пакланюся, кіеўскім, пячэрскім, усім сілам нябесным, усім святым Гасподнім Божым угоднікам і ўсім святым Гасподнім скорым памочнікам. Приступайце рабу Божаму Івану да помачы пра любоў гаварыці.

Маладзік малады, у цябе рог залаты. Табе, маладзік, на высату, а Івану жыць з Палінаю ў пары на красату. Табе, маладзік, высакавацца, а Івану з Палінай жыць у пары заўсёды ды красавацца. Вітаю я цябе, маладзік, вячэрняю зарою, як зараз, так і заўсёды.

Месяц і зоры, не давайце маёй Паліне спакою, што б яна не піла, не ела, не драмала, а толькі аб адным мне, Іване, думала. Бо я, Іван, нараджоны-хрышчоны, месяцам абгараджоны, сонейка ў вачах, месяц у плячах, зоры па рэбрах, ангелы па нябёсах, камень у сінім моры. Як таго каменя з сіняга мора ніхто не можа падняць, так рабу Божаму Івану ў пары ніхто і ніколі не можа адмовіць. Амінь».

Іван сядзеў і ўважліва-ўважліва слухаў, ціха перабіраючы губамі, потым ледзьве чутна прашаптаў следам за Касцюком: «Амінь».

— Вось і ўсё, — сказаў Касцюк.

— Усё?

— Ага. Толькі ты запомні, хлопча, што гэтую замову самому трэба будзе паўтарыць тры разы запар.

— Тры разы...

— І самае галоўнае — зрабіць гэта на змярканні, калі зойдзе вячэрняя зара. Так мяне мой дзед навучыў. А за дзяўчыну не хвалюйся, яна цяпер толькі твая будзе, бо з гэтага моманту яе стануць трымаць замоўныя словы.

— Каб жа словы ды не падвялі мяне...

— Не падвядуць.

— Вы, дзядзька Касцюк, так упэўнена гаворыце.

— Бо я, хлопча, сотням, [redacted] можа, і тысячам людзей за сваё жыццё дапамог, і ніколі мае словы не хібілі.

— Вы, калі ласка, прабачце. Можа, я нешта не тое сказаў?

— Ды чаго там, усё добра. Любы можа сумнявацца, на гэта ён і чалавек, каб не давяраць ды пераправяраць.

— Ой, і не верыцца нават.

— Паверыш, калі мяне на вяселле паклічаш.

— Абавязкова, дзядзька Касцюк, абавязкова.

— Да ўсіх і не находзішся.

— Да мяне прыйдзеце, калі толькі атрымаецца.

І што ж вы думаеце? Праходзіла ўсяго нейкіх пару месяцаў, і шчаслівы хлапчына ляцеў да хаціны знахара:

— Дзядзька!

Той выходзіў на ганак і спакойна, хаваючы ў свае рудыя вусы ўсмешку, пытаўся:

— Што на гэты раз, хлопча, здарылася?

— Ды... На вяселле вас запрашаю.

— Вось як?

— Але.

— Значыцца, атрымалася?

— Ой, дзякуй вам, дзядзька Касцюк.

— Тады [redacted] прашапчу яшчэ адну замову, якая прывяжа на ўсё жыццё тваю Паліну да цябе. Хочаш?

— Ведама ж.

— То слухай:

«Я іду каменным бродам, а мая Паліна гарою. Я стаў і гляджу ў ваду, які з мяне цень: з вады — вадзяны, а з лазы — лазіны, [redacted] з мяне — мой. Як мая нага за нагою, каб так Паліна

за мною. Каб яна куды ішла — не дайшла, каб яна ела — не даела, каб яна спала — не даспала, каб яна дзень і ноч думала аба мне — і ў ядзе, і ў хадзе, і ўва сне».

Вось і ўсё...

— Дзякуй яшчэ раз, дзядзька Касцюк, ды прыходзьце абавязкова да нас на вяселле.

— Калі такая справа, то прыйду. Вяселле — гэта і людзей паглядзіш, і цікавага многа пачуеш.

— І вам дзякуй не адзін чалавек скажа.

— Ну, гэта ўжо неабавязкова.

Такі вось добры чалавек быў Касцюк. І месца тое, дзе ён жыў, ласкава сяляне назвалі Касцюкоўкай.

## КУЧЫН

Жылі-былі стары і старая, і быў у іх сын Іван. З самага маленства навучыўся хлапчынка іграць на дудачцы і так хораша гэта рабіў, што дарослыя і тыя зайздросцілі:

— І як гэта ў яго атрымліваецца? На звычайнай дудачцы, а такія мелодыі выходзяць.

— То вясёлыя, а то — сумныя.

— Так, да самае глыбіні душы прабіваюць. Здаецца, і не хацеў плакаць, ўсё роўна заплачаш.

— Малайчына, Іванка. Так хвацка грае.

— Ён усім узяў: і прыгожы, і сумленны, і працавіты.

— Толькі не пашанцавала яму — бацькі такія старыя ды бедныя.

— Ну, тут не сам выбіраеш, а Бог прызначае, каму якую долю...

Тым часам Іван стаў вялікім, дарослым, значыцца. Пакланіўся бацьку з маткай і гаворыць:

— Што я буду дома сядзець? Лепей пайду ў людзі.

— Ой, сынку, навошта табе гэта?

— Зараблю, можа, якіх грошай ды прыкуплю зямлі. Хатку новую на ёй пастаўлю, і тады зажывём мы з вамі прыпяваючы. Надакучыла ў голадзе ды ў холадзе сядзець.

— А як жа мы, Іванка?

— Вы не бойцеся, я доўга не буду хадзіць. Праз пару месяцаў вярнуся. Хіба ж я не разумею, што вас нельга кідаць?

— Ды мы, сынку, не так за сябе, як за цябе баімся.

— Не перажывайце, я не маленькі, і сілы ў мяне стае, каб пастаяць за сябе.

Дачакаўся Іван раніцы і, развітаўшыся з плачучымі бацькам і маткай, рушыў у нязведаную дарогу. Прыйшоў у адну вёску і пытаецца, ці не трэба каму работнік. Людзі параілі яму кіраваць далей, бо і самі жывуць беднавата, спраўляюцца з усім самі. Падзякаваў ім хлапчына і далей паджгаў. Ажно і ў наступнай вёсцы яму сказалі, каб кіраваў далей.

— У нас усе аднолькава жывуць, і ты не знойдзеш добрага месца для службы, а вось праз два паселішчы — там зусім іншая справа.

Пайшоў Іван далей. А трэба сказаць, што хлеб, які бацькі сілком у торбу паклалі, ужо скончыўся. Цяжкавата на душы стала. Калі з дому кіраваў, то спадзяваўся на лепшае, а тут вось як яно выкруціла. Вырашыў тады хлапчына, што калі і ў гэтай вёсцы ніхто на працу не возьме, то паверне да бацькоў, бо і яны ж там без яго пакутуюць. Адны ж засталіся.

Ажно пашанцавала Івану якраз у наступным паселішчы. Зайшоў у хаціну і пытаецца:

— Можа, вам, людзі добрыя, работнік патрэбны?

А там дзед з бабай жылі. І грошай у іх было процьма, бо гаспадар у свой час вялікі скарб знайшоў. Ды сквапнымі яны сталі, ніякія работнікі ў іх не трымаліся. Як бы там ні было, але Івану не было з чаго выбіраць. Паставіў стары адну ўмову:

— Калі за два месяцы, да самай позняй восені, не прападзе ў мяне ніводная авечка з тых, якіх ты будзеш пасвіць, то насыплю табе на развітанне цэлую шапку залатовак.

— Згода.

— А калі хоць адна з іх прападзе, то нічога не атрымаеш.

— Што ж мне рабіць, калі гаспадар такую ўмову ставіць? — развёў рукамі хлапчына. — Пагаджаюся і на гэта.

— То заўтра з самае раніцы і выганяй.

— А наконт ежы, гаспадарыку?

— Ды старая дасць што-небудзь, за гэта не хвалюйся.

— Добра, тады я пайшоў спаць, каб не праспаць.

— Спаць будзеш у гумне. Там і сена хапае, і стары кажух, каб накрывацца, ляжыць.

Раніцай пагнаў Іван авечак на пашу. Далі яму есці, а што яшчэ хлопцу трэба? Калі прыганяў жывёлін на падворак, то гаспадары адразу ж старанна іх пералічвалі.

Час ішоў, ужо хутка мінаў месяц, як хлапчына наняўся на працу, а ўсё было ў парадку. Стары не вытрымаў:

— Нешта тут не тое... Паспрабую праверыць...

— Ага, — падтрымала яго жонка, — ён нешта ведае, бо нашы авечкі абы ў каго і пасвіцца не стануць.

— Так. Нядоўга ён будзе нас абдурваць. Усё роўна мы выйграем.

Узяў стары свой кажух, вывернуў яго, апрануў на сябе, залез у хлеў і чакае, калі пастух жывёлін на пашу пагоніць.

Узышло сонца. Іван падняўся і пагнаў авечак на пашу. Тыя ажно ляцелі на луг, а гаспадар, як ні стараўся, адставаў. Пастух заўважыў дзедавы хітрыкі і пугай сцёбаў ды ўсё стараўся па пятках трапіць. Стары ажно вішчэў ад болю, але ў адкрытую закрычаць не мог, баяўся, што раскрыецца ўсё. Стаміўся пастух дзеда лупцаваць і за іншае пакаранне ўзяўся: сеў на купіну і на дудачцы зайграў. І так весела, так залівіста, што жывёліны ў скокі пайшлі, а гаспадар найперш. Так ужо стараўся, што ажно кажух з плячэй зваліўся і дзед упаў знясілены. Падышоў да яго хлапчына і гаворыць:

— Дзіўна, але ніколі не бачыў, каб авечка сама па сабе са шкуры вылазіла.

Вечарам гаспадар ледзьве прысунуўся дамоў і кажа бабе:

— Ведаеш, давядзецца нам заплаціць яму ўсё, і няхай ён ідзе як мага хутчэй адсюль.

— Чаго гэта? — вырачыла тая вочы.

— Так трэба.

— Ты, відаць, здурнеў? За месяц наперад плату заплаціць? Ён жа не адпрацаваў яшчэ.

— Справу табе кажу.

— Ай, кінь дурное несці.

— То растлумач.

Расказаў дзед, як усё адбылося на самай справе. Старая памаўчала, потым прамовіла:

— Добра, заплацім, але толькі тады, калі і я пушчуся ў скокі пад ягоную дудачку.

— Толькі ты мяне ў сундуку зачыні, а сундук мы да столі падчэпім, каб я зноў не заскакаў.

Так і зрабілі. Вечарам прыгнаў Іван авечак, и бабця і гамоніць:

— Чула я, што як ты зайграеш — ніхто ўтрымацца не можа, у скокі пускаецца.

— Праўда.

— А я вось не такая. Я вытрымаю.

Як зайграў Іван, як заскакала старая, як панеслася па

хаце, а там і дзед кулём вылецеў з сундука і давай каленцы выкідваць! Скачуць і крычаць:

— Спыніся, і так заплацім!

Насыпалі поўную шапку залатовак. Прынёс іх Іван дамоў і высыпаў на стол. Бацькі ажно аслупянелі:

— Цэлая куча золата?!

За грошы купіў хлапчына зямлі, пабудаваў хаціну, светлую ды вялікую, і шчасліва зажыў з бацькамі разам. А мясціну тую празвалі — Кучын, што ад кучы золата ўзбагаціліся.

## ЛЕБЕДЗЕЎКА

Гісторыя гэтая здарылася надзвычай даўно. Тады зусім мала паселішчаў было па нашым краі, і размяшчаліся яны на значнай адлегласці адно ад другога. Бары ды пушчы першастваральныя верхавінамі сваімі з аблокамі шапталіся. Таму людзі і гаварылі:

— Замуж пойдзе дзяўчына, то назад мала калі зазірне.

Гэта азначала, што калі і адведвала яна потым родных, то не так часта, як самой ды ім хацелася б.

Так доўжылася з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе, са стагоддзя ў стагоддзе. І вось аднаго разу была ў адной вёсцы значная падзея — аддаваў гаспадар замуж сваю дачку. А ўрадзілася яна ў яго нечуванай прыгажуняй, адбою ад сватоў не было. Ехалі нават ад князёў ды ад паноў. Селянін той за галаву хапаўся:

— Ой, родненькія, а што ж мне рабіць?

— Дачку замуж аддаваць.

— Але ж вы багатыя ды знатныя, а мы...

— Гэта, бацька, ніякай ролі не адыгрывае. Мы табе ўдзячны будзем, калі за нашага жаніха дачку аддасі.

— Ой, людцы добрыя, ніколі ў жыцці я яе нічога рабіць не прымушаў.

— І добра.

— Яна ў мяне, прабачце, сама вырашала. Прасіў дапамагчы, то заўсёды дапамагала, а так...

— Зразумела, бацька, але хоць нагадай ёй, што наш жаніх найлепшы.

— Гэта можна, гэта зраблю абавязкова. Толькі не гарантую, што яе адказ станоўчым будзе.

— Можаш за гэта не перажываць. Мы ж таксама сваіх дзяцей гадуем.

Так пагаворацъ, бацька ў хаціну зойдзе і да дачкі падступаецца:

— Дачушка...

— Ну, тата?

— Тут сваты.

— Зноў?

— Але.

— То і што?

— Жаніх у іх хлапчына хвацкі. Прыгажэнны, здаравенны, каб ты сама глянула, то ён і табе спадабаўся б.

— Ой, тата, гэта яны ўжо, відаць, цябе папрасілі?

— Не.

— Не ўмееш ты ў мяне хлусіць. Пайшлі ўжо зірнём на тых сватоў і на іхняга жаніха. А раптам і сапраўды такі ўжо хвацкі ды прыгажэнны.

Выйдуць, дзяўчына ўсміхнецца і стане яшчэ прыгажэйшай. Тады ўжо самыя змрочныя сваты ды жаніхі ёй кланяліся і ўсміхаліся, забываліся нават перад такой прыгажуняй, дзеля чаго сюды прыехалі. І ніхто крыўды на гаспадара ды на ягоную дачку не трымаў, калі яны адмаўлялі. Сустракалі іх шчыра і спагадліва, гэтак жа добра і праваджалі.

Аднаго разу, калі прыехаў сватаць простую сялянскую дзяўчыну малады князь, то ўсё атрымалася найлепшым чынам. Удвух толькі прыскакаў валадар, не было ў яго мудрых сватоў, не гаварылі яны пра куніцу ды пра дарагія дары, не прымушалі гаспадара нешта выдумваць. Проста зайшлі ў хаціну — ажно цямней стала, бо абодва здаравенныя, што мядзведзі, высачэнныя.

— Добры дзень, гаспадар.

— І вам добры, людзі.

— Хацелі б мы вадзіцы напіцца, — пачаў той, што стаяў за спінай у князя.

— Можна. Яна ў нас сцюдзёная, чысцюткая, з крыніцы.

П'юць незнаёмцы ваду, а самі пераглядваюцца і на дзяўчыну спадцішка пазіраюць. А тая таксама хітрая — робіць выгляд, што яе гэтая гаворка не датычыцца, займаецца там нейкай справай. Тады малады князь ступіў да гаспадара і сказаў без усялякіх хітрыкаў:

— Бацька...

— Ну?

— Аддай за мяне сваю дачку.

Вясковец знячэўку ажно адхіснуўся:

— Ды я ж...

— Аддай. Я не буду яе крыўдзіць, не хвалюйся. Яна ў мяне будзе жыць, як у самога пана Бога за пазухай.

— Ой, нічога сказаць, даражэнькі, не магу. Тут усё ад яе залежыць.

Князь і тут не разгубіўся. Зрабіў пару крокаў і стаў перад дзяўчынай:

— Выходзь за мяне.

— Бачыш, чаго захацеў? — усміхнулася тая. — Папрасі добра.

— А ■ што, дрэнна прашу?

— Не дрэнна, але нічым ад іншых не адрозніваешся.

— Тое, што ты надзіва прыгожая, табе гаварылі?

— Але.

— Што няма за цябе прыгажэйшай — таксама?

— Было.

— А вось гэтага табе да мяне ніхто не казаў: выходзь за мяне, то кахаць стану, як ніхто ў белым свеце.

Заўсміхалася прыгажуня:

— Сапраўды, прапаноўвалі ўзяць, а вось што кахаць будуць, то такога ніхто не гаварыў.

Прыціхла дзяўчына і задумалася. Бацька таксама маўчаў. А здаравенныя незнаёмцы цяпер ужо не пераглядваліся, а чакалі, які ж будзе адказ. Не вытрымаў і князь, сеў на лаўку, сваім выглядам нібы сцвярджаючы: калі трэба, то і пачакаю.

— А не падманеш? Праўда, кахаць будзеш? — зноў гуллівым голасам пачала прыгажуня.

— Я ніколі свайму слову не здраджваю, — цвёрда сказаў князь і запрапанаваў: — Ты ў майго сябрука запытайся, ён табе ўсё скажа.

— Ага, асабліва, калі ўлічыць, што зараз вы заадно.

— Не, не хлусіў князь ніколі, — падтрымаў свайго валадара і здаравіла-дружыннік.

— То тады пайду, тата?

— А што ж ты, дачушка, у мяне дазволу пытаешся? Часіна твая прыспела, і не ўтрываю я цябе дома. Як бы мне ні хацелася, а аднаму давядзецца заставацца.

— Не давядзецца, бацька, паедзем са мной. Усім месца хопіць.

Так і вырашылася пытанне. І на самай справе надзвычай верны быў князь. Так ужо кахаў сваю прыгожую жонку, што іншыя зайздросцілі. Нарадзілася ў іх двое дзетак. І тады здарылася страшная бяда — напалі ворагі на княства. Мужна біліся мясцовыя воі, але чужынцаў было болей, і таму яны перамаглі.

Князёўна з дзецьмі, каб не трапіць у палон, кінулася ў возера, якое некалі тут стаяла, і ўмомант стала лябёдкай з двума малымі. Так возера і назву атрымала, потым яно некуды знікла. Тады заснавалі паселішча, а назву пакінулі — Лебедзеўка.

## ЛІЦВІНАВІЧЫ

Жыў у нас некалі Ліцвін. Так яго клікалі таму, што быў не тутэйшы, а прыехаў аднекуль здалёк. Спачатку чалавек нічым не вылучаўся, але потым як стаў піць, то распіўся дазвання. Усе з яго смяяліся, дзеці хадзілі галодныя і абарваныя ды ў добрых і спагадлівых людзей скарынку хлеба прасілі. Гаварылі некаторыя, сваіх мужоў дакараючы:

— Глядзіце, хутка да таго ж, да чаго Ліцвін, дакоціцеся.

— Да чаго?

— Ён жа п'яны ходзіць, ніколі не прасыхае. Са свіннямі пад платамі начуе.

— Няхай сабе начуе, мы столькі піць не будзем.

— Ой глядзіце. Гарэлка, яна такая штука, што сваё, калі захоча, возьме.

Людзі гаманілі, а Ліцвін на гэта ўвагі не звяртаў, піў, дый годзе. Нап'ецца і дзярэцца дамоў, сваю любімую песеньку спяваючы:

Плыла качачка, плыла шэрая,
З возера у мора.
Ішла дзеўчына, ішла молада,
З роскашы ў гора...

Калі хто з людзей чуў тую песню, то здзіўляўся:

— П'яны, а як хараша выводзіць.

— Які б ні быў, але ж чалавек.

— Нейкая ж прычына была, што так распіўся.

— Хто яго ведае.

— Як бы там ні было, але з-за ягоных п'янак жонка ды дзеці пакутуюць.

Аднаго разу ішоў Ліцвін у карчомку і знайшоў па дарозе пару ботаў. А можа, і такое не выключана, проста ўкраў, а спаслаўся на тое, што знайшоў. З парога яшчэ гукнуў:

— Шлёма! Стаў кварту на стол!

— А грошы маеш? — пачулася з'едлівае.

— Маю, сёння я багаты.

— Мабыць, ужо недзе клыкнуў, што так пахваляешся?

— Не, не піў нідзе, а што багаты — то чыстая праўда.

— Не паверу.

— Глядзі, што ў мяне.

Карчомшчык смешна зморшчыўся, разглядваючы боты.

— Ну, так сабе.

— Няпраўда, Шлёма. Я цябе даўно ведаю — хочаш цану збіць. Але на гэты раз я не паддамся. Не жадаеш абмяняць боты на гарэлку, то пайду ды прадам каму іншаму, там мне не меней дадуць.

— Ой, чалавеча, ты што? Чаму не хачу? Хто табе такое сказаў? Давай сюды боты, атрымаеш сваю кварту.

— Мала кварты, Шлёма.

— А колькі ж ты хочаш за гэтыя няшчасныя боты?

— Тры кварты.

— Добра, згодны, вазьмі свае дзве кварты і будзь задаволены.

— Не. Я ж казаў — тры.

— Добра, бо не адчэпішся, — незадаволена пагадзіўся Шлёма.

Ліцвін тады напіўся так, што нават не памятаў, каго частаваў, запрашаў за свой стол, каму наліваў і чым усё скончылася. Як бы там ні было, але ачомаўся селянін на беразе невялічкай рачулкі. Прыўзняў галаву і ажно застагнаў, так яна ў яго балела.

— Пахмяліцца б...

Ды хто яго мог пачуць у такую часіну ў такім глухім месцы? Ляжаў чалавек і спрабаваў прыгадаць, дзе знаходзіцца і якім чынам тут апынуўся. Пасоваўся туды-сюды і зноў задрамаў. Скрозь сон яму падалося, быццам побач нехта размаўляе. Прыслухаўся — і сапраўды, ад берага данёсся прыцішаны голас. Ліцвін папоўз у той бок. Бачыць, сядзіць... чорт і, пакручваючы доўгім, валасатым хвастом, кажа некаму:

— Вылазь, браце, і ты да мяне, ды тут пасядзім.

— Ат, нешта не хочацца.

— Не лянуйся, бо і так ужо смярдзіш тванню.

— Ёсць крыху.

— Не хочаш гэтай балаціны пакінуць?

— Прызвычаіўся да яе.

— Тут жа паветра свежае, кветкамі пахне...

— Ай, не хочацца ўсё роўна.

Той, што сядзеў на беразе, спінаю да чалавека, зноў падаў голас:

— Мне весела зараз.

— Чаму?

— А я як наведаюся да тае разваленае хаціны, дзе жывуць мае гаспадары, то мужык з жонкай адразу пачынаюць біцца. Лупцуюцца, здаецца, не на жыццё, а на смерць.

У Ліцвіна і сапраўды ўсё так было. Ён вельмі блага жыў з жонкай. Звычайна толькі прысунецца дамоў, а жонка пачуе, як стукнулі дзверы, то адразу ж выскоквае да яго біцца.

Пачуў вясковец такую гамонку і яшчэ болей сцішыўся, падалося, што зараз можа пачуць, як выратавацца ад такой бядоты. Але і нячысцікі змоўклі. Адзін зяхаў так, што здавалася, рот парвецца, а другі, як ні ў чым не бывала, корпаўся ў гразі. Ліцвін паварушыўся і сам сабе шапнуў: «Што ж вы прыціхлі?»

Тут нячысцікі нібы схамянуліся, і адзін крыкнуў другому:

— На, пратры вочы!

Сказаў так і кінуў нейкую бутэлечку з вады на бераг. Той, што сядзеў, схапіў яе, лінуў колькі кропель на лапу і старанна працёр вочы. Потым паклаў бутэлечку побач.

— Ну, як?

— Выдатна. Адразу ўсё лепей стаў бачыць.

— І ў мяне таксама ўсё ў парадку.

Тады Ліцвін вырашыў пакарыстацца той бутэлечкай. Незаўважна падпоўз да чорта, адкаркаваў яе і выліў сабе на руку. Але пакуль адпаўзаў назад, то паразліваў, і засталося пацерці толькі правае вока. Як толькі дакрануўся да твару, то ўсю п'янку нібы рукой зняло, а нячысцікі сталі бачныя як на далоні.

«Вось яно ў чым справа, — падумаў вясковец. — Цяпер я з жонкай болей не буду біцца. Гэта ж мяне чорт як пад руку штурхаў, і мы сабе месца не знаходзілі».

Неяк усё ж выкіраваў Ліцвін дахаты. Прыйшоў, стукнуў дзвярамі, і жонка паднялася. Але чалавек не стаў сварыцца, сеў на лаву і гаворыць:

— Давай, каханенькая, есці.

Тая з радасці ўзялася за місу і панесла да стала, ■ чорт ёй пад ногі. Жанчына гопнулася, ажно пырскі па хаце паляцелі. Сцішылася і чакае, што Ліцвін задасць ёй пытлю, але той спакойна прамовіў:

— Лягай спаць, ты стамілася. Я сам вазьму.

Жонка і вушам не паверыла, аднак хуценька шуснула за печ, дзе быў яе палок. Гаспадар сам паставіў есці,

перакусіў і сабраўся спаць. Устаў і, нібыта ні да каго не звяртаючыся, прамовіў:

— А ты чаго тут круцішся? — і аперазаў чорта качаргой раз, другі.

Чорт не чакаў гэтага, бо не ведаў, што гаспадар стаў яго бачыць, кінуўся ў кут, але і гэта не дапамагло.

— Што, патрапіў? Цяпер ты ў мяне атрымаеш! Будзеш ведаць, як з людзей здзекавацца!

Закрычаў чорт не сваім голасам, усіх у хаце перапужаў і ледзьве жывы неяк усё ж выдраўся праз акно.

Ліцвін зразумеў, ад чаго ўся злыбеда ў сям'і ішла, і кінуў піць. То і гаспадарка ў яго моцная стала, і жывёла вялася, і людзі болей не смяяліся ды пальцамі ў ягоны бок не паказвалі. Вось ад якога чалавека нашы Ліцвінавічы пайшлі.



# ЛЕЛЬЧЫЦЫ

Даўным-даўно гэтая гісторыя здарылася. Нават не памятаю і сама, колькі стагоддзяў прайшло-мінула, але памяць пра яе захоўваецца ў людскіх пакаленнях. Кожны пераказвае яе як прыклад вернага кахання, якое ўсё радзей і радзей сустракаецца на зямлі апошнім часам.

А было ўсё так. У адным мястэчку жыў каваль Пятрок, у яго падрастаў сынок — Сымонка. Там жа жыў і млынар Паўлюк, ■ ў Паўлюка дачушка расла — Паўлінка.

Пятрок быў адмысловым майстрам. Да яго людзі з усяго наваколля цягнуліся, каб замовіць якую рэч ці купіць ужо гатовую. Так і казалі:

— Лепей, чым Пятрок, ніхто не зробіць.

— Так, яго рэчы нават параўноўваць нельга з вырабамі іншых майстроў. Здаецца, з аднаго жалеза робяць, у адным вогнішчы паляць, а глядзі, як атрымліваецца.

— Ёсць у яго нешта адметнае... Адна рыса...

— Якая?

— Калі працуе, то душу сваю ўкладвае ў выраб. Таму ў яго любая рэч нібы спявае.

Каваль і сына свайго не адпускаў ад сябе, усё навучаў:

— Глядзі, Сымонка, пройдзе год-другі, пастарэю я, і табе давядзецца мяне замяніць.

— Калі трэба, то трэба, тата, — адказваў той па-даросламу.

— Запамятай назаўсёды, што любая справа не любіць паспешлівасці. У нас асабліва, бо адным ударам можна ўсё сапсаваць. Кожны ўдар, кожнае дзеянне павінны адпавядаць патрабаванням, ні больш ні менш.

Хлапчына рос здаровым і высокім. Маці гаварыла, калі глядзела на свайго першынца:

— Што бацька будзе.

Той усміхаўся і адказваў:

— А што ж тут, жонка, благога, калі сын на бацьку падобны?

— Нават кропелькі ўсе пазбіраў. Трэба ж, каб такім ужо нарадзіўся.

— Добра стараліся.

— Табе б толькі языком мянташыць, а хлапчына расце на вачах. Пройдзе пару гадоў, і пойдзе ад нас ствараць сваю сям'ю.

— Каб толькі ўсё добра ішло, то ў гэтым нічога благога няма. І нічога мы не зробім. Жыццё ідзе, і яно свайго ад усіх патрабуе: і ад маладых і старых, і ад багатых ды бедных. Як ты ні круціся, а яго не падманеш.

Хлапчына рос і ўжо здорава-такі дапамагаў бацьку ў кузні. Прасцейшыя вырабы гаспадар даўно дазваляў яму рабіць. Людзі гэта прыкмячалі і адзначалі:

— Добры майстар будзе.

— У бацьку і тут пайшоў.

— Пакуль што за складанае не бярэцца, але тое, што робіць, то не падкапаешся.

— І трымаецца, як сталы.

— Ага. Стараецца ва ўсім паходзіць на бацьку.

Задаволены быў гаспадар, што вяскоўцы з такога ўзросту хваляць сына. У якога ж бацькі пры гэтым сэрца не зашчыміць.

Час ляцеў непрыкметна. Прайшло яшчэ некалькі гадоў, і Сымонка стаў ужо дарослым хлопцам. Ды такім вырас асілкам, што нават родная матуля здзіўлялася:

— Нават бацька твой, здаецца, у маладосці такім не быў.

— Я ж...

— Не, нічога дрэннага. Проста дзіўлюся, які ты ў нас здаровы стаў.

А ён быў і на самай справе здаровы. Калі падкоўвалі коней, то людзям не трэба было іх трымаць ды яшчэ прывязваць. Гаспадар, пасміхваючыся, звычайна казаў:

— Няхай хіба Сымонка патрымае?

Калі вясковец не ведаў, хто гэта такі, то прамаўляў:

— Ну, калі сам управіцца...

— Зараз пабачым. Сымонка, сынок, хадзі сюды.

Толькі паказваўся ў дзвярах асілак, як усе прысутныя смяяліся:

— Гэты на адной руцэ коніка падыме, не толькі што ўтрымае.

І сапраўды. Сымон клаў магутную руку на шыю жывёліне, і тая рахмана стаяла побач, толькі вокам касавурыла на здаравяку, відаць, і сама здзіўлялася той сіле, якую адчувала побач. Каваль, зрабіўшы справу, казаў:

— Адпускай, сынок, няхай ідзе конік.

Шчаслівы гаспадар задаволена разводзіў рукамі:

— Вось дзякуй вам, майстры. І коніка падкавалі, і мне выжыльвацца не давялося, трымаючы яго. Вось дзякуй.

Аднаго разу, а справа была вясной, бацька і кажа сыну:

— Заўтра паедзем да балота. Руды трэба накапаць. Жалеза ў нас ужо канчаецца. Прывязём вазоў з пяць. Тут жа недалёка.

— Ведама што.

— Ад самага рання і падамося.

На другі дзень запрэглі каня, узялі лапаты і паехалі. А там і не балота, а прыгожы луг раскідваўся. Птаства ўсялякага было вялікае мноства. Здавалася, што ў кожнай купіне сядзіць нябачная птушыная сям'я і толькі і займаецца тым, што спявае-вызвоньвае. Едуць майстры і ўсміхаюцца ад задавальнення:

— Мы там куём-грукочам і не чуем сапраўдных песень, а тут вунь як жыве прырода, — заўважыў бацька.

— Наслухаемся, то да наступнага разу хопіць, — падтрымаў гаворку сын.

— Праедзем яшчэ крыху. Вунь у той бок, бліжэй да млына. Там руда багацейшая.

Распрэглі коніка і сталі працаваць. Неўзабаве сын запрапанаваў:

— Я тут застануся, буду накопваць, а з конікам і аднаму можна ўправіцца. Там жа толькі разгрузіць і застанецца? Завязеш і назад вернешся.

Бацька паехаў з канём, а Сымонка застаўся. Капае сабе паволі, услухоўваецца ў птушыныя спевы. Хораша яму на ўлонні прыроды. І тут хлапчыне падалося, што недзе побач загучала песня. Прыпыніў працу і прыслухаўся. І сапраўды, аднекуль неслася:

А ў татульні ў вароціках
Калінка стаіць.
На каліне, на маліне
Усё беленькі цвет.
Ніхто ж мяне, маладзенькую,
Замуж не бярэць...

Не ўтрымаўся Сымон, вылез з яміны і падаўся на голас. Расхінуў кустоўе і ажно знерухомеў: прама перад ім сядзела на купіне дзяўчына з залацістымі, доўгімі валасамі і з лугавых кветак віла сабе вянок. Віла і выводзіла словы старадаўняй песні, якія гэтак хараша і гучна несліся над лугам, над балотам, над кустоўем. Хлапчына стаяў і слухаў, не хацеў перабіваць незнаёмку, ■ калі яна скончыла спяваць ды глыбока ўздыхнула, тады і запытаўся:

— І чаму ж цябе замуж не бяруць?

Дзяўчына ўздрыганулася, хутка зірнула на Сымона і нібы адрэзала:

— Так жа і налякаць можна.

Асілак сумеўся:

— Прабач, я не падумаў.

Незнаёмка ўсміхнулася:

— Ты яшчэ і чырванець умееш?

— Ды... — сумеўся хлапчына.

А прыгажуня пачала распытваць:

— Ты хто?

— Сымон.

— Сымон, — перадражніла незнаёмка. — Я пытаюся, адкуль ты ды чый? — і засмяялася.

Здаравіла страсянуў плячыма, але чамусьці не зазлаваў, ■ таксама стаў смяяцца разам з прыгажуняй.

— Дык скажаш ты мне, Сымон, адкуль ты ды чый?

— Цяпер скажу. Бо супакоіўся ўжо і не хвалююся.

— А спачатку што, трэсла?

— Ага, — шчыра прызнаўся ён.

— Такі здаравіла і злякаўся?

— Ды не, не спужаўся, а разгубіўся.

— І чаго ж ты разгубіўся?

— Бо цябе ўбачыў, — выпаліў хлапчына.

У адказ прыгажуня ўсміхнулася:

— Што, спадабалася ■ табе?

— Яшчэ як.

— Вось за гэта дзякуй.

— Не смейся, я шчыра сказаў, — прызнаўся Сымон.

— Бачыш ты на яго, першы раз дзяўчыну ўбачыў, і яна яму так спадабалася, што ажно спалохаўся. Дык чый ты?

— Кавалёў сын. Сымон.

— Цяпер скажу і я, што чула не раз і не два тваё імя. Хваляць цябе.

Асілак перавёў гаворку на іншае.

— А як цябе завуць?

— Паўлінка. Бацька мой млынар.

— Ведаю, дзе млын, але не быў там, бо ўсё праца ды праца. Цяпер, спадзяюся...

— Што?

— Ды так, — ухіліўся Сымон.

— Мне час ісці, бо тата будзе хваляваца, — прамовіла прыгажуня.

— Слухай, Паўлінка, [redacted] ты заўтра на гэтае месца прыйдзеш?

— Навошта?

— Пабачыцца хочацца.

— Бачыш, чаго захацеў? — сказала і ўскочыла на ногі. — Пабягу.

— Прыйдзеш?

— Не ведаю. Як тата пусціць...

Дзяўчына засмяялася і пабегла, а хлапчына пасунуўся да яміны, дзе яго ўжо чакаў бацька.

Сымон не мог дачакацца наступнага дня. Усё пазіраў на сонца, круціўся, часта выскокваў на падворак.

— Ці не захварэў, сынку? — трывожна запытаўся бацька.

— Ды не.

— А што ж так разбегаўся?

— Ды...

— То ідзі адпачні?

— Я лепей пад полудзень схаджу на балота, тых птушак, учарашніх, паслухаю.

— Схадзі, [redacted] і адзін упраўлюся, працы сёння не многа.

Нібы на крылах ляцеў на луг Сымон, толькі кустоўе трашчала ды птушкі ў розныя бакі разляталіся, бо не выбіраў асілак дарогі, лупіў напрасткі.

Дзяўчына сядзела на той жа купіне, што і ўчора. На гэты раз яна не жартавала з Сымона, і яны пагутарылі сур'ёзна.

Так, раз за разам сустракаючыся, пакахаліся хлопец з дзяўчынай. Неўзабаве каваль даведаўся, куды штодня знікае сын, і запытаўся:

— Сымон, то хутка нас ужо пакінеш?

— Чаго гэта, тата?

— Сваю сям'ю будзеш будаваць.

— Буду, але ад вас не адмоўлюся.

— Дзякуй, сынку, за добрае слова.

Але атрымалася так, што калі каваль з жонкай былі не супраць таго, каб іхні сын жаніўся на Паўлінцы, то мельнік такога і чуць не жадаў:

— Яны ж супраць мяне галадранцы!

— Нам, татачка, багацце тое не трэба. Мы самі нажывём, — пярэчыла дачка.

— Аддам цябе толькі за пана. Простаму мужыку не дастанешся. Толькі вяльможнаму чалавеку.

— Але ж [illegible] мужычка.

— Ты прыгожая і багатая, а за гэта можна ўсё купіць!

Як ні прасіла Паўлінка бацьку, як ні маліла, не паслухаў ён яе і сказаў аднаму памешчыку, што аддасць дачку за яго. Прыбегла дзяўчына да каханага і кажа:

— Пайшлі хутчэй.

Той устрывожыўся, а як пачуў навіну, то і ўвогуле галаву апусціў. Дзяўчына, праўда, падбадзёрыла:

— Я ведаю, што рабіць. Толькі калі ты пагодзішся...

— Я згодны.

Павяла Паўліна хлапчыну да знахара, які жыў у лесе, і пачала прасіць, каб той дапамог. Стары ўважліва выслухаў і сказаў:

— Адзінае, чым магу дапамагчы, — гэта ператварыць вас у птушак... У лелькаў...

— А хто гэта? — не зразумелі закаханыя.

— Па-нашаму, па-ўкраінскаму, гэта буслы...

— Добра, нічога, што ў птушак, затое заўсёды разам будзем.

Так іх той чараўнік і ператварыў у лелькаў. Сталі яны жыць у гняздзе на высокай бярозе. Кожную вясну прыляталі, [illegible] ўвосень адляталі. Людзі, заўважыўшы іх, крычалі:

— Лелькі прыляцелі!

Даўно гэта было. Бярозы той і знаку не засталося, закаханыя памерлі, а памяць засталася. Памяць ды назва, якая на паселішча пазнейшае перайшла, — Лельчыцы.

## АСТРОЖАНКА

Жыў некалі багаты князь, і прозвішча ягонае было Астрожскі. Зямлі ўрадлівай меў багата, і ўсё на той зямельцы расло, нібы на дражджах, нават паліваць ды ўгнойваць

надта не трэба было. Таму людзі ўцякалі ад сваіх гаспадароў і прасіліся да Астрожскага:

— Дазвольце на вашых землях жыць?

— Чаму менавіта на маіх?

— Я тут недалёка жыў, дык суседзі падказалі, што вашы людзі намнога лепей і вальней за нас жывуць, што не толькі на вас, але і на сябе маюць магчымасць працаваць.

— Гэта так.

— То дазвольце і нам?

— А чым вы займацца ўмееце?

— Чым загадаеце, тым і будзем займацца.

— То добра, ідзіце да майго аканома, няхай ён вас прызначыць на месца жыхарства.

— Вось дзякуй, княжа, мы на цябе адпрацуем.

— Старайцеся, каб не давялося вас потым прэч гнаць.

— Не, такога не будзе — гарантуем.

Астрожскі быў неблагім чалавекам па натуры. Другі ганарыўся б тым, што багаты ды вяльможны, а гэты — не. Здаралася, вып'е з сябрукамі добра, а потым кіне іх, ускочыць на каня і паімчыць у начную цемру. Прыб'ецца на выгане да хлапчукоў, якія коней у начное пагналі, і гуляе з імі, як з роўнымі, у дзіцячыя гульні ці казкі распавядае. А потым і заснуць усе разам, тулячыся адно да аднаго, каб не падмерзнуць ад ранішняй прахалоды.

Слугі з ног збіваліся, шукаючы валадара, а знайшоўшы, кідаліся катурхаць яго, крычалі. Той, вочы прадраўшы, найперш шыкаў на іх, каб сцішыліся, не будзілі дзяцей, а потым загадваў даць кожнаму хлопчыку па залатоўцы.

Аднаго разу панаязджала да Астрожскага мноства гасцей. Справа была ўвосень, якраз той залатой парой, калі лясы ўпрыгожваліся рознакаляровым дываном лістоты. Гулялі цэлы тыдзень, колькі жадалі, столькі і пілі. Гаспадар толькі пакрыкваў на слуг:

— Весялей, весялей бегайце! Не дровы на плячах цягаеце! Не надта стоміцеся!

— Баімся, княжа, каб не пасклізнуцца ці на каго з гасцей не наторкнуцца. Упадзём і паразбіваем, шкада ж.

— Гэтага дабра не шкадуйце! Няхай не думаюць, што ў мяне ўсё выпіць могуць!

Слугі і пачыналі бегаць так, быццам за кожным з іх насілася сама меней па дзесяць нячысцікаў.

Раніцай госці ледзьве галовы ад перапою падымалі, а гаспадар ужо гукаў:

— За стол гасцей, за стол клічце!

Яны б і радыя дзе адаспацца, але супраць волі князя не папрэш. Таму і цягнуліся за сталы. Калі каторы не здужваў ужо, то яму дапамагалі слугі, і пры гэтым не надта шанавалі панскія бакі, добра-такі лупілі спадцішка.

Перападала панам за фанабэрыстасць, а Астрожскі толькі пазіраў і пасміхваўся, прымаўляючы:

— Не надта ўжо лупцуйце, бо гэтаму і ўчора добра перапала.

Потым надакучыла так цешыцца Астрожскаму. Падумаў ён і загадаў:

— Няхай паны адаспяцца, і паедзем заўтра на паляванне!

— Ура! На паляванне! — загарлалі тыя, якія здольны былі крычаць.

— Паедзем, паедзем, — чулася ўсё цішэй і цішэй, бо госці імгненна заснулі.

Уранні сабраўся гаспадар, і слугі пачалі закідваць у падводы гасцей. Кідалі, як кулі з бульбай, і жартавалі:

— Каб не наклалі папярэдне саломы, то адчувальна было б!

— Гэтага хоць аб камяні кідай, яму ўсё роўна, бо таўшчэразны, што тая бочка!

Выехалі ў пушчу, там Астрожскі з гайдукамі пастраляў, ды і ўсё на гэтым, бо госці не здолелі нават рукі ўзняць. Ляжалі покатам і толькі прасіліся:

— Не чапайце нас болей, бо жывымі дамоў не прывезяце!

Спаць засталіся ў лесе — так Астрожскі загадаў. Ноччу князю прысніўся дзіўны сон: быццам бы прама на той паляне, дзе буданы паставілі, узнік нейкі вялізны белы слуп. Прадраў вяльможны раніцай вочы, падумаў і сказаў слугам:

— Укапайце тут, на гэтым самым месцы, слуп, і няхай сюды нашы людзі ідуць жыць! Так загадваю!

Вось там якраз і ўзнікла наша Астрожанка, ад таго панскага загаду і ягонага прозвішча.

## ГЛУШКАВІЧЫ

У нас некалі дзядзька адзін жыў. Працавіты быў, але любіў надта пагаварыць. Дзе ні сядзе, то рот у яго не закрываецца. Здавалася б, пра што яму, дарослаbooму чалавеку, можна гаманіць з дзецьмі? Аж не, як з імі сядзе, то ўсё

роўна ляпоча, і тыя рагочуць узаляжку. Звалі таго дзядзьку Глушко. Не ад таго, што быў слабы на вушы, а ад таго, што калі да яго звярталіся і перабівалі на нейкім цікавым моманце, дык ён рабіў выгляд, быццам недачувае таго крыку. Так і мянушку дзіўную атрымаў. Пра яго вяскоўцы звычайна казалі:

— Каб спаць не трэба было, то гаварыў бы, відаць, суткі запар.

— Болей пацягнуў бы, мала вы яму далі.

— І пра што можна распавядаць столькі часу?

— У яго ж неяк знаходзіцца.

— Галоўнае, і гаспадар не благі.

— Спраўны, заможны, усюды паспявае.

Вось такім чалавекам быў той дзядзька. А аднаго разу ён так праславіўся, што да гэтага часу тое здарэнне людзі памятаюць. Атрымалася так. Пайшоў касіць Глушко. Далекавата ад хаты забраўся, вёрст за дзесяць. Пакуль туды затэпаў, то і прытаміўся. Але ўзяўся махаць касой, шчыраваць, бо трэба ж было нешта і зрабіць управіцца. А па тым лузе паўсюдна кустоўе густое расло, і траву даводзілася касіць не на роўным месцы, а выбіраць паміж лазняку ды асінніку маладога. Калі потная сарочка стала да цела прыліпаць, то вырашыў адпачыць і пасядзець крыху ў цяньку. Сеў, прыплюшчыў вочы і, ведама ж, гаварыць пачаў: «Пакуль я, стомлены, назад зацягнуся, то лепей тут на ноч застануся. Цёпла, дажджу сёння не будзе, адно што камароў мора. Дык я цяпельца ўзгадую, гнілякоў накідаю, і ўсё ў парадку, дымам гэтую брыдоту крыху паразганяе. А ночы тае — і пару гадзін не будзе. Вось толькі прыпасці ды дух перавесці. Потым дома адасплюся. Пакасіць трэба, бо іншыя могуць выкасіць ці надвор'е дрэннае ўваб'ецца. Тады шкада будзе, што такую магчымасць упусціў».

Слушна разважаў Глушко, бо нездарма ж пра яго казалі, што ён, апрача ўсяго, і добры гаспадар. Справу сялянскую выдатна ведаў і адпаведна вёў яе.

Накасіўся ўволю вясковец. Гэтулькі наварочаў, што задаволена прамаўляў:

— Калі і заўтра столькі ж паспею, то на карову сена будзе.

Узгадаваў цяпельца, дастаў з торбы акраец хлеба, які спецыяльна пакінуў з полудня, разламаў яго на дзве палавіны (і пра заўтрашні дзень думаў) і стаў жаваць. Паеў, падкінуў гнілых карчоў у вогнішча і, расцягнуўшыся на свежай траве, накрыўшыся світкай, каб не так даймалі камары, салад-

ка заснуў. Спіць, і сніцца яму незвычайны сон, быццам бы яго за ногі нехта спрабуе ў вогнішча ўцягнуць. Прахапіўся, але не торгнуўся, не расплюшчыў вочы, а стаў услухоўвацца. І сапраўды — нехта поруч папіскваў. Тады ціхенька адплюшчыў адно вока і бачыць — сядзіць за нейкі крок ад яго... нячысцік. Мала таго, што сядзіць, дык яшчэ гнілякі ў агонь падкідвае. Ад старэйшых Глушко ведаў, што чарцей, асабліва калі іх нямнога, няма чаго баяцца. Таму пацягнуўся і рыўком сеў. Нячысцік хацеў ужо ўцякаць, але чалавек спыніў яго:

— Не бойся, не стану я цябе крыўдзіць. Сядзі, то і мне весялей будзе. А то сумна аднаму на лузе ноччу...

— Яшчэ б, — азваўся чорт. — Так хочацца часам з кім пагаманіць, што хоць воўкам вый.

Як пачалі яны тут гаварыць, то гаворка тая ў іх пацякла, што вада з рэшата. І не заўважылі, як добрую гадзіну пралапаталі. І тут неяк зачапіліся за адно пытанне — хто з іх разумнейшы ды хітрэйшы. Доўга спрачаліся. Нячысцік ніяк не мог пераспрачаць Глушка. Надакучыла яму гэта страшэнна, і ён заявіў:

— Добра, пераспорыў ты мяне. Калі ўжо так, то давай праверым, чыя ўзяла?

— Як?

— Кожны прывядзе свайго сведку.

— Дык што той сведка стане сведчыць?

— Самае галоўнае — хто з нас спрэчку выйграў. Але дамова — бяром толькі па адным сведку.

— Згода.

— То сустрэнемся наступнай ноччу на тутэйшых могілках.

— Добра. А на што ж спрачацца будзем?

— Значыцца, так. Я прапаную мяшок золата. Калі дакажаш, што ты разумнейшы, то і атрымаеш яго, а не, дык не крыўдуй, дастанецца табе толькі дуля, ды і тая без маку.

— Што ўжо зробіш, калі такая справа. Дамовіліся.

— Тады да сустрэчы?

— Ага, да спаткання. Ідзі сабе, хавайся, а мне касіць час прыспеў.

Цяжкавата Глушку давялося. Амаль не паспаў, але працаваў, тым не меней, зацята. Махаў касой, абліваўся потам, а з галавы думка не выходзіла — як нячысціка перахітрыць. Мяшок золата — гэта ж вам не жартачкі. Потым усміхнуўся і прамовіў:

— Ну, здаецца, ты ў мяне даскачашся.

Прайшоў яшчэ з паўпакоса і зноў сказаў:

— Такога твая нячыстая душа і не чакае.

Пакуль дайшоў дахаты, то ўжо вечар апускаўся. Жонка ўсе вочы прагледзела ды перадумала рознае, а ён толькі на падворак усунуўся і адразу загадаў:

— Жоначка, давай з седала нашага пеўня і пакладзі яго ў мех. А я зараз трыху перакушу і пасплю. Пабудзіш мяне пасля таго, як пеўні другі раз праспяваюць. Глядзі, не заспі.

Так і зрабілі. Пеўні другі раз прагарлалі, а Глушко толькі з хаціны выбраўся, ды яшчэ і пасмейваўся:

— Нічога, пачакаеш.

Ішоў паволі, спыняўся, нібы некага чакаў. Ля старога збуцвелага крыжа сустрэліся. Чорт, ужо раззлаваны, запытаўся:

— Чаго цябе так доўга не было?

— Позна з луга прысунуўся.

— Ну, дык хто разумнейшы?

— Я, — спакойна адказаў Глушко.

— Ты?

— Ага.

— Чаму?

— Зараз даведаешся.

Толькі сказаў, як залопаў у мяшку крыламі певень і запяяў. А пасля трэцяга яго спеву ўсе нячысцікі знікаюць. Чорта як рукой змяло, застаўся толькі мех з золатам. Забраў яго чалавек, ледзьве дамоў зацягнуў. Так і зажыў, яшчэ лепей, чым да гэтага, бо золата таго і нашчадкам хапіла. Ад Глушка і Глушкавічы нашы пайшлі.

## ДАНІЛЕВІЧЫ

Жыў некалі тут, на хутары, адзін гаспадар. Заможны, багаты, што той пан, ды і не кожны памешчык мог з ім пацягацца. Звалі яго Сцяпанам. Урадзіўся, відаць, такім сквапным ды злым, што ніхто з ім не мог ужыцца, і ўжо жонка не раз, не два яму гаварыла:

— Ты так не дзяры скуру з людзей.

— Кінь, дурніца, што ты разумееш у гэтых справах?

— Людзі праходу не даюць. З нашымі дзецьмі іхнія гуляцца не хочуць.

— Нашы цалейшыя ды разумнейшыя будуць. Што яны могуць ад той галыцьбы пераняць?

— Сорамна ж, Сцяпане.

— Маўчы, бо як трэсну ў каршэнь, то мала не падасца!

Дажыўся гаспадар да таго, што сам не мог ужо апрацаваць усю зямлю, якую скупіў за бясцэнак, а ў парабкі да яго ніхто не наймаўся.

Задумаўся Сцяпан, як далей быць. Калі так працягнецца год-другі, то гаспадарка ў заняпад прыйдзе. Сам жа не вечны, а на дзяцей спадзяванняў не было. Нікому не даўяраў.

— Цяжка, цяжка мне давядзецца, — самому сабе жаліўся.

Ужо і на дарогу паглядваў, высочваючы, ці не ідзе там які незнаёмец, але нікога не было. Людзі ведалі, які злыдзень там жыве, то і падарожных папярэджвалі, каб не ўздумалі шукаць там шчасця-долі.

Цяпер гаспадар амаль зусім не размаўляў спакойна з роднымі, усё гарлаў на іх, злосць спаганяючы, шукаючы розныя зачэпкі, каб выліць на іх накіпелы гнеў. Дзеці азвацца баяліся, а гаспадыня часам не вытрымлівала і сурова пыталася:

— Што, зусім ужо ваўком стаў?

— Ды...

— То вазьмі ды жывымі нас заглыні, калі ў цябе паіншаму не атрымліваецца.

Дзіўна, але Сцяпан не кідаўся біцца.

Аднаго разу ў дзверы пачуўся стук.

— Хто там? — запытаўся гаспадар.

— Я. Падарожны.

— То заходзь.

Парог пераступіў малады хлапчына. Здаровы, высокі, прыгожы.

— Добры дзень вам, людзі добрыя.

— І табе добры, — паспяшалася адказаць гаспадыня, не спадзеючыся на тое, што Сцяпан па-добраму будзе размаўляць з чалавекам.

— Ну? — нацэліў на яго вочы гаспадар.

— Працу шукаю.

— То цябе нам сам Усявышні паслаў!

— Чаму?

— Ды ў нас многа працы. Чакаем, што хто прыйдзе наймацца, ды не ідуць. І заплацілі б добра, і карміліб нармальна, і калі работнік будзе працавіты, то і накінулі б да платы, — пачаў рассыпацца Сцяпан.

Хлапчына адразу азваўся:

— Во, а мне людзі такога ўжо на вас нагаварылі...

— Ды не слухай ты іх. Зайздросцяць і не даюць нам спакойна працаваць.

— То на працу да вас можна наняцца?
— Ведама ж.
— А плата будзе добрая?
— Самая лепшая.
— Тады я згодны.
— А як жа цябе завуць?
— Даніла, гаспадар.
— Тады скажы мне, Даніла, калі ты хочаш, каб я з табой за працу разлічыўся?
— Ды на свята, якое ўвосень звычайна бывае.
— Што за свята такое?
— Казінае.
— Казінае?..

Сцяпан болей не стаў перапытваць, каб будучы работнік не перадумаў, бо тады ж аднаму ўсё рабіць давядзецца. Пагадзіўся чалавек з парабкам, сказаў, што ўсё выканае менавіта ў тое, мала зразумелае для яго, казінае свята.

На другі дзень сталі яны працаваць. Сцяпан стараўся паказаць, што не дасць чалавеку і хвіліны адпачыць, але Даніла на гэта ўвагі не звяртаў — спяваў сабе, за плугам ходзячы, быццам і стома яго не брала, а вечарам яшчэ і заявіў:
— Я, гаспадар, да дзяўчат схаджу.
— Адпачыў бы лепей, — ледзьве здолеў вымавіць той і адразу ж магутна захроп.

Даніла пайшоў да дзяўчат. Па дарозе яму падалося, што ў старым гумне нехта гамоніць і смяецца. Падкраўся да сцяны, прыслухаўся — і сапраўды. Ён тады ў дзірачку зазірнуў і аслупянеў: ягоная гаспадыня з нейкім мужчынам у чым маці нарадзіла на пасцілцы качалася. Пайшоў хлапчына дамоў, не стаў ужо тых і дзяўчат шукаць.

На наступны дзень касіць пайшлі. Шчыра адмахалі да полудня, прыселі есці. Як дастаў з торбы полудзень Сцяпан, то работнік не стрымаўся і прысвіснуў:
— Цябе, гаспадар, жонка не надта шануе.
— Чаму?
— Я табе на казінае свята пакажу, чаму.

А што ж там есці здаровым мужчынам, якія так цяжка з дня ў дзень працуюць? Пару салёных, разлезлых агуркоў ды падмочаны хлеб. Сцяпан заўвагу гэтую ўспрыняў балюча, ён і сам разумеў, што есці трэба лепей, бо ўжо за парабкам не паспявае, а праз тыдзень і ўвогуле прытоміцца.

Цяпер калі ішлі ці ехалі куды на працу, то Сцяпан сам есці ў торбу клаў, не давяраў жонцы. І парабку, ведама ж, намнога лепшае перападала.

— Нічога сабе, але на казінае свята, гаспадар, пераканаешся, што моцна дураць цябе.

— Пабачым, — адказваў Сцяпан. Ён не мог дачакацца таго часу, калі Даніла распавядзе пра ўсё.

Нарэшце надышоў доўгачаканы момант. Даніла шапнуў:

— Сёння, як добра звечарэе, пойдзем на казінае свята.

Прыйшлі дамоў, перакусілі і прыкінуліся, што спяць. А праз колькі часу павёў хлапчына свайго гаспадара да старога гумна. Смела адчыніў дзверы, і Сцяпан на ўласныя вочы ўбачыў, што там рабілася. Як ухапіў селянін дубовы кій, ды як стаў хвастаць-лупцаваць палюбоўнікаў, то такія стагненне ды крыкі несліся па наваколлі, што ўсе думалі, нібыта там нячысцікі вяселле спраўляюць.

Заплаціў Сцяпан Данілу ўсё да капейкі. Упершыню ў жыцці так зрабіў ды яшчэ і шчыра дзякаваў работніку, запрашаў і надалей да яго прыходзіць. Хлапчына за тыя грошы сабе зямлі купіў і хату паставіў, якраз там, дзе сёння нашы Данілевічы.

## ЗАМОШША

Калісьці на месцы нашай вёскі, ды не толькі нашай, але і многіх навакольных таксама, было мора. Ніхто ўжо не памятае, як яго называлі людзі, але вось такая пагудка да гэтага часу ідзе.

Плавалі па ім караблі — драўляныя, вялізныя, на два ды на тры паверхі. Такія, што ў іх адразу маглі жыхары з некалькіх паселішчаў разам са сваім скарбам-нажыткам сесці і адплыць. Насілі іх хвалі, пакалыхваючы, люляючы, і што самае галоўнае — людзі амаль не тапіліся. Хто ж яго ведае, ад чаго так здаралася, але калі нейкі небарака і выпадаў часам з чоўна ці таго ж самага карабля, то яго выносіла на бераг нейкая невядомая сіла. Здавалася, што нехта падтрымліваў бедалагу пад вадой, падштурхоўваючы яго. Некаторыя нават казалі, што бачылі гэтых істот, якія дапамагалі тапельцам, што гэта былі не людзі, а... рыбы, вельмі падобныя на здаравенных самоў, якіх тады вялікае мноства вадзілася ва ўсіх тутэйшых вадаёмах і, ведама ж, у моры таксама.

А аднаго разу здарыўся выпадак, які паказаў, што і на самай справе ўсе гэтыя размовы мелі пад сабой рэальную аснову. Вядомы ва ўсім наваколлі рыбак, сабраўшы сваіх

сяброў і сыноў, адправіўся на мора рыбу лавіць. Ці ж першы раз выпадала яму такое? Канешне ж, не. Колькі разоў плаваў пад парусамі, прывозіў гэтулькі рыбы, што хапала на ўсіх. Таму асабліва не перажываў, калі заўважылі на гарызонце невялікую хмарку.

— А, няма чаго баяцца, хлопцы.

— Каб буры якой не было?! — неспадзявана ляпнуў самы маладзейшы з рыбакоў.

— Ты што гэта?

— Я нічога, проста сказаў.

— Дык думай, што гаворыш, — сярдзіта асек яго стары рыбак. — Я вунь колькі гадоў рыбачу, а ніколі буры ці навальніцы на моры не памятаю.

— Але ж...

— Цягні лепей невад ды памаўчы, няхай старэйшыя ды разумнейшыя за цябе пагамоняць, — падтрымаў нехта старога.

Малады ўхапіўся за вяроўку, напружыўся, але ўсё ж азірнуўся на тую невялічкую пакуль што хмарку са страхам у вачах. Відаць, адчувала нешта сэрца хлапчыны.

Рыбакі налавілі шмат рыбы і ўжо пачалі збірацца плыць дамоў. Некаторыя паставілі парусы і, адпачываючы, зацягнулі вясёлую песню, быццам бы падводзячы яе словамі вынікі шчодрага дня. Не спяваў толькі маладзён, якога так груба пакрыўдзілі. Стары рыбак сядзеў, пакурваў люлечку і хітравата ўсміхаўся:

— Вось бачыце? Адзін дзень пашчыравалі, а як добра атрымалася. А каб два дні запар палавілі?

— Рыбу не будзе куды складваць. Засмярдзіць.

— Не засмярдзіць, давядзём да ладу. Жанчыны нашы ды дзеці ведаюць, што трэба для гэтага зрабіць.

— І то праўда, яны парадак навядуць. Быў бы толькі ўлоў.

— Ведайце, з кім плаваеце, — фанабэрыста заўважыў галоўны.

— Яно-то так, — пагадзіліся астатнія. — Абы з кім паплывеш, то можаш з пустымі рукамі вярнуцца.

— Яшчэ б... Не ведаюць, дзе лавіць, як туды дабрацца.

— За надвор'ем не сочаць, — і стары красамоўна зірнуў на маладога рыбака, які самотна сядзеў ля борта чоўна і ўсё пазіраў туды, дзе першы раз убачыў хмарку.

— А, такія абы-чаго нагавораць.

— Нічога, паболей пажывуць, то і яны разумнейшымі стануць.

— Ага, усе мы, за рэдкім хіба-што выключэннем, такімі ж нецярплівымі ды дурнымі былі.

— Нездарма ж людзі кажуць — хто не быў маладым, той не быў і дурным.

— Нічога, яму навука добрая, болей не будзе выторквацца там, дзе не трэба.

Людзі прыціхлі, некаторыя нават задрамалі. Стары рыбак,дык той увогуле хроп так, што, здавалася, рабіў гэта з адной толькі мэтай — каб яго пачулі на беразе. Вяскоўцы пераміргваліся паміж сабой, але ніхто не асмельваўся парушыць пакой іхняга галоўнага. І тут пачулася трывожнае:

— Глядзіце...

Гаварыў той самы маладзён.

— Што?

— Хмара.

Усе павярнулі галовы туды і ажно спалохаліся: чорная, груваcткая, нібы крумкачова крыло, хмара напаўзала прама на іх.

— Трэба будзіць старога.

— Вецер узняўся, хвалі вунь якія пайшлі. Быць бядзе.

Калі галоўнага штурханулі ў плячук, то ён, нават вочы не адплюшчыўшы, прамармытаў соладка:

— Ну, што яшчэ?

— Хмара... Бура пачынаецца...

Але стары толькі мовіў у адказ:

— Няма тут ніякага чорта...

Як толькі ён сказаў гэтае слова, прыгадаўшы чорта, то загуло навокал, завішчэла, хвалі ўзняліся высачэнныя і пачалі заліваць чаўны. Людзі прасілі Бога дапамагчы, але... праз пару хвілін усё было скончана — на вадзе не было ніводнага чалавека. Бура тая шумела-гнявілася, можа, цэлыя суткі, а калі скончылася, то людзі знайшлі на беразе аднаго толькі небараку-рыбака, таго самага — маладога. Калі яго адкачалі, то ён і распавёў пра ўсё, што адбылося, ды яшчэ дадаў:

— Сом мяне выштурхнуў... Мяне сом выратаваў...

— Сом?

— Ага.

Пасля таго людзі баяліся ўжо далёка адплываць ад берага ў тое мора, каб не здарылася і з імі чаго ліхога. А потым і мора тое прапала. Здарылася гэта так. Ішла Божая Маці і несла дзіця-немаўля, а тут хваля як шухнула — і панесла яго. Так і не выратавалася дзіця. Дык Божая Маці пракляла мора і сказала, каб яно балотам, пparticip

імхамі, стала. Так і зрабілася. Пазней сталі людзі вёскі будаваць. Нашу паставілі якраз за тым балотам-імхом, дык і назва да яе адпаведная прыліпла — Замошша.

## МАНЬЧЫЦЫ

Аднойчы селянін, едучы з базару, запозніўся. Мароз быў люты, ноч глыбокая на двары стаяла, а дамоў яшчэ далекавата было дабірацца. Каб дзе роўным шляхам, то джгаў бы і ні пра што не думаў, а яму ж выпадала лясной дарогай ехаць. Яно — таксама нічога, ды тады Пілiпаўка нядаўна прайшла. Гэтае свята ў народзе нездарма воўчым называюць, бо шныраць паўсюдна галодныя і злыя звяры, дзе ні з'явішся, то на іх натрапіш. Гаспадар быў чалавекам спрактыкаваным, таму вырашыў не выпрабоўваць лёс, не гнявіць Бога, а пераначаваць у каго-небудзь па дарозе. У тыя часы быў такі закон — калі ў хату папрасіўся падарожны, то яму нельга адмовіць. Адмовіш — не пабачыш болей шчасця, як рукой здыме ўсё заможнае. Кожны вясковец імкнуўся выконваць волю продкаў. Яны ж не дурныя былі і ведалі, што рабілі.

Вяскоўца таго звалі Сямёнам. Памахвае ён пужкай, коніка свайго паганяе, [redacted] сам не ляжыць у санях, [redacted] стаіць на каленках і трымае ў правай руцэ сваю вострую сякеркунеразлучніцу, якая не раз у вельмі складаных становішчах выручала. Паглядвае па баках, каб нідзе яркія агеньчыкі воўчых вачэй не засвяціліся, і гамоніць, да коніка нібыта звяртаючыся:

— Зараз, зараз, недзе тут хутар быў... Я ж добра памятаю...

Жывёліна таксама перажывае, не спяшаецца, як заўсёды, а ўсё фыркае ды нерашуча ступае, нібы якую бяду прадчувае. Тым часам зусім блізка раздаўся сабачы брэх. Сямён весела крыкнуў:

— Вось і на хутар выбіліся.

Памаўчаў, а потым дадаў:

— Во, і агеньчык у акне ўжо бачны.

Пад'ехаў бліжэй да падворка, прывязаў коніка на двары і да хаціны падаўся. А дом там стаяў здаравенны, вялізны. Прысвіснуў чалавек:

— На багатага гаспадара выбіўся, такі не надта мяне чакае.

Як там ні хочаш, але прасіцца трэба, бо жыццё дара-

жэй. Памуляўся крыху і нясмела пагрукаў у дзверы. Спачатку панавала цішыня. Пастукаў смялей, і тады данеслася:

— Каго там нячысцікі прыпёрлі?

— То я.

— Хто ты?

— Сямён.

— Які яшчэ Сямён?

— Звычайны чалавек.

— Чаго цябе па двары носіць? Звычайныя людзі дома даўно спяць і іншым даюць такую магчымасць.

— Я з дарогі.

— А мне што да гэтага?

— Пусці, гаспадар, пераначаваць.

— Едзь лепей дамоў.

— Не магу.

— Чаму гэта?

— Дарога лесам далей ідзе, а там ваўкі лютуюць. Не хочацца самому ім у пашчу лезці.

— Мне якая справа?

— Пусці, гаспадар, пагрэцца. З кірмашу я дабіраюся.

— Во, ён сабе і выпіў добра, і дамоў не спяшаўся, а калі прыціснула, то мяне раскатурхаў.

Сямён ужо збіраўся назад паварочваць ды ўсю ноч сядзець на падворку, каб коніка пільнаваць і самому неяк выкручвацца ды не замёрзнуць, але ў гэты момант рыпнулі дзверы і нехта прагуў:

— То заходзь ужо, што з табой зробіш.

— Вось дзякую, гаспадарыку.

— Дзякаваць потым будзеш, а зараз няма за што.

— Як няма? А за прытулак?

— Ну, гэта не вялікі падарунак.

— У такую ноч — вялікі.

— Трэба ж людзям дапамагаць, — сярдзіта прамовіў гаспадар, нібыта зараз жа збіраўся выгнаць незнаёмага чалавека прэч.

Сямён адчуваў неласкавасць у голасе, але выгляду не падаваў і ў гаворку ўступаць не жадаў.

— Прабач, падарожны, але есці ў мяне нічога няма.

— Ды я не галодны.

— Спаць тут можна. Нічога, што крышачку прахалода, — дровы ашчаджаю, але не замерзнеш. Цябе раніцай падняць ці сам устанеш?

— Я ж вясковы, як і гаспадар, таму будзіць мяне не трэба, вочы самі раніцою адплюшчваюцца.

— Тады добра, тады спі сабе.

Гаспадар, за нешта зачапіўшыся і добра гупнуўшыся галавой у сцяну, яшчэ доўга слаў некаму праклёны, але Сямён да гэтага не прыслухоўваўся, брыкнуўся на палок і імгненна заснуў. Прачнуўся праз пару гадзін ад думкі, якая нібы кальнула яго, — коніку то і сена на ноч не падкінуў. Усхапіўся, выйшаў у двор і падаўся да таго месца, дзе коніка прывязаў. Падышоў, а... каня няма. Ён туды, ён сюды — няма. Разгубіўся чалавек, а потым зразумеў, што гэта сквапны гаспадар хоча яго падмануць і раніцай спаслацца на зладзеяў. Падумаў, падумаў, усміхнуўся і кажа сам сабе: «Нічога, і я табе зраблю, калі ты мяне так перахітрыць уздумаў».

Увайшоў у хату, а гаспадар пытаецца:

— Што гэта табе не спіцца?

— Хацеў каня пакарміць. Выйшаў, ■ яго нідзе няма. Я ж не п'яны быў і добра яго прывязаў на падворку. Адвязацца ён не мог.

— Не ведаю, дзе ён. Я ж таксама спаў.

— А я табе нічога і не кажу. Проста я зраблю тое, што мой бацька заўсёды ў такіх выпадках рабіў.

— А што?

— Заўтра скажу.

Лёг Сямён і з адчаю не ведае, што рабіць. А калі і праўда зладзеі коніка ўкралі? Што тады? Круціцца, не спіцца яму, хутчэй бы раніца настала. Спадзяваўся ўсё ж, што акрамя гаспадара такога ніхто іншы зрабіць не мог.

Гаспадар таксама ляжаў за перагародкай і не дыхаў. Думаў, як выкручвацца. Паспадзяваўся, ■ вунь як справа павярнулася. І невядома, што ў таго чалавека ў думках. Раптам задумае ды потым хаціну спаліць? Не вытрымаў, устаў і пайшоў на падворак. Вывеў чужога каня і прывязаў яго на ранейшае месца. Увайшоў у хату і так, каб Сямён чуў, гаворыць:

— Здаецца, стаіць конь...

— Нічога, усё роўна зраблю тое, што бацька заўсёды рабіў.

Тут гаспадару хоць ты воўкам вый пасярод ночы ды прасі падарожнага, каб нічога не рабіў. Жонка ўжо прачнулася, супакойваць пачала, але сквапны чалавек і чуць не жадаў:

— Ой, баюся. Каб жа наша дабро ды дымам не пайшло...

— Навошта тады каня чапаў?

— Ды вось падбілі чэрці.

— Падбілі, а зараз і сам не рад? Можа, пранясе?

— Хто ж яго ведае...

Устаў Сямён, а гаспадар з жонкай вакол яго круцяцца, за стол запрашаюць, не адпускаюць з хаціны галодным. Той здагадаўся, што да чаго, і кажа:

— Ой, не да гэтага мне, людзі добрыя. Не да гэтага... Спачатку зраблю тое, што бацька рабіў!

— То не рабі!.. — узмаліўся гаспадар. — Не трэба такога на маім падворку!..

Сямён падумаў і адказаў:

— Добра, ад'едуся крыху, а потым зраблю.

Выйшаў, сеў у сані, а гаспадар і шэпча:

— Скажы, чалавеча, што ты рабіць надумаў? Я пяць залатовак дам.

На тыя часы гэта былі добрыя грошы, і Сямён пагадзіўся.

Гаспадар быў задаволены, але ўсё ж карцела даведацца, што рабіў бацька падарожнага ў такіх выпадках. Таму і запытаўся.

— Калі кралі каня, дык пешкі дамоў праставаў, — адказаў вясковец і паехаў, задаволены, што пяць залатовак займеў. Таму тое паселішча і звалі Маньчыцы, бо ўсіх дурняў у ім падманвалі.



# ЛОЕЎ

У даўнія стагоддзі наша зямля была не так густа заселена людзьмі, як цяпер. Паселішча ад паселішча на дзесяткі, а то і на сотні кіламетраў былі аддалены. Пасняшаецца які родны ці блізкі чалавек навіну сваім данесці, то добры тыдзень-другі блукае па цяжкапраходных, амаль што непралазных сцяжынках. Дарог жа тады добрых таксама не было. Паасобныя хутары стаялі крыху часцей, тут ужо адлегласць вымяралася дзесяткамі кіламетраў.

Вось на адным з такіх хутароў жыла сялянская сям'я. Заможная, моцная, бо іначай і не выпадала, — лесу, лугоў, палёў хапала, толькі не лянуйся іх апрацоўваць, і ўсё будзе і на стале, і ў сусеках. Звалі гаспадара Мікулам, а ягоную жонку — Фядорай. Дзяцей гадавалі, працавалі шчыра, таму і не ведалі нястачы ды голаду. Але неяк пачала заўважаць гаспадыня, што мужа нешта хвалюе, усё часцей аб нечым задумваецца. Спачатку не хацела распытваць, а потым не вытрымала, бо пабаялася, што можа здарыцца якая ліхая падзея.

— Што з табой, мужу?

— Ат, нічога.

— Як жа нічога, калі добра бачу, што ты нават з твару змяніўся?

— Падалося табе, не іначай.

— Не адгаворвайся, кажы лепей праўду, то і мне спакайней будзе,і табе лягчэй.

— Ды што тут гаварыць?
— Тое, што ад мяне хаваеш.
— Нічога [redacted] не хаваю.
— Але ж і ўпарты, — зазлавала гаспадыня. — Які́м з маладых гадоў быў, такім і зараз застаўся.
— Ды... — пабачыўшы, што адкручвацца болей няма куды, пачаў Мікула, — ведаеш, тут такая справа...
— Якая?
— Вось дзеці растуць. Пройдзе яшчэ нейкі год... і прыйдзецца сыноў жаніць, дачок замуж аддаваць. Сям'я ж у нас вялікая.
— Вялікая, — паўтарыла Фядора. — Няхай ім усім Бог здароўя дае.
— А дзе тых нявестак шукаць? Дзе тых жаніхоў набярэшся?
— Але ж і ў нас так было.
— У нас якраз не так. Мы са свайго роду па ўласнаму жаданню пайшлі. Бацькам у ногі ўпалі ды прасіліся, каб нас адпусцілі, не затрымлівалі...
— І то праўда.
— Вось пра гэта і думаю.
— А мне ўжо думка ўелася, што ты захварэў.
— Тут захварэеш... Як выйсце знайсці?
— Так, складаная задача. А можа?..
— Што?
— Няхай сыны самі ідуць сабе нявестак шукаць. Знойдуць і вернуцца.
— Ага, знойдуць і вернуцца. Хто ж гэта за іх пагодзіцца сваіх дачок аддаць? Іх жа ніхто не ведае. Нас, можа, на бліжэйшых хутарах яшчэ памятаюць, а дзяцей адкуль?
— І то праўда.
— З другога боку, пойдуць, [redacted] дарогі ж небяспечныя, ліхія людзі ў глухіх мясцінах сваіх ахвяр чакаюць. Напоруцца на іх — і ўсё на тым. Не вернуцца назад ніколі.
— Ой, што ты, Мікулка, не гавары такога страшнага, не трэба, будзем спадзявацца на лепшае.
— Думаеш, мне хочацца пра ўсё гэта думаць, галаву ламаць, начамі не спаць? Але ж гэта нашы дзеці, нам трэба за іх меркаваць, каб потым позна не было. Не станеш жа братоў з сёстрамі жаніць.
— Ой, мужу, грэх гэта вялікі. Грэх.
— Сам ведаю, але нейкае выйсце трэба знайсці. А ў галаву нічога не лезе. Можа, ты нешта падкажаш?
— Не.

— Давай тады спаць паляжам. Дзецям пакуль што нічога не кажы — не трэба. А раптам нешта ў галаву прыйдзе, ноччу такое здараецца.

Палеглі спаць, а ўранні Мікула паклікаў да сябе Фядору:

— Прыдумаў.

— Праўда? І што, калі не сакрэт?

— Для нас — не, а дзецям не раскрывай нічога, каб яны і не здагадваліся пра нашы сумненні. А надумаў я вось што. Хутка Купальская ноч.

— Так, нейкі тыдзень застаўся.

— Паспрабую і я шчасця шукаць.

— Як гэта?

— Пайду на высокую гару і пашукаю там, у папаратніку, папараць-кветку.

— Але ці не грэх гэта?

— Грэх? Хутчэй, наадварот.

— Не разумею.

— Няма тут чаго разумець. Калі б я пра дзяцей, пра іхняе шчасце не думаў, то гэта быў бы грэх.

— Ой, баюся я. Каб жа цябе там якая нячыстая сіла не запаланіла...

— Не бойся, я сваю душу не запрадам усялякаму чорту.

— Хто ж яго ведае, як яно там атрымліваецца...

— Так і выходзіць, што большасць людзей шукае папараць-кветку, каб узбагаціцца, золата-срэбра назбіраць, а ў мяне зусім іншая задача — я хачу ведаць, як мне з дзецьмі ў недалёкім будучым быць.

— І ўсё роўна, Мікулка, баюся я.

— Няма чаго баяцца. Я не рабаваць пайду і не ўзбагачацца. У нас усё і так ёсць, трэба адзінае — падказка. На гэта і спадзяюся.

Непрыкметна праляцеў той тыдзень. Калі пачало вечарэць, Мікула стаў збірацца. Фядора старалася не глядзець на яго, каб яшчэ больш не адчайвацца, але тут у справу ўмяшаліся дзеці:

— Тата, куды ты?

— А вось прайдуся.

— То вазьмі і нас.

— Вас нельга.

— Чаму?

— Бо нячысцікі пахапаюць.

— А цябе?

— Яны дарослых не забіраюць, толькі малых.

— Хлусіш.

— Не.

— Усё роўна вазьмі і нас.

— Сядзіце дома, з мамай гаманіце, а я хутка вярнуся.

Меншыя залямантавалі было, але Мікула ведаў, як іх супакойваць.

— Вось вазьму зараз дзягу, то будзе ад чаго галасіць!

Упамінанне дзягі падзейнічала так супакойліва, што праз хвіліну дзеці ўжо і не памяталі, як збіраліся з бацькам ісці некуды. Маці ўсміхнулася і прамовіла:

— Не перажывайце, тата хутка вернецца.

Потым павярнулася да гаспадара і прачула дадала:

— А ты ўжо ж не затрымлівайся...

Мікула ад дзвярэй прагуў:

— Дамовіліся ж, — і пайшоў.

Ужо цямнела. Адчувалася, што непрыкметна надыдзе кароткая летняя ночка, якой і ноччу назваць можна толькі ўмоўна, бо не паспее сцямнець, як ужо развідняе. Гаспадар паспешліва ішоў да высокай гары, якая стаяла ад іхняга хутара за пару вёрст. Ішоў і прыглядваўся пільна ды ўслухоўваўся ў цішыню. Нарэшце падышоў да гары і ўбіўся ў такі густы папаратнік, што і ног не пацягнуць. Блукаў-блукаў і моцна стаміўся. Вырашыў крыху адпачыць, сеў і задумаўся. І ў гэты момант... пачуў нейкія дзіўныя галасы:

— Чаго тут гэты чалавек ходзіць?

— Гэта Мікула.

— Хто ён такі?

— Хутаранец. З бліжэйшага хутара.

— А чаго сюды прыблукаў?

— Не палохайцеся — гэта шчыры чалавек.

— Шчыраму тут няма чаго рабіць.

— А вось і ёсць. У яго пытанне паўстала невырашальнае.

— А хіба ёсць у жыцці такое?

— Як бачыце, у людзей ёсць.

— І што ж за пытанне такое?

— У яго сям'я вялікая. Старэйшыя сыны ўжо дарослыя.

— Хвараюць ці што?

— Не, не хвараюць. Іх жаніць трэба.

— То за чым затрымка?

— А дзе нявестак набрацца?

— Вось яно што... І сапраўды, ад ягонага хутара да бліжэйшага добрых два дзесяткі вёрст.

— Так, я ажно прытаміўся, пакуль бег, ды трэба ж улічваць, што я сабака, а для сабакі дзесятак вёрст не круг.

Мікула пачаў азірацца, нічога не мог зразумець, што за галасы, адкуль, калі навокал ніводнай жывой душы? І тут раптам убачыў, што ў правым лапці ў яго нібы нейкая жарынка гарыць. Тут ён і дацяміў, што пакуль лазіў па папаратніку, то недзе ненарокам узбіўся на цвет, і той зачапіўся за лапаць. Разам з ім атрымаў Мікула і здольнасць чуць гамонку звяроў, птушак, дрэў і кветак. Сядзеў і далей слухаў, што яны яму параяць зрабіць. Тут і сапраўды нейчы голас кажа:

— То што мы вырашым?

— Ага, чалавек жа да нас не за скарбамі прыйшоў, ▪ за парадай.

Але ў гэты момант раздаўся нейчы злы голас:

— Няма чаго яму тут лазіць! Панадзіліся! Пакараць яго трэба, а не падказваць! Пакараць!

Гаспадар уздрыгануўся. Чаго добрага, а гэтага можна чакаць у любое імгненне. Праўда, да горшага не дайшло, бо адразу загучалі шматлікія галасы:

— Табе б толькі гарлаць!

— Караць уздумаў!

— Хто за золатам ідзе, то ён таго шкадуе!

— Чалавек параіцца прыйшоў, то яго за гэта і пакараць?

— Ці не надта вялікая плата за дробную падказку? Разгаманіўся!..

— Нешта не падабаецца, то болей не ідзі да нас на Купалле, а ляжы сабе ў сваім берлагу і рохкай.

— Трэба дапамагчы гаспадару. Давайце параімся, як гэта лепей зрабіць.

Мікула сцішыўся. А галасы спрачаліся, пагаджаліся, нарэшце супакоіліся, і адзін з іх, надзіва памяркоўны, прамовіў:

— То што, так згодны?

— Ага.

— Мікула, слухай.

— Слухаю.

— Ты цяпер атрымаў магчымасць чуць нашы словы і нібы ўдзельнічаць у нашых размовах. Таму запомні: сувязь з намі будзеш трымаць праз свайго сабаку.

— Сабаку?

— Так.

— Вось не падумаў бы.

— Усялякае ў жыцці здараецца, але і гэта яшчэ не ўсё. Акрамя сабакі слухайся і пеўня. Калі табе нейкае пытанне

закарціць, то звяртайся да іх. А яны, у сваю чаргу, калі адчуюць якую небяспеку, то абавязкова табе паведамяць.

— Вось дзякуй вам, даражэнькія.

— І табе дзякуй.

— А мне за што?

— За тое, што прыйшоў да нас не для таго, каб узбагаціцца, [redacted] проста, каб параіцца.

— Не было ў мяне іншага выйсця.

— Ведаем. Ідзі сабе ды жыві шчасліва і заможна. Але яшчэ пра адно памятай.

— Пра што?

— Нікому папаратнікаў цвет не перадавай, бо ён страціць сваю сілу, [redacted] ты за гэта будзеш пакараны.

Задаволены гаспадар папраставаў дамоў, бо ўжо сонца пачынала залаціць верхавіны дрэваў. Ледзьве паспеў увайсці ў двор, як першыя промні шырока разбегліся па наваколлі. Жонка ўжо корпалася па хаце.

— Ну што?

Мікула шырока ўсміхнуўся ў адказ.

— Значыцца, парадак?

— Але.

Зажылі яны спакойна, як і раней. Цяпер ужо Мікула не надта думаў і перажываў, бо быў упэўнены — у цяжкую хвіліну яму абавязкова прыйдуць на дапамогу.

Аднаго разу рабіў нешта на падворку разам са старэйшымі сынамі. І тут яму падалося, што сабака звяртаецца да яго. Азірнуўся, і праўда — сабака ўважліва глядзеў яму ў спіну. Падышоў бліжэй і пачуў:

— Сёння, гаспадар, не кладзіся спаць, [redacted] разам з сынамі добра падрыхтуйся да сустрэчы нечаканых гасцей. Цябе задумалі абрабаваць.

— Вунь яно як...

— Ага. Нікога не шкадуйце, лупцуйце шчыра, каб і дзесятым замовілі гэтым заняткам займацца.

— Дзякуй табе.

— Няма за што — гэта мая служба.

У тую ноч Мікула з сынамі папрацавалі на славу. Так адбомкалі зладзеяў, што тыя ледзьве жывыя папёрліся ў пушчу адлежвацца. Болей яны не выбіраліся рабаваць сумленных гаспадароў.

Мікула жыў спакойна далей. Але аднаго разу гучна запяяў певень, прычым пад полудзень. Ніхто з сям'і не звярнуў на птушку ўвагі, а селянін жа ведаў, што да чаго. Дабраўся да пеўня, а той і раіць:

— Гаспадар, тэрмінова збірай усё ў вазы ды да ракі вывозь.

— Чаму?

— Пажар на пушчу абрынецца з неба вялікі. Усё навокал згарыць, і твая сядзіба, ведама ж, не будзе выключэннем.

— Дзякуй табе.

— Яшчэ не ўсё. Вывозь дабро, выводзь жывёлу да ракі. Там стаіць вялізная, нібы карабель, лаіна-човен. У яе ўсё і грузі. Пагрузіш і адплывай на сярэдзіну ды апускайся ніжэй па цячэнні, бо заставацца на месцы будзе небяспечна.

— Зразумела. Толькі ж і ты, певень, не запазніся.

— Не, мы разам з сабакам прыйдзем.

Пачалі ўсё звозіць людзі да берага і грузіцца на тую лаіну. Да вечара ледзьве паспелі. Толькі пагрузіліся, селі, як пачалася страшэнная бура, а потым успыхнула пушча. Агонь імкліва ляцеў па наваколлі, усё пажыраючы на сваім шляху. Ды Мікула з сям'ёй быў у небяспечным месцы.

Плылі доўга. Аднаго дня певень закукарэкаў і параіў:

— Час на бераг выбірацца.

Так і зрабілі. Зажылі на новым месцы, якое таксама аказалася надзвычай прыдатным. Назвалі яго Лоевам, ад таго чоўна-лаіны, ці, як некаторыя людзі кажуць, ад таго, што прыплыўшыя былі ўсе спраўныя, нібы лоем, тлушчам аблітыя, такія ўжо здаровыя.

## АКУЛІНКІ

Жыў-быў некалі малады хлопец, Сцяпан. Бацькі яго памерлі рана, а на руках хлапчыны засталася малодшая сястрычка — Акулінка. Яна ў цяжкія моманты як нельга лепей яго падтрымлівала. Прытуліцца да брата і шэпча:

— Стаміўся?

— Ага.

— То адпачні.

— Няма часу, родненькая.

— Чаму ж гэта?

— Працы яшчэ многа.

— То давай я табе дапамагу.

— Ты лепей адпачні.

— Мне надакучыла адпачываць. Хачу з табой пабыць, пагаварыць, бо сумна адной.

— Зразумела, што сумна. Тады сядай на воз ды паедзем у поле ніву скародзіць.

— Я зараз, толькі вады сцюдзёнай у гладыш набяру, бо там жа піць захочацца, а крынічкі паблізу няма.

Пабяжыць, а Сцяпан задумаецца над яе словамі. Ён, дарослы, не здагадаўся б вады з сабой узяць, а яна малая яшчэ, а так разважліва паступае.

Пасядуць і едуць. Па дарозе Акулінка песні спявае-выводзіць, [redacted] брат слухае яе танюсенькі, чысцюткі галасок, і адпачывае таксама. Усміхаецца, бо і жыццё ўжо не такім цяжкім здаецца.

Усё ў іх добра ішло, усё атрымлівалася, ніколі яны не сварыліся да таго часу, пакуль Сцяпан не стаў да адной дзяўчыны хадзіць. Вядомая справа — малады, здаровы, сям'ю сваю трэба ствараць. Адпрацуе дзень, прыйдзе дамоў, управіцца па гаспадарцы і збіраецца да сваёй каханкі, абяцае пры гэтым сястрычцы:

— Я хутка прыйду.

— Ты кожны раз абяцаеш, а прыходзіш ажно на досвітку.

— Так атрымліваецца.

— Не хачу я, каб ты з ёй мілаваўся.

— А гэта ўжо не твая справа, малеча.

— Мая.

— Не, не твая.

— Глядзі, Сцяпанка, яна вельмі благая. Пра яе ўсе людзі дрэнна гавораць, а ты нібы аслепнуў.

— Няпраўда, што Тэкля благая.

— Праўда, толькі ты гэтага чамусьці не заўважаеш, а можа, проста не хочаш заўважаць? — па-даросламу паставіла пытанне сястра.

Хлапчына на хвіліну сумеўся, а потым адрэзаў:

— Няхай сабе і дрэнная, то табе да гэтага якая справа?

— Брат жа ты мой, і мне далёка не ўсё роўна, з кім ты жыць будзеш.

— Ат, чым з табой спрачацца, лепей лішнюю хвіліну з Тэкляй пасяджу. А ты лягай ды спі спакойна. Не бойся нікога.

— Я нікога не баюся, я за цябе перажываю, бо апамятаешся, ды позна будзе.

— От жа начапілася! — ужо сярдзіта адмахнуўся Сцяпан.

Сабраўся і пайшоў, толькі дзвярамі ляпнуў.

Не паслухаўся Акулінкі, вырашыў жаніцца і ў апошні момант сказаў пра гэта сястры:

— Заўтра сваты мае ідуць да Тэклі.

— Ну вось. Пагібель мая ў хаціну прыйдзе.

— Кінь дурное, і каб я гэткага нічога болей не чуў! Мне з Тэкляй жыць.

— А куды мне паткнуцца? Былі б жывыя тата ды мама, то яны б мяне ў крыўду не далі, а так...

Дзяўчынка заплакала. Брат стаяў побач і спачатку хацеў было пакратаць яе за плячук, супакоіць, але потым перадумаў і пайшоў з хаціны на двор, каб там перачакаць, калі Акулінка сціхне.

Вяселле было як вяселле. Такіх многа тады гулялі. Паклікаў Сцяпан усіх сваіх родных, якія ад бацькі ды ад матулі засталіся, а таксама з боку маладой было многа людзей. Спявалі, пілі, танцавалі, адным словам, рабілі ўсё так, як і павінна было ў такіх выпадках рабіцца. Толькі Акулінка на людзі не паказвалася, увесь час прасядзела ў гумне, плакала. Адчувала бяду, ды не магла яе прадухіліць, бо брат яе не слухаўся.

На другі дзень Сцяпан паехаў у поле працаваць. Дома засталіся маладая жонка і сястра. Вярнуўся назад, а Тэкля падскоквае і гаворыць:

— Гэта дурніца кароўку зарэзала.

— Якая дурніца?

— Твая сястрыца.

— Ды што ты такое кажаш?

— То, можа, ты мне не верыш?

— Ды...

— Пакарай яе сурова, каб болей не рабіла нічога благога нам назло, каб выконвала тое, што мы будзем загадваць.

— Пачакай, пакараць заўсёды паспею. Супакойся. Мая сястра — я з ёю і разбяруся.

— Не верыцца мне нешта.

— Як сабе хочаш. Стаміўся я, згаладаўся за дзень, то, можа, ты мяне спачатку пакарміла б?

Як ні злавала Тэкля, а вымушана была падпарадкавацца. Не хацела з першага дня з маладым мужам скандаліць. Але задуму сваю чорную — звесці ягоную сястру з белага свету — не кінула.

На другі дзень прыязджае Сцяпан з нівы, а жонка насустрач і зноў гаворыць:

— Што ж гэта твая сястрыца робіць?

— Ну?

— Яна, відаць, задумала нас з торбамі па беламу свету пусціць.

— А ў чым справа?

— Сёння яна нашага самага здаровага барана зарэзала.

— Такая малая — і ўправілася? — не паверыў гаспадар.

— Можаш сабе ўявіць.

— Не веру.

— То ты, значыцца, мне не верыш, а ёй давяраеш? Не надта ты спяшаешся яе пакараць.

— Есці хачу.

— Табе толькі есці, а пакуль ты за сталом сядзець будзеш, то яна яшчэ што-небудзь выкіне. Спахопішся, ды позна будзе. Ці табе, можа, усё так лёгка ў гаспадарцы давалася?

— Ды не... — сумеўшыся, адказаў Сцяпан.

Каб жонка ад яго адчапілася, пайшоў ён шукаць Акулінку. Знайшоў і прагнаў прэч з двара. А тая, бедалага, нядоўга хадзіла — павесілася на бярозцы. Тое месца і празвалі Акулінкі.

## БЫВАЛЬКІ

У нашым паселішчы заўсёды любілі распавядаць усялякія быліцы. З-за адной з іх яно і назву сваю атрымала. Але пра ўсё па парадку.

Паехаў аднаго разу селянін у млын. Змалоў там сваё зерне, склаў мяшкі на воз і пхаецца сабе спакойненька назад. Дамоў ехаць было далекавата, ды, што самае галоўнае, дарога благая — балаціны навокал, мачажыны ўсялякія. Чорт ногі паскручвае, не тое што конь. А тут яшчэ, як назло, пайшоў дождж. Ды такі спорны прыпусціў, нібыта пад заказ. Вясковец цыратай пазакрываў мяхі, каб не пазамакалі, бо якая ж тады мука атрымаецца. Ажно да ўсяе тае бяды яшчэ і кола з воза адпала. Пакуль падважваў воз, пакуль прылаўчыўся ды назад наклаў, то нямала часу прайшло. Ноч глыбокая апусцілася на наваколле. Падганяе коніка, а сам з перапуду зубамі ляскоча. Мала што магло здарыцца ў тыя часы на дарозе, дзе нікога не было. Недзе якраз на паўдарозе конік ірвануўся і пацягнуў крыху ў бок. Як пацягнуў, то воз глыбока засеў у гразі, і як бедная жывёліна ні рвалася, як ні цягнула — воз ні з месца. Селянін плюнуў з адчаю, залез сам пад цырату і скарыўся, на волю лёсу аддаўся. Ажно нешта запішчала паблізу. Чалавек спачатку ўхапіўся за сякерку, але, пабачыўшы, што нікога няма, асмялеў, высунуў галаву і заўважыў саву, якая сядзела амаль над самым возам. Што самае дзіўнае — яна загаварыла чалавечым голасам:

— Хочаш, дапамагу?
— Ну.
— Але толькі пры адной умове.
— Пры якой?
— Вельмі простай.
— То гавары, я паслухаю. Чаго мне ў гэтай гразі губляць?
— Аддай мне тое, што калі ад'язджаў, то не пакінуў дома.

Падумаў вясковец, паразважаў, так-сяк прыкінуў, здаецца, нідзе ніякай парухі не павінна быць. Пачасаў галаву і адказвае:

— Так і быць, згодны.
— Гэтага мала.
— Што яшчэ?
— Паперу падпішы, дзе клянешся, што не парушыш свайго слова.
— Ды я і так зраблю, як сказаў.
— Не, я на слова не надта веру.
— Добра, давай сваю паперу.
— Вось гэта іншая справа, — весела залапатала сава і аднекуль борздзенька дастала скрутак паперы і хуценька ўсунула ў рукі селяніну.
— Дзе тут падпісваць?
— Унізе, унізе падпішы, і ўсё на гэтым.

Толькі гаспадар мазнуў там пальцам, як аднекуль з'явіліся два здаравенныя дзецюкі, пакрэктваючы, учапіліся ў воз і выцягнулі яго на грэблю. Чалавек нават здзівіўся, што людзі такія моцныя.

Прыехаў дамоў ажно пад раніцу, а там яго дзеці на парозе сустракаюць:

— Тата, а ў нас навіна.
— Якая?
— Матуля брацікa нарадзіла.

Тут селяніна як хто паленам па галаве лупянуў. Вось каго ён дома не пакінуў, як ад'язджаў. Проста тады яшчэ сына на свеце не было. Што ж тут рабіць? Да каго за парадай звярнуцца? Круціўся, я дзецям ды жонцы нічога не гаварыў. Пакуль той воз разгрузіў, пакуль каня распрог, то яшчэ пэўны час прайшоў. Тут падышоў пагаманіць сусед, з якім сябравалі, што браты родныя, і любую бяду, калі такая здаралася, заўсёды ўдваіх пераадольвалі.

— Што гэта ты такі хмурны? — пытаецца сусед.
— Ды дарога, ліха на яе, вымучыла.

— Дарога ў нас і сапраўды дрэнная. Намучышся і загінуць можаш, ніхто не дапаможа.
— А калі дапаможа, то выкуп які запросіць.
— Ды няўжо такія людзі ёсць? Дзе ты, братка, пра такое чуў?
— Не толькі чуў, нават і бачыў.
— Дзе?
Гаспадар азірнуўся па баках і, пераканаўшыся, што нікога няма побач, загаварыў:
— Здарылася са мной такое ліха сёння... — і ўсё чыста распавёў суседу.
Той уважліва выслухаў і прысвіснуў:
— А як жа зараз выкруціцца?
— Запытайся пра што-небудзь лягчэйшае. Не ведаю, што і рабіць.
— Ты толькі не адчайвайся.
— Лёгка сказаць. А калі той нячысцік прыйдзе сёння ж ноччу сына забіраць?..
— Не прыйдзе.
— Чаму ты так упэўнена гаворыш?
— Навошта яму немаўля, сам падумай.
— І то праўда.
— Ён пачакае, пакуль малы падрасце, а потым ужо запатрабуе яго сабе.
— Выходзіць, што так.
— Я заўсёды дапамагу, а пакуль у нас ёсць час, трэба нешта прыдумаць такое, каб адвадзіць назаўсёды таго нячысціка.
— Думаеш, атрымаецца?

Час ляцеў хутка, і незаўважна прайшло пяць гадоў. Суседзі падрыхтаваліся да сустрэчы з нячысцікам і чакалі, ды яго ўсё не было. Але аднаго дня, калі гаспадар быў у сваім садзе, над яго галавой зарыпела сава:
— Ці пазнаеш мяне?
— Пазнаю.
— А памятаеш пра нашу дамову?
— Ага.
— То я прыляцела, каб забраць твайго сына.
— Добра.
— Вядзі яго сюды.
— Што ты яшчэ закамандуеш, дурная твая галава?
— Чаму?
— Дзень на двары, людзі ходзяць...

— Ну і што з гэтага?

— Заўважаць, і не будзе далей жыцця ні табе, ні мне.

— А што ты прапануеш?

— Прылятай ноччу, калі ўсе спаць будуць, перад раніцай самай.

— Добра. Чакай мяне разам з сынам на гэтым самым месцы.

Сава паляцела, а вясковец паджгаў да суседа. Той задаволена пацёр рукі:

— Ну, сёння мы таму нячысціку выб'ем бубну! Болей не стане з людзьмі закладацца!

Злавілі сябрукі старога агніста-рыжага пеўня, пасадзілі ў мех, а самі яшчэ прыладзілі два дубовыя цапы.

Марудна цягнуўся час. Пакуль сцямнела, пакуль палова ночы мінула. Нарэшце падаліся вяскоўцы ў сад. Гаспадар прашаптаў сябру:

— Ты тут сядзі, я цябе старой саломай крыху прыкідаю.

Так і зрабілі. Можа, толькі праз гадзіну заскрыпела сава:

— Прывёў?

— Так, пад саломай. Я зараз у мех вазьму і табе падам, ніжэй апусціся.

Сава і апусцілася. Гаспадар нібыта мех падае, а сам хоп яе за галаву. Як ухапіў, то і давай нячысціка лупцаваць. Білі да таго часу, пакуль певень трэці раз не пракукарэкаў і ў руцэ не засталося адно пер'е, бо нячысцік згінуў. Вось такая гісторыя. Адтуль і Бывалькі, бо пастаянна гаварылі — у іх бывалькі бывалі, значыцца, усялякія быліцы.

## ГЛУХОЕ

У нашых мясцінах некалі, даўным-даўно, гэтая падзея адбылася. Памятаюць пра яе людзі, з пакалення ў пакаленне перадаюць. Так і мы даведаліся пра ўсё. А здарылася вось што.

У адной сям'і, у бацькі з маткай, было два сыны — старэйшыя і малодшая дачушка. Звалі яе Алёнка. Такая ўжо прыгожая вырасла ды працавітая, што толькі і чуваць было навокал:

— За каго ж дачку сваю аддасце?

— Сваты яшчэ не прыходзілі.

— Але ж хутка пойдуць, самі бачыце, што дзяўчына расцвіла як макаў цвет.

— За некага пойдзе.
— Відаць, багатага ды заможнага выбіраць станеце?
— Не.
— Няўжо за беднага такую працаўніцу ды прыгажуню аддасце?
— Чаму адразу за беднага? Мы ні за каго аддаваць яе не будзем.
— Што, так і прасядзіць усё жыццё ў дзеўках?
— Не заседзецца наша Алёнка. Толькі мы хацелі сказаць, што дачка сама будзе выбіраць сабе будучага мужа, мы ўмешвацца не станем, каб потым на нас не крыўдзілася ды не гаварыла, быццам бы пад прымусам замуж ішла. Хто ёй спадабаецца, той і будзе яе мужам.
— І то праўда. Яна прыгожая ды працавітая, ад сватоў адбою не будзеце мець, таму і выбраць спакойна можна.
Бацькі ды людзі так меркавалі, а здарылася ўсё зусім іншым чынам — непрадказальным.
Пайшлі аднаго разу дзяўчаты купацца. Пазвалі і Алёнку.
— Зараз, ■ толькі хатніх папярэджу, каб ведалі, дзе буду.
— Давай.
Сказала і пабегла да сяброўак. Ідуць яны да рэчкі, кветкі рвуць, песні спяваюць, дурэюць ад радасці. Ведама ж, маладыя. Прыйшлі, распрануліся і ў ваду палезлі. А дзень тады спякотны стаяў. То як улезлі, дык назад не вельмі спяшаліся. Сядзелі да таго часу, пакуль зубамі не заляскалі. Тады нехта з дзяўчат не вытрымаў:
— Давайце хіба вылазіць? А то ўжо надакучыла сядзець у вадзе.
— Каб не зашкодзіла.
Вылезлі на бераг, падышлі да вопраткі і пачалі апранацца. А Алёнка, калі распраналася, то сваю вопратку паклала крыху далей, між кустоў. Яна туды, а там... ляжыць на сукенцы скручаны вялізны вуж і сыкае на яе. Спалохалася, пачала плакаць і зганяць вужа. Тут той чалавечым голасам загаварыў, звяртаючыся да яе:
— Спаўзу, толькі пры адной умове.
— Ой, што такое?
— Не здзіўляйся, гэта я гавару. Магу размаўляць як самы звычайны чалавек.
— Але ж...
— Я сказаў, што спаўзу пры адной умове.
— Пры якой гэта?

— Калі пагодзішся выйсці за мяне замуж.
— Што? За цябе?
— За мяне.
Дзяўчына азірнулася, каб ніхто не чуў і не бачыў, бо ёй стала смешна. Нікога паблізу не было, дзяўчаты гаманілі за кустоўем. Вырашыла прыгажуня, што дасць згоду, а там бачна будзе.
— Але ж глядзі, не падмані, бо ўсё роўна я сваё слова стрымаю.
— То і я стрымаю, — азвалася Алёнка.
— Тады сядзі дома і чакай на бліжэйшых днях гасцей.
Вуж споўз, а Алёнка пачала хуценька апранацца, бо сяброўкі ўжо гукалі.
— Іду, — азвалася дзяўчына і выскачыла з кустоўя.
Зноў спявалі песні, рвалі кветкі, калі ішлі дамоў. Усе былі ўзбуджаныя, вясёлыя, акрамя Алёнкі. Сяброўкі спачатку не заўважалі гэтага, а потым сталі дапытвацца:
— Што з табой?
— Ці не захварэла?
— Нешта і сапраўды галава баліць.
— Гэта ад вады такое. Прыйдзеш дамоў, то паляжы, і ўсё пройдзе.
Разышліся дзяўчаты. Алёнка таксама пайшла на свой падворак. Убачыла яе матуля і таксама пацікавілася:
— Што гэта ты, дачушка, невясёлая?
— Ат, нешта ў галаву дурныя думкі лезуць.
— Якія ж гэта?
Алёнка не хацела расказваць, ды так атрымалася, што міжволі пра ўсё і паведаміла. Гаспадыня прызадумалася.
— А можа, табе падалося?
— Не.
— Тады не бойся. Ты ж не адна. Бацька пастаянна на двары, браты. Калі трэба, то перад кім хочаш уступяцца. Ідзі ды паспі.
Алёнка заснула, нібы ў яму глыбокую правалілася. А калі ўстала, то настрой перамяніўся і ўсё стала светлым ды радасным, як і раней. Матуля не ўтрывалася:
— Бачыш, сон усе хваробы лечыць.
— І сапраўды, — усміхнулася дзяўчына.
Толькі, як пазней аказалася, дарма яны радаваліся. Праз некалькі дзён пачуўся ў іхнім двары нейкі дзіўны свіст. Пераглянуліся гаспадары, нічога не разумеючы, і давай далей сваімі справамі займацца. І тут адзін з сыноў усклікнуў:

— Глядзіце!

Яны ў акно, а там безліч вужоў поўзае па траве, перакручваецца, пасвіствае пры гэтым. Загаласіла гаспадыня і загадала:

— Зачыняйце дзверы!

Але як іх ні зачынялі, як ні трымалі, як ні адбіваўся бацька з сынамі, вужы паскручвалі родных, а Алёнку з сабой павалаклі. Крычала дзяўчына, галасіла, ды нішто не дапамагала.

Ачомалася прыгажуня на беразе рэчкі, а перад ёю прыгожы хлапчына стаяў і шчыра ўсміхаўся:

— Што ж гэта ты, Алёнка, свайго слова не трымаеш?

— А ты хто?

— Твой муж, атрымліваецца.

— Але ж ты быў вужом?

— То далёка ад вады, а ў вадзе ды каля яе я звычайны чалавек. Я вадзяны цар, і ўсё навокал мне падпарадкоўваецца.

Зажылі яны добра ды шчасліва. Прайшло некалькі гадоў, у іх ужо сынок і дачушка падрасталі. Сумна стала Алёнцы, і запрасілася яна родных адведаць. Муж дазволіў, але толькі на тры дні. Сказаў таксама, дзе чакаць будзе.

Выйшла жанчына на бераг і пабегла да родных. А маці, хітрая, давай распытваць у малых унукаў, што да чаго, то тыя і сказалі. Яна — за сякеру і на бераг рэчкі, а там вуж чакаў. Як секанула, то і сканаў. А перад смерцю прашыпеў:

— Якое ж тут месца глухое... Глухое...

Так і стала вёска Глухое.

## ГЛУШЭЦ

У нас даўней лясы былі густыя. Такія, што як пойдзе чалавек, які мясцовасць слабавата ведае, то назад яго ўжо і не дачакаешся. Калі не звяры дзікія разарвуць, то сам заблукае і памрэ. Так і гаманілі: калі каму хочаш благога пажадаць, то няхай ён у наш лес сходзіць.

Жылі тубыльцы пасярод лясоў, на невялічкіх лапінках ворнай зямлі, а ўсё роўна добра не ведалі лясных сцяжынак. Былі, праўда, асобныя вяскоўцы, якія хадзілі па пушчы, як у сябе па падворку, але іх было зусім мала — лічаныя адзінкі. Пераважалі сярод такіх сялян панскія палясоўшчыкі. Іх і сялянамі нельга было назваць, бо яны на зямлі не працавалі, а зараблялі з таго, што сачылі за неабсяжнымі

ляснымі прасторамі, наладжвалі сваім гаспадарам пышныя паляванні.

Быў сярод мясцовых памешчыкаў адзін дужа багаты. Мала таго, што багацця ўсялякага меў процьму, дык вылучаўся яшчэ і бязлітаснасцю ды скваплнасцю. Як убачыць што-небудзь, то ажно закіпіць:

— Маё!

Яму даводзяць, што ў гэтага прадмета ці надзела ёсць ужо гаспадар, а ён на сваім стаіць:

— Маё!

Калі хто гэтага злыдня не ведаў, то думаў, што мае справу з вар'ятам, і, усміхнуўшыся, адказваў:

— Тваё, тваё.

Мясцовыя памешчыкі ведалі, што ён такім чынам сабе ўсялякае дабро-багацце ў палац гроб. Не надта хацелі знацца з такім скваплым чалавекам, ды што ты зробіш, калі ён, напрыклад, запрашае ў госці. Праўда, пры гэтым пасланы слуга абавязкова папярэджваў будучых гасцей:

— Прыязджайце вечарам.

— А на колькі гадзін?

— Не ведаю. Сказана — вечарам.

— А яшчэ што?

— Пан загадаў перадаць, каб вы са сваёй гарэлкай і закускай прыязджалі.

— А ты нічога не пераблытаў?

— Ды не, так загадана.

— Што ж гэта за госці, калі са сваёй гарэлкай і закускай ехаць?

— Не магу ведаць.

— От, ёлупень.

— Як вам будзе даспадобы, але мне так загадана перадаць.

— Які сам, такіх і слуг дурных ды ўпартых падабраў.

Слуга стаяў, вылупіўшы вочы, і нічога не адказваў. А панам што рабіць заставалася? Паспрабуй не паехаць, то загадае сілай прывезці. Вядома ж, хто багацейшы, то той і парадкі ўстанаўлівае. Таму ехалі да памешчыка з усіх бакоў. А ён сваіх гайдукоў папярэджваў:

— Вы, хлопы, без працы не сядзіце. Глядзіце за ўсім.

— Будзе зроблена.

— І вось яшчэ што. Сачыце за тым, колькі чаго кожны з гасцей прывязе. Уважліва глядзіце.

— Зразумела.

— Я потым буду разбірацца. Хто самы скваплны ды

хітрэйшы, той ад мяне падарунак атрымае. На ўсё жыццё запамятае. Самі ж ведаеце які!

— Так точна, ведаем! — гыркалі гайдукі ў адзін голас.

Госці з'язджаліся, але за стол іх адразу не запрашалі. Запасы, якія яны з сабой прывезлі, забіралі слугі і некуды адносілі, а там, відаць, перабіралі: лепшае забіралі гаспадару, а горшае на стол ставілі.

Потым вяльможны памешчык зычным голасам гукаў:

— То прашу, панове, за сталы дубовыя. Сядайце, пачнём піць-весяліцца. Прашу вас, налівайце, не шкадуйце.

Не надта вясёлыя ад такой сустрэчы госці мармыталі:

— Ага, не шкадуйце, бо не тваё.

— Нашу гарэлку ды віно твае слугі вадой разбавілі.

— А прадукты на сталах нейкія смярдзючыя, хоць ты нос заторквай.

— Заторквай, не заторквай, пане мой, а есці ўсё роўна давядзецца.

— Куды ж тут дзенешся.

— Ён не любіць, калі хто яму з першага слова не падпарадкоўваецца.

— Яшчэ як не любіць. Зараз гарлаць пачне ды слугам загады аддаваць, каб кагосьці сілком накармілі, а потым да бяспамяцтва напаілі.

— Каб жа толькі накармілі ды напаілі гэтымі смярдзючымі стравамі...

— А то што яшчэ? — звычайна задавалі пытанне тыя, хто ўпершыню апынуўся на такім незвычайным застоллі.

— Загадае слугам, каб завалаклі на стайню ды адлупцавалі непакорлівага ці непаваротлівага.

— Вось як?.. Але ж тут адны паны...

— То і што з гэтага?

— Ды панскі ж гонар не дазваляе.

— Эх, шаноўны, хто тут на той гонар зважае?

— Ага, заломяць рукі, зацягнуць на стайню ды якададуць, то вішчэць не сваім голасам будзеш і на гонар той забудзешся.

— Але ж...

— Мінулы раз аднаго госця не пацягнулі на стайню, а прама тут, пасярод залы, пачалі плюндраваць. То так ссеклі, што ён прытомнасць страціў. Думалі, не адыдзе, ажно неяк ажыў.

— Такое дзікунства?

— Цішэй, бо ці сам пан пачуе, ці слугі данясуць.

— Цішэй, панове, ды пайшлі садзіцца, бо нешта ў наш бок паглядваюць...

Доўга сядзелі за сталамі. Пілі гарэлку-віно, гарлалі песні, бо прапівалі ж сваё. Потым гаспадар усхапіўся:

— А зараз, панове, на паляванне!

— На паляванне?

— А што, нехта баіцца ці не можа на нагах трымацца?

— Як такое можа дапусціць паважаючы сябе пан?

— Тады паехалі! На паляванне!

Госці выпаўзалі з-за сталоў, сядалі ў вазкі ды экіпажы і кіравалі да бліжэйшага лесу. Сам гаспадар ехаў верхам, поруч з ім бліжэйшыя сябрукі і самыя адданыя слугі, сярод іх вылучаўся адзін, які ўмеў падрабляць галасы птушак. Памешчык на гэты раз вырашыў менавіта гэтага чалавека і ягоныя здольнасці прадэманстраваць гасцям.

— Закукуй, братка.

Па лесе панеслася магічнае — ку-ку. Усе пераглянуліся, здавалася, што і на самай справе кукуе невялічкая шэрая птушачка, а не чалавек. Паехалі далей.

— Заспявай салаўём, — загадаў пан.

Такі пошчак панёсся, што госці ажно раты паразяўлялі і пачалі круціць галовамі ва ўсе бакі.

Пад'ехалі да высокага дуба:

— Залезь, братка, наверх і заспявай, як глушэц.

Слуга борздзенька кінуўся да дуба. Неўзабаве зверху панёсся спеў глушца. І тут зусім нечакана знізу грымнуў стрэл. Слуга каменем гопнуўся долу.

Задаволены памешчык пацёр рукі:

— Вось вам і глушэц.

Адкуль і назва нашага паселішча, ад таго забітага слугі.

## СЯЎКІ

Было ў бацькі з маткай тры дачкі. Не надта прыгожыя, але дужа працавітыя, хвілінкі вольнай не пасядзяць. Вось прыхінуцца на прызбе да сцяны і, здавалася б, могуць спакойна пасядзець, ажно не. Толькі і чуваць:

— Чым жа нам зараз заняцца?

— Неяк не выпадае без працы адседжвацца.

— Ага. Сядзець будзеш, то нічога само не зробіцца.

— Нездарма ж гавораць, што пад ляжачы камень і вада не цячэ.

— Ён і ад спякоты можа патрэскацца, а чалавек жа вытрымлівае.

— І не кажыце. Як ні паліць, як ні смаліць сонца, а людзі працуюць.

— Не надта глядзяць на надвор'е. Калі трэба, то трэба. Час чакаць не будзе.

— І чакаць не будзе, і надвор'е можа перамяняцца.

— Гэта прасцей за ўсё.

— Вось мы гамонім, а за гэты час можна ж нешта і зрабіць?

— То давайце прыдумаем ды зоймемся справай, а то перад бацькамі няёмка. Падумаюць яшчэ, што мы лайдачым.

Так усхопяцца і пойдуць вырашаць нейкія справы.

Матуля іх вельмі шкадавала:

— Пасядзіце, дачушкі, адпачніце.

А яны ў адзін голас:

— Не стаміліся мы, хочацца яшчэ што-небудзь парабіць.

— І так ужо людзі гавораць, быццам мы вам не даём і хвілінкі пасядзець.

— Глупства ўсё гэта, бо мы самі сядзець склаўшы рукі не жадаем.

— Ой, дачушкі, каб хоць вас замуж добра пааддаваць.

— Пакуль тая часіна, то ўсё наладзіцца.

— Не паспееце і міргнуць, як тыя гады мінуць.

— А хіба замужам страшна?

— Яно і не страшна. Спачатку крышку не па сабе, што ў чужую сям'ю прыйдзеш, а там...

— Прызвычайваешся, так?

— Ага.

— Вось бачыш. А то палохаеш нас...

— Я не палохаю. Я баюся за вас. Працавітыя вы, сумленныя, а людзі ж розныя на свеце ёсць. І не разглядзіш спачатку, што да чаго, а потым давядзецца пакутаваць.

— Так ужо і пакутаваць?

— Калі трапіцца які лайдак ці п'яніца, то і наплачашся, і ў плечы не адзін раз атрымаеш, і дзеці будуць пастаянна галодныя і напалоханыя. Адна жанчына, як бы ні рвалася, сям'ю не падыме.

— Дык чаго тады ўсе замуж выходзяць?

— Чалавек, ведама ж, спадзяецца на лепшае.

Так матуля распавядала сваім дочкам пра будучае жыццё.

Бацька, той, наадварот, стараўся іх падбадзёрыць, каб насы не вешалі:

— Пойдзеце замуж, нараджаеце мне ўнукаў, то і ў хаце ўсе не памесцімся.

— Ой, тата...

— Гэта вы зараз такія сарамлівыя, а тады як разахвоціцеся, то не спыніць будзе. Засыплеце, што гарохам.

— Скажаце.
— Прыгадаеце праз колькі гадоў мае словы — і самім смешна будзе.
— Калі выйдзем, то там і пагаворым.
Аднаго разу сядзелі ўсёй сям'ёй у хаціне, вячэралі. І тут у дзверы нехта пастукаў:
— Хто гэта там? — здзівіўся гаспадар. — Нашы ўсе, здаецца, дома?..
— Так, але ж нехта стукае, — сказала жонка.
— То заходзьце, бо ў нас не зачынена.
Дзверы адчыніліся. На парозе паўстаў высокага росту стары жабрак.
— Добры вечар вам, людзі добрыя, — хораша павітаўся ён.
— І табе, чалавеча, таксама.
— Ці нельга мне ў вас пераначаваць?
— А чаму ж не. Хіба ў нас месца нестае?
— Я і ў гумне якім паляжу, мне абы прыткнуцца.
— Навошта ж у гумне, і ў хаціне пасцелім. Самі ж бачыце, месца хапае.
— То дзякуй вам, добрыя людзі.
— Сядайце да нас за стол. У нас здавён вядзецца: госць у хату — Бог у хату.
— Ат, я не галодны.
— Якое там, не саромейцеся. У нас усё сваё. Працуем шчыра, ды і неўраджаяў, даруй Божа, не ведаем.
— То дзякуй Богу.
Сеў жабрак за стол, паставілі яму місу. Глядзяць, як чалавек есць, і чакаюць, калі ён пачне што-небудзь пра сябе распавядаць. А той, нібы думкі чытае, перакусіў, падзякаваў і пытаецца:
— То, можа, вам расказаць што-небудзь?
— Калі ласка, просім.
— А пра што?
— Пра цікавае якое здарэнне.
— Пра цікавае? Зараз падумаю.
Пахістаў сівой галавой і кажа:
— А ці ведаеце вы, які грэх на зямлі самы страшны?
— Не.
— А вы падумайце.
Пераглянуліся гаспадары, дочкі паміж сабой — нічога ў галовы не прыходзіла.
— Не, не ведаем. Падкажыце, будзьце ласкавы.
— Ды тут нічога незвычайнага няма. Трэба толькі памятаць пра законы продкаў і ніколі іх не парушаць.

— А хіба ж мы парушаем?

— Я такога не казаў.

— А што можна парушыць? — не сунялася самая малодшая.

— Living Rознае, унучка, — задуменна прамовіў жабрак, — рознае... І не заўважыш, як нешта пераступіў, а потым дрэнна будзе. І яшчэ — старайцеся памятаць пра гэта ва ўсіх выпадках, бо наступствы могуць быць самыя нечаканыя.

Пераначаваў той жабрак і пайшоў раніцай.

Прайшло, можа, з год, а можа, і меней. Была ранняя нядзелька. Сёстры і забыліся на яе. Прахапіліся, апрануліся і выскачылі на падворак:

— Што рабіць будзем?

— Сеяць агародніну ў агародзе.

І прыпусцілі ў агарод сеяць. Як толькі ўзяліся за гэта, то і скамянелі. Тыя камяні потым Сяўкамі назвалі. Вось так.



# МАЗЫР

Надзвычай даўно гэта адбывалася. Жыў-быў адзін заможны гандляр-яўрэй. Звалі яго Мазыр. Ён пастаянна ездзіў то ў адзін край, то ў другі, каб там прадаць тавары ці абмяняць іх на заморскія і такім чынам палепшыць свае і без таго неблагія справы. Суседзі казалі гандляру:

— Ой, Мазыр, каму ўжо ты гэтае багацце збіраеш?

— А хіба яго ў мяне многа? Вам гэта толькі здаецца, ■ на самай справе нічога амаль не маю за душой.

— Нам бы тое «амаль», мы б да смерці жылі прыпяваючы.

— Якое там «да смерці»? Мы і дзецям неблагі пасаг пакінулі б.

— Эй, пустое гамоніце. Зайздросціце мне, то і не дае мой занятак вам спакою.

— Не, братка, не здагадаўся. Мы табе зайздросцім — гэта праўда, але толькі як чалавеку працавітаму, ■ не багатаму. Таму што багацце — гэта не самае галоўнае ў жыцці. Сёння яно ёсць, а заўтра яго няма.

— Дык так жа ўсё? — здзіўляўся Мазыр.

— Так. Але калі ставіш мэтай свайго жыцця толькі ўзбагачэнне, прычым любым чынам, то да дабра такая справа не даводзіць.

— Многа вы ведаеце.

— А чаго ты злуешся?

— Ды жыць навучаеце. Я і сам ведаю, што раблю. Так жыў мой дзед, мой бацька, і я так жыву.

— А ты прыгадай, чым гэта скончылася? Можа, шчаслівым нечым ці светлым успамінам?

— Якраз не.

— Вось бачыш. Багаты чалавек не спіць спакойна, месца сабе не знаходзіць, бо яго грызе перажыванне, як грошы схаваць, як іх зберагчы, каб ніхто не заўважыў, каб ніхто на іх не паквапіўся. Ці ж не так?

— Так-то яно так, але ж... Уявіць не магу, што сядзець буду без любімай справы.

— А ты і не сядзі, па гаспадарцы займайся.

— Хіба вы не бачыце, якая ў мяне гаспадарка? Ды і навошта мне яна? Продкі нашы ніколі за зямлю не трымаліся.

— Паспрабаваў бы.

— Навошта? У сваёй справе я ўсё ўмею, а новую пачынаць трэба маладым, а не ў маім узросце. Да таго ж дачка, радасць мая адзіная, ужо вырасла, жаніха трэба шукаць...

— Дзе ж ты для яе жаніха падбіраць станеш? У нас жа такога багатага, як ты, у наваколлі і блізка няма.

— Зноў вы за багацце?

— Так атрымліваецца. Ты ж абы за каго сваю дачку не аддаш?

— Ведама што. У мяне ж болей нікога з родных на белым свеце няма...

Яно і на самай справе так было. Гадоў дзесяць таму назад Мазыр сабраўся перабірацца жыць у іншае месца. Яўрэй калі за зямлю не трымаецца, то што ў яго за зборы — пагрузіў свой скарб на вазы, пасадзіў жонку і дачку і паехаў у невядомы край, дзе спадзяваўся на лепшае жыццё. Праўда, на гэты раз паслухаўся жонку — наняў добрую ахову, не пашкадаваў грошай. Яно і зразумела — рабаўнікі шнырылі па дарогах, а за ім, гандляром, не выключана, што і сачылі. Таму ўсё рабіў скрытна, папярэдзіў людзей, каб нікому чужому не распавядалі, куды шлях трымаюць.

На першым часе ўсё складвалася ўдала. Ехалі спорна, нішто не замінала. Возчыкі ды ахоўнікі былі вопытнымі, сваю справу ведалі выдатна. Мазыр павесялеў. Заставалася яшчэ пару сутак, і там ужо выбіваліся на прастор. Там ужо ніякія рабаўнікі не адважыліся б напасці ў адкрытую. Толькі самае горшае якраз і здарылася ў тыя, апошнія, суткі. Глыбокай ноччу, калі стомленыя людзі спалі, акрамя нешматлікіх вартавых, на абоз напалі рабаўнікі. Што тут

пачалося! Мітусня, сеча, дзе хто — дакладна невядома. Мазыр, той цікаваў, каб жонка з дачкой былі пад надзейнай аховай, таму папрасіў старога воя:

— Не адыходзь ад гэтага воза. Там і без цябе ўправяцца. А я пагляджу, што навокал робіцца.

— Добра, гаспадар.

Мазыр пабег у галаву абоза, дзе ішла адчайная бітва, і ўзрадаваўся — ягоныя ахоўнікі перамагалі.

Гандляр закрычаў:

— Будзеце ведаць, як лезці!

Разбойнікі пабеглі, адстрэльваючыся з лукаў. І трэба ж было, каб адна з выпадковых стрэл трапіла ў ягоную жонку: Мазыр прыбег, каб паведаміць ёй радасную навіну, што можна смела рухацца далей, але яна яго ўжо не чула. Многае тады страціў Мазыр, але найбольш пакутаваў, што загінула жонка.

З таго дня Мазыр сам гадаваў сваю дачушку. Глядзеў за ёю, нічога не шкадаваў. А як радаваўся, калі яна пачала вымаўляць першыя словы! Усіх суседзяў паіў, нібы на найвялікшае свята. То і тыя сталі да яўрэя па-добраму адносіцца, дапамагалі чым маглі, а ён ім падкідваў то якіх тавараў, то яшчэ чаго. Не драў тры цаны, уступаў танней, а то і зусім дарыў, ды яшчэ і прымаўляў пры гэтым:

— Я не такое багацце страціў... Не такое... Каб вы ведалі, як мне цяжка было... Толькі дзякуючы вам і выкараскаўся...

Час ішоў, дачка расла як на дражджах і стала прывабнай дзяўчынай. Але Мазыра бянтэжыла тое, што дачка не адбівалася ад хлопцаў, а з задавальненнем лезла ў абдымкі. Паскардзіўся ён неяк суседу, а той, асабліва не задумваючыся, вазьмі ды і ляпні:

— Чаго ж тут здзіўляцца? Нездарма ж, відаць, гавораць, што ўсе яўрэйкі надта кахацца любяць.

— Ты ўжо скажаш!

— Ты ж бачыш, што твая Сара хаваецца з хлопцамі па гумнах. Што яна там, у хованкі, можа, гуляе?

— Ды...

— Глядзі, Мазыр, і апамятацца не паспееш, як дзедам цябе зробіць.

— Я ж нават і не думаў... Спадзяваўся, што проста жартуе.

— Глядзі, сусед, бо ад падобных жартаў такі жывот надзьме праз пару месяцаў, што і ў дзверы не пралезе. Глядзі за Сарай.

З таго часу Мазыр з Сары вачэй не спускаў. Куды сам ехаў, туды з сабой і дачку браў. Тая выкручвалася:

— Тата, [redacted] стамілася. Можна, [redacted] дома пасяджу, адпачну. Тут мае сяброўкі...

— І сябры, — дадаваў бацька і катэгарычна заяўляў: паедзеш са мной — і ўсё на гэтым.

Не дапамагалі ні просьбы, ні шчырыя маленні, Мазыр быў няўмольным.

Аднаго разу сабраўся ён ехаць некуды ажно пад слаўны Кіеў і загадзя Сары паведаміў:

— Збірайся, каб потым не казала, што ўпершыню чуеш.

Тая незадаволена хмыкнула, але выканала бацькоўскі загад. Ехалі яны не дзень і не два і прыехалі да шырокай рэчкі — да Прыпяці. Супыніліся адпачыць, каб з раніцы пераправіцца і рушыць далей.

Сонейка толькі ўзышло над верхавінамі дрэў, а гаспадар ужо прыспешваў слуг:

— Давайце, давайце... Далей, далей трэба... Час — гэта ж грошы...

Паспешлівасць гэтая і прывяла да бяды. Пярэдні човен ад нечага хіснуўся, і ўсе, хто там быў, апынуліся ў вадзе.

— Сара, дачушка! — загарлаў Мазыр.

Але крыкі не дапамаглі, праз пару імгненняў на паверхні ўжо нікога не было. Загаласіў тады гандляр, але нічога нельга было паправіць. Не аддала рака дачку назад. Але і Мазыр не паехаў далей з гэтага месца. Загадаў пабудаваць сабе жыллё і застаўся ў ім жыць. Вось з тае раніцы тут і ўзнікла невялічкае паселішча — Мазыр.

## ГУРЫНЫ

Жыў некалі ў нашай мясцовасці адзін музыка. Дужа знакаміты быў, бо іграў так, што і бязногі мог пусціцца ў скокі. Як пацягне смыком па струнах, як запяе ягоная скрыпачка, то, здавалася, нябесныя сілы дапамагалі яму выцінаць на інструменце. Пра яго так і казалі:

— Такі талент можа быць чалавеку дадзены толькі ад нараджэння.

— Не іначай.

— Слухаеш другога скрыпача — не тое. Нават калі сумнае што зайграюць, то ўсё роўна за сэрца дужа не кранае.

— Такога музыку на вяселле паклікаць, то потым госці да самай смерці згадваць будуць.

Звалі скрыпача Гурый, ці, па-іншаму, — Рыгорам. Здаравенны дужа быў. Многія не верылі, што такія пальцы, тоўстыя, як агуркі, могуць так хутка і спрытна перабіраць па струнах.

— А вось пачакайце, не спяшайцеся казаць абы-што. Пачуеце, то самі і пераканаецеся.

— Яму горы варочаць, а не на скрыпачцы іграць.

— Калі трэба, то і горы варочае, але і на інструменце весялосць наганяе.

— Можа, у яго якая нячыстая сіла ўсялілася? — са страхам дапытваліся некаторыя з вяскоўцаў.

— Хто ж яго ведае. Хіба такое дакажаш?

— Ці ўбачыш, як гэта робіцца?

— Ведама ж, лепей пра такое не гаварыць, бо яшчэ і нас якія нячысцікі на сябе працаваць прымусяць.

Азірнуліся па баках, павёўшы плячыма:

— Што ні кажыце, а справа тут надзвычай таямнічая.

— Ды яшчэ якая. Без нячысцікаў, відаць, не абышлося.

Гурый здагадваўся, што пра яго людзі гаварылі, і толькі пасміхваўся ў сваю густую, як у лесавіка, бараду:

— Вось жа наплятуць... Во ў каго языкі свярбяць... Любога з нячысцікамі звядуць, абы толькі чым вылучаўся...

Вяскоўцы гаварыць гаварылі, а калі патрэба наспявала, то адразу беглі да музыкі:

— Выручай, братка.

Той добра ведаў, хто што пра яго гаманіў, таму не спяшаўся пагаджацца, прыдумваў розныя адгаворкі, але ў рэшце рэшт пагаджаўся.

Сам іграць асабліва не парываўся, каб не гаварылі, што напрошваецца. А багацеям дык і ўвогуле адмаўляўся. Так і гаварыў:

— Нешта ў мяне са здароўем дрэнна, таму шукайце другога музыку.

— Мы табе многа заплацім.

— Не, не хачу ні платы, ні абяцанняў. Не магу — і ўсё на тым. І не хадзіце да мяне. За вашу плату вы любога музыку да сябе сасватаеце.

Скрыгаталі зубамі мясцовыя багачы, распрацоўвалі розныя планы помсты і здзейснілі-такі задуманае.

Аднаго разу, а было гэта позняй восенню, падляцеў да падворка Гурыя вазок. Выскачыў адтуль хлопец і ўподбежкі прыпусціў да хаціны. Ускочыў на ганак і адтуль ужо загукаў:

— Дзядзька, ці не выручыце?!

— А што такое?
— Вяселле ў нас.
— Толькі і тае бяды?
— Але ж я з бацькамі заклаўся, што толькі вы ў нас іграць на вяселлі будзеце!
— Навошта так было рабіць?
— Хацеў пахваліцца, што ўпрашу вас!
— А калі не ўпросіш, тады што?
— Рукі на сябе накладу, але не прайграю!
— Вось ты які катэгарычны... А чый жа ты будзеш?
Пачаў хлапчына распавядаць, у чыёй сям'і будзе вяселле, але як ні спрабаваў Гурый дайсці да толку, тых людзей ён не ведаў, таму і пагадзіўся:
— Зараз паедзем, [redacted] толькі жонцы скажу, што да чаго і калі мяне назад чакаць.
— Вы не хвалюйцеся, дзядзька, мы вас і назад на сваім кані прывязём.
— Я і прыду.
— Чаго ўжо там. Вы нас выручце, а мы падкінем, галоўнае, каб вяселле пагадзіліся сыграць!
— То [redacted] ж ужо даў згоду.
Пайшоў у хаціну, узяў скрыпку, пераапрануўся, сказаў жонцы, што праз пару дзён вернецца, і выйшаў да вазка. Як віхура панесла седакоў парка коней, толькі калёсы заляскацелі звонка-гулка па ўмёрзлай дарозе. Не падумаў Гурый, куды едзе, і трапіў у пастку. Аказваецца, вось што з ім зрабілі. Адзін багаты хутаранец, якога ён не ведаў, паслаў да яго свайго сына. Сам жа з хаўруснікамі дамовіўся апаіць чорным зеллем скрыпача, каб той болей не жыў ужо на гэтым свеце, не смяяўся з багацейшых за сябе.
Як задумалі — так і зрабілі. Толькі прыехаў Гурый, яму і ачомацца не далі — адразу за стол пацягнулі. Нібы самаму ганароваму госцю, чарку-другую налілі, ён і выпіў, бо не ведаў жа, што там чорнае зелле падмешана. Як лыкнуў, то і пайшло ў сярэдзіне ўсё пячы. Другі за пару хвілін сканаў бы, [redacted] Гурый магутны быў, доўга пакутаваў, качаўся. Спалохаліся гаспадары, што ў іх памерлага знойдуць, і загадалі сыну везці яго далей ад дому і скінуць на лясной дарозе. Той так і зрабіў. На паміраючага чалавека выбіліся падарожныя. Ён толькі і паспеў прашаптаць ім:
— Шукайце дарогу да маёй хаціны.
— А да каго?
— Да Гурыны.
Так ён, аказваецца, сваю жонку называў. Але не вы-

ратавалі яго падарожныя, хоць і надта стараліся, на самаробных насілках неслі магутнае цела да названай хаты. Прынеслі, а Гурый ўжо сканаў. Тады вось і стала вёска наша Гурыны.

## ЗАГАРАНЫ

Жыў дзед з бабай. Была ў таго дзеда ўнучка, і ў бабы ўнучка таксама. Так ужо здарылася, што гэтыя гаспадары пабраліся ў сталым узросце, калі іхнія родныя ўсе памерлі. Дамовіліся разам жыць. Разам і працаваць весялей, і адпачываць. І ўнучкам выгода ёсць — удваіх гуляцца будуць.

— Падрастуць, то і нас дагледзяць.

— І тое праўда. Будзем гадаваць іх шчырымі ды спагадлівымі.

— Каб людзям спачувалі, каб бедным ды слабым дапамагалі. Тады і іх паважаць стануць.

Так яны дамаўляліся, калі сыходзіліся. Старая паставіла ўмову, што жыць будуць у хаціне дзедавай, а жывёлу трымаць у яе хляве, бо ўсё ж па суседству было. Гаспадар падумаў, падумаў і пагадзіўся.

А ў таго дзеда была дужа добрая кароўка. Малака давала, што на дваіх іх хапала ды яшчэ і заставалася. І да харчоў тая жывёліна была непераборлівая — ела што траплялася, з пашы прыходзіла не галодная. Людзі зайздросцілі:

— Во гэта жывёліна! Прадай, дзедку.

— Не, — адмахваўся той.

— Ты ж хутка не здольны будзеш яе пракарміць.

— Я не пракармлю, дык унучка рады дасць. Неяк справімся, — усміхаўся ў адказ стары. Ён унучцы слова даў, што кароўку збываць не будзе.

Малая так хораша прылаўчылася даіць яе, што і дарослая гэтак не зрабіла б. Кароўка сабе стаіць, пераЖоўвае дзённую ежу, а ўнучка доіць і, часам здавалася, пра нешта з жывёлінай размаўляе. Стары пра гэта пакуль што нікому не распавядаў, а ў малой неяк запытаўся:

— Як наша кароўка?

— Добра.

— Але ж...

— Усё добра, дзядуля, толькі мне чуецца, быццам бы ты яе хочаш некаму аддаць?..

Стары пачаў пераконваць унучку ў адваротным, але тая не паддавалася:

— Не, [illegible] сэрцам чую.

Пачуўшы такія словы, гаспадар вырашыў больш не таіцца ад малой:

— Ведаеш што?..

— Гавары, дзядуля, чаго ты замоўк?

— З заўтрашняга дня мы будзем жыць не адны.

— І хто ж да нас прыйдзе?

— Суседка з унучкай.

— Навошта ты так робіш, дзядуля?

Гаспадар не змог адразу адказаць. Тое, што яму будзе лягчэй, гучала б смешна. Не ведаў, як выкруціцца, а ўнучка чакала адказу.

— Разумееш, так атрымалася...

— Але ж гэта вельмі благая старая!

— Адкуль ты ведаеш?

— А хіба ты ніводнага разу не чуў, што пра яе людзі гамоняць?

— Чуў.

— То чаму тады так зрабіў? Пакуль не позна, то адумайся, бо потым акажацца, што наша нажытае стане чужым, а нам і месца ў сваёй хаціне не стане.

— Кінь дурное, малеча!

— Гэта не дурное, бо такое можа здарыцца.

— Не, не будзе такога!

— Пабачыш.

— Ну, і пабачу! — стары ўжо пачаў злавацца, што малая вучыць яго жыццю.

— Дзядуля, міленькі, я цябе прашу.

— Не перажывай, табе ж лягчэй будзе. Гаспадыня ў хаце з'явіцца, парадак будзе, а табе — сяброўка гуляцца, не будзеш сумаваць ды пазіраць у акенца.

— Хіба мы з табой толькі сядзелі, сумавалі ды ў акенца пазіралі? Хіба мы працу не рабілі? Хіба не спраўляліся?

— Ат, адчапіся!

Зазлаваліся яны абое, так і спаць палеглі, а раніцай дзед пабег пераганяць жывёлу ў чужы хлеў. Нічога, што ўдваіх з малой жыў, але, акрамя каровы, яшчэ і кабанчыка трымаў, і пару авечак, і коніка, ды некалькі курэй і гусей. Як ён гнаў усю жыўнасць у чужы хлеў, то ўнучка галасіла, нібы па нябожчыку.

Зажылі ў адной хаціне. Стары хутка зразумеў, што ўнучка мела рацыю. Старая не працавала — ленавалася, ляжала і ўставала толькі, каб паесці, і ўнучцы сваёй працаваць не дазваляла. А чуць што якое, дык прыкрыквала:

— І самі ўправіцеся!

— Але ж... — падаваў голас гаспадар.

— Не хочаш, то мы дамоў вернемся, а вы тут пакутуйце!

Дзед не хацеў сварыцца і даваць падставы людзям смяяцца з ягонага своеасаблівага прымакоўства, таму трываў. Але і гэта нядоўга працягвалася, бо аднаго разу гаспадыня закамандавала:

— Не хачу з табой жыць!

— То аддавай маю скаціну! — узарваўся гаспадар.

— А дзе яна?

— У тваім хляве.

— У маім хляве — мая жывёла, а тваёй там і не пахне!

Ноччу, каб не бачылі аднавяскоўцы, гаспадар разбудзіў унучку:

— Пойдзем, міленькая. Пакуль яны спяць, сваю жывёлу выпусцім і падамося ў іншае месца.

— А хатка наша?

— Новую збудуем.

— А дзе ж жыць будзем?

— За гарой, там у мяне добрае ляда ёсць. Пару гадоў не ездзіў туды, а цяпер у самы час падавацца на той надзел.

Там і зажылі, так і назвалі тое невялічкае паселішча Загараны, што значыцца — за гарой. Вось такая гісторыя.

## ЗІМОВІШЧЫ

У нас даўней надта ліхі пан жыў. Вось як уздумае што, то так абавязкова і зробіць. Нікога не паслухае, нікога не пашкадуе, як ты ні прасіся, як ты ні маліся. Толькі загарлае:

— Выконвай!

— Але ж, паночку...

— Што табе, галгане, не зразумела?

— Я ўсё выканаю, паночку, толькі крыху пачакайце, не магу зараз з хаты ісці.

— А мне якая да ўсяго гэтага справа?

— Паночку, пашкадуй!

— Гэй, слуга, дзе ты там зашыўся?!

— Я тут, ваша светласць, — бубнеў здаравіла-гайдук і рабіў пару крокаў наперад, засцячы сваёй магутнай пастаццю святло.

— Не трэба, паночку, біць, — прасіўся вясковец. — Я выканаю загад.

— Бачыш, адразу паразумнеў.

Селянін, выскачыўшы з палаца, залівауся горкімі слязьмі ды пытаўся ў першага сустрэчнага:

— Чаму ў мяне такая доля ліхая?

— Ды не толькі ў цябе, братка.

— Але ж пан мяне пасылае выконваць заданне, якое магло б і пачакаць, — прывезці пару вазоў гліны.

— То прывязі.

— А ведаеш, адкуль ён тую гліну загадаў прывезці?

— Ну?

— Туды ў адзін толькі канец трэба тыдзень добры пхацца, а назад?..

— Слухай, а хіба ён сачыць будзе, адкуль ты прывёз?

— Аняго ж.

— Рабі сваю справу, на вочы яму не трапляйся, а гліну з нашага копішча прывязі. Каб яму на гэтым свеце блага было, [redacted] на тым яшчэ горай!

— І так зрабіць можна, але баюся, што хто-небудзь данясе. Уяўляеш, што тады будзе?

— Так, але іншага выйсця ў цябе няма. Жыта тваё загіне, калі ў час яго не даглядзіш. Потым давядзецца цэлы год, да будучага ўраджаю, галадаць.

— Таму і пла́чу.

Здаралася, што сяляне абводзілі вакол пальца памешчыка, але часцей выходзіла наадварот: нехта ўслужлівы даводзіў гаспадару, што да чаго, і тады трашчалі мужыцкія скуры, вылі вяскоўцы не сваімі галасамі, а памешчык заходзіўся:

— Будзеце ведаць, як са мной такія жарты жартаваць!

— Паночку, пашкадуй.

— Не, не будзе вам майго шкадавання! Ніколі не будзе! Калі па-добраму, то па-добраму, а калі вы ўжо так вырашылі, то і будзе вам за тое!

Каб не забілі гайдукі, сяляне кідаліся ў ногі гаспадару:

— Паночку, родненькі, пашкадуй.

— А не будзеце болей?

— Не.

— Слова даяце?

— Так.

— Не веру.

— Што ж нам зрабіць, каб ты паверыў?

— Кляніцеся.

— Чым?

— Зямлёй

Людзі ведалі, што клятва зямлёй самая святая, самая цвёрдая і ўрачыстая і што яе ніколі нельга парушаць. Не выканаеш таго, што паабяцаў, не стрымаеш слова, то абрынецца на цябе самога і на тваю сям'ю страшнае пакаранне, ды не на адно пакаленне, а ажно да дзесятага калена. Вось і круціся тут.

Пакруцяцца, пераглянуцца паміж сабой сяляне і дадуць згоду.

Так памешчык дабіўся таго, што вяскоўцы вымушаны былі беспярэчна выконваць ягоныя загады. Пасмейваўся пан:

— Даскакаліся!

Мужыкі яму ў адказ:

— Паночку, ты нас так ужо не прыціскай.

— Самі ж слова давалі! То і трымайце яго!

— Мы трымаем, але просім, каб надта нас не ціснуў, даў магчымасць і гаспадаркі нашы да ладу прывесці, і з сем'ямі хоць крыху пабыць. Дзеці малыя нас амаль не бачаць.

— Нічога, гэта не так страшна. Што там на дзяцей увагу звяртаць? Галоўнае, каб у мяне справы добра ішлі!

— То мы ж стараемся.

— Ведаю, як вы стараецеся! Адно гаворыце, а іншае робіце!

— Што ты кажаш?! Мы ж зямлёй кляліся!

Памешчык усміхаўся, абяцаў даць невялікую паслабку, а сам адыходзіўся да прыбліжаных і загадваў не даваць сялянам спуску, сачыць пільна.

А аднаго разу памешчык такое выдумаў, што да гэтага часу людзі памятаюць. Ніхто да такога не дадумаўся б. Выклікаў ён усіх гаспадароў са сваёй вёскі і загадаў:

— Паедзеце ў лес секчы бярвенні.

— Але ж, паночку... Калядныя ж дні пачынаюцца...

— Вось на Каляды і едзьце!

— Грэх жа гэта! Нельга ў такое вялікае свята працаваць.

— Мне нельга, а вам можна! І глядзіце, вы слова далі!

Выйшлі людзі ад пана, не ведаюць, пра што і гаманіць. І тут адзін стары дзед кажа:

— Паехалі хутчэй, з ягоных вачэй прэч.

Заехалі ў лес, а той дзед далей камандуе:

— Назад не вернемся. Зашыемся ў такую глуш, што ніякі чорт не знойдзе! Сем'і потым перавязём, а пакуль самі жыць станем. Хто не хоча, той няхай назад вяртаецца, а я хоць перад смерцю жыць па-людску хачу.

— А ў чым жыць?

— Зімовішчы сабе пабудуем.

Так і з'явілася, з таго самага часу, новае паселішча — Зімовішчы.

## ЛЕШНЯ

Жыла-была некалі адна баба. Шкадлівая ўрадзілася, што той благі кот, якога ўсе хвошчуць. Звалі тую жанчыну Алена. Замуж яна выйшла, як і ўсе, і вось дзяцей ў яе з мужам не было, бо, як жартавалі аднавяскоўцы, яна са сваім чалавекам і ноччу на палку сварылася. У каго яна такая ўрадзілася — і сказаць цяжка, бо родныя яе былі шчырымі ды спагадлівымі людзьмі. Але ж, як гавораць, калі цялятка з лысінкай народзіцца, то яно з лысінкай і памрэ.

Прыйдзе гаспадар з працы, ледзьве ногі пераstaўляе ад стомы, дый гаворыць, як звычайна ўсе робяць:

— Жонка, стаў есці!

А тая яму ў адказ:

— І я ела б, каб хто паставіў!

— Ты ж дома была, а я ў полі шчыраваў.

— Ну і што з таго?

— Дык есці ж, як плакаць, хачу.

— Вось і паплач!

Гаспадар ужо ледзьве трымаецца, каб не ўхапіць у рукі што ды не правучыць як мае быць ліхую жанчыну. Толькі прамаўляе, сцяўшы зубы:

— Ну і лешня! Ну і лешня!

— Сам такі! — дае здачы жонка.

— Памаўчы, бо зараз атрымаеш! Усе добра ведаюць, якая ты ў мяне гаспадыня.

— А ты? Добрага слова пра мяне ніколі не сказаў.

— Якое ж ласкавае ды прыемнае слова скажаш, калі ты на мяне чортам кідаешся?

— Сам чорт!

— Вось бачыш.

— Не чапай мяне, то і я цябе не зачаплю!

— Але ж ты павінна мужу есці хоць раз за дзень наварыць.

— Не абавязана я!

— Эх ты, лешня! І ў каго такая?

— У бацьку з маткай!

— Ты хоць сваіх родных не ганьбуй, яны ў цябе людзі

шчырыя і працавітыя, супраць іх я нічога не маю! — бурчэў муж ды галодны лез на палок, бо раніцай жа зноў трэба было кіраваць у поле. А што дурной жонцы дакажаш, калі яна нічога і слухаць не жадае? Так вось і жыў-пакутаваў гаспадар.

Часам наведваліся Аленіны бацькі, сарамацілі яе, але тая і ім не паддавалася:

— Чаго вы сюды прыперліся?

— Як ты сваіх бацькоў сустракаеш, дачка?

— Як вы да мяне адносіцеся, так я вас і сустракаю!

— А ты хацела, каб мы лайдачцы на грудзі кідаліся, каб ганарыліся ёю?

— То няма чаго і прыходзіць!

— Гэта не твая хаціна, а нашага зяця.

— Вось з ім і мілуйцеся.

— Як жа табе не сорамна? Мы ўвогуле не разумеем, чаму ён цябе да гэтага часу яшчэ не выгнаў?

— Самі прэч пайшлі, каб і нагі вашай болей тут не было!

— Ты лепей ідзі, а мы пасядзім, зяця пачакаем. Мы яго адведаць прыйшлі!

Прысунецца з поля ці з луга гаспадар, убачыць, што госці ў хаце, і рукамі развядзе:

— Каб ведаў, што вы прыйдзеце, то нешта прыгатаваў бы, а то ж бачыце — працаваць хадзіў, а на жонку слабая надзея.

— Як жа ты з ёю трымаешся, сынку? — дапытваліся жончыны бацькі.

— Вось так і б'юся, як тая рыба ў палонцы, калі прыдушыць і паветра не хапае.

— Ой, блага ж гэта!

— А што рабіць?

— То прачуханца добрага задаў бы, яна і прысмірэла б.

— А калі не?

— Гані тады прэч, няма чаго пакутаваць!

— Вам лёгка сказаць... Лешняй нарадзілася, лешняй і памрэ, мне яе не перавыхаваць!

— Яшчэ як перавыхаваеш, сынку, — прагаварыла цешча, якая да гэтага часу маўчала. — Мы і тут, і дома седзячы меркавалі, як табе сваю жонку ад чортавай хваробы пазбавіць, і прыдумалі вось што. Прыйдзе яна дамоў, а ты яе гані прэч! Не бойся, не пускай на парог — і ўсё на тым! Няхай за галаву крыху бярэцца!

— Але ж...

— Не шкадуй! Мы табе на гэта дазвол даём! Калі лешня не выпраўляецца сама, то мы яе выправім.

Прагаварылі доўга, усё раіліся, усё нешта меркавалі. Ужо прыцямнела, калі задаволеныя цесць з цешчай пайшлі ад зяця. Ідуць і перамаўляюцца:

— Толькі б ён не перадумаў нашу дурніцу правучыць.

— Не перадумае, бо яна ўжо яму на галаву села.

Прыйшла Алена дамоў глыбокай ноччу, а муж піхануў яе ў грудзі рукой і кажа:

— Пайшла прэч, болей ты мне не патрэбна!

Падалася ліхая жанчына ад хаціны, і перастрэлі яе нейкія здані. Пачалі яе лупцаваць і дапытвацца:

— Будзеш з мужа здзекавацца?

— Будзеш сварыцца?

— Будзеш слухацца?

Спалохалася жанчына, што забіць могуць, і заверашчала нема:

— Не буду! Не буду!

З таго вечара стала жанчына як жанчына, хоць ты яе другі раз замуж аддавай. Але тая мянушка — Лешня — за ёй да смерці засталася. Так і ўзнікла вёска з аднайменнай назвай.

## МАХНАВІЧЫ

Здарылася гэтая гісторыя даўнавата. Праўда, памятаюць пра яе да нашых дзён. А атрымалася вось што.

Жыў у нас чалавек. Звалі яго Сідарам. Так сабе гаспадар быў, але вылучаўся здаравенным целаскладам і тым, што ўвесь быў зарослы густой поўсцю. Вяскоўцы пасмейваліся з яго, кпілі:

— І як яго тая жонка трывае?

— А што жонка?

— Яго ж калі ўвечары ці ноччу ўбачыш, то можна налякацца.

— Такі здаравіла, [illegible] яшчэ аброслы. Як нячысцік!

— Ну, так, відаць, не трэба гаварыць.

— Чаму?

— Ніхто ж не бачыў, каб ён з нячыстай сілай знаўся, няма чаго на чалавека дарма плявузгаць.

— Так, тым болей, што Сідар чалавек памяркоўны, шчыры, ніколі ў дапамозе не адмаўляў.

— А вазьміце нашы жарты...
— Сапраўды, іншы раззлаваўся б ды надаваў некаторым у каршэнь!
— Тым болей, што і здароўя ў чалавека хапае!
— А гэты яшчэ разам з намі і жартуе.
— І ўсё роўна — такі махнач, якіх мала ў нашым краі!
— Можа, адзін такі і ёсць!
Так пра Сідара людзі казалі. Ён і сам не супраць быў пажартаваць. Вось збяруцца вяскоўцы і пачынаюць:
— Ну што, з усяго здаецца, пасмяяліся, няма з чаго болей і зубы паскаліць.
То адразу ж знаходзіўся Сідар:
— Чаму гэта няма? А з мяне?
Так і прызвычаіліся: няма пра што гаворку весці, давайце пра Сідара.
— То няма ж чаго новага і прыгадаць...
— Няхай хіба сам распавядзе што цікавае?
Сідар, акрамя таго што спраўна вёў гаспадарку, трымаў яшчэ сваю кузню. Нельга было сказаць, што каваў ужо так адмыслова ды непараўнальна, але рэчы першай неабходнасці рабіў трывалыя і надзейныя. Таму да яго часта і з такой нагоды звярталіся.
Аднаго разу Сідару нехта замовіў выкаваць нарог. А часіна якраз была такая, што трэба араць і заказ той не трываў адкладу. Не хацелася гаспадару ўставаць на досвітку, але ж і чалавека падводзіць не жадаў. Неяк устаў і падаўся да кузні. Раздзьмуў агонь, паклаў кавалак жалеза, і тут яму падалося, што за ім пільна сочаць нечыя вочы. Акінуўся, але нікога не заўважыў. Стаіць, молатам пастуквае ад нецярплівасці, а погляд той так і свідруе яму спіну. Азірнуўся зноў і заўважыў нейкую істоту. Таксама лахматую надзіва, з вушкамі, з рожкамі і з доўгім хвастом. Другі б перапужаўся ды закрычаў, а каваль узяў у свае здаравенныя рукі тую істоту дый гаворыць:
— Ты хто?
— Я? Чорт!
— І чаго ты забраўся да мяне?
— Хачу паглядзець, чым ты тут займацца будзеш?
— Вунь яно што? Ды хачу падмаладзіцца, пагаліцца, бо зарос жа, ніхто не пазнае. Але не жадаю, каб хто быў сведкай і даведаўся пра мой сакрэт.
— А што, такі ёсць?
— Канешне.
— То і я хачу маладзейшым стаць.

— Тут ёсць адна загваздка.

— Якая?

— Я бяру за гэта золатам.

— Мяне такая ўмова не палохае. У нас, чарцей, яго, ведаеш, колькі?

— Ну?

— Мне лепей, каб вас болей назбіралася. Тады я усім паказаў бы сакрэт амаладжэння і вы не хадзілі б за мной, ды і заплаціць давялося б толькі раз.

— Згода. То я і сваіх родных прывяду? — завішчэў чорт.

— Вядзі не толькі родных, але і знаёмых таксама.

Узрадаваны чорт паджгаў да свайго балота, а каваль стаў абдумваць далейшыя дзеянні. Неўзабаве чарцей наляталася, можа, сотня, і ўсе перліся да дзвярэй. Гаспадар выйшаў і запрапанаваў:

— Залазьце ў кузню, а я дзверы добра зачыню, каб ніхто староні не ўбачыў ды наш сакрэт не раскрыў.

— Ведама ж.

— А ў каго золата?

— Вунь яно ў мяшэчку.

Сідар падкінуў той мяшэчак у руцэ і прамовіў:

— Малавата. Думаеце, мне так лёгка будзе вас амаладзіць?

— То зараз яшчэ падкінем.

На другі раз гаспадар застаўся задаволены і тут жа запытаўся:

— Ну, хто першы?

Першым вызваўся здаравенны чорт. Сідар прывязаў яго старанна да таўшчэразнай калоды, якая стаяла на падлозе, узяў крывы, вызубраны серп і сказаў:

— Трымайся!

Як стаў драць тым сярпом, то чорт месца сабе не знаходзіў, але не хацеў, каб падначаленыя бачылі, як ён плача, і каб не чулі, як крычыць. Першы вытрымаў, і ледзьве жывога яго паклалі пад сцяну. Сеў другі. Каваль ужо не папярэджваў, а як пацягнуў сярпом, то той завыў так, што, здавалася, нават зямля ўздрыганулася:

— Уцякайце, браткі! Уцякайце!

А куды ўцякаць, калі дзверы зачынены? Каваль давай нячысцікаў дубасіць, то яны страху прадралі ды лататы задалі. Па дарозе кустоўе павыломвалі, узгоркі паразорвалі. Потым людзі смяяліся:

— Гэта ад нашага махнача махнавічы ўцякалі!

Вось адкуль нашы Махнавічы паўсталі.



# НАРОЎЛЯ

Адбылося гэта ў надзвычай старадаўнія часы, калі нашы продкі яшчэ, можа, язычніцкім багам пакланяліся, а таксама верылі свята ў тое, што ўсе праклёны ды намовы абавязкова спраўдзяцца — калі не ў адным пакаленні, то ў наступным немінуча. Так і гаварылі, што, маўляў, нельга нікога заклінаць ці праклінаць, бо такі чалавек ужо не выжыве, а калі і выкараскаецца, то страціць магчымасць жыць сярод людзей.

Каб жа толькі гаварылі, а то і прыклады прыводзілі, паводле якіх вынікала, што некаторых людзей звяло з белага свету нейкае чорнае жаданне злых чараўнікоў ці чараўніц. Так і ў нашым выпадку адбылося.

Жыў тут недзе надта багаты чалавек, якога ўсе звалі не іначай як Марка. Такі ўжо заможны ды хітры быў, што другога такога, каб нават хацеў, то не знайшоў бы. Часам пыталіся ў яго людзі:

— Марка, ці многа каштоўнасцей маеш?

— Ды і сам не ведаю, — адказваў той.

— Добра табе.

— Чаму?

— Усё ёсць.

— Няхай і ў вас будзе.

— Дзякуй на добрым слове. Толькі мы каб і хацелі, у нас так, як у цябе, усё роўна не атрымаецца.

— Сапраўды, тут галава патрэбна, каб прадумаць, памеркаваць наперад.

— Мы і думаем, і разважаем, а нічога не атрымліваецца, — шкадавалі сяляне.

— Значыцца, слаба стараецеся. Калі б добра галовы свае ўключылі, то атрымалася б.

Трэба сказаць, што Марка хоць і быў багатым, але ніколі не губляў чалавечага аблічча. Калі хто звяртаўся за парадай ці дапамогай, то не адварочваўся, не адмахваўся, а стараўся дапамагчы, каб атрымалася як мага лепей. Таму і не дзічыліся яго людзі, таму і лічылі сваім, хоць, ведама ж, не забываліся, якія грошы ды каштоўнасці мае чалавек.

Марка займаўся гандлярствам. Ганяў спачатку плыты сам, а потым, калі разжыўся ды адчуў, што сам можа і адпачыць, то стаў наймаць шматлікіх работнікаў. Плаціў ім добра, і тыя, адпаведна, шчыравалі на яго не шкадуючы сіл. Толькі і гаварылі пра свайго гаспадара:

— Каб у яго ўсё атрымлівалася!

— Каб яму ва ўсялякай справе шанцавала!

— Каб жыў сто гадоў!

— Калі такі чалавек сярод нас жыве, то і нам будзе да каго прыхінуцца!

Ведаў пра такія размовы Марка, і як толькі якое свята выпадала ці проста аднавяскоўцы збіраліся разам, каб адпачыць, то абавязкова загадваў:

— Вынесьце людзям віна зялёнага, няхай вып'юць па кілішку-другім.

Здаецца, усе падставы былі ў чалавека, каб радавацца жыццю, ды ў жыцці якраз яму не надта і шанцавала. Так атрымалася, што рана страціў жонку. Кахаў яе, душы не чуў, ды не збярог. Раптоўна захварэла і ўсяго пару тыдняў і паляжала. Як ні стараўся Марка, каго толькі ні запрашаў да хворай, каб дапамаглі, — усё было марна. Аднавяскоўцы дапамагалі, падказвалі пра тых, хто хоць крышку нейкія травы ведаў ды некага некалі лекаваў. Усіх вялі да двара багатага гандляра. Толькі як ні шапталі, што ні давалі піць, чым ні націралі хворую, той не станавілася лягчэй, яна ўсё болей і болей высыхала.

Аднаго разу, калі чарговы вяшчун адышоў з хаціны, жанчына раптоўна застагнала, а потым зусім звонкім, як і раней, голасам пазвала:

— Марка!

— Ну? — падскочыў той.

— Ты тут? А я думала, мо недзе ў дарозе?

— Ды ты што?

— Раней ты пастаянна па шляхах-дарогах ездзіў-насіўся і зусім мала бываў дома.

— То раней. А зараз хаціну не пакідаю.

— Усё з-за мяне?

— І з-за цябе таксама.

— Ты не хвалюйся, хутка я табе развяжу рукі.

— Што гэта ты гаворыш? Кінь дурное, бо ў нас грошай да канца жыцця нашага хопіць, нават калі я болей рамяством не буду займацца.

— Займайся, ты ж дома не выседзіш, я ведаю твой характар.

— Ты толькі папраўляйся, то я болей з дому і на дзень не паеду.

— Не папраўлюся, даражэнькі, бо ўжо смерць стаіць ля мае галавы.

— Не кажы так. Жыві доўга, папраўляйся.

— Не перашкаджай мне, чалавеча, гаварыць. Мала ў мяне часу засталося, таму хачу сказаць табе нешта надзвычай важнае. Пакліч сюды нашую дачушку.

Праз нейкіх пару хвілін Марка ўвёў у хаціну дзяўчынку, якой было гадоў дзесяць-адзінаццаць, і падвёў да ложка.

— Дачушка, ты мяне чуеш? — прамовіла хворая.

— Так, мама, чую.

— Слухай мяне ўважліва. Ты тату нашага заўсёды слухайся, ні ў чым яму не супярэч. Зразумела? Ён у нас добры і дарма ні на каго не накрычаў, не насварыўся, тым болей на адзіную родную душу, якая ў яго пасля маёй смерці застанецца.

— Што ты, мама?..

— Гэта так. Слухайся і не супярэч, не давай падстаў для ўсялякіх людскіх размоў. Расці прыгожай, дужай ды вясёлай. Да людзей будзь спагадлівай, нікому ў дапамозе не адмаўляй і не пагарджай нікім, бо гэта да дабра не даводзіць. Чуеш?

— Чую.

— Глядзі ж, каб прытрымлівалася свайго слова.

— Даю табе слова ў гэтым.

— То нахіліся, і я цябе, мая дачушка, пацалую.

Малая нахілілася і заплакала.

— Ты чаго? — здзівілася матуля.

— Табе баліць?

— Не, кінь дурное, мне ўжо не баліць, а хутка зусім балець перастане. Ідзі пагуляйся, я з тваім татам пагавару.

Калі тая выйшла за парог, то хворая зноў папрасіла:

— Чуў, Марка, пра што я гаварыла?

— Чуў.

— Глядзі ж і ты за дачкой, як за зрэнкай вока, бо болей ў цябе нікога з самых родных на зямлі няма.

— Няма.

— Дай і ты мне слова, што другі раз не жэнішся, пакуль нашу дачку замуж не аддасі.

— Слова я даю, толькі ты болей такога не гавары. Яшчэ на ногі ўстанеш, вось пабачыш. Заўтра мне абяцалі нейкага вельмі разумнага траўніка прывезці. Той дзед, гавораць, нават ужо самых безнадзейных да жыцця вяртае.

— Не паспее ён, бо мая апошняя часіна ўжо ля галавы. Прашу апрануць мяне ў маю любімую вопратку. І не плач, не трэба ўбівацца. Я ведаю, што дачушку нашу ты дагледзіш, і на цябе ў мяне зла няма. Каб іншыя так жылі, як мы з табой усе гэтыя гады.

Сказала гэтыя словы, усміхнулася шчаслівая, заружавелася крышачку, і ўсё на гэтым — памерла. Спакойная, засяроджаная нейкая адразу стала.

Усё Марка так зрабіў, як жонка перад смерцю прасіла. Апранулі яе ў любімую вопратку, пахавалі на высокім пагорку, а над магілай пасадзілі маладую рабінку, каб яна кожную вясну цвіла белым цветам, а кожную восень чырванела прыгожымі ягадкамі ды на гэтым дрэўцы шчабяталі-заліваліся вясёлымі галасамі птушачкі.

Ведама ж, гандляру прыбавілася клопатаў, але ён не прызвычаіўся свае справы на чужыя плечы перакладваць. Гандлярствам займацца не кінуў, проста наняў пару разумных ды кемлівых сялян, якія, зноў жа па ягоных парадах, вялі справу, а сам найболей дома сядзеў, дачку гадаваў, вачэй з яе не зводзіў, ды па гаспадарцы займаўся. Сяляне спачувалі чуламу чалавеку і дапамагалі, калі ўзнікала тая патрэба.

Час ляцеў хутка. Неўзабаве вырасла дзяўчынка такой прыгажуняй, што ў хлапцоў дух займала, калі на яе глядзелі. Ніхто не крыўдзіў дзяўчыну, не адважваўся нават што благое пра яе сказаць. Калі які незнаёмы хлапчына язык распускаў, то яму адразу ж раілі лепей памаўчаць і дадавалі:

— Гэта Маркава дачка.

— Так бы і сказалі адразу, — даходзіла да хлапчыны, — а то памаўчы ды памаўчы.

Марка, тым не меней, багацеў. Гандлярства прыносіла

агромністыя прыбыткі, і ён укладваў грошы зноў у справу. Сваіх людзей шкадаваў, яшчэ болей стаў плаціць, і цяпер да яго з розных куткоў збягаліся сяляне ды гараджане — прасіліся на працу.

Усё, здавалася б, у яго было добра, але з кожным днём адчуваў Марка набліжэнне бяды. Стаў замкнутым, змрочным. Заўважылі гэта суседзі, падышлі і давай дапытвацца:

— Што з табой, чалавеча?

Спачатку гандляр аднекваўся, [redacted] потым падзяліўся сваімі сумненнямі:

— Нешта на душы ў мяне неспакойна.

— А што ж такое?

— Каб жа я дакладна мог адказаць. І справы ідуць, з людзьмі дзялюся, і яны мною задаволены... Але нешта не дае спакою. І што гэта можа быць?..

Пытанне павісла ў паветры. Раптам стары, бяззубы дзедка прашыпеў:

— А калі, ненарокам, з дачкой што?

— Кінь дурное, стары, — накінуліся на яго суседзі.

Невядома, чым бы скончылася справа, каб не Марка, які ўступіўся за суседа:

— Не гарлайце на чалавека, ён жа мне хацеў падказаць. І, відаць, мае рацыю...

— На самай справе? — занепакоіліся астатнія. — То трэба пільна сачыць за ёй, павялічыць ахову.

На другі дзень дачка некуды сабралася, нібы на свята. І пабегла, хаваючыся за будынкамі ды за кустоўем. Бацька ўжо ведаў, што нешта тут не тое, і не адставаў ад яе. Акрамя гэтага, добры дзесятак вяскоўцаў, узброеных на ўсялякі выпадак, імкліва крочыў за гандляром. Раптам Марка падняў руку, падаючы тым самым знак спыніцца. Людзі прыпыніліся, а Марка выйшаў з-за куста і голасна прамовіў:

— Вось ты чым тут займаешся, дачушка?

Кінуліся сяляне туды і ўбачылі, што дачка гандляра стаяла побач з багатым панічом.

— Ты ж мне абяцала, што да багатых не будзеш хінуцца, а сама вунь што вырабляеш?!

— Што хачу, тое і раблю! — горда адрэзала дачка.

— Ты як з бацькам размаўляеш?!

— Гэта мая справа! — не менш горда адказала дзяўчына. — З кім захачу, з тым і жыць буду, і не першы ён у мяне! Цябе слухаць не буду! — тупнула нагой і ажно загарэлася, так ужо разгневалася.

Але і Марка завёўся:

— Успомні, што маці-нябожчыца казала?

— І яна мне не ўказчыца!

— Ах ты, нараўлянка! Каб жа ты ручаінаю стала! — ускіпеў гандляр.

Толькі замовіў слова, як забурчала ручаінка, пацякла чысцюткая вадзіца там, дзе стаяла дачка. Схапіўся за галаву Марка, ды нічога не мог выправіць. Так і сталі тую ручаінку, якая потым у рачулку ператварылася, Нараўлянкай зваць, ад той наравістай ды непаслухмянай дачкі. Пазней на беразе рачулкі паселішча ўзнікла, то яго назвалі Нароўляй.

## БУК

Неяк жыў у нас адзін надзвычай хітры чалавек. Ледзьве што ўбачыць, то адразу ж мікіціць, як забраць гэта дамоў ды прысвоіць. А калі зацягне на свой падворак, то назад ужо ніхто не забярэ. Стане, нібы слуп, і сваё сцвярджае: «Маё!» Перасварыўся з усімі вяскоўцамі. Тыя і сарамацілі яго, і пагражалі, а той злыдзень адно — рагатаў ды пальцамі на іх паказваў:

— Вой, трымайце мяне! Трымайце! Яны мяне палохаюць! Яны мне пагражаюць!

— Смейся, смейся, пакуль не нарваўся на сваю пагібель! Тады позна будзе да нас за дапамогай звяртацца!

— Ды і хто яму дапамагаць стане?!

— Ведама ж, быў бы чалавекам добрым, то і да яго паіншаму адносіліся б, а так...

— Не трэба мне ваша паразуменне і падтрымка! — гняўліва адказваў злодзей. — Без вас абыдуся, толькі не чапайце мяне!

— Хто цябе чапаў бы, каб нашага не браў.

— Больш правільна сказаць — не краў. І не сорамна?

— Знайшлі ў каго пра сорам пытацца.

— Лепей да свінні звярнуцца, то тая што-небудзь слушнае ў адказ рохне, а гэта істота толькі вачыма плюскоча!

— Што? Да мяне прыйшлі, ды яшчэ і лаеце мяне?! — крычаў злодзей. — Маё гэта! Апошні раз вам сказаў, а вы сабе як хочаце! Прэч адсюль! Няма вам чаго тут рабіць! Маё ўсё! Маё!

І неяк жа той злыдзень на сваё нарваўся. Здарылася вось што. Ішоў аднаго разу жабрак па дарозе. Стары-стары чалавек, ледзьве ногі ад стомы перастаўляў. Толькі і

было ў яго ў думках, да каго б пераначаваць папрасіцца, а там, можа, гаспадар — добрая душа — яшчэ здагадаецца і пакорміць божага чалавека.

Той сквапны вясковец жыў якраз з таго боку паселішча, з якога падарожны паказаўся. Хата яго з краю стаяла, ды такая была старая, што жабрак падумаў, быццам бы там бедны чалавек жыве. А бедны з бедным заўсёды хутчэй паразумеецца. Таму, не доўга думаючы, пашыбаваў стары прама да парога. Спыніўся, агледзеўся і пастукаў у дзверы:

— Ці ёсць хто дома?

Панавала цішыня.

Жабрак акінуў падворак позіркам, пастукаў другі раз і запытаўся:

— Ці ёсць хто дома?

Але і на гэты раз ніхто не адказваў. Апусціў падарожны галаву і збіраўся ўжо кіраваць да суседняй хаціны, але перадумаў і пагрукаў у трэці раз:

— Ці ёсць хто дома?

З-за дзвярэй данеслася злоснае:

— Хто там калоціць?

— Гэта я.

— А хто ты?

— Падарожны.

— То што табе трэба?

— Нічога.

— Калі нічога, то прастуй далей!

— Але ж... Хацеў папрасіцца пераначаваць.

— Во, пачынаецца!

— Мне толькі пераначаваць, болей нічога не трэба.

Раней нельга было адмаўляць жабракам ды падарожным у начлезе, бо лічылася, што тады на хаціну абрынецца гора. Ведаў пра гэта і гаспадар, таму са скрыпам у голасе прамовіў:

— Ідзі сабе ў гумно, там і спі.

— Дзякуй, чалавеча.

Павярнуўся і пацёгся да гумна, але яго дагнаў крык:

— Што гэта ў цябе за плячыма?

— Торба.

— Якая?

— Звычайная.

— Навошта яна табе?

— Э, чалавеча, які ж гэта жабрак без торбы?

— І то праўда. А што ў цябе ў торбе?

— Нічога.
— Ну, то ідзі, спі сабе, — літасціва дазволіў гаспадар.
Жабрак як прыткнуў галаву да сена, то адразу і заснуў, бо стомлены быў. Ды ўзрост браў сваё. А сквапны вясковец не ўспаўся. Не паверыў ён, што падарожны сказаў праўду адносна таго, быццам бы нічога не мае. Пачакаў, пакуль жабрак засне, і шаснуў у гуменца. Тая торба ляжала побач з чалавекам. Ухапіў яе злодзей і прэч кінуўся.
Прачнуўся рана жабрак, азірнуўся — торбы няма, а побач гаспадар стаіць.
— Што такое?
— Торбу нехта ўкраў.
— То, можа, я?
— Болей жа не было каму, — са скрухай прамовіў стары.
Злыдзень завішчэў:
— Прэч з падворка!
Жабрак паглядзеў на яго і кажа:
— З-за самай Прыпяці іду, а такога злыдня нідзе не сустракаў. Гэта ж трэба — на жабрачую торбу пасквапіўся.
— Прэч, бо сабаку спушчу!
— Каб жа ты, злыдзень, букам стаў! Каб людзі памяталі пра тое, што са зладзеямі стацца можа!
Толькі так дзед сказаў, як той гаспадар ператварыўся ў дрэва. Стаў-такі букам. Доўга ён рос у нашым паселішчы. Адтуль і назва пайшла.

## ВЕРБАВІЧЫ

Жыла тут у нас дзяўчына. Звалі яе Галька. Такая ўжо прыгажуня падрастала, што і параўнаць яе не было з кім. Матуля Гальчына ў маладосці таксама прыгожай была, але не такой, як дачка. Часта глядзела яна з сумам на Галю і ціхенька прамаўляла:
— Ці ж толькі ў прыгажосці адной шчасце?
— Чаго ты, суседка? — дапытваліся суседзі.
— А што гэтая прыгажосць? Часта здараецца, што як толькі замуж прыгажуня выйдзе, то такое гора на яе абрынецца, што за пару гадоў высахне, змізарнее, не пазнаеш зусім.
— Ёсць такое.
— А зноў жа, глядзіце, іншая дзяўчына і не надта прыглядная ад нараджэння, а муж трапіцца добры, чуллівы, то яна і распусціцца, як ружа-кветка.

— Ну, не як ружа-кветка, але жыць будзе добра. Будзем спадзявацца, што ў тваёй Гальки лёс шчаслівы будзе.

— Я за яе кожны дзень па некалькі разоў малюся, бо сама ўдовінага хлеба досыць з'ела. Нікому такога не пажадаю.

Часта гаварылі пра гаротную ўдаву людзі, часта ўспаміналі Гальку, але ніхто ніколі не сказаў на іх благога слова, бо стараліся жанчыны жыць так, каб іншым не было прычыны іхнія косці перамываць. Працавалі, спіны не разгіналі, дома ўсё ў парадку было. Гаспадарку трымалі, як маглі, але нават некаторыя мужчыны гаманілі паміж сабой:

— І гаспадара ж няма, а так спраўна вядуць усё.

— Стараюцца.

— Старанне гэтае ім крывавымі мазалямі даецца.

— Нічога не зробіш. Тут сам не распрамляешся, а канцы з канцамі не зводзяцца, ||| у іх жа мужчыны ў сям'і няма.

— І тым не меней, малайцы.

— Вось аддасць жанчына дачку замуж, стане з маладымі жыць, то і ёй намнога прасцей будзе.

— Так. Каб толькі зяць талковы трапіўся, не лядашчы які.

— Такога яна да сябе не возьме.

— Канешне, працавіты чалавек лайдака па духу пачуе.

Людзі рознае гаварылі, але і Галька галаву на плячах мела. Хлопцы за ёй цугам хадзілі, але яна нікому нічога не абяцала, усё прыглядвалася ды чакала, калі ж сэрца падкажа, каторы з іх яе любы. І што вы думаеце? Дачакалася. Неяк прыйшоў да моладзі панскі фурман — Мікіта. Прыйшоў, сеў збоку і ціхенька сядзеў — у гамонку не ўмешваўся, песні не падцягваў, не таньчыў. Галька весялілася, але ўвесь час адчувала, як яе плечы свідруюць нечыя пільныя вочы. Акінецца дзяўчына і ўбачыць, што глядзіць на яе Мікіта і ўсміхаецца шчыра. Тады і яна яму ўсміхнецца ды зноў да сяброўак.

Так прайшоў той памятны першы вечар. Фурман правёў яе дамоў. Дзяўчына адчула, як пацягнула яе да гэтага маўклівага, здаравеннага хлапчыны. Так і сталі яны сустракацца штовечар. Ужо і гаворку наконт вяселля Мікіта заводзіў, але Галька прасіла яго пачакаць яшчэ крышачку.

— Чаго чакаць?

— Дай яшчэ хоць пару месяцаў з сяброўкамі пахадзіць.

— Дык ты і потым да іх бегаць будзеш, я ж не супраць.

— Э, потым ужо не тая пара настане. Замужняй жанчынай стану, а там іншыя клопаты.

— Можа, яно і твая праўда, — пагаджаўся хлапец. — Тады давай да вясны пачакаем, але не пазней.

— Так, згода.

— Глядзі, слова дала.

Але, як аказалася, адклад гэты не пайшоў закаханым на лад. Неяк прычапіўся да Мікіты пан і гаворыць:

— Дзе гэта ты ўсё прападаеш?

— Я ж ў вольны час, пане. Калі няма працы ў палацы.

— Проста цікава, куды ты пастаянна знікаеш?

Мікіта і не падумаў нават, чым можа абярнуцца ягоная шчырасць, і прамовіў:

— Да дзяўчыны.

— Да дзяўчыны?

— Так.

— То пакажы мне яе.

— Добра, пане, заўтра і пакажу.

На другі вечар Мікіта ўжо не пешкі ішоў да Галькі, а ехаў на парцы коней. У брычцы сядзеў пан і азіраўся па баках. Не ведаў і не здагадваўся нават, якую прыгажуню пакажа яму хлапчына праз некалькі хвілін, а як убачыў дзяўчыну, то і рот разявіў. Потым апамятаўся і запытаўся:

— Яна?

— Ага.

— Ну і прыгажэнная!

Болей нічога не прамовіў, загадаў везці назад. Але з таго самага часу пачаў думаць, як заваладаць прыгажуняй. Напачатку, ведама ж, адправіў Мікіту ў далёкі горад, а сам стаў пад'язджаць кожны вечар да ўдовінай хаткі. Ды дзяўчына толькі пасміхвалася на ягоныя заляцанні:

— Не, паночку, не пара я табе, не пара.

— Чаму?

— Табе трэба багатая, знатная, а я — сялянка.

— Але ж ты прыгожая!

— Толькі і ўсяго.

Пабачыў памешчык, што такім чынам нічога не даб'ецца, і загадаў слугам прывесці Гальку да сябе ў пакоі сілай. Калі тую прысунулі, то запрапанаваў спаць з ім, як з мужам, на што дзяўчына грэбліва прамовіла:

— З табой, праснак, ніколі!

Пачалі распранаць дзяўчыну сілай, але яна неяк крутнулася, вырвалася і ўцякаць. Бегла полем, потым лугам, а тут і слугі даганяюць. Тады яна кінулася ў рэчку і ўтапілася.

На тым месцы, на беразе, дзе апошні раз ступіла яе нага, вырасла маленькая вербачка. Прыходзіла туды бедная ўдава і горка-горка плакала, прымаўляючы пры гэтым:

— Родненькая ты мая, вербачка ты мая.

Ад той вярбы і Вербавічы нашы пайшлі. Вось такая сумная гісторыя.

## ДАЎЛЯДЫ

Раней жа хто як жыў. Калі сям'я была заможная, то і жылі, адпаведна, няблага, а калі гаспадар меў усяго які вузенькі шнур зямлі, то адкуль ужо там разжывешся? Так і перабіваліся з хлеба на ваду, дзякавалі Богу, што выжылі. Сцюдзёнай зімой чакалі, калі ж прыйдзе доўгачаканая вясна, а разам з першымі веснавымі днямі выб'ецца з зямлі крапіва ды ўсялякае зелле. Тады ўжо самы бедны вясковец адчуваў сябе панам, бо нездарма ж гаварылі, што калі ёсць трава ды зелле, то толькі лайдак можа памерці з голаду.

У нас тут жыў селянін. Звалі яго Мікола. Працавіты быў надзіва, цяглавіты. Сям'я вялікая, дзеці — адно другога не панясуць, дапамогі чакаць няма адкуль, а ён адзін як упражэцца ў працу, то і не разгінаецца. Людзі дамоў ледзьве ногі цягнуць, побач з яго палоскай ідуць, а ён сабе яшчэ працуе,і мала гэтага, дык і песні спявае. Здзіўляюцца сяляне:

— Як жа так можна?

— Відаць, двухжыльны?

— Хто ж яго ведае?

— Каб моцна стаміўся, то не спяваў бы.

— І то праўда.

— З жонкай з раніцы быў, ды, відаць, дамоў адправіў, каб гаспадарку на ноч дагледзела, вячэру зварыла, дзяцей супакоіла.

— Зразумелая справа.

— Вось гэта Мікола, вось гэта малайчына!

— Малайчына ад таго, што духам не падае, што спявае, а не плача.

— Не кожны так змог бы.

— Уцягнуўся ўжо.

— Паспрабуй сам уцягнуцца, тады і казаць будзеш. Трэба чалавеку цягнуць гэтае ярэмца, вось і ўсё на гэтым, вось і круціцца.

— Чыстая праўда.

Гамоняць людзі, міма ідуць, клічуць некаторыя гаспадара:

— Мікола, час дамоў ісці!

— Не, я яшчэ не ўправіўся.

— Заўтра даробіш.

— Заўтра іншая справа будзе!

— То ж цямнее ўжо, сонца няма!

— Няма сонца, то месячык ясны ўзыйдзе!

— У цябе ж і так парадак усюды, ажно блішчыць.

— Хочацца, каб не горш, як у людзей, было! Ідзіце, я вас даганю!

Пойдуць людзі, а Мікола застанецца яшчэ на якую гадзінку ці на паўгадзінкі. Жонка дома ўсё да ладу прывядзе, выйдзе на падворак ды сама сабе прамовіць:

— Дзе ж гэта ён сёння так доўга затрымаўся?

Падумае, паслухае цішыню і зноў:

— Хоць бы калі раней прыехаў, а то ўсё прыцемкамі і прыцемкамі. А сонца толькі зайграе, то зноў ужо на нагах. Ніяк не беражэцца.

Сама ў хаціну не ідзе, бо там ужо рабіць няма чаго. Дзеці павячэралі і соладка спяць, таму прысядзе на ганку і чакае таго моманту, калі пачуецца стук калёс. Пачне дакараць мужа:

— Чаго ўжо ты і сёння так позна?

— А што, сёння нейкае свята ці прысвятак?

— Яшчэ і жартуе.

— То не плакаць жа мне?

— Чаго плакаць.

— Сапраўды, гэтулькі працы перавярнуў! Каб ты пабачыла!

— Што, я з табой першы дзень жыву і не ведаю, які ты працавіты?

— Пайшлі, жоначка, я коніка распрагу, есці яму падкіну ды і сам павячэраю, бо згаладаўся.

Так жылі яны ў згодзе ды ў міры, ніколі не сварыліся. Зайздросцілі людзі ім, дапытваліся, у чым сакрэт іхняга шчасця. Гаспадыня толькі ўсміхалася ў адказ, а Мікола прамаўляў:

— А хіба вы не ведаеце?

— Не.

— Падумайце лепей.

— Думалі, і не раз.

— І нічога?

— Не.

— Вось жа незадача. То скажу тады вам сам, калі не здагадаліся. Кахаю я сваю жонку, а яна мяне.

— І ўсё?

— Так.

— Не прыдурвайся, Мікола, з нас жартуючы. Думаеш, не здагадваемся, што ты двухжыльны?

— Вось як? А што, паглядзіце на мяне, які [redacted] волат, — пачынаў гаспадар. — Мяне пуды з тры-чатыры вагою, ростам ніжэй сярэдняга, таму толькі і застаецца на тое спадзявацца, што замест адной жылы дзве вырасла.

— Табе ўсё жарты.

— Ды не, я сур'ёзна. Усё наша шчасце ў тым, што мы шануем адзін аднаго.

Час ішоў, дзеці раслі ў Міколы, дапамагалі добра, а працаваць не было дзе, бо зямлі гаспадар меў не надта і многа. Параіўся з жонкай і вырашыў тыя грошы, якія назбіралі, пусціць у справу — купіць у пана добры кавалак лесу.

— Навошта ён нам? — не зразумела адразу жонка.

— Ды падабраць трэба мясціну, каб там лес быў не надта гонкі, а ўсё болей нізкарослы, але каб зямля была прыгодная.

— І?..

— Купім, а тады раскарчуем пад ляда.

— І што далей?

— А далей зямлі займеем многа, будзе куды дзяцей нашых аддзяляць.

— Але ж і галава ў цябе, Міколка, — узрадавалася жанчына. — Рабі так, як надумаў.

Так і зрабіў гаспадар. Купіў хмызняку вялізны кавалак, а зямля пад ім — што той тлушч, і гною не трэба, усё расце як на дражджах. Пан і той зайздросціў, што так танна прадаў. Як толькі сын жаніўся ці дачка замуж ішла, то Мікола шчодра іх надзяляў, і людзі гаманілі:

— Малайчына гаспадар, такое даў ляда.

Так і пайшло ад тых надзелаў — даў ляда. А потым і Даўляды стала.

## МАСКАЛЁЎКА

Даўней салдаты падоўгу служылі. Як возьмуць з хаты маладога ды здаровага, то назад мала хто вяртаўся. То ў бітвах-сечах людзі гінулі, то ад хвароб паміралі. Ды і чаго

сунуцца ў родную старонку, калі служыць даводзілася зусім у іншым месцы? Хіба толькі, каб памерці ў роднай зямлі, бо яна да сябе цягнула.

У нас усіх салдатаў у тыя часы маскалямі клікалі. Так гаварылі, бо людзі ішлі служыць пад руку рускаму цару, адсюль і мянушку такую агульную займелі. Так і маскалі пайшлі, і маскаляты, ды з пакалення ў пакаленне перадавалася пра тое, як яны жылі і што з імі здаралася.

У нашай мясціне быў адзін такі чалавек. А здарылася вось што.

Ішоў салдат сабе дарогай. Закончылася доўгая служба, і спяшацца яму не было куды. А лета якраз буяла. Стаяла тая часіна, калі было цёпла, але не горача, калі грэла, але не паліла, і навокал было мноства ўсялякай зяляніны. Салдат ішоў сабе, любаваўся прыгажосцю. І сумна зрабілася яму, што маладыя гады праляцелі імкліва, ■ ён нічога, акрамя бітваў ды ваенных паходаў, і не пабачыў. Усміхнуўся і сказаў:

— Лёс такі.

Крочыў бадзёра, прызвычаены да доўгіх дарог, і пасвістваў сабе пад нос. Стамляўся, то сядаў адпачыць. Даставаў акраец хлеба з ранца, не спяшаючыся еў, люлечку закурваў, і зноў у дарогу. На ноч, адпаведна, які стог шукаў паблізу ці да людзей пераначаваць прасіўся. Тады ж падарожных пускалі ў хаціны, не тое што зараз.

Аднаго дня падалося салдату, што моцна стаміўся, што трэба добра адпачыць, а то назаўтра цяжкавата ісці будзе. Памеркаваў крыху і гамоніць:

— Вось выберу добрую мясцінку і там з суткі паляжу. Няхай цела адыдзе, ногі смылець перастануць, бо зараз цёпла, не страшна і на зямлі паляжаць.

Ідзе, такое месцейка выбірае. То тое яму не падабаецца, то тое не падыходзіць, і далей прабіраецца. Раптам спыніўся, бо знайшоў такую мясцінку: ручаінка бруіцца, кустоўе навокал густое, а між ім — трава мяккая і нікім не кошаная.

— Вось тут ■ і высплюся, тут і адпачну. Галоўнае, што ніхто мяне турбаваць не будзе, дапытвацца не стане, хто ■ такі ды адкуль іду?

Прысеў, напіўся вадзіцы, потым лёг і соладка заснуў. Спіць сабе, нібы пшаніцу выгадна прадаўшы, і не ведае, што навокал робіцца. А аказалася мясцінка тая не такая ўжо глухая была, дакладней, там свае жыхары вадзіліся, таму адразу ж заўважылі прысутнасць чалавека. Заўважылі, але будзіць не спяшаліся, вырашылі паглядзець, чым справа закончыцца.

Прачнуўся салдат, пацягнуўся, сеў і гаворыць:

— Выспаўся, і да працы рукі цягнуцца. Не прызвычаіўся я проста так валяцца. Трэба нечым заняцца.

Акінуў вачыма бліжэйшае кустоўе і прысвіснуў:

— А вось вазьму ды саўю з лазовай кары вяроўку. Потым каму-небудзь з вяскоўцаў прадам, то і харчоў мне падкінуць. Усё роўна ж адпачываць, а віць — гэта няцяжка.

Узяў востры нож і давай палыскаць лазу ды абдзіраць кару. Наабдзіраў добрую гурбу, насцягваў яе да ручаінкі, сеў і пачаў плесці вяроўку. Пляце і адчувае, што на яго нехта ўважліва глядзіць. Азірацца не спяшаўся, каб напэўна ўжо высачыць тую цікаўную істоту. Рэзка павярнуў галаву і ўбачыў чорта, які збіраўся зрабіць яшчэ крок да салдата.

— Ну?

— Што? — не зразумеў той.

— Чаго ты за мной цікуеш? Гавары!

— А калі не скажу?

— То пайшоў тады адсюль прэч!

— Чаго ты такі гняўлівы?

— Я такі заўсёды!

— Заўсёды? Тады ты надзвычай злы.

— Які нарадзіўся, такім і да сталых гадоў дажыў.

Чорт крутнуўся і ўтаропіўся на салдата. Той не вытрымаў і зноў паўтарыў пытанне:

— Чаго ты тут?

— Цікава.

— І што ж ты тут, чарцяка, цікавага знайшоў?

— Ды карціць даведацца, што гэта ты робіш?

— Не скажу.

— Чаму?

— Не хачу.

— Ды скажы ўжо. Пару залатовак табе за гэта дам.

— Тады тры залатоўкі.

— Згода.

Нячысцік пасунуўся бліжэй і, азірнуўшыся, запытаўся цішэй:

— Дык што ты, чалавеча, робіш?

— Ую.

— Што?

— Кадол.

— А навошта табе гэты кадол?

— Гэта ўжо другое пытанне — плаці і за яго. Яшчэ тры залатоўкі.

— Дамовіліся. Цяпер скажы, навошта табе кадол?
— А каб валачыць вас, чарцей, на сухадол!
— Не зразумеў.
— Валачыць вас на сухадол!
— За што гэта?
— А навошта вы ў мяне золата пакралі?!
— Якое гэта?
— Тое, маё, якое вы сцягнулі!
— Не крычы, чалавеча, пачакай. Гэта ж не я. Зараз дзеду свайму скажу, можа, ён дзе бачыў, то верне тады.
— Тады ідзі, можа, ён адумаецца і аддаць загадае, то я вас не пацягну на сухадол. А не дамовішся з ім, то ўсіх чыста з гэтага балотца ды з лугавіны павыцягваю на сухадол і там падаўлю, як блашчыц. Бяжы хутчэй, не цягні час, бо я чакаць доўга не стану. Сам жа бачыш, што кадол ужо амаль гатовы.
Паляцеў нячысцік да галоўнага чорта і распавёў яму пра салдата. А той і слухаць не жадаў. Тады малады і гаворыць:
— Не хочаш аддаваць золата, то плача па табе кадол!
— Які кадол?
— Што павалачэ цябе на сухадол!
— За што?
— Я ўсё растлумачыў. Салдат паставіў умову: не вернем золата — перацягае нас усіх на сухадол і перадушыць там, як блашчыц!
— То насып яму шапку залатовак ды занясі, няхай ад нас адчэпіцца.
Чорт прыпёр маскалю шапку золата, той высыпаў сабе ў ранец ды пайшоў сваёй дарогай, нібыта так і трэба было. Па дарозе пристаў у прымы да ўдавы. Так і ўзнікла вёска Маскалёўка, ад таго салдата-маскаля.

## МІХАЙЛАЎКА

Паехаў аднаго разу селянін поле араць. Рана выехаў, яшчэ толькі сонца пачало свяціць над лугам, а ён ужо на дарозе яго сустракаў. Нават павярнуўся тварам да сонейка і, нібы якой жывой істоце, сказаў яму:
— Дзень добры!
Так прызвычаіўся селянін рабіць кожнага дня, усё спадзяваўся, што дапаможа яму нейкая сіла ў заможныя гаспадары выбіцца. І працаваў многа, і недасыпаў, і недаядаў, а

ўсё роўна толку мала было. Праўда, вясковец і сам ведаў асноўную прычыну — зямлі ў яго было зусім мала, як два разы добрай бабе перакаціцца туды-сюды. Як ні старайся, а не вырабіш ты яе так, каб яна па тры ўраджаі на год давала.

Прыехаў той селянін на поле, павесіў торбачку з хлебам на куст, перажагнаўся перад тым, як працу пачынаць, і прамовіў:

— Ну што, Міхайла (так яго звалі), час табе пачынаць шчыраваць. А раптам сёння шні дзень незвычайны плён прынясе?

Пайшоў за конікам. Таго і падганяць не трэба было: унурыўся і цягнуў плуг, а араты за ім паходжваў. Гадзіну працуюць, другую, прытаміліся ўжо крыху, паглядвалі на кустоўе: чалавек, каб адпачыць, а конік, каб траўкі паскубсці, вадзіцы свежай папіць.

Тым часам у кустах нячысцік сядзеў і пасмейваўся, паглядваючы, як гэтыя двое жылы рвалі:

— Вось яны цягнуць, не ведаюць, як да канца поля дайсці, а я, малайчына, сяджу сабе і ў вус не дзьмухаю. І есці ў мяне заўсёды ёсць што, і клопатаў ніякіх.

Збіраўся ўжо сунуцца ў балота, але раптам перадумаў ды, віскнуўшы ад радасці, вырашыў забраць торбу з хлебам.

Зняў торбачку і мяркуе: «Селянін прыйдзе да куста — торбы няма, то накінецца на коніка і пачне яго дубасіць, бо трэба ж будзе на некім зло спагнаць».

Прыхаваўся за кустоўем і стаў нецярпліва чакаць.

Нарэшце Міхайла гучна сказаў:

— Ну што ж, конік, час самы і нам адпачыць, — і павёў коніка да кустоўя.

Нячысцік там ажно сычэў ад задавальнення, што ўсё на ягоных вачах адбудзецца.

Падышоў гаспадар да куста, паглядзеў уважліва на корч і прамовіў:

— Ну і варона я! Трэба ж было торбачку на воз пакласці, а так застаўся я галодны. Папасіся хоць ты, а мне давядзецца проста так якую гадзіну адпачыць. Да вечара якнебудзь дацягну, а там павячэраю са смакам. На памылках вучацца.

Чорт сядзеў, сядзеў, чакаў, што чалавек пачне коніка лупцаваць, але гэтага не здарылася. Тады ён плюнуў злосна: «Ну і дурында!» Закінуў торбачку за плечы і пашыбаваў да галоўнага чорта, каб таму пахваліцца. Прыходзіць і кажа:

— Вось, хацеў пажартаваць з мужыка, а нічога не атрымалася.

— Як гэта? — не зразумеў старэйшы. — Раскажы па парадку.

Распавёў малодшы нячысцік, як усё атрымалася, і чакае рэакцыю. Старэйшы яму і кажа:

— Ведаеш што? Ідзі да таго чалавека.

— Да якога?

— Да Міхайлы.

— Чаго?

— Аддай яму торбачку.

— То я лепей на сук яе павешу, дзе яна і вісела.

— Не, ты не толькі аддасі торбачку чалавеку, але яшчэ і адпрацуеш за яе. Выконвай!

Малодшы ведаў пра суровыя парадкі, таму толькі вікнуў у адказ і паджгаў да хаціны, дзе жыў селянін. Прыбег да падворка, спыніўся за хлявом і не ведае, як жа Міхайлу на вочы паказацца і што пры гэтым яму сказаць. Стаіць і думае. Нічога разумнага ў галаву не прыйшло, таму махнуў рукой і напрасткі пашыбаваў да гаспадара. Павітаўся і кажа:

— А я да вас.

— Што здарылася?

— Служыць у вас буду.

— У мяне? З якой гэта нагоды?

— Так трэба.

— Ну, калі так трэба, то служы, што з табой зробіш.

Міхайла быў чалавек хітры і спецыяльна не стаў дапытвацца, наперад ведаў, што чорт і сам раскажа, калі ўбачыць, што ўсе застаюцца да гэтай гісторыі абыякавымі.

Перабыў чорт у чалавека зіму, а там і вясна надышла — гарачая часіна ў гаспадарцы. Выбраліся нячысцік з Міхайлам сеяць. Людзі ўжо сеюць, шчыруюць на нівах, Міхайла і гаворыць:

— Збажыну пасеем, а проса не будзем.

— Чаго гэта?

— Не час яму яшчэ.

— Я думаю наадварот. Проса трэба абавязкова пасеяць.

— Не зразумеў.

— А яшчэ вопытны гаспадар! У гразь яго сеюць, то ўраджай добры будзе!

— А калі не пашанцуе?

— Пабачыш.

Пасеялі і проса. Вяскоўцы ўсё лепшай пары чакалі, і ў іх яно павысахла, [redacted] ў Міхайлы вырас ураджай, як ніколі. Радуецца гаспадар, месца не знаходзіць, а нячысцік яму:

— А я табе што гаварыў?

— Малайчына. Цяпер я цябе буду слухацца.

— То станем сябраваць?

— Так.

Сабралі ўсю чыста збажыну і ў гумно яе звезлі, але многа снапоў не ўлезла. А час жа не чакае, могуць і дажджы пайсці. Не будзеш жа прасіцца ў чужую будыніну свой ураджай звезці, бо з зайздрасці людзі мала што могуць зрабіць. Гаруе Міхайла, за галаву хапаецца. Нячысцік да яго:

— Што з табой, гаспадар? Чаго маркоцішся?

— Што са снапамі рабіць?

— Малаціць трэба.

— Сам ведаю.

— То чаго гаруеш?

— Яшчэ ж іншая праца падпірае...

— Тады малатарню трэба наняць.

— За яе плаціць трэба, [redacted] ў мяне грошай няма.

— Грошы знойдзем, [redacted] час губляць нельга, бо і зерне на зямлю асыпацца пачне, і з іншай працай запознімся.

— Слухай, а дзе ж грошы ўзяць?

— Я табе пасаблю.

— Вось дзякуй табе!

— Чаго там, мы ж сябруем.

Так яны і жылі разам ці не тры гады — чорт ды чалавек. За гэты час Міхайла такую гаспадарку ўзняў, што ва ўсім наваколлі другой такой не было. Многім ужо і сам дапамагаў, бо было чым. З таго часу наша паселішча сталі зваць Міхайлаўкай, ад таго працавітага селяніна.



# ПЕТРЫКАЎ

Даўняя гэта гісторыя. Старадаўняя нават, і распавядае пра чалавека, які нікога на белым свеце не шкадаваў, са сваіх крыважэрных рук не выпускаў. Нібы ўсё да ягоных пальцаў прыліпала.

Звалі таго злога вупыра Маркам. Гаварылі пра яго рознае: што і не маці нарадзіла такога крывасмока, што ад нячыстай сілы ён пачаты, ды што ў тым толку? Што ні кажы, а ён людзей са свету зводзіць. Гаспадарыў ён у сваім краі не год і нават не дзесяць, а можа, цэлых сто ці крыху меней. З навакольных паселішчаў нікога ў жывых не засталося, бо ўсіх маркавы слугі пахапалі. Але злыдзень не адчайваўся:

— Нічога, на мой век гэтай мякіны (так ён сялян называў) з верхам хопіць! За справу, хлопцы! Шукайце мне чарговую ахвяру!

— Будзе зроблена,васпане!

— .З-пад зямлі, але дастаньце! Без мужыка не прыходзьце!

— Выканаем!

Кінуцца слугі ў розныя бакі, а Марка дома сядзіць, па сваім палацы агромністым швэндаецца. Спачатку сам катаваў, а потым да таго дайшло, што сядзеў толькі і глядзеў, як гэта падначаленыя рабілі. Не, не таму, што ленаваўся, а таму, што так яму лепей пакуты ахвяры бачны былі, і гэта прыносіла яму асаблівае задавальненне.

Здаралася, што ахвяра праз лічаныя хвіліны катаванняў не вытрымлівала і памірала, то Марка звычайна казаў:

— Слабы нейкі трапіўся. Сярод іх, відаць, зараз моцных і няма, не тое што раней было.

Казалі, што паўсюдна па той зямлі, дзе валадарыў Марка, чуліся стогны і енкі. Звяры і тыя вярталіся, нібы на якія нябачныя дзіды паляўнічых ці лоўчых наторкваліся. Былі чуткі, што па першым часе рэкі цяклі чыстыя ў мясцінах маркавых, а потым сталі чырвонымі ды смярдзючымі — гэта ад крыві людской і ад усяго таго, што той злыдзень са сваімі людзьмі рабіў. Дарогі і сцяжынкі ў той край сталі зарастаць хмызнякамі ды дрэвамі здаравеннымі, то людзі туды не хадзілі і не ездзілі.

У той час недзе амаль што на мяжы з уладаннямі Марка ў адной сям'і расло двое дзяцей — хлапчук і дзяўчынка: Петрык і Галінка. Маці ў іх толькі была, бо бацька, палясоўшчык, прапаў неяк нечакана — пайшоў з раніцы ў лес абысці панскія пушчы і не вярнуўся. Звычайна ён мог затрымацца на суткі-другія, але ж яго не было тыдзень, месяц. Загаласіла тады жанчына:

— Пераввёў, пераввёў і нашага тату!

— Хто? — не зразумелі малыя.

— Ой, дзеткі, не ваша гэта справа.

— Не наша — то не наша, але ўсё ж скажы, матуля, хто нашага тату пераввёў.

— Марка такі пануе непадалёку.

— Марка?

— Але, сынку.

— Нічога не чуў пра яго.

— Пра яго лепей не чуць, колькі жывеш.

— Чаму?

— Усе людзі ад яго адхрышчваюцца.

— Вунь як. А што ён робіць?

— Ой, родненькі, ён жа людзей са свету белага зводзіць.

— Не можа быць, каб ён і нашага тату адолеў!

— Ён не адзін.

— Усё роўна, — падала голас Галінка. — Наш тата такі здаравенны, што як павернецца, то ўсялякія там маркі толькі нагамі дрыгаць будуць ды ляцець ад яго ва ўсе бакі.

— Эх, дачушка, знайшоў той злыдзень момант і адолеў тату. Няма болей нашага роднenькага сярод жывых, няма...

Петрык сціснуў па-даросламу кулачкі і гняўліва прамовіў:

— Пачакай, выраcту я — адплачу за тату, за ўсіх адплачу!

— Не гавары так, сынок, бо яшчэ пачуе!

— Няхай чуе і ведае, што калі я вырасту, то пайду на яго вайной, і ніщто яго тады не выратуе, за ўсіх чыста людзей адплачу, ніводнае слязінкі не дарую! Хай ведае!

— Ой, Божачка, было б хоць з вамі ўсё добра, а то яшчэ і вас у мяне пазабірае, то я тады розумам кранусся, рукі на сябе накладу!

— Не палохайся, матуля. Пабачыш, якім я дужым ды здаровым вырасту, ніякі Марка мне не будзе страшны! Сам пачну рыхтавацца да сустрэчы з Маркам! Буду вучыцца на мячах біцца ды дзідамі кідацца.

Пагаварылі так, выплакалася і супакоілася жанчына, лягчэй на душы стала, а сын не забыўся пра размову. Прачуў ад некага, што ў суседнім паселішчы жыве былы княжацкі сотнік, і пакіраваў да яго. Павітаўшыся, распавёў, па якой справе прыйшоў.

Сотнік уважліва выслухаў і запытаўся:

— Твой настрой мне зразумелы, [redacted] што гэта за дзяўчынка з табой?

— Мая сястрычка, Галінка.

— Так заўсёды яе водзіш?

— Заўсёды, бо матулі паабяцаў, што нідзе яе адну не пакіну, каб маркавы слугі не выкралі.

— Гэта правільна, унучак, што так рашыў. Ты ж, як ні ёсць, [redacted] мужчына. Сапраўдны мужчына заўсёды слабейшых абараняе і прыкрывае сабой.

— То навучыце біцца?

— Гэта будзе цяжка.

— Я вытрымаю!

— А матуля нічога не скажа?

— Яна ведае, я пры ёй абяцаў за тату адпомсціць!

— Як жа цябе завуць?

— Петрык.

— То давай дамовімся, Петрык. Пойдзем разам да тваёй хаціны і там пагамонім з матуляй.

— Навошта?

— Трэба ж мне пераканацца, ці праўду ты сказаў.

— Не верыце?

— Не крыўдуй, браце, тут справа такая, што потым і пашкадаваць можна будзе.

— Я не перадумаю.

Прыйшлі яны да гаспадыні. Стары сотнік распытаў у яе, як ды што, і пачуў, што сапраўды загарэўся Петрык адпомсціць Марку. Але ён яшчэ зусім дзіця, пройдзе гэта з цягам часу.

Былы вой усміхнуўся:

— Не. Не пройдзе. Характар у яго цвёрды. Я многіх людзей на сваім вяку пабачыў і магу з першага погляду сказаць, хто чаго варты. Петрык ад сваіх слоў не адмовіцца.

— Ой, Божачка.

— Вывучу я яго біцца так, як ніводзін дружыннік з княжацкай дружыны не ўмее. А калі па гаспадарцы трэба будзе дапамагчы, то мы ўдваіх прыйдзем і ўсё паробім. У мяне самога гаспода невялікая, жыву адзін, так што часу вольнага маю дастаткова. А вы не саромейцеся, прасіце, калі што якое.

З таго дня пачаў Петрык з Галінкай прападаць у старога сотніка Архіпа. Для маладога хлапчука пачалася сапраўдная вайсковая вучоба. З самае раніцы да позняга вечара, а то і сярод ночы, трэніраваў ды нешта тлумачыў і паказваў яму вопытны вой. Баявы меч, праўда, адразу не даў, а зрабіў драўляны. Толькі і чуваць было:

— Адбівай! Нападай! Галаву прыкрывай, віславух!

І за гэтым следам — бом! Грымнула нібы ў засланку, а Архіп рагоча:

— Нічога, галава мацнейшая будзе! Думаць трэба, а не толькі махаць мячом, як цэпам. Гэта зброя, а не жартачкі.

— Навучуся!

— Не сумняваюся.

Вучыў, не шкадаваў ні часу, ні сілы сотнік, бо ведаў, у якім паядынку хлопчыку давядзецца ўдзельнічаць. Таму, калі бачыў нейкі, нават самы дробязны, хіб, адразу ж папярэджваў:

— Выпраўляйся, хлопча. У баі гэта смерцю абярнуцца можа.

Стары навучаў маладога, а недзе побач на траўцы сядзела Галінка і гулялася з краскамі ці з драўлянымі цацкамі, якія нарабіў ёй усё той жа сотнік.

Час ляцеў непрыкметна. Прайшло гадоў пяць-шэсць, і Петрык выцягнуўся ў сапраўднага асілка. Стаў такім здаравенным, што за сотніка, таксама далёка не нізкаяраслага і не слабога чалавека, стаў на галаву вышэйшым, а ў плячах шырэйшым на добрыя дзве далоні. Стары пасміхваўся:

— І ў каго ты такі?

— У бацьку.

— Не. Ведаў я твайго бацьку, ён меншым быў.

— Тады сам па сабе.

— Вось гэта іншая справа.

У вайсковай справе Петрык таксама стаў такім майстрам, што бывалы вой гаварыў:

— Не хацеў бы я нават у сваёй маладосці мець такога саперніка. Няхай беражэцца Марка. Падгадуем твайго коніка, а там і паедзеш яго шукаць.

Але здарылася так, што Петрыку не давялося чакаць, пакуль падрасце ягоны конь. Павёў ён неяк Галінку купацца. Тая вырасла таксама, ды такой прыгажуняй стала, што і словамі не расказаць. Дзяўчына купаецца, а Петрык за кустоўем туды-сюды ходзіць. І тут данеслася:

— Дапамажыце!

Ён туды, а там нікога няма. Як ні стараўся знайсці сястру — не знайшоў. Прыбег да сотніка і распавёў, што здарылася. Тады стары і гаворыць:

— Значыцца, час табе зараз выбірацца на паядынак з Маркам. Не церпіцца яму — то сам і пашкадуе. Бяры майго стаенніка, меч, дзіду, броню апранай, і няхай табе Бог памагае! Я маці нічога гаварыць не стану, а ты спяшайся, не цягні, бо ўсялякае можа здарыцца.

Неўзабаве толькі цокат капытоў разлёгся па наваколлі — паляцеў Петрык на спатканне з Маркам.

У гэты час злыдзень нарадавацца не мог, што яму прывялі такую прыгажуню. Адразу ж заявіў:

— Не трэба яе катаваць! Не трэба! Я ажанюся на ёй!

Галінка гідліва плюнула ў твар гаспадару палаца, але той толькі зарагатаў:

— Люблю наравістых, з імі жыць цікавей!

Загадаў завесці яе ў пакой і падрыхтаваць да ночы. Сам жа хадзіў і спяваў ад радасці. І тут прыбег слуга і сам не свой загарлаў:

— Бяда!

— Якая яшчэ?

— Там!

— Што?

— Нейкі асілак наляцеў і нашых крышыць, як капусту!

— Аднаго не адолееце?

— Не!

— Кіньце дурное! — не стаў слухаць далей Марка.

І дарма, бо праз пару хвілін вывалак яго Петрык за валасы з палаца і прыбіў цвікамі да вялізнага дуба.

Той дуб яшчэ доўга стаяў і зваўся — Петрыкаў. Так і засталося. Дрэва таго даўно няма, а паданне жыве і да нашых дзён.

# КАПАТКЕВІЧЫ

У нас спрадвеку балоты навокал стаялі. Такія непралазныя ды дрыгвяністыя, што ў некаторых мясцінах нават і людзі не бывалі. А дзе жылі, то балот жа і баяліся. Не хавалі страху, не лічылі гэта за нейкую там адмоўную рысу характару. Паступова навучыліся змагацца і з багнай. Праўда, далёка не ўсе асмельваліся займацца такім небяспечным заняткам. Гаварылі, што і нячысцікі не даруюць разбурэння «чортавых» вокнаў ды буктаў, і заплутаюць вяскоўца, і жывёла ў яго не будзе весціся, і на сям'ю ўсялякія згрызоты абрынуцца. З даўніх часоў сцвярджалі, што з балотамі ваяваць адпраўляліся толькі тыя, у каго ўжо выйсця іншага не было. Можа, яно і так.

Жыў некалі ў нашай мясцовасці адзін гаспадар. Мікітам звалі. Зямлі той меў, якраз як дзве добрых будыніны паставіць, і ўсё. А сям'я вялікая распладзілася. Дзеці малыя былі, то неяк муж з жонкай перабіваліся. Нават балота дапамагала, бо птушак усялякіх там хапала, ■ ўюноў жа было, што толькі не лянуйся і лаві іх. Малыя па пуза ў гразі лазілі і шукалі ў густой асацэ то яйкі птушыныя, то ўюноў лавілі. Усё ж лягчэй пражыць было.

Але пачалі дзеці падрастаць. Адну дачку аддалі замуж, другую, а там і сын ужо распраміў плечы. Добры быў, спагадлівы, таму і не наступаў бацькам на горла, ведаў, як ім цяжка. Заплача маці, а сын да яе:

— Што такое?

— Ат, жытка такая.

— У чым яна благая?

— Сам бачыш — зямлі ў нас мала. Як жа цябе, сынку, ажаніць?

— Ды неяк жа будзем. Я не спяшаюся.

— Не спяшаешся, але ж і цягнуць з такой справай нельга.

— Пабачым.

— Заспакойваеш мяне, а сам перажываеш, думаеш, ■ не бачу?

— Неяк выкруцімся, не першы ж раз.

Так ён матулю супакойваў, а калі гаспадыня ўжо надта заходзілася, то спакойна мовіў:

— Я ж не дзяўчына, і сам здолею што-небудзь зрабіць.

За гэткія словы яго асабліва бацька хваліў:

— Дзякуй табе, Мартынка, дзякуй.

— Не сумуйце вельмі. Я ўжо над многім падумаў. Можа,

удасца недзе падзарабіць, то адразу зямлі прыкупім, і ўсё тады наладзіцца.

— Лёгка сказаць, але ж у нас тут такой і мясціны няма, дзе можна было б падзарабіць.

— Нешта прыдумаем, тата.

Мікіта з сынам ведаў балоцістыя мясціны на дзесяткі вёрст навокал. Забіраліся сена касіць у такую ўжо глухамань, што астатнія вяскоўцы толькі жагналіся:

— Як вы адтуль сена потым павозіце?

— Ударыць маразы, прыцісне, то санямі рады дамо.

— Але ж гэта балота, а з ім жарты дрэнныя.

— Усюды замярзае.

— Не, не надта.

— Там, дзе не зацягвае, то відаць, як балота дыхае. У нашым выпадку, калі не будзеш рызыкаваць, то нічога не будзе.

Сена многа накошвалі, то і жывёлы ўсялякай многа трымалі. Пасвіць было дзе. Такое раздолле, што толькі сам пільнуйся ды жывёлу далёка ад берага балота не адпускай, бо там як пойдзе, то сама сабе смерць хутка знойдзе. Не правалiцца, то ваўкі падпільнуюць. Таму Мікіта пастаянна пастушкам сваім нагадваў браць сабак ды далёка ад берага не адыходзіцца. І папярэджваў:

— Калі што якое, то крычыце. Гарлайце так, каб у хаціне пачулі, ды і мы тут паблізу будзем.

Мартын таксама нагадваў брацікам ды сястрычкам:

— Будзеце слухацца, то на рыбу вас возьмем.

— Праўда?

— Ага, вось толькі з працай крыху разбяромся і пойдзем. На балацінах яе засталося мноства. Самі пабачыце.

— А не падманеш?

— Хіба ж я вас некалі падманваў?

Так і жылі людзі, так і стараліся. Дзівіліся з іх многія, як жа так атрымлівалася, што і зямлі не маюць, а справу ды гаспадарку ладна вядуць.

Была ўжо даволі позняя восень, і гаспадар шкадаваў малых. Пасвіць жывёлу выбіраліся найбольш самі: Мікіта, жонка, Мартын. Дзень кароткі, працы асаблівай па гаспадарцы няма, то чаго б не падмяніць меншых, хай сабе адпачнуць у цяпле, хай пагуляюцца на печы.

У той дзень выпала якраз Мартыну жывёлу пасвіць. Яна ўжо і не надта парывалася шукаць траву, але ўсё роўна адчувала сябе намнога лепей, чым у хляве. Хлапчына

распаліў невялічкае вогнішча, укінуў у прысак некалькі бульбін і задумаўся, гледзячы, як дымок пакручастым змеем цягнецца вышэй кустоўя і потым нібы раствараецца. Так і не заўважыў, як да яго падышоў дзядулька. Кірхнуў ціхенька за спінаю, тады толькі пастух акінуўся.

— Дзень добры, чалавеча.

— Добры дзень, дзядулька.

— Можна, я з табой пасяджу ды пагрэюся? А то здарожыўся я.

— Ведама што. Адкуль вы ідзяце?

— Здалёк, братка.

— Чаго ж так выбраліся?

— Бачыш, наказалі людзі, што дачка мая старэйшая захварэла, то хачу даведацца.

— Зразумела. То вы з самага ранку ідзяце?

— Яшчэ і ранак не пачынаўся, калі выбраўся, а да вечара ўсё роўна не паспею. Буду дзе прасіцца пераначаваць па дарозе.

— Вечар ужо хутка, а вам спяшацца сёння не трэба. Заўтра мы ў млын з бацькам павязем, то якраз па дарозе нам будзе, падкінем вас.

— Вось дзякуй.

— Ды чаго там, людзі павінны адзін аднаму дапамагаць. У нас і пераначуеце.

— Зусім тады добра атрымліваецца, — падхапіў стары.

Мартын зарагатаў:

— А зараз у мяне бульба ў прысаку будзе гатова — пачастую.

На гэты раз засмяяўся дзядулька:

— Старая не пускала, гаварыла, што дачка і так паправіцца, але ж карціць самому зірнуць. Унукаў адведаць таксама хочацца, а ж іх даўно не бачыў. Не часта мы адзін аднаго адведвалі, бо далекавата.

— Ды і працы хапае, — задуменна працягнуў Мартын.

— Не без гэтага.

Стаў хлапчына выграбаць бульбачку і частаваць старога. Перакусілі, пагаманілі, а ўжо і сонейка садзіцца.

— Вось і дамоў пара, — прамовіў Мартын.

— Так, цямнее хутка, — пагадзіўся стары.

— То пайшлі да нас, пераначуеце, а заўтра ў дарогу ўсе разам выберамся.

— Дзякуй яшчэ раз.

Дзядулька, відаць, і не чакаў, што так лёгка вырашацца ўсе ягоныя пытанні адносна начлегу і таго, як дабрацца да дачкі.

Мартын прыгнаў жывёлу і распавёў бацьку, што за стары з ім прыйшоў. Той пахваліў сына:

— Малайчына, што чалавека падарожнага запрасіў да нас. У дарозе ўсялякае здараецца. І нам жа даводзіцца ў чужых мясцінах бываць, і таксама да іншых людзей просімся адпачыць ды пераначаваць. Ніхто і нам не адмаўляе.

Тым часам гаспадыня гаспадарку дагледзела, вячэру на стол паставіла і ўсіх есці запрасіла. Прыселі людзі, ядуць моўчкі, бо так спрадвечны закон патрабаваў, каб не крычалі за сталом і не размаўлялі. Калі павячэралі, то дзедка, падзякаваўшы шчыра гаспадарам, прамовіў:

— Не заможна вы жывяце, але дружна. За гэта малайцы. Гэта ў многім падтрымлівае.

— А як жа нам быць, старэча, — працягнула гаспадыня, — калі зямлі той усяго вузенькая палоска? Добра, што балота нічыйнае ды часта выручае. І малако сваё, і скварка на стале не рэдкая, і рыбы заўсёды хапае, бо мужчыны не лянуюцца.

— Так, — падаў голас і гаспадар, — іначай невядома, як бы яно склалася. Вунь і хлопца жаніць трэба, а зямлі той кот наплакаў.

Усе зірнулі на Мартына, а той, здавалася, і не слухаў, пра што гаманілі старэйшыя, бо расчэсваў пышныя валасы малодшай сястрычцы і нешта смешнае ёй на вуха нашэптваў.

— Ён у нас здаравенны, — не ўтрымалася маці, — і такі добры.

— Умее ўсё рабіць, не прападзе за такім мужам жонка, — задуменна прамовіў Мікіта.

Стары кірхануў, потым пакруціў галавой і пачаў:

— Я, людзі добрыя, паспрабаваў бы вам параіць, калі вы не супраць?

— Наадварот, рады будзем слушнае слова пачуць.

— Тут справа такая, — гаспадары зацікаўлена паглядалі на незнаёмца. — Я ёю некалі і сам займаўся. Вы сказалі, што балота нічыйнае?

— Але.

— То ад яго яшчэ болей пажывіцца можна.

— Як? Мы ж, здаецца, многа ў яго бяром? — прыткнуўся да дзядулькі Мікіта.

— Нічога вы ў яго не бераце, гэта вам падалося.

— А што ж?

— Я грабаром быў.

— Грабаром?

— Так.

— Ну і?

— Тут жа ў балотах такая зямля, што яе хоць на хлеб намазвай. Канавы трэба навучыцца капаць, і ўсё пойдзе як нельга лепей. Я вам раскажу і заўтра пакажу, адкуль лепей пачаць, то і пачынайце.

— А калі гэта трэба рабіць? — загарэўся Мікіта, якога любая гаворка адносна зямлі адразу заводзіла.

— Гэта, чалавеча, звычайна робіцца позняй вясной і летам, калі спадае вада ў балотах і, да таго ж, вада тая становіцца намнога цяплейшай, бо прастудзіцца можна, тады і зямля не ўзрадуе.

— А што, гэта справа, — прагуў Мікіта.

Гаспадыня войкнула:

— Няўжо атрымаецца?

У адказ дзядулька засмяяўся:

— Самі хутка пераканаецеся ды яшчэ здзіўляцца будзеце, як раней да гэтага не дадумаліся.

— То дзякуй вам вялікі.

— Вы са мной добра абышліся, [redacted] я з вамі. Так заўсёды сярод людзей вядзецца.

Так і стаў Мікіта з Мартынам займацца грабарствам. За першую вясну яны не надта многа выкапалі канаў, бо галоўным чынам вучыліся, прызвычайваліся, меркавалі, як далей працаваць стануць. А вось у наступныя гады сколькі хацелі зямлі, столькі сабе і прыдбалі. Калі жаніўся Мартын, то бацька яму ладны кавалак даў ды яшчэ і прымовіў:

— Сам сабе прыкапаеш, цяпер для цябе гэта не сакрэт.

Так той Мартын усё жыццё і асушваў балоты і капаў. Ягоныя дзеці таксама займаліся грабарствам, таму і месца, дзе іхнія хаціны стаялі, назвалі — Капаткевічы.

## ВАНЮЖЫЧЫ

Жыў-быў некалі Іван — ліхая, адчайная душа. Ніколі не гаварыў, што яму блага жылося, хоць людзі і бачылі, як пакутуе чалавек. Зямлі мала меў, жонка трапілася не надта працавітая, нараджала яму дзяцей — і ўсё на тым, ва ўсіх бядотах вінаваціла Івана, усяляк на яго лаялася.

Раззлуецца Іван, лясне дзвярыма і на падворак падасца, каб там якой працай заняцца ды крыху супакоіцца, бо далей слухаць немагчыма было. Прывык чалавек справу рабіць, [redacted] не языкам лямцюжыць.

Аднаго разу так ужо наела яго жонка, так дапякла, што гаспадар выйшаў у двор і, хістаючыся, нібы моцна п'яны, памкнуўся да гумна, але на паўдарозе прыпыніўся, павярнуўся і прамовіў:

— Не, так не супакоюся! Трэба ісці да Лейбы!

А Лейба — гэта быў шынкар, які даваў выпіць сялянам і за грошы, і напавер. Наліваў чарку-другую, а сам ласаваўся потым, збіраючы пазыкі позняй восенню. Нічым не грэбаваў, да апошняга мог абадраць чалавека ды яшчэ і прымовіць:

— Я ж цябе, братка, выручыў.

— Брат мне знайшоўся, — адварочваўся селянін, але што рабіць, трэба было аддаваць, калі браў.

Вось да гэтага самага Лейбы і сабраўся Іван пайсці, каб там з дапамогай гарэлкі паспрабаваць узняць сабе настрой.

— Нічога, — мармытаў ён сам сабе, — вось падап'ю ды прыйду ўвечары злы, то няхай паспрабуе мне хоць слова насуперак сказаць. Я ёй тады пакажу!

А з хаціны данеслася:

— Ідзі, ідзі, каб цябе ногі болей не насілі і каб ты дарогу дамоў не знайшоў!

Гэтыя словы яшчэ болей падштурхнулі Івана на такі незвычайны ўчынак. Справа ў тым, што гаспадар ніколі не ўжываў гарэлкі і п'яным яго ніколі не бачылі, [redacted] вось тут завёўся. Ды ўсё з-за дурніцы-жонкі.

Ідзе Іван, рашуча рукамі памахвае, залатоўку ў кішэні адшукаў і ў руцэ заціснуў, каб дзе ненарокам не згубіць, бо не збіраўся піць напавер. Увайшоў у карчомку і папрасіў гаспадара, каб той падаў яму цэлую бутэльку гарэлкі і два салёныя агуркі. Лейба адчуў, што селянін прыйшоў з грашыма, таму ўюном віўся вакол яго.

— Зараз, зараз, Іване, не спяшайся. Усё на стол пастаўлю як мае быць!

— Гэта не мая справа. Я плачу, [redacted] ты мне прыслужвай, калі карчму трымаеш!

— Так, так, чалавеча.

— То дзе ж тая гарэлка?

— Ужо нясу, ужо.

— І закусіць адразу давай.

— Усё дам, але цікавіць мяне адно.

— Што?

— Ці маеш ты, чалавеча, грошы?

— А гэта што? — Іван паказаў заціснутую ў кулаку залатоўку.

— Тады ўсё ў парадку, усё ў парадку. Вось табе бутэлька, вось табе закуска, частуйся!

Сядзіць Іван, пацягвае паціху гарэлку ды прыслухоўваецца, пра што іншыя наведвальнікі гавораць. Нічога цікавага для сябе не пачуў, таму вырашыў дапіць і кіравацъ дамоў, каб там разабрацца з лянотнай гаспадыняй. І ў гэты самы момант стары дзед, які сядзеў да яго спінай, звяртаючыся да сваіх сябрукоў, прамовіў:

— Эх, хлопцы, уся справа ў лёсе.

— Няўжо?

— Так. Вось кожны па сабе памяркуйце. Некаторы гаспадар і не надта стараецца. Паляжыць пазней, на полі не саромеецца адпачыць, а ў яго ўсё роўна ўсё ў парадку, гаспадарка дагледжана, жывёла не зводзіцца.

— Праўда.

— А ў іншага, як ні рвецца, як ні імкнецца — нічога добрага не атрымліваецца.

— Так.

— Мала гэтага, то яшчэ і жонка трапіцца, якая грызе яго, не шкадуе, не корміць своечасова, а каб магла, то і набіла б.

— Ды ці раз!

— Вось бачыце, уся справа ў лёсе. У тым, пад якой зоркай чалавек нарадзіўся.

Ішоў Іван дамоў, і горка-горка ў яго на душы стала, быццам бы і не выпіваў. Вырашыў пасядзець крыху пад кустом, каб супакоіцца ды каб у хаце спаць палеглі, бо не хацеў ужо і жонку вучыць.

Прысеў і думае, як далей жыць. І падалося селяніну, што нехта побач храпе. Ён ускінуўся і на другі бок куста — шусь! А там ляжыць здаравіла-мужчына і храпе сабе як ні ў чым не бывала.

— Ты хто? — пытаецца вясковец.

— Доля.

— Чыя?

— Іванава, — асабліва не падумаўшы, ляпнуў незнаёмец і сабраўся спаць далей.

Але спаць яму болей не давялося, бо ўхапіў Іван здаравенную дубінку і давай палыскаць лайдака:

— Вось табе! На! Атрымлівай! Ты ляжыш, а ў мяне сарочка на спіне ад поту не прасыхае! На!

Круціўся лайдак, а потым запрасіўся:

— Што хочаш выканаю, толькі болей не бі мяне!

— Хачу, каб гаспадарка мая трывалай стала.
— Стане!
— Хачу, каб жонка не лайдачыла!
— А ты выхавай яе!
— Як?
— Так, як і мяне!
— Глядзі ж, калі падмануў, то болей не пашкадую!

З той дубінкай пашыбаваў Іван дамоў і давай лупцаваць жонку. І там парадак навёў, нават крычала гаспадыня не сваім голасам:

— Ой, Ванюжачка, пашкадуй!
— Будзеш працаваць?
— Буду, пашкадуй, Ванюжачка!

І ўсё пайшло ў Івана як па маслу. Толькі паспяваў даб-ро складваць. Зямлі шмат прыкупіў і зажыў, як сапраўдны, заможны, гаспадар. А месца тое і празвалі Ванюжычамі.

## МЫШАНКА

Даўней далёка не ў кожнага хапала зямлі, каб з яе пракарміцца, таму выдумвалі ўсялякія дадатковыя заняткі. У нас тубыльцам было крыху прасцей, бо і балоты навокал ляжалі, і рэчак-вадаёмаў хапала. Не лянуецца гаспадар, то рыбкі наловіць, і калі і не прадасць яе, то ўсё роўна добры прыварак для сям'і мае. На балоты хадзілі птушак дзікіх біць, словам, жыўнасці ўсялякай хапала.

Некалі тут адзін вясковец жыў, Панас. Меў траіх сыноў. Хлопцы, што тыя дубы, але двое з іх былі надзвычай лянотнымі. Вось як прачнуцца ўранку, то толькі і глядзяць, каб куды з двара збегчы. І заняткі сабе добрыя выбралі: адзін паляваннем займаўся, [redacted] другі — рыбалоўляй. З раніцы пойдуць, а пад самы вечар, калі сонца за будыніны пахаваецца, прыйдуць. Кармі маці працаўнікоў! Панас з сярэднім сынам ледзьве ногі з поля прывалакуць, а іх ужо лайдакі сустракаюць:

— Пазней не маглі затрымацца?
— А што такое?
— Есці надта хочацца!
— А хіба вы галодныя? Мы ж думалі, што там, дзе вы кожны дзень лазіце, і есці даюць.

Бацька з сынам са смеху давяцца, а гультаі сваё ведаюць — пакрыкваюць:

— Есці лепей сядайце, а не з нас пасмейвайцеся!

— Не спяшайся, маці, — гаворыць гаспадар, — нешта не надта хочацца.

— Ага, — паддаквае яму сярэдні.

— Што вы гамоніце? Як не хочацца, калі ажно ў жываце бурчыць?

— Гэта гледзячы ў чым!

А калі сядуць за стол, то Панас не надта паважаў лайдакоў, болей увагі звяртаў на жонку ды на сярэдняга сына, так і казаў:

— Хто як працуе, той так і есць.

— Ды мы... — парываліся паляўнічы з рыбаком.

— І вы таксама.

Панас спачатку ставіў сабе, сярэдняму сыну і гаспадыні, а потым, звяртаючыся да жонкі, прамаўляў:

— Ліні там юшкі і гэтым працаўнікам.

— А чаму юшкі?

— Таму што, хлопцы, вам тлусцець нельга, бо ногі ад ляноты не пасунеце.

— Але ж...

— Хто як працуе, сынкі, той так і есць, — павучальна памахваў бацька пальцам і спорна працаваў лыжкай.

Старэйшы з малодшым сыны азіраліся адзін на аднаго, але голас надта не павышалі, баяліся, што раззлаваны бацька зусім іх павыганяе прэч. Гаворка такая ўжо заходзіла, і не аднойчы Панас так і казаў асмялелым сынам:

— А я вас і не трымаю! Як працаваць, то вас і блізка няма, а як за стол, то з-за вас і не прапіхнуцца!

— Мы, бацька, калі на тое пайшло, увогуле з дому сыдзем! — катэгарычна зазначаў старэйшы з сыноў.

Ды Панас таксама не паддаўся:

— Толькі і чакаю, сыночкі, таго доўгачаканага моманту! Толькі і мару ў снах, каб ад вас, лайдакоў, пазбавіцца! Мне ўжо людзі вочы і вушы праелі, з вас насміхаючыся.

— Людзі заўсёды абы-што гавораць, — спрабаваў было адгаварыцца малодшы.

Але бацька не даваў ім надта распускаць языкі:

— Вас паслухай, то вы што ні на ёсць самыя разумныя ды дасціпныя ва ўсім белым свеце!

— А што?

— Нічога, толькі ніколі не бачыў я лайдака, якога людзі паважалі б!

— А што нам тыя людзі?

— Без людзей, бэйбусы, не пражывяце. Адзін раз абыдзецца, а другі раз не атрымаецца. Станеце на дапамогу

клікаць, то ніхто не прыйдзе, адвернуцца, як ад нячысцікаў злосных.

— Няхай сабе і адварочваюцца, не надта мы перажываць будзем!

— Смелыя вы ў мяне, як пагляджу.

Аднаго разу вырашылі браты, што годзе ім трываць такія кпіны ды здзекі з боку бацькі.

— Каб мы не працавалі! Каб мы не стараліся!.. А то ж дзень у дзень ходзім.

— І пад дажджом, і ў мароз.

— І ў спёку, і пад ветрам.

— А ніхто дзякуй не сказаў!

— І не скажа.

— Вось збяромся і зараз жа пойдзем! Няхай сабе тады без нас паскачуць!

— Пабачаць яшчэ, хто ў каго на шыі сядзеў! Пайшлі, братка!

— Хадзем! Болей мы сюды ні нагой!

Пабралі ўвесь хлеб, які быў у хаце, залезлі ў кубел з салам, панакладвалі цяжкія торбы і, забраўшы сваё прычындалле, рушылі з двара.

Па дарозе дагаварыліся, што пойдуць у лясок, дзе працякала рэчка. Там і пабудуюць хацінку. Неблагое месца лайдакі прыглядзелі — тут табе і зайцы ды лісіцы бегаюць, тут табе і рыбка свежая, не трэба далёка ісці. Толькі не падумалі, што бацька не такі ўжо і дурань. Зараней усё прадугледзеў і стаў сачыць за абібокамі, куды яны папруцца. Бачыў, як хлеб з салам без дазволу бралі, але голасу не падаў, а вось калі даведаўся, што задумалі яны хаціну побач з рачулкай ставіць, то прамовіў сярэдняму сыну:

— Тут мы іх і правучым!

— Але як?

— Справа надзвычай простая, сам пабачыш!

Налавілі пацукоў у адрыне, паскладвалі іх у бочачку і сталі чакаць вечара. Нарэшце цемра паціху апаўзла на наваколле.

— Пайшлі, сынку, — шапнуў Панас.

— Трэба паціху, бо паляўнічы валодае тонкім слыхам.

— Якое там!

Дайшлі да таго ляска, знайшлі месца, дзе браты будан паставілі. Бацька ажно прысвіснуў:

— І не паленаваліся!

Потым папаўзлі бліжэй. Калі заставалася крокаў дваццаць, то Панас штурхнуў сына:

— Чуеш, як храпуць?
— Але.
Падкраліся і, пазвязваўшы пацукоў парамі, пакідалі іх у будан. Што тут усчалося! Крыкі, енкі, а потым каторы як раўне:
— Ой, Божа, не рака, а мышанка нейкая! Дзе ўжо гэтулькі мышэй набралася?!
Другі і не папраўляў, бо брыкнуўся без прытомнасці. Так і вярнуліся лайдакі пад бацькоўскі дах, але назву рачулцы далі. А пазней, калі сталі людзі будавацца на яе беразе, то і паселішча назвалі гэтаксама немудрагеліста — Мышанка.

## МУЛЯРАЎКА

Некалі людзі не надта сваё жыллё адштукоўвалі, не да гэтага было. Ды і навошта было выробляць? Не паспееш адбудавацца, а праз год-другі ці то вайна, ці якая пошасць надарыцца — і ўсё, пойдзе дымам жытло, ніякага знаку не застанецца. Таму і не звярталі тубыльцы ўвагі на тое, што будыніны атрымліваліся нахіленыя ды непрыгожыя на выгляд. Галоўнае было, каб у іх цяпло стаяла ды вецер не прадзімаў.
У нас людзі былі працавітыя. Жылі яны не так густа, як зараз, бо балоты не дазвалялі, але паўсюдна, дзе зямлі якой прыдатнай лапік быў, там і асядалі, пачыналі адразу ж будавацца. Самага старога заўсёды пыталіся:
— Дзедку, як гэта хаціну будаваць?
— Ды тут нічога складанага няма.
— Няма, калі будаваў, а калі не браўся, то не надта пахвалішся.
— Яно-то так.
— То падкажы, дзедку. Што найперш рабіць?
— Дайце падумаю, бо і самому апошні раз даўнавата даводзілася будавацца. Значыцца,так. Найперш, хлопцы, трэба падрубы парабіць.
— З чаго?
— З дуба, найлепей з дуба, тады вечныя будуць. А падваліны трэба пакласці на падрубы, якія пазакопваць у зямлю раўнютка. Тады сцены нібы вісець крыху будуць, і ніякая вільгаць ім будзе не страшная.
— Разумна.
— Бярвенні смаловыя цягаць і ашкурваць давядзецца,

то, калі падсохнуць, хата стане, як звон. Ніякі шашаль ёй тады не страшны, ніякія мышы не стануць па вуглах шыцца.

— Вось яно што.

— Моху трэба нарваць. Ды не сухога, а даўгунцу. Найлепшы на балоце.

— Белы?

— Ён самы. Ён, як воўна. Калі пасцелеш, то потым ніякі ні вецер не прадзьме, ні мароз не прасочыцца.

— Ты глядзі.

— На столь трэба накалоць дошчак.

— Тоўстых ці не надта?

— Сярэдніх, бо тоўстыя доўга сохнуць і ў хаце будзе трымацца вільгаць.

— Зразумела.

— На страху таксама добра было б плашак накалоць.

— Зацянецца надта час.

— Тады можна саломай пакрыць.

— А дзе яе тут узяць?

— І то праўда.

— Вось і загваздка са страхой.

— Ды не.

— А што можна пусціць на страху?

— Мы ж сярод балот жывём. Чароту нарэзаць — лепшай кроўлі не знойдзеце. Як пакрыеце, то сто гадоў праляжыць і перакрываць страху не трэба будзе.

— І хто б падумаў, што чарот так спатрэбіцца да ўжывання.

— Калі расце, то, значыцца, Бог яго для нечага стварыў.

— Не без гэтага.

— То прыступаем, хлопцы?

— Так, няма чаго бавіцца. Добра, пакуль добра, ■ там і дажджы восеньскія зальюць. Тады ўжо не надта напрацуеш.

— Ды і толку з такой будоўлі будзе... Усё сырое. Пацвіце, збуцвее. Не абагрэешся і не атопішся.

— Што праўда, то праўда.

Як возьмуцца гуртам, то, глядзіш, за тыдзень-другі і хаціну агораюць. Скажуць толькі гаспадару:

— Ну, каб жылося весела ды шчасліва ў гэтым будынку!

— Дзякуй.

— Каб гора мінала!

— Бяда абыходзіла!

— Ліха не падкрадвалася, а смерць мінала!

— Дзякуй вам яшчэ раз, людзі добрыя!

— Жывіце, радуйцеся ды нам дапамагайце!

— Ведама ж, калі вы нас выручылі, то і мы вам заўсёды пасобім, ніколі ў дапамозе не адмовім.

— Нашы дзяды так жылі, і мы закону гэтага ніколі не парушым!

Стане гаспадар з гаспадыняй жыць, дзяцей гадаваць і добрым словам згадваць тых, хто яму дапамагаў будавацца. Самому нават маленькую хацінку не так проста ўзвесці, а вось гуртам і стаміцца не паспееш, а ўжо ўсё гатова будзе.

І вось што яшчэ характэрна было. У кожнай хаціне абавязкова захоўвалі агонь, бо лічылі, што калі ён гарыць, то і жыццё існуе, а калі патухне, то можа здарыцца непрадбачанае няшчасце. Але такія печы ды грубкі, як сёння, ніхто не ўмеў складваць. Збіралі звычайныя камяні, высцілалі імі невялікі кружок на глінянай падлозе і на іх потым палілі вогнішча. Камяні награваліся, і цёплае паветра сагравала памяшканне, а дым, адпаведна, выходзіў ці праз адчыненыя дзверы, ці праз спецыяльную адтуліну ў страсе або ў акне. Вось так і жылі. Есці варылі таксама на гэтым вогнішчы.

І вось адзін з сялян задумаўся, ■ быў ён хлапчына кемлівы, майстравіты, як зрабіць так, каб і цяпла болей было, і небяспекі ад агню меней. Не сакрэт жа, што калі полымя шугала большае за звычайнае, то нярэдка і хаціны займаліся зыркім агнём так, што гаспадары ледзьве паспявалі выскачыць.

Не адзін дзень ён хадзіў ды нешта ўсё сам сабе пад нос мармытаў. Ажно жонка злякалася ды запыталася:

— Што ўжо гэта з табой?

— Справу адну задумаў.

— Якую?

— Не хачу пахваляцца, пакуль не зрабіў. Патрывай, не спяшайся.

Жанчыне цікава было даведацца, але гаспадар не прызнаваўся. Нацягаў камянёў і давай нешта з іх рабіць у хаціне. Глінай абмазваў і на страху паглядваў. Гаспадыня і так прыкідвала, і гэтак, але не магла дацяміць, што да чаго. Пыталіся людзі:

— Чым муж займаецца?

— Ды муляе з камянёў нешта.

А праз пару дзён усе ажно раты разявілі: той чалавек першую, відаць, ва ўсім краі печку зрабіў і комін на страху вывеў. Вось адкуль Муляраўка пайшла, ад таго муляра-майстра.

## ЧАЛЮШЧАВІЧЫ

Здарылася ўсё гэта даўным-даўно. Вырашылі вяскоўцы, што калі маразы лютыя ўдараць, то паедуць у бліжэйшую пушчу ды там стануць бярвенні коньмі вывозіць, каб ранняй вясной хаціны лепшыя стаўляць. Ведама ж, справа не надта лёгкая, але і без гэтага не абыдзешся. Баяліся, што марозы лютыя стукнуць. Так і гаварылі:

— Як прыпячэ, то не да лесу будзе.

— Наадварот. У такі мароз зручней працаваць.

— Ды ну?

— Вось табе і ну! Па-першае, лынды біць не станеш, мароз за плечы хутка ўхопіць, а па-другое, у любой балаціне дарогу знойдзеш!

— І то праўда!

— Нам трэба, найперш, вызначыцца, куды падамося.

— Які лес секчы, каб потым не блытацца ды лішняе не гаварыць і не рабіць.

— Правільна.

— А што там надта думаць? Паедзем туды, дзе ёсць і дубы, і стромкія сосны.

— І гэта бясспрэчна, бо нам і тое трэба, і тое.

Вырашылі, што пасля Каляд паедуць у лес.

Тыя пару месяцаў праляцелі хутка, нават і апамятацца не паспелі. Такія маразы ўдарылі, такія прыціснулі, што і стогадовыя дзяды падобных не памяталі. Здзіўляліся вяскоўцы:

— Адкуль такая сцюжа?

— Вылезці з хаты нельга.

— Лета будзе спякотнае.

— Скажуцца і спёка тая, і маразы гэтыя на ўраджаі ды на збажыне.

— Эх, жытка нашая...

— Няма чаго, хлопцы, убівацца. Рабіць усё роўна трэба. Дамаўляліся ехаць у пушчу?

Пытанне павісла ў паветры. Той, хто запытаўся, ашаломлена азіраўся па баках. Потым не ўтрымаўся і паўтарыў зноў:

— Дамаўляліся? — голас на гэты раз прагучаў значна цішэй.

— Яно-то так, але ж маразы, — піскнуў нехта і адразу заплюхаў носам, нібы пацвярджаючы тым самым, што і нюхаўка замерзне на такой сцюжы.

Невядома, як бы ўсё скончылася, каб не адзін стары, але дужы яшчэ дзед, які збіраўся вясной стаўляць хаціну малодшаму сыну. Ён таксама голас падаў:

— Што ж, браткі? Як бы там ні было, але мы на гэты час і разлічвалі. Трэба збірацца і ехаць. З аднаго боку, будзе холадна, а з другога, забяромся туды, дзе да нас толькі нячысцікі і жылі.

— Яшчэ чарцей нам на гэтую справу не хапала.

— Нічога, і іх патурбуем. Не спаць жа ім круглы год.

— Прымусім на сябе працаваць.

— Глядзіце, харобрыя, каб яны самі вас не ўпрэглі.

— А ты ўжо і збаяўся?

— Ды не, але перад такой справай не хочацца пра нячыстую сілу згадваць.

— То давайце вырашаць.

— А што вырашаць? Тады дамовіліся, то з заўтрашняга ранку і паедзем. Пайшлі, браткі, збірацца, а заўтра ў дарогу. З самае раніцы выязджаць трэба.

Сабраліся сяляне і паехалі. Конікі дружна беглі, палазы на марозе парыпвалі, а неба было зоркамі-светлякамі ўсыпана, нібы хто жару панасыпаў шчодрай рукой. Зімовая ночка доўгая, а дзень, наадварот, — не паспееш міргнуць, як пройдзе. Вырашылі людзі, што дамоў адразу вяртацца не стануць, а папросяцца начаваць на бліжэйшы лясны хутар, каб і час такім чынам зэканоміць, і папрацаваць, не адрываючыся. Зашыліся ў такую гушчэчу, што як галаву задзярэш, на верхавіны пазіраючы, то шапка з яе спадае. Той стары дзед, які так рашуча выступіў за паездку, і тут голас падаў:

— Вось дзе бярвенні на хаціны будуць, як звон! З аднаго пару вянкоў смела класці можна.

— Так.

— Валіць толькі цяжка будзе.

— Нічога, мы да працы прызвычаеныя.

Дружна ўхапіліся за працу, бо кожнаму хацелася размяць зляжалае і змарожанае цела, не цярпелася зваліць першае дрэва. Застукалі сякеры, зашаргалі пілы. Далёка неслася водгулле па намёрзлым лесе. Ніколі раней не бывалі

тут людзі, а ў такую сцюжу асмеліліся і сюды забрацца. Ужо першыя сані нагрузілі, і палова людзей пакіравала з коньмі, а палова засталася далей лясіны валіць, каб яшчэ раз да вечара вывезці з пушчы на высокі ўзгорак, адкуль можна будзе бярвенні ў любы час, ужо не падбіраючы надвор'е, забраць. Вечарам, як і згаварыліся, паехалі да ляснога хутара. Гаспадар быў рады, што да яго адразу гэтулькі людзей завітала, бо па паўгода і болей нікога чужога не бачыў на сваім падворку. Павячэралі тым, што вяскоўцы з сабой прывезлі ды што гаспадары на стол паставілі, і паляглі на падлогу ў свежую салому. А там, дзе людзі, там заўсёды і размовы ўсялякія. Нічога, што стаміліся, нічога, што ўсё гудзе, але ёсць пра што пагаманіць. І давай тут прыгадваць усялякія старынкі, здарэнні, ды такія, што гаспадыня з дзецьмі на печы ажно божкалі і войкалі са страху. Найболей спадабалася, як усё той жа стары дзед распавядаў пра Чалюшчыка. Аказваецца, так ягонага коніка некалі звалі. Стары даводзіў, што конь з любога месца мог яго дамоў завезці. Толькі трэба было сесці ў вазок ці ў сані і гукнуць яму: «Дахаты!» Болей ні слова не кажы, не бі, не падганяй. Спі сабе ці ляжы спакойна.

— Няўжо?

— Што я, хлусіць буду?

Возчыкі памаўчалі, нібы веры не давалі, а потым нехта прагуў у цемры:

— У жыцці ўсялякае здараецца. Чаму б і не паверыць?

Неўзабаве ўсе храплі так, што ажно сцены патрэсквалі і нават не было чуваць, як пасвістваў вецер на вуліцы ды гудзеў аб нечым таямнічым, адвечным глухі бор.

З раніцы зноў ухапіліся за працу. І так не адзін дзень, а цэлы тыдзень. Многа лесу навазілі, а апошні раз як везлі, то ўжо дамоў сані панагружалі. Хто ішоў побач з санямі, хто падсаджваўся на іх, а некаторыя — і не злазілі. Так і той стары. Як залёг, то і заснуў. Вырашылі вяскоўцы з яго пажартаваць. Узялі і перад самай вёскай коніка ўбок накіравалі. Падхапіўся дзед ды як закрычыць з перапуду, а сяляне рагатаць:

— Вось табе і Чалюшчык, вось табе і Чалюшчавічы!

Значыцца, тая вёска, дзе ты жывеш. Ды так і засталося на доўгія стагоддзі.



# РАГАЧОЎ

Нашы продкі слаўныя былі ва ўсіх справах — і ў працы, і ў баявых паядынках. Вылучаліся сярод іх асілкі-дружыннікі, якіх нараджалася нямала. А дружыны вялі за сабой ваяводы, уласным прыкладам паказвалі ўзоры храбрасці і гераізму, самаадданага служэння роднаму краю. З тых далёкіх часоў згадваюць аднаго такога слаўнага сына Беларусі — ваяводу Рогача.

Хто яго ведае, чаму менавіта такую мянушку меў вой. Некаторыя сцвярджалі, што ягоныя ўладанні былі недзе на рагу, ля рэчкі вялікай і паўнаводнай — Дняпра, ці ля Друці, іншыя даводзілі, што яго так празвалі весельчакі-ваяры за тое, што ён рагачом звычайным з двума сапернікамі біўся і абодвух перамог і прымусіў уцякаць.

Як бы там ні было, але Рогач і сапраўды быў нораву надзвычай вясёлага. Здаралася, едзе сабе паперадзе ваяў і паглядвае па баках. А галава без шалома, яго ён накідваў толькі падчас бітвы, валасы пышныя па плячах распусціліся, плечы здаравенныя ў кальчугу забраныя. Тупоча магутны конь, сядзіць на ім не меней магутны гаспадар і нешта бязгучна губамі шапоча. Потым акінецца на сваіх дружыннікаў і гукне:

— Хлопцы! А ці памятаеце, як мы тут непадалёку біліся?

— Было б што згадваць.

— Хіба ж не весела было глядзець, як чужынцы ў балоце катурхаліся?

— Яшчэ як.
— А памятаеце, як мы ўсё хітра прыдумалі?
— Так.
— І страт тады амаль не мелі.
— Некалькі параненых ды сотнік з каня зляцеў і азадкам на смаловы корч напароўся.
— Во ўжо крычаў! Гарлаў так, што нават не чуваць было, як ворагі паратунку прасілі!
— Каб не сотнікаў крык, дык чужынцаў тых прыйшлося б доўга ў балота гнаць. А так яны самі панесліся ў непралазную твань. Усё перамяшалася: коні, людзі, стогны, праклёны, енкі.
— А па-над усім гэтым — сотнікаў голас.
Весела смяяліся дружыннікі, пагігікваў, седзячы ў сядле, здаравіла-сотнік, трэсліся плечы ад смеху ў Рогача.
Справа набліжалася да вечара. Рогач паклікаў да сябе дзесятніка, які высылаў людзей на разведку:
— Ну?
— Усё ціха, ваявода.
— А далёка правяралі?
— Далекавата.
— Усе разведчыкі вярнуліся?
— Не. Трое яшчэ не прыскакалі, але я іх паслаў далей за астатніх і крыху ўбок, каб там праверылі. Застава наша там не прыслала пасланца. Яго яшчэ ўчора чакалі.
— Чаму ж мне не паведаміў?
— Я прыходзіў, але вы адпачывалі. Князь якраз стаяў, то ён і распытаў, што да чаго, і сказаў, каб не хваляваліся, што пасланец, можа, запозніўся па нейкай патрэбе.
— Хто яго ведае...
— Таму і паслаў у той бок траіх, каб самі прасачылі, што ды як.
— Можа, трэба было болей людзей паслаць?
— Яно-то і так, але калі болей віжоў пасылаеш, то рызыкуеш тым, што іх лягчэй высачыць.
— Зразумела. То будзем на начлег спыняцца. Заўтра да вечара павінны да нашага замка ўмацаванага прыехаць, там надаўжэй спынімся.
— Нешта на душы шкрабе. Нейкае прадчуванне ў мяне дурное.
Рогач раптоўна павярнуўся да дзесятніка:
— Чаго б гэта?
— Не ведаю.
— А ты прадчуванням верыш?

— Я людзям веру.
— Людзям? — перапытаў ваявода.
— Так, сваім хлопцам, яны мне лепей за ўсялякія прадказанні і прадчуванні. Зробяць справу на «выдатна», можна і не перажываць, а тут не магу нічога сказаць. Мала які чалавек здольны зазірнуць хоць на пару дзён наперад. Усе мы смяротныя і жывём днём адзіным... Тут наперадзе будзе невялічкая лагчына. Ручай працякае, кустоўе густое. Месца прыдатнае для начлегу, і здалёк відаць, калі што якое.
— Сам ужо праглядваў?
— Так, ездзіў з хлопцамі, пашнырылі навокал. Усё чыста вёрст на пяць.
— Там і спынімся. Табе я давяраю, як нікому болей.
Дзесятнік паехаў шпарчэй і неўзабаве з некалькімі вершнікамі знік за пагоркам, а Рогач стаў услухоўвацца ў тое, пра што гаманілі дружыннікі. Вoi, у пераважнай большасці маладыя, і тут гаманілі пра жанчын. Гэтую тэму любы з іх гатовы быў працягваць нават сярод ночы.
— Жанчыны яны, брат, розныя бываюць, — павучаў старэйшы дружыннік малодшага.
— Якія? — прыкідваючыся дурнем, перапытаў той.
— А ты і не ведаеш?
— Не.
Навокал зарагаталі, але хутка прыціхлі, бо кожнаму хацелася пачуць, што сябрукі будуць гаманіць далей.
— Ну, то якія яны? — запытаўся малады дружыннік.
— Эх ты...
— Сам не ведаеш, а толькі пахваляешся!
— Я?
— Ты!
— Ды... вялікія і малыя яны!
Рогат разлёгся такі, што, здавалася, зарагаталі нават коні, якім даспадобы прыйшоўся такі адказ. А пра дружыннікаў ужо і гаварыць не даводзілася. Некаторыя пазлазілі з коней і беглі побач з імі ці ўвогуле качаліся па траве.
Рогач смяяўся разам з усімі, потым моцна, каб перакрычаць шум, загадаў:
— Хлопцы, зараз на начлег спыняемся!
Такі загад выклікаў яшчэ большае ажыўленне, бо кожнаму ўжо надакучыла цэлы дзень гойдацца ў сядле, хацелася прысесці ці прылегчы і спакойна аддацца сну.
Сконіліся хутка, нацягалі сухога ламачча, і неўзабаве ўспыхнулі невялічкія вогнішчы. Здавалася, што нават дыму

ад іх не было, не гаворачы ўжо пра полымя. Усё ўмелі рабіць умелыя рукі, прызвычаеныя шматлікімі паходамі. Варылі есці і размаўлялі. Ахова, само сабой, была выстаўлена з усіх бакоў. Хоць тут была і свая зямля, але пільнасць, ды яшчэ вайсковым людзям, яна ніколі не перашкаджала. Колькі разоў вось так выратоўваліся ад нечаканай навалы і адбіваліся.

Ваявода паклікаў сотнікаў, якіх і было ўсяго двое, бо ў гэты паход выбралася не ўся дружына. Вырашыў перагаварыць з імі адносна будучых дзеянняў ды дачакацца разам разведчыка-дзесятніка з падначаленымі.

— Як справы, хлопцы?

— Добра.

— Чаго ж тут благога. Ціха, спакойна навокал, зверху не лье. Толькі і застаецца жыццю радавацца.

— Ага, — упікнуў першы сотнік другога, — і пнёў ні наперадзе, ні з бакоў не відаць.

— Каб сам так зляцеў, то пабачыў бы я, як ты роў бы не сваім голасам.

— Я так не магу, и да такога не здольны.

— Ды ты ўвогуле... — ускіпеў пакрыўджаны сотнік.

Рогач не даў ім сварыцца:

— Знайшлі з-за чаго заводзіцца. Супакойцеся. Нешта ў мяне падазрэнні ў душу закрадваюцца...

— Адносна чаго? — адразу спахмурнелі абодва сотнікі.

— Здаецца, што нешта недзе паблізу не ў парадку і чакае нас хуткая небяспека.

— А разведка?

— Дзесятнік другі раз паехаў усё прасачыць. Разам з людзьмі накіраваўся. Першы раз усё добра было.

— То і ў другі добра будзе.

— Трое разведчыкаў, якія былі пасланы ў іншы бок, назад не вярнуліся. Праўда, ім шлях намнога даўжэйшы выпаў...

— То, можа, з-за гэтага і затрымаліся? Магчыма, нешта заўважылі ды да канца высочваюць, каб усе падрабязнасці ведаць?

— Гэта не выключана. Але ж і дзесятніка няма. Ён паабяцаў вечарам быць.

— То пачакаем.

Яны селі ля вогнішча, паціху размаўлялі і слухалі гамонку дружыннікаў. Часам даносіўся і храп, некаторыя воі ўжо спалі. Тут пачуўся цокат капытоў. Зямля, мяккая, утравелая, адбівала іхні пошчак, нібыта змёрзлая дарога.

— Дзе ваявода? — пачулася ўстрывожанае.
Рогач адгукнуўся, і да яго падбег узмакрэлы, запылены, стомлены вой.
— Бяда, ваявода.
— Што такое?
— Там, дзе мы былі, чужынцы.
— Многа?
— Не надта, але болей, чым нас.
— Чым займаюцца?
— Рухаюцца ў глыб нашай тэрыторыі. Дзень стаялі ў лесе, а калі прыцямнела, то рушылі. Там застаўся дзесятнік і астатнія разведчыкі, а мяне прыслалі папярэдзіць.
— Малайцы, хлопцы! А ў якім накірунку яны рухаюцца?
— Я пакажу. Калі не зменіцца іхняя задума, то яны ідуць якраз туды, куды паказваў мне дзесятнік.
— Паспеем перахапіць?
— Думаю, яшчэ і пачакаць крыху давядзецца.
— Каб жа ўсё атрымалася...
— Атрымаецца, бо чужынцы хочуць пераправуляцца праз раку, а для гэтага зручнае толькі адно месца.
Рогач не паверыў:
— Калі гэта татары, то яны не шукаюць водмелей, а пераплываюць разам з коньмі, учапіўшыся за іхнія хвасты.
— Так, татары, раскосыя, — пацвердзіў разведчык.
— Вось бачыш.
— Але ж дзесятнік пераконваў, што ідуць туды!
Ваявода задумаўся, потым зірнуў на сотнікаў:
— Ну, што вы скажаце?
— Рызыкуем.
— Можам прапусціць, бо дзе ў іншым месцы выскачаць.
— І я так думаю, але дзесятнік чалавек бывалы і прамашкі даць не павінен. Падымаем людзей — і ў дарогу?
— Так. Каб загадзей прыехаць і паспець замаскіравацца, людзей расставіць, да сустрэчы падрыхтавацца належным чынам.
— Тады ў дарогу.
Дружыннікі — людзі, прызвычаеныя да ўсялякіх нечаканасцей, таму нават не перапытвалі, калі прагучала каманда збірацца. Ускочылі на коней і паімчалі ў начную цемру, стараючыся не расцягвацца і трымацца бліжэй адзін да аднаго.
— Хутчэй, хутчэй, — падганяў Рогач.
Паспелі да месца загадзей. Разведчык сказаў:

— Вось тут і загадаў мне паказаць вам пераход дзесятнік.

— Зручнае месца, — зазначыў ваявода. — На наш бок пераправяцца, а тут лясок. Перачакаюць дзень — і далей. Ніхто не заўважыць і не пачуе.

Сотнік-здаравіла падтрымаў.

— Чэрці раскосыя. Усё яны прадугледжваюць.

— Але ж і мы іх тут пачакаем. Пабачым, як яны засяпваюць.

Падрыхтаваліся дружыннікі, усіх вояў расставілі сотнікі і дзесятнікі, загадалі, каб без каманды не выскачылі, і сталі чакаць. Час цягнуўся марудна. На ўсходзе ўжо выразна пашарэла, вось-вось і сонца над вадой зайграе.

— Едуць, — прашаптаў нехта.

Сапраўды, на тым беразе з'явіліся вершнікі. Бясшумна пакруціліся і зноў зніклі.

— Разведчыкі. Значыцца, правільна дзесятнік прадгадаў.

Татары пусціліся ўплаў. Дружыннікі дачакаліся таго моманту, калі апошні вершнік вылез на бераг, і кінуліся на чужынцаў. Сеча была лютая і надзвычай хуткая. Людзей з абодвух бакоў загінула многа, і, што самае крыўднае, чыркнула атручаная страла Рогача па твары. Спачатку і не пачуў, а праз нейкую гадзіну воі ўжо не маглі яго пазнаць — счарнеў увесь, апух, не здолеў трымацца. Праз дзень і памёр. Пахавалі яго дружыннікі разам са сваімі забітымі, а над імі курган высокі насыпалі і назвалі яго Рогачаў. Потым назва крыху перайначылася. Стаў ён Рагачоў.

## БЕЛІЦК

Гавораць людзі з даўніх часоў, што беларус і чорта не баіцца. Калі яго разварушыць, то пакажа нячысціку такое, ад чаго той доўга вішчаць будзе. А так чалавек рахманы, спакойны, памяркоўны, нікога не пакрыўдзіць, нікога не зачэпіць. Праўда, былі і такія, што пальца ў рот не кладзі, але такіх лічаныя адзінкі нараджаліся. Адзін такі чалавек некалі і ў нас тут пабываў. А адбылося ўсё наступным чынам.

Ішоў неяк падарожны па сцяжынцы. Не стары чалавек — сама што ў сталыя гады ўвайшоў. Звалі яго Павел. Хто яго ведае, дзе нарадзіўся, але калі людзі пачыналі дапытвацца, то шчэрыў пракураныя зубы ва ўсмешцы і мовіў:

— Каб жа я памятаў...

— Няўжо нічога і не памятаеш?
— Не.
— Бедалага. Без бацькоў рос.
— Хто вам такое сказаў?
— Сам і сказаў.
— Я ж сказаў, што нічога не памятаю, а пра тое, што нікога не памятаю, не гаварыў. Самі ўсё перайначыце, гаворыце абы-што.
— То, выходзіць, бацькоў памятаеш? Хто яны, Паўле?
— Мужчына і жанчына, — бойка адрэзваў падарожны, а ўсе навокал з такога адказу пачыналі за жываты трымацца.
Пасядзіць Павел з мужчынамі, пажартуе, гісторый цікавых пару раскажа і, калі яшчэ да вечара далекавата, прамовіць:
— Пайду я, хлопцы, няма чаго затрымлівацца.
А калі ўжо вечарэць пачынала, то прасіўся ў каго-небудзь пераначаваць. Такога чалавека кожны рад быў у хаціну пусціць, каб яшчэ паслухаць, распытаць, як там у іншых мясцінах справы ў людзей ідуць.
Вось так аднаго вечара падарожны і сказаў:
— То хто, людзі добрыя, на парог пусціць?
Стараваты дзядулька адказаў адразу, другіх апярэдзіўшы:
— Пайшлі да мяне, месца хопіць. Дзеці ўжо дарослыя — жанатыя ды замужныя, удваіх са старой гаруем.
— То каб я вам у цяжар не быў?
— Хай гэта цябе не хвалюе.
— А дзе ваша хаціна?
— Пройдзем крышачку, і відаць будзе. За густымі дрэвамі мае будынкі стаяць.
Падышлі да хаціны, дзедка і гаворыць:
— Вось і мае харомы.
— То ў вас ажно дзве хаты — старая і новая? Заможна жывяце.
— Яно-то і так, але злыбеда ўкралася.
— Якая?
— Ды...
— Гаварыце, не палохайцеся. Я не з тых, хто з чужога гора смяяцца стане.
— Ведаю, але пайшлі ў хату.
Павел здзівіўся, што чалавек пакіраваў не ў новы будынак, але нічога не сказаў, толькі сам сабе ўсміхнуўся ў вусы, маўляў, дзед трапіўся не надта шчодры. Зайшлі ў хаціну, а там гаспадыня вячэру на стол ставіць, таму адразу і падарожнага запрасіла:

— Сядай, чалавеча, з намі.

— Дзякую, але ж каб вас не аб'есці?

— Не перажывай, есці ў нас, дзякуй Богу, заўсёды хапае, іншая бяда ёсць, — прамовіла і бабулька.

— Зноў бяда. Ды што ж за яна? — падаў голас Павел.

— Ой, чалавеча, і не згадвай. Не першы год яна ў нас жыве.

— То скажыце, што гэта такое, можа, я вам і дапамагу?

— У каго мы толькі, сынку, паратунку ні шукалі, да каго ні звярталіся — ніхто не змог нас выратаваць.

— А раптам у мяне атрымаецца?

— Яно-то канешне, трэба да апошняга спадзявацца, — пагадзіўся дзед, — але давай спачатку павячэраем, а потым ужо да нашых спраў звернемся.

Перакусілі, і Павел папрасіў расказаць, што ў гаспадароў здарылася. Пачаў дзядуля:

— Ты бачыў, што мы не ў новую хаціну пайшлі, а ў старую?

— Ага.

— Відаць, падумаў, што я сквапны і не захацеў весці падарожнага ў новае памяшканне?

— Калі шчыра, то было такое.

— Вось і не адгадаў. Справа ў тым, што мы ў новай хаціне і самі толькі адну ноч пераначавалі.

— І чаго гэта?

— Ды ўсё з-за той жа бяды праклятай! — не вытрымала гаспадыня.

— Ага, толькі, гэта, мы зайшлі, паслалі, каб спаць, толькі прылеглі, як раздаліся нейкія страшныя гукі, тупаценне, нібыта коні бегалі, а потым праз комін увалілася на сярэдзіну хаціны нешта надзвычай страшнае.

— Увалілася?

— Але ж.

— І што ж то магло быць?

— Братачка, прыглядзеліся мы — [redacted] гэта ж чорт!

— Нячысцік?

— Ён самы.

— То чаго ж вы спалохаліся?

— Сказаў, каб выбіраліся і ён там жыць стане, бо не хоча назад у балота.

— Бачыш ты на яго. І вы пайшлі?

— Ён нас яшчэ аддубасіў дубінкай добра.

— Ледзьве не пазабіваў, — прашаптала старая, — і наказаў, каб болей туды і не ўваходзілі, бо ўвогуле жыцця пазбавіць.

— Падарунак нам яшчэ на памяць даў.

— Які?

— Дубінку, якой нас лупцаваў. Маўляў, каб не забываліся, што нас там чакае.

— З-за гэтага вы і не жывяце ў новай хаціне?

— Баімся, чалавеча, таго чорта. Людзей прасілі, каб дапамаглі. Яны і браліся, але ад нячысціка атрымлівалі такую лупцоўку, што і не радыя былі потым.

Павел закурыў люлечку, сеў ля печы, каб дым у комін выцягвала, выцягнуў ногі і прамовіў спакойна:

— Гэта не самае страшнае. Магу вам у гэтай бядзе дапамагчы.

— Праўда? Братачка, выратуй нас, старых. Мы ж спакойна і ў гэтай хаціне спаць не можам.

— Зробім. Толькі вы мне дапамажыце.

— А што трэба?

— Чыгун вады цёплай нагрэйце і мыла кавалак дайце, калі ёсць.

— Ёсць.

— Іголку самую вялікую і гузікаў з дзесятак, можна самых розных, люстэрка і ніткі.

— І гэта не праблема.

— Тады вы ўсё рыхтуйце, а ■ пакуру ды пайду ў тую хаціну спаць.

— Ой, родненькі, каб жа ён цябе не забіў, — заламала рукі гаспадыня.

— Не хвалюйцеся, і адразу вас папярэджваю: калі нейкія крыкі панясуцца, то вы не бяжыце мне на дапамогу, я сам спраўлюся.

Пакурыў Павел, устаў і закамандаваў:

— Дапамажыце мне да парога той хаціны данесці ўсё, бо адзін не здолею.

Гаспадары, калоцячыся са страху, прынеслі ўсё да парога, і падарожны іх супакоіў:

— Чаго гэта вы так? Не бойцеся, страх — благі дарадчык. Ідзіце спаць, я ўсё сам далей зраблю.

Плетанулі старыя ад будыніны, нібы за імі хто з кіем гнаўся, ■ Павел вярнуўся да іх ды яшчэ чортаў падарунак — дубінку — прыхапіў.

— Каб і мне было чым аддзячыць нячысціка.

— Глядзі, каб твая спіна не ўгрэлася.

— За гэта не перажывайце.

Зайшоў у будыніну, агледзеўся, расставіў усё тое прычындалле, якое прынёс, і давай ваду мыліць, ■ потым і

сваю бараду мылам белым намазаў, і стала яна бялюткая як снег. Усміхнуўся чалавек: «На гэтым ты і пападзешся!»

Чакаць доўга не давялося. Недзе хвілін праз дзесяць пачулася магутнае гупанне, тупаценне, крыкі, а потым ляснулася нешта ў коміне і паляцела густая сажа. Яшчэ праз момант на падлозе закруціўся чорт. Павел не азіраўся, бо ўсё выдатна бачыў у люстэрка. Нячысцік заскакаў:

— Яшчэ адзін дурань знайшоўся! Вось і атрымаеш ад мяне на арэхі!

— Глядзі, каб сам не атрымаў! — пагрозліва адказаў чалавек.

Чорт ажно зяпу разявіў ад здзіўлення, бо ўпершыню такога чалавека бачыў.

— Што гэта ты робіш? — запытаўся ад неадольнай цікаўнасці.

— Вось, пабялюся, а потым стану гузікі сабе ўшываць.

— Навошта?

— Каб маладзейшым быць.

— Маладзейшым?.. А гэта кожнаму можна?

— Ведама што.

— А мяне можаш пабяліць? Хочацца надта. Усе мае родныя і блізкія чорнымі будуць, а я белым стану...

— Канешне, прыгажэй будзе.

— Слухай, калі ты так зробіш, то я цябе біць не буду. Пагаджайся.

— Эх, — махнуў рукой Павел, — было не было. Зраблю.

— Калі ўсё найлепшым чынам атрымаецца, то я цябе яшчэ і ўзнагароджу.

— Не трэба мне твая ўзнагарода. Сядай.

Сеў чорт, а хітры чалавек і кажа:

— Не, так справа не пойдзе!

— Чаму?

— Круцішся. Давай я цябе прывяжу, то мне можна будзе смела сваю справу рабіць.

Скруціў Павел нячысціка моцна-моцна, набяліў яго, а потым узяўся гузікі ўшываць. Нячысцік спачатку з цікаўнасцю пазіраў, але чалавек як упёр яму пад скуру здаравенную іголку, то не сваім голасам заверашчаў:

— Што ж ты робіш?!

— Трывай, дурань, маладзейшым будзеш!

Тыркаў, тыркаў той іголкай, пакуль сам не стаміўся, а ў вушах не зарэзала ад крыку, і кажа:

— Ну, хопіць. Адну справу зрабіў. Зараз з цябе ўсё дурное буду выбіваць.

— А можа, не трэба?

— Трэба, як жа без гэтага!

Ухапіў дубінку і давай ёю чорта палыскаць. А той і рады б уцячы, ды не мае магчымасці. Павел да таго часу дубасіў нячысціка, пакуль не надакучыла.

— Цяпер яшчэ трохі ў цябе поўсці на жываце выгалю, каб не такі страшны быў, — і давай тупым аскабалкам сярпа шоргаць.

Нячысцік так роў, што, здавалася, праз хвіліну хаціна разбурыцца. Але яна вытрымала. Як развязаў чорта Павел, то той у комін куляй вылецеў і загарлаў:

— Уцякайце, браткі, бо тут беляць! Уцякайце!

Некаторым чулася — «беляць», а іншым — «бо тут Беліцк».

## ДОЎСК

Некалькі стагоддзяў таму ўсё гэта здарылася. У тыя часы кіравала Расійскай імперыяй, а беларускія землі ўваходзілі ў яе склад, імператрыца Кацярына II. І вырашыла яна праехацца па сваёй дзяржаве ад мора да мора — ад Балтыйскага да Чорнага, паглядзець, як людзі жывуць, як выконваюцца яе загады, ці не парушае хто парадкаў. Загадала браць самыя дарагія карэты, запрагаць самых лепшых коней, ахову прыставіць шматлікую і з найлепшых палкоў.

— Будзе выканана, ваша вялікасць.

— А яшчэ. Папярэдзьце маіх сяброваk ды фрэйлін, каб таксама збіраліся.

Крутнуліся найгалоўнейшыя міністры і паджгалі загады ніжэйшым слугам аддаваць, а што і выконваць, бо імператрыца магла раззлавацца, і тады некаму не знасіць галавы.

Час хутка ляцеў. Насіліся па слаўнаму Пецярбургу вершнікі ды ганцы ўсялякія, папярэджвалі асоб, якія павінны былі тэрмінова ў падарожжа збірацца:

— Глядзіце, каб не спазніліся! Па-першае, чакаць ніхто не будзе, а па-другое, пакаранне самае страшнае чакае!

Нарэшце настаў той дзень, калі царэўна выбіралася са сталіцы ў працяглае падарожжа. Што тут рабілася! Іграла музыка, маршыравалі салдаты, плакалі і спявалі, крычалі і абдымаліся. Гвалт быў, што падчас сусветнага патопу. Кацярына II выйшла з палаца і падалася, не спяшаючыся, да

залачонай карэты. Народ радасна вітаў яе, а яна памахала рукой і ўселася на высокія падушкі. Потым пачуўся яе ўладны голас:

— Кранаемся!

З месца панесліся карэты, запрэжаныя сытымі, здаровымі коньмі, загучалі вайсковыя каманды, і ахова ды ганаровая варта таксама рушылі наперад.

Весела праходзіла падарожжа. Ведама ж, ехала не абыякая асоба, а сама імператрыца, таму ёй усюды наладжвалі пышныя ды ўрачыстыя сустрэчы і віншаванні, усюды прымалі як самага дарагога госця. Надакучыла гэта Кацярыне II, і яна выслала наперад вершнікаў сачыць за тым, каб ніхто не папярэджваў аб тым, што яна едзе да Чорнага мора.

Стала цішэй. Ніхто не чакаў, што царэўна прыедзе. Прымчыцца бясконцы поезд экіпажаў у горад ці ў мястэчка, а там улады п'юць, гуляюць, нікога не баючыся, нават не здагадваючыся, што іхняя ці то смерць, ці то ўзнагарода зусім побач стаіць. Як раззлуецца Кацярына II, як пачне загады суровыя аддаваць, то самі міністры ажно з перапуду зубамі ляскочуць, а пра астатніх ужо і гаварыць няма чаго. Толькі і прасіліся:

— Даруйце, ваша светласць. Д'ябал паблытаў.

— Не будзем болей.

— Не будзеце?

— Не, слёзна клянёмся!

— З клятвы вашай мала толку, я па-свойму зраблю. Гэй, слугі мае верныя!

— Мы тут!

— Дайце ім бізуноў па пяцьдзесят, ды такіх, каб вішчалі не сваімі галасамі!

Галасілі, вылі паны, круціліся пад бізунамі, але ўсё роўна радаваліся, што жыццё ім даравана.

Ехалі далей, і Кацярына II хмурнела:

— Нешта ціха надзвычай.

— Баяцца вас.

— То ніхто ж не ведае, што мы едзем?

— І то праўда.

— Даведайцеся і мне скажаце!

— Зараз зробім!

Рушылі ў розныя бакі верныя слугі, панеслі іх хуткія, нібы маланкі, коні. Сама валадарыня нецярпліва чакала. Нарэшце паказаліся коннікі.

— Ну?

— Аказваецца, тут такая штука...
— Якая?
— Ды ў іх ва ўсіх паселішчах амаль мужчын няма.
— А дзе ж яны?
— Людзі кажуць, што паны ўсіх у салдаты пааддавалі, а назад адтуль амаль ніхто не вяртаецца.
— А чаму ўсіх? Я ж так не загадвала?!
— Памешчыкі самі так рабілі.
— Дык тут, значыцца, Удоўск стаў?
— Так, ваша светласць.
З таго часу і пайшло паселішча Удоўск, а потым стала крыху іначай называцца — Доўск.

## ДУДЧЫНА

Жыла-была бедная ўдава. Так атрымалася, што яе мужа, фурмана, памешчык надта неўзлюбіў. Вось не атрымліваецца ў самога нешта, то чапляецца да селяніна:
— З-за цябе, дурань, не выходзіць.
— Не, паночку.
— Як жа не, калі з-за цябе!
— Але ж я там і не быў нават.
— Што, і не быў? То як жа мог да такога дадумацца, галган?!
— Ой, паночку, — пачынаў адгаворвацца селянін, адчуваючы, што дабром гэтая справа не скончыцца.
— Што, думаць пачаў?! То няхай табе мае слугі бізунамі спіну размалююць, тады, можа, часцей думаць будзеш!
— Даруйце, паночку.
— Не, атрымай, што зарабіў!
Б'юць селяніна-фурмана бязлітасна, стогне ён, крычыць, вырываецца, а памешчык рагоча:
— Будзеш ведаць, галгане!
— За што?
— Каб ведаў за што, то ўвогуле загадаў бы забіць цябе да смерці!
— Пашкадуйце, паночку! Дзеткі ў мяне маленькія, яшчэ нават не разумеюць, як той кавалак хлеба зарабіць.
— А я тут пры чым? Дайце яму так, каб верашчаў, а не прасіўся!
Слугам што? Абы загад, а яны заўсёды рады старацца. Селянін спачатку крычыць, а потым прытомнасць страціць, і толькі ўжо кроў ды пырскі навокал ляцяць. Падымуць

яго, адцягнуць куды пад плот і там кінуць адыходзіць, вадой папярэдне абліўшы.

Трываў-трываў фурман і вырашыў адпомсціць пану. Доўга выбіраў падыходзячы момант, і ўсё ж дачакаўся свайго часу.

Загадаў неяк памешчык ехаць да суседа ў госці. Набраў гарэлкі, закрыўся ў карэце і пацягвае сабе. Праўда, часам высоўваўся з карэты і загадваў:

— Паганяй, каб коні віхурай ляцелі, бо ехаць далёка трэба, спазніцца можам!

— Не спознімся, паночку.

Як улупіў фурман па сытых конях бізуном, а тыя як панясуць, то нават гайдукі ззаду ледзьве трымаліся ды баяліся, што ў любы момант сарвацца могуць. Перакасіліся іхнія твары, рукі ажно пабялелі — так у парэнчы ўхапіліся. Фурман азірнецца ды прагудзе адчайна: «Усім вам будзе, злыдні!» — і гоніць далей. Памешчык сядзіць, папівае сабе гарэлку і ні пра што не здагадваецца. Тым часам экіпаж вылецеў на бераг ракі. Цяпер дарога пакручвалася прама па ўтравелым беразе. Але фурман не прыпыньваў коней, а, наадварот, падганяў, нібы спяшаўся насустрач уласнай смерці.

Ляцяць коні, тарахцяць колы, павіслі гайдукі і не дыхаюць. І тут акно ў экіпажы адчынілася, і памешчык прагарлаў:

— Ты куды, дурань, так гоніш?!

— Смерці насустрач, паночку!

— Ды я табе, галган!..

— Не паспееш!

— Слугі, узяць яго!

Але гайдукі баяліся нават паварухнуцца.

— Каму загадваю?!

Фурман усміхнуўся і крыкнуў:

— Апошні раз, пане, загадваеш. Цяпер ты ў маім падпарадкаванні!

Коні, накіраваныя моцнай рукой, ляцелі прама ў глыбокі вір. Як пёрлі, так і ўляцелі ў вадаём. Нават гайдукі не паспелі саскочыць. Сам фурман правільна ўсё разлічыў і спрыгнуў у апошні момант, але надта няўдала ўсё атрымалася — галавой ударыўся аб здаравенны корч, і яна, як той гарбуз, раскалолася.

Памешчыка з гайдукамі сяляне даставаць і не спрабавалі, то яны і пагнілі ў вадзе, а бедалагу-фурмана дамоў прывезлі. Вось ужо жонка над ім убівалася, вось ужо выгалошвала!

А яно ж і не жартачкі — дзяцей пяцёра на руках засталося. Хто іх цяпер пракорміць? Хто ім бацьку падменіць?

Пахавалі фурмана, засталася ўдава адна з малымі. Начамі не спала, потам салёным ды слязамі аблівалася, але цягнула гаспадарку.

Сядзела раз удава позна пад акном і прала. Чуе — нехта ў аканіцу стукаецца. Адкінула покрыва, глядзіць, ■ там жанчына стаіць. Старая такая, зморшчаная ўся, ссохлая, нібы старая апенька.

— Што табе, бабулька, трэба?

— Запытацца хачу.

— Ну?

— Чаго ты так позна прасці не кідаеш?

— Не магу.

— Чаму?

— Бо дзеткі ў мяне малыя, сіратамі растуць. Калі я не зраблю, то ніхто мне не дапаможа. Гора прымушае. Каб было за кім, то і ■ паляжала б ды паспала, а так...

— Не перажывай надта.

— Ды ■ ўжо прызвычаілася. Сама плачу, сама сябе і суцяшаю.

— Чалавек да ўсяго прывыкае. Толькі ў адчай не кідайся.

— Не, не кінуся, бо я патрэбна сваім дзеткам.

— Вось і добра. А я табе крыху дапамагу.

— Чым?

— Вось табе дудачка. Калі надта прыцісне, то зайграй у яе, табе і лягчэй стане.

Так з таго дня і стала рабіць удава. Такая мелодыя жаласлівая заўсёды атрымлівалася, што і не перадаць, і не пераказаць. Людзі яе Дудкай і празвалі, ■ падвор'е — Дудчына.

## ЗВАНЕЦ

У незапамятныя часіны на месцы нашай вёскі знаходзілася вялікае возера. Хто яго ведае, як яно называлася. Дакладна вядома толькі, што плавалі па ім караблі і чаўны, што людзі па возеры ўсялякія тавары перавозілі ды ў госці плавалі, каб не драцца праз буралы ды непралазныя лясы. Падыход да вадаёма быў толькі з аднаго боку, а насупраць таго падыходу стаяла вялізная вёска і ў ёй царква, ды такая прыгожая, што, відаць, усяго адна такая на ўсёй тутэйшай зямлі ўзвышалася. І, самае галоўнае, плыў ад царквы такі малінавы ды густы звон, што ўсе казалі:

— Як мёдам памазаны.

— Ага, як прысалоджаны.

Мноства людзей збіралася да царквы, асабліва пад свята, калі служылі ўрачысты малебен. Тады гэтулькі ўжо званілі, што ўсе былі як п'яныя ад гучання звона.

Усе жыхары ў той вёсцы жылі заможна, бедных не было. І існаваў у іх парадак — сваіх дзяцей жаніць і замуж аддаваць не далей чым за межы роднай вёскі. Ніхто не меў права парушыць гэта правіла, іначай з ім разбіраліся аднавяскоўцы, і чакала парушальніка немінучая смерць, прычым бязлітасная, жахлівая.

Так атрымалася, што ў самага багатага селяніна расла дачка, Марылька. І такая яна была прыгожая, што іншыя дзяўчаты і ў параўнанне з ёй не ішлі. А голас дзяўчына мела такі, што дастаткова было заспяваць, каб усе птушкі навокал прыціхлі і самі заслухаліся. Гаварылі пра яе:

— Ад Бога Марылька.

— Ад яго.

— У зямных бацькоў такая не магла нарадзіцца. Цікава, за каго яе замуж аддадуць?

— Тут і цікавяць не выпадае, заранeй вядома.

— Што?

— Што за Патапа аддадуць.

— А чаму менавіта за Патапа?

— Бо яго бацькі следам за Марылінымі па багацці будуць.

— Бадай што і так.

Так разважалі аднавяскоўцы, але Марылі, відаць, не надта падабаўся Патап, бо яна ў адкрытую выказала бацькам:

— Ну і жаніха вы мне знайшлі!

— А што?

— Паглядзіце лепей на яго!

— З багатай сям'і.

— Вам бы толькі пра багацце, вас не цікавіць, што вашай дачцэ з ім давядзецца пакутаваць.

— Якое там пакутаваць?!

— Ён жа страшны! Чорт, а не хлапчына!

— Кінь, дурніца! Другога ж такога ў вёсцы няма!

— Во гэта праўда. Такога дурнога ды непрыгожага і сапраўды няма! Не падабаецца мне ваш Патап, і не хачу я за яго замуж!

— Каб болей такіх слоў ад цябе не чуў!

— Такіх не хочаце, то і іншых не пачуеце!

Аднаго разу пасварыліся так, і Марыля пабегла з дому, каб болей не спрачацца. Ішла куды вочы глядзелі. Доўга прабіралася праз кустоўе, ужо і ўладанні тубыльцаў мінула, а ўсё ніяк суцішыцца не магла — так крыўдна ды балюча на душы было. Нарэшце прытамілася і вырашыла адпачыць. Прысела на траву і задумалася. І тут ёй падалося, што недзе жалейка загучала.

— Што гэта? Адкуль тут жалейка? Прымроіцца ж такое...

Услухалася — і на самай справе нехта на дудцы іграў. Такая жаласлівая, нудлівая мелодыя ляцела, што за сэрца кранала.

— Хто ж там такі? — прамовіла Марыля і пакіравала на гук.

Неўзабаве выбілася на невялічкую палянку і ўбачыла каровак, а побач з імі хлапчыну, які, заплюшчыўшы вочы, іграў на жалейцы. Пастух быў малады, прыгожы, магутнага целаскладу. Марыля ажно залюбавалася ім, а ён, нібы адчуўшы погляд, раптоўна расплюшчыў вочы і заўважыў дзяўчыну:

— Ты хто?

— Марыля.

— Адкуль ты?

— З вёскі, — і назвала сваё паселішча.

— З багацеяў, значыцца?

— Выходзіць, што так.

— Тады зразумела. А тут што робіш?

— Жалейку пачула і прыйшла паслухаць. Хіба ж нельга?

— Чаму нельга? — сумеўся хлапчына. — Слухай сабе на здароўе.

Пастух іграў, а дзяўчына слухала. Потым не ўтрымалася:

— А як цябе завуць?

— Сямён, — азваўся той.

— І ты пасвіш кароў?

Хлапчына смяшліва прамовіў:

— І як гэта ты здагадалася?

Засмяяліся абое, весела ім стала. Прыселі ўжо разам, знайшлася і тэма. Час непрыкметна ляцеў, потым Марыля ўстала і прамовіла:

— Мне трэба дамоў ісці.

— Пайшлі, я цябе правяду крыху.

— А каровы?

— Яны тут пакуль паляжаць. Наеліся, то і жвачку няхай пажуюць. Я хутка вярнуся.

Правёў Сямён дзяўчыну, і дамовіліся яны на другі дзень таксама сустрэцца. Так і павялося паміж імі каханне. Сустракаліся некалькі месяцаў запар, а потым дзяўчына папрасіла, каб яе хлапчына з сабой забраў, бо бацькі прымушаюць замуж ісці за нялюбага.

— Калі ты згодна, то [redacted] заўсёды рады тваю волю выканаць, — прамовіў у адказ Сямён.

— Я толькі з дамоўкі крыху рэчаў сваіх вазьму і прыйду на наша месца. Так?

— Буду чакаць цябе.

Разлучыліся, думалі, на пару гадзін, а аказалася, што назаўсёды. Марыліны бацькі высачылі дзяўчыну і забілі яе. За тое, што не паслухалася, не выканала іхнюю волю. Як толькі яны гэта зрабілі, то вёска за ноч пайшла на дно. Потым і возера тое прапала, а з глыбіні падзямельнай нёсся, часамі, малінавы, густы звон. Людзі той канец, дзе асабліва выразна было чуваць, назвалі Званец.

## КАНАВА

Гісторыі гэтай многа дзесяцігоддзяў, [redacted] можа, і стагоддзяў, хто яго там падлічваў. Расказваюць пра цікавага чалавека, які і папрацаваць любіў, але найболей выпіць умеў. Здаровы быў, таму і казалі пра яго:

— Ёсць у што выпіць!

— Ого, такі жывот!

— Ды ён бочку вып’е, [redacted] другой палову недап’е.

— Ведама, і сяброў шукаць не стане.

Звалі таго здаравеннага вяскоўца Уладзімірам. Сапраўды, быў такі моцны ды жылісты, што адзін мог за траіх працаваць. Косяць, здаралася, мужчыны на лузе. Цяжкая гэта праца, надакучлівая. Касіць-то касіць, а вось калі гнюс уваб’ецца, калі вочы сляпіцай выбівае, дыхнуць не дае, тады бяда. Махае, махае мужык, а потым спыніцца і давай коску мянташыць, каб спраўней брала, каб адпачыць крыху ці, як любілі яўрэі ды паны гаварыць, нагнаць самому сабе холаду пад нос. Глядзяць, а Уладзімір махае як ні ў чым не бывала і не спыняецца:

— Чалавеча! — паклічуць яго. — Прыпыніся.

— Навошта?

— Касу памянташ.

— З якой гэта нагоды?

— Ты ж ад самае раніцы яе не мянташыў?

— Не.
— То яна у цябе і не бярэ, бо тупая.
— Не, косіць добра. Як пацягну, то травы паўкапы адразу, адным махам, у пракос пакладу.
— Добра табе.
— І вам жа няблага.
— Стамляемся.
— Ад чаго тут стамляцца?
— Цяжка.
— Ды ну, цяжкую працу знайшлі.
— Няўжо ты не стамляешся, косячы?
— Не.
— Не можа быць.
— Можа.
Вяскоўцаў так і падмывала закласціся з Уладзімірам на што-небудзь, таму нейкі стары дзядулька, які ад раніцы толькі і прайшоў што невялічкі пракос, першым не ўтрымаўся і запрапанаваў:
— А давай закладзёмся!
— З кім? — перапытаў Уладзімір.
— А хоць бы са мной.
— З табой, дзед, няхай твая сучка рабая закладаецца, — бомкнуў здаравіла.
Касцы, якія знаходзіліся бліжэй, ажно пакаціліся з рогату, а стары прысаромлена плятануў у карчы і болей не паказваўся на людзі, каб зноў не трапіцца на вострый язык.
— Уладзімір, а давай з намі закладзёмся.
— Адносна чаго?
Мужчыны задумаліся, а потым нехта запрапанаваў:
— Ды адносна касьбы.
— А што, можна.
— Ці выкасіш ты, не адпачываючы, з раніцы і да самага вечара?
— Да позняга?
— Як звычайна.
— Тады няма чаго і закладвацца, бо адразу гавару: выкашу.
— Тады мы ўскладнім задачу. Будзеш касіць да вечара без перапынку... немянташанай касой.
— Згодны, але што мне за гэта будзе?
— Паставім табе гляк піва.
— За гляк закладвайцеся, браткі, з дзікай свінnёй, што пад старым дубам жалуды збірае.
— А на што ж ты хочаш?

— На бочку піва.

— Вунь чаго захацеў!

— Не хочаце — не трэба, я не напрошваўся, самі да мяне лезлі.

Вяскоўцам нічога іншага, як пагаджацца, не заставалася. Таму пачуліся галасы:

— Згодны!

— Вось гэта іншая справа, а то на гляк яны са мной спрачаюцца!

— Слухай, братка, [redacted] што будзе, калі ты прайграеш?

— Я? Тады новую ўмову стаўце.

Прызадумаліся мужчыны, і тут самы хітры і ўрэзаў:

— Вось што ты, Уладзімір, зробіш, калі прайграеш: на кожнага з нас па дню ад раніцы да змяркання сумленна адпрацуеш.

— Колькі вас тут?

— Зараз палічымся, — данеслася да асілка, і неўзабаве прагучала: — Трыццаць касцоў.

— Трыццаць? Роўна месяц, значыцца?

— Выходзіць, што так.

— Згодны. Але лепей адразу пасылайце ганцоў за півам, каб мне доўга чакаць не давялося. Вып'ю і спаць завалюся, каб да раніцы адпачыць.

— Яшчэ не выйграў спрэчку, а ўжо выпіў. Ну і малайчына!

— Пасылайце ганца, [redacted] вам шчыра гавару!

— За гэтым не пастаім. Давай, касі, [redacted] мы сачыць будзем.

— То і вы працуйце.

— Не, ты нас падманеш, ведаем цябе. Будзем сачыць.

— Як сабе хочаце, але ж дзень дарэмна страціце.

— Няхай гэта цябе, Уладзімір, не хвалюе.

Уздыхнуў асілак на поўныя грудзі і пайшоў размераным крокам наперад, кладучы за сабой раўнюткі пракос. Нехта прашаптаў:

— Во дзе шырыня...

— Яшчэ б, паглядзі, якія плечы.

— Але ж і каса тупая.

— Тупая-то тупая, а травы ззаду не пакідае.

— Да вечара яшчэ далёка, паглядзім, як далей касіць будзе.

Час ішоў. Касец махаў і махаў касой, нібы заведзены. Валіў ужо такую дзялянку, што за дзень і тры мужчыны не выкасілі б.

Праўду сказаў чалавек: цэлы дзень, не адпачываючы і касу не мянташачы, пракасіў. Сонца за кустоўе асела, і ён на пракос зваліўся:

— Бочку сюды!

Прынеслі бочку, і давай Уладзімір піць. Піў не адрываючыся, спаталяючы смагу і голад. Нарэшце напіўся ўволю і... ап'янеў. Пачаў усміхацца неразумна, чаго з ім раней ніколі не было. Ператаміўся чалавек. Ішоў і брыкнуўся ў глыбокую каляіну. Яшчэ паспеў прахрыпець: «Ой, канава, ты канава!» — і заснуў. З таго часу людзі і гаварылі:

— Касіў ля Уладзіміравай канавы.

Потым, калі той луг асушылі, то вёска на тым самым месцы ўзнікла, ды так яе і назвалі — Канава.

# КАЛАСЫ

У старадаўнія часы верылі, што некаторыя людзі могуць уплываць на лёсы іншых. Валодалі яны страшнай чарадзейнай сілай. Вось захочуць каго-небудзь са свету звесці, то напусцяць такога туману, што непажаданы ім чалавек адразу захварэе, і, самае галоўнае, невядомай хваробай. Як ні круціся, як ні старайся — выратавання не знойдзеш. Таму і гаварылі:

— Няйначай чараўнік на яго вока паклаў.

Ці крыху па-іншаму:

— З ведзьмаком спазнаўся.

Прасілі родныя хворага, бегалі па знахарах ды па чараўніках, каб дапамаглі, пашапталі, можа, тая хвароба і адышла б, але ж і сярод знахараў розныя людзі былі. Некаторыя адразу адмаўляліся, казалі, што сілы такой не маюць. Каб мог, то не адмовіўся б.

— А можа, ведаеце такога знахара, які згадзіўся б дапамагчы? — з надзеяй пыталіся людзі.

— Хто ж яго, дзеткі, ведае? Тут ёсць адзін, але ці пагодзіцца ён?

— То хоць скажыце, хто гэта?

Чалавек называў імя, і родныя беглі да таго чалавека. А там усё наадварот атрымлівалася: той знахар і слухаць нават не хацеў, каб дапамагчы задарма, — толькі за плату.

Пераглянуцца людзі, маўляў, пагаджаемся, бо яшчэ адмовіцца, то і апошняя надзея на вылячэнне памрэ.

— Тады іншая справа, гаварыце, што ў вас такое здарылася?

— Чалавек у нас ляжыць, не ўстае, і надзеі не маем на тое, што нехта дапаможа. Усіх, каго ведалі, аббеглі, але пакуль што нічога станоўчага не атрымалася.

— Зразумела. Я вам дапамагу, калі добра заплаціце.

— Не пакрыўдзім. Самае лепшае, што ў нас ёсць, вам аддамо.

— Тады пайшлі.

Такія чараўнікі ды ведзьмары амаль што ў кожнай вёсцы былі. І займаліся яны гэтай справай з выгодай для сябе: працаваць жа ды гнуцца ў полі, як астатнія, неахвота, то што падробяць, [redacted] потым, за плату адпаведную, і выпраўляюць. За нейкую гадзіну дабра ўсялякага прывальвала столькі, што потым тыдзень спакойна можна было сядзець ды спажываць гэта.

А то былі яшчэ ведзьмары, якія толькі і займаліся махлярствамі. Яны ніколі дабра вяскоўцам не прыносілі, толькі сяляне гэтага не ведалі, бо злыдні добра маскіраваліся. Часцей за ўсё займаліся вырываннем заломаў. Залом — гэта некалькі каласоў, сплеценых у адзін жмут. Рабілася такая справа для таго, каб напусціць нешта благое на будучы ўраджай. Знойдзе гаспадар ці гаспадыня на сваёй ніве такі залом і пачынае плакаць:

— Без хлеба застануся.

Падбягуць суседзі:

— Што здарылася?

— Залом.

— Можа, падалося? Пакажы, дзе ён?

— Хадзем.

Падводзіць вясковец суседзяў да нівы, тыя паглядзяць і пагаджаюцца:

— Сапраўды, залом.

— Вырываць трэба, каб нячыстая сіла на ўсю збажыну сваю пошасць не перакінула.

— Так, трэба. Але хто пагодзіцца?

— У тым і справа, што не кожны за гэта возьмецца.

— Пачакайце, ёсць у нас адзін чалавек.

— Яго і чалавекам назваць цяжка — злыдзень страшэнны. Тры шкуры здзярэ, пакуль залом вырве.

— Колькі ні здзярэ, [redacted] выйсця іншага ўсё роўна няма.

Пойдуць да таго ведзьмара, [redacted] ён ужо чакае вяскоўцаў, ведае, што толькі да яго пхацца будуць. Пачынае яшчэ выкручвацца, паказваць, як часу не мае, адарвацца ад гаспадаркі не можа. Потым пагаджаецца:

— Добра, выручу, але за плату.

— Зразумела.

— Вы самі не ідзіце да залома, я ўсё зраблю як мае быць. Не падглядвайце, бо нячыстая сіла можа каго і прыхапіць.

— Ой, Божачка...

Так доўга вялося, пакуль адзін хітры селянін, заўважыўшы ў сваёй збажыне залом, не задаўся пытаннем, хто ж гэта яго заломвае. І дацяміў, што ніхто, акрамя ведзьмара, такой справай займацца не будзе. Ён заломіць — ён жа потым і вырве. Толькі ўжо за добрую плату, апошняе здзярэ з любога гаспадара.

— Ну, даскачашся ты ў мяне! Пачакай, яшчэ пашкадуеш, што такі ахвочы стаў да людскога дабра!

Нікому нічога чалавек не сказаў. Пасядзеў ля нівы, паразважаў і падаўся ў бок вёскі, толькі не дамоў, а адразу да ведзьмара. Той ужо на прызбе сядзеў і свайго часу чакаў:

— Што такое, чалавеча?

— Залом нехта заламаў.

— Сур'ёзная справа.

— То, можа, выручыш?

— Магу, толькі заплаціць давядзецца.

— Заплачу добра, не пашкадуеш.

— То вядзі хутчэй да сваёй нівы.

Прыйшлі на поле, гаспадар паказаў залом, ■ вядзьмар кажа:

— Стой тут, а я пачну яго вырываць.

Селянін на месцы застаўся, а чараўнік прысеў на кукішкі і падаўся ўжо да згорнутых каласоў, як тут нехта ўскочыў яму на плечы, ушчаперыў галаву так, што не дыхнуць, і давай дубасіць па спіне ды па чым папала. Б'е і прымаўляе:

— Цяпер нікому заломаў не станеш рабіць!

— Пусці!

— Цяпер нікога дурыць не будзеш!

— Ратуйце!

— Я цябе адвучу, як людзей падманваць!

— Не буду болей ніколі!

Як пусціў гаспадар ведзьмара, то той паімчаў дамоў так, што ажно пыл закурэў з-пад лапцей. Вясковец вырваў тыя каласы, прынёс іх да крыжа, які стаяў на перакрыжаванні, і паклаў там. Тое месца людзі назвалі Каласкі, а пазней, калі паселішча там вырасла, то крыху перайначылі — Каласы.



# РЭЧЫЦА

Некалі тут, дзе зараз горад, не было паселішча. Было яно, праўда, маленькае, за колькі вёрст адсюль. Жыў там багаты князь. Зямлі меў — то і не памятаў сам, колькі, усялякага багацця — незлічона. Наймаў сабе розных гайдукоў ды аканомаў, каб тыя за парадкам сачылі. Так і гаварыў:

— Надакучыла ўсё гэта мне.

— Зразумела.

— Што вам, дурні, зразумела?

— Што надакучыла, ваша светласць.

— Волі мне хочацца.

Думаюць слугі, якая такая воля князю патрэбна? У яго ж усё ёсць, ні ад каго ён не залежыць, сам сабе і свайму слову гаспадар, што захоча, тое і робіць.

— Мне волі хочацца, надакучыла гэтае мітуслівае жыццё!

Аканюмы галовы ўніз, а самі мазгамі круцяць і разважаюць:

— Нам бы так...

— Нічога вы не разумееце. Думаеце, грошы ды багацце волю даюць?

— Ведама ж.

— Эх, пустыя галовы. Золата ды каштоўнасці чалавека яшчэ болей няволяць.

Ніхто і слова ў адказ не прамовіў, толькі зноў падумалі:

— Нам бы тое багацце, то мы б праверылі. Дурыць нешта князь, не ведае ўжо, што гаворыць.

— Сачыце за парадкам, дый годзе!

— Будзе зроблена. Дазвольце ісці, ваша светласць?

— Не, пачакайце пару хвілін. Павінен вам яшчэ нешта сказаць.

— Што?

— Людзей дарма не крыўдзіце, не ганьбуйце іх і не біце. Паважайце простых сейбітаў, бо на іхніх плячах усё ў гэтым свеце. Зразумелі?

Крутнуліся слугі ды аканомы, пераглядваючыся, але зноў аднагалосна абяцалі.

— Глядзіце, калі даведаюся, што нехта з вас парадак гэты парушыў, то не здабраваць таму будзе!

— Ясная справа.

— Цяпер ідзіце і без дай прычыны мяне не турбуйце. Калі што тэрміновае здарыцца, тады прыбягайце, ■ так на ваш розум і кемлівасць спадзяюся.

Задаволеныя слугі і аканомы выскачылі за дзверы і паджгалі далей ад палаца, каб там навінамі падзяліцца, паразважаць, з чаго б гэта князь такія прамовы стаў гаварыць. Адбегліся, схаваліся ў лясочку і тут ужо сталі паводзіць сябе, як сапраўдныя паны: панадзімаліся, постаці важныя парабілі, быццам бы і не гнуліся толькі што перад гаспадаром, не зазіралі яму ласкава ў вочкі. Вось як чалавек, асабліва той, што ўладу атрымаў, сябе паводзіць. Тут ужо ўсялякія словы загучалі. Самы стары з аканомаў даводзіў:

— Захварэў наш гаспадар! Нешта з ім не тое.

— Такую ўжо дурніцу гарадзіў! Каб хто чужы сказаў, то і не паверылі б, — падтрымаў другі.

— Нам жа лепей, чаго вы, дурні, перажываеце?

— Мы не перажываем, наадварот, ці не тоіцца тут якая княжацкая хітрасць?

— Якая?

— Спачатку даць нам неабмежаваныя правы, а потым падвесці пад шыбеніцу.

— І гэтага не купіць. З багатымі заўсёды трэба трымацца асцярожна.

— Як бы там ні было, але хоць пажывём як людзі. Ён правяраць не стане. Калі хто з сваіх не падкажа, то ўсё будзе добра.

— Давайце дамовімся, што будзем адзін аднаго падтрымліваць, калі ліха якое здарыцца.

— Так.

— І ў справы чужыя не ўмешвацца. Кожны там правіць і загадваць будзе, дзе яму князь сказаў.

— Згода.

— Каб для сваіх мужыкоў кожны з нас панам быў.

— Во, гэта самае галоўнае.

— Яшчэ давайце кожны год на гэтым самым месцы і ў гэты ж дзень сустракацца.

— Навошта?

— Навінамі абменьвацца, раіцца, сабе людзей на падмогу падбіраць.

— Разумна.

— То ўсё?

— Сапраўды, час разыходзіцца.

Пайшлі ў розныя бакі княжацкія слугі ды аканомы, каб сваю ўжо ўладу ды ўласнае права на месцах чыніць. Спадзяваліся, што разбагацеюць у хуткім часе. Бачылі, злыдні, які князь слабы ды знерваваны і нечага нібы пастаянна баіцца. Добра ім стала, што ніхто за плячыма не стаіць і за кожным крокам не сочыць. А з мужыкамі яны раду знойдуць, такога пытлю ім зададуць, што мала не падасца, працаваць будуць, не разгінаючыся.

Падпанкі гэтыя пайшлі, а гаспадар у палацы застаўся. Пасядзеў крыху, [redacted] потым да свайго вернага дварэцкага звярнуўся:

— Як думаеш, правільна [redacted] зрабіў?

Той з дзіцячых гадоў разам з князем рос, таму, часам, і не баяўся смелую думку выказаць. Выслухаў пытанне стары і адказвае:

— Не, княжа.

— Чаму?

— Яны ж такога наробяць, што на вас усе на зямлі праклёны слаць будуць.

— Хто «яны»?

— Тыя, каму вы толькі што ўладу неабмежаваную далі.

— Няўжо яны, самі з сялян, будуць над такімі ж здзекавацца?

— Хужэй на свеце няма пана, які з мужыкоў выбіўся. Нездарма ж сцвярджаюць, што не дай Бог мужыку панам стаць.

— Не дазволю! — загрымеў князь.

— Вы ж самі сказалі, што вам усё надакучыла. Вось і атрымліваецца, што добраахвотна ад улады адмовіліся.

— Зразумей мяне правільна — стаміўся я, братка.

— Ясная справа.
— Ці ж я некалі зверам лютым быў?
— Не.
— Ці ж я некалі некага невінаватага пакараў?
— Не было такога.
— Ці несправядліва кіраваў?
— І гэткіх выпадкаў не прыгадаю.
— Вось бачыш.
— Вы — гэта адно, а яны — зусім іншае.
— Хачу з дачкой у палацы спакойна пасядзець. Дзяўчына вырасла, замуж аддаваць час прыспеў, а які з мяне бацька быў?
— За дачкой трэба прыглядваць. Толькі павінен вам сказаць, што пра яе ніхто благога слова не асмеліцца сказаць, бо яна, як святая, — нікога не пакрыўдзіла, нікога не аблаяла, нікога не пакарала. Пра яе людзі так і гавораць: «Наша князёўна».— З гонарам зазначыў дварэцкі, нібыта гаворка вялася пра ягоную дачку.
— Хваліш, значыцца?
— А то не. Я ж яе з малых гадоў, дакладней, з першых месяцаў, узгадаваў. Мне яна як родная.
— Ведаю, братка.
— Вылітая нябожчыца-маці.
— Так, падобна.
— І постаццю, і характарам, і тварам. Усім у яе пайшла.
— І я часта пра гэта думаю. Не хачу абы за каго замуж аддаваць, каб крыўдзілі ці каб якога дурня трывала. Таму і вырашыў гаспадарчыя справы на іншых ускласці.
— Трэба было каго аднаго абраць, разумнага, сумленнага чалавека.
— Ну, няхай па першым часе так пабудзе, а потым паглядзім.
— Каб позна не было.
— Пагаварылі, нібы роўныя, і дварэцкі прамовіў:
— Пайду да дворні, трэба загады пааддаваць ды праверыць, ці ў парадку ўсё ў палацы ды на сядзібе.
— А я пайду да дачкі, гляну, чым яна займаецца.
Разышліся. Князь падаўся да дзвярэй пакоя, дзе князёўна спала, думаў, што яна яшчэ адпачывае, але пакаёўка, дасціпная, смяшлівая бабулька, папярэдзіла гаспадара:
— Няма ўжо нашай пташачкі, няма.
— А дзе ж яна?
— Недзе паляцела.
— З самай раніцы?

— Так.
— Што яе выцягнула з ложка ў такі час?
— А яна ніколі не залежваецца. То на луг ідзе, то ў гай, то ў садзе сядзіць ды салаўёў слухае. Хораша спяваюць.

Гаспадар пагаварыў хвілін колькі з пакаёўкай і пайшоў шукаць дачку. Неўзабаве ўбачыў дзяўчыну. Яна сядзела на шэрым валуне і ўважліва нешта слухала. Бацька ціхенька падышоў і сеў на траву. Князёўна акінулася, і бацька спытаў, што яна тут робіць.

— Слухаю.
— Каго?
— Як зямля спявае.
— Зямля? Спявае?
— Ага.
— Вось не думаў!
— А ты, тата, прыслухайся.

Стары прыціх, натапырыў вушы, але нічога незвычайнага не пачуў:

— Не, не чую. Відаць, стары ўжо стаў.
— Гэта без прывычкі. Я спачатку таксама нічога не чула, а зараз мне многае свае сакрэты раскрыла: разумею шэпт травы і лістоты, спеў птушак мне, як дзявочыя песні, гуд лесу, як падказка адносна таго, якое надвор'е чакаць...
— І адкуль гэта ў цябе?
— Цябе ж дома амаль не было, таму я то з пакаёўкай, то з дзедам-дварэцкім была. Яны мяне да гэтай справы і прызвычаілі.
— І добра зрабілі. Цяпер, дачушка, будзем пастаянна разам. Я свае справы з сённяшняга дня слугам сваім перадаў.

З таго дня стары князь пастаянна знаходзіўся з дачкой. Стаў часта хварэць, таму калі сам не мог выйсці, то казаў:

— Ідзі, дачушка, пахадзі, паслухай, як зямля гамоніць, мне потым перакажаш.
— Добра, татка, я хутка прыйду, каб ты нядоўга адзін заставаўся.
— Не перажывай, я з дварэцкім пагаманю, то не так самотна будзе.

Дзяўчына імкліва знікала з пакоя, а дварэцкі садзіўся побач з княжацкім ложкам, і пачыналася гаворка двух старых людзей, якія не адзін год пражылі разам.

Час ішоў хутка. Князь з дварэцкім слабелі з кожным днём, а князёўна яшчэ болей прыгажэла і такой красуняй

стала, што пра яе ўжо далёка за межамі княства гаварыць пачалі. Сватоў засылалі знатныя князі ды багатыя ваяводы, але дзяўчына хітравата адмоўчвалася, а князь казаў:

— Прабачайце, госцейкі дарагія. Ранавата нам яшчэ, відаць, да шлюбу.

Дачка была ўдзячна бацьку за паразуменне. Дамовіліся, што яна сама скажа, за каго захоча пайсці.

Стаў князь чакаць, калі ж князёўна сабе хлапчыну знойдзе, які ёй спадабаецца. Ужо і перажываць пачаў ды дварэцкаму паціху казаў:

— Ведаеш, перажываю, што не дачакаюся.

— Дачакаемся, княжа, абавязкова дачакаемся.

Аднаго дня прыбегла прыгажуня ў палац радасная, ажно свеціцца, і да бацькі:

— Татачка.

— Ну?

— Напаткала.

— Каго?

— Свайго суджанага.

— Нарэшце. А хто ён?

— Хлопец, ды прыгожы.

— І сам ведаю, што не дзядзька, але адкуль ён?

— Паніч адзін.

— Паніч? І багаты?

— Я не пыталася.

— Малайчына, няхай цябе гэта не турбуе. Ты толькі глядзі, каб чалавек добры быў, а я тваму шчасцю перашкаджаць не стану.

— Дзякуй, татачка.

— Ідзі ўжо, пабегай, ведаю, што зараз цябе на месцы не ўтрымаеш.

— А табе не сумна будзе?

— Якое там. Зараз і я пра зяця будучага разважаць буду. Да вяселля ж яшчэ рыхтавацца давядзецца.

Але князёўна ўжо не чула. Яна выскачыла з пакоя і, як той белы матылёк, закружылася па невялічкім лужку перад палацам.

Прайшло яшчэ колькі часу, і князь стаў вельмі дрэнна сябе адчуваць. Зусім знясілеў, нават устаць не мог без дапамогі дварэцкага. Таго ўжо прасіў:

— Калі што, то хоць ты, братка, на вяселлі ў маёй дачкі за бацьку пабудзь.

— Усё пройдзе, княжа, — супакойваў верны слуга, —

сам адварочваўся ўбок, каб не бачыў гаспадар ягоных слёз. Гаспадара палаца дабіла навіна, якую прынёс запылены вершнік, просты сялянскі хлапчына. Упаў ён перад княжацкім ложкам на калені і запрасіўся:

— Ратуйце нас, ваша светласць!

— Што, што здарылася?

— Вашы слугі нам жыць не даюць! Б'юць, вынішчаюць, калечаць! Голадам мораць!

Ускінуўся валадар:

— Ды я іх! Усіх да аднаго! На шыбеніцу!

Паспрабаваў было падхапіцца, але заклекатала нешта ў грудзях старэчых, і пайшла носам кроў. Упаў ён на падушкі і дайшоў.

Калі дзяўчыне паведамілі жудасную навіну, то яна птушкай уляцела ў пакой і загаласіла, зусім як вясковая жанчына.

Але нічога не чуў і тым болей нічога не мог адказаць стары князь. Скончыліся для яго будзённыя, зямныя клопаты, назаўсёды ён супакоіўся. Пайшла яна тады да свайго ўлюбёнага каменя, села і стала чакаць каханага, бо збіралася менавіта ў той дзень бацьку свайму паказаць, пазнаёміць іх. Але так ужо атрымалася, так было наканавана лёсам беднай красуні, што не пабачыла яна і свайго суджанага. Сядзела, чакала і ўбачыла, што нехта да яе на кані імчыць. Усхапілася, падумала, што гэта любы, але то быў слуга ад палаца. Вылецеў з сядла куляй і да князёўны:

— Што, што такое?

— Ой, і сказаць не магу!

— Гавары!

— Паніч да вас на кані ехаў, упаў няўдала і забіўся да смерці!

Тут дзяўчына як стаяла, так і гопнулася долу. Толькі ўпала, то з-пад каменя таго самага крынічка зацурчэла, а далей невялічкай рэчыцай разлілася.

Калі на той рачулцы людзі першыя хаціны паставілі, то паселішча так і назвалі — Рэчыца.

## ВАСІЛЕВІЧЫ

На гэтым самым месцы, на высокім пагорку, некалі ў даўнія гады стаяў млын-вятрак. Вяскоўцы да яго часта прыязджалі, а улічваючы, што млыноў у гэтых краях было малавата, справа прыносіла гаспадару немалы прыбытак.

Кожнаму хацелася б так жыць, але далёка не кожны мог сам млын зрабіць, прыдумаць так, каб прымусіць сілу ветру ці вады варочаць здаравенныя каменныя жорны і здрабняць пры гэтым зерне на муку. Таму і займалася большасць сялян спрадвечнай справай. Так і казалі ў адкрытую млынару:

— Займайся ўжо ты адзін млынарствам, а то і поле араць, і млын будаваць надта накладна будзе.

— Гэта толькі спачатку здаецца, ■ калі ўцягнецеся, то і не адчуеце. Самі ж ведаеце, як у гаспадарцы кожная капейка патрэбна.

— Ды ўжо ж.

— Нездарма гаворыцца: мужыцкаму жывату і заверта па нутру. Ці вось гэта: мужыцкаму жывату і хворасг не шкодзіць. А тут жа верная справа. Пабудуеш — не прайграеш.

Сяляне толькі галовамі ачомана пакручвалі ды дапытваліся:

— І адкуль ты, Васілевіч (так таго млынара звалі), усё ведаеш?

— Ат, якое там усё. Ведаеце ж і гэта, што напляваць багачу, калі свой сноп малачу.

— Безумоўна.

— А калі тых снапоў не хапае, то кожны стараецца пасвойму выкручвацца. Млын што? Ён жа стаіць і есці не просіць, круціць крыламі, варочае жорнамі, і мука сыплецца.

— Ага, а дагляд за ім які патрэбны?

— Не без гэтага, браткі, — пагаджаўся гаспадар, — не без гэтага. Толькі не забывайцеся, што не так будзе, як пан скажа, а так стане, як сам мужык зробіць.

— Чыстая праўда, Васілевіч. Няма чаго і дадаць.

— Хіба ж я сялянскай жыткі не ведаю ці далёка ад яе адышоў? Зусім нядаўна ніколі малака з хлебам не пад'еў: вясной малако ёсць — хлеба няма, а ўвосень хлеба намалоціш, то карова запусціцца.

— Але ж і ўмееш ты.

— Жыццё навучыла. Не радавала яно мяне.

— А да каго яно ў нашым краі тварам павярталася?

— Такога не ведаю, але адно магу сказаць дакладна: пакуль да Бога, то чорт душу выйме, пакуль да цара, то пан скуру здыме.

— О, гэта заўсёды так.

— Але ж ты, братка, і навучыўся языком малоць.

— А ўсё ад таго, што пры людзях пастаянна, а яны такога нараспавядаюць, такога нагаворацъ, што валасы дыбарам паўстаюць. Ад розных паноў падданыя да мяне едуць-дабіраюцца. Млыноў жа малавата ў нас.

— Так.

— То і гавораць, што панская рука і за сто вёрст дастане, каб узяць, але і на аршын не дастане, каб нешта даць.

— Святая праўда, чалавеча. Мы і на ўласнай шкуры такую праўду прамацалі, і не раз.

— Таму і атрымліваецца, што просты чалавек як скарбовы конь: даў аўса, даў вады і па спіне — нічога не баіцца.

— Даводзіцца нам, не сакрэт, свайго не меўшы, легчы спаць не еўшы.

— Ды ці адзін раз?

— Такая мужыцкая доля — багатаму дбаць, а самому ў голадзе і холадзе пражываць.

— Дык і такое ж гавораць, што тым панам рукі паадсыхалі некалі, якія ад сябе гарнулі.

— Цягнуць сабе, то няхай бы і нам хоць крыху пакідалі ды жыць давалі.

— Дачакаешся ты ад іх, чалавеча...

— Цар указам, а пан бізуном.

— Хоць у вір з галавой, то бяда за табой.

— Жыццё ў нас такое — і смерць адпаведная.

— Гавораць жа з даўніх часоў: як багаты памрэ — і малы з хаты прэ, а як памрэ бядняк, то будуць толькі поп ды дзяк. Нікому да нас, гаротных, справы няма.

Апусцяць галовы сяляне і задумаюцца над тым, што іх заўтра чакае, як ад даўгоў ды прынукаў выкручвацца, каб неяк канцы з канцамі звесці. Бачыць Васілевіч, што людзі зусім ужо замаркоціліся, і, весела страсянуўшы пылоту з шапкі-кучомкі, прапаноўвае:

— Хлопцы! А хочаце, я вам што-небудзь раскажу?

— Пра што?

— Ці не ўсё роўна вам? Галовы апусцілі, нібыта паміраць збіраецеся.

— Заела жыццё сабачае.

— Вось паслухайце лепей мой аповяд, то вам весялей будзе.

— Гавары ўжо, можа, і праўда, так атрымаецца?

— Гісторыя гэтая ні з кім іншым, а са мной здарылася.

— З табой?

— Так.

— Нездарма сцвярджаюць, што ўсе млынары з чарцямі звязаны.

— Во і адгадалі. Якраз пра нячысцікаў гаварыць збіраюся. Адбылося ўсё вось як. Прывезлі да мяне аднаго разу людзі малоць. Нікога не было, бо залева навокал страшэнная панавала. Прывёз стары з гаспадыняй.

— Дома, відаць, яна яму не надакучвала, што сюды браў.

— Хто яго ведае, як яны там паміж сабой жылі, а сюды абое ехалі. Але найболей мяне здзівіла вось што. Вецер страшэнны, хмары тыя, што кіпень у гаршку, па небе носіць, раве ўсё навокал ды стогне. Выйдзі на паўхвіліны на двор, і то навылёт прамокнеш, як ні хавайся, а тут...

— Што?

— Возам людзі прыехалі, і мяшкі іхнія сухія былі.

— Дык нечым, мабыць, прыкрывалі?

— У тым і справа, што нічым. Я ж усё паглядзеў. Ніякага рыззя, ніякага прасцірала ці там чаго іншага не было.

— Стаялі недзе, стаіўшыся.

— У мяне ж на сотні тры сажняў ад млына ніводнага кусціка няма, а яны возам схаваліся?

— Дзіўна...

— Так. Але я выгляду не паказаў, запытаўся: «Малоць, людзі добрыя?» — «Так», — адказваюць. — «І часу лепшага не выбіралі?» Стары на такое пытанне здзіўлена падняў вочы: «А што, надвор'е самае падыходзячае. Галоўнае, каб ніхто не перашкаджаў». — «А дождж?» — «Што, дождж? Ён ідзе — і ўсё на гэтым». — «Прамочыць жа да ніткі!» — «Каго як». Рагатнула і гаспадыня з воза: «Каго мочыць, а каго і мінае. Мы ж сухія прыехалі». — «Бачу, але паглядзіце, што навокал робіцца». — «Вецер трыху дзьме». — «Добрае «трыху», калі крылы млына ледзьве паспяваюць круціцца, такі на іх націск аказваецца. Малоць будзеце?» — «А чаго мы сюды дабіраліся?»

Вырашыў я тады праверыць, хто яны ды адкуль, але старыя не надта хацелі гаманіць. Нешта буркнуў стары сабе ў злямчаную бараду, а ягоная жонка па-дурному засмяялася і пазяхнула так, што, здавалася, магла цэлы мех са збожжам заглынуць адразу. Бачу, што не хочуць гаворку падтрымліваць, то я і адышоўся ад іх ды заняўся сваёй справай, але вачэй з гаспадароў не спускаю. Бачу, старая ўстае з мяхоў і ідзе да жорнаў. Азірнулася, мяне вачыма шукаючы, — не знайшла. Тады дастала нешта з кішэні і хацела ўжо ў адтуліну жорнаў укінуць, ды я падаў голас: «Што гэта ў цябе?» Яна ўздрыганулася ад нечаканасці, ды хутка знайшлася: «Сухарык з кішэні выцягнула». — «Навошта?» — «Каб з'есці, дзівак-чалавек». — «А мне падало-

ся, што ты кінуць у жорны нешта хацела. Глядзі ў мяне!» — «Зусім здурнеў чалавек! Што я магла ў жорны кінуць? А калі сухар укінула б, то ці гэта страшна?» — «Нельга туды нічога кідаць!» — сурова запярэчыў я і адышоўся ад гаспадыні. Але што самае галоўнае, то яе муж нават і вокам не павёў на гэтую падзею. Быццам бы нічога і не здарылася.

— Бачыш ты, — не вытрымаў нехта з вяскоўцаў, — відаць, хацела які камень у жорны ўсунуць, а потым млынара ўпікала б, што дрэнна змалоў.

— Гэта яшчэ не ўсё, хлопцы. Яна потым адмовілася б з-за гэтага мне плаціць. Сказала б, што муку іхнюю сапсаваў, — дадаў і Васілевіч.

— Добра, [redacted] што далей было? — нецярпліва перабіў стары дзядок.

— Пачаў я малоць. Далёка не адыходжуся, паглядваю за мужам з жонкай. Яны таксама шчыра працуюць. Неяк непрыкметна я і задрамаў.

— Можа, напусцілі чаго?

— Хто яго ведае. Прачнуўся ад таго, што раздаўся злавесны скрыгат. Ускінуўся — і да жорнаў.

— Упёрлі ўсё ж нешта?

— Так, вялізны камень там быў. Мне працы — за тыдзень не ўправіўся б.

— І што ж далей?

— Ухапіў я старога загрудкі і збіраўся ўжо трэснуць добра яму ў лоб. І тут да мяне кінулася старая. Як сава ў вочы!

— Удваіх заадно былі?

— Ведама ж. Пачаў я крычаць, што не дарую такога і пакараю іх абодвух. А каб больш пераканаўча было, ухапіў добры цурбалак і зноў да старога падступаюся. Той ляскоча зубамі з перапуду, а мне ўжо выразна відаць пад яго шапкай рожкі невялікія.

— Нячысцік?

— Ага. Замахнуўся ды як лупянуў па ім — толькі водгулле панеслася па прыціхлым млыне. Загарлаў тады гаспадар: «Не бі мяне!» — «Заб'ю, злыдзень!» — «Не бі, я табе добра заплачу!» — «Што мне твая плата, калі млын зламаны?!» — «Я гэтулькі грошай дам, што два такія млыны пабудуеш!»

Лупцую я старога, ён верашчыць, а баба да мяне чапляецца. Тады я і яе перацягнуў па спіне. Яна адразу супакоілася і гаворыць: «Не злуйся, стары табе дапаможа млын адрамантаваць, [redacted] за платай да нас праз два тыдні прыходзь». —

«А дзе вас шукаць?» Назвала тады старая хутар, які быў ад млына вёрст за дваццаць. Не заставалася мне іншага выйсця, як пагаджацца на такую ўмову. Дапамог мне стары млын наладзіць, забралі яны сваю муку, ускінулі на воз і пад праліўным дажджом, нібы пад спякотным сонейкам, паехалі сабе спакойна. Прайшоў адпаведны тэрмін, запрог я коніка і падаўся да таго хутара, каб плату забраць. Заходжу ў хаціну, а там гаспадары ляжаць на палку ледзьве жывыя — паміраюць і просяцца, каб я ім вады папіць падаў: «Пап'ём, а табе плата адразу будзе».

— Бачыш ты, чаго захацелі?! — ускіпеў нехта з мужчын.

— Цішэй, гавары, Васілевіч, што далей было?

— Як яны папрасілі, то я было да вядра падаўся, і тут цюкнула ў галаву — гэта ж яны такім чынам мне сваю вядзьмарскую сілу перадаць хочуць?

— Ого!

— Ускіпеў я, плюнуў і выйшаў з хаціны, а ўслед мне дзікі рогат раздаўся. Калі прайшоў крокаў сто, то ззаду полымя нечакана занялося, і згарэла будыніна разам з гаспадарамі. Вось такая гісторыя.

Ад таго мудрага ды працавітага чалавека — Васілевіча — і назва невялічкага паселішча пайшла, ды так і засталася — Васілевічы.

## ГАЛОЎКІ

Жыла некалі ў адной вёсцы сям'я: бацька, маці і трое дзетак. Працавалі людзі, дапамагалі адзін аднаму, таму гора не ведалі. Здарыцца засуха ці неўраджай, гаспадар гляне на ўсё гэта і прамовіць ціха, да жонкі звяртаючыся:

— Перажылі маразы, перажывём і галадуху.

— Неяк жа пераб'ёмся.

— Трэба па лясах навакольных глядзець, ягады, грыбы збіраць ды сушыць, то зімой будзе чым ваду зачарніць.

— Так.

— Не станем, рукі склаўшы, голаду чакаць, то далей лягчэй будзе. Я і на балотца схаджу. Ведаю, дзе процьма ўюноў водзіцца.

— Уюны і ва ўраджайны год, асабліва вэнджаныя ды сушаныя, за ласунак ідуць, а ў голад і ўвогуле за шчасце пададуцца.

— Іншай рыбкі на возеры ды на рэчцы падлаўлю.

— А [redacted] не толькі насушу, але і насалю.

— Так і выйдзем з цяжкага становішча.

Так жылі муж з жонкай. Дзеці — малыя зусім, але і тыя імкнуліся дапамагчы. Ідзе матуля ў лес, то яны за ёю цягнуцца. Яна і прыкрыкне:

— Сядзелі б лепей дома ды ў пясочку корпаліся!

Але тыя вачанятамі сваімі як зірнуць, а ў вачанятках слёзак поўна, то яна і адыдзе адразу:

— Добра ўжо, добра, памочнічкі вы мае дарагія! Пайшлі!

Ведама ж, не так хутка, як адна, да лесу зойдзе, затое намнога болей набярэ. Малыя ж стараюцца і ягады, грыбы бяруць утраіх больш жвава, чым дарослая жанчына. Вяртаюцца назад — ледзьве нясуць, а бацька насустрач выйдзе, каб дапамагчы прынесці. Так усёй сям'ёй і вяртаюцца дамоў. Людзі заўважаць і гавораць:

— Вось хто дружна жыве. Нідзе па адным не ходзяць.

— То так і лепей. Самім весела, і дзеці ля іх дабру і спагадлівасці вучацца.

Усё ішло добра ў сям'і, усё атрымлівалася як нельга лепей. Суседзі зайздросцілі, некаторыя — па-добраму, а некаторыя — і па-чорнаму. Ды што ўжо зробіш, калі натура чалавечая такая разнастайная.

Аднаго разу прыджгаў муж з рэчкі і гаворыць:

— Ну, будзем з мясам!

— А што такое? Дзе ж яно?

— Заўтра будзе.

— Заўтра? Адкуль?

— З рэчкі.

— З рэчкі мяса?

— Не смейся, зараз пра ўсё раскажу, то сама прысядзеш ад здзіўлення. Пайшоў я сёння на рэчку і вырашыў у букту адну закінуць вуду. А зрабіў я яе з тоўстай вяроўкі і здаравеннага кручка. Відаць, было прадчуванне, што нешта буйное ўскалыхну.

— І?..

— Закінуў гэту вуду здаравенную, а астатнія — звычайныя і давай рыбу цягаць, толькі чарвякоў паспявай нажыўляць. На вялікае вудзільна нават і не паглядваю, бо часу не маю. Потым нейкая хвіліна здарылася вольная, я яе ў рукі ўзяў і хацеў на паверхню кручок выцягнуць, глянуць, ці ёсць нажыўка. Толькі ўзяўся, [redacted] тут як рване!

— Рыбіна?

— Сом. І галава, што гаршчок двухвядзёрны. Як я ні ўпіраўся, як ні стараўся, а не дапамог ніхто і сом-здаравіла сарваўся.

— Вось яно што...
— Заўтра з самага рання пайду зноў.
— Ён жа не возьме нажыву?
— Возьме. Старыя людзі гавораць, што сом у сваёй букце нічога не баіцца, а такі вялізны — тым болей.
— А калі дарма сцягаешся?
— Дзеля такой рыбіны я гатовы хадзіць тыдзень запар.
— Ахвота адпадзе, — смеючыся, упікнула жанчына.
— А калі злаўлю? Ён жа здаравенны, што той кабан. Мяса дзве дзежкі будзе. Ніякі голад, ніякі неўраджай тады не страшны.
— Канешне, добра было б.
— А я пра што.
— Тады каго папрасі дапамагчы, бо сам жа не ўправішся.
— Калі папрашу, то давядзецца здабычай дзяліцца, а я гэтага не хачу рабіць. Я таго сома знайшоў, я яго і выцягну на бераг.
— Кажаш жа — вялікі, нялёгка будзе табе.
— Бясспрэчна, але сваёй здабычы не саступлю нікому.
Дачакаўся гаспадар раніцы і папёрся на рэчку. Вяроўку ўзяў яшчэ здаравейшую, кручок яшчэ большы, каб рыбіна не парвала своеасаблівую вуду і не сарвалася. Мясціну шукаць не трэба было — сеў і закінуў вуду. Цяпер толькі адну, каб не прапусціць той момант, калі сом за нажыву ўхопіцца. Недзе праз паўгадзіны гаспадар букты і ўчапіўся. Доўга барукаўся з ім чалавек, ніхто не хацеў саступаць і ніхто, адпаведна, перамагчы не здолеў у такой няроўнай барацьбе. Як бы там ні было, але чалавек неяк ненарокам упаў у ваду, а ў вадзе ўжо рыбіна дыктавала свае ўмовы. Круціў сом селяніна, як хацеў, рваўся з рук, але той ухапіўся моцна і не адпускаў вудзільна-насілу. Так і захлынуўся, бедалага, вадой. Сом пацягаў, пацягаў ахвяру за сабой, знясілеў і таксама ўсплыў белым пузам дагары. Так яны і ляжалі на паверхні, пакуль іх людзі не знайшлі. Сом быў даўжэйшым за чалавека амаль удвая.

Доўга галасіла-ўбівалася ўдава над памерлым, ды што ты зробіш, не ажывіш, не вернеш назад. Пачала яна сама мыкацца з малымі дзецьмі. Спачатку яшчэ нічога было, калі праядалі тое, што з мужам назапасілі. Парадак жа быў у іх на падворку, па гаспадарцы ды на полі выключны. Але потым выявілася адсутнасць мужчыны. Паступова ўсё зарастала, прыходзіла ў заняпад. Як ні старалася жанчына, як ні дапамагалі ёй дзеці, нічога добрага не атрымлівалася. Нарэшце не засталося ў хаціне і кавалачка хлеба. Вырашыла тады ўдава:

— Пазычу пару боханаў у суседзяў, а сама пайду па людзях жабраваць.

— Добра, мамачка.

— Вы сядзіце дома і нікуды не вылазьце. Я хутка вярнуся.

Ды здарылася так, што завіруха страшэнная ўзнялася, што замест тыдня яна сядзела ў чужых людзей амаль месяц. Прыджгала дамоў, калі надвор'е наладзілася, а дзеткі ў хаціне ўжо нежывыя ляжаць. Загаласіла ўдава, страшным голасам закрычала:

— Ой, дзеткі мае, галоўкі мае, што ж я нарабіла?!

Стала птушкай адразу і паляцела на чорны бор. А назва засталася — Галоўкі.

## ГАРШКОВА

Жылі-былі два браты. Так здарылася, што іхнія бацькі памерлі, калі яны былі зусім малымі. Пагаравалі дзеці, але не кінуліся ў адчай, а разумна вырашылі — весці гаспадарку ўдваіх, як гэта дарослыя робяць. Малодшы Сцяпан кажа брату свайму Фёдару:

— Няма чаго ленавацца, будзем працаваць, то і выгадуемся неяк. Хто нічога не робіць, таму і перабівацца цяжка.

— Ведама што.

— А мы з ранняга дзяцінства прызвычаімся, то і з горам не спаткаемся. Ты старэйшы, таму і загадваць будзеш, а я, маладзейшы, буду цябе ва ўсім слухацца і дапамагаць.

— Згода.

Так пагаманілі і болей да той гаворкі не звярталіся. Адзін раз вырашылі і хопіць, няма чаго дарма час губляць ды крычаць. Працаваць трэба, бо агарод ды ніва пустазеллем зарастуць, хто іх потым ратаваць стане?

Людзі глядзелі на малых братоў і радаваліся:

— Вось малайцы! Большасць па людзях пайшла б, некаторыя з голаду памерлі б, чакалі б, пакуль ім пададуць перакусіць, а гэтыя самі сабе хлеб здабываюць.

— Не прысядуць, не адпачнуць, што мурашкі тыя шчыруюць.

— Паглядзіце, як гаспадарку ладна трымаюць, як ніву дагледаюць.

— Чужы чалавек не паверыў бы, што так малыя ўпраўляюцца.

— І адкуль у іх толькі сіла бярэцца? Ніводнага разу нікому не паскардзіліся, ні да каго за дапамогай не звярнуліся.

Людзі гамоняць, а браты працуюць, бо не да размоў ім. Калі якім словам і перакінуцца, то толькі падчас працы. Зашэпча Сцяпан:

— Братка, не магу болей.

— Патрывай яшчэ крышачку. Вось гэтае даробім, а потым і адпачнём.

— А нельга зараз адпачыць, а потым дарабіць?

— Не.

— Чаму?

— Бо яшчэ ніхто не адпачывае.

— Мы ж раней за іншых прыехалі і працу сваю скончым раней. Навошта нам так напружвацца?

— Не плач, сэрданька маё, бо мне і так цяжка.

Браты выжыльваліся з апошніх сіл, стараліся ўсё рабіць не горай за дарослых. Аднаго разу Фёдар і гаворыць:

— Сцяпанка, а давай мы крыху грошай збяром?

— Навошта?

— Дзіўны ты. Бо грошы ніколі ў гаспадарцы не пашкодзяць.

— Я ведаю. Але грошы ж звычайна з нейкай мэтай збіраюцца. Дык навошта мы іх збіраць будзем?

— Задумаў [redacted] штуку адну...

— То гавары.

— Збяром грошай і прыкупім зямлі.

— Зямлі?

— Так, бацькоўскі надзел у нас невялікі, [redacted] мы падрасцём, пажэнімся, і на дваіх дзяліць не будзе чаго.

— Слушна разважаеш, братка.

Сталі браты грошы збіраць. За пару гадоў наскладвалі пэўную суму і давай шукаць гаспадара, які ім зямлі кавалак пагадзіўся б прадаць. У суседняй вёсцы знайшоўся такі селянін. Праўда, сквапны надзіва, таму вяскоўцы папярэджвалі братоў:

— Глядзіце, родненькія, бо падмане вас.

— Не, ён нас не абкруціць. Нас жа двое, а ён адзін.

Пайшлі да таго гаспадара, а той уюном уецца, рассыпаецца перад малымі:

— Лепшай зямлі, чым у мяне, нідзе не возьмеце. Нідзе, паўтараю вам, не купіце.

— А ці не дорага?

— Ды не, не надта.

Паглядзелі браты той надзел, паслухалі адносна цаны і

вырашылі браць. Заплацілі грошы і радасныя пайшлі дамоў. Не паспелі адысціся, а той багацей пабег па суседзях і давай гарлаць:

— Падмануў дурняў! Падмануў!

— Як?

— Я ім сваё глінішча прадаў!

— Бедныя дзеці, — шкадуюць людзі і да іх крочаць, каб паведаміць такую невясёлую навіну.

— Не ён нас падмануў, а мы яго.

— Як гэта?

— Мы наперад прадумалі, што з той гліны рабіць будзем.

— Што?

— Гаршкі ляпіць на продаж.

Вось адкуль наша Гаршкова пайшло, ад тых гаршкоў.

## ГЛУШЭЦ

Жыў у адной вёсцы стары дзед. Нікога з родных у яго не засталося, таму, каб не сядзець аднаму ў хаціне, узяў ён да сябе хлапчынку маленькага, якога падабраў на дарозе. Малы ляжаў побач з мёртвымі бацькамі, і не выключана, што і сам праз кароткі час памёр бы, калі б яго ніхто не падабраў. Дзед Нікодым вырашыў так:

— Забяру жывую душу, не прайду міма, не вазьму на сябе вялікі грэх.

Узяў хлапчука, а той лёгкі як пушынка:

— Ой, і ссушыла ж цябе хвароба!

Прынёс дамоў і давай яго ратаваць. Адпойваў нейкімі, аднаму яму вядомымі, узварамі, потым, калі той крыху ачомаўся, даваў есці пакрысе і ўвесь час гаманіў:

— Нельга табе, родненькі, болей, нельга, бо памерці з гэтага можаш. Ты ж гэтулькі часу галадаў і адразу не дарывайся, бо яно табе на карысць не пойдзе.

Калі хлапчынка павесялеў, то Нікодым запытаўся:

— Як завуць цябе, каханенькі?

— Не ведаю.

— Забыўся?

— Ага, захварэў, а што далей здарылася, то і не памятаю.

— Добра, будзеш тады Сымонам. Падабаецца табе такое імя?

— Яшчэ як падабаецца.

— Тады так і вырашым — будзеш Сымонам.

Ніколі з таго дня не разлучаўся дзед з малым, усюды за сабой вадзіў.

Вядзе стары Сымонку, а потым і пачынае яму распавядаць:

— А ведаеш, братка, як качка крычыць?

— Не.

— Не чуў?

— Не.

— То паслухай.

Нікодым складзе рукі ў кулак і як падсуне іх да рота, то атрымліваецца вельмі падобны крык на той, якім мацікачка сваіх качанят на балоце склікае.

— Дзядулька, яшчэ.

— Даспадобы табе?

— Ой, і не пытайся.

— Тады слухай, бо мне гэта няцяжка.

— Вось і мне б так хораша крычаць навучыцца.

— А я цябе навучу.

— Гэта не складана? Мне здаецца, што не кожны так навучыцца можа.

— Канешне, бо няма ад каго пераняць. Я табе паказваць буду, то за пару дзён пяроймеш.

— Так жа і паляваць на качак без стрэльбы можна?

— Ведама што.

— То, можа, зараз і пачнём вучыцца?

— Давай.

Так Нікодым і вучыў Сымонку пераймаць галасы птушак. Неўзабаве малы навучыўся так, што высвістваў ды выкрыкваў у некаторых выпадках нават лепей за дзеда.

— Вось бачыш, а ты баяўся, што не атрымаецца.

— Цяпер і я змог бы каму-небудзь перадаць гэткія навыкі.

— Перадасі яшчэ, Сымонка. Вырасцеш і перадасі. Будуць у цябе свае дзеці, а потым і ўнукі, іх і навучыш.

— Калі гэта будзе... — па-даросламу цягнуў хлапчынка.

— Час ляціць хутка, і не заўважыш, як вырасцеш, а потым і сагнешся, як я, бо старасць нечакана прыйдзе.

— Далёка мне да яе.

— Ага, таму расці і на лепшае спадзявайся.

Але не наканавана было лёсам Сымону ўзгадаваць сваіх дзяцей, а тым болей дачакацца ўнукаў. Дзед жа жыў не ў вольнай вёсцы, а ў панскай, і быў у ёй, як і ў любым такім паселішчы, аканом, які за парадкам сачыў і прымушаў вя-

скоўцаў працаваць. А жывучы сярод людзей, не схаваеш таго, чым умееш займацца. Таму неўзабаве прыйшоў аканом да Нікодыма дый гаворыць:

— Загад панскі табе, стары, перадаць прыйшоў.

— Які гэта?

— Каб заўтра ты свайго малога ў панскі палац завёў.

— Навошта?

— Не твая гэта справа! Табе загадана — ты і выконвай!

— Аканомка, родненькі, пашкадуй! Забірай лепей мяне, а яго не чапай!

— Каму ты там трэба, смярдзюх гнілы? Загадана малога — вядзі і не аспрэчвай загада, бо яшчэ і бізуноў атрымаеш.

— Няхай сабе бізуны, толькі малога пашкадуй!

— Апошні раз сказаў, болей спрачацца не буду! Не хочаш сам, то завяду я з вялікім задавальненнем, ды яшчэ і кухталёў па дарозе надаю твайму шчанюку!

— Не, тады лепей я сам завяду.

Заплакаў горка-горка стары, прыцiснуў да сябе Сымонку і давай прыгалошваць:

— Забіраюць цябе ад мяне, крывіначка мая.

— Куды?

— У панскі палац, родненькі.

— Навошта?

— Так памешчык загадаў.

— Але я не хачу ісці нікуды, дзедку.

— Гэта загад, унучак, і яго трэба выконваць, іначай будзе яшчэ горай. Не плач, маленькі, Бог на небе ёсць, і ён усё бачыць, не дасць цябе ў крыўду перад гэтым ліхадзеем.

— Ой, гора мне!

— А мне, думаеш, лёгка з табой расставацца? Ты ж мая адзіная надзея ў жыцці. Каму я цяпер буду патрэбны?

— Ой, дзедка, што ж гэта будзе?

— Спадзявайся, унучак, на лепшае.

Прыйшла раніца, і павёў Нікодым Сымонку да палаца. Плача стары, плача малы, але нічога не паробіш, супраць панскай волі не пойдзеш.

Убачыў памешчык Сымонку з Нікодымам на падворку і ўзрадаваўся:

— Вось і дамашні салавей у мяне будзе!

— Пане, — пачаў прасіцца Нікодым.

— Прэч, стары, з вачэй, і каб духу твайго болей тут ніколі не было! — раззлаваўся пан.

Пайшоў дзед, а хлапчук застаўся.

— Цяпер ты будзеш спяваць па-птушынаму для мяне і маіх гасцей. Зразумеў?

— Так, пане.

— На паляваннях будзеш мне птушак прыманьваць. Ясна?

— Так, пане.

— Вось і добра. Будзеш слухацца ды ўвішна спраўляцца з абавязкамі, то цябе будуць добра карміць і апранаць, а станеш лайдачыць, то бізунамі цябе мае слугі вылечаць!

З таго дня стаў Сымонка прыслужваць у памешчыка. І спяваў, і крычаў, адным словам, выконваў панскія загады. На паляванне п'яны гаспадар едзе з гэткімі ж разбэшчанымі ды бязлітаснымі сябрукамі, а хлапчынцы загадвае птушак заманьваць на стрэлы. Таму шкада становіцца прыгожых птушачак, то ў апошні момант крыкне нешта на птушынай мове, і страляюць паны па пустым месцы. Спачатку злы пан не разумеў, што да чаго, а потым раскусіў Сымонаву хітрасць, таму загадаў:

— Лезь на бярозу і склікай сюды глушцоў!

Той і падраўся праз голле. Залез і крычыць:

— Пане, склікаць?

— Ага.

Толькі Сымон заспяваў, як глушэц, а памешчык зламыўся і — бах па ім! Хлапчынка кулём гопнуўся на дол.

— Вось вам і глушэц! — задаволена пацёр рукі памешчык перад гасцямі.

Так і сталі тое трагічнае месца Глушцом зваць.

## ХОЛМЕЧ

Некалі на месцы нашай вёскі здарылася лютая бітва. А ўсё атрымалася з-за таго, што суседзі не маглі ніяк памірыцца. Нашы продкі жылі, працавалі на зямлі, хлеб сеялі ды ўбіралі, а тыя, наадварот, толькі за кошт чужога і перабіваліся. Дачакаюцца зручнага моманту, калі сяляне ды гараджане займаюцца нейкай неадкладнай працай, і накінуцца на іхнія паселішчы. А калі чалавек не чакае вайны, то ён без зброі ходзіць. Ведама ж, такога намнога лягчэй забіць, чым збройнага, дысцыплінаванага і спрактыкаванага ў сечах воя. Наскочаць ворагі, павыб'юць, павыпаляць усё навокал і назад вяртаюцца, песні гарлаючы ды палон незлічоны падганяючы. Пакуль мясцовая дружына на тое месца, дзе няпрошаныя госці пагулялі, прыскача,

пакуль распытае ды выведае, што да чаго, то чужынцаў ужо і след прапаў. Паспрабуй знайдзі іх цяпер. А на чужую тэрыторыю ўступіш, то там дарогі-сцяжынкі невядомыя і на кожным кроку падсцерагае засада. Спрабавалі па-добраму з ліхімі суседзямі разабрацца. Гаварылі не раз, не два, ганцоў пасылалі:

— Што вы ўсё вайной ды вайной?

— А нам так хочацца.

— Можна ж і мірна справы вырашаць. Каб людзей не біць, не паліць.

— Якая ж гэта вайна, калі без пажараў і без смерці?

— То і без вайны можна абысціся.

— Не, нельга.

— Чаму?

— Войска наша тады стане небаяздольным, а гэта ўжо заняпад нашай краіны.

— А навошта жыць адной вайной?

— Так лягчэй.

— Ды ну?

— Вы пастаянна ў зямлі калупаецеся, а мы гэтым займацца не любім.

— То знайдзіце сабе занятак па душы.

— Які?

— Рыбу лавіць, жывёлу разводзіць, звяроў паляваць. Станем мы тады з вамі гандляваць і на войны ўвогуле забудземся.

— Не.

— Зноў вы за сваё? Вам жа таксама дастаецца падчас баёў?

— А мы па забітых не плачам.

— Чаму?

— Людзі, якія нарадзіліся для вайны і правялі ўсё сваё жыццё ў сядле, адразу ідуць на неба, і там іхнія душы займаюць высокія месцы.

— За тое, што дзесяткі нявінных людзей кожны з іх вынішчыў?

— Не.

— А за што ж?

— За тое, што такі чалавек ніколі нават не задумваўся, патрэбны нам войны ці не, толькі і рабіў, што выконваў загады старшых. Яму загадалі — ён выканаў, і ўсё на тым, а правільна ці не, няхай нашы багі разбіраюць. Гэта іхняя ўлада і іхняе права.

— Дзіўна вы разважаеце.

— Як ні разважаем, але вайна нас корміць.
— Маці нараджае дзяцей і зараней ведае, што яны будуць толькі ваяваць і толькі біцца?
— Так.
— Але ж яна сама ў большасці выпадкаў падпісвае ім смяротны прысуд.
— Не. Не яна, а багі.
— Розніца якая? Чалавек жа нараджаецца для таго, каб жыць.
— Вось мы і жывём.
— За кошт таго, што іншых жыцця пазбаўляеце?
— Няхай сабе і так.
Пабачылі нашы продкі, што мірна дамовіцца з сапернікамі не давядзецца, і прамовілі на развітанне:
— Як сабе хочаце, але мы вас папярэдзілі.
— Нас папярэджваць не трэба было.
— Трэба, бо мы прызнаём правілы справядлівага бою.
Павярнулі ганцы коней і рушылі ў дарогу назад. Прыехалі да князя і паведамілі, што нічога ў іх не атрымалася. Суседзі пра мірнае суіснаванне і чуць не хочуць.
— Ну што ж, будзем тады і мы па-свойму бараніцца, калі з імі мірным шляхам нельга дамовіцца.

Чарговага нападу бязлітасных суседзяў давялося чакаць не надта доўга — усяго нейкіх паўгода. Якраз збажыну тубыльцы прыбіралі з палёў. Але на гэты раз паўсюдна былі расстаўлены пасты ды заставы, якім загад быў аддадзены адпаведны — сачыць за ваколіцамі, і калі з'явіцца атрад ворага, то адразу папярэдзіць князя. Прыляцеў узмакрэлы вершнік да княжацкага палаца і закрычаў:
— Княжа! Ворагі!
— Дзе яны?
— Рэчку збіраюцца пераплываць!
— Многа?
— Так!
— Далёка адсюль?
— Не надта, усяго ў нейкім дзённым пераходзе!
— Зразумела. То скачы да сваіх, а ■ зараз ваяводам загад аддам.
Вершнік крутнуўся і паляцеў, нібы яго тут і не было, а гаспадар, апрануўшы баявыя даспехі, паклікаў:
— Ваяводы, да мяне!
Увайшлі тыя, пакланіліся.
— Ну што, хлопцы, прыйшла часіна за нашу зямельку пастаяць?

— Ага.

— То рушым насустрач чужынцам і разаб'ём іх на іхняй жа зямлі.

— Не, княжа, — перабіў самы стары з ваяводаў, — не трэба далёка заходзіць, каб яны не здагадаліся, што мы пра іхні намер ведаем.

— І то праўда. А што ты прапануеш?

— На мяжы пачакаць і абрынуцца на іх, як капа сена на галаву.

— Няблага, так і зробім. А зараз войска выводзьце, насустрач чужынцам рушым.

Неўзабаве дружына выступіла. Па дарозе да яе далучаліся ўсё новыя і новыя атрады. Князь задаволена паціраў рукі:

— Пачастуем ворагаў! Пакажам, як да нас лезці!

— Няхай не думаюць, што і на гэты раз ім пашанцуе, — прамовіў сярдзіта нехта з дружыннікаў.

— Чаму ж не пашанцуе? Пашанцуе, толькі не тут, не на нашай зямлі, а на тым свеце.

— Во гэта правільна сказана! — зарагаталі воі.

Знайшлі ваяводы зручную мясціну і сталі чакаць ворага. Праз нейкі дзень і тыя выбіліся сюды. Як убачылі дружыну, то спыніліся ў нерашучасці. Але тутэйшыя ваяры не сталі чакаць далейшага развіцця падзей і накінуліся на чужынцаў. Біліся двое сутак запар, ні на хвіліну лютая сеча не спынялася. Ніхто перамагчы не мог, каб пагнаць саперніка з поля бою. Нарэшце паранены князь закрычаў з апошніх сіл:

— За зямлю! За родных! За мной!

Ажывіліся дружыннікі і пагналі ворагаў. Па дарозе білі тых, каго даганялі. Мала хто ўцёк. Вярталася пагоня, і людзі падалі ад стомы на зямлю. Апошнім вярнуўся сам князь. Стаў і з усяго маху ўтыркнуў меч у глебу, сказаўшы пры гэтым:

— Вось памятны холм, а вось і меч! Болей яны тут ніколі не будуць!

Так і стала наша вёска — Холмеч.



# СВЕТЛАГОРСК (ШАЦІЛКІ)

Якая толькі бяда не прыходзіла да нашых продкаў. Усялякае бачылі людзі, не паспявалі адно гора выплакаць, як другое падвальвала.

Плакалі жанчыны, хіліліся ад гора мужчыны, енчылі дзеці, а смерць сваю адвечную справу выдатна ведала — касіла без перадыху.

Шчыра маліліся людзі, абяцалі ўсемагчымыя ахвяры прынесці, але смерць па-ранейшаму не шкадавала. Сяляне зусім духам палі. Раней то хоць дзецям малым радаваліся, а тут сталі ў адкрытую гаманіць:

— Навошта яны, бедалагі, на свет белы нараджаюцца? Палова з іх памрэ ў маленстве, [redacted] палова, гэтак як і мы, будзе мыкацца ў горы-бядзе.

— Але скажыце, людцы, ад чаго ў нас такая навала здарылася?

— Ніхто, братка, не ведае.

— Вось у чым самая галоўная закавыка! Каб ведалі, то неяк спрабавалі б выкруціцца, а то ж...

Так людзі мясцовыя і не надумаліся б, з-за чаго ў іх усё здарылася, каб сам лёс не дапамог ім. Аднаго разу ішоў падарожны па палявой сцяжынцы. Не надта спяшаўся, азіраўся, усміхаўся ласкаваму ветрыку ды яснаму сонейку і

не ведаў чужы чалавек, што ў тутэйшых мясцінах ужо даўным-даўно гора пануе, людзі не смяюцца, не радуюцца жыццю. Падышоў да вёскі і прамовіў:

— Ну, хвала Богу, прыйшоў, а тут і пераначаваць пусцяць. Пад кожную страху можна схавацца. Сярод людзей ніколі не прападу. Але чаму тут так ціха, чаму песень не чуваць?

Пакрочыў па вуліцы, стаў у двары зазіраць і ўбачыў, што там удзірванела ўсё, разбіта, развалена.

— Відаць, гора нейкае?.. І малыя не бегаюць, як звычайна, не чуваць іхніх галасоў.

Вырашыў падарожны зайсці ў любую хаціну з гаспадарамі пагаманіць і падаўся да прыземістай хаціны. Ступіў у двор, а там таксама нікога. Падышоў да ганка, пастукаў асцярожна ў дзверы і пытаецца:

— Ці можна ўвайсці?

У адказ патыхнула маўчаннем. Пастаяў у нерашучасці і зноў пастукаў:

— Ці ёсць хто ў хаце?

І на гэты раз не пачулася ні слова ў адказ. Тады падарожны не ўтрымаўся і пераступіў праз парог. Цемра панавала ў хаціне такая, нібыта на вуліцы была глыбокая ноч.

— Мабыць, нікога няма? — сам сабе прагаварыў чалавек.

Але якраз у гэты момант і пачулася слабое:

— Хто там?

— Я.

— А ты хто?

— Падарожны.

— Што цябе, чалавеча, прывяло да нас?

— Ішоў па дарозе.

— То няхай бы і далей кіраваў, ад гора ўцякаў.

— А што здарылася?

— Хіба ты не ведаеш?

— Адкуль? Я ж раней у гэтым краі не бываў. А тут вырашыў не ісці па даўнейшым шляху, а крыху збочыць. Так у вашу вёску і патрапіў.

— Зразумела.

— Зайшоў да вас, каб папрасіцца...

— Што ты, чалавеча, у нас можаш папрасіць? Няма ў нас нічога. Што было, тое, як вада, сплыло, нават і знаку не засталося.

— Чаму ж так?

— А хто яго ведае.

— І што ж тут такое адбываецца? Раскажы.
— Бяда ў нас вялікая. Паміраюць людзі, жывёла ўся падохла, неўраджаі год за годам. Край як вымер.
— Я і сам гэта заўважыў, але спачатку проста ўвагу не звярнуў. Падумаў, што людзі цяжка працуюць, бо зараз час такі — не да песень ды весялосці.
— Якое там...
— А з-за чаго ўсё пачалося?
— Каб жа я мог адказаць? Вось і смерці чакаю, бо яна ўжо ўсіх блізкіх і родных пазабірала.
— То, можа, не трэба ляжаць і чакаць?
— А што ж рабіць?
— Неяк бараніцца.
— Спрабавалі.
— Ну?
— У адным баку станем — з другога гора прываліць. Чакаем неўраджаю, а ў нас пажар вялікі ўспалыхне і ўсё, як карова языком, выліжа.
— Ясна...
— Да каго мы толькі ні звярталіся, у каго толькі парады ні прасілі — нічога станоўчага не атрымлівалася.
— Але ж і ляжаць ды чакаць смерці добраахвотна — не выйсце.
— То і сілы ўжо няма працівіцца.
— Нічога, трэба паспрабаваць устаць.
— Якое там. Мне і ляжаць ужо цяжка, бо не еў, і не памятаю, з якога дня.
— Есці трэба.
— Гэта я, чалавеча, ведаю, але няма чаго есці.
— Зараз што-небудзь зробім, — адказаў падарожны і пачаў распытваць у гаспадара, дзе ды што стаіць ці ляжыць у хаце. — А як цябе, гаспадар, завуць?
— Зміцер.
— А мяне — Шаціла.
— Вось і пазнаёміліся. Калі б на добры час, то і чарку нашы продкі за гэтакую справу выпівалі.
— Ім лягчэй было, а нас зусім жыццё затаптала.
— Але ж недзе прычына ўсяму гэтаму ёсць?
— Хто ж яго ведае.
— Нічога, гаспадарыку, ты ляжы, адпачывай, а я тут агонь у печы запалю ды есці табе звару.
— Няма ж ні крошкі.
— У мяне ёсць.
— Грэх гэта.

— Што?

— З падарожных нешта браць — грэх.

— Ляжы ўжо, Зміцер, ціха, а я сваёй справай займуся. Грэх таксама будзе, калі я пайду і чалавеку бяссільнаму не дапамагу. Не адчайвайся, пабачыш сам, што-небудзь ды прыдумаем.

— Каб жа так, то мы ўсе, хто жывыя засталіся, у пояс табе пакланіліся б.

— А што мне ад такой пашаны? Я сам прызвычаіўся людзям кланяцца, і не цягне мяне да таго, каб мне паклоны адбівалі.

Пагаварылі яны, і Зміцер, мабыць, заснуў, а падарожны пачаў ля печы гаспадарыць. Узгадаваў цяпельца, вады ў гаршчок наліў, а калі яна закіпела, то сыпануў туды пару прыгаршняў круп і задаволена паморшчыўся:

— Эх, каша будзе!

Гаспадар спаў, ■ Шаціла прысеў на лаўку і задумаўся. Карцела яму знайсці адказ на такое складанае і заблытанае пытанне. Нешта ж тут здарылася, а вось што?..

Заварочаўся Зміцер, і Шаціла ўсхапіўся:

— Зараз, братка, будзем есці.

— Ды не хочацца. Так знясілеў, а быў жа і ■ здаровы мужчына.

— Хвароба ды гора каго хочаш ушчэнт ссушаць. На вось, пастарайся з'есці. Спачатку крыху табе паклаў, а потым яшчэ, каб цябе жывот не хапіў, бо потым рады не дам. Яшчэ так скруціць, што і не падымешся болей.

— Да гэтага ідзе, — змрочна прамовіў Зміцер.

— Не адчайвайся, цяпер ты не адзін.

Перакусілі, і гаспадар павесялеў. А падарожны яму і кажа:

— Вырашыў я, братка, што не пайду адсюль, пакуль цябе на ногі не пастаўлю.

— Ды ці ўстану?

— Устанеш. А зараз давай, згадвай усё па парадку, што сам памятаеш, а я пастараюся ў адзіны вузел звязаць, можа, неяк усё ж да праўды-прычыны дакапаемся.

Пачаў прыгадваць вясковец, якія падзеі ў іхняй вёсцы адбываліся, што за гэтым ішло, дзе хто з вяскоўцаў на той час быў. А падарожны ўважліва слухаў і перабіваў толькі пытаннямі:

— А калі вось гэтае гора здарылася, то ў вашу вёску ніхто чужы не заяўляўся?

— Здаецца, не.

— А больш дакладна?
— Хто ж яго помніць...
— Трэба ўспомніць.
— Даўно было.
— Сам разумею, але — тым не меней.

Адмоўна пакручваў галавой Зміцер, нічога не мог такога прыгадаць, за што адразу ўхапіўся б ягоны госць. Ужо і не верыў, што дакапаюцца да нейкай зачэпкі. Пачаў распавядаць пра новае здарэнне:

— У той дзень двое хлапчукоў з нашай вёскі пайшлі купацца, [redacted] назад іх ужо прынеслі.
— А што здарылася?
— Разбіла іх так, што яны самі ісці не маглі.
— Пакупаліся — і разбіла? Ці не здаецца табе, Зміцер, усё гэта надзвычай дзіўным?
— Зараз — так, [redacted] тады і не задумваўся.
— Вось бачыш. Цяпер прыгадвай, ці не было ў тыя дні каго чужога ў вашым паселішчы?
— Каб жа я толькі...
— Думай.

Раптам гаспадар слаба ўскрыкнуў:

— Успомніў! Напярэдадні, як тых хлапчукоў разбіла...
— Ну?
— Тады праз вёску нейкі стары дзед...
— Ішоў?
— Не, ехаў на во́зе. Яшчэ дзівіліся, што воз той надзвычай неахайна накладзены быў, але, тым не меней, трымаўся.
— Ці спыняўся ён?
— Спыняўся.
— Дзе?
— Якраз ля той хаціны, дзе хлапчукі жылі.
— І далей?
— Зараз, зараз, пачакай, братка, дай успомніць.
— Прыгадвай, то дакапаемся да праўды і выведзем гэтае гора.
— Значыцца, ён спыніўся ля іхняга падворка, але з воза не злез, братоў тых паклікаў.
— Для чаго?
— Вады папрасіў прынесці.
— Ясна, а далей?
— Хлопцы прынеслі і падалі яму конаўку на воз. Стары напіўся і далей паехаў.
— А браты?
— Дома засталіся.

— З імі бяда на наступны дзень здарылася?

— Так.

— Вось і дайшлі мы да тае ніткі, адкуль клубок разблытваць трэба.

— А што гэта?

— Паморак страшны гэта ехаў. Так, сам па сабе, да людзей не мог прычапіцца, то шукаў прычыны, каб да каго дакрануцца. Дастаткова адну руку пагладзіць — і ўсё на тым, пошасць на іншых перакінецца імгненна.

— Успомніў! І праўда — пагладзіў стары братоў, і не па руках, а па галаве.

— Зразумела.

— То што далей, Шаціла?

— Ты папраўляйся, [redacted] потым разам будзем астатніх ратаваць.

Зміцер першы раз устаў недзе толькі праз тыдзень, не раней. Пахістваўся, як малое дзіця, ды Шаціла яго супакоіў:

— Набярэшся сілы, і ўсё будзе нармальна.

Як паправіўся гаспадар, то пачалі яны па ўсяму паселішчу вогнішчы з ядлоўцу паліць — паморак той выганяць. Ён, аказваецца, надта такога дыму не любіў. Так вось і выратавалі астатніх жыхароў. Удзячныя тубыльцы сваіх малых, ад імя выратавальніка, Шацілкамі называць пачалі, [redacted] потым перакінулася назва і на паселішча. Пазней перайменавалі ў Светлагорск.

## ПАРЫЧЫ

Некалі святыя, як і звычайныя людзі, па зямлі нашай грэшнай хадзілі, нічым не вылучаліся. Мелі, праўда, ад Бога адну характэрную рысу — маглі некага пакараць, [redacted] некага, наадварот, ухваліць і спрыяць яму ў жыцці ды ў вядзенні гаспадаркі. Хадзілі па паселішчах і пазіралі, як людзі сябе паводзяць, вольны час бавяць. Заўважаць дзе непарадак, то адразу да таго чалавека кіруюць, разбіраюцца, і калі бачаць, што памылка тая ці абыякавасць выпадкова дапушчана, то не злуюцца надта, спяшаюцца далей, [redacted] калі скажуць чалавеку, каб выправіўся, а той у адказ лаяцца пачынае, тады святыя адыдуцца, параяцца і вырашаць пакараць чалавека, напрыклад, неўраджаем тры гады запар. Маўляў, пакруціцца, папераживае за сям'ю, то кінецца шукаць паратунку ў тых жа святых, прызнае ўсе свае памылкі і стане гаспадаром не горшым за іншых.

Але здаралася, што святыя нечага паміж сабой не дзялілі, не маглі прыйсці да ладу, а пакутаваць вымушаны быў чалавек працы — селянін — вечны гаротнік, якому даводзілася змагацца і з ворагамі, і з сіламі прыроды, і, як бачым, з выбрыкамі боскіх анёлаў ці апосталаў. І ў нашай мясціне такі выпадак адбыўся.

Жыў у нас вясковец Алесь. Чалавек быў надзіва рахманы, спакойны. За ўсё жыццё ні на каго голас не ўзняў, слова благога не прамовіў, а каб нешта ўкрасці ці чужое прыгрэбці, то такога і ў думках не з'яўлялася. Гаспадыню меў такую ж і дзяцей ціхмяных ды працавітых гадаваў. Шкадавалі іх, але, разам з тым, і не распускалі, не давалі палёгкі, не адпускалі з рук, каб не зрабілі чаго благога. Працуе Алесь — бок аб бок з ім і старэйшыя дзеці завіхаюцца, [redacted] малодшыя, адпаведна, дома застаюцца, ля хаціны гуляюцца ці, наколькі сілы хапае, матулі дапамагаюць. Збяруцца вечарам, павячэраюць, пагамоняць крыху перад сном і спаць кладуцца, бо з самае раніцы зноў праца чакае. Упусціш момант, то потым давядзецца ў тры разы болей рабіць, ды ці вернеш упушчанае.

Аднаго разу зазбіраўся Алесь ляда драць. З вечара і гаворыць жонцы:

— Пайду хіба сам?

— А што ж ты сам на такой цяжкай працы?

— Не хочацца дзяцей браць, каб не рваліся. Паспеюць яшчэ ў сталыя гады пуп нарваць.

— Вазьмі, але не прымушай надта цягнуць. Табе весялей будзе.

— То няхай так і будзе. Сам стану карчаваць ды высякаць, а яны будуць лягчэйшае што рабіць.

Дамовіліся, і з самай раніцы паехаў селянін з дзецьмі на калёсах на ўскраек лесу, дзе нагледзеў зручную мясцінку. Пачалі працаваць. Алесь не прывык рабіць абы-як, таму як узяўся секчы здаравенныя лясіны, то толькі водгулле па лесе пайшло. Малыя ж голле адцягвалі ў гурбы, кустоўе высякалі, адным словам, і ім працы хапала. Ужо сонейка на полудзень паказвала. Бацька выцер потны лоб і кажа:

— Яшчэ крышку, родненькія, патрывайце — і палуднаваць сядзем.

— Добра, тата, — адказваюць малыя і па-ранейшаму завіхаюцца, як тыя мурашкі ля мурашніка.

А тым часам хадзілі недзе паблізу двое святых — Мікола і Пятро. Пачулі грукат сякеры ў лесе і вырашылі падысці бліжэй ды паглядзець непрыкметна, каб якога непарадку не было.

Пятро не вытрымаў:

— Надакучыла ўжо назіраць употай.

— А што ж ты хочаш? — пытаецца Мікола.

— Давай якую прычыну прыдумаем і да гаспадара падыдзем у адкрытую.

— Давай, калі табе так ужо закарцела. Але пра што пытацца станем?

— Ды пра што хочаш!

— То падкажы, калі такі хітры.

— Вось...

— Бачыш? Давай здалёк паглядзім, і калі нічога не парушаецца, то далей пашыбуем.

— Не.

— Але ж ты і ўпарты, Пятро!

— Які ўжо ёсць.

— То думай тады, з чым да чалавека падыдзем?

Пятро так ужо стараўся, ідучы, што нават тлустымі губамі нешта плямкаў. Мікола, каб не зарагатаць, стараўся не глядзець на сябрука.

— Прыдумаў, — раптам заявіў той.

— Ну?

— Падыдзем да яго і... спытаемся, хто з нас прыгажэйшы?

— Так, пытанне ты прыдумаў, [redacted] табе скажу...

— А чым яно благое?

— А чым цікавае? Зірне на нас гаспадар і скажа, якія мы на самай справе прыгажуны. Тады, нябось, злавацца пачнеш?

— Не, не будзе такога!

— Глядзі.

Выйшлі святыя з-за ляснога павароту, і прама перад імі адкрылася паляна, на якой завіхаўся Алесь з дзецьмі. Гаспадар і ўвагі не звяртаў на дарогу, але пільныя дзіцячыя вочы заўважылі чужых:

— Тата, нехта да нас ідзе.

— Няхай ідзе.

— Іх двое.

— Нічога. Каму трэба, той прыйдзе і запытаецца, калі надта карціць.

Святыя падышлі да гаспадара і павіталіся.

— Ляда карчуеш?

— Але, трэба раскарчаваць, бо там ужо ў мяне зямелька не вельмі родзіць.

— Тут яна добрая, — падтрымаў Мікола, — спаліш кустоўе, хмызняк, то попелам добра ўгноіш.

Пятро стаяў, важна адставіўшы нагу, і раптам, ні з таго, ні сяго, ляпнуў:

— А скажы, гаспадарыку, хто з нас прыгажэйшы?

Алесь і рот ад нечаканасці разявіў. Як капа сена на галаву ўз'ехала. Пазірае на святых і не ведае, што адказваць, ды потым знайшоўся:

— Абодва вы прыгожыя.

— Э, так не пойдзе, — не пагадзіўся Пятро.

— Чаму? — шчыра здзівіўся Алесь.

— Ты павінен прама адказаць, хто з нас прыгажэйшы?

— Але ж я праўду сказаў.

— Такога не можа быць, каб два чалавекі былі аднолькава прыгожыя. Да таго ж мы не проста людзі, мы святыя.

— Ды...

— Гавары, не бойся, — не адступаўся Пятро. — Прыгледзься лепей і скажы прама.

— Гавары ўжо, чаго там, — падтрымаў Мікола. — Нічога благога табе за гэта не будзе.

— Праўда?

— Што мы, махляры нейкія?

— Ці круцялі з вялікай дарогі?

Тут Алесь махнуў рукой і прамовіў, на Пятра паказваючы:

— Абодва прыгожыя — гэта праўда, але вось у гэтага нос велікаваты. Як агурок.

Мікола весела падміргнуў селяніну, а Пятро спахмурнеў і адвярнуўся. Гаспадар імгненна адчуў перамену настрою:

— Але я ж не жадаў вас крыўдзіць. Самі напрасіліся.

— Ды нічога, — праз зубы прашаптаў Пятро і першы пакіраваў прэч. За ім, азіраючыся і пасмейваючыся, падаўся Мікола.

Адышліся яны крокаў сто, тут Пятро і кажа:

— Не забуду яму гэтага!

— Ты што? Мы ж дамовіліся!

— Мала што там было!

— Мы ж чалавеку сказалі, што за гэта нічога благога рабіць не станем.

— Перадумаў я.

— Ды нельга ж так сябе паводзіць.

— А яму можна гаварыць, што ў мяне нос, як агурок?

— Сам жа напрасіўся!

— Я ж пытаўся, хто з нас прыгажэйшы?

— Вось ён і адказаў.

— За гэта і атрымае ў мяне! Не дарую!

— Нельга так. Мы каралі лайдакоў, абібокаў, ганарліўцаў, а гэты ж шчыры працаўнік. Глядзі, я за яго ўступлюся! — рашуча адрэзаў Мікола.

— То ты супраць мяне?

— Не супраць, але гэтага гаспадара ў крыўду не дам!

— Пажывём — пабачым.

— Напушчу на ягоную ніву неўраджай!

— Ага, а яе буду паліваць і дагледаць.

— Пажарам выпалю ўсё навокал!

— А я папярэджу.

— Жывёлу ўсю звяду!

— А я дапамагу зноў развесці і не дам яму духам пасці.

— Чаго ты ўсё насуперак мяне спрабуеш зрабіць?

— Бо ты сябе няправільна паводзіш.

— Правільна! Не будзе яму спакою на гэтай зямлі: на нізкім усё дазвання затаплю, а на высокім, адпаведна, засушу! Будзе ведаць, як з мяне смяяцца!

— Ён жа не смяяўся, — спрабаваў было Мікола адгаварыць сябрука, а сам усё думаў, як жа чалавека з бяды выручыць. Але ў галаву не прыходзіла нічога выратавальнага. Нарэшце запытаўся:

— То ты не перадумаў, Пятро?

— Не.

— Цвёрда сказаў і нічога мяняць не будзеш?

— Так!

— То я гэтаму чалавеку падкажу, каб ён пасяліўся ў парэччы, паміж рэкамі.

— Навошта гэта? — вылупіў вочы Пятро.

— Там не нізка і не высока і не згубіш ты ягоныя ўраджаі.

Так і адбылося на самай справе. Стаў Алесь жыць у парэччы. Назва паступова змянялася і стала — Парычы.

## ЗАТОН

У старадаўнія часы любілі нашы продкі рыбнай лоўляй займацца. Што самае галоўнае — ім не трэба было для гэтага выбірацца некуды, вадаёмаў навокал хапала. Вось і каля нашага паселішча працякала даволі шырокая рэчка. Хапала любой рыбы. Збяруцца мужчыны і гамоняць:

— Цёпла стала.

— Ага, прыпарвае.

— То, можа, рыба на паверхню папрэцца?

— Добра было б. Тады і юшку зварылі б.

— Крыху, хлопцы, пачакаем, потым зоймемся рыбалкай.

— Якраз невялікая перадуха настане.

— Так. Сеяць яшчэ ранавата на зіму, а жаць — ужо пажалі.

— Ды бачыце, якое надвор'е? Не часта такое здаралася.

— Чаго тут, хлопцы, меркаваць? Давайце да старога Савы сходзім. Лепшага рыбака ва ўсім наваколлі не знойдзеш. Ён і падкажа, калі на рыбалку выбірацца.

— Заадно і цікавае нешта распавядзе.

— О, гісторый у яго — што яршоў у нашай рацэ.

Пацiснулі вяскоўцы да старога. А той сядзеў сабе на прызбе з белагаловым унукам і нешта яму даводзіў.

— Вось, бачыце, ён і тут распавядае.

— Здароў, дзед Сава! — гукнулі, падступіўшы бліжэй.

— Чаго вы так крычыце? Я добра чую.

— А колькі ж, дзеду, гадоў ад нараджэння маеш?

— Хто яго ведае, дзеткі, можа, сотню, можа, і болей.

— І здароўе не падводзіць?

— Не, дзякуй Богу, не падводзіць.

— Мы ж не проста так прыйшлі. Мы параіцца.

— Са мной? То гаварыце, няма чаго маўчаць.

— Вырашылі мы на рыбу схадзіць, ды засумняваліся, ці варта сёння з дому на рэчку падавацца? Што, дзедку, скажаш?

— Правільна задумалі. Рыба ніколі не перашкодзіць на стале. Тым болей, на сялянскім. Толькі сёння ўвечары не трэба ісці на рыбалку.

— Мы збіраліся ноччу, каб да раніцы палавіць і на працу паспець, бо яна ж чакаць не стане.

— Так, не стане.

— Але чаму сёння нельга ісці?

— Рыба да берага ды на паверхні збіраецца — гэта так, а вы ўсё роўна не спяшайцеся.

— А калі?

— Заўтра, пад самы вечар, дождж пойдзе.

— Дождж? Здаецца ж, толькі прыпарвала і прайшло ўжо. Стала халадней.

— У мяне, дзеткі, свае прыкметы. Колькі я на рэчку пераходзіў ды рыбы пералавіў, то дай Бог кожнаму з вас хоць пабачыць такое.

— Гэта мы ўсё ведаем.

— А прыкметы простыя. У мяне косці за два дні да дажджу так ныюць, што хоць ты крычы. Вось сёння не

надта ўзяло, значыцца, заўтра добра прыцісне. Заўтра і дождж будзе. А сёння свята не надта вялікае, то не стойце дарма, ідзіце ды сеці праверце. Заўтра папрацуеце, хто дзе, [redacted] вечарам і дождж заімжыць. У дождж жа працаваць не станеце, а рыбку паловіце.

— Вось гэта праўда. А вы з намі пойдзеце?

— Калі не адкінеце старога, то чаму б не пайсці.

— Ды што ты, дзедка, ніхто і не ўздумае гэта зрабіць.

— Тады заўтра прыходзьце пад вечар. Тут, у мяне, і збяромся. Коніка запражом.

— Навошта?

— Што ж гэта за рыбалка, калі ўсю рыбу ў хатулях прынясеш? Не сумнявайцеся. Калі я гавару, то ведаю, што раблю.

— А сеткі якія браць?

— Бярыце з буйнымі ячэйкамі. Навошта нам тое драбноцце?

— Любая рыба спатрэбіцца.

— Яно-то так, але мы заўтра за буйной выберамся. Толькі не позніцеся, дружна збірайцеся, бо калі дождж імжыць, то цямнее хутка. Да таго ж улічвайце, ужо восень на дварэ стаіць.

— Збяромся ў час.

Хутка пакрочылі вяскоўцы ад Савы, каб паспець сеці пераглядзець ды іншае рыбацкае прычындалле. Нешта ўпусціш, то потым іншыя будуць рагатаць ды згадваць, як ты на рыбалку выбіраўся.

На другі дзень свяціла сонейка. Людзі пераглядваліся і гаварылі:

— І адкуль тут дождж? Нешта наблытаў Сава.

— Не выключана і такое.

— Сонца прыпякае, як летам.

Полудзень настаў, [redacted] сонейка не хаваецца. Тут ужо мужчыны і ўвогуле гатовы былі старога на смех падняць. Не было яго паблізу, [redacted] так бы языкі пачасалі ўволю. Калі да павечара заставалася пару гадзін, пацягнула ветрыкам, паплылі хмаркі па небе. Спачатку нейкія бясколерныя, а потым чарнейшыя. Неўзабаве заклала ўсё навокал, заімжэў дождж.

— Ты глядзі. Не памыляўся, значыцца, стары.

Сабраліся ля Савы, [redacted] той ужо апрануты чакае. Коніка свайго запрог, паклалі на воз прычындалле, сам гаспадар сеў, а мужчыны пешкі пакрочылі. Стары закамандаваў:

— Паедзем туды, дзе самы ёсць.

— І такая рыба ў нас водзіцца?

— У нас усё ёсць, проста вы не ведаеце.

Прыехалі да рэчкі, калі зусім сцямнела. Некаторыя селі ў чаўны, а некаторыя пачалі з берага сеці кідаць. Выцягнулі раз, другі і ажно за галовы ўхапіліся:

— Во, гэта рыба!

— А колькі многа!

— Гэта, хлопцы, надзвычай багаты затон! Я тут яшчэ са сваім дзедам лавіў рыбу, і заўсёды яе было многа, — зазначыў Сава.

Многа часу прайшло. Рака высахла, а назва тая засталася — Затон. Так і вёску нашу назвалі.

## ЗДУДЗІЧЫ

Жыў-быў адзін селянін, і было ў яго трое сыноў. Хлопцы хвацкія. Працаваць пойдуць, то нікога да сябе і блізка не падпусцяць, а адпачываць стануць, дык песні наўкола нясуцца, не заціхаюць. Тады ўжо людзі гавораць:

— Вось Лаўрэн са сваімі зацягнуў.

— А чаго яму не спяваць? Усё атрымліваецца належным чынам: гаспадарка спраўная, зямлі хапае, то і спяваецца весела.

— Сыны — што тыя мядзведзі. Дапамогі чалавек дачакаўся, яму лягчэй будзе.

Але была адна рыса ў Лаўрэна, якая надзвычай турбавала вяскоўцаў: любіў чалавек узяць тое, што дрэнна ляжала. Вось толькі адвярніся, то нейкай рэчы і не адшукаеш потым. Пачнеш дапытвацца — ніхто не бачыў, ніхто нічога не ведае, а сам Лаўрэн, калі да яго з запытаннем звярталіся, адказваў:

— Глядзець трэба лепей.

— То ж глядзеў. Не адварочваўся нават.

— Нічога, братка, не зробіш. Здýдзілі тваю штуку. Бачыш, нікога не было, а рэчы не далічыўся. Здýдзілі, — толькі і паўтараў Лаўрэн, а сам хаваў усмешку ў бараду ды хутчэй выбіраўся далей ад таго месца, дзе яго маглі западозрыць у непажаданым занятку.

Неяк прыйшоў ён да старога дзеда пасядзець, а той, небарака, забедна жыў, не было ў яго чаго і ўзяць. Лаўрэн туды-сюды круціў галавой, але гаспадар нават і не паварочваўся ў яго бок, ведаў жа, што няма нічога такога, што выклікала б цікавасць гэткага торбахвата. Пагаманілі, пакурылі, паплявалі на гліняную падлогу, і Лаўрэн устаў:

— Добра, дзедку, пайду. Пасядзеў — і пара дахаты.
— Яно-то так...
— Можа, якую працу зраблю яшчэ ў хаце.
— Без працы не сядзіш? Усё корпаешся?
— Паціху.
— Не сядзіцца табе?
— Як стану старым, то тады і адсяджу ды адляжу сваё.
— І то праўда. А чаго ты прыходзіў да мяне?
— Ды...
— Не памятаеш?
— Чаму ж не. Адведаць.
— Дзякуй табе, братка, што мяне, старога, не забываеш.
— Ды як жа можна? Вы ж яшчэ з маім бацькам-нябожчыкам сябравалі.
— Ага, было такое. Раслі разам, але забрала яго ўжо даўно сырая зямелька.
— Ну, то бывайце здаровы.
— І ты будзь, Лаўрэнка.
Госць пайшоў, а гаспадар дачакаўся, пакуль той адыдзецца, і зарагатаў:
— Ой, Божачка! Ой, родненькі! Украсці ў мяне нешта хацеў!
Засопся ажно, смеючыся, але потым спалохана азірнуўся:
— Няўжо?..
Крутнуўся да дзвярэй. Не, не было таго, чаго шукаў. Старога праравала:
— Ах ты, злыдзень! Каб жа табе сёння не спалася! Украў! Не пашкадаваў! Украў!
Аказалася, што Лаўрэн, адыходзячы, забраў і калоду, на якой сядзеў. Адзінае, што было з мэблі ў хаціне.
— Каб жа цябе скасавурыла, калі і гэта табе спатрэбілася!
Калода, ведама ж, была зусім не патрэбна Лаўрэну, узяў проста з-за таго, што болей і прыхапіць не было чаго.
Так і атрымалася, што людзі паміж сабой сталі Лаўрэна зваць не іначай як Здудзічам. Так і казалі:
— Глядзіце, браткі, Здудзіч падыходзіць.
— Ага, каб чаго не ўхапіў.
— Гэты можа.
Але аднаго разу Лаўрэн разам з сынамі зрабіў такое, з чаго і зараз вяскоўцы рагочуць, калі прыгадаюць. А выйшла вось што. Ехаў неяк багаты памешчык. Як і заведзена, у карэце шыкоўнай, запрэжанай шасцерыком, з фурманам, з лёкаямі. Дабіраўся да сябрука, якога даўно не бачыў. Перапісаліся і вырашылі, што трэба спаткацца. А дарогі

тады былі амаль такія, як і сёння: дзе добра, а дзе і не ўбіцца. Пан пакручваўся і пастаянна падганяў фурмана.

— Нельга, паночку, — адказваў той.

— Чаму?

— Таму што дарога благая. Каб жа чаго не здарылася.

— Я загадваю!

— Воля ваша.

Як прыджгнуў коней фурман, [redacted] тыя як панеслі, то ляцелі, здавалася, капытамі зямлі не дакранаючыся. Пёрлі так, што ажно грукацела навокал. І наскочылі. Не паспеў фурман затрымаць спалоханых жывёлін, і яны на ўсім скаку ўляцелі ў балаціну. Так карэта села, што і колы патапіліся, а памешчык сабе нос моцна расквасіў і выў, на чым свет стаяў:

— Што ты нарабіў, галгане?

— Але ж [redacted] гаварыў.

— Заб'ю! Дзе нашы гайдукі?

— Без памяці ляжаць, паразбіваліся.

— Тады шукай людзей, каб карэту маю выцягнулі!

Выскачыў фурман на дарогу, [redacted] тут якраз, нібыта па загаду, сунуўся Лаўрэн з сынамі:

— Дапамажыце, родненькія!

Пераглянуліся бацька з сынамі:

— Пайшлі.

Як уперліся, то і выцягнулі карэту. Памешчык узрадаваўся, залатовак пару ім даў. Сяляне і зніклі адразу.

— Паганяй! — загадаў пан.

Але тут пачуўся спалоханы голас фурмана:

— Пане!

— Што яшчэ?

— Яны ж... гэта... калёсы спёрлі!

З таго часу не толькі Лаўрэна Здудзічам, але і сыноў ягоных Здудзічамі сталі зваць. Вось адкуль назва такая дзіўная з'явілася.

## КНЫШЭВІЧЫ

Жыў некалі чалавек. Звалі яго Апанасам, [redacted] мянушку меў дзіўнаватую — Кныш. І здарылася бяда ў гэтага чалавека — захварэла жонка. Месца ён сабе не знаходзіў, туды-сюды кідаўся — нічога не дапамагала. А тады ж у бальніцу не клалі, доктара не клікалі, усё на Бога спадзяваліся. Як ён дасць, так і будзе. Былі яшчэ дзядулі ды бабулі, якія добра адмаўлялі ад усялякіх хвароб. Да іх і беглі. Нехта і Апанасу

параіў паехаць да аднаго старога, які мог любога вылечыць.

— А дзе жыве?

— Далекавата.

— Ды мне ж нічога іншага рабіць не застаецца. Жонку трэба ратаваць, пакуль не ўсё яшчэ страчана. Дзе, кажаш, ён жыве?

— Вёрст дванаццаць дабірацца трэба.

— Дабяруся, каб толькі дапамагло. У якім гэта баку?

— За рэчку трэба ехаць. Там людзі амаль не жывуць. Той дзедка, калі ■ ў яго быў, яшчэ са старой удваіх гаравалі, але людзі гаварылі, што гаспадыню ўжо Бог забраў. Зямля ёй пухам, добрая была надзіва жанчына.

— Паеду з самай раніцы, усё кіну, — зазначыў Апанас, — упрашу старога са мной прыехаць.

— Ты лепей жонку з сабой на воз, чалавеча, вазьмі.

— Навошта? Я старога прывязу.

— Але ж яго трэба будзе і назад адвезці? Лішнія клопаты. Навошта каня ў два канцы два разы ганяць?

— Каб жа толькі дапамагло... Але ты маеш рацыю, братка. Нешта я з-за гэтых клопатаў і разважаць перастаў.

— Бяры, Кныш, жонку і едзь, ■ за дзецьмі і мая гаспадыня прыгледзіць, галоднымі бегаць не будуць. Хлеў твой ды гумно папільнуем. За дзень, можа, і абернешся, дарога добрая.

Пераначаваў Апанас ночку, а раніцай вынес жонку ды ў воз паклаў. Тая плакаць пачала, стагнаць:

— Куды ж ты мяне павязеш?

— Не палохайся, да знахара аднаго.

— Навошта гэта мне? Усё роўна не дапаможа.

— Не гавары так, родненькая.

— Збалелася ў мяне ўсё цела, ніштю не выратуе.

— Пабачыш, гэты дзедка дапаможа. Кажуць, што ён любога выправіць.

— Ой, не верыцца мне. Лепей дома пабыла б гэты дзень, на дзяцей нашых паглядзела. Мала мне засталося на белым свеце жыць, то яшчэ ў невядомую мясціну перціся...

— Цябе паслухаць, то трэба жывым у магілу чалавеку класціся, — не ўтрымаўся Апанас, запрагаючы коніка.

Яшчэ праз хвіліну ён выязджаў з двара.

Доўга дабіраўся Кныш, усё сачыў, каб з дарогі не збіцца. І на жонку не забываўся — то падушку пад галавой паправіць, то вадзіцы напіць дасць і ўсё суцяшае. Сонца ўжо высока ўзнялося, калі выехаў на выспу. З левага боку ўбачыў хаціну і накіраваў туды коніка. Пад'ехаў да падворка, а гаспадар ужо нецярпліва на Апанаса пакрыквае:

— Спяшайся, спяшайся!
— Але ж я ўжо прыехаў...
— Спяшайся, бо кожнае імгненне набліжае тваю жонку да вечнага жыцця.
Апанас збіраўся было жонку на руках да дзеда паднесці, але той сам падышоў і прамовіў:
— Яшчэ б крыху — і не давёз бы жывой.
— Але адкуль вы ведалі, што я еду?
— Я, чалавеча, усё наперад ведаю, — зазначыў дзедка і адышоў у бок.
— Цяпер сам адыдзі, а я пашапчу над хворай.
— А яна...
— Цяпер ужо будзе жыць, цяпер я ёй дапамагу. Пераможам хваробу, не хвалюйся.
Доўга шаптаў свае замовы стары. Хадзіў у хаціну, прыносіў усялякія травы, напоі, мазаў нечым жанчыну, даваў нешта піць, а потым сказаў:
— Вось і табе, чалавеча, трава. Як будзеш ад мяне ехаць, то набяры ў крыніцы чыстай вады і тры разы на дзень дай жонцы яе выпіць.
Падзякаваў гаспадару Апанас і паехаў назад. Усё так зрабіў, як знахар сказаў, і паправілася жанчына. Доўга яшчэ жыла пасля той цяжкай хваробы. Людзі потым за тое, што Апанас так стараўся жонку выратаваць, назвалі мястэчка, дзе крыніца тая цякла, Кнышэвічамі. Яе цяпер, на жаль, няма, а вёска стаіць, прыгажэе.

## МЕДЗВЯДОЎ

Кажуць, здарылася гэта надзвычай даўно, ніхто і не можа сказаць, колькі стагоддзяў таму. Лясы тады стаялі густыя ды велічныя, звяр'я ў іх усялякага ды птаства мора было. Голымі рукамі птушак лавілі, хто крыху ўвішным быў, не лайдаком, зубры ды туры бегалі па лясных сцяжынках. Таму для ўсіх людзей — і бедных і багатых — асноўнымі законамі існавання былі пільнасць, уважлівасць, асцярожнасць, і парушаць іх ніхто не меў права, лес і звяры па-свойму вучылі самаўпэўненых людзей.
Аднаго разу выбраўся тутэйшы памешчык на паляванне. Стрэльба ў яго была дзівосная, заморская. Ён усё ёй пахваляўся:
— Ніякі звер мне цяпер не страшны! Я за гэтую стрэльбу чыстым золатам, панове, плаціў.
— Пан ужо скажа!

— Праўду гавару, каб мне з гэтага месца не сысці!
— Ды верым, верым. Але лепей за ўсё такую стрэльбу ў справе праверыць.
— Ведама ж.
— Трэба на паляванне выбрацца.
Паляванне — гэта быў панскі занятак. Яны ім толькі і цешыліся, бо нічым іншым не займаліся.
— То калі збяромся?
— А давайце заўтра. Збяромся ля палаца і рушым да пушчы.
— Конна?
— Канешне! Які ж гэта пан без каня?!
Усе зарагаталі.
З самае раніцы, яшчэ толькі сонца ўзышло, а паны ўжо сабраліся ля палаца, перагукваліся, весяліліся, прадчуваючы ўдалае паляванне. Тут і гаспадар з'явіўся са сваёй чароўнай стрэльбай і запытаўся:
— Ці ўсе сабраліся?
— Усе.
— Ніхто не спозніўся?
— На такую справу грэх спозніцца! — зухавата адрэзаў нехта з паноў.
Астатнія пагадзіліся.
— Да пушчы?
— Да пушчы!
Несліся так, быццам за імі гайня ваўкоў ляцела. Перад лесам спыніліся, і памешчык з дарагой стрэльбай закамандаваў:
— Цяпер разыдземся па нумарах, а загоншчыкі на нас звяроў пагоняць. Тут ужо, панове, не губляйцеся.
— Будзь спакойны, гаспадар, ад нас ніякі звер не ўцячэ.
— Я асобна стану, хачу стрэльбу праверыць. Прашу не перашкаджаць мне.
Пасталі ўсе, загоншчыкі звяроў пагналі, стрэлы частыя пачуліся, а потым нехта заверашчаў дзікім голасам. Прыслухаліся:
— Мядзведзь! Оў!
Яны туды, а там сядзіць той пан на дрэве, стрэльбу сваю кінуў ды гарлае — так яго мядзведзь налякаў:
— Мядзведзь! Оў!
Во ўжо рагаталі, калі здымалі няўдалага паляўнічага. Тое месца потым сталі называць Медзвядоў — перайначылі крыху.



# ХОЙНІКІ

Даўно гэта было, вельмі даўно. Зараз і сказаць цяжка, колькі стагоддзяў таму. Гавораць людзі, што ў тыя часы сам Усявышні ды ягоныя святыя па грэшнай зямлі хадзілі. Спаць на неба не забіраліся, а кладіся там, дзе ноч заспявала. І ўсё ў іх атрымлівалася найлепшым чынам. Ніхто не мог схаваць нейкі хіб, бо Бог жа побач быў, адразу разбіраўся з неахайным гаспадаром. Той абяцаў болей да такога не даводзіць, на тым і разыходзіліся.

Але ж у Бога іншых спраў, больш неадкладных ды тэрміновых, хапала, таму пачаў ён разважаць, каму даверыць такую працу. Вырашыў, што лепей за Пятра і Іллю ніхто не справіцца. Паклікаў іх да сябе і кажа:

— Тут справа важная паявілася. Думаю, каму яе даручыць?

— Нам даручы. Каму яшчэ ты можаш важную справу даверыць?

— А ці справіцеся?

— Было б з чым! Гавары, Божа, не цягні, — з крыўдай у голасе прыспешыў Пятро.

— Значыцца, так, — пачаў Усявышні, — хачу вам даверыць наступнае — будзеце назіраць за ўсім тым, што на зямлі робіцца.

— І ўсё? — вышчарыўся Ілля.

— А хіба мала?

— Але ж і нямнога. Я, па шчырасці, і сам ледзьве з гэтым упраўляўся, а вы гаворыце, што вам працы малавата будзе.

— Мы да працы прызвычаеныя, нас нічым не здзівіш.

— Але ж каб ніякіх хібаў не было!

— Да гэтага не давядзём справу.

— Бачу, што гаварыць вы ў мяне навучыліся хвацка, а як працаваць ды загады выконваць — яшчэ разабрацца не паспеў.

— І гэта ў нас на ўзроўні.

— Галоўнае, людзей з вачэй не ўпускайце. Просьбы іхнія ўлічвайце.

— Ведама ж, без гэтага і дня не пражывём. Будзем дапамагаць ім на кожным кроку.

— Тады з заўтрашняй раніцы бярыцеся за працу. Калі нешта не будзе атрымлівацца, то не саромейцеся, прыбягайце параіцца.

Пятро з Іллёй плетанулі ад Усявышняга — толькі пяткі іхнія замільгацелі. Бог не вытрымаў і крыва ўсміхнуўся:

— Нават не развіталіся.

Падумаў крыху і дадаў:

— А можа, гаротныя перажываюць, што я ім столькі работы задаў, і будуць сядзець ды разважаць, як усё спраўна парабіць? Дарма я, відаць, на іх благое падумаў, дарма...

Настала цёплая летняя ноч. Усявышні, стаміўшыся за дзень, толькі прыхінуўся галавой да світкі, пакладзенай на духмяны пракос, і заснуў імгненна, нібы праваліўся. Пятро ж з Іллёй дабраліся да сваёй старанна прыкрытай ляжанкі і таксама заваліліся спаць. Упёрліся спінамі адзін у аднаго, і Ілля адразу захроп, нібы выгадна пшаніцу на кірмашы прадаўшы. Пятро ж круціўся, муляўся, пераварочваўся — сон не ішоў у збалмочаную галаву. Недзе толькі пад самую раніцу заснуў і ён. Прачнуўся і ўсхапіўся адразу ж на ногі.

— Ілля, праспалі!

Але таго не было.

— Ілля, дзе ты?!

Навокал панавала цішыня. Пятро перапужаўся, потым зірнуў на неба і ледзьве не самлеў: нізка-нізка над зямлёй сунуліся шэрыя дажджавыя хмары.

— Людзі ж сена косяць!

Пабег Пятро да вяскоўцаў, якія сена якраз сушылі. Прылццеў туды, а дожджык ужо церусіў. Сяляне за галовы пахапаліся, жонкі іхнія галосяць, нібы па нябожчыку. Сняты да іх:

— Чаго румзаеце?

— Быццам сам не ведаеш? На першае сена дождж упаў. Цяпер яго і жывёла зімой есці не будзе, і не прадасі нікому, бо прагоркне. Навошта вы так зрабілі?

— Хто?

— Ну, Бог са святымі!

— Але ж мы... Вы скажыце дакладна, хто наслаў на вас дождж?

— Ты што, і па праўдзе не ведаеш, хто?

— Не.

— Ілля!

— Ілля? Калі ж гэта здарылася?

— На самым досвітку. Мы яшчэ ў буданах спалі. Ён прыйшоў і як закрычыць:

— Спіце, лайдакі? То я вам зараз зраблю!

— Навошта ён дождж наслаў? Ніяк не зразумею.

— І мы таксама, бо Бог жа ніколі раней такога не рабіў, даваў нам магчымасць усе справы парабіць, а потым толькі дажджамі залівае, каб зямля напілася.

— Браткі, вы не гневайцеся, але атрымалася так, што Ілля падмануў і мяне, і самога Усявышняга.

— Хіба так можа здарыцца, Пятро? Вярзеш ты нешта!

— Ці не пасядзелі вы ўчора дзе-небудзь у шынку? Перагрэліся і дождж на зямлю наклікалі.

— Ды не. Болей таго, Бог толькі ўчора нам наказваў, каб мы людзям дапамагалі, каб прыслухоўваліся да вашых просьбаў.

— Ага, а вы ў першы ж дзень прыслухаліся і вунь што вытварылі...

— Гэта не я.

— Якая нам розніца, ты ці не ты, сена вунь прападае.

— Зараз я вам дапамагу.

— Пабачым, як дапаможаш. Можа, як і Ілля, крутнешся?

— Не, я зараз, пару хвілін пачакайце.

Кінуўся Пятро туды-сюды, знайшоў свой вялізны венік і давай ім хмары па небу разганяць, прымаўляючы:

— Хто вас сюды прасіў?

Хмары адказваюць:

— Нас не прасілі.

— То чаго вы сюды прыпёрліся?

— Нам Ілля загадаў.

— Зноў гэты лайдачына. Прыспаў мяне, а сам вось што людзям панарабляў!

— Дык што ж нам рабіць?

— Уцякайце адсюль!

Хмары зніклі, [redacted] людзі сталі дзякаваць Пятру і асуджаць Іллю:

— Даведаецца Бог, то не даруе такога свайму святому.

— Ведама ж, не.

— Бачыш ты на яго, на адзін дзень дарваўся, а бяды нам панарабляў па самае горла.

— Пераб'ёмся неяк, але цяпер трэба будзе пастаянна сачыць за надвор'ем і не быць такімі бяспечнымі, як раней.

Людзі размаўляюць, а Пятро не стаў ля іх стаяць і слухаць, а паджгаў шукаць Іллю, каб выказаць таму сваю крыўду. Доўга хадзіў — нідзе сябрука не мог знайсці. Нарэшце напароўся: стаяў Ілля і цікаваў, як дзяўчаты ў рацэ купаліся.

— Што гэта ты робіш?

— Ат, адчапіся!

— Ці ж не сорамна? Усявышняму раскажу.

— Кінь дурное, лепей хадзі ды разам паглядзім.

— То ты падглядваеш, то яшчэ што ўздумаеш...

— А што я такога дрэннага зрабіў?

— Ты навошта на сена дождж наслаў?

— Хай ведаюць!

— Хто?

— Вяскоўцы.

— Што ж яны табе дрэннага ўчынілі?

— Я іду, [redacted] яны храпуць у буданах.

— Не будзеш жа сена грэбці, калі сонца не ўзышло ды не прыпякло. Яно ж вохкае тады і згніе ў стагах.

— Многа ты ведаеш!

— Ды паболей твайго!

— Ат, адчапіся, паўтараю табе!

— Не перастанеш дурніцай займацца, то Богу раскажу.

— Напалохаў.

— Не баішся?

— Не.

— Смелы надта?

— Які ні ёсць, але не баюся.

— Ой, глядзі.

— Ты лепей сябе глядзі, а [redacted] як-небудзь упраўлюся.

— Але ж Усявышні нам наказаў удваіх сачыць за ўсім, нідзе не хавацца, а тым болей не сварыцца.

— Я з табой не сварыўся, але і мірыцца не збіраюся! — катэгарычна, пакрыўдзіўшыся на надакучлівасць нядаўняга сябрука, зазначыў Ілля.

— Вось як ты загаварыў?
— А як жа іначай?
— Нельга так.
— Чаму?
— Таму што нельга.
— Гэта не адказ.
— Ідзі і што хочаш рабі, толькі да мяне болей не чапляйся.
Азірнуўся Пятро апошні раз на Іллю, пабачыў, што той на яго і не глядзіць, а па-ранейшаму за дзяўчатамі цікуе, і пайшоў прэч ад кустоўя. Ідзе, сабе не рад, ажно чуе голас:
— Што такі невясёлы, Пятро?
Акінуўся, а Бог стаіць ля рабінкі і пра нешта думае.
— Ды...
— Гавары, гавары, не палохайся, усё роўна даведаюся. Не хавай на душы цёмныя справы. Што здарылася?
— Ілля...
— Што з ім?
— З ім нічога.
— Значыцца, ён нешта ўчыніў? Што, калі не сакрэт?
— Які ўжо там сакрэт? Ён людзям шкоду вялікую зрабіў.
— Якую?
— На сухое сена дождж наслаў.
— І калі паспеў той лайдак?
— Раніцай.
— А ты дзе быў?
— Спаў, бо дамовіліся з ім разам ісці за парадкам сачыць, а дзе і падказваць. Ён мяне прыспаў, а сам вунь чым заняўся.
— І што людзі?
— Пакрыўджаныя моцна.
— Ведама ж, такое ўчыніць.
— Я хмары паразганяў.
— Гэта ўжо потым?
— Ну.
— Эх, як адчуваў, што вам нічога нельга даверыць, бо ўсё роўна сапсуяце.
— Гэта ж не я.
— На цябе нічога і не кажу. Дзе ён зараз?
— Непадалёку тут.
— Пайшлі да яго!
— Не, я не пайду.
— Чаго гэта?

— Ды...

— Чым ён там зноў займаецца? Чаму ты не жадаеш да яго падысці?

— Бо сорамна.

— Значыцца, Ілля зноў нечым благім займаецца?

— Як сказаць.

— Так і скажы, прама, не хаваючыся.

— Ён сочыць.

— За кім гэта ён сочыць?

— За дзеўкамі.

— Якімі яшчэ дзеўкамі?

— Звычайнымі, вясковымі.

— І што ж тыя дзеўкі робяць?

— Ат...

— Гавары, бо сам пайду праверу!

— Яны гэта... Купаюцца...

— Голыя?

— А хто ж апрануты купаецца? — у сваю чаргу зрабіў дзіўныя вочы Пятро.

Усявышні так і сеў. Доўга не мог нічога сказаць, толькі хапаў паветра, а потым яго прарвала:

— Ды я яго за гэта!..

— Божанька, не трэба, — пачаў прасіцца Пятро, бо ведаў, што той у гневе здольны зрабіць самы бязлітасны ўчынак.

— Не дарую!

— Можна і не дараваць, але толькі не карай надта сурова.

— Я ж яму даверыў!

— Слабы ён аказаўся.

— Пойдзе ён у мяне свінні пасвіць!

— Ой, Божанька. Нельга ж так.

— Чаму?

— Святы — і свінні пасвіць.

— Які ён святы, калі такое вырабляе? Не дарую! — басам зароў Усявышні. — Не адкруціцца ад свіней!

— Ды неяк жа...

— Добра, пойдзе прыглядваць за тымі свіннямі і за тымі мясцінамі, дзе яны жывуць!

— А куды гэта?

— У хвойнік!

Тады, кажуць, толькі хвойныя лясы і раслі, болей ніякіх не было. З таго часу і стаў сядзець Ілля над хвойнікамі ды ляскаць сваім вогненным бізуном. Раз-пораз, ад няма чаго

рабіць, падпальваў іх, але Бог не звяртаў на святога ніякай увагі. Потым іншыя лясы з'явіліся, высякаць іх сталі. А найболей хвойнікі трымаліся тут, дзе зараз наш горад. Ад тых самых часоў і сталі зваць іх людзі — Хвойнікамі, ▪ яшчэ крыху пазней — Хойнікамі.

## АМЕЛЬКАЎШЧЫНА

Некалі ж, калі нараджалася дзіця, то яго не надта глядзелі. Я маю на ўвазе, зусім не так, як зараз. Надарыцца пара гарачая, то немаўля з сабой нясуць. Бяруць калыску, прымайструюць яе на ніве ці на лузе, самі працуюць, а дзіцятка ляжыць, спіць ці крычыць — гэта ўжо як атрымліваецца.

Нарадзіўся ў адной гаспадыні сыночак. Гожанькі такі, пухленькі. І назвалі бацькі свайго першанькага Амелькам. Спадабалася ім імя, таму і вырашылі:

— Няхай і носіць такое.

— Імя яшчэ не самае галоўнае, самае важнае ў жыцці. Каб лёс шчаслівы быў ды шанцавала.

— Каб здароўем не падкачаў.

— Ага, каб спагадлівым ды шчырым вырас.

— І пад старасць нас каб даглядзеў.

Пагаманілі, пасмяяліся над немаўлём, а тут і жніво ў дзверы пастукалася. Усе людзі збіраюцца нівы жаць, і гаспадыня, адпаведна, таксама пачала рыхтавацца. Гаворыць на мужа:

— Заўтра падамося?

— Так, трэба ісці.

— Возьмем калыску, есці малому і пойдзем.

— Добра.

— З малым не надта напрацуеш, але ўсё роўна болей зробіш, чым у хаце седзячы. А ён жа ў нас спакойны.

— Маўчун расце. Толькі нешта сам сабе гугукае ды пасміхваецца.

— Яно і добра. Калі зараз такі, то і пазней да сябе нас не надта адрываць будзе.

— Глядзець, тым не меней, трэба.

— А хіба ж я, мужу, супраць?

— Я толькі нагадаў, каб якога ліха не здарылася.

— Кінь дурное і паплюй праз левае плячо! Пайшлі лепей глянем, чым ён зараз займаецца.

Падышлі бацькі да калыскі, а малы ў ёй соладка спіць сабе і толькі ў сне нечаму ўсміхаецца.

— Нешта яму харошае сніцца.

— Відаць.
— Дай жа, Божа, каб яму ўвесь час добрыя сны бачыліся і спаў ён спакойна ды нас не турбаваў. Жніво пройдзе, то і Амелька за гэты час значна падрасце.
— На наступную вясну ўжо будзе бегаць па падворку.
— А можа, і гаварыць стане?
— Хто ж яго ведае.
— Адным словам, пачакаем. Ідзём да стала, павячэраем ды спаць ляжам, бо заўтра з самай раніцы на ніву падамося.
Павячэралі і спаць ляглі.
Не паспела сонейка добра ўзысці, а гаспадары ўжо па падворку бегалі, усё на жніво складалі. Потым, паснедаўшы ды малога ўхутаўшы, падаліся да нівы. Ісці трэба было далекавата, таму пакуль прыйшлі, то добра стаміліся. Гаспадар загадаў:
— Ты ідзі калыску стаў ды малога спаць пакладзі.
— А ты?
— А я варушыцца стану.
— Пачакай мяне, разам пойдзем.
— Што я, малое дзіця ці нечага баюся? Пайду, не буду ж, склаўшы рукі, сядзець.
— Я гэта сказала, каб і ты з дарогі перадыхнуў...
— Нічога, вытрымаю.
Гаспадар пайшоў да нівы і стаў там завіхацца, а жанчына на ўзмежку паставіла калыску, паклала туды Амельку, дала яму грудзі, і калі малы пад'еў, то загарнула яго ў чыстую пялюшку і запяяла калыханку, каб хутчэй заснуў:

Жала я да жытачка пры дарозе,
Павесіла калысачку на бярозе.
Вісі, вісі, калысачка, не хітаніся,
Спі, мая дзяціначка, не прачніся.

Жала я да жытачка пры даліне,
Павесіла калысачку на каліне.
Вісі, мая калысачка, не цяніся,
Спі, мая дзяціначка, не павярніся.

Малы заснуў, і гаспадыня ўподбежкі падалася да гаспадара, бо была да працы — што агонь, хвіліны спакойна не магла пасядзець, пастаянна нешта рабіла.
— Ну што, спіць?
— Ага, заснуў. Каб толькі паболей паспаў наш Амелька, то працы многа зрабілі б.
— Колькі зробім, столькі і добра, загадваць няма чаго. За адзін дзень усё роўна ўсяго не выжнеш.

— Так, але хочацца паболей зрабіць.

Жнуць муж з жонкай, по́там абліваюцца і прыслухоўваюцца, ці не заплакаў іхні сынок. Але Амелька спаў, нібы адчуваючы, што бацькам зараз не да яго. Недзе пад полудзень толькі падаў голас. Гаспадыня разагнулася і прамовіла:

— То пайшлі і мы таксама перакусім.

Папалудналі, жанчына малога пакарміла, пялюшку яму іншую паклала, і зноў той соладка заснуў. Пайшлі дарослыя жаць далей. Працуюць, стараюцца болей зрабіць, бо дамоў хутка давядзецца ісці, і тут людзі побач закрычалі:

— Ваўкі! Ваўкі! Глядзіце!

Акінуліся бацькі, а ля іхняй калыскі здаравенны воўк стаіць і Амельку за кашульку, нібы якога котку, трымае.

— Ату яго! Ату! — нема закрычаў гаспадар і кінуўся да звера.

Але дзе ж вы бачылі, каб адзін чалавек воўка толькі крыкам напалохаў? Як прыпусціў лясны разбойнік, то толькі іржышча пад лапамі ягонымі затрашчала. Селянін адстаў, як ні стараўся, а воўк — у лес і прапаў. Загаласілі муж з жонкай, людзі іх суцяшалі. Жанчына валасы на сабе рвала, зямлю грызла, а гаспадар збялеў, нібы снег галава ягоная стала.

Толькі недзе праз пару месяцаў у адной балацінцы знайшлі кашульку, якая была на Амельцы, а болей нічога і не адшукалі. Тое месца пачалі ў народзе Амелькаўшчынай зваць. Так і вёска стала.

## ВАЛЯНЦІН

Здарылася гэтая гісторыя ў старадаўнія часы. Жыўбыў хлапчына, Мікола, [redacted] па суседству з ягонымі бацькамі жылі людзі, у якіх гадавалася дачка Марыля. Так ужо атрымалася, што раслі яны разам, бегалі, гуляліся. Спачатку, як звычайна паміж дзецьмі, было простае сяброўства, [redacted] потым яно ў каханне перарасло. Вясковыя дзяўчаты і хлопцы пачалі вечарыны наладжваць, то і закаханыя туды пастаянна хадзілі. Вось неяк пасядзелі яны на вечарынцы, патанцавалі, пажартавалі і зазбіраліся.

— Каб ніхто не здагадаўся, куды мы падамося, — прашаптала Марылька.

— Толькі і бяды тае, няхай гамоняць.

— Ды гаварыць абы-што пачнуць.

— І так гамоняць. У вёсцы не схаваешся. Усё роўна ж пабяромся з табой.

— Гэта яшчэ як сказаць.
— Чаму?
— Як я захачу, так і будзе.
— То ты, значыцца, за мяне замуж выйсці не жадаеш?
— Трэба падумаць.
— А ўчора што гаварыла?
— Што?
— Што без мяне ні кроку не ступіш.
— Падалося табе, Міколка.
— Дажартуешся.
— Вось пагляджу, як ты будзеш сябе далей паводзіць, тады і вырашу.
— Зразумела. Паздзекавацца хочаш. Глядзі ў мяне. Калі з кім іншым пачнеш хадзіць, то я таму галаву назад закручу!
— Во, ужо і пагрозы пачаліся.
— А што мне застаецца? Няхай ведаюць, што так і будзе! — цвёрда зазначыў Мікола і сціснуў свае магутныя кулакі.
Але дзяўчына вырашыла далей жартаваць з хлапчынай.
— Я і не ведала, што ты такі злы ды суровы. Як жа з такім мужам жонцы жыць будзе? Пагляджу, пагляджу, даражэнькі, на твае паводзіны...
— А як ты хочаш, каб я сябе паводзіў?
— Каб слухаўся мяне, усе мае просьбы ды загады выконваў.
— І ўсё?
— А што, гэтага мала?
— Але ж тут нічога незвычайнага няма.
— То хадзем да рэчкі? — гарэзліва бліснула вачыма Марылька.
— Зараз?
— Ага.
Выслізнулі яны за дзверы і пакіравалі паволі ў бок рэчкі. Ісці трэба было добрую вярсту, калі не болей. Таму ішлі даволі шпарка і найболей маўчалі, бо дзяўчына завяла хлапчыну так, што той паверыў, быццам бы ў яе завёўся нейкі іншы каханак. Толькі і думаў пра свайго нябачнага саперніка:
— Ну, пачакай, атрымаеш у мяне! — шаптаў хлопец.
— Што ты там шэпчаш, Міколка? — дапытвалася дзяўчына.
— Нічога я не шаптаў.
Закаханыя з хаціны пайшлі, а хлопцы з дзяўчатамі давай рагатаць. Потым нехта запрапанаваў:

— А ведаеце што? Давайце мы за імі прасочым.
— За кім?
— За Міколам з Марылькай.
— Навошта? Няёмка за іншымі падглядваць.
— Ды мы не надта будзем углядацца. Проста, каб потым пасмяяцца.
— Пайшлі, усё роўна няма чаго рабіць, а спаць яшчэ рана.
— Адаспімся, як старымі станем. З печы тады злазіць не будзем.
— То пайшлі.
Выскачылі з хаціны, і тут нехта зноў закамандаваў:
— Не верашчыце і не размаўляйце. Трэба ціха падкрадвацца, іначай пачуюць, і тады нічога не атрымаецца.
— А куды яны падаліся?
— У бок рэчкі, я якраз падслухала, як яны дамаўляліся, — піскнула нейкае дзяўчо.
Увесь натоўп пасунуўся да рэчкі. Але папёрліся не па дарозе, не па сцяжынцы, а па кустоўі, якое густа сплятала-ся навокал.

Ідуць Мікола з Марылькай, не размаўляюць. Не вытрымала дзяўчына і прамовіла:
— Даруй ужо мне...
— Што дараваць?
— Пажартавала я.
— Адносна чаго?
— Ну, заводзіла цябе, каб ты пазлаваўся.
— Ды я не злуюся, — адказаў хлапчына, а сам падумаў: «Не на таго нарвалася, не правядзеш, усё роўна даведаюся, хто да цябе прылашчваецца».
Ідуць далей, зноў Мікола нічога не гаворыць, а ўсё ўслухоўваецца. Затое Марылька словамі так і сыпле, нібы сухім гарохам аб сцяну. Цюкнула тут у галаву хлапчыне, што гэта ж яна назнарок гучна прамаўляе, каб той, хто яе тут павінен быў чакаць, пачуў і паспеў схавацца.
Якраз у гэты момант нешта трэснула ў кусце, і Мікола кінуўся туды.
— Атрымлівай, гадзе!
Лупасіў невядомага чалавека сваімі здаравеннымі кулакамі. Той спачатку трываў, а потым загарлаў. Але ж, відаць, таксама хітры быў, не аб дапамозе прасіў, а крычаў зусім іншае — каб тэрмінова навакольных гаспадароў пабудзіць:

— Валяць тын! Валяць тын!

— Я табе навалю! — шчыра падсыпаў яму раззлаваны хлапчына.

З часам тое — валяць тын — крыху перайначылася і засталося Валянцін — так, як і сёння.

## ІЗБІНЬ

Жыў у адной вёсцы, непадалёку ад нашай сённяшняй, вядзьмар. Звалі яго Іванам. Такі ўжо ліхі ды зайздрослівы чалавек быў, што не дай Божа такога ў жыцці сустрэць. Як толькі ўбачыць нешта лепшае, чым у яго, ці даражэйшае, то ажно захварэе, будзе ляжаць, стагнаць, але свайго даб'ецца: ці ўкрадзе, ці вымусіць гаспадароў аддаць. І мог той вядзьмар усё рабіць: і заломы вырваць, і ад розных хвароб вылечыць, і порчу адрабіць. І ў гэтым не было нічога дзіўнага, бо, па перакананнях людзей, ён не толькі з Богам, але з і з нячысцікамі мог спакойна гаворку весці. Не баяўся іх, не ўцякаў ад чарцей, а, наадварот, сілу моцную ад іх атрымліваў. Мог па зорках уначы даведацца, чаму ў таго ці іншага чалавека карова не ўстае ці конь здох. Быццам бы на тых зорках так і было напісана: на авечку ў суседа Саўкі наслаў порчу сусед Сымон, а на Сымонавага вала — сусед Пятрок. Толькі як ні круціся, [redacted] дзесьці ўсё роўна свой канец знойдзеш. Так і з ведзьмаром атрымалася.

У аднаго гаспадара прыбегла ў хату спалоханая жонка і крычыць:

— Мужу, бяда!

— Што здарылася?

— Карова наша...

— Што з ёй?

— Не ўстае.

— З якога ліха?

— А я ведаю?! Ой, знахара трэба!

— Ведама ж. Але каго?

— Пакліч Івана. Ён, кажуць, усім дапамагае, то і нам не адмовіць.

— Калі што якое, то заплоцім. Толькі давай яшчэ дзянёк пачакаем, бо плаціць у нас няма чым. Знахар, асабліва Іван, апошняе здзярэ. А раптам сама ўстане?

— Ой, баюся, мужу, каб чаго горшага не здарылася...

— А раптам?..

— Добра, але толькі да заўтрашняга вечара.

Увесь час яны правялі ў хляве, ля каровы, ды нічога не дапамагло — кароўка так і не ўстала на ногі, здохла. Загаласіла жанчына: як жа далей жыць, як дзяцей карміць? Так хоць зрэдку малачком ласаваліся, а цяпер і таго не будзе.

Выйшаў гаспадар з хаты, прысеў на прызбу і сядзіць, задумаўшыся. Ажно бачыць — ідзе Іван. Падумаў чалавек: кароўкі няма, то хоць даведаюся, ад чаго яна загінула. Але не паспеў і рота раскрыць, бо вядзьмар, параўнаўшыся з ім, загаварыў:

— Што, чалавеча, гора ў цябе?

— Ага.

— Кароўка здохла?

— Так.

— Гэта ж, відаць, нейкі злы чалавек табе такое падрабіў.

— Я і хацеў у цябе спытаць, ці не можаш ты даведацца, хто мне такую штуку падладзіў?

— Трэба на зоркі глянуць.

— Паглядзі, будзь ласкавы.

— Адной просьбай справа не скончыцца, мне і заплаціць трэба.

— Ды ўжо ж.

Павёў гаспадар ведзьмара ў хаціну, пасадзіў за стол і давай яго карміць ды паіць самымі найлепшымі сваімі стравамі і напоямі. Нічога не шкадаваў, бо надта карцела даведацца, які злыдзень ягонаму жыццю пазайздросціў. Іван наеўся, напіўся і лёг спаць. Апоўначы ўстаў і пытаецца ў гаспадара:

— Спіш?

— Не.

— То спі.

— Сон нешта не бярэ.

— Возьме, ты толькі не перажывай. Ляжы, а я пайду ў двор, пагляджу на зоркі.

Выйшаў з хаты, але неўзабаве вярнуўся.

— Заўтра не будзе каровы ў таго, хто на тваю порчу накіраваў.

— Каб толькі гэта здзейснілася!

— Здзейсніцца.

Назаўтра, яшчэ сонца не засвяціла, чуе гаспадар, як у суседнім двары загаласілі. Ён да іх, ■ там, аказваецца, самая лепшая карова здохла. Галоўнае, што з вечара здаровая была, нічым не хварэла.

Тут Іван пайшоў ужо да таго суседа і там прапанаваў свае паслугі:

— Хочаш, гляну па зорках і скажу, ад чаго кароўка здохла?

— Скажы, добры чалавек.

— А ты мне адпрацуеш. Карміць-паіць мяне сёння будзеш.

— Самае лепшае на стол пастаўлю.

— То тады і я цябе выручу. Раніцай даведаешся імя таго злыдня, які тваю жывёліну перавёў.

— Аддзячу, абавязкова аддзячу, Іванка, — не сунімаўся гаспадар.

Вядзьмар добра выпіў, паеў, а потым заваліўся спаць. Устаў апоўначы і пытаецца ў гаспадара:

— Спіш?

— Не.

— Чаму?

— Не спіцца.

— Спі спакойна, я пра ўсё даведаюся.

— Ды сон не ідзе.

— Прыйдзе. Заплюшчы вочы і спі, а я пайду ў двор на зоркі глядзець.

Пайшоў з хаціны Іван, а гаспадароў хлапчук па малай патрэбе таксама выбраўся на падворак. Бачыць, ідзе вядзьмар да хлява. Хлопчык за ім. Вядзьмар пастаяў, пастаяў, потым падаўся ў двор да суседа і там знік.

Малы збіраўся ўжо ісці ў хаціну, але тут пачуўся незразумелы грукат з суседскага хлява. Хлапчук падумаў, што там зладзеі, і паджгаў да суседскай хаціны. Пастукаў ціхенька ў аканіцу:

— Дзядзечка!

— Хто там? — узнікла постаць у акне.

— Я.

— Што табе трэба ў такі час?

— У вас зладзеі ў хляве гаспадараць.

— Я зараз!

Праз імгненне гаспадар з сынамі, ухапіўшы тое, што трапілася пад руку, ляцелі да хлява. Адчынілі ціхенька дзверы, глядзяць, а там вядзьмар сядзіць верхам на вале і пятлю на яго шыі зацягвае.

— Што ж ты робіш, злыдзень?! — зароў чалавек.

— Я-я-я, — пачаў было той, але не паспеў дагаварыць, бо адзін з сыноў так трапануў яго цэпам па дурной галаве, што той лёпнуўся з вала ў гной носам.

Так ужо лупілі Івана, так білі, бо здагадаліся, хто людзям гэтулькі бяды ўчыніў. Малы хлапчук пабег па сваіх

бацькоў, а тыя іншых суседзяў прывялі. Вывалаклі ведзьмара ў двор і там дубасілі. Потым лінулі на яго вады. Вядзьмар адплюшчыў прыпухлае вока і, заўважыўшы многа людзей, хацеў сказаць, як на нячыстую сілу: «Ізгінь!» Ды не атрымалася, бо зубы перашкаджалі распухламу языку варочацца, і выйшла: «Ізбінь!»

## КНЯЖАЦКАЯ СЛАБАДА

Некалі над усёй гэтай зямлёй валадарыў надта багаты князь. Магутны быў валадар, усяго меў даволі. Ніякі сусед на яго вайной пайсці не асмельваўся, бо ведаў, што атрымае такі ўдар, што і да дзесятага пакалення насельніцтва вынішчыцца. Надта любіў той князь раптоўна знікаць з палаца ў невядомым нават для князёўны накірунку. Ускочыць у сядло, прысвісне на ахову і загадае коратка:

— Паскакалі!

Нясуцца вершнікі, ахоўваюць валадара, і куды скачуць — не надта дапытваюцца, ім галоўнае — загад выконваць, служба такая.

Вылецяць у чыстае поле, і валадар прамовіць:

— Што, хлопцы, разамнемся?

Гэта азначала, што ахова разам з валадаром падзеліцца на дзве роўныя палавіны і пачнецца трэніровачны бой, у час якога яны будуць павышаць сваё ратнае майстэрства. Гузакоў ды шрамаў у такіх паядынках бывала болей чым дастаткова. Сам валадар махаўся мячом, кідаў дзіду, страляў з лука, ухіляўся ад удараў, адным словам, рабіў усё тое, што і астатнія. Прытомяцца людзі, прагучаць словы валадара: «Хопіць на сёння!» — і дзе стаяць, там і пападаюць, толькі сапуць ды аддыхваюцца цяжка. Некаторыя і раны перавязваюць ды кроў выціраюць. З такіх пасмейваліся:

— Галава не круглая, таму і атрымаў!

— Нос — што капор, то і зачапілі!

— Лішні зуб вырас, то яго і вынеслі!

Не смяяліся толькі з князя — хто паважаў, а хто і баяўся.

Аднаго разу паехалі за замак, доўга там вучыліся вайсковаму майстэрству, а потым валадар запытаўся ў дружыннікаў:

— Хлопцы, а ці не паехаць нам?..

— Куды, княжа?

— На паляванне.

— Воля княжацкая для нас закон. А куды пакіруем?
— Звера ўсюды хапае.
— Гэта так, але хочацца куды-небудзь у глыб пушчы забрацца.
Толькі стары ваявода, які князя з пялёнак гадаваў і таму не надта баяўся, хмыкнуў:
— Што такое, ваявода?
— Нічога.
— Але ж я бачу, што ты нечым не задаволены.
— Якая мне радасць на тыя ловы перціся?
— То вяртайся дамоў.
— А што ў замку мне рабіць загадаеце? Там мяне князёўна пачне дапытваць, куды яе муж з'ехаў, для чаго і гэтак далей.
— Гора табе, ваявода, — падміргнуў князь воям. — Як пагляджу, мяне баішся, а яшчэ болей — маёй жонкі.
Усе зарагаталі, гыгыкнуў і ваявода, потым ціха прамовіў:
— Я ўжо лепей з вамі паеду. Якога звера вам патрымаю, каб хто з вас не прамазаў у бягучага, — зазлаваў стары. — Што вы ад мяне хочаце?
Князь адразу папярэдзіў дружыннікаў:
— Усё, хлопцы. З ваяводы болей не картуйце, а то пакрыўдзіцца і яшчэ пешкі дамоў пойдзе.
Людзі зноў зарагаталі, але весела, без злосці, таму і стары заўсміхаўся, уткнуўшыся ў конскую грыву.
— Паедзем у далёкую пушчу? — запрапанаваў нехта.
— А што, гэта ідэя, — адразу ўхапіўся валадар, — там мы даўнавата не былі.
— Гады два, калі не болей.
— А звяроў там усялякіх колькі... Спакойна ходзяць, да чалавека, не лякаючыся, ідуць.
— Бо калі яны там бачылі таго чалавека?
— І то праўда.
— Навокал толькі першастваральныя лясы, дзе нага чалавечая не ступала.
— Гайда туды, хлопцы!
— Гайда! — адгукнулася ахова.
Панеслі коні-віхуры вояў. Паімчалі дружыннікі на паляванне, каб набіць звера, праверыць, ці не дрыжыць рука, ці не зальюцца слязьмі вочы, калі выскачыць насустрач аграмадзіна тур ці зубр.
Пакуль дабраліся да месца, то ўжо надвячорак на кустоўе садзіўся.
— Што, паляваць нам сёння ўжо не выпадае?

— Трэба толькі на вячэру што падбіць — і хопіць, — азваўся ваявода.

— Слушная заўвага, — пагадзіўся валадар. — Хто тут маладзейшы? Давайце на вячэру якога звера ўпалюйце, астатнія — буданы на ноч стаўляць!

Князь не баяўся спаць і на голай зямлі, але прызвычаіўся ў любым месцы ўладкоўвацца належным чынам.

Людзі хуценька заняліся справай. Неўзабаве былі гатовы буданы, а над вогнішчам смажыўся на рожнах невялікі кабан. Перакусілі і, як заўсёды, адразу спаць не палеглі, а засталіся сядзець ля вогнішча, каб паслухаць старэйшых, а тыя, у сваю чаргу, каб парасказваць маладзейшым усялякія жыццёвыя гісторыі, якія прыключаліся з імі. Была ўжо глыбокая ноч, калі параспаўзаліся па буданах.

Восеньская ночка — не летняя, яна даўжэйшая, і людзі паспелі добра адпачыць. Усталі і пачалі рыхтавацца да палявання. Вылез і валадар са свайго будынчыка, пацягнуўся, крутнуў галавой туды-сюды і здзіўлена ўсклікнуў:

— Якая прыгожая мясціна! Нельга такое месца губляць!

— Правільна, княжа.

— Кідаем усялякае паляванне і давайце тут невялічкую вёсачку заснуём, каб потым прыязджаць сюды пастаянна.

Так і зрабілі. А потым назвалі паселішча — Княжацкая Слабада.

## РУДАКОЎ

Жыў у нас некалі Сцяпан — чалавек дасціпны ды разумны, яго заўсёды на дапамогу клікалі, калі здаралася нейкая нявыкрутка. Ён ніколі не спяшаўся. Найперш люлечку сваю закурыць, а потым ужо пытаецца:

— Што здарылася?

— Ды...

— Кажы ўжо, што прыключылася?

— Ой, бяда! Карова аб'елася і што гара ляжыць.

— Я думаў, нешта і сапраўды сур'ёзнае.

— А хіба ж гэта не гора?

— Як сказаць.

— Жывёліна ж здыхае...

— Не. Яна ўжо ходзіць.

— Як?!

— Бяжы назад ды паглядзі.

— Не жартуй, чалавеча. Мая карміцелька калі прападзе, то дзетак зімой не пракармлю.

— Не палохайся, гаспадарыку, я табе ўсю чыста праўду сказаў.

Ляціць чалавек назад, нагамі да зямлі не дакранаецца, на падворак урываецца, а там і сапраўды — кароўка ходзіць, як ні ў чым не бывала.

— Ты глядзі. Сцяпан чыстую праўду сказаў.

— Які Сцяпан? — пытаецца гаспадыня.

— Рудак.

Такую мянушку селяніну прыляпілі за тое, што рыжы ён быў, як сонца. Не крыўдзіўся на яе Сцяпан, магло нават падацца, што яна яму даспадобы.

Аднаго разу прыйшлі да гаспадара адразу некалькі чалавек сталага, паважанага ўзросту, павіталіся і прыселі побач са Сцяпанам. Селі і маўчаць. Тады селянін, пабачыўшы, што людзі ж нечага сюды дабіраліся, сам запытаўся:

— Што такое, браткі?

— Прыйшлі параіцца.

— Наконт чаго?

— Эх, тут справа надзвычай важная...

Пераглянуліся мужчыны, потым адзін і кажа:

— Ты ж, Сцяпан, нашага пана ведаеш?

— Запытайся лепей, хто таго злыдня не ведае. Вось у тым і ўся справа.

— Вы мне растлумачце крыху, бо не магу зразумець, што да чаго. Потым будзем вырашаць.

— Трэба паслаць да пана пасланца.

— То пашліце, чаго ўжо там.

— Але ж ён не слухае ніколі, адразу загадвае лупцаваць бязлітасна.

— Нічога, — прамовіў Сцяпан, зацягваючыся дымам, — скура не барабан, усё вытрымае.

— Табе смех.

— А вам што?

— Трэба ж некага да яго паслаць...

— Не ведаеце, як зрабіць? Жэрабя пацягніце. Каму выпадзе, няхай той і прэцца.

— Які ты мондры, як той паляк на смятану. У спіну каму ахвота атрымліваць?

— Не разумею тады, чаго вы да мяне прыйшлі?

— У тым уся і справа.

— У чым?

— Хочам прасіць, каб ты сам да памешчыка схадзіў.

— Я? Чаму менавіта я?

— Сцяпанка, не крыўдуй, мы доўга меркавалі і вырашылі да цябе звярнуцца, бо ты ў нас самы разумны і знойдзеш выйсце з любой сітуацыі. Там, дзе нас лупцаваць势 стануць, цябе запроста адпусцяць.

— Эге...

— Што, і ты не можаш?

— Магу, чаму ж не магу. Толькі вы мне за гэта заплаціце.

— Добра, колькі скажаш, столькі і пакладзём.

— А што я павінен нашаму пану сказаць?

— Ой, чалавеча, горкая жытка настала. У гэтым панскім падворку бяда за бядой: згарэла палова пабудоў, жывёла падохла, пані з кухарам, кажуць, нібы жонка з мужам спіць.

— Толькі гэта і перадаць?

— Хопіць. Каб і гэтае паспеў вымавіць. Глядзі, братка, калі што якое, то лепей уцякай, беражыся!

— Гэта ўжо мая справа. Сёння адпачну на дарогу, а заўтра раніцай пайду.

Дачакаўся Сцяпан раніцы і пайшоў, з сабой прыхапіўшы толькі люлечку-неразлучніцу ды кавалак хлеба, каб перакусіць у дарозе. Да таго палаца, другога, праставаць было не так і блізка — вёрст дваццаць. Пакуль чалавек дабраўся, то і ўпарыўся. Прысеў адпачыць на панскім падворку. Сядзіць спакойна, люлечку курыць і пад ногі сабе сплёўвае. Ажно вылецеў панскі лёкай і да яго:

— Чаго тут рассеўся, дурань?

Сцяпан адказаў, галавы не паварочваючы:

— Вось што значыцца чалавек адукаваны, [redacted] ў яго і не пытаюся, [redacted] ён сам сябе называе.

— Па якой ты тут патрэбе? — ужо цішэй пачаў панскі слуга.

— Па вялікай. Пана кліч, гаварыць з ім буду!

Пабег лёкай у палац і неўзабаве вывеў памешчыка. Той загарлаў адразу:

— Што такое?

— Бяда, пане, ліхая.

— А больш падрабязна можаш?

— Палаца амаль няма.

— Як гэта?

— Вельмі проста.

— А дзе ж ён дзеўся?

— Напалову выгарэў.

— Калі?

— Нядаўна, тыдні тры таму.

— Ад чаго?

— Ад пажару.

— А пажар як здарыўся?

— Пані вінавата.

— Пані?

— Ага, яна з кухарам спаць легла, а свечку не патушылі. Тузаліся, катурхаліся ў ложку і запалілі бялізну. Пакуль ачомаліся, то самі голыя ледзьве выскачылі.

— Голыя?

— Ага, у чым маці нарадзіла. Людзі кажуць, што ў пані хлопчык будзе. Лысы, як той кухар.

Пан так і ляснуўся на азадак пасярод двара, а Сцёпка сабраўся і пайшоў дамоў. Услед яму данеслася:

— А ты чый?

— Рудакоў, — прамовіў селянін і паскорыў крок.

Так і пайшла наша вёска — Рудакоў, ад таго хітрага чалавека ды ад яго падворка.



# ЧАЧЭРСК

Здарылася гэта гісторыя падчас аднаго падарожжа. Можа, нават і нельга яго назваць падарожжам, але, тым не меней, плылі па невядомай рачулцы людзі, сядзелі ўперамежку з грабцамі воі, і лілася над неабжытымі прасторамі дзівосная песня:

— Едзь, едзь, Ванечка,
Бо ў цябе конік чужы, не свой,
Начаваць будзеш ночку ў дарозе,
Прывязаўшы коніка к бярозе.

— Бяроза ж ты мая белая,
Галоўка ж ты мая бедная,
Хто ж майго коніка напасе,
Да новай стаенкі завядзе?

Адазвалася дзеўчына ў саду:
— Я твайго коніка напасу.
Мы ж яму аброку-пшаніцы,
Мы ж яму вадзіцы з крыніцы.

Лунала песня над вадой, над кустамі ды прыбярэжнымі пушчамі-барамі.

А прабіраўся па тутэйшых мясцінах багаты князь. Ехаў-плыў з аховай моцнай, са слугамі шматлікімі і, што самае галоўнае, з дачкой-прыгажуняй Марылькай. Вырасла яна,

распусцілася, што тая рабінка пад акном, і сталі да яе розныя жаніхі-сваты ездзіць, адбою ад іх не было. Плакала дзяўчына, да бацькі звяртаючыся:

— Татка, надакучыла мне ўсё гэта.

— Нічога не зробіш, дачушка, такі дзявочы лёс.

— Ва ўсіх? Ой, як мне гэта надакучыла!

— Не перажывай надта, супакойся. Прыйдзе твая часіна, спадабаецца табе хлапчына, і тады сама ўжо будзеш у мяне прасіцца, каб аддаў цябе замуж.

— Не, не будзе такога, — упарта сцвярджала князёўна.

— Будзе, ды, мабыць, ужо ў хуткім часе.

— Адкуль ты ведаеш?

— З жыцця, дачушка.

— Хочацца схавацца ад людзей, пабыць адной, каб ніхто не перашкаджаў, не парушаў цішыню.

— Ранавата ты захацела ад людзей схавацца.

— Татачка, родненькі, пашкадуй мяне ды загадай завезці ў які палац, каб слуг там было мала, каб не хадзіў, не назаляў ніхто чужы. Гэтыя багачы ды князі, паны ды падпанкі намазолілі мне вочы. Спаць ужо спакойна не магу, прачынаюся на ноч па некалькі разоў. Усё здаецца, што вязуць мяне некуды з роднага дому.

— Вось такія сны, дачушка, і сняцца звычайна перад вяселлем.

— Не ўсе сны, татка, збываюцца.

— Так, але рана ці позна такое адбываецца ў жыцці. А зараз не хвалюйся, ідзі сабе ды паляжы ці пахадзі па лузе, з пакаёўкамі пагуляйся.

— У тых пакаёўках не маю патрэбы.

— Чаму?

— У іх жа толькі і размоў — што пра жаніхоў.

— А ты думала, у жанчын нейкія іншыя інтарэсы ёсць? Супакойся. Як ты ні круці, а ад уласнага лёсу не ўцячэш, не схаваешся, прыйдзе часіна — і сама адчуеш, што замуж цягне.

— Не цягне мяне нікуды, — прамовіла князёўна.

— Эх, Марылька мая, — ласкава прамовіў князь, — дарослай стала, [redacted] дзіцём засталася.

— Як гэта?

— Потым зразумееш, а зараз ідзі, адпачывай.

Пайшла дзяўчына, [redacted] князь задумаўся. І сапраўды атрымлівалася, што ніякага спакою дачцэ не было — там тыя круцяцца, там гэтыя свайго дамагаюцца. Вось бы прыдумаць ёй добры адпачынак. Але як ні меркаваў валадар,

нічога ў яго не атрымлівалася. Вырашыў тады паклікаць свайго пастаяннага дарадчыка — садоўніка. Маладым яго ўзяў на службу яшчэ князяў бацька, і вось да гэтага дня чалавек спраўна выконваў свае абавязкі.

Ля дзвярэй, ахоўваючы князя і на выпадак, што таму захочацца тэрмінова некага паклікаць, стаяў дружыннік. Валадар падміргнуў яму:

— Што, братка, стаіш?

— Стаю, княжа.

— Не сумна?

— Сумна.

— То чаму ж не шукаеш іншага занятку?

— Такая мая служба, княжа, і яе трэба несці спраўна.

— Зразумела. Колькі ж табе гадоў, хлапчына?

— Ужо дваццаць.

— Так мала?

— А мне здаецца, што ўжо многае ў жыцці пабачыў за свае гады.

— Якія яны, твае гады? Малады зусім, — сказаў князь, а сам падумаў, як хараша разважае чалавек, няхай сабе і малады, як сумленна выконвае свой абавязак. Усміхнуўся яшчэ раз, на здаравяка-дружынніка гледзячы, і прамовіў:

— Пакліч, братка, да мяне садоўніка.

Вой павярнуўся і затупацеў уніз па лесвіцы, якая вяла на падворак. Гаспадар застаўся адзін і нецярпліва барабаніў пальцамі па моцным дубовым стале. Нарэшце пачуліся крокі і з-за дзвярэй выслізнула невысокая постаць сухенькага чалавечка.

— Хадзі сюды, браце, — пазваў князь.

— Нешта здарылася?

— Ды не, хачу параіцца.

— Адносна чаго?

— Дачка пастаянна гаворыць, што стамілася, пры палацы седзячы, што нідзе не бывае, што надакучылі ёй жаніхі ды сваты.

— Ясная справа.

— Чаго ты ўсміхаешся?

— Бо не пабачыла яна яшчэ свайго любага. Калі пабачыць, то сум той нібы рукой здыме.

— А як мне яго зараз развеяць?

— Давай, княжа, разам падумаем.

Селі два чалавекі, нібы сябрукі, і паціху размаўлялі, а ля дзвярэй, маўкліва на іх пазіраючы, узвышаўся здаравенны дружыннік.

Пра што толькі ні перагаварылі князь з садоўнікам,

якія толькі варыянты ні падбіралі, а рады не далі. Потым садоўнік ускінуўся:

— Прыдумаў!

— Ну?

— Княжа, усё вельмі проста. Вазьмі дачку ды правязі па сваіх уладаннях. Яна ж ніколі ў такім падарожжы не была. Перамена месца, перамена настрою...

— Гэта добрая думка.

— І вось яшчэ што, княжа. Вазьмі і мяне з сабой.

— І табе сумна стала, у садзе займаючыся?

— А што, памочніка сабе я падрыхтаваў, ён будзе сачыць за дрэвамі. Я ж таксама нідзе не быў, то хоць перад смерцю пагляджу, якія там іншыя землі, чым ад нашых адрозніваюцца.

— Вазьму, ці ж мне шкада?

— То, княжа, дамовіліся. Цяпер толькі скажы, на які дзень збірацца?

— Марудзіць не станем. Два дні на зборы — і рушым у дарогу.

— Яшчэ вось, княжа, што.

— Ну?

— Трэба наперад маршрут вызначыць, каб потым з боку ў бок не кідацца.

— І то праўда.

— Значна лягчэй будзе па вадзе плыць. Рэчкі ж адна ў адну ўпадаюць, і перашкод значных у гэтым плане не будзе. А калі коньмі ехаць, то, па-першае, дарог добрых няма, а па-другое, князёўна так стоміцца за пару дзён, што загарлае, каб яе назад везлі.

— І гэта чыстая праўда. Ідзі, адпачывай, рыхтуйся, а праз два дні, з самае раніцы, паплывём.

Садоўнік, пажадаўшы валадару спакойнай ночы, выйшаў за дзверы, а валадар, задаволена ўсміхнуўшыся, прагаварыў, да ахоўніка звяртаючыся:

— Бачыш, як удваіх з такім складаным пытаннем разабраліся?

— Бачыў і чуў, княжа.

— Ну і як?

— Чужы край — ён заўсёды цікавы, але свой намнога мілейшы.

Зноў здзівіўся князь, як хораша хлапчына разважаў.

Раніцай усе ў палацы ўжо ведалі, што трэба збірацца ў падарожжа, а праз два дні князь выйшаў, апрануты папаходнаму. Поруч з ім стаяла князёўна.

— Ну, дачакалася ты, дачушка, свайго.

— Загадвай хутчэй выязджаць, бо карціць пабачыць тыя землі, якія людзі там жывуць.

Князь зірнуў на начальніка аховы, на садоўніка, якія стаялі і пра нешта ціхенька паміж сабой гаманілі, і махнуў ім рукой. Праз імгненне загучала каманда:

— Усім садзіцца па чаўнах! Займаць месцы — і адплываем!

Людзі весела, штурхаючыся, кінуліся да чаўноў, каб паспець заняць зручныя месцы, бо былі папярэджаны, што падарожжа працягнецца не адзін і не два дні, а, магчыма, пару месяцаў. За такі час і ў чоўне сядзець надакучыць.

Плылі не спяшаючыся, бо не ваяваць выбраўся князь са світай, а адпачыць. Таму лавілі вецер у парусы і тады, калі неўтаймаваная стыхія сама, па сваёй добрай волі, несла чаўны, людзі спявалі, адпачывалі, распавядалі ўсе магчымыя гісторыі.

Марылька спачатку месца сабе не знаходзіла — туды кідалася, сюды бегла, каб і там паспець, і там паглядзець ці паслухаць. Князь пасмейваўся:

— Ну, тут ужо да цябе сваты не прылепяцца.

— Ат, татка, — адмахвалася дзяўчына. — Каму што.

Аднаго разу, калі князь збіраўся спаць, на носе чоўна стаяў у начной ахове той самы малады дружыннік.

— Ну як ты, братка? — запытаўся ў яго валадар.

— Усё добра, княжа.

— Цікава?

— Цікава.

— То і выдатна. Ахоўвай мяне, а ■ спаць буду.

— Дабранач, княжа, — прамовіў дружыннік і ўважліва, на ўсялякі выпадак, азірнуўся.

Прачнуўся князь, пацягнуўся — ажно косці хруснулі — і штурхнуў садоўніка, які соладка спаў побач:

— Сонейка ўстала і нас падняла!

Той таксама прадзіраў вочы. Валадар глянуў туды, дзе павінна была спаць Марылька, але яе не было. Усхапіўся валадар.

— Што, княжа? — запытаўся садоўнік.

— Дачкі няма.

— Во, згубіў, — папракнуў дзедка. — Не палохайся, тут яна нікуды не схаваецца.

— Але ж няма...

Князь адкінуў полак і зірнуў на палубу. Тое, што ён убачыў, выклікала ўсмешку: дачка была на носе чоўна, і не адна. Поруч стаяў той самы здаравенны дружыннік і весела нешта расказваў дзяўчыне.

— Мы спалі, княжа, а некаму ж трэба і сон наш ахоўваць? — жартаўліва шапнуў садоўнік.

— Твая праўда, братка.

— Няхай пагамоняць. Ім ёсць пра што.

Селі князь з садоўнікам снедаць, а валадара думка не пакідала, што, мабыць, спадабаўся гэты вой Марыльцы, калі і спаць на ноч не пайшла, з ім засталася. Падумаў, але ўголас нічога не прамовіў, ды садоўнік і так здагадаўся.

— Відаць, княжа, дачка болей не будзе сумаваць?

— Хто ж яго ведае...

— Як галубкі вуркочуць.

— А хіба мы іншымі былі? Сіла была, адвага, хацелася і нам перад прыгажунямі красавацца. Адгулялі мы сваё...

— Нічога, жыццё ідзе, яно ўсё забірае і перастаўляе, аднаўляе і ачышчае. У яго свае законы.

— А ў людзей свае.

Старыя сядзелі — сабе размаўлялі, а маладыя — сабе. Дружынніка ўжо даўно змянілі, але ён не ішоў адпачываць, так спадабалася Марылька. Калі б дзяўчына сядзела з якім іншым воем, то князь, магчыма, і прагнаў бы яе ці паклікаў, але гэты хлапчына і яму падабаўся. Прыгадаў свае маладыя гады, калі разам з простымі дружыннікамі ў паходах на голай зямлі спаў, колькі разоў яны яго ад вернай смерці выратоўвалі, і падумаў, што не стане Марыльцы нічога гаварыць, каго сама абярэ, хай з тым і лёс свой звязвае, каб потым не крыўдавала на бацьку.

— Добра ім, — прашаптаў садоўнік.

— Зайздросціш?

— Ведама што. Яны ж маладыя, здаровыя, а я? Сваё ўжо аджыў.

— Яны яшчэ нічога не бачылі.

— Так, у іх усё наперадзе.

— Дай Бог, каб добра склалася. Дзецям заўсёды шчасця хочацца.

Прыціхлі старыя, і тут да іх выразна данеслася:

— Глядзі, Марылька, якая рачулка.

— Ага, прыгожанькая.

— Не тое слова — непаўторная.

— Як цяцерка, — прамовіла князёўна.

Князь паўтарыў:

— Як цяцерка.

Так тая рэчка Цяцерай, а пазней Чачэрай і стала. Калі людзі па яе берагах аселі, то паселішча сваё назвалі Чачэрскам, ад той рачулкі.

# ЗАЛЕССЕ

Некалі жыў у нас мужык адзін. Звалі яго Саўка. Чалавек сабе быў як чалавек, нікога не крыўдзіў, але і сябе ў крыўду не даваў. Як убачыць, што нехта на яго рот разявіў, ці пачуе крыўднае у адносінах да сябе слова, то адразу ж прапаноўваў крыўдзіцелю памахацца на кулачках. Але жадаючых чамусьці не знаходзілася. Можа, таму, што кулачкі ў яго былі, як сярэдняй велічыні гарбузы, а можа, і таму, што да крыўдзіцеляў гаспадар быў бязлітасны.

Пра гэтага вяскоўца гаварылі, што ён нават самога чорта не баіцца, бо адзін раз, маўляў, як спаткаўся Саўка з нячысцікам, то так таго адпэндзіў, што чорт не ведаў куды ўцякаць. Сам чалавек толькі пасміхваўся і прымаўляў:

— Хто ж яго ведае.

— Няўжо не памятаеш, было ці не такое?

— Ды як вам сказаць...

— А прама скажы, не выкручвайся.

— Некалі сустрэўся я з нячысцікам.

— Дзе?

— На балоце.

— А што ты там рабіў?

— Лыка драў.

— Вясной?

— Ведама ж, зімой лыка не дзяруць.

— Чаму не, — зарагатаў нехта з вяскоўцаў, — ёсць такія, што гэтую справу і зімой выконваць могуць.

— Дык што далей было?

— Запрацаваўся я і не пачуў, як ззаду да мяне нехта падышоў.

— Чорт?

— Ды не, ладны такі паніч. Прыгожы, фарсісты, здавалася, што толькі з багатага палаца вылез.

— Але ж ты гаварыў — чорт...

— Гэта і быў нячысцік.

— І што ж ты зрабіў?

— А нічога.

— Зусім?

— Ну, не зусім, крыху папрацаваў.

— Якім манерам?

— Выразаў ладны кій ды як стаў таго паніча лупцаваць, толькі водгулле па балоце ляцела. Крычаў ён не сваім голасам.

— Яшчэ б!

— Ён бегае вакол куста, а я за ім!
— У даганялкі гулялі?
— Ага, толькі ён уцякаў, а я даганяў і яшчэ крыху яму хаду прыспешваў.
— Кіем можна любога падагнаць.
— Нават калі ён і не надта жадае.
— То, кажаш, крычаў?
— Не сваім голасам, браткі, вішчаў!
— І як жа ён ад цябе ўцёк?
— Ды зачапіўся я за купіну і гупнуўся праз яе потырч прама ў балаціну. Вочы заляпіла, гразь не толькі ў вочы, але і ў вушы трапіла. Пакуль [redacted] ўсё ачысціў, то нячысцік плетануў напрамкі.
Сяляне прыціхлі, а потым нехта, нечакана для астатніх, запытаўся:
— Саўка! А гэта дакладна нячысцік быў?
— А што?
— Можа, гэта і на самай справе не чорт, а паніч быў?
Усе прыціхлі, чакаючы, што будзе далей. Саўка хітравата прыжмурыўся, сплюнуў пад ногі і прамовіў:
— Адзін чорт — што нячысцік, што пан!
— І то праўда!
— Атрымаў, то хай будзе задаволены, што жывым застаўся.
— Ну, за гэта яму цябе няма чаго дзякаваць.
— Чаму?
— Ён жа сам умудрыўся ўцячы!
— Гэта правільна.
— А ты хоць бачыў, у якім накірунку твой хрышчонік плетануў?
— У залессе, браткі, у залессе.
З таго выпадку стаў Саўка, калі да яго звярталіся надзвычай цікаўныя вяскоўцы, адказваць усім аднолькава. Тыя пыталіся:
— Саўка, дзе ты быў?
А ён ім, не задумваючыся:
— У залессі лазіў.
Зразумей тут чалавека, праўду ён гаворыць ці насміхаецца.
Але аказалася, што тыя чэрці ці панічы, роднага брата якіх Саўка па-свойму правучыў, таксама не забыліся таго выпадку. Вырашылі адпомсціць ганарліваму селяніну. Усё зручны выпадак падбіралі, каб адзін ён аказаўся, каб сведка паблізу не было, і дачакаліся.

Паехаў Саўка па сена. І трэба ж было здарыцца, што менавіта на тое балота, дзе не вельмі даўно таго незнаёмца лупцаваў. Падганяў коніка і песню ва ўвесь голас свой зычны спяваў. Не здагадваўся нават чалавек, што за сустрэчу рыхтавалі яму балотныя жыхары. Каб яго папярэдзіў хто, то і ён падрыхтаваўся б, ■ так ехаў сабе спакойна. Неўзабаве ўбачыў свой стог і скіраваў да яго коніка. Пад'ехаў, распрог коніка і давай сена на сані ўкладваць. Нялёгкая гэта справа. Трэба ж акуратна ўкласці, увязаць, каб па дарозе не рассыпалася, бо тады людзі засмяюць. Узапрэў добра, таму скінуў кажух і застаўся ў світцы, ад якой ажно пар ішоў. Працуе, па баках і не азіраецца. Потым нешта як падкінула. Акінуўся ён і ажно аслупянеў: вакол стога стаяла гэтулькі чарцей, ды ўсе ў выглядзе панічоў, што і палічыць немагчыма было.

— Вы чаго тут сабраліся? — запытаўся Саўка, а сам ліхаманкава шукаў выйсце з сітуацыі.

— Табе помсціць будзем!

— За каго?

— За мяне! — выступіў наперад той самы паніч-чорт, якога ён добра пачаставаў пры першай сустрэчы.

— А, гэта ты? То сцеражыцеся!

— Цяпер ты сцеражыся! — пагрозліва завішчалі чэрці і кінуліся да Саўкі.

Але той як развярнуўся, як махнуў віламі ды як пера-цягнуў імі адразу некалькіх чарцей, то тыя і з ног пападалі. А селянін разышоўся, б'е і прыгаворвае:

— У залессе ўцякайце! У залессе!

Як ні хацелі чэрці яму адпомсціць, а нічога добрага не атрымалася, давялося ім уцякаць. Джгнулі, толькі іх і бачылі. А тое месца людзі жартам так і празвалі — Залессе.

## МАЛЫНІЧЫ

У даўнія часы цяжкавата людзям жылося, таму кожны шукаў нейкі спосаб, як падзарабіць грошай у гаспадарку. Некаторыя ехалі і наймаліся сплаўляць лес, некаторыя — грузы ўсялякія коньмі перавозілі на даволі значныя адлегласці, а невялікая колькасць местачкоўцаў заставалася ўвесь час на месцы. І не таму, што былі лайдакамі. Проста гэтыя сяляне мелі магчымасць падзарабляць сваёй будзённай працай, бо далёка не ўсе ад нараджэння былі майстравітыя ды кемлівыя. Пра такіх самародкаў звычай-

на гаварылі: «З пяску грошы ўмее зрабіць», ці: «З вады золата ў сундукі набівае», «Не ён на лес, а лес на яго моліцца».

Азначалі такія словы, што гэтыя людзі правільна выкарыстоўвалі прыродныя карысныя выкапні ды стыхійныя сілы, а іменна: ляпілі гаршкі, рабілі млыны і малолі муку, вельмі ўдала і хвацка выраблялі з дрэва ўсялякія будыніны, не забыўшыся пры гэтым упрыгожыць іх адмысловай разьбой. Але, паўторымся, такіх адмысловых майстроў было вельмі мала, і іх ведалі далёка па наваколлі.

У нас таксама жыў такі майстра. Звалі яго Максім. Вяскоўцы гаманілі, што ў гэтага чалавека рукі і талент ад Бога. За што ні возьмецца, то так адштукуе, што, як ні старайся знайсці нейкі хіб — ніколі не адшукаеш. Усё ўмеў чалавек. Што ўбачыць, тое і зробіць, прычым не такое, якое бачыў, а намнога лепшае, каб не казалі, што ў некага там пераняў ці запазычыў.

Аднаго разу быў Максім на кірмашы і ўбачыў там чалавека, які вельмі спрытна маляваў абразы. Спадабаўся гэты занятак селяніну, цэлы дзень стаяў і глядзеў, як працаваў незнаёмец. Адыходзячы ўжо дамоў, прамовіў:

— А я лепшы абраз намалюю!

— Ты? — здзівіўся той маляр ці мастак.

— Я.

— Паспрабуй.

— Паспрабую, а ты прыйдзі дні праз тры, паглядзім.

— Добра, толькі скажы, дзе цябе шукаць?

Максім сказаў і пайшоў дамоў. Раніцай сеў маляваць святога. Спачатку не надта атрымлівалася, але калі набіў крыху руку, то справа пайшла добра. Цяпер ён ужо і сам быў зацікаўлены ў тым, каб зрабіць не звычайны абраз, а такі, якога яшчэ не было. Двое сутак шчыраваў вясковец, а на трэція прыйшоў да яго той чалавек, што маляваў на кірмашы. Як убачыў ён абраз, то і прысеў перад ім на коленцы.

— Да чаго ж прыгожа...

Можа, і не хацеў так сказаць, але само па сабе вырвалася:

— Як жа табе такое ўдалося?

Максім і сам не ведаў, што адказаць, але нешта ж трэба было гаварыць, таму сказаў першае, што прыйшло ў галаву:

— Сон прарочы мне прысніўся. Што ў сне ўбачыў, тое і намаляваў.

Незнаёмец, мабыць, забыўшыся, што стаіць на каленях, нешта параўноўваў, вымяраў, прыглядваўся, і потым зусім нечакана запытаўся:

— А як жа твая праца называецца?
— Што?..
— Абраз каму прысвечаны?
— Не зразумеў.
— У гонар каго ты яго напісаў?
— У гонар каго?..
— Ну, ад чаго абраз гэты павінен засцерагаць, разумееш?

Тут ужо Максіму трэба было добра напрэгчыся, каб неяк выкруціцца:

— Гэта, значыцца, так было... Калісьці ў нас тут гарэла балота. Моцна гарэла. Усё навокал выгарэла, засталася толькі адна купіна. Калі раніцай да яе падышлі людзі, то ўбачылі на ёй дзівоснай прыгажосці жанчыну, якая расплятала сваю залацістую касу. Толькі хацелі прыгажуню пакратаць, як яна імгненна знікла. Пазней сталі гаварыць, што гэта была сама Божая маці. Яе і вырашыў намаляваць на сваім абразе.

— А як гэты абраз трэба выкарыстоўваць?

— Калі, не дай Божа, надарыцца пажар, то гэты абраз трэба ўзяць у рукі і тры разы абысці вакол таго месца. Прычым трэба, каб гэта зрабіў самы старэйшы ў вёсцы чалавек.

— Зразумела, а што ж далей?

— Той чалавек ідзе з абразом у руках і прамаўляе наступныя словы: «Айцец Гардзей, агнём не ўладзей, падыміся ў гару, апусціся ў зямлю, не пускай агня цераз мяжу». Агонь адразу і затухне.

— Цяпер мне ўсё зразумела. А як абраз твой называецца?

— Купіна неапалімая, — адказаў крыху збянтэжаны Максім.

— Для такога абраза абавязкова трэба пабудаваць царкву, бо не справа гэта такую прыгажосць у простай хаціне захоўваць.

— Я і сам ужо над гэтым думаў. Пачну людзей прасіць, каб дапамагалі, і возьмемся за царкву.

Развіталіся яны, і незнаёмец пайшоў, а Максім задумаўся. Быў ён чалавекам слова — калі нешта паабяцаў, то абавязкова выканае.

На другі дзень паклікаў людзей і ўзяліся царкву будаваць. Цэлы год шчыравалі, але такую вырабілі, што ў наваколлі падобнай не было. Усе ішлі на царкву, як на цуд які, паглядзець. Ды недзе праз пару гадоў здарылася няш-

часце. Нехта ноччу залез у царкву, каб абрабаваць яе, і выпадкова закрануў абраз, які стаяў пасярод будынка на стале. Да раніцы царква пайшла пад зямлю, а на яе месцы засталася невялічкая лагчынка.

Балюча перажываў гэты выпадак Максім. Ён жа хацеў, каб дзейнасць яго засталася сярод людзей. Доўга думаў — ніяк прыдумаць не мог. Нарэшце ўсміхнуўся:

— А я млын зраблю. Вялікі, ва ўсім наваколлі такога не будзе!

І што ж вы думаеце? Зрабіў. Толькі сюды везлі местачкоўцы малоць сваё збожжа. Гаспадар заможным стаў, ажаніўся, сям'я павялічылася, і зажылі яны ўсе шчасліва ды мірна. Ніколі не сварыліся муж з жонкай, не лаяліся, ніхто ад іх слова благога не чуў.

Мясціну тую, дзе млын стаяў, назвалі Млынічы, але некаторым лягчэй было прамаўляць — Малынічы, ды так і засталося на доўгія часы.

## ПОКАЦЬ

Некалі людзі разным багам пакланяліся, каму хацелі, таму і маліліся. Але гэта толькі па першым часе, потым усё перамянілася, прычым у адмоўны бок. Сталі іх праследаваць служкі адзінай, хрысціянскай, веры. Бязлітасна каралі, сем'ямі вынішчалі, нікога ў жывых не пакідалі. Але як ні лютавалі прыхільнікі новай веры, людзі тыя ўсё роўна пакланяліся сваім багам і хрысціліся па-свойму. Іх у нас называлі староверамі. Яны ўцякалі з Расіі ў ваколіцы Веткі і тут сяліліся. Не было тут царскіх чыноўнікаў, не існавала рэлігійных праследаванняў, адсутнічала непрыязь з боку тутэйшых жыхароў. Добры чалавек — жыві. З цягам часу назбіралася тых стараверaў надта многа. Старыя людзі гаварылі, што больш за сто тысяч. Тады ўжо сама імператрыца расійская паслала войска вялікае, каб іх назад, у Расію, вярнулі ды знішчылі Ветку, сцерлі яе з твару зямлі.

Пайшлі салдацкія палкі загад выконваць. Доўга дабіраліся да глухога надсожскага краю і нечакана зваліліся на бяспечных старавераў. Вось дзе дзікіх расправ было! Цягнуліся да неба дымы пажараў, енчылі тысячы палонных, якіх катавалі ды марылі голадам. Праўда, не ўсе стараверы пакорна ў палон ішлі. Часцей за ўсё — былыя казакі, якія добра ведалі, што такое воля, а што такое па-

лон, няхай сабе і царскі. Біліся яны не на жыццё, а на смерць.

У адной такой вёсачцы, якая не так і даўно ўзнікла на беларускай зямлі, старастай быў Пакатцоў. Ён уцёк з Расіі ад ліхога памешчыка і асеў тут. Потым да яго далучыліся іншыя людзі. Весела жылі, бо ніякага пана над сабой не мелі.

Пра страшную навіну даведаліся папярэдне. Прыскакаў да іх вершнік з суседняга паселішча. Толькі і паспеў прашаптаць:

— Бяда.

— Што здарылася? — кінуліся да яго самыя жвавыя вяскоўцы.

— Салдаты.

Прашаптаў і сканаў, бо пасечаны моцна быў хлапчына.

Пакатцоў запытаўся:

— Ну, што рабіць будзем?

— Уцякаць далей трэба. Няма чаго тут сядзець, бо дачакаемся на сваю галаву.

— Тады збірацца час. Браць самае неабходнае. Маладзейшыя жанчыны і падлеткі разам са старымі няхай жывёлу гоняць у глухую мясціну, а мужчыны хатняе дабро дзе папрыкопваюць, дзе прыхаваюць, і тады рушым.

Людзі хуценька паджгалі ў розных накірунках, трэба было рабіць усё тэрмінова. Пакатцоў, як чалавек бывалы, сцяміў, што да чаго, і паслаў разведчыкаў наперад, каб не наляцець усім жыхарам прама на салдат, якія маглі схавацца дзесьці паблізу.

Так і здарылася. Жанчыны з падлеткамі пагналі статак, а на ўзмыленых конях падляцелі разведчыкі:

— Салдаты!

— Дзе?

— Крадуцца па кустоўі да вёскі.

— Далёка?

— Вярсты паўтары будзе.

— Навучылі іх, баяцца ў адкрытую лазіць. Мужчынам заняць абарону і рыхтавацца сустрэць непажаданых гасцей!

Марудна цягнуліся хвіліны чакання. Вяскоўцы ўсё пазіралі на старасту, кожнаму здавалася, што бяда абміне іхнюю вёску.

Толькі дарма спадзяваліся.

Калі салдаты былі за некалькі дзесяткаў крокаў ад засады, прагучаў залп, і быў ён для нападаючых настолькі не-

чаканым, што яны нават не спыніліся на месцы, а адразу кінуліся ўцякаць.

— Во ляцяць, як зайцы!

— Прывыклі, што ад іх уцякаюць, а тут і самім бегаць давядзецца!

Але стараста не даў надта доўга смяяцца:

— Пакуль яны ачомаюцца і падрыхтуюцца да сапраўднага наступу, самы час нам выслізнуць адсюль.

Так і зрабілі — непрыкметна пакінулі месца засады.

Людзі пайшлі за сваімі. Знайшлі глухі куточак і сталі там жыць. Неўзабаве Пакатцоў памёр, але невялічкая рачулка і паселішча называюцца да гэтага часу — Покаць.

Ёсць і другое паданне, паводле якога вынікае, што жыў у адной з вёсак надзвычай спрактыкаваны плытагон Покат. Пражыў ён на белым свеце ні многа ні мала — 115 гадоў. Ведаў усё навокал, ■ тым болей рэчкі і рачулкі, па якіх сотні разоў плыты ганяў. Таму, калі памёр гэты чалавек, то людзі ягоным імем назвалі хутар, які з часам стаў вёскай Покаць.

## САПОЖКІ

Жыў у адной вёсцы чалавек. І звалі таго селяніна Мікітам. Таленавіты быў надзвычай, але паводзін надта непрадказальных. Паслала яго жонка неяк на кірмаш, каб купіў што, і чакае, што павінен жа гаспадар дамоў да вечара прыйсці, тым болей што за драбязой адправіўся. Але чакала, чакала, вочы прагледзела, ■ Мікіты ўсё не было. Плюнула яна тады са злосці і прамовіла:

— Зноў некуды чэрці панеслі!

Пайшла займацца па гаспадарцы. Корпаецца і пастаянна мужа згадвае:

— Даскачашся ты ў мяне сёння!

Крутнецца раз-другі і зноў:

— Атрымаеш ужо ты ў мяне на арэхі! Недзе ж лазіць дагэтуль?..

Потым акінулася да свайго старэйшага сыночка:

— Пятрок?

— Што, мамка?

— Збегай, сынку, на дарогу ды паглядзі, ці не ідзе там наш бацька?

Адмаўляўся хлапчаня, бо не надта яму хацелася перціся

на тую дарогу, калі можна і ў хаціне спакойна пагуляцца. Але, пачуўшы пра абяцанне атрымаць за гэта яйка, джгаў на тую дарогу, толькі пяткі мільгацелі. А гаспадыня за сваё бралася:

— Ну, ты ў мяне даскачашся! Даведаешся, па чым фунт ліха! Гэта ж ад самае раніцы прапаў недзе?! І справы яму ніякай няма!

Але тут у хацінку ўляцеў Пятрок:

— Мамка!

— Ну, што там? Гавары, хутчэй!

— Татка ідзе!

— Далёка?

— Ды не, ужо з дубам параўнаўся.

Гаспадыня ўздыхнула:

— Значыцца, зараз прысунецца.

Малы не адыходзіў ад матулі, чакаючы абяцанага яйка, але тая прыкрыкнула на яго:

— А мой жа ты міленькі! А ці ж хопіць у мяне на ўсіх яек, калі я буду іх раздаваць толькі за тое, што нехта на дарогу збегае?

— Але ж...

— Замаўчы, бо даскачашся ў мяне!

— Мамка...

— Схавайся лепей, пакуль у азадак не атрымаў!

— Болей ніколі цябе не паслухаюся.

— Толькі паспрабуй!

Відаць, гаспадыня яшчэ крычала б на малога, але тут да яе слыху ўжо выразна данеслася песня, якую спяваў не хто іншы, як яе гаспадар:

Дзе ты, хмелю, быў,
Дзе ты павіваўся?
Дзе ты, хмелю, рос?
— Я у садзе быў,
Я у садзе рос,
Я на тын пахіліўся.

Дзе, малойчык, быў,
Чаму позна жаніўся?
— Я ў войску быў,
Я там служыў,
Таму прыпазніўся.

Жанчына пляснула рукамі:

— Ну, во, пляцецца! Зараз я яму пакажу!

Але гаспадар выдатна вывучыў нораў жонкі, таму не

надта спяшаўся ў хаціну, быццам бы спецыяльна даючы ёй магчымасць выказацца. Даспяваў адну песню, пачаў другую. Гаспадыня тады не вытрымала і загадала:

— Хадзі сюды!

Мікіта зрабіў выгляд, што не чуе. Але і жанчына не адступалася:

— Каму сказала?!

— Гэта ты мяне? — данеслася з вуліцы.

— А то каго ж?!

— Іду, іду, маё золатца, і не проста іду, а на крылах лячу.

— Ага, ад самае раніцы ляціш! — не сунімалася жонка.

— Я ж табе нешта купіў, дурніца!

Жанчына адразу абмякла:

— Што?

— Сапожкі, ды такія, што і пані ніколі не насіла.

Гаспадыня выскачыла на падворак:

— Дзе яны?

— Во.

Зірнула, ■ муж працягваў ёй два бярозавыя палены.

— Глядзі, якія прыгожыя!

— Каб жа ты смалы, гад, напіўся! — толькі і прамовіла.

Раніцай муж ніяк не мог дацяміць:

— Слухай, а куды тыя сапожкі падзеліся?

— Якія?

— Што я купіў.

— Ты ж дровы прывалок.

— Не, ■ ў паніча сапожкі купляў.

— А дзе гэта было?

— Ля балота.

— Дурань, гэта ж цябе чэрці падманулі.

Вось так Мікіта трапіў у гісторыю. А тое месца, дзе яму нячысцік два палены прадаў, як пару сапожак, так і празвалі — Сапожкі.

## СЫЧАЎКА

Даўней у нас тут прыгожыя мясціны былі, жыві ды любуйся імі. Толькі сялянам працы заўсёды хапала. Калі і выпадала вольная хвіліна, то трэба было меркаваць, што рабіць у бліжэйшы час, як выкруціцца ад падаткаў, ад неўраджаю ці ад яшчэ якой іншай пошасці. Тым не меней людзі ніколі не забываліся павесяліцца. Іншая справа — як

ужо гэта ўдавалася. Спявалі ўсюды, нават выконваючы цяжкую, аднастайную працу, ад якой млела ўсё цела і ў галаве пад вечар ажно гуло ад стомы. Жнейкі жнуць, а песню цягнуць:

Ой, я ў бары жыта жала,
А мне дома бяда стала:
Узлезла свякроўка на тын глядзець,
Ці хутка нявестка жнець.
Павей, ветрык, ля тыну,
Скінь свякроўку ў крапіву!
Звалілася свякроўка з тына,
Гоп галавой у крапіву!
Сабе шыі не зламала,
Мне крапіўку патаптала.
Не жаль мне свякровачкі,
Ды жаль мне крапівачкі:
Крапівачка — яда мая,
Свякровачка — журба мая.

Паміж нівамі круцілася-вілася невялікая рачулка, безыменная яна тады была. Часта выручала вяскоўцаў. Прысядуць гаспадыні ля яе адпачыць і хоць хвілін колькі пагамоняць. Сыдуцца касцы вады напіцца і таксама словам перакінуцца. А рыбы колькі ў той рачулцы было. Лавілі яе і старыя, і малыя, а меней не станавілася. Дарослыя паміж сабой казалі:

— Яна недзе з тае мясціны выцякае, дзе рыба расці пачынае. Гэта ж мы з яе чэрпаем, як з бочкі, а ўсё роўна канца і краю рыбе няма.

— Ды рыба, рыба якая!

— Самам, здаецца, і развярнуцца няма дзе, [illegible] на табе, жывуць!

— Ёсць мясцінкі, дзе і даросламу чалавеку плаваць небяспечна.

— Чаму?

— Бо там круціць.

— А калі круціць, то там абавязкова вялікая рыба трымаецца. Малой там рабіць няма чаго.

— Ды малая там і не вытрымлівае. Гавораць, што чым рыба буйнейшая, тым яе хата глыбейшая. Мне бацька мой нябожчык такое гаварыў.

— Галоўнае, каб рачулка чыстая заставалася.

— Так, то і вада не замуціцца, і рыба не перавядзецца.

— У адваротным выпадку нічога добрага не будзе. Панясе іл, голле ўсялякае, то і піць не станеш, бо атруціцца лёгка.

— Хутка, браткі, падмерзне, час у нас вальнейшы з'явіцца, тады ўжо на рыбалку паходзім.

— Ды ўжо ж. На марозцы адно задавальненне з-пад лёду якога акуня ці шчупака выцягнуць.

— Нават калі што і драбнейшае, то таксама ахвота не адпадзе.

— Бачыце, браткі, будзем рачулку берагчы, то і яна нам за гэта дзякаваць будзе.

— Не толькі нам, але і нашым дзяцям ды ўнукам.

— Ім трэба расказваць, як нашы дзяды да ракі ды да ніў адносіліся, каб і яны ўсё найлепшае ад нас пераймалі.

— Хіба толькі да ракі ды да ніў?

— Сапраўды, а да ўсяго іншага?

— Як яны нас вучылі, так і мы перадаваць малодшым павінны — гэта ніякі не сакрэт.

— Эх, браткі, ды на такую прыгажосць і рука ніколі не падымецца.

— У цябе, можа, і не падымецца, а дурняў заўсёды хапала.

— І хапае, чаго ўжо там.

Пастаяць касцы ды разыдуцца па сваіх пракосах, каб зноў шчыраваць.

Але не ўсе працаваць любілі. Нараджаліся такія лайдакі, якія любым чынам стараліся ад працы ўцячы. З імі спачатку змагаліся, прымушалі рабіць, а потым, пераканаўшыся, што без такіх абібокаў намнога прасцей і вальней самім будзе, не звярталі ўвагі. Галоўнае — каб не заміналі ды не перашкаджалі іншым.

А ўявіце сабе, якое гора бацькам на такога гультая глядзець? Асабліва калі гаспадары самі — шчырыя працаўнікі. Маці начамі горка плача, бо сорамна людзям у вочы зірнуць, а бацька, гаротна галаву падпёршы, пыхкае люлькай і прымаўляе:

— За што менавіта мне пакаранне такое?

Ніхто не мог адказаць на такое пытанне. Ніхто, нават сам Бог, які маўкліва пазіраў з зацемненага абраза.

І ў нашай вёсцы было некалі два такія гультаі. Што яны толькі ні выдумлялі, каб не працаваць, як толькі ні прыкідваліся. Бацькі раззлаваныя крычалі ўсяляк на іх, чаго толькі ім ні зычылі — нічога не дапамагала. Але ўсё ж дапяклі тых лайдакоў, дома ім сядзець спакойна ўжо нельга было, таму яны, параіўшыся паміж сабой, вырашылі сысці з дому.

— Да якога часу такое трываць будзем?

— І не кажы, братка.

— Лаюць, зневажаюць, б'юць.

— Кавалкам хлеба пастаянна папракаюць, быццам бы мы ямо болей за іншых.

— Пайшлі ды зажывём дзе-небудзь спакойна, асобна ад усіх.

— Згода. Я чуў, што ў рэчцы рыбы даволі.

— Вось, лепей і не прыдумаеш!

— Будзем сабе жыць, рыбку лавіць і не ведаць ніякага ўціску.

Панабіралі з сабой вопраткі, панакралі ўсялякіх харчоў і падаліся сабе жыць на бераг рачулкі. Выбралі прыдатную мясцінку ў кустоўі, зрабілі будан вялікі, прасторны, ляглі сабе ды чухаюцца лянотна. Добра. Цёпла, цянёчак, мух ды камароў няма. Толькі і адпачывай сабе.

Непрыкметна наступіла ночка. Спяць сабе лайдакі, і нават сны ім з ляноты не сняцца. І ў гэты момант нешта так жахліва закрычала, што абодва адразу прахапіліся:

— Што, што такое?

Другі, ляскаючы зубамі, прамовіў:

— Сы-чы...

Так і стала з таго часу рэчка Сычаўкай, і вёска Сычаўка на ёй пазней узнікла, ды так і захавалася.

ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГОМЕЛЬШЧЫНА**

Складальнік **Ненадавец** Аляксей Міхайлавіч

Рэдактары *С. А. Корань, Ю. Ц. Петрыкеева*
Мастакі *М. У. Анемпадыстаў, В. А. Пачкаева*
Мастацкае рэдагаванне
*А. Г. Дашкевіч, А. П. Макаўцова*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная
вёрстка *Ж. М. Голікавай*
Карэктары *Л. Р. Кузьміна, Н. Г. Лешчанка,*
*Г. К. Піскунова, Л. Б. Шынкевіч*

Падпісана да друку з арыгінала-макета 18.05.2001. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера газетная. Гарнітура Літаратурная. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 21,84. Ум. фарб.-адб. 22,26. Ул.-выд. арк. 24,26. Тыраж 2000 экз. Зак. 1010.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч.1; 22.11.20.600.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 31.12.97. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, Чырвоная, 23.

